# ЛУЖАНІН

# 4

КАРОТКІЯ АПОВЕСЦІ
АПАВЯДАННІ
ВЕРШЫ І ПАЭМЫ
РОЗДУМЫ І ТУРБОТЫ

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1981

# СУБОТА

## 1

Глаша ішла мяккаю сцежкаю ўздоўж шашы і чытала ўголас. Слухачоў было двое: яе маці, хударлявая жанчына гадоў за сорак, і кафейная, хутчэй ружаватая, Субота, карова швіцкага заводу.

Глаша трымала кнігу аберуч. Вышэй локця на левай руцэ ў яе быў замотан налыгач са старога ручніка, забэрсаны на адзін каровін рог. Не вельмі цяжка было злузацца з такой няўмелай бабскай прывязі і махнуць цераз канаву на нявыбітую траву ранняга чэрвеня. Аднак Субоце, відаць, не надакучала слухаць, дый не такі яна мела век, каб спакушацца на легкадумныя ўчынкі і ляцець, задраўшы хвост, насустрач ветру, быццам якая-небудзь ялаўка-шаляніца.

Гэта была жывёла спаважная, шмат чаго перажыла і, галоўнае, не адчувала ніякай ахвоты ўцякаць ад сваіх нечакана знойдзеных гаспадынь. Тым больш што Кацярына Іванаўна, так звалі Глашыну маці, ведала, чым скрасіць дарогу: падсоўвала пад мызу жменю дзятліны і абмахвала Суботу свежай бярозавай галінкаю. Па спіне дзьмуў прыемны халадок, і не так часта даводзілася абганяцца дый не ўсюды ж дастанеш гэтых праклятых аваднёў.

Пачало прыпякаць.

Глаша ўзяла кнігу пад паху. Вельмі ж хораша пісалася там пра адну чарнявую неспакойную дзяўчыну. Захацелася памаўчаць, падумаць...

Глаша не бачыла вайны і зараз ішла па яе незагоеных слядах. Няпраўдзіва зялёнае лісце і такая ж няпраўдзіва сакаўная трава прымушалі забывацца. Глашы не верылася, што тут, і не вельмі даўно, метал, нібы ў прыступе вар'яцтва, выйшаў з паслушэнства ў чалавека на ворыве і сяўбе і трушчыў сустрэчны метал, забіваў навечна духі тым самым людзям, каму не ён, гэты метал, адмовіўся служыць, а хто змусіў яго адарвацца ад абыклых заняткаў. Лета гнала ў рост і добрыя расліны і пустазелле, як быццам сі-

лілася схаваць могільнікі таго, што і дасюль магло быць відушчымі істотамі і рухомымі машынамі.

Глаша была ўдзячна лету за яго добрую работу. Мусіць, так і трэба — аддаліць горкую памяць, каб тыя, што засталіся жыць, спрабавалі спяваць на вяселлях і хрэсьбінах.

2

Глаша нарадзілася і вырасла ў Задольшчыне. Драўляны гарадок да самых сядзіб, проста ўсутыч, абкружаны мурожнымі сенажацямі, забудоўваўся наўкруга дужаватага пагорка. На самы верх узвышша вылезла царква. Адступіўшыся на прыстойную адлегласць, паабапал стаялі будынкі ўстаноў і сярод іх камянічка райкома, дзе многа год працаваў Глашын бацька. На вольнай акружыне пляца збіраліся ў святы дэманстрацыі, шумелі нядзельныя кірмашы.

Звычайна плошча пуставала, было дзе папагуляць Глашы і яе таварышкам-падуростам. Яны так і звярталіся адна да адной: «Пачакай мяне, падуроста! Праўду кажу, падуростачка!» Слоўца было перахоплена ад Глашынай маці, яна хрысціла ім усё, што падрастае і дурэе: дзяцей, кацянят і хрыпатых пеўнікаў.

Нагуляўшыся ў хованкі, Глаша задыханая, узбягала па рыплівых прыступках на старую званічку. Адбывалася дзіва: у горадзе, здавалася ёй, было два надвор'і. Глаша глядзела з акна званічкі на захад: там было цёмна, засядалі змрочныя клубястыя хмары. Варта было азірнуцца на процілеглае акно, як усё рэзка змянялася: сінела чыстае неба і нечым няўлоўна лёгкім і белым адсвечвала зарэчная далеч. І самае цікавае: усходняе акно паказвала дзяўчынцы ясныя далягляды і ў нягоду, калі над Задольшчынай сапраўды хмарылася дажджыстая восень. Глаша тады выпрошвалася ледзь не са слязамі: «Мамачка, гэта ў цябе дождж, а ў мяне ёсць пагода», і бегла з сяброўкамі на званіцу. Так у іх і называлася: адно акно — пагода, а другое — дождж. Седзячы каля «дажджу», яны шапталіся, спавівалі сваіх лялек, «гатавалі» ім страву, «вадзілі» іх адна да адной у госці. Перайшоўшы «ў пагоду», спявалі, прытанцоўвалі, балазе ніхто

не сварыўся: званіца была без званоў, а царква — даўным-даўно на замку.

Ці здагадалася Кацярына Іванаўна так, ці ўпотайкі злазіла на званіцу, але сакрэт двух надвор'яў тлумачыўся проста. Белы бярозавы гай захінаў празрыстай сцяною гарадок з усходу, абяцаючы падуросточцы, што вось-вось калыхнецца гэта лёгкая заслона і сонца зробіць ёй ясна і добра. З другога акна быў відзён сіні, аж чорны, яловы лес, і Глашына сэрца замлявала, чакала грому і маланак з тае нахмуранай чарнаты.

Глаша пасміхнулася сваім далёкім успамінам. Усё маленства здалося адным летнім днём на беразе задольшчынскай рэчкі, дзе збіраліся сяброўкі-неразлучкі — клуб зялёных пахістачак. Так дражніла іх кампанію школа за аднолькавага колеру істужкі ў косах, па-мясцоваму — пахісткі. Дзяўчаты рыхтаваліся тады да экзаменаў, першых, на ўступленне ў жыццё. Цяпер чакалі выпрабаванні на выхад з гора,— Глаша толькі-толькі пераступала парог яго...

Пад падэшву трапіў востры каменьчык, забалела. Жанчына спынілася і зірнула на ногі: усе ў засохлых пісагах, без панчох, разбітыя тапачкі папрывязваны нейкімі паўразамі. Няўжо гэта яна некалі ўбегла ў прасторную інстытуцкую залу ў зграбных малочных туфліках, першых сваіх — выхадных, і спынілася, аглушаная музыкай, асепленая люстрамі, збянтэжаная шумлівым натоўпам! Гэта Васіль, ужо выпускнік, запрасіў яе на свой развітальны вечар і павёў у танцы, больш размаўляючы вачыма. Раскружыўшыся, з кожным тактам яна рабілася лягчэйшая і лягчэйшая, траціла вагу, як тапалёвая пушынка: не трэба так блізка да парасчыняных акон — страшна! — адарвуцца насочкі ад слізкай падлогі і паляціш над начною Масквой...

Здавалася б, на гэтым усё скончылася. Глаша паехала праводзіць вакацыі да бацькоў, а Васіль адразу ж атрымаў прызначэнне ў Сібір, на даследчую станцыю. І адтуль рынулася бясконцая чарада лістоў, часамі па два на дзень. Ашаломленая непадробленасцю ўпершыню чутых слоў і пачуццяў другога чалавека, пачала думаць пра яго і нават адчуваць нешта падобнае сама. Лісты ішлі ўсё лета і восень. Слёзныя

просьбы прыехаць на хвіліну пабачыцца змяніліся грозьбамі кінуць-рынуць работу і з'явіцца да Глашы самому. Наманіўшы нечага ў дэканаце, яна адпрасілася на дзесяць дзён і рушыла ў дарогу, да ненарачонага, з кім і знаёмства было ўсяго адзін той вечар ды яшчэ пару сеансаў у кіно. На ад'ездзе Глаша папрасіла сяброўку апускаць у скрынку загадзя прыгатаваныя, з рознымі датамі, паштоўкі да маці, каб не ўстрывожылася і, чаго добрага, не прыехала праведаць.

Усю праўду давялося напісаць дадому з Сібіры, удваіх: яны запісаліся. Не паспела Глаша асвойтацца са становішчам замужкі, як давялося вярнуцца ў інстытут. І тут жа да яе ў інтэрнат прыкацілі абое — маці і бацька — усхваляваныя, заклапочаныя: адна дачка, яшчэ другакурсніца, і — такі крок! Каб жа хоць чалавек добры...

Васіль? Ён сапраўды быў добры і вельмі, і нават больш упадабаўся бацькам, чым самой Глашы. Як і яны, зваў ён маладзейшую за сябе жонку падуростачкай, ды як жа глядзеў! Чым толькі жывіўся гэты чалавек, бо пераводзіў усе заробкі ёй: заплаціць за пакойчык і каб не адчувала ніякай нястачы сама, а тым больш тое невядомае, але ўжо роднае, што, па ўсіх адзнаках, павінна было нарадзіцца на свет. Калі гэта здарылася, прывалок дзіцячага пасагу сама менш на дзесяць немаўлят, абдарыў новаспечаных дзеда з бабкаю, а што казаць пра парадзіху: хапіла ёй і на плечы, і на ногі, і пацерак на шыю.

Канчаўся першы ваенны чэрвень, калі ён перавёз Глашу з сынам да сябе на даследчую станцыю. Толькі і ўправіўся падшукаць ёй работу, купіў сяго-таго ў запас на ўсе грошы і развітаўся, прыхапіўшы з сабой, што там патрабавала позва з ваенкамата.

Неўзабаве туды прыехала па эвакуацыі Кацярына Іванаўна. Смялей такі: Глаша чакала яшчэ аднаго дзіцяці і дачакалася — дачку. А цераз год, хоць ішлі яшчэ грошы па Васілёвым атэстаце, дазналася, што ніколі не сустрэне мужа. Яны і так мала сустракаліся, жывучы паасобку, пакуль Глаша скончыць інстытут, вывучыцца на батаніка. Яна не паспела ні палюбіць, ні добра прывыкнуць да Васіля, бачыла ў ім старэйшага таварыша, з чыёю радай і ласкаю цяплей жыць,

і адказвала яму на пачуццё ўдзячнасцю, шчыра лічачы яе за штосьці большае. Пасля смерці мужа ўсё светлае, што было паміж імі, стала яшчэ святлейшае і ўжо сапраўды здавалася ёй каханнем.

Падгадаваўшы дачку, Глаша наважыла вярнуцца назад у Маскву, працаваць і давучвацца,— на каго ж было спадзявацца цяпер, як не на сябе. Студэнцкі профіль батаніка дапамог ёй, пераехаўшы, застацца на работу ў лабараторыі жыўлення раслін. Аклад у лабаранткі — скупенькі: некалькі соцень аддзешавеўшых рублёў, але затое пакой у падмаскоўным пасёлку і соткі пад бульбу і буракі. Дубовыя гаі непадалёку ад дома насыпалі багата жалудоў: вымачыўшы іх іператоўкшы ў мажджэры, можна напячы гаркаватых праснакоў і заварыць кавы. Сабе-то нішто, а дзеці!

Пакуль Глаша карміла Тацянку, пападала з паўшклянкі матчынага малака і Петрыку,— яна хоць ела мала і кепска, але была здаровая, шырокай косці, дзе, як вядома, можа і нарасці тое-сёе.

Зараз у сям'і пачалася амаль роўная для ўсіх нішчымніца. На выручку малым і спяшалася малако ў выглядзе ружовай швіцкай каровы.

Аж з самай Задольшчыны!

## 3

Кацярына Іванаўна не турбавала Глашыных думак. Ёй, хоць і старэйшай, таксама даводзілася шукаць выйсця з гора і пераступаць парог яго, калі не для сябе асабіста, дык для дачкі і ўнукаў. Але зрабіць гэта было яшчэ цяжэй, бо і парог той быў куды вышэйшы.

Кацярына Іванаўна пражыла з сваім мужам ні многа ні мала, калі палічыць, што Глашы напрадвесні пайшоў дваццаць чацвёрты. Жылі яны ў добрай згодзе і прывычанні, душа ў душу, як звычайна гавораць у народзе. Малады салдат, сусед цераз хату, вярнуўшыся з грамадзянскай, падхапіў яе ў прыполацкай вёсачцы, яшчэ зусім дурнічку. І Глашыных гадкоў не дабыла да замужу. З таго часу стала вернай спадарожніцай былога салдата, пакуль адольваў грамату, вучыўся гаспадарыць у валасцях і раёнах і з Міколкі рабіўся асобай прыкметнай, Мікалаем Сямёнавічам.

Выправіўшы Кацярыну Іванаўну да дачкі ў Сібір, ён застаўся ў тыле ворага і ваяваў у партызанскім атрадзе на Смаленшчыне, у тых самых задольшчынскіх лясах, што некалі цешылі і палохалі Глашу. Кацярына Іванаўна доўга нічога не ведала пра яго, і ў Маскве першым чынам пайшла ў Цэнтральны партызанскі штаб. Яе прыняў чалавек, па ўсім цывільны, але ў генеральскім адзенні, і папрасіў быць мужнаю. Далей гаварыць было залішне. Кацярына Іванаўна, хоць і чула, а разумець не разумела, што атрад Мікалая Сямёнавіча ішоў на злучэнне з арміяй і быў адрэзаны немцамі на ўсходняй ускраіне Смаленска.

Калі першы боль ашорх, Кацярына Іванаўна атрымала ліст. Канверт меў многа пячатак і пераадрасовак, бо трапіў спачатку ў Сібір, але першы адрас быў напісаны мужавай рукою. І тут Кацярына Іванаўна не вытрымала, войкнула і ўпала. Ён пісаў з Задольшчыны, адразу пасля яе вызвалення, перад апошнім сваім боем, пісаў радасна, не прадчуваючы недалёкага расстання з белым светам. Тым больш было смутку ад горкай нагадкі пра таго, хто завочна размаўляў з імі, што ён аграваў сям'ю клопатам, даваў парады і такім чынам як бы працягваў жыць. «Пераязджайце ў Задольшчыну,— пісалася ў лісце,— ёсць дах над галавою, дом цэлы, лягчэй перакідаецеся, пакуль збяромся разам, да таго ж нейкім цудам захавалася Субота».

Несухія вочы перш не звярнулі ўвагі на гэту акалічнасць. Пра карову ўспомнілі, калі стала зусім скрутна: пачалі хварэць дзеці дый Глаша валілася з ног, бо праседжвала ночы за кніжкамі.

Кацярына Іванаўна моцна тужыла, і дачка не ведала, чым ёй дапамагчы. Калі баі перакінуліся пад Бабруйск, падышоў час Глашынага адпачынку. Кацярына Іванаўна ажыла, пачуўшы ад дачкі, што трэба наведаць месца апошняга бацькавага заспакаення. Якраз гэта было патрэбна ёй, бо паверыць да астатку ў непазбежнае яна не магла, асабліва пасля ліста. Аднак Кацярына Іванаўна, як ні хацелася ёй пакласці хоць галінку на перадчасны мужаў курганок, рашуча адмовілася. Як гэта траціць апошнюю капейчыну, калі ў дачкі, маладой жанчыны, ні надзець, ні

абуцца. Хай лепш за адначынак яна набярэцца сілы сама і падтрымае Петрыка і Тацянку.

Глаша кінулася на хітрыкі: яны абавязкова заедуць яшчэ і ў Задольшчыну, паглядзець, як там, а можа і праўда засталася Субота. Вось тады і будзе падтрымка ўсім.

Нельга сказаць, каб не зразумела таго ходу Кацярына Іванаўна, ды больш не пярэчыла, бачачы ў гэтым магчымасць выканаць астатнюю волю нябожчыка.

Сямейны савет, куды была паклікана цётка, на якую мелася пакінуць дзяцей, многа разоў перабіраў усе доказы «за» і «супраць». І вырашыў: ехаць.

Сабралі бялізну, насушылі сухароў,— дарога на той рух марудных цягнікоў па пашкоджанай каляі выпадала няхуткая. З тым жа разлікам была ўзята ў інстытуцкай бібліятэцы самая тоўстая кніга, хоць і чытаная некалі, але хапаючыся, па-вучнёўску, каб здаць залік.

## 4

Падарожніцы жахнуліся, дабраўшыся на вакзал. Ні ў адну з залаў, звычайна пустых і ўрачыстых, дзе жменька пасажыраў гублялася сярод калон і цяжэразных крэслаў, нельга было ўбіцца. Глаша ўзяла маці за руку, і яны стаялі на ганку пры дзвярах. Людзей прыбывала, праз некаторы час за плячыма ў падарожніц яны стоўпіліся так шчыльна — не зробіш кроку. Заднія падціскалі, абвінавачваючы ў бяздзейнасці пярэдніх, усіх, што апынуліся бліжэй да ўвахода. Але ж і тыя пярэднія ў сваю чаргу былі заднімі — і перад імі стаяла сцяна плячэй і галоў. Нарэшце рашуча націснулі самыя заднія: Глашу адарвала ад Кацярыны Іванаўны, падняло, закруціла — раз, яшчэ раз — і ўнесла ў залу. Са збітай на патыліцу хусткай, ускудлачаная, тут яна зноў схапілася за матчыну руку.

Крыху аддыхаўшыся, яны памкнуліся стаць па білеты, але куды і за кім? Густы, спрасаваны тлум — чалавек сорак — намёртва прырос да касы. Гэта была галава чаргі. Далей чарга радзела, павівалася ўздоўж усіх чатырох сцен, падыходзіла зноў да касавага акенца і тут рабіла новы закрутак, у яго ўпіс-

ваўся меншы і танчэйшы, пасля яшчэ меншы і яшчэ вузейшы, які недзе ў цэнтры залы канчаўся зусім тонкім хвосцікам.

Адшукаць той няўлоўны хвосцік і належала Глашы. Яна падумала, што ўсё гэта, калі б зірнуць зверху, выглядае круглай спружынай неймавернай таўшчыні, што выскачыла з немаведама якога вялізазнага механізма. Спружына няспынна пагойдвалася, паміж віткамі яе хадзілі і стаялі людзі, якія таксама займалі чаргу, але дзе было іх месца, не ведаў ніхто, а можа і яны самі.

На Глашыны роспыткі адгукнулася не па гадах пастарэўшая жанчына ў салдацкім шынялю наапашкі.

— Можа і я апошняя.

Жанчына дастала з кішэні пакамечаны пачак махоркі.

— Хочаш? Халера тут яго разбярэ! — яна лёгка, як нешта абыклае, вымавіла брыдкае слова.

Глаша была не супраць папяросы, бо ўжо ці раз адбівала горкім дымком засмучэнне, але курыць на людзях, асабліва пры маці, не адважвалася. Яна здзівілася, якім чынам угадалі ў ёй курца? І, чаго добрага, думаюць, што і яна можа ляпнуць такое...

Глаша пачырванела, быццам зрабіла нешта непрыстойнае. Хіба і яна стала падобнай да гэтай, у шынялю? Глаша прысарамаціла сябе: а ці можна яе асуджаць? Цяпер жанчыны ваююць, робяць самую цяжкую мужчынскую работу, дык якое дзіва, што каторая закурыць і кіне чорнае слоўца мужчынскага ўжытку.

Нібы прачытаўшы ў Глашыных вачах усе яе развагі, жанчына ў шынялю пасміхнулася.

— Паездзіш з маё, яшчэ мудрэй краянеш. Давай трымацца разам. Я — Вера. А ты?

Панурая суровасць сплыла ў яе з твару, і Глашы здалося, што даткнулася яна да трапяткой душы, знарок захінутай грубым сукном, абы-як пакроеным у салдацкую вопратку.

А Вера працягвала, пазіраючы на заружавелы Глашын твар і на ўсю яе амаль дзявочую постаць.

— Ты — яшчэ пóдлетак. Не ваявала? А куды едзеш? Тут ёсць адзін чалавек, мне ў спадарожнікі набіваецца. Хваліўся, усё магу, усе хады і выхады

ведаю. Табе два білеты? То я пайду, скажу, хай стараецца.

Тым часам Кацярына Іванаўна знайшла вольную лапіну падлогі і цераз натоўп, на мігі, клікала туды дачку адпачыць. Глаша праціснулася да яе, зняла з плячэй тоненькі рукзачок, прысела і разгарнула прыхопленую з сабой кнігу.

«Вайна і мір»,— як быццам упершыню прачытала яна і здзівілася: як гэта падобна!

На адным канцы яе радзімы не ўціхала вайна, а на другім рабіў першыя крокі мір. Не такі, як прывыклі звычайна ўяўляць, яшчэ ваенны, аднак падпарадкаваны ўжо не толькі намаганням перамогі, а праз мацаваць створанае, мір галаднаваты і абшарпаны, хай з прыгашанымі фарамі і замаскіраванымі вокнамі, але ж мір, без простай пагрозы жыццю і рабоце.

Не толькі Глаша з Кацярынай Іванаўнай, больш за паўсвета было тады ў дарозе да аселасці.

Усю велізарную краіну апанаваў рух. Новы, не падобны на тыя панурыя ўцёкі ад бяды, калі нашым войскам даводзілася адступаць. Днеўся, можа і нялёгкі яшчэ, заўтрашні дзень. Таму ў людскім руху была пэўнасць атаўбавацца недзе на сталым жыццёвым прыпынку.

Глаша добра прыкмеціла гэта. І вось па чым. Разам з людзьмі перамяшчалася незлічоная колькасць бог ведае якім чынам назбіраных і ацалелых трантаў.

Абцерпеўшыся і абвыкшыся з мітуснёй і штурханінай, Глаша бачыла, што на вакзале не так і многа было б людзей, каб не іхнія рэчы. Фанерныя скрынкі, плеценыя кошыкі ледзь не мінулага стагоддзя, гаматныя скруткі, паўвязаныя ў пасцілкі і прасціradлы, вучнёўскія ранцы і службовыя партфелі, напакаваныя няма знаць якою драбязою,— хоць зараз на сметнік. Туды б гэта і трапіла ў іншы час, цяпер жа набывалі вартасць нават не рэчы, а падабенства рэчаў — лепшае было паспродвана і пражыта. Старыя халявы, бутэлечкі ад лекаў, прымусы без гарэлак, кульгавыя дзіцячыя крэселкі з дзіркаю ў сядзенні — усё забіралася ў дарогу, а ну і спатрэбіцца, калі не сабе, дык каму іншаму, хто і гэтага не меў.

Глаша ў такім самым клопаце пераязджала з Сібіры. І яна ж, як гэтая суседка поруч, сядзела на

станцыях з дзіцем на руках, штохвіліны пералічвала вачыма клункі і сачыла, каб далёка не адбегся сынок.

Пакуль яна чытала і думала, Кацярына Іванаўна знайшла некалькі спадарожнікаў, наслухалася парад, як трымацца ў дарозе, дзе чаго танней купіць, на што самы большы попыт. Выгледзеўшы на падыходзе да касы маладога яшчэ чалавека, які цяжка абапіраўся на кіёк, аднак з чаргі не выходзіў, Кацярына Іванаўна паспачувала яму, запрапанавала папільнаваць чамаданчык, а заадно расказала, куды і па якой патрэбе едзе з дачкою. Потым яна ўмяшалася ў наліпшы да касавага аконца тлум добраахвотных ахоўнікаў парадку, якія нібыта не падпускалі нікога збоку, але так і цікавалі, каб непрыкметна прабіцца без чаргі.

— Я самая крайняя,— тлумачыла Кацярына Іванаўна,— мая тут цікавасць малая. Але чаго вам, бліжэйшым, цісцуцца? Ад гэтага ж хутчэй не будзе.

Ушчунак дапамог мала, аднак у чарзе пазначыўся рух, пасунуўся крыху бліжэй і малады чалавек з кійком.

— Ды трэба ж да людзей нейкую ўвагу мець! — паказала на яго, падбадзёрыўшыся, Кацярына Іванаўна.— Вунь стаіць калека, ціхманы, наперад не лезе, хоць мог бы. Чаму такога не прапусціць?

Яе падтрымалі, і такім чынам малады чалавек неўзабаве апынуўся каля касы. Не паспела здаволеная сваімі захадамі Кацярына Іванаўна вярнуцца на месца ў хвасце, як ён тузануў яе за рукаў і адвёў убок.

— Трымай, маці, білеты, бо ты тут зазімаваць можаш.

— А мой жа ты дарагі! — Кацярына Іванаўна выцягнула з рукзака скураны курцік, што застаўся ад зяця.— Вазьмі сабе, насі на здароўечка.

Але той і слухаць не захацеў, узяў толькі грошы за білеты і параіў выходзіць на перон, бо пасадка, як відаць, будзе нялёгкая.

Захопленая чытаннем, Глаша не адразу зразумела матчыну радасць, што вось ужо можна ехаць. Французская размова на пачатку кнігі адпудзіла яе, і яна чытала наўздагад, проста там, дзе разгарнулася. Цяпер перад вачыма ўсё стаяла маленькая княгіня з адстаўленай губкай, калі была ўцяжку і праз гэта

ніяк не магла ўмасціцца ў зручнай паставе на ложку. Глаша ўспомніла, што ёй таксама было няёмка класціся, нішто не падабалася, хацелася пакапрызіць і нават пасварыцца, калі насіла сваіх дзяцей.

— І адкуль гэта ўсё ведае граф Талстой? — толькі і магла сказаць яна маці.

Выходзячы на платформу, Глаша азіралася, ці няма дзе жанчыны ў шынялю, але тая, відаць, забавілася. Так і скончылася, не пачынаўшыся, іх выпадковае знаёмства.

5

З разнамоўнай гаманой і ўсім зразумелымі слязьмі, смехам і лаянкай плылі насустрач, не разбіваючыся адзін аб адзін, два патокі.

Большы цягнуўся з глыбіні краіны на захад і поўдзень, у разбураныя і праз гэта яшчэ больш дарагія родныя мясціны — там, думалася, і трэска памагае. Другі паток, куды меншы і радзейшы, кіраваўся адтуль, дзе зусім нядаўна так моцна балела і гаравалася.

Самі таго не ўсведамляючы, Кацярына Іванаўна і Глаша апынуліся ў першым патоку — з міру ў бок вайны. Праўда, потым трапілі яны і ў другі, але аб гэтым у свой час. Цяпер жа плынь, скіраваная на захад, падхапіла іх, увабрала ў сябе і несла насустрач трывогам і нечаканасцям.

Кацярына Іванаўна ехала ў турбоце за сваю няўдзячнасць. Была памкнулася пашукаць у цягніку чалавека, які так моцна дапамог ім. Можа ён укусіць не мае чаго, хоць бы пару сухарыкаў занесці. Такія ж смачныя ўдаліся, з кменам, пасоленыя. Але на хаду з вагона ў вагон не пяройдзеш. Праходы і тамбуры — поўным-поўныя, а вылазіць на прыпынках — страшна: астанешся.

Зазіраючы на верхнюю паліцу да дачкі, Кацярына Іванаўна каторы раз гаварыла, што і ў вайне няма зводу на добрых людзей. Іх нават пабольшала цяпер, бо, ведама ж, сэрца, моцна нагараваўшыся, лягчэй адгукаецца другому сэрцу.

Выходзіла акурат на яе. Добрыя людзі знайшліся і ў Смаленску і за Смаленскам, далі ім прытулак і правялі колькі кіламетраў да брацкай магілы.

Курганок быў абкладзены свежым дзёрнам, на ім густа жаўцелі дзьмухаўцы, быццам сама зямля выстаралася бронзавы панцыр і ахоўвае пад ім ад нягоды спакой тых, хто разлучыўся з ёю, дбаючы, каб жыла яна, карміцелька.

Глаша разабрала алаўковы надпіс на дошчачцы — роднае імя партызанскага камандзіра. Нарэшце Кацярына Іванаўна дала волю слязам. Пэўна ж, не апошнія яны былі, але самыя патрэбныя: як дождж пасля доўгай спёкі. Нахіліўшы галаву, яна сядзела каля курганка і плакала, ціха, не ўсхліпваючы, не сцепаючыся ўсім целам, без галашэння і прыгавораў. Слёзы выплывалі з вачэй і падалі проста на скрыжаваныя рукі.

Глаша адышлася, пакінула маці ў бязгучнай размове з прыгарнуўшай не адно жыццё зямлёю і з бесклапотнымі воблакамі ў вышыні. Выплакаўшыся на адзіноце сама, яна вярнулася, абцерла Кацярыне Іванаўне хусткаю твар і пашаптала на вуха:

— Мама мая, мамачка, сіротка!

Жанчыны ўзяліся за работу. Пасыпалі жвірам сцежку да курганка, схадзілі ў лес, нарвалі бярэмя самай лапушное дзеразы і звілі вянок на ўсю магілу. А пад вечар, перад самым адыходам, Глаша пасадзіла ў галавах маладую таполю,— хоць не ў пару, але можа і дасць цянёк бацьку. Яно ж учэпіста бярэцца за грунт і хутка расце, гэтае дрэва!

6

Дзіва, з таго самага шэрагу дзівос, што сустракаліся тады, у далёка не казачны час, і, прасцей кажучы, называліся добрымі людзьмі, гэта дзіва працягвалася і ў Задольшчыне.

Субота, іхняя Субота, скубла траву на гарадскім выгане ў нешматлікім статку, пад апекаю хлопчыка ў пілотцы і зусім малое дзяўчынкі. Як ні былі зморany дзённым пераходам Глаша і Кацярына Іванаўна, яны пабеглі на луг.

Субота мыкнула і лізнула гаспадыні руку. Кацяр-

рына Іванаўна потым запэўняла, нібы ў каровы завільгатнелі вочы, але ж ці магла жанчына за сваімі слязьмі ўбачыць каровіны, каб яны і былі? Аднак намеры пакінуць Суботу тут, якую б цану ні далі, расталі без следу пасля такой сустрэчы. Як можна? Не, яе канечне трэба забраць з сабою. Столькі перацерпела жывёліна і не забыла, пазнала!

І маці, і дачка адчувалі, што, не знайдзіся тая Субота, парвалася б апошняя, можа і невідочная ўжо нітачка дамашнасці, цёплага ўкладу нярушанай вайною сям'і. З хатніх рэчаў нічога не было, у кватэры жылі незнаёмыя людзі. Яны нават устрывожыліся напачатку, пэўна, прыйдзецца выбірацца, але тут жа і павесялелі: старыя жыхаркі не думалі заставацца ў Задольшчыне. Іх накармілі бульбяною поліўкай і паслалі ў бацькавым пакоі.

Кацярына Іванаўна так і не задрамала. Гэта ж ён, яе муж, праводзіў тут сваю апошнюю ноч. Тады было холадна, з незаклееных вокан, мусіць, дзьмула. Ён паліў у печы, хадзіў з канца ў канец па пакоях, церабіў пальцамі непаліты вазон кітайскай ружы. І, напэўна ж, гуў сабе пад вусы ўлюбёнае: «Віхры варожыя...» А потым узяўся за ліст...

І вось чаму яшчэ нельга пакідаць тут Суботу. Ні ў якім разе! Ён жа бачыў карову. Можа гладзіў нават, і словам абзываўся. Як заўсёды, крыху пануры. Такую натуру меў: здаецца, і нешта суровае гаворыць, а вочы — ласкавыя. Купляць карову — ён і слухаць не хацеў. Няёмка яму абрастаць гаспадаркай. Але Глаша кволілася, ніяк не магла выхадзіцца пасля дыфтэрыту. Не будзеш жа рызыкаваць здароўем адзінай дачкі. Так і з'явілася ў іх Субота.

О, каб яна магла гаварыць!

Кацярына Іванаўна, калі было вырашана ёй ехаць да Глашы ў Сібір, завяла Суботу на эвакапункт. Казалі, што, маючы квітанцыю на здачу каровы, у новым месцы, дзе давядзецца жыць, можна атрымаць другую.

Статак пагналі на ўсход. Мінула ноч. Кацярына Іванаўна выносіла апошнія рэчы на грузавік, як на падворку пачулася знаёмае мыканне. Ці то кепска пільнавалі пагоншчыкі, ці то занудзілася яна па хатнім доглядзе, адным словам, Субота стаяла каля ганка і раўла. Кацярына Іванаўна раскалаціла ёй цёплага

пойла і растлумачыла, як умела: ні, галубка, але ўзяць цябе не магу. Карова паслухала, паўздыхала і зноў пайшла за гаспадыняю на здачу.

Далей было тое, чаго Кацярына Іванаўна не ведала. Знецярпліўлены шафёр ледзь дачакаўся яе, пасадзіў і пагнаў машыну. Следам у Задольшчыну ўскочылі немцы. Лепшую жывёлу з нарыхтоўчага пункта пагрузілі на платформы і адправілі ў Германію, а рэшту пачалі прыразаць у капёл.

Субоце зноў пашчасціла ўцячы. Яна вярнулася дадому, праціснулася ў хлеў і стаяла там, падлізваючы леташнія сянінкі ў застаронні. Страціўшы надзею хоць на якую гаспадарскую падтрымку, карова адчыніла рагамі дзверы і выйшла на пашу ў агародчык. Хадзіла яна па разорках, як быццам асцерагалася таптаць дагледжаныя стараннымі рукамі гаспадыні грады. А можа помніла старую навуку, калі Кацярына Іванаўна вадзіла яе на павадку, выпасваючы салодкую травіцу пад яблынямі.

Тут вось і трапіла Субота на вочы нямецкаму каменданту. Уласна кажучы, не яму самому. Касавокі дзяншчык без курадыму, затое ў супрацьгазніку, выдзіраў мёд на суседняй сядзібе. Ён далажыў: калі гер камендант пажадае, ёсць запітны дамок. Асобны, на дзве кватэры, і з кароваю. Можна перабрацца. Гер камендант пажадаў, ён быў слабагруды і змалку прывык піць сырадой.

Суботу пачалі карміць і, вядома ж, патрабавалі за гэта натуральнай аплаты. Падаіць яе спачатку не ўдавалася ні дзеншчыку, ні запрошаным суседкам. За час свае акінутасці Субота ледзь не запусцілася, трэба было раздойваць. Апрача таго, каб не аддаць малака чужому, яна ўжывала звычайныя каровіны хітрыкі — затойвала духі. За гадзіну тармасавання і выціскання вымені ў дайніцы насілу закрывалася дно,— змакрэлы дзяншчык хапаўся за пісталет. Потым кінуўся на хітрыкі сам і перахітрыў, дадумаўся, касавокі, да спосабу Кацярыны Іванаўны. Не паказваючы злосці, ён паляпваў карову па баках — гут! гут! — і даваў ёй скібку хлеба.

Як было даўмецца Субоце, што яе ашукваюць? Гэтак рабіла і гаспадыня, яна не з'яўляецца, а распёртае вымя гарыць. Людзі-то чужыя, але жывуць ча-

мусьці на яе, Субоціным, двары. Пэўна ж, да часу: вернуцца некалі і свае.

З тае пары — рана, удзень і ўвечары — касавокі немец у рабенькім хвартушку Кацярыны Іванаўны сядаў на зэдлік і, памазаўшы дойкі эрзацным вазелінам, выдойваў усё да кропелькі. Пасля, таксама тройчы на дзень, ён ставіў перад камендантам белы гарлачык і шклянку ў мельхіёравай нашклянніцы, што нядаўна служыла галаве сям'і. Зверыўшыся з гадзіннікам, каб не спазніцца і не апараніцца, ахвотнік да сырадою рабіў ласку наліць малака ўласнаручна і роўна пяць хвілін піў яго маленькімі глыткамі. Няд-балым рухам, нібы прамакаючы чарніла, камендант дакранаўся да губ сурвэткай з гаспадынінай мярэжкаю і клаўся адпачыць. Праз паўгадзіны выпіваў яшчэ паўшклянкі, нагбом. Не больш і не менш, такі курс рэкамендавалі дактары.

Рэшта ўдою заставалася дзеншчыку. З'есці ўсё ён не ўправіўся б і распераза ўшыся, таму стаўляў на кіслае, нават біў масла, балазе бойка знайшлася ў кладоўцы.

Касавокі раскашаваўся: утаргоўваў на масле і на малацэ, выменьваў у салдат нарабаваныя рэчы. Ён не бачыў канца салодкаму бытаванню: і сабе стае па завязку, і дамоў можна адаслаць акуратную скрыначку не свайго дабра.

Завейнай лютаўскай ноччу бязгучныя цені абрэзалі правады і паздымалі вартавых на ўскраінах Задольшчыны. Бой трываў нядоўга, гарнізон так і не паспеў прачнуцца. Касавокі дзяншчык бегма кінуўся хавацца ў стагі сена над рэчкаю, не аставацца ж было і пунктуальнаму каменданту. Там іх перахапілі.

Партызаны хутка сабралі зброю, пагрузілі на фурманкі харчовы склад. Пагналі і рагатую жывёлу з пакінутых двароў, дзе жылі немцы.

У лесе Суботу прыкамандзіравалі ў сямейны лагер, карміць партызанскіх дзяцей. Там было холадна, затое хапала сена.

Мінула вясна і лета, потым яшчэ адна вясна і яшчэ адно лета. Лагер некалькі разоў пераходзіў з месца на месца, нарэшце людзі вярнуліся ў вызваленае паселішча. Тут было не лягчэй, але цуд ёсць цуд. Насуперак жорсткаму ваеннаму лёсу карова не толь-

кі ацалела, а і добра даілася, хоць усю вясну працавала, цягала плуг на сядзібах...

...Кацярына Іванаўна апранулася ціха, каб не пабудзіць дачку: хай спачне лішнюю хвіліну перад дарогаю. Развязала апусцелы рукзачок: сухароў заставалася толькі тры. Памкнулася была завязаць, але падумала, палічыла яшчэ раз і ўзяла адзін. На двары зняла з плота вядзерца, спаласнула і пайшла ў хляўчук.

Субота ляжала.

— Устань, міленькая! — сказала Кацярына Іванаўна і прысела пад карову.

Пругкае вымя падалося, нібы злілося з пальцамі, жанчына лёгка сціснула далоні і адпусціла. У вядро дзвынкнуў першы востры струменьчык, за ім зазвінеў другі, смялейшы. Струменьчыкі ўсё падалі і падалі, спяшаючыся адзін перад адным: раз-раз, дзын-дзын. Потым усё сціхла, пасудак быў поўны больш чым напалавіну.

Кацярына Іванаўна аддала Субоце размочаны сухар, а сама стала ў дзвярах і адпіла: цёплага, няцэджанага, з шумаю.

Так і паснедалі яны: ужо сваім, не куплёным малаком. Падтрымка падаспела акурат у пару: прыкупіць іншых харчоў не было дзе і, праўду кажучы, не было за што.

## 7

Падзякаваўшы ўсім — знаёмым і незнаёмым, Глаша і Кацярына Іванаўна развіталіся з Задольшчынай.

Першыя гадзіны ішлося лёгка. Неўзабаве падарожніцы, не ўцягнуўшыся яшчэ ў хаду, пачалі прыставаць. Каб адагнаць змору, Глаша ўзялася за чытанне.

Пасля паўдня Кацярына Іванаўна сказала, што хутка будзе вядомы ім населены пункт. У вуснах маці пашыраны праз газетныя зводкі выраз здаўся дзіўнаватым. Яны звярнулі на папаску ў бок паселішча. Знаёмая назва выклікала знаёмыя ўяўленні: дзяруцца пеўні, шуміць, абапёршыся на прасла, вішняк, гуляюць дзеці. Глаша глыбей унурылася ў кнігу, каб утрымаць уяўлены малюнак, і не падымала вачэй з

надзеяй: а можа так яно і ёсць, так і засталося? Але яны ішлі па ўмуравелай паласе, якая некалі называлася вуліцай, насіла на сабе статкі і фурманкі, чула чалавечыя песні і смех.

Быў пункт, але не населены. Паабапал вуліцы — гола і, галоўнае, чорна. І не так уразіла Глашу страшэнная галізна, як гэты чорны, варожы жыццю колер: галавешкі, закураныя печы, абгарэлыя дрэвы. Два зрубы прыткнуліся чамусьці на ўскраінах папялішча. Яны яшчэ горш растрывожылі Глашына сэрца. Акурат хацінкі на курыных ножках, якія яна малявала свайму сыну.

Каля адной з хацінак сядзеў на дзяружцы хлапчук, гартаючы нямецкі часопіс з малюнкамі.

Падарожніцы прыпыніліся.

— Хіба ты адзін тут жывеш? — спытала Глаша.

— Маці ў лесе. Збірае суніцы на абед.

— Сам бы збегаў...

— Я не магу хадзіць. Раматус круціць. Я застудзіўся ў партызанах.

Дазнаўшыся, што хлопчыка завуць Ісайка і што да вайны ён вучыўся дзве зімы ў школе, Глаша хацела была запытаць, хто яшчэ ёсць у сям'і, але сумелася.

— Бацька — там, дзе ўсе,— растлумачыў хлопчык сам.

Васільковыя вочы асвятлілі на момант змарнелае аблічча.

— Мы от пабудаваліся, чакаем яго.

Жанчыны агледзелі дамок зблізку. Складзены хапаючыся, з неакораных, пазалышваных крыху, цераз вянец, нават не бярвенняў, а таўставатых жардзін. І накрыты абы-чым: чаротам і яловымі лапкамі.

— Тата прыйдзе — паправіць,— разважліва працягваў Ісайка.— Які гэта дом? Толькі і таго, што за каўнер не льецца.

Глашу агарнуў смутак. Сапраўды, якое ж гэта жытло? Хутчэй сведчанне прагі будавацца, яе нічым і ніяк не вынішчыш у чалавеку. Вось жа хапіла трываласці ў выпадковых будаўнічых, без пары пасталеўшых падлеткаў і такіх самых адзінокіх жанчын, як яна, Глаша. А сапраўдныя майстры недзе яшчэ кі-

руюцца да апошняга варагавага прыпірышча, і невядома, хто з іх і калі будзе дома...

— Вы хочаце ў нас застацца? — перапыніў яе развагі Ісайка.— А дзе жыць? — Хлопец шырока развёў рукамі.— Усё пайшло з дымам... Толькі каміны павыхватвалі.

Глаша пасміхнулася на ўжо чуты ад дарослых жарт і села поруч з хлопцам.

— У нас ёсць дзе жыць,— сказала яна,— але ісці далёка.

Глаша ўзяла ў хлопца часопіс.

— Ты ўмееш па-нямецку? — пацікавіўся ён і паказаў на малюнкі.— Які гэта горад?

— Берлін. Аляксандар-пляц. Такая плошча ў іх. У гонар рускага цара назвалі.

— Значыць, іхнія цары з рускімі добра жылі?..

Ісайка памаўчаў і, не дачакаўшыся Глашынага адказу, зноў пачаў гаварыць:

— І я б там пабыў, каб ногі не забалелі. Камандзір атрада абяцаў мяне ўзяць.

— А што табе рабіць у Берліне?

— Як што? Напісаў бы хімічным алоўкам: «Тут быў савецкі партызан». На самай большай нямецкай хаце. І распісаўся б...

Хлопец павесялеў і разгаварыўся, выкладваючы ўсе свае далейшыя намеры.

— Яшчэ б паглядзеў, ці добра Гітлера пільнуюць. Каб не ўцёк. Партызаны казалі, мы яго на востраў Святой Алены зафурым. Як Напалеона. Ты ведаеш, нашу вёску і Напалеон паліў.

Гэтага Глаша не ведала, Ісайка зірнуў на яе з выглядам пераможцы.

— Паліў дый сам спёкся. Бо з нашага дрэва агонь вельмі гарачы.

Глаша зірнула на хлопчыка:

— Хто табе гэта сказаў?

Ісайка пакрыўдзіўся.

— Ніхто. Так у нашых лістоўках пісалася. А іх мы разам складалі. Увесь атрад. Я адну лістоўку перапісваў, перапісваў, а потым, не ведаю як, ад сябе дадаў трохі.

Ісайка перахапіў зацікаўлены позірк Глашы.

— Не верыш? Я табе зараз пакажу.

Ён памкнуўся ўстаць і скрывіўся ад болю.

— Не трымаюць ногі. Не тыя харчы. Ты вазьмі сама. У сенцах, на століку.

Глаша вынесла з сянец дзесятак лісткоў рознага памеру. Гэта былі кавалкі шпалераў, вокладкі вучнёўскіх сшыткаў, спісаныя дзіцячай рукою. Ісайка выцягнуў адну лістоўку і, нібы апраўдваючыся, прамовіў:

— Во, тут якраз месца заставалася, дык я дапісаў.— Ён ціха прачытаў:

Будзеш, Гітлер, чорт рагаты,
Будаваць нам новыя хаты.

Глаша мімаволі пасміхнулася.

— Табе не падабаецца? А камандзір хваліў...

— Што ты, Ісайка, гэтак не кожны можа. Толькі чаму «рагаты»? Хіба ў Гітлера ёсць рогі?

Хлопчык дакучліва махнуў рукою.

— Гэта ўсе пытаюць. У фашыстаў знак такі,— ён накрэсліў у паветры свастыку,— як паламаныя рогі ў бугая. А Гітлера мы не толькі з рагамі, і з хвастом малявалі.

Падбадзёраны Глашынай пахвалою, Ісайка гаварыў далей:

— І каб мая воля, я б яго на той востраў не заганяў. Што з таго, будзе гульма гуляць. Лепей прывезці сюды, хай бы хоць адну хату пабудаваў, сваімі рукамі. Як мы з мамаю... Без каня. Бярвенца кожнае на сабе... Зачэпім вяроўкаю і цягнем з лесу... Потым мама кінецца на зямлю і ляжыць, як нежывая...

Хрыпаты галасок хлопца задрыжаў, і Глаша ўстала, не магла стрываць нахлынуўшай горычы. Пачала памагаць маці. Кацярына Іванаўна асвойталася на панадворку. Знайшла трыногу, назбірала трэсак і паставіла варыць зацірку. Закрасіўшы страву малаком, пад'елі ўсе.

Далей у гэты дзень не пайшлі. Адраіла, вярнуўшыся з лесу, Ісайкава маці: не варта супраць ночы, мала што можа здарыцца, а сюды благія людзі не заглядваюць, чым тут пажывішся.

Падарожніцы начавалі на дварышчы. Навязалі Суботу, а самі ўлезлі ў вялікі бульбяны мех — і смялей, і цяплей так.

— Як будзем уцякаць, калі што? — спытала Глаша, угрэўшыся.

— Ніяк. Абдымемся моцна і памром,— прамармытала Кацярына Іванаўна і тут жа заснула.

8

Ад прывалу да прывалу падарожніцы ішлі з дзвюма сем'ямі. Уласна кажучы, гэта была адна сям'я: дзед і бабкаю і Надзя, іхняя залоўка, з малою дачкою. Жанчына была ўсмешлівая і гаваркая, не адставалі ад яе і свёкар са свякрухаю. Расказвалі наўзахапкі. Не дзіўна, папамаўчалі-такі гэтыя людзі!

— Сама не ведаю, ці я замужняя яшчэ,— гаварыла Надзя, яна выглядала на Глашыну равесніцу.— Мой працаваў у саўгасе механікам. У ваенкамат не паспеў, з запаленнем лёгкіх качаўся. А пачаў уставаць — тут яны, немцы. Хадзіў, ныдзіў, што людзі ваююць, а ён каля дому агінаецца. Сабралася іх такіх чалавек дзесяць, сышлі ў лес.

— О, тады ж і было! — не ўцерпеў дзед.— Наехала карнікаў. Абкружылі дамы, дзверы на зашчапку і давай падпальваць. Мы выкраліся ў агарод і — у склеп. А там бульбянік высокі парос, не агледзелі. Ды ўжо думалі там кончымся. Тры дні без вады... А дым клейкі... Прыляпіўся да зямлі, хоць рукамі аддзірай. Ведама ж, столькі душ у ім захлынулася. Толькі мы і выскачылі...

Ён не дакончыў. З палявое дарогі падхапіўся слупок пылу, выбег на шашу, закруціўся і рассыпаўся каля ног. Усе на хвіліну заплюшчылі вочы.

— Кожны раз гэтак,— стары правёў далонню па твары,— нагоніць вецер пылу, а ў вачах усё як быццам той попел курыць... З нашага пажарышча...

У Глашы высахла ў роце, стала млосна. Глянуўшы на матчын спалатнелы твар, яна паспяшалася запытаць, а дзе ж цяпер Надзін муж.

— Казалі, у танкавую часць упрасіўся...

Дзядок шарпаў па шашы вялізнымі, не па назе, гумовымі шлапакамі. Ён быў бухгалтарам і, дазнаўшыся, што Глаша — студэнтка, загаварыў крыху пакніжнаму, як з чалавекам адукаваным.

— Паслухайце,— узбуджана гуў стары,— як гэта страшна! Чалавеку раптам пачынае неставаць паветра. Вось, калі яны прыйшлі, нібыта мех на галаву насунуўся. Хочаш крыкнуць, а голасу няма: усё паветра скончылася. А я, галубачка, колькі часу чыстым паветрам дыхаў? Ад таго самага першага грому, з «Аўроры». Якаво мне трываць? — Дзед закашляўся ад хвалявання.

— Так — не глянь, гэтак — не ступі, таго — не зрабі,— дагаварыла за яго жонка.— А зробіш...

— Чакайце, Дар'я Пятроўна! — Стары бухгалтар прыпыніўся і шырока расставіў рукі, нібы ўявіўшы сябе на трыбуне.— Я скажу... Пра самае цяжкае. Я — чалавек. І не хачу, каб мяне кідалі, як кладку, у гразь. І па маёй спіне пераходзілі лужыну. А яны рабілі людзей прыладамі... Так, прыладамі... Для абмывання, абшывання, а то...— Ён зірнуў на жанчын і памаўчаў, падшукваючы далікатнейшае слова.— А то і для задавалення іншых патрэб...

Глаша ведала, што захопнікі не абцяжвалі сябе залішняй увагай да чалавечай годнасці. Зараз жа поруч з ёю ішлі само чалавечае гора, усё ператрываўшая цярплівасць. І тым страшнейшы зарад нянавісці таілі яны ў сабе, што не здолелі ўзарваць яго,— не ўсе ж маглі дацягнуцца да гранаты і спускавога кручка.

— І як гэта так? — Стары гарачыўся і размахваў рукамі.— Адкуль, скажыце мне, узяліся падпальшчыкі і гвалтаўнікі? Няўжо з таго самага народа, які свеціць чалавецтву геніямі навукі, музыкі? Не веру. І чаму гэты народ, убачыўшы, што нарадзіў вылюдкаў, не надзеў на іх усцішальнае кашулі? Не разумею... Там, дзе яны пагаспадарылі, і цяпер нельга ўседзець... Сустрэнецца абгарэлы дом без вакон, так і чую: людзі крычаць, на дол выкідаюцца. Вось мы і сышлі...

Глашыны спадарожнікі перабіраліся дзесьці пад Іванава. Чаму ў гэтае месца?..

— Аднолькава,— растлумачыў стары,— дзе нам пачынаць зноў жыць. Дык лепей там, дзе ўсё вядзецца, як заўсёды было, як павінна быць.

І Глаша, відаць, не засталася б у Задольшчыне, каб адчула нешта падобнае. Ёй не здавалася дзіўным, што людзі пакідаюць свае гнездавішчы. Сапраўды, у

незачэпленых навалай мясцінах лягчэй сэрцу, дый рукі, відаць, будуць інача завіхацца.

Глаша пашкадавала, калі прыйшлося развітацца з гэтымі міжвольнымі перасяленцамі. Але ісці з імі было марудна. Плакала ад зморы і гарачыні дзяўчынка, затрымлівала і жыўнасць, якую гналі гэтыя людзі: цялушка-выпустак і парсючок, малы і кволенькі. Парася клалася на шашу, падгінала ножкі і ляжала парохкваючы, відаць, крыўдавала на сваё цяжкое маленства. Дзед браў кабанчыка на рукі і падносіў ад слупа да слупа, на большае не хапала пораху. Яго змяняла бабка, таксама ненадоўга. Даводзілася спыняцца і чакаць, а Глаша баялася спазніцца ў лабараторыю — адпачынак канчаўся.

За першыя дні хады Глаша і Кацярына Іванаўна ці мала нагаварыліся. То яны самі даганялі каго-небудзь, то на чарговай папасцы людзі спыняліся каля іх, найчасцей прываблены дойнай кароваю. Размова — адкуль вы і куды? — непрыкметна даходзіла да просьбы прадаць ці памяняць на хлеб бутэльку малака. Грошай Кацярына Іванаўна не брала, ад хлеба ж адмовіцца не магла.

У кожнага падарожнага была свая гісторыя, і Глаша выслухала багата людской бяды, падобнай і непадобнай да яе ўласнае. Каго вайна захапіла ў гасцях на Украіне, хто праводзіў свой адапачынак на Сожы, каля Гомеля, ды так і не здолеў выехаць праз нечаканыя акалічнасці, а дзе хто стараўся матэрыялаў ці дэталяў на заводах і не заўважыў, як апынуўся за лініяй фронту.

Час не паспеў сцерці з аблiччаў усіх гэтых людзей змрочнасць перажытага, аднак, заўважыла Глаша, не было ў іх адцуранасці, замкнёнасці ў сабе. Людзі гарнуліся да людзей, шукалі калі не спагады, дык простае ўвагі, ахвотна раілі і раіліся, нават дзяліліся, чым маглі.

Такім чынам Глаша і Кацярына Іванаўна трапілі ў другі чалавечы паток — з вайны ў мір. Як і ў кожным патоку, што ўзнікае пад час паводкі, хапала тут бруду і шумавіння. Той-сёй у свой час, збаяўшыся, пакінуў поле бою і адседжваўся дзе-небудзь пад страхою непераборлівай удавы. Другія, аціраючыся каля акупантаў, пагнюсіліся аб лёгкі, а часам і крывавы

хлеб. Як жа такому заставацца на воку ў сведак і пацярпеўшых? Лепш хоць на першы, заўсёды больш гарачы на ка́ру момант прыхавацца за чужой спінаю, пратуляцца пад чужым іменем там, дзе ніхто не ведае і не пазнае. Вось яны і рушыліся ўлегцы, бо перад усім адвозілі ў зацішнейшы кут уласную скуру.

Глаша навучылася пазнаваць такіх падарожных: прытрымліваеш слова на прывязі, не выводзіш вочы на вочы, пэўна, маеш нешта ўтаіць, чалавеча! Яны былі здольны на благое, але ж не кінуцца рабаваць проста на дарозе — гэта была б лішняя зачапка да выкрыцця. Іншая справа тыя, хто ўжо не спадзяваўся акупіць свае правіны, тыя заціналіся і, стаўляючы на карту ўсё, выходзілі з лясных сховішчаў даробоўваць недарабованае, дажываць, колькі дажывецца.

Падарожніцы чулі, што на дарозе там-сям неспакойна, і больш за ўсё баяліся гэтакай сустрэчы. Не так за сябе, як за сваю шчаслівую знаходку — Суботу.

9

Яно б і не трэба было яшчэ спыняцца на адпачынак, але спакушала рэчка. Быстрая і, відаць, халодная. І гурток светлых бярэзінак над ёю, што ўсё глядзелі з берага і ніяк не асмельваліся ступіць, замачыць ногі.

Глаша прыпынілася на мастку.

Рэчка бегла ў лугі, яна была відна далёка на зялёнай разлегласці: нават на самым даляглядзе, дзе пачыналася балаціна, то выблісквала, то хавалася сіняе срэбра.

Вось каб застацца тут надаўжэй! Хоць бы дзянёк бесклапотна пагрэцца на пяску, падрамаць у гэтым слаўным беразачку.

— Спаласнёмся, дачка? — зразумела яе жаданне Кацярына Іванаўна.— Хараша, лугавінка добрая. Хай паскубе Субота.

Яны спусціліся ў ярок паміж двума пагоркамі, наказалі Субоце далёка не адыходзіцца і, не спяшаючыся, пачалі распранацца.

Глаша сышла на жвір, намыты каля лазовага куста, і глянула пад ногі: рэчка паказала яе ўсю.

Жанчына здзівілася з нечаканай акругласці свайго цела. І сну было мала, і здарожылася, а, глядзі ты, паспела палепшаць. Нездарма гэтыя колькі дзён піла і не магла здаволіцца сырадоем.

Яна перавяла позірк на маці — зашчымела пад сэрцам. Мама, і гэта яе прыгожая мама! Яна як быццам паменшала, толькі вочы значны на абліччы. І лапаткі вытыркаюць, як у падлетка. Не глядзіць сябе: лепшы кавалак дачцэ ці ўнукам. Ніхто больш не дазволіць ёй рабіць гэтак.

Глаша кінулася і паплыла, па-жаноцку гонячы перад сабою хвалю. Вада падняла яе, пругка выштурхнула на паверхню, і ўсё цела, з ног да галавы, нібы аблілося тонкай халоднай абалонкаю. Раптам стала лёгка, захацелася дурэць.

— Даганяй, Кацюша! — Яна ўспомніла свой дзіцячы зваротак да маці, калі следам за бацькам называла яе па імені.— Плыві, тут плытка!

Глаша намацала дно ў зарасніку вадзяных лілей, вырвала два гарлачыкі на даўгіх сцяблінах і па дзявочай звычцы абвязала імі валасы. Рэчка зноў паказала жанчыне асвежанае белымі кветкамі аблічча. Яна падплыла да Кацярыны Іванаўны і ўзлажыла ёй вянок на галаву.

— Ты ў мяне зусім маладая, мамачка!

Кацярына Іванаўна пасміхнулася, усмешка чамусьці перакрывілася ды так і застыла ўпоперак вуснаў: вось-вось пачнуць уздрыгваць плечы. Глаша ўжо і не рада была, што дала волю свайму дзіцячаму памкненню. Кінулася абдымаць маці, але яна перамаглася: усмешка зноў стала на месца, зрабілася прывычнай матчынай усмешкаю.

— А ты ў мяне ўсё яшчэ падуростачка,— уздыхнула Кацярына Іванаўна.

Потым яны сядзелі на гарачым пяску, сушылі валасы. Ісці апранацца не хацелася, балазе тут, як за заслонаю ад дарогі: хмызняк трыкутнікам збягае амаль да самае вады. Раптам нешта прымусіла Глашу азірнуцца. Яна не паверыла вачам: рыжаваты рослы байбус, без шапкі, пароўся ў іхняй адзежы, а другі, такі самы гладкі здаравіла, накідваў на карову налыгач.

Жанчыны ў момант пырснулі ў рэчку і, напалоханыя, стаялі па шыю ў вадзе.

— Спакойна, бабкі! Мы вашу кароўку купілі!

— Кіньце дурныя жарты! — нарэшце здолела вымавіць Глаша, яшчэ не ўсведамляючы, адкуль што ўзялося.— Вы не хлапчукі. Ідзіце адсюль, дайце нам апрануцца.

— Вось у тым і справа, што не хлапчукі,— зарагатаў рыжы.— А вы — не дзяўчаткі. Ёсць аб чым паразмаўляць.

Ён падымаў супраць сонца лапленую-пералапленую жаночую бялізну і хутка прамацваў пальцамі кожнае шво, ці не зашыты дзе грошы або дарагая рэч.

Той, што трымаў на павадку Суботу, пыхнуў прыгаслаю папяросаю:

— Канчай брахню! А вы — лічыце, што карову прадалі. За сходную цану і без торгу. Хваліце бога, на добрых людзей нарваліся.

Кацярына Іванаўна ніяк не магла апомніцца: страх, абраза, страта ўсіх надзей спляліся ў даўкі клубок і заціснулі горла. Ледзь не пошапкі яна пачала прасіць — не агалоджвайце, пашкадуйце дзяцей.

— А што ў нас саміх дзетак няма? — здзекаваўся здаравіла.— Сядзяць, бедныя, у лесе. Надакучыць ім цацкамі забаўляцца,— ён паказаў на мігі быццам прыцэльваецца з вінтоўкі,— пачынаюць плакаць, малачка просяць.

Рыжы байбус скончыў перасрасаць рэчы і разагнуўся.

— Нічога людскага,— ён грэбліва пацёр далонь аб далонь.— Адно карэлае транце. А ты,— рыжы зірнуў на Глашу і падышоў да берага,— на маю былую жонку падобна. Ці не прыхапіць цябе з сабою, хоць будзе каму карову падаіць. Ну, вылазь, галубка! — ласкавае слова зляцела забруджаным з яго тоўстых, нібы замасленых губ.— Дай я на цябе зблізку гляну... Вылазь, не саромейся, прывыкнеш...— Ён працягнуў наперад чырвоныя ад загару рукі.

Кацярына Іванаўна рэзкім кідком стала перад дачкою, гатовая крычаць, бараніцца да апошняга. Глаша ўбачыла: просьбаю і крыкам рады не дасі. Яна непрыкметна адступілася на глыбейшае і тузанула за сабою маці: уцякайма, ратуймася!

— Э-э-э, назад! — разгадаў рыжы яе намеры.— Я плаваю лепш. Не задавай мне лішняй работы!

— На чорта яна здалася! — нецярпліва абазваўся напарнік.— Гэткага дабра — пад кожным кустам па дзве... Пайшлі!..— Ён сцебануў павадком карову.— Забяры іхнія лахманы, каб услед не кінуліся. Сядзіце тут ціха: ні шэп, ні свісь. А калі паспрабуеце...

На шашы зашуршалі шыны, рыпнуў тормаз, каля самага мастка, падпыліўшы, спынілася машына.

— Купацца, дзяўчаткі! — пачуўся ўзрадаваны голас.

Рыжы з напарнікам разгубіліся, памкнуліся шуснуць у хмызняк, але, відаць, шкада было кінуць карову.

А Субота ўпіралася, матляла галавою, не хочучы ісці за чужымі.

З кузава грузавіка высыпалася дзесяткі два дзяўчат у вайсковым адзенні. Яны з рогатам беглі на луг, проста ў ярок, відаць, вядомы, аблюбаваны імі зацішак. Найбольш упраўныя ўжо скідалі на хаду гімнасцёркі, прагнучы хутчэй акунуцца ў рачную прахалоду.

Пабачыўшы, што пагроза не такая ўжо і вялікая, рыжы абцягнуў цяльняшку пад расхрыстаным пінжаком і нядбала прамовіў:

— Салют слаўнаму жаночаму войску!

Сустрэўшы дзве пары насцярожаных мужчынскіх вачэй, дзяўчаты пачалі зашпіляцца і падцягваць рамяні.

Мажная жанчына з пагонамі старшыны зрабіла крок да незнаёмых:

— А ну, ушалёствайце адсюль. Гэта наш бераг.

Тым часам Субота, якой дапяклі мухі, сарвалася з павадка і кінулася ў раку, да анямелых ад холаду і страху гаспадынь. Тут толькі прыкмецілі іх дзяўчаты, байцы, як высветлілася потым, з батальёна супрацьпаветранай абароны.

— Даражэнькія мае, даражэнькія...— Кацярыне Іванаўне ніяк не ўдавалася сказаць, што зараз было, і яна адно паказвала дрыгаткім пальцам: — Гэтыя, гэтыя...

Тыя прыкметна звялі: каровы ўжо не забярэш. Хоць бабы, але іх зашмат.

— Жартаў не разумеюць,— паспрабаваў усміхнуцца рыжы.— Думалі пакупацца разам: пара на пару...

Робленая жартлівасць і цынічны тон рыжага міжволі наводзілі на падазрэнні. Дый чаго ж бы так калацілася збялелая жанчына ў рэчцы. Спрактыкаванае вока старшыны заўважыла нядобрае.

— Таварышы байцы! — скамандавала яна.— Затрымаць іх.

За адзін скок невядомыя апынуліся ў хмызняку. Адступаючыся задам у гушчар, рыжы агрызнуўся:

— Цішэй, цішэй! Знайшліся мне тут байцы! Байцыцы.

Постаці мільгнулі між кустоў і бязгучна зніклі.

— Стой, стой! — загукалі, падаўшыся ўслед, дзяўчаты.

— Не трэба, куды вы? — спляснула рукамі Кацярына Іванаўна.— Яшчэ абязвечаць...

Затрымаць, вядома, дзяўчаты нікога не маглі, ды можа дзе поблізу чакала засада. Да таго ж не было ў іх і зброі, нават у старшыны пры боку матлялася пусценькая кабура, без пісталета.

Пакупацца дзяўчаты такі пакупаліся, праўда, не без ваганняў і пакінуўшы пры адзежы некалькі вартавых. Яны падвясельвалі Глашу і Кацярыну Іванаўну, расказвалі, які добры ў іх батальёне повар і які справядлівы камандзір, некалькі разоў паранены франтавік.

Высокая, не вельмі зграбная дзяўчына разгарнула Глашыну кнігу.

— Леў Талстой? — Яна загаварыла нізкім густым голасам, і буйныя губы яе смешна скalіся ў трубку, быццам збіраючыся свіснуць.— Вось я пісьменніка Тургенева чытала... Цэлая кніга пра любоў. І як у яго гэта ўсё точна апісана... Ведаеш пісьменніка Тургенева?

Апошнія словы вымавіліся ў яе неяк асабліва, быццам пісьменнік было воінскае званне, якое прыкладалася да прозвішча, акурат так яна называла толькі што свайго камандзіра, якогасьці капітана Семіпалава.

Дзяўчына аж пасвятлела, успомніўшы нешта сваё, запаветнае. На твар усплыў і застаўся на ім выраз смутнай летуценнасці.

Глаша сачыла за раптоўным пераўтварэннем гэтага, без асаблівай стараннасці вылепленага прыродай аблічча. У непрыгожых, падумалася ёй, сэрца больш чулае і лягчэй адкрываецца пачуццю. Такое яно, пэўна, і ў гэтай дзяўчыны, відаць, нялёгка спарадкуецца яе жаночы лёс. Бо гэта ж толькі ваенная форма робіць яе не абдзеленай прывабнасцю, а наогул лепей бы і нарадзіцца ёй для гэтага ўбрання... Глаша злавіла сябе на жорсткай думцы: «А якой карысці, што мяне ўсе лічылі прыгожай? Невядома яшчэ, у каго з нас будзе больш шчасця ў дарозе?..»

Далей Кацярына Іванаўна і Глаша ішлі не адны. Па загаду старшыны трое дзяўчат, на чале з ахвотніцай чытаць пра каханне, прывялі іх на начлег у вёску, адкуль да іхняй часці было рукою падаць.

## 10

Дзень пры дні пасоўвалася пакрысе наперад тая нядзіўная працэсія: карова і дзве жанчыны. Малодшая ўсё так жа чытала ўголас, старэйшая слухала і памахвала зялёнай галінкай.

Кніга чыталася ўжо недзе пры канцы: сыходзіў дзесяты дзень падарожжа. Адзін-два пераходы і — Падмаскоўе! Цяпер шаша была не пустая. Людзі ішлі пехатою, пхаючы перад сабой цялежкі і тачкі, ехалі на фурманках, упрошваліся на парожнія машыны, а больш спрытныя кацілі на трафейным ламаччы, недапсутым адступаўшымі.

Тут не было чаго баяцца, і падарожніцы прыхватвалі ў хадзе цёмнага часу, балазе стаялі самыя доўгія дні. Вось і зараз яны не ўцішалі кроку ў надвячорным халадку.

Глаша азірнулася на хаду.

Над дарогай, амаль спусціўшыся на дол, прытанцоўвала сонца. Чырвоны шар дакрануўся да зямлі беражком і зараз жа падскокваў угару, быццам выпрабоўваў, ці можна даверыць ёй сваю паважную, прытомленую бадзяннем па небе асобу. Глаша стала, і ў той жа момант спыніўся сонечны танец: свяціла спакойна вісела на даляглядзе.

— Пасядзім трохі,— Кацярыне Іванаўне здалося,

што дачка змарылася.— Ноччу будзем ісці, колькі ўвойдзецца. А цяпер накладзём агню, падрэмлем.

Сыходзіць з шашы не хацелася. Цені прыдарожных бяроз клаліся пад ногі і ўсё даўжэлі, нібы сіліліся зрасціся, пашаптацца верхавінамі, чаго не маглі зрабіць самі дрэвы, разлучаныя паласой асфальту. Глаша глядзела на марныя намаганні ценяў, пакуль не схавалася сонца.

Кацярына Іванаўна клікнула вячэраць. Падмацунак абяцаў быць выдатны. Раніцай, на раённым рыначку, яны ўбачылі вялікія, смачна падрумяненыя абаранкі. Калі ўжо каштавалі такія! Дазволілі сабе параскашавацца, купілі парачку.

Глаша села каля маці і пачала здымаць лупіну з халоднай, зваранай у запас бульбіны. Памачыла ў соль, нехаця адкусіла.

— Зараз смачнейшага дам,— падахвоціла Кацярына Іванаўна.

Яна разгарнула паперу. Цуды пекарскага мастацтва, якімі бачыліся ім абаранкі ў кошыку ружовай заварной цёткі, пачарнелі і пакрышыліся. Бульбяныя, крыху абваляныя ў муцэ, яны рассыпаліся ад дотыку пальцаў. Нават Субота доўга прынюхвалася да шэрых крошак, пакуль узяла на язык.

Глаша адышлася назбіраць сушняку для вогнішча. Ад запуставаўшых палеткаў навыперадкі беглі пудкія асінкі. Узрадаваныя з раптоўнай бесперашкоднасці свайго існавання, яны балбаталі, нібыта змаўляліся захапіць як мага больш прастору, хутчэй вырасці, стаць гаямі. Тады ўжо не замахнецца сякера — шкада!

Даўшы вачам нагледзецца і нацешыцца з гэтага здзічэлага харавства, Глаша адчула ў ім нешта трывожнае і шчымлівае. Яна час ад часу падкідала па галінцы ў дружны траскучы агеньчык. Абазвалася праз сон маці і зноў задыхала роўна. Да вогнішча падалася Субота і стала, павольна жуючы жвайку.

І так ціха было, што Глашы здалося: цішыня не маўчыць — прыслухайся, і яна акажацца да цябе...

І цішыня гаварыла...

Колькі часу прайшло без чалавечага дагляду, а як усё зарасло і забуяла... Дай толькі волю гэтай зялёнай сіле, і яна разгорнецца, пакажа сябе. Чаго доб-

рага, давядзецца пачынаць усё спачатку — пілаваць, карчаваць і выпальваць, каб укінуць жменьку збожжа на ляда...

А можа і сапраўды чалавек не навучыўся ашчаднаму абыходку з прыродай? Можа не паланіць яе трэба, не лічыць, колькі шалёвак і гарбыля дасць дзялянка пастаўленых на падсочку хвой, а разважыць, як яны, зялёныя і некранутыя, падымаюць і гояць сэрца і падаюць руку свайму працавітаму суседу — полю.

Можа праз гэта пры кожным зручным і нязручным выпадку распроствае плечы паланянка і спаганяе сваё, намагаецца выхапіць у чалавека здабытае ім за вякі мазольнай працы: віруе паводкамі на змялелых, здавалася б, рэках, нішчыць плаціны і дамбы, выдзімае сухавеямі адабраныя ад лесу і без яго затулы пакінутыя загоны. І адразу ж, нібы засаромеўшыся свайго безразважнага бушавання, кідаецца ратаваць пашкоджанае і папсутае, накрываць дзірванамі, засланяць непераборлівымі дрэўцамі... Як гэтыя асінкі!

Глаша здзівілася сама сабе. Яна думае, як чалавек, загублены ў першабытнай прыродзе, ашаломлены буяннем яе неадольных сіл: не падужаць іх, не ахапіць розумам. Не гэтак гаварылі яе вялікія настаўнікі, што пазіралі з партрэтаў у студэнцкіх аўдыторыях. Славутыя знаўцы душы зямлі, а праз гэта і душы чалавечай, яны любілі чалавека ў прыродзе і вучылі шанаваць прыроду ў чалавеку. Не выпрошвай на каленях скібку хлеба ці напарстак нафты! Дапамажы зямлі, каб яна сама адарала цябе ўсім, чым мае: багаццямі ўрадлівай паверхні і прыхаваным у глыбіні. Толькі без гвалту і драпежніцтва! Змагацца — змагайся, але любі! А любіць прыроду — зусім не значыць быць у яе пад ярмом.

З такога паняволення доўга вырываўся чалавек. Шмат чаго дамогся, набраў сілы, узброіўся, і таму павінен шанавацца.

Прырода не можа выставіць супраць яго дывізіі электрапіл, калоны канавакапальнікаў, капронавыя невады і зарады трацілу.

Ёй не дадзена такога спрыту, яна здольна на большае — аднаўляцца ў росце, тварыць жывое, і на ўсю

сілу робіць гэта, змагаецца з вынішчэннем за сябе, а часамі і за чалавека. Дні і ночы працуе гіганцкая лабараторыя хларафілу і бялку, папаўняе незлічоныя выдаткі і страты, але вось жа не дае да пары да часу ў рукі людзям гэтага сакрэту. І, магутныя ў разбурэнні, яны напружваюць усе здольнасці, каб стаць упоравень, а потым і перасягнуць прыроду ва ўмельстве ствараць жыццё па яе законах, але па сваёй волі. Злучыў вядомыя рэчывы і — клетка расце, ужо надзеленая найлепшымі якасцямі будучай істоты.

Каб гэта ўдалося!

Тады будзе пяройдзена бадай ці не апошняя мяжа пазнання...

Вось яны — Глаша зноў падумала пра вялікіх настаўнікаў — і шанавалі прыроду ў чалавеку, далі запавет разгадаць яе да астатку.

На гэтым яна забылася, як быццам на адзін момант, але ж заснула добра і моцна.

## 11

Глаша прахапілася раптам, нібыта яе нешта падняло і паставіла на ногі.

Ужо добра заднела. Субота стаяла на росным канюшынішчы, а наўкруга яе заклапочана тупала Кацярына Іванаўна.

Карова раз-поразу ўздыхала, вялікія, налітыя болем вочы глядзелі на Глашу з-пад доўгіх веек.

— Што ж табе баліць, Суботка? — бездапаможна прамовіла Глаша, як быццам напраўду спадзявалася пачуць які адказ.

— Праспала, праспала я! — голасна ўшчувала сябе Кацярына Іванаўна.— Прачнулася, а яна стаіць у лужку і мыкае. Напілася балотнай вады...

Што рабіць і якой даць рады, жанчыны не ведалі, адно было ясна: хутчэй адсюль, можа трапіцца якое жытло па дарозе і памогуць людзі. Подбегам сабралі рэчы і выгналі карову на шашу. Але ісці Субота не магла, ступала некалькі крокаў і спынялася, раздзьмутыя бакі цяжка пакалыхваліся і, здавалася, круглелі на вачах.

— Ну яшчэ трошкі падыдзем, маленькая,— прасіла Глаша.

Карова смутна глядзела на яе, перамагалася і пачынала перастаўляць ногі.

Ніколі яшчэ так не здоўжвалася ім дарога. Ужо ўзышло і даволі высока паднялося сонца, а яны былі зусім недалёка ад месца начлегу. Паселішчаў уздоўж шашы не было, не сустракалася нават бітых дарог убок, якія паказвалі б на недалёкую прысутнасць чалавека.

Нечакана шаша выгнулася дугою, і яны ўбачылі дамок дарожнага майстра.

Два чалавекі сядзелі на лавачцы перад штыкетнай агароджай.

Глаша пабегла наперад і на бягу нешта крычала, прасіла памагчы.

Вусаты стары ўстаў з лаўкі і хутка пайшоў ёй насустрач, за ім падняўся і другі.

— Здарава цябе абабэнчыла,— ён пачухаў карову між вушэй.— Абкармілі,— стары жорстка зірнуў на Кацярыну Іванаўну.— Што вы ёй давалі?

Глаша ўспомніла канюшынішча, дзе паслася Субота.

— Канюшына? Так я і думаў. Прырвалася есці з расою, вось і абдзьмуло. Гэтак, настаўнік?

Той, каго назвалі настаўнікам, паправіў руку на перавязцы і згадзіўся:

— Пачынаецца тымпанія. Ад грэчаскага слова — тымпан, значыць, барабан.

Ён ляпнуў здаровай рукою карову па чэраве:

— Чуеце?

Глухі гук сапраўды нагадваў удар па барабане.

— Трэба рабіць пракол, і неадкладна,— казаў далей настаўнік.— Кіламетраў за шэсць — калгас. Там ветэрынарны пункт поблізу. Ганіце хутчэй. І ўвесь час рабіце масаж. Ведаеце, як хлеб месяць?

Мужчыны старанна, у тры кулакі, прарабілі гэтую працэдуру, прычым штурхалі пад бакі не шкадуючы, так што карова пахіствалася.

— Зразумелі? — спытаў вусаты.

Раздумвацца і дзякаваць не было калі. Жанчыны хутка спягнулі Суботу з месца і патурылі па шашы.

— Не спыняйцеся, калі хочаце яе даіць! — толькі і паспеў гукнуць услед настаўнік.

Бегма-бегма, ласкаю і прынукаю, змушалі пада-

рожніцы рушыцца абцяжэлую карову. Яна паварочвала галаву, пазірала то на адну жанчыну, то на другую, як быццам пытаючыся, чаму гэтыя добрыя людзі чыняць ёй столькі болю, не ўпыняючыся таўкуць пад рэбры кулакамі і ўсё часцей прыкладаюць да спіны замашныя дубцы. А цяпер бы легчы і ціха ляжаць.

Але гэтага якраз не маглі дазволіць ні сабе, ні ёй Глаша і Кацярына Іванаўна. Ляжа — тады ўсё, не ўстане.

І яны беглі, хоць не было ўжо сілы ў нагах, не заставалася ніводнай сухой рубіны на целе, не хапала паветра задыханым грудзям. Колькі яшчэ наперадзе тых кіламетраў, за якімі можа і пасміхнецца дапамога?

Канца дарогі не відаць, але трэба бегчы, і дабегчы, чаго б гэта ні каштавала, выратаваць жывую істоту не дзеля сябе, нават не дзеля згаладалых малых, а дзеля яе самой, такой кемлівай і цярплівай, што разам адольвала поўнае трывог і турбот падарожжа. Няўжо страта спасцігне іх амаль на парозе дома?

Карова рашуча спынілася. Падарожніцы прылажылі апошнія высілкі, крычалі, падпіхалі, прабавалі перастаўляць ёй ногі. Ніводнага кроку. Яны з жахам зразумелі: нічога не парадзіш, сілы вычарпаліся.

Глаша адвярнулася, каб не бачыць апошніх хвілін свае мілай дамашніцы...

У каровы падагнуліся ногі, яна згорбілася, вось-вось гатовая абваліцца, і раптам стрэліла на шашу струменем зялёнай жыжкі. Крыху пастаяла і зрабіла крок сама.

Праз некалькі такіх прыпынкаў бакі ў Суботы сталі ападаць. І ўжо не людзі гналі яе, а яна вяла іх за сабою, зняможаных, знябытых, можа яшчэ добра і неўсвядоміўшых, што небяспека мінулася. Яны не чулі ні рук, ні ног, быццам страцілі вагу і здольнасць заўважаць, і здавалася, самі стаялі на месцы, а насустрач плыў, падпіраючыся тэлеграфнымі слупамі, прастор з галінамі дрэў, засеянымі палямі і дахамі паселішчаў.

А жывёліна не спынялася, ішла ды ішла, нібыта разумела, што ў руху для яе адзіная магчымасць адужаць і акрыяць.

Нарэшце карова стала і аблізнулася.

— Півць хоча,— здагадалася Кацярына Іванаўна.

Глаша ледзь знайшла ў сабе сілы пераступіць кювет і тут жа кінулася ніцма на пыльную прыдарожную траву. Кацярына Іванаўна падпусціла карову да балацiны, але многа піць не дала, павадзіла па лугавіне і прысела каля дачкі. Тут яна накрыла Глашы галаву хусткай, развязала рукзак і адкроіла па кавалку хлеба ўсім траім. Глаша не абазвалася, Кацярына Іванаўна паклала яе дзялянку на кнігу і прылегла крыху воддаль сама. Потым падышла Субота, пастаяла, уздыхнула, з'ела Глашын хлеб, злізала крошкі з кнігі і ўмасцілася паміж жанчынамі.

І ўсе ўтраіх заснулі...

Поблізу прагрукатаў цягнік. Гэта быў прыгарадны, падмаскоўны. Да пасёлка, дзе жылі Глаша і Кацярына Іванаўна, было ўсяго некалькі прыпынкаў. Яны маглі сёння адпачыць дома. Жанчыны не ведалі гэтага і спалі.

Вецер, карыстаючыся з выпадку, адгортваў старонкі бессмяротнай кнігі, нібы натуючы яе ў памяці маладога лесу і зялёнага разлогу і нагадваючы, што павінна быць напісана новая і ўсё аб тым жа: як моцна стаіць на роднай зямлі чалавек...

Глашы прысніласяЗадольшчына.

Яна стаяла на званічцы перад акном, якое абяцала пагоду.

Сіні і вясёлы, разгульваўся дзень.

Пры стале, застаўленым рэактывамі, колбамі і розным іншым хімічным пасудкам, працавала тонкая, як трысцінка, бялявая дзяўчына. Яна прыпадала вокам да мікраскопа і потым запісвала штосьці ў тоўсты цыратовы сшытак. Дзяўчына была так занята сваёю справаю, што не заўважыла, як я зайшоў у лабараторыю. Проста перад сталом вісела апраўленая пад шкло фатаграфія швіцкай каровы.

— Гэта рэкардсменка?

— Як вам сказаць! — усміхнулася дзяўчына.— У кожным разе адзіная між свайго роду. Яна праслухала «Вайну і мір». Ад мае маці.

І мне расказалі гэту гісторыю.

*Лістапад 1964 — студзень 1965*

# ДЗІВАДЛА

## 1

Малевіч стаяў на тралейбусным прыпынку. З вежы кутняга дома абазваўся гадзіннік. Перачакаўшы бой, стрэлка на блакітным цыферблаце падскочыла і паказала палавіну восьмай. Як на такі час, сонца шчыравала не па-вераснёваму — ранішні халадок ад камяніц ужо амаль не адчуваўся.

Малевіч адступіў пад разгалістую ліпку: не ўгадаў апрануцца! На ім былі хатняй вязкі світар і прагумаваны плашч — шэры, тканы ў рубчык, з неймавернага мацунку плашчоў. У іх ездзяць на бульбу і канчаюць інстытуты, трасуцца з грыбнымі кошыкамі на грузавіках, кідаюць пад бок, варачы юшку на прыазёрным цяпельцы, нарэшце, у прыстойным выглядзе, перадаюць сынам, і той самы цыкл паўтараецца.

Малевіч любіў моцныя рэчы; праўда, іншых яму і насіць было нельга. Маці, калі быў хлапчуком, набірала яму на адзежу «чортаву скуру» — корт, які не ведаў зносу, і шыла навырост. Але месяцы праз два, многа праз тры, у падлетка рукавы заязджалі на локці, а калошы падбіраліся да каленяў — гэтак яго гнала ў рост.

Не лягчэй было і зараз. Гатовыя чаравікі і пінжакі пры сажнёвых плячах і слановых ступнях Малевіча выглядалі недамеркамі. Атэлье і майстэрні пасавалі перад магутным заказчыкам. Калі боты пачыналі падбівацца, ём хмурнеў: зноў ідзі некуды, прасіся. Нестандартны заказ: на пашыўку ішло больш за паўтары нормы хрому і падэшвы. Адно што капылы былі свае — папрасіў у арцелі, забіраючы ўпершыню пашытыя аб нагу боты. Чаму ж не аддаць! Калі яшчэ давядзецца шыць на такую нажышчу!

Праз ласку абутнікаў у сям'і лёгка падтрымліваліся мір і раўнавага. Не дайшоўшы ў чым ладу з жонкаю, Малевіч смехам браў пад паху капылы і падаваўся ў дзверы. «Ідзі, ідзі,— чулася ўслед,— дзе ты, такая ламачына, падзенешся?» Малевіч касавурыўся

ў люстра: трэльяжнае шкло не змяшчала ўсёй поста-ці — відзён быў адзін плячук, дый той мерыўся вы-лузацца з пінжака.

Абое рагаталі, хоць жарт быў са стажам, і нязгода як ціха пачыналася, так і знікала.

Малевіч лёгка насіў па зямлі сваё мажное цела. Мала хто не азіраўся на здараўца з ружовымі па-дзіцячы шчокамі і неверагодна яснымі вачыма — так і хінула загаварыць.

— І якое ў цябе, чорта, можа быць сэрца? — пад-смейваліся дружбакі студэнцкіх гадоў.

— А вось...— ён камячыў пальцы ў кулак, і рука ператваралася ў пупліску з булдавешкаю, як у Са-лаўя-разбойніка з рыначных акварэляў.

Сябры з пашанай абмацвалі кулак і заўважалі, што такім «сэрцам» смела заб'еш бугая, абы толькі паміж рагоў уцэліў.

— А прозвішча ў цябе — ні смех, ні падсмешак. Далі памылачку продкі, выбіраючы. Ну які ты Ма-левіч? Ты — гульня прыроды, выкапень, дзіва-дзіў-нае. Словам — дзівадла...

Курсавыя лінгвісты падвялі навуковы грунт: маў-ляў, у чэхаў дзівадла — тэатр, месца, дзе глядзяць, дзівяцца, а ў нас — тое, на што глядзяць, з чаго дзі-вяцца, нешта выключнае.

## 2

...Мякка падтармазіўшы, падкаціўся тралейбус. Чарга перад Малевічам пажвавела. У самы хвост пад-строілася дзяўчынка, ражкі белага хвартушка раз-вяваліся, і гэта рабіла яе падобнай да страказы. Ма-лая трымалася праз меру спаважна, усім сваім вы-глядам і спрэс новенькай формай падкрэсліваючы, што для яе нядаўна празвінеў школьны званок.

— Праходзьце! — абазваўся Малевіч, прапускаю-чы наперад школьніцу.

Усю салiднасць дзяўчынкі нібыта ветрам здзьму-ла: яна хмыкнула, затуліла рот далонькай і пырхнула ў вагон. Ёй кажуць «вы»! І такі дзядзька, перад кім яна — акурат верабей перад кіёскам з газіроўкаю.

Следам за школьніцай хацеў уціснуцца збоку не-высокі чалавек з падголенымі ў чорную нітку вусіка-

мі. Нечакана, апанаваны юнацкім гарэзніцтвам, Малевіч узяў яго за каўнер і паставіў на тратуар крокі за два ад сябе, як гэта рабіў невялікі кран каля магазіна, здымаючы з машыны кантэйнеры. Вусаценькі аслупянеў, потым падбег, ускочыў-такі ў тралейбус на хаду і тут даў волю крыку і абурэнню.

Вагон не хаваў усмешак. Бабка ў завязанай ражкамі пад бараду хусціне рэзонна тлумачыла, што такіх трэба вучыць: не паважаюць старэйшых і ўсюды ўтыкаюцца без чаргі.

Віноўнік неспадзяванага здарэння памалу падаваўся па праходзе — далей ад абражанага! Плашч, што і так ляжаў на ім у абліўку, напінаўся яшчэ больш, вось-вось, здавалася, пырснуць ва ўсе бакі гузікі. Гэта, аднак, не псавала і не абмальвала ўсяе постаці, буйнай і ў нечым зграбнай. Малевіч на добрую галаву ўзвышаўся над пасажырамі і прымушаў абыходзіць сябе з маўкліваю павагаю, а праз гэта саромеўся, памыкаўся сваступіць убок першы і ўцягваў галаву, нібы хацеў зменшыцца ў памерах.

Тым часам чалавек з вусікамі пагражаў міліцыяй і заядаўся ўсё горш. Не знайшоўшы падтрымкі ў пасажыраў, ён, нарэшце, выгыркнуў: «Дзівадла нейкае!» — і сціх.

Малевіч наракаў на сябе: і ўспала ж такое насланнё! Сапраўды з'явіся міліцыя — як тут апраўдаешся? Спазніцца ж на цягнік праз гэта ён мог: тэрміновая камандзіроўка паляцела б да ўсіх чарцей.

— О, такога б нам у каманду! — да яго даляцелі прышапоткі двух падлеткаў з мячом.— Закладаў бы мячы проста ў сетку.

Малевіч зірнуў на аблічы баскетбалістаў, нібы прысыпаныя злёгку карыцай. Яны, відаць, ехалі на трэніроўку і ледзь стрымліваліся, каб не пачаць пасовак у тралейбусе.

Засмактала пад лыжачкай, як заўсёды пасля непрыемнасці, заманулася ўкусіць чаго-небудзь. Ды не зараз жа! Адсакоча цягнік першыя кіламетры, можна будзе папрасіць у праваднікa чаю, а ў партфелі ёсць хлеб з маслам і белы сыр, пасыпаны кменам.

Малевіч прыпёрся бокам да спінкі крэсла, за вісячую ручку ён не браўся, на гэта была горкая навука. Тармазне знянацку вадзіцель, пасажыры валяцца

адзін на аднаго і ўсе разам на Малевіча: ён стаяў, як дуб сярод буралому, вінавата паглядаў на адарваную ручку, заціснутую ў кулаку, і загадзя панурваў галаву. Паспрабуй абярыся дакораў і кпін: папсуў дзяржаўную маёмасць!

На прывакзальнай плошчы Малевіч сышоў, яго правялі позіркі хлопцаў з мячом, пасміхнулася ўслед і падобная да страказы дзяўчынка. Тралейбус рушыў далей, на момант у акне з'явілася перакошанае шклом аблічча вусаценькага. Адчулася нейкая палёгка і нават прыемнасць. «Чаму б гэта?» — здзівіўся сам сабе Малевіч. А! Той, вусаценькі, кінуў слоўца «дзівадла». Думаў абразіць, а ўсяго толькі напамянуў. Павеяла вострым скразняком маладых гадоў, нібыта нехта раптоўна адчыніў у іх дзверы наросхліст.

3

Малевіч ехаў у горад свае маладосці. Уласна кажучы, усведамленне гэтага чамусьці спазнілася, прыйшло толькі ў вагоне, калі ён адарваўся ад аднастайнага пояса ўздарожных ялін за акном і сеў на паліцу пад хрумсткай бялізнай. Палёгка, што была апанавала істоту, калі дыхнула свежасцю юнацтва, гэта палёгка змянілася трывогай, прадчуваннем блізкага неспакою.

Што ж можа здарыцца? У сям'і ў яго — ціхая і ясная цеплыня, калі чалавечай душы можна дужэць і расці. Сын, Мікітка, кожнага вечара на ўсе вочы чакае тату. І не паспее той павесіць кепку, як адразу ж агартаецца ў дзіцячыя турботы і забавы. Пачынае здавацца, што ў доме прыбавілася яшчэ на аднаго хлапчука, хоць і занадта вялікага, але не менш захопленага майстраваннем самакатаў ці якой-небудзь адмысловай канструкцыі ветрачка.

Сярод розруху, учыненага імі ў кватэры, лёгка плавала Надзея Паўлаўна, жонка Малевіча. Невысокая, не тоненькая ўжо, аднак і без асаблівага збыткавання ў фігуры, яна ўсмешліва паводзілася з сваімі паднаглядны мі, і калі толькі паспявала нагатаваць ежы, напрасаваць чыстых кашуль, неўзаметку стаўляць на месца пазрушваныя рэчы.

Падзеі і пачуцці студэнцкіх гадоў, здавалася, даў-

но перагарэлі і засланіліся попелам. Але аднекуль, нібы з-за тумановай заслоны часу, спачатку ў цьмяных абрысах, а пасля ўсё выразней пачало вымалёўвацца тое, што не можа ні паўтарыцца ў жыцці, ні знікнуць.

У горадзе маладосці, зусім блізка ўжо, пэўна, за нейкаю сотняй кіламетраў, некалі засталіся ненабытыя набыткі і непапраўныя страты.

А калі так, можа і варушыць гэтага не варта.

4

Падымацца ў камандзіроўку яму даводзілася не вельмі часта, а ў такую ехаў упершыню. Машыны, якія здольны прыняць на сябе цэлую гару пяску ці металу, перасталі выходзіць з заводскай брамы. І хоць бы праз што людскае, а то не хапала абіўкі на сядзенні. Напамінкі па тэлефоне, нават грозныя тэлеграмы як быццам губляліся ў паветры, не даходзячы да пастаўшчыка.

— Трэба падштурхнуць. І як належыць,— сказаў дырэктар завода, пачынаючы нараду.

Перад ім сядзелі людзі, здольныя здабываць усё, нават шоўк з выхлапное трубы, дамагацца без чаргі нарадаў і вагонаў, у вокамгненне наладжваць пагрузку і выгрузку. Аднак на гэты раз выбар прыпаў ні на кога з іх, абвыклых да сваіх нялёгкіх абавязкаў.

— Давядзецца з'ездзіць вам, Усевалад Макаравіч! — Дырэктар зрабіў крок з-за стала і спыніўся каля Малевіча.— Не падважыш угаворамі,— ён перайшоў на крыху фамільярны тон,— дык выглядам націснеш. Стукні кулаком. Раз, але каб стол на трэскі. Ну, шчасліва! — пацiснуў руку, пасміхнуўся:— Што, у вас у родзе ва ўсіх такія габарыты? Твае прадзеды, мусіць, не малявак лавілі і лусты сабе не абмальвалі...

Не праз выгляд, вядома, было даручана ехаць Малевічу. Хапіла б тут і проста ўвішнага забеспячэнца: справіўся б, узрадаваны з магчымасці падняцца на прыступку службовай лесвіцы, бо трапіў на ласкавейшае вока начальству. Малевіч рабіў кожную работу, спярша адшукаўшы ў ёй сэрцавінку, без чаго не магло быць патрэбнага зруху. Паказваць жа, што называецца, зробленае перад людзьмі не ўмеў дый не хацеў,

не рваўся да святочных трыбун і звычайных выступленняў. Таму на нарадах, калі ўсе меркаванні вычэрпваліся, а прамоўцы выдыхаліся, дырэктар нязменна пытаў апошняй рады: «Дык як будзем рабіць?» — і глядзеў на Малевіча.

Нельга сказаць, што той адразу высмykваў з клубка ўратоўчую нітачку, але да сутнасці патрэбы ўсё ж дабіраўся, і «што рабіць?» высвятлялася як быццам само сабою.

Заводскі аддзел працы і заработнай платы, куды трапіў Малевіч пасля інстытута, непрыкметна перайшоў на ягоныя плечы. Ён не абмяжоўваўся сваёю доляй работы, а прыхватваў і начальніцкую, дый таго-сяго з супрацоўнікаў. Неяк ужо так выходзіла — выставаўся вольны час.

Праз паўгода Малевіч атрымаў павышэнне. Пачалі жартаваць: маўляў, чалавек не толькі на сваім месцы, а і на месцы начальніка, а таму і называецца намеснікам.

Дырэктар завода і не думаў рабіць прыемнае Малевічу, пасылаючы яго як назнарок наўздагон за маладымі гадамі. Трэба было паставіць справу на трывалы грунт, каб перабоі ў забеспячэнні не перабунтоўвалі рытму вытворчасці ў канцы квартала, карацей — папярэдзіць магчымыя цяжкасці і надалей. Хто зробіць гэта найлепей, дырэктар ведаў. Толькі Малевіч не мог пакуль уявіць, адкуль і як пачне выконваць даручэнне. Да таго ж, ад яго ніяк не адступалася дзіўнае прадчуванне.

## 5

На станцыях, дзе спыняўся цягнік, у купэ нікога не падсадзілі, і Малевічу стала нуднавата. Адчыніў дзверы, каб мець прозірк у абодва бакі. Гэта не дадало новых краявідаў, за акном бег такі самы хмызняк з балотцамі, не знайшлося і ніводнай змаркочанай душы, прагнай зрэзацца ў шахматы,— вагонныя суседзі не ўказвалі духу.

Выйшаў у калідор і толькі сабраўся вымераць крокамі суравы нападложнік ад дзвярэй да дзвярэй, як на яго ледзь не з абдымкамі наляцеў работнік завод-

скага аддзела забеспячэння. Франтаваты, у доўгім віслым пінжаку з распоркамі, па прозвішчы Дзякуйчык, не надта малады, але для ўсіх чыста — Віцька.

— А я вас шукаю-шукаю, Усевалад Макаравіч! — Ён быў падвяселены.— Учора дырэкцыя ў апошнюю хвіліну вырашыла далучыць да вашай асобы і маю. Вы, так сказаць, для прадстаўніцтва, а я — для абходнага манеўру і ўсякай іншай чорнай работкі.

Дзякуйчык зарагатаў і даў сабе пстрычку па горле: які манеўр ён меў на ўвазе, не пакідала сумнявання. Малевіч нехацькі пацiснуў гарачую вялую далонь і слухаў далей.

— Ну, а калі мы разам ідзём на паляванне, дык павінны і супольна ўкусіць хлеба. Укусіць, вядома, пасля, а перш...— ён зноў зарагатаў, відаць, здаволены са свае дасціпнасці.— Згода? Пайшлі. А тое ўсё,— Дзякуйчык зрабіў змоўніцкія вочы і перайшоў на паўшэпт,— тое ўсё закапаем і пасыплем жвірам... Хоць яна — дзяўчына з перчыкам!

Сустрэча не вельмі ўзрадавала: усваталі спадарожніка, няма чаго сказаць! Ды што гэта — недавер ці які-небудзь сапраўды дыпламатычны ход? І Малевіч паспяшаўся адмовіцца, адгаварыцца галаўным болем ад кампаніі, хоць некалькі хвілін назад шукаў магчымасці распачаць гаворку, абы з людзьмі.

«Яшчэ гэтага не хапала»,— падумаў ён пра Дзякуйчыка, застаўшыся адзін. Самае непрыемнае адчулася ў тым, так таемна зробленым, напамінку.

6

Выпадак быў не менш недарэчны за сённяшні, на тралейбусным прыпынку. З тыдзень назад, збіраючыся пасля работы дамоў, Малевіч пачуў, быццам у апусцелым будынку хутка і ўсхвалявана гартаюцца старонкі вялікай кнігі. «Не адзін я заседзеўся!» — падумалася яму. А гук зрабіўся як бы крыху вільготны, і праз момант стала ясна, што гэта нехта плача, кароткімі рыўкамі цягнучы ў сябе паветра.

Малевіч штурхануў дзверы ў планавы аддзел і адразу ж пацягнуў іх назад: насупраць уваходу, над сталом з неприбранымі папкамі, уздрыгвалі ад узры-

даў жаночыя плечы. Пайсці, даць чалавеку супакоіцца самому? А можа няшчасце? І Малевіч ступіў у пакой.

Ад папер прыўзняліся светлыя вочы ў крыху падпухшых павеках. Марына, зусім дзеўчанё! Яна заўсёды сустракала Малевіча ўсмешкай, а зараз толькі зірнула і зноў панурылася. Слёзы не цяклі і не ліліся, а выскоквалі з-пад павек адна за адною, быццам хтосьці вылузваў са струкоў гарошыны і пстрыкаў іх пальцамі ў паветра.

— А на вуліцы сонца,— не ведаючы чаму, пачаў Малевіч і дадаў ужо зусім недарэчы: — Папырскаў быў дождж, ды зноў суха...

Светлыя гарошыны перасталі выкочвацца, і Марына цераз сілу паспрабавала пасміхнуцца.

— Ну чаго, чаго вы? Ніколі такіх зарумзаных не бачылі?

— Я, уласна кажучы, і не гляджу...

— Дык ішлі б сабе...

Малевіч не пакрыўдзіўся: чалавек ведае, што яму лепей, хай выплачацца адна. У калідоры з насценгазеты паўгадавой даўнасці пазіраў слон з яго, Малевіча, абліччам; абвешаны падшыўкамі папер і арыфмометрамі, ён дабрадушліва пісаў хобатам: «І не столькі павалаку!»

Малевіч спыніўся каля газетнага шчыта.

Ён не ведаў, што было ў абед. Марына забегла ў суседні пакой перасміхнуцца са сваёю сімпатыяй, Дзякуйчыкам. Віцька трымаў перад вачыма два білеты і адразу ж згроб іх у шуфляду. Размова не склеілася, Марына вярнулася да сябе ўстурбаваная, але з патайнай надзеяй: ёй хочуць зрабіць нечаканку, запросяць у кіно ці на канцэрт пазней. Але Віцька Дзякуйчык знік задоўга да канца работы і больш не паказваўся.

Марына падышла да шчыта з газетаю, дзе стаяў Малевіч. Слядоў засмучэння на твары было амаль не знаць, дзяўчына паспела зазірнуць у люстэрка і прабегчыся па твары пухоўкай.

— Шчасліва заставацца!

— Заставацца, нашто? Я скончыў работу і плакаць не збіраюся...

Ён схамянуўся, але позна. Дзяўчына падціснула губу і была памкнулася ў дзверы, але збянтэжанасць Малевіча нечым развесяліла яе.

— Доўга мне чакаць? — Марына падхапіла яго пад руку.— Я жыву...— Яна назвала завулак на супрацьлеглым баку горада.— Там увечары цёмна і страшна. Ну вось, калі вы такі чулы і спагадлівы, пойдзеце са мной да трамвая. А потым — да нашай брамы...

На трамвайную лінію выходзілі цераз лапіну зялёнага, дзе паміж рэдкіх соснаў раслі чаромха і арэшнік,— нядаўна гэтае месца было ўскраінай лесу. Але наўкруга з'явілася агароджа з жоўтай керамікі, у ёй прарабілі ўваходы, нараскідалі там-сям блёклай памалёўкі будачак з акенцамі, адкуль голасна перагаворваліся між сабой прадаўшчыцы газет, вады, папярос,— і лес стаў называцца паркам.

Марына і Малевіч прайшліся па бакавой алеі, з'елі марожанага, асталі з напаўзаплыўшага ручая каліва незабудкі і падышлі да каруселі. Дурыцца, дык дурыцца! — глянулі адно на аднаго і асядлалі драўляных конікаў з наравіста выгнутымі шыямі.

Дзеці, што стаялі навокал, дружна закрычалі:

— Гулівер паехаў!

— Які з яго Гулівер! — лабаты хлапчук тузануў за рукаў свайго сябра.— Сціхні! Гулівер — гэта як наш тата: страшэнна многа есць і здаравенна за вуха закручвае.

Паляпаўшы сваіх «коней» па маляванай грыве, Малевіч і Марына зноў абышлі парк. Калі сцежка павяла іх да выхаду, быццам па змове, павярнулі назад. Малевіч не спяшаўся адвітвацца, адчуўшы праз удаванае свавольства і развязнасць, як моцна дзяўчыне не хочацца заставацца адной. А Марыне чамусьці ўявілася, нібыта воля гэтага дужага чалавека паддаецца хісткай і нетрывалай волі яе, Марынчынай. Яна выдумляла і загадвала, ён слухаў і выконваў, як гэта робяць дарослыя, дагаджаючы хвораму дзіцёнку. Пачалася гульня, не сумысная, не знарочыстая гульня ў весялосць,— проста чалавек дапамагаў чалавеку.

Нарэшце, ногі самі павялі іх уздоўж трамвайных рэек. Ішлі ад аднаго прыпынку да другога, абяцаючы самі сабе, што з наступнага абавязкова паедуць. Так, крыху прытомленыя, прыблукалі ў пасёлак суседняга завода. Сярод неонавых рэклам і шыльдаў ружавела назва кінатэатра.

Марына спахмурнела. Гульня ў весялосць, якую так міла падтрымлівае гэты слаўны чалавек, канчаецца. Тым часам літары над уваходам у кіно змянялі адценні, нібы падражніваліся, напаміналі. Заўчора яна была тут. І Віцька сядзеў поруч...

Усе дзяўчыніны смуткі з незразумелай дакладнасцю перадаліся Малевічу. Не пытаючы згоды, рынуўся да касы.

Неўзабаве Марына адчула сябе здаволенай і нават адпомшчанай. У фае, за старым галінастым фікусам, сядзелі Дзякуйчык і Марфа Пятроўна, супрацоўніца з іхняга аддзела кадраў. Упраўленцкія дзяўчаты падсмейваліся: абедзвюма рукамі трымае за хвост кожны адыходзячы дзень. Валасы ў яе з сівазелянцовых сталі агніста-каштанавымі, а лупленыя, нібы апараныя, шчокі набылі надзейную грунтоўку і роўны колер дасягненняў сучаснай парфюмерыі. Марфа Пятроўна нядаўна выдала замуж дачку і зараз сама хадзіла ў нявестах. У пасаг разам з нязменна гарачым сэрцам і зморшчанай, у сінія жылкі рукою дакляравалася кааператыўная кватэра.

Убачыўшы Марыну, Дзякуйчык, няйначай, удавіўся недаказаным словам і знік у курылцы. Марфа Пятроўна ані не збянтэжылася і завяла з хрыпатцой заігранай пласцінкі:

— І вы тут, Марынка? Разбіваеце сям'ю? — яна глянула на Малевіча.— Ну, ну, жартую... Гэты Віцька... пацягнуў мяне ў кіно і вось запэўняе, што сэрца шукае другое сэрца ўсё жыццё... Смех...

У голасе дрыжала нотка доўгай адзіноты: і не верылася ў запэўненні, і вельмі хацелася паверыць.

— Як бы вы адказалі, Марынка? — яна змушана пасміхнулася.— Вы, праўда, да яго нічога не маеце?

Марына не магла падняць вачэй. Малевіч зірнуў спадылба на лапатуху і адмануўся, што пойдзе пазваніць.

Не шукаючы ніякіх аўтаматаў, рвануў дзверы ў

курыльны пакой; Дзякуйчык, у самым парозе, прыпальваў папяросу ад яшчэ не дакуранай.

— Шпэнт! — кінуў яму Малевіч і паўтарыў: — Шпэнт! — дзіўнае, невядома адкуль узнікшае слова, якога не толькі ніколі не гаварыў, нават і не чуў. Але, здаецца, і нельга было іначай, абразлівей сказаць на гэтага чалавека са слядамі штучнай завіўкі ў валасах.

— Што ты плёў гэтай...— Малевіч стараўся саўладаць з сабою, каб не ляпнуць чаго-небудзь крыўднага...

— А што можна сказаць, калі кошка фарбуецца пад коцік?

Малевіч глыбока дыхнуў і падціснуў сківіцу.

— Ды разумееш ты, што яна замуж ішла, калі ты ў пялюшках вякаў? Памаўчы. І Марыну за квартал абыходзь...

Віцька Дзякуйчык зноў выціснуў з сябе ўсмешачку:

— Аб чым гук? Хочаш сам забіць мядзведзя?

Малевіч стаў да яго ўсутыч.

— Ну, ну,— нібы адпіхаючыся, замахаў рукамі Віцька.— Выбачай, але ўсе яны адным здорам мазаны...

Далі другі сігнал. Прытрымаўшы плюшавую парцьеру, Малевіч правёў Марыну ў залу. Марфа Пятроўна заставалася ў фае, пакуль не згасла апошняя лямпачка: спадарожніка не было — мусіць, выслізнуў на вуліцу за людскімі плячыма.

— Жанчына, што ж вы? — папярэдзіла білецёрша.

Марфа Пятроўна села на першае незанятае месца, прыціснула да гарачых шчок хустачку ды так і не падняла вачэй да канца сеансу.

На экране, як на тое, раскручвалася слязлівая гісторыя пра ашуканую. Марына самым сапраўдным чынам узрушылася і штохвіліны хапала Малевіча за руку. Абцяжаная перажытым галоўка хілілася пашукаць прытулку на плячы, каб не сядзеў ён каменнанерухома, нібы валун, выпадкам укінуты ў рыпліваե крэселка ўскраіннага кіно.

...Ужо каля свайго дома Марына пасміхнулася:

— Ну вось, цяпер ідзіце. Выдумляйце жонцы: канчаў тэрміновую работу, сустрэў старога таварыша...

— А я скажу, як было.

— Усё-ўсё? — яна ледзь не запляскала ў ладкі.— І пра кіно, і што дзяўчыну дамоў праводзілі?

Малевіч кіўнуў галавою. Марына глядзела, сілячыся зразумець, якога чалавека паслаў ёй лёс разважыць гаркоту.

— А што, калі я закамандую яшчэ раз? — Не чакаючы адказу, казала далей: — Нагніце галаву. Ніжэй, яшчэ ніжэй... А то... я не дастану.

Дзяўчына даткнулася губамі да ягонай шчакі і шапнула:

— Дзівадла!

7

Цягнік прыйшоў на́двечар. Малевіч заспяшаўся з вакзала, каб не ўвязаўся Віцька, а то, чаго добрага, і ў адзін нумар трапіш. Усё абышлося. Ён закінуў у гасцініцу свой нецяжкі партфель — шукаць каго-небудзь на фабрыцы ўжо не мела сэнсу.

Выйшаў на плошчу і сумеўся: куды ісці? Як найлепей сустрэцца з горадам пасля такой доўгай разлукі?

Колькі ні хадзіў, ніводнай вуліцы так і не пазнаў. Ні Лермантаўскай, што тройчы гарэла ў грамадзянскую і не зусім паднялася з прыску апошняй вайны, ні Палявой, дзе некалі, будучы студэнтам, кватараваў у сваякоў. Палавіну былой ускраіны пад назвай Акравак, дзе было ўлюбёнае месца купання моладзі, займала свежая агароджа з дошак. «Завод»,— не без задавальнення растлумачыў сустрэчны. Завод, аднак, яшчэ не будаваўся: катлаваны чакалі падмуркаў. Малевіч успомніў: сапраўды, сюды выязджалі яго знаёмыя, праекціроўшчыкі,— у калгасах наўкол горада добра раслі буракі, і цукровы завод стаяў у ліку першачарговых будоўляў.

На самым змярканні прыблукаўся ў гарадскі сад. Больш за ўсё тут было яблынь; старыя і не так даўно пасаджаныя, яны не маглі схаваць пад лісцем ёмкіх наліваных антонавак.

Малевіч сеў на лаўку...

...Няўжо гэта ніколі не вернецца! Першы пушок над губою, прагныя на сонца вочы, дзёрзкія парыван-

ні ў палёты і ў падарожжы!.. Вячорныя праходкі пад брамкаю ў першай і таму самай лепшай на свеце. Цераз платы звешваюцца душныя галіны бэзу, па адной запальваюцца лямпы ў вокнах, і ад духавой музыкі з парку соладка і трывожна замлявае сэрца. А ты ходзіш і ходзіш па дрымотнай вулачцы і вось ужо больш угадваеш, чым бачыш, дзявочую постаць, паветраную, амаль няўлоўную ў сіняватай цішыні позняга адвячорку. І вы ўжо разам рушыце на музыку, пад якую твайму сэрцу вельмі хочацца танцаваць, і поруч стукае абцасікамі такое ж маладое сэрца, што таксама парываецца ў танец.

Малевіч абудзіўся ад думак. Паветра пакрысе гусцела, падсіньвалася, акурат як і ў тыя змярканні юнацкай пары. Дзесьці непадалёку аднастайна плыла размова. Гаварылі жанчыны, больш адна, не спыняючыся, з адценнем нейкай шчаслівасці, нечага раптоўна знойдзенага.

— А прыйдзі я сюды трохі пазней — і мы б размінуліся. Тут яшчэ нікога няма з нашых тэхнікумаўцаў? Як гэта лёс падараваў мне цябе, Манечка? Дзякуй яму...

Голас быў са шчарбацінкай і, калі жанчына гаварыла цішэй, здаваўся знаёмым.

— Я лячылася ў Друскеніках. Добра спачывала, весела, а пад сэрцам усё шчымела: зусім поруч горад, дзе ўсё пачыналася, і ты не ўбачыш яго, не пастаіш каля мамчыных ганкаў! Вось і прыехала. І не пайшла нікуды, пра начлег не падумала, а проста сюды, у сад. Здаецца, так як і было: і ты каля пляча, і нам па васемнаццаць.

Жанчына змоўкла і глынула паветра, каб не задыхнуцца ва ўспомненым.

— Мы тут некалі сядзелі... Ты ж ведаеш, Манечка, з кім...

«Вера!» — ледзь не гукнуў Малевіч, але адразу ж унутраны голас у ім прамовіў: «Няпраўда!» Быў ужо ўзняў руку, нібы хацеў абараніцца ад неадчэпнага трызнення, і ўсё ж устаў, пакіраваўся ў суседнюю алею, на галасы.

Успыхнуў ліхтар на слупе, і Малевіч ужо не здолеў ступіць далей ніводнага кроку. Няхай мог ашукацца слых, але вачэй жа не падманеш. Раптоўнае

святло выхваціла са змроку лаўку, яблыню і пад яе галінай з буйным, быццам пазалочаным, яблыкам жаночую постаць.

Ён намагаўся адагнаць уяву, што безліч разоў падымала за сабой у натоўпы вакзальных перонаў і гарадскіх вуліц наўздагон за сустрэчнымі, такімі ж падобнымі да аднае, страчанай ім. Бег пазнавацъ і ашуквацца, і рвацца зноў ў пошукі, горбячы плечы ад чарговай няўдачы.

Цяпер ён, не раз ужо зняверaны, каб яшчэ ўмацавацца ў гэтым сваім нявер'і, паклікаў на дапамогу іронію: «Ну, вось табе і райскі сад, і спакушальніца, і нават яблык напагатове. Хіба што змея нестае!»

Спроба засланіцца біблейным паданнем была марная: на яго глядзела тая, чыё імя ён хацеў вымавіць,— Вера. Толькі не колішняя тонкая неўтаймоўніца, а статная жанчына з маладым аблiччам, яшчэ дзіўна нейк падмаладжаным нешырокаю сівай пасмай над вачыма.

І ўсё ж Малевіч збаяўся адразу абазвацца: мала якім падабенствам можа пакпіць лёс. Прыўзняў капялюш:

— Я таксама тут некалі жыў... І, пачуўшы...

— Севал!

Жанчына ўсхапілася і, ужо трымаючы яго за рукі, упохапкі хутчэй шаптала, чым гаварыла:

— Дзівадла! І цябе павяло сюды, заманулася на нашы мясціны? Значыць, помніш?

Каб жа што магло развеяцца з яго душы пад гаманкімі ліўнямі і пякучым сонцам у гарачай турбоце часу!

Стаялі, не стыдаючыся людзей, і ўсё заглядалі адно аднаму ў вочы, проста на сцяжыне парку, дзе калісьці пакрыжаваліся іх маладыя шляхі. Не, не такога мацунку пачуццё асляпіла іх тады, каб шугнуць і заліцца ці прыхавацца пад нехалодным, але ўсё ж папялком успамінаў.

Людзьмі ўладаюць пачуцці і пачуццейкі. Мы не заўсёды здольны правесці мяжу паміж імі. Але мінае час, і ад пачуццейкаў не застаецца і знаку, як пасля цвятлівага феерверку на асенняй вуліцы, калі вачам

усё ўяўляюцца шматкалёрныя россыпы зор, а ў паветры — нічога ані, толькі рэзка патыхае дымны шлейф згарэўшых вымудраў піратэхнікі, і ад гэтага робіцца яшчэ цямней і непрытульней.

Сапраўдныя пачуцці, прыйшоўшы раз, ужо не разлучаюцца з намі, як памёршыя зоры. Іх даўно няма, яны нямаведама калі разбіліся ў сутычках з іншымі светамі ці самі сабою дайшлі і разбурыліся, расшэйгаўшы ўсю сваю агністую сілу. А светлавы сігнал, самы апошні, пасланы ў момант згасання, усё яшчэ ўражае вочы бясконцых людскіх пакаленняў, як і той, што вылучылі яны, загарэўшыся ў амаль недаступнай пазнанню даўнасці. Яны не здаваліся зорамі, а былі імі і таму маюць права на памяць аб сабе і самі падтрымліваюць яе, ззяючы для нас з такой самай красой і сілай, як і для першых насельнікаў Зямлі.

Вера і Усевалад не бачыліся ад той клапатное вясны, якая мелася вывесці іх з-за партаў тэхнікума так патрэбнымі краіне меліяратарамі і гідратэхнікамі і, галоўнае, паяднаць іх лёсы. А прыйшло раптоўнае, ледзь не назаўсёднае расстанне.

Яны ўсё так жа стаялі на алеі нерухома, няйначай баяліся разлучыць рукі, каб не спудзіць сустрэчу: а можа гэта не ява, а ўсяго толькі сненне, выкліканае прагным жаданнем іх абоіх спаткацца. Але пад нагамі была сапраўды зямля іхняй маладосці. Дзе яшчэ раз-поразу гулка падалі б на дол яблыкі — не маглі ўжо трываць і трымацца на галінах?

Вера ледзь адольвала жаданне прыхінуцца шчакою да шорсткага плашча і каторы раз паўтарала:

— А я так і думала: зайду ў сад — і адразу ж убачу цябе... Аж і Манечка тут...

Маня? Ах, гэта ж тая самая Верчына сяброўка-неразлучка! Буйнаватая на свае гады, з круглявым невыразным тварам, што ніяк не трымаўся ў памяці і пасаваў да нягучнага прозвішча — Лубяга, ці што? — Малевіч не мог ужо ўспомніць дакладна.

Так, Маня глядзела на іх добрымі вачыма: усё ведала, разумела і ўсяму спагадала.

Вера была няўрымслівым духам іхняга курса. Салістка студэнцкага хору, яна пасля спеўкі спяшалася на баскетбол, потым бегла на рэпетыцыю ў танцавальным гуртку. Ды не свяціла вачыма, адказваючы настаўнікам на лекцыях, магла закінуць уласную думку пра толькі выпушчаны раман, і ўсё гэта лёгка, быццам гуляючы.

Сказаць на яе прыгожая — не скажаш. Але, калі насцярожана стаяла яна, зрыхтаваўшыся да танцу, не дзяўчына — птушка на ўзлёце, уся ў парыванні хутчэй ператварыцца ў рух,— мусіць, не аднаму Усеваладу бачылася невыказнага строю хараство. А на першай лекцыі, з неадагнаным сном на павеках, нагадвала яна падгледжанае ў лясных вандроўках: ускраіна белага гаю на ўсходзе сонца, вострыя шыльцы травы ў шызай неабабітай расе і дзікае казлянё, успёршыся капытком на жаўтаваты атожылак вербалозу, дастае малады салодкі лісток.

Канчаўся спектакль ці самадзейны канцэрт, і Вера назаўтра садзілася за бібліятэчны стол. Задумвалася над уразіўшай кнігай, паглыблялася ў пісьмовыя работы і разлікі. На аблiччы праразаліся рысы тых жанчын, што распасцiралі здзёртую з галавы чырвоную хусціну замест упаўшага доле штандара, выносілі з бою параненых, пакідалі на снезе сляды босых ног у апошняй дарозе на касцёр. Агеньчык у яе вачах мацнеў і, здавалася, свяціў не з аблічча, а аднекуль з патайнае глыбіні: што б ні ўзнікала там, усё выходзіла на відавок — гнеў дык гнеў, смутак дык смутак.

Дзяўчыне ставала ўвагі ад бліжэйшага, не вельмі пакуль шырокага кола людзей, з якімі яна вучылася. Не ў прыклад многім асобам такое ўдачы, яна не абцяжвала нікога сваёй прысутнасцю, не чакала, каб падхопліваласся кожнае яе слова, падкрэслівалася яе неабходнасць у чым-небудзь, на што звычайна хварэюць раздураныя ўшанаваннем сябелюбцы.

Неяк само сабою выходзіла — без Веры ўсё складалася не так. Варта было ёй апазніцца з вакацый ці, скажам, застудзіць горла, легкадумна паспяваўшы на лыжнай вылазцы, абвыклы парадак рэчаў зрушваўся, нібыта душа іх кудысьці адлятала. Хор выступаў без

бляску, у спартыўных сутычках каманды з камандаю не пракідваўся агеньчык, нават пануры матэматык, згледзеўшы з-пад акуляраў, што ў аўдыторыі Верчына месца пустуе, нездаволена хмыкаў і пачынаў ганяць па ўсім курсе, не скупячыся на благія ацэнкі.

Вера адчувала гэта, не была абыякавай да чалавечых адносін, але, паўторым зноў, яна аніяк не дбала, каб падтрымліваць у раўнавазе зменлівыя хвалі іх. Настаўнікі, таварышы, прыгажэйшыя і, што зусім дзіўна, брыдчэйшыя таварышкі самі не спускалі яе са становішча ўсеагульнай улюбёнкі. Людзі старэйшага веку бачылі ў ёй руплівую і разумную дачку, а равеснікі — уважлівую сястрычку, гатовую адгукнуцца слязой на слязу, усмешкай на ўсмешку.

Дзяўчына не вылучала нікога з сваіх аднакурснікаў, а бывала сярод хлопцаў бывала, і ў густым іх гурце. Не больш шанцавала і будучым камарнікам, сур'ёзным маладым людзям, якія лічылі сваім абавязкам наведваць усе тэхнікумскія вечары. Як толькі хто-небудзь найбольш настойлівы пасля стыпендыі, калі свет здаецца асабліва ружовым, а колькасць атрыманых у касе жоўтых і зялёных паперак — невычарпальнай, падлятаў з білетамі на рэдкасны гастрольны спектакль, Вера някрыўдна пыталася: «А Маня? Мы ж з ёю змовіліся ісці ў кіно». І ўцякала з сяброўкаю на танныя сеансы ў першы бліжэйшы клуб.

Маня зараз вяла Веру і Усевалада да сябе на кватэру.

Бяссонная ноч за сталом з непрыбраным чайным посудам адкрыла Малевічу вочы на многае, дасюль невядомае. Накарміўшы гасцей, гаспадыня пайшла спаць, і яны да відна перабіралі ўсе свае сцежкі, седзячы ў вялікім, з трыма вокнамі, пакоі.

## 9

Усевалад і Вера давучыліся да перадвыпускное пары, так добра і не заўважыўшы адно аднаго. Прыйшоў час брацца за дыпломныя заданні, набліжалася экзаменацыйная мітусня.

Каб крыху развеяцца і адпачыць ад кругласутачнага сядзення над канспектамі, нейк перад веча-

рам выпускнікі гулялі ў валейбол у клубе. Дзяўчаты супроць хлопцаў.

Вера, расчырванеўшыся, чыстая дзяўчынка-журавінка, пра якую сама хараша спявала, выбегла на двор. Як на сярэдзіну красавіка, было цёпла — маладыя бярэзіны ўжо добра ўзелянеліся, а лапушныя цюльпаны пазвоньвалі з клумбаў у чырвоныя і жоўтыя званочкі.

Дзяўчына спынілася каля калонкі:

— Вады!

Усевалад качнуў колькі разоў падважнік. Было чуваць, як па трубе падымаецца з глыбіні тугі вадзяны слуп.

У гарлавіне зашумела. Дзяўчына падставіла губы і зараз жа адскочыла, апырсканая маленькаю пеністай патокай, узрадаванай свайму выйсцю на белы свет. Кроплі паляцелі на Малевіча.

— Пі разам!

Хлопец нахіліўся і ўбачыў адлучанае вузкім шкляным струменем яе аблічча. Проста перад яго вуснамі былі напаўраскрытыя, прыпаўшыя да вады — дзявочыя. Ён падаўся крыху наперад, зрабіў глыток і праз халаднаватую вільгаць адчуў цеплыню, дотык другіх губ.

Усевалад заплюшчыў вочы для смеласці і пацалаваў яе цераз струмень.

— Севал, што ты! — дзяўчына адбеглася, крыху ахаладалыя пасля гульні шчокі зноў густа пачырванелі.

Першы раз на сваім жыцці Усевалад праводзіў дзяўчыну. Праз увесь горад нёс за ёю, нязвыкла ціхаю, спартыўны чамаданчык з падручнікамі і таксама не вымавіў ніводнага слова. На ганку дома, дзе жылі Верчыны бацькі, прыселі. Дзяўчына прыціснула далоньку да ягонай шчакі і засмяялася. Не задзірыста, бесклапотна, як заўсёды, а з адценнем незнаёмай датуль турботы і шчаслівасці.

У Севала зайшлося сэрца, і заходзілася з той пары кожны раз ад аднаго толькі ўспаміну. Вера, зазіраючы яму ў вочы, шаптала:

— А ты не смей пасміхацца! Табе нічога не дарована. Ты можа думаеш, што я хацела, каб ты зрабіў так? Не хацела, зусім не хацела...

Па-дзіцячы смешна пакаяўшыся, спахмурнела. Потым прымусіла некалькі разоў паабяцаць не насміхацца з таго, што яна скажа. І ўсё ж не асмелілася вымавіць уголас, зноў пашаптала распаўсюджаны сярод дзяцей забабон:

— Калі двое пацалуюцца, дык яны ўжо — муж і жонка. Так і ў мамы з татам было. Ды які ж ты муж? Дзівадла!.. Але я ніколі не разлюблю цябе, Севал...

Яна чмокнула хлопца ў шчаку, гучна, як малыя перад сном цалуюць сваіх маці, і знікла за дзвярыма.

Рэшту ночы Усевалад прахадзіў пад яе вокнамі на ціхай вуліцы, яна, дарэчы, так і называлася — Ціхая. Абы развіднела, ён пастукае туды і вылажыць бацькам: мы з Верай — на парозе самастойнасці і хочам жыць разам.

Раніца прымусіла сябе пачакаць. Першы з дому выйшаў Верчын бацька, Ігнат Мацвеевіч. Да пояса голы, ён у глыбіні двара пачаў практыкаванні з гантэлямі. Усевалад адчыніў брамку, але ад аднаго выгляду гэтага высокага, буйнога складу ваеннага чалавека, камандзіра часці, расквартараванай у гарадку, хлопцава рашучасць пахіснулася. Зайшоў і стаяў, нават не павітаўшыся.

Ігнат Мацвеевіч лёгка прысядаў, выгінаў налітае здароўем цела, даставаў рукамі зямлю і пакрэктваў ад задавальнення: машына працуе без рыпу, мускулы слухмяна скарачаюцца, грудзі ўбіраюць пяць тысяч кубікаў паветра.

— Вы да сына, малады чалавек?

Усевалад кіўнуў галавою. Гэта не была мана — Верчын брат, Васіль, вучыўся ў тым жа тэхнікуме, курсам ніжэй,— а на праўду не хапіла адвагі.

— Яшчэ спіць мой гультай! Давай разам рабіць зарадку. А потым — снедаць.

У гэтым доме наведванні тэхнікумцаў былі не ў навіну. Ігнат Мацвеевіч любіў пагаварыць з маладымі, прывеціць і далікатна, каб не пакрыўдзіліся, накарміць іх. Малевіч упадабаўся яму, можа нагадаў самога сябе ў юнацтве, такога ж юнака атлетычнага складу і дзявочай сарамяжлівасці.

— Ну, давай сюды руку! І добра ўпірайся. А цяпер паспрабуй скрануць мяне з месца. Цягні на сябе!

Колькі ні тужыўся Усевалад, Ігнат Мацвеевіч стаяў непарушна. Затое, калі яны памяняліся ролямі, хлопец, як бачыш, падаўся наперад і ледзь не клюнуў носам.

— Хопіць! — засмяяўся пераможца.— Дуж ты, браце, быццам палескі вол. Праўда, і спрыту ў цябе не больш. Не абразіўся?

Ігнат Мацвеевіч дастаў вады з калодзежа і пачаў абціраццa, падкідаючы новаму знаёмаму пытанні. А той нязмушана, нібы і на самай справе сваяку, расказваў пра родную вёску Замошша, пра бацькоў і ўсіх хатніх — словам, пра ўсё, апрача таго, што не выходзіла з думак.

На снеданні ён сядзеў каля гаспадара, еў кіслае малако з бульбаю і не падымаў вачэй: баяўся — як гляне на Верачку, сакрэт возьме дый выкрыецца. Бянтэжылі і не вельмі прыязныя позіркі гаспадыні стала: мусіць, яна яшчэ не спала і тое-сёе ўчула з іхняга развітання. Потым студэнты, усе ўтраіх, пайшлі ў тэхнікум.

Ад таго часу, дзе б ні здарылася быць Веры, абавязкова з'яўляўся і Усевалад: рыхтаваліся за адным сталом у бібліятэцы, разам падвячоркавалі ў студэнцкім буфеце, поруч сядзелі на студэнцкай самадзейнасці, і хлопец з адданасцю сен-бернара насіў следам яе руды спартыўны чамаданчык.

У адну з нядзель Вера і Маня меліся прыйсці да Малевіча. Пры доме ў яго быў садок і два сталы ў цяньку — раскладай колькі ўлезе чарцяжы і ватманы. З раніцы Усевалад узяўся за парадак: мыў і скроб свой цеснаваты пакойчык, мёў двор і чысціў сцежкі. Братавая вярнулася з рынку і спляснула рукамі:

— Ого, Дзівадла! Навёў глянец, хоць нявесту вядзі.

Усевалад пачырванеў і мыркнуў:

— А чаму ж бы і не так?

Вера прыйшла адна — сяброўцы давялося чакаць чаргі ў зубніка. «Давай забяром патрэбныя паперы — і да нас дамоў». Заходзіць у пакой не хацела, хіба што на хвіліначку. Парадавалася залітаму цветам кусту півоні: «Гэта ты мне даруеш такі букет!» І зайшла.

Дамоўленая хвілінка непрыкметна зацягнулася да

вечара. Тады і было канчаткова вырашана: ехаць у адно месца на работу, жыць адным домам.

Не спатрэбілася шмат часу, каб падзеі павярнуліся вельмі рэзка. Выпускнікі ўжо адчувалі сябе на самастойных нагах, сабраліся, хацелі змовіцца, як будуць гуляць развітальную вечарынку. І раптам Вера, звычайная завадатарка ва ўсіх такіх справах, не прыйшла на змовіны. Што з ёю? Усевалад затрывожыўся, спытацца не было ў каго — Верчын брат Васіль прыстаў да рыбалоўнай арцелі на ўсё лета, хацеў сам зарабіць на гарнітур.

Прачакаўшы марна відную пару, Усевалад кінуўся на Ціхую. Дом быў на замку. Ігнат Мацвеевіч сыскаўся каля поўначы, змрочны, негаваркі. Падаў руку і ўпусціў у кватэру.

Нібыта ў адказ на пытанне, што само выгаворвалася і бязгучна злятала з хлопцавых губ, Ігнат Мацвеевіч вынес яму з другога пакоя паперку.

Пісала Верына маці: «Даруй, не дачакалася. Цяжка захварэла Даша, тэлеграфавалі — выязджаць неадкладна. Да цягніка — гадзіна. Бяру з сабой Веру, не спадзяюся на свае сілы».

Усевалад ведаў: Даша — улюбёная Верына цётка — жыве каля Чарнігава. А яшчэ ж наперадзе апошні экзамен, размеркаванне на работу, вечарына. Ці паспеюць вярнуцца? І наогул, як быць яму зараз?

— А мне нічога няма? — вырвалася ў хлопца.

Ігнат Мацвеевіч зрабіў выгляд, што здзівіўся:

— Хіба гэта абавязкова?

Жарт прагучаў абразліва, і Усевалад ступіў да дзвярэй. Ігнат Мацвеевіч зразумеў, але тону не змяніў:

— У маладосці многа чаго здаецца, а мінае час — і людзі аглядаюцца на іншае. Праверце сябе...

Давялосяісці напрасцяк: расказаў нарэшце ўсё. Глядзеў проста, чакаў бацькавага прысуду. А той маўчаў, і даволі доўга.

— Мяняць слова — не ў натуры мае дачкі. Дый не ў вашай, здаецца.— Улічваючы ўрачыстасць і напружанасць моманту, Ігнат Мацвеевіч не гаварыў «ты», як заўсёды таварышам і таварышкам сваіх дзяцей.— Толькі адно — ранавата нам расставацца з ёю. А наогул, я не супроць такога сына,— ён абняў за

плечы Усевалада.— Быў бы рад убачыць ваша шчасце. Але ці ўдасца? Не палохайся...

Ігнат Мацвеевіч дастаў з буфета няпоўны графін і паўгалоўкі галандскага сыру.

— Гарэлку каштаваў ужо? Не? Пара, мужчынскі клопат збіраешся ўзяць на плечы.

Яны чокнуліся.

— Я гаварыў не пра адно тваё шчасце.— Ігнат Мацвеевіч расціснуў у далоні пару грэцкіх арэхаў і пачаставаў Усевалада.— Ты павінен умець трымаць язык за зубамі, таму скажу больш. Апошні месяц я ўсё лаўлю сябе на адной думцы: зараз пачнецца. Якая ў нас заходняя граніца? Сам ведаеш. Не так вялікая, а неспакойная. Чакаць першага ўдару трэба тут.

Усевалад нецярпліва паварушыўся.

— Ведаю, што хочаш сказаць. І сам сабе кажу тое самае: сілы ў нас хапае, як цяжка ні прыпякала, усё роўна ўпраўляліся. Святая праўда. Але сіла — адно, а вера ў яе — другое. Пакуль што веры ў нас больш. Што казаць, вера дадае сілы, часам робіць чалавека неадольным. Аднак ворагаў многа, і неслабых, так што можа быць скрутна.

Ігнат Мацвеевіч змоўк, нібы спахапіўся — замнога турботы ўскладае адразу на юнака.

— Камсамолец?

Усевалад кіўнуў галавою.

— А я — з тваіх год камуніст. Ад Перакопа. Можаш мне паверыць: перамога здабываецца хутчэй, калі чалавек зрыхтаваны да цяжкай работы, а не для парадная пагулянкі. Мне здаецца, ты не ахвотнік рабіць што-небудзь напаказ і свой абавязак выканаеш. Толькі будзь гатовы да ўсяго вось цяпер, зараз: крані — і ўнутраная спружына ў сэрцы ў момант распрастаецца. Магчыма, такі стан прыйдзе не адразу і не да ўсіх у адзін час. Затое, калі прыйдзе, усе злыя замахі ператруцца на парахню. І яшчэ невядома, дзе зробіць апошні крок наша вера і сіла...

10

Неўзабаве ўпалі першыя бомбы. Бамбілі, уласна кажучы, не гарадок, а ваенны аэрадром непадалёку. Дзе там было здаваць экзамены і гуляць вечарыны, хоць Вера ўжо вярнулася дамоў.

Са скалочанай намеснікам ваенкома ротай навучэнцаў рушыў на ўсход і Усевалад. І праз усю вайну, калі зарываўся ў тлусты чарназём сярод голага стэпу, плыў пад бомбамі на пераправах цераз вялікія рэкі, кідаўся ў гарачцы шпітальных начэй, нарэшце, галіўся на прывале пад саменькай нямецкай сталіцай,— усюды стаяла перад вачыма бярэзіна з надламаным вяршком і каля яе — апаленая горам дзяўчына.

Вера як ухапілася за гэта дрэўца на прывакзальным сквепыку, так і не расшчапіла пальцаў, не прыхінулася да свайго Севала, калі ён нахіліўся апошні раз абняць і пацалаваў пры ўсіх.

Зволены з арміі начыстую, Малевіч адразу ж кінуўся на пошукі. Не далячыўся, выпрасіўся раней часу ў шпіталі і ўжо адною нагою стаяў у сваім гарадку. Але трэба ж было грузавіку ўзбіцца на жалязяку сярод лясной дарогі за Бабруйскам, і з хмызняку агрызнулася аўтаматная чарга. Раненне было нецяжкое, але трапіў ён у родныя мясціны яшчэ праз некалькі месяцаў. І нічога не пачуў, нічога не дазнаўся. Брат з жонкаю, у каго кватараваў студэнтам, выехалі ў вёску — дамок згарэў, старажылаў і знаёмых сустрэць не ўдавалася.

Верчына вуліца была выгараўшы ўся. У самым канцы, што ўпіраўся ў жытняе поле, тырчала нешта — будка не будка, хлеў не хлеў — сцены з калоў, пераплеценых лазой і абмазаных глінаю. З-пад накрытай гарэлай бляхаю павеці вылез стары ў лапленых-пералапленых портках і наўздзіў белай кашулі з крухмальным каўняром.

— Давай курыць, Дзівадла,— абазваўся ён,— бо і гаварыць з табой не буду. Тры гады не дымнуў ні разу, а ў немца не папрасіў.

Тут і Малевіч пазнаў у старым тэхнікумаўскага вартаўніка, што даваў званкі і пільнаваў парадку на калідорах; тут і даведаўся крыху, праўда, не шмат. Дзед бачыў Веру і Васіля, тады адсюль ужо не было куды падавацца — скрозь заступілі нямецкія часці. Дзе падзеліся потым — бог святы ведае!

Але ў тоне яго гучала мнагазначнасць. Разумей, браток, куды ішлі людзі, калі яны былі сумленныя. Само сабою, і ён памагаў партызанам, хаваў нашых

людзей, паведамляў, каму трэба, калі мог чаго дазнацца. А за гэта яму — дапамога і памяць: бачыш, у якіх кашулях фарсіць. Партызанскія сябрукі забеглі і абдаравалі мукою, салам; курыва, праўда, у саміх не было. І чамадан — вунь у кутку — адабралі ў нейкага панка; не паспеў уцячы з немцамі, дык гаспадара за шкірку, а чамадан — яму. Шкада толькі — повен кашуль, і хоць бы портачкі якія лядайкія. А кашулі — на тоўсты карак, каўнер як хамут, затое з віцебскім кляймом; нямецкага — умёр бы, не насіў.

Адсыпаўшы дзеду махоркі, Малевіч паспрабаваў разабрацца на адзіноце. Значыць, Вера не паехала таго ж дня разам з маці, як дамаўляліся пры яго адыходзе, засталася чакаць Васіля з яго рыбалоўнага падарожжа.

Што ж далей? Пэўна, ёсць сэнс пашукаць сваю страту сярод былых насельнікаў партызанскіх буданоў. Дзеля гэтага лепей застацца дзе ў вялікім горадзе — больш знаёмстваў, хутчэй сустрэнеш колішніх партызанаў і падпольшчыкаў, яны не засталіся ў цяню і ў мірны час.

Людзі, нават з такою слабенькаю асветаю, як у яго, усюды былі нарóсхапы. І Малевіч стаў працаваць, праўда, не па спецыяльнасці, у адным з буйнейшых гарадоў рэспублікі. Працаваў, вечарамі падвучваўся, набываў новую прафесію, а тым часам не спускаў з думкі аднаго. Распытваў ва ўсіх, варта каму было пабазвацца, што меў дачыненне да партызанаў ці перабыў акупацыю ў блізкіх да ягонага гарадка мясцінах.

Дый бясконца пісаў. У адрасныя сталы гарадоў, дзе асядала патока бежанцаў з занятых фашыстамі земляў, у даведачныя бюро, якія існавалі тады пры многіх установах.

Паштоўкі не прыносілі нічога суцяшальнага. Пра геройскую смерць Ігната Мацвеевіча пад Харкавам дазнаўся з газет. Як яму адказалі з міністэрства, пенсіі па загінуўшым камдыве ніхто з сямейнікаў не атрымліваў, выходзіць — і ўдавы жывое не было.

Апошні след да Веры губляўся. Усё ж Малевіч з патайнай надзеяй паехаў на бераг славутага возера пагасцяваць з камандзірамі брыгад, атрадаў і проста з радавымі незлічонай партызанскай арміі.

Слаўны падрыўнік, маладжавы чалавек з зоркай Героя, успамінаў, як грымелі справы ягоных людзей па ўсёй нашай зямлі. І назваў Верына прозвішча.

Малевіч ускочыў, не даў скончыць слова:

— Дзе ж яна, дзе?

Адказ быў кароткі і сумны: загінула смерцю адважных — вярталася ў атрад з весткамі аб сувязных, і яе пазнаў паліцэйскі. Але падрыўнік помніў толькі прозвішча, імя тае партызанкі ён ці забыў, ці не ведаў, а воблік — вочы, рост, колер валасоў — нічога не захавалася ў памяці.

І ўсё ж Усевалад жыў чакаючы. Дзень вечарэўся і запальваў зоры над заслонай ночы, неўзабаве адтуль, пабліскваючы расою, выпырхвала раніца, выкалошвалася ў новы дзень, і ён спеў у заўсёдных турботах і клопаце, неўзаметку адплываючы туды, дзе клубіліся і асядалі вечныя змрокі мінулага.

Гэтае неадхільнае чаргаванне дзён і начэй найбольш адчувалася і ўзрушвала Усевалада, калі заставаўся адзін і, зморany ад сумятні на рабоце, браўся за інстытуцкія падручнікі. Так і чалавечае жыццё, думалася яму, выйдзе з цемры, падыхае малую хвіліну на святле дый зноў кіруецца назад. Думалася, пакуль не пазбыўся надакучлівых разваг за падрыхтоўкай задання па філасофіі: гэтаксама лічылі старажытныя, і многа вякоў назад!

## 11

Што Веру бачылі ў гарадку пры немцах, гэта была чыстая праўда. Яна сядзела зараз пры Малевічы і расказвала сама. Пераканаўшы маці ехаць адну, а яны з Васілём, маўляў, з'явяцца следам, дачакаламя-такі брата: яго таварышы па рыбалоўству рассыпаліся хто куды, даблукаў дадому і ён.

Дружныя з маленства, брат і сястра хутка зразумелі адно аднаго і не спяшаліся нікуды выбірацца. Гарадок стаяў пры бойкай шашы, якраз там, дзе вялікая рака прымае ў сябе меншую. Вакол пашумлівалі бары, хапала ў іх патайных палян і неправідных гушчараў, шмат было недаступных імшарын і балоцін. Сама зямля, без асаблівых захадаў, была гатова даць бой і надзейны прытулак, і спрыяла яна свайму,

а не прышламу, дык не магло не ўзнікнуць тут сілы, якая б не падсыпала жару пад бакі ворагу, не бунтавала б ягоных намераў атаўбавацца і гаспадарыць.

А калі так, дык гэтай сілаю павінны стаць яны, сын і дачка чырвонага камандзіра. З дзіцячай упэўненасцю вырашылі, што і пачынаць, і рабіць усё на шкоду акупантам належыць менавіта ім. Заставацца на той самай кватэры было нельга, гэта зразумеў бы і кожны, меў ці не меў ён уяўленне аб канспірацыі. І яны сышлі, прытуліліся ў сям'і фельчара, чыя дачка — «Помніш, Ксенька?» — пыталася Вера ў Малевіча — была яе сяброўкай, а найбольш — Васіля. І думала, поўная маладой адвагі да барацьбы, гэтаксама, як і яны.

У гарадку, ды амаль адначасна ва ўсіх паселішчах краіны, адбылося тое самае, што можна назваць словам «самаўзгаранне», пашырыўшы яго сэнс і перанёсшы ў сферу духоўнага жыцця. Не чакаючы штуршка і падказкі старэйшых і вопытных, хто меў адпаведныя даручэнні і на чые плечы была ўскладзена адказнасць, моладзь адчула ў сабе столькі веры і сілы, што пачала дзейнічаць сама, стварыла падполле.

Хто не быў камсамольцам, стаў ім, камсамольцы — духам і розумам дараслі да камуністаў, а разам усе — сталі абаронцамі Радзімы, у кім яна і мела тады найпільнейшую патрэбу.

Упершыню давялося жыць праўдамі і няпраўдамі, як кажуць, хітруючы і выкручваючыся. Гэта было прыкра і цяжка. Вера і Васіль прайшлі абавязковую для насельніцтва рэгістрацыю, не трапілі пад мяцёлку ў час вывазу моладзі ў Нямеччыну і, само сабою, усяляк ухіляліся ад работы на акупантаў. Не абышлося тут без Ксенінага бацькі: бальніцы свае ён не пакінуў і ў патрэбную хвіліну мог абвясціць каго хочаш хворым, не паскупіўшыся на даведку з пячаткай.

Жывіліся яны ўсе перацягнутымі са старой кватэры запасамі гаспадарлівай Верчынай маці. Спатрэбіліся, дый яшчэ як, слоікі з варэннем, грыбамі і марынадамі, крупы, мука і асабліва — дзежачка свайго засолу сала, да якога быў ахвотнік Ігнат Мацвеевіч. Потым пакрысе пачалі спродваць адзенне, матчына і сваё — з бацькавай формай на рынак не вельмі паткнешся.

Але гэта было — бытаванне. Тое, чым жылі і дыхалі яны, прага да барацьбы і да перамогі, вылівалася, бадай, у тыя самыя формы, як і ў іншых гарадах і ў іншых юнацкіх падпольных групах. Здабылі і настроілі радыёпрыёмнік, следам за першай злоўленай перадачай з Масквы на платах забялелі напісаныя ад рукі зводкі Савецкага Інфармбюро. Учынілі некалькі абрываў тэлефоннай сувязі — работа Васіля! — і нават удалося падпаліць цыстэрну гаручага ў тупіку на чыгунцы.

А найбольш радаваліся і ганарыліся яны, калі, пасля бяссоннай, поўнай асцярогі і патайнага клопату начы, на цэнтральнай вуліцы гарадка з саменькай раніцы 7 лістапада страпянула крыллем аж пяць чырвоных сцягоў. Ну, хоць ты апрані ўсё лепшае ды выходзь на дэманстрацыю спяваць даўнія, неўміручыя песні рэвалюцыі, смяяцца, адчуваючы плячо таварыша, падхопліваць уздымныя заклікі на ўсю звонкасць юнацкіх галасоў.

Зрабілі-такі свята! І ў найчарнейшую часіну нядолі. Але іх працавала ўжо не трое: за кожным стаяла новая тройка, а за тою — яшчэ адна. Гэта і прыхоўвала Васіля з Верай, і ў той жа час пагражала большай небяспекай ім, дзецям вядомага камандзіра і камуніста.

Іх ведалі, паказвацца ў людныя месцы трэба было з асцярогай.

Немалою ўспамогай сталася тут адна, здавалася б на першы погляд, невялікай вагі акалічнасць. Ігнат Мацвеевіч і яго сяброўка, як і многія, хто аб'ядноўваў свае лёсы ў першыя паслякастрычніцкія гады, не пераступалі загсаўскага парога, лічачы, што добрая згода і каханне мацуюць сям'ю лепш за самую магутную паперчыну. І хоць Васіль з Вераю ў школе праходзілі як Дзмітрусёвы, па бацькавым прозвішчы, у метрыках яны былі запісаны на маці — Кашалёўскія. На гэта прозвішча і былі выпраўлены ў гарадской управе патрэбныя для пражыцця ў акупацыі дакументы.

Малевіча падкінула з месца.

— І ты жыла па іх пасля вайны? — спытаў аглушаны.

Разгадка іхняга расстання, разгадка марнасці яго-ных пошукаў прыйшла сама сабою, трагічная ў сваёй прастаце і недарэчнасці.

Вера нізка нахіліла галаву. Трэба зразумець: стала вядома — да іх ніколі не абзавецца бацька. Не толькі цела, нават труны не бачылі: яго накрыла снарадам каля назіральнага пункта. Забыць утрату, хаця б сцішыць боль ад яе, не хапала змогі. Такая раптоўнасць: смяяўся, цалаваў у апошнім лісце ўсіх — і ўсё, няма. Прымаць знакі пашаны і ўвагі, чуць прозвішча дарагога чалавека, адгукацца на яго, а тым больш выпраўляць новыя дакументы — дзе было ўзяць сілу на ўсё гэта? І яны засталіся жыць пад матчыным прозвішчам, перабраліся з абласнога ў непрыкметны, далёкі ад усіх родных вачэй гарадок. Праўда, іх расшукалі, выплацілі за ўвесь час пенсію, але гэта пазней, значна пазней.

— Каб ты толькі ведала, што нарабіла! Балючае маё, неразумнае маё дзеўчанё! — усяго і мог вымавіць прыгнечаны пачутым Малевіч.

Уявіліся бясконцыя тыдні чакання, ні на хвіліну не прысынаўшыя душэўныя сілы, калі ён кідаўся на кожны пробліск надзеі, бег за далягляд, як дзіцёнак, спадзеючыся, што вунь там, дзе неба сыходзіцца з зямлёю, адкрыецца нарэшце чаканая знаходка! Але колькі ні бяжы, канца зямлі няма і няма, над галавою той самы сіні паўмісак неба, а ты пад ім,— адзін, і ў які бок ні глянеш, аднолькава далёка да яго абапёртых на лясы і азёры берагоў.

Праз якую ка́ру было ўсё гэта? За якія правіны разлучыліся два чалавекі, што і ўявіць не маглі, як не разам сустрэць усход сонца, не разам спыніцца перад карцінай ці вавёркай на дрэве, не падзяліць радасці напалам ад чаго-небудзь убачанага ўпершыню. І раптам лёс узяў, паставіў іх тварамі ў розныя бакі і жорстка штурхнуў: ідзі, не азірайся!

Малевіч разумеў усё: збег абставін, душэўную разгубленасць асірацелых жанчын, важкія, а на рэчы жорсткія спробы Веры і маці ўцішыць няўцешнае гора, і што ж? Замест адной страты стала аж дзве!

Першая радасць сустрэчы пачала саступаць месца гаркоце, хоць не клікалі яе на вочы ні Вера, ні Усевалад. Пачалі хадзіць па пакоі, які ўжо здаваўся пу-

стым і няўтульным, дарма, што нейкі момант назад хвалілі мілы прытулак за дах над галавой, за вераснёвую ноч у вокнах і сляпучы ліхтар на другім баку вуліцы. Яны снавалі з кута ў кут, сутыкаліся на скрыжаванні сваіх дыяганальных пуцін, спыняліся, як невідушчыя, ды зноў спяшалі разысціся і, невядома ад каго, утаіць, не паказаць слязу.

Дзіўна, але чаго не здараецца ў жыццёвых нягодах, калі слабейшы пачынае даваць рады мацнейшаму. Так і тут: першая ахамянулася Вера:

— Севал, ты чуеш? Тады быў чэрвень сорак першага, Севал. А зараз — верасень. І пяцьдзесят шостага. І ў нас з табой — не скажаш, што чэрвень. Верасень, Севал, верасень...

— І на людзях жаўцее лісце? — горка пажартаваў Малевіч.

— І жаўцее, і ападае,— Вера адкінула сівую пасму валасоў.— Ты ж адразу прыкмеціў гэта, я сачыла за тваімі вачыма. Але ты не так зразумеў мяне, мілы. Мілы, не зважаючы ні на што. І навек заплюшчыўшы вочы, я ўсё роўна скажу табе — мілы...

— Не трэба пра восень! — Малевіч схапіў Веру за плечы, узняты вялікаю пяшчотай яе слоў. А сам гаварыў не выбіраючы: — Што, верасень толькі маладзіць і важыць? А хто арэ і сее, не ён?

— І за гэта — мілы. Не адвык разумець мяне. Ты падумай, не спяшайся. Што будзе, калі такою парою пачаць усё спачатку? Не позна?

— Не!

Малевіч не разважаў, і ў перадранішняй цішыні адказ яго прагучаў аглушліва цвёрда.

— Дзівадла, дзівоснае дзівадла! Паўтара дзесяткі гадоў не бачыліся, а чалавек хоць бы на столечкі,— Вера паказала таўшчыню пазногця,— змяніўся, не! І ты, мусіць, дагэтуль верыш,— яна засмяялася,— нібыта найкарогшая адлегласць паміж двума пунктамі...

— Простая лінія,— не даў скончыць Малевіч, так жа голасна і непарушна сур'ёзна.

— Нават у нашым негеаметрычным выпадку? Даруй, але ўявім: ты і я — два пункты, праўда? А простая паміж намі не вычарцілася, дзве рысы пайшлі ў розным кірунку. Зараз шчаслівая ці няшчаслівая ака-

лічнасць замкнула іх. Чакаць трываласці ад выпадковага супадзення цяжка...

— Чаму? Мы сталі тварам адно да аднаго і ўжо ідзём насустрач. Пастулат не траціць сілы... Чорт ведае што! Гаворым, як быццам даводзім тэарэмы.

— Вось-вось,— Вера паківала галавою,— доказы — магутныя. А калі і дзе пачуцці вымагалі доказаў і лічыліся з імі?

— Тут і даводзіць няма чаго...

— Севал! Больш ніводнага слова, абяцаю. У нас ёсць час разважыць і падумаць. Да вечара, да майго цягніка. Увесь дзень — наш. Ніводнай хвіліны — нікому. Правядзём яго, як быццам не разлучаліся. «Як быццам не праходзілі гады і не прамылі рэчышча расстання»,— я часта напяваю гэтыя словы.

— А потым?

— Ты зноў патрабуеш доказаў, Севал? — Вера на момант задумалася.— Потым ты правядзеш мяне на вакзал, і мы на ўсё забудземся. І дамо слова ніколі не шукаць сустрэчы. Хутчэй за ўсё — будзе так. Зрэшты, наперадзе цэлы дзень. Давай спадзявацца на яго ласку.

## 12

Малевіч ішоў выконваць сваё камандзіровачнае даручэнне. Ступаў як не сваімі нагамі: ■ можа вярнуцца?

Чаму не паслухаў Веру? Ну, і што б здарылася? З'явіўся б на тую фабрыку заўтра: план бы не загрымеў і свет не перавярнуўся б. А так адкрадае ад сябе паўдня. Каб жа не чакаў такой часіны, не смаг па ёй, а то...

Вера не спахмурнела, аднак лёгкі цень прабегся па абліччы, калі ён сказаў, што мусіць ненадоўга пайсці.

— А мы ж дамаўляліся, Севал, нікому ніводнай хвіліны,— нагадала і спахапілася: — Што я кажу! Мы — дарослыя людзі. Ды ў цябе заўсёды было развітае пачуццё абавязку...

І заўсміхалася, загадала не спяшацца, але прыходзіць як мага хутчэй... Відаць, зразумела... Не можа ён трымаць у марным чаканні людзей, што паслалі,

маюць на яго надзеі. А потым — гэты Дзякуйчык. З'явіцца на фабрыку, не знойдзе Малевіча і разнясе на хвасце — маўляў, загуляў, з кім не здараецца! Але каб і таго Дзякуйчыка не было, ён усё роўна зрабіў бы таксама.

Развага развагаю, а ішоў і ўшчуваў сябе: не мог забыць пасмутнелыя Верыны вочы, асабліва трывожна прыгадвалася яе развітальная ўсмешка, на самым парозе...

У заводскім двары ад фантанчыка насустрач усхапіўся Дзякуйчык.

— Не спадзяваўся на вас так рана,— з усмешачкай пачаў ён.— Ну і залавілі красуню.

Дзякуйчык намерыўся чапнуць Малевіча за плячо, той папярэдліва адступіўся.

— Чаго вы? Нашаму брату-мужыку гэта не ў ганьбу. Бачылі-бачылі... Мы там у садзіку перакусвалі... Прыемна, на ветрыку, у зяляніне... Адкрытая такая верандачка, вядома, з падачай... хе-хе... гарачага ліманаду. І раптам — вы з дамамі. Ш-ша, не турбуйцеся. Не ў такое вока ўвайшло, каб праз язык вырвацца. Мур! — Дзякуйчык пастукаў кулаком у вузкія грудзі.— Магіла сакрэтаў...

Малевіч па шчырасці пасміхнуўся сам сабе: «Ніякі ты, браток, не мур. І як табе не тлумач, не паверыш...»

— Пайшлі рабіць справы,— мыркнуў ён, крыху перачакаўшы ўедлівую балбатню.— Паспрабуем прабіваць сапраўдныя муры.

—Ух, у гарачай вадзе купаны! Прысядзем, Усевалад Макаравіч.— Дзякуйчык паказаў столік з крэсламі ў цяньку.— Шкада вас, хапаецеся не з таго канца. Хочаце ламаць шапку перад кожным сталом, чакаць прыёму ў дырэктара... Пераконваць, даводзіць і... вярнуцца з пустымі рукамі.

— А як па-вашаму?

— Справа ўжо зроблена... напалавіну. Калі вы не выкрыеце мяне...

— Я ў жанры даносаў не працую.

— Так і лічыў: чалавек высакародны, буду мець падтрымку. У аддзеле збыту ёсць карысны дзядзька. Спатрэбіцца і надалей. Мы ўчора залажылі падмурак і крыху замачылі. Хочаце спаткацца?

— Піць? — непрыязна пацікавіўся Малевіч.

— Размаўляць,— памяркоўна паправіў нейчы голас.

Малевіч не заўважыў, як да фантанчыка падышоў танклявы чалавек, нейкага мышастага колеру ад валасоў да чаравікаў. Добразычліва адрэкамендаваўся і з відавочным задавальненнем агледзеў Малевіча:

— Чуў, што вы вельмі просты... Але каб настолькі!.. Не чакаў, яй-права, не чакаў...

Малевіч не выказаў ні радасці, ні нездавальнення з прычыны новага знаёмства: ліха ведае, як тут трымацца. Дзякуйчык павёў гаворку напрасцяк:

— Мы абуваем ім дзве машыны...

— Як гэта абуваем?

— Надзейна, як належыць: у новую яраслаўскую гуму, даём гарантыю на атрыманне балонаў... Тады яны ўвечары пачынаюць адгрузку абівачнага матэрыялу нам. Сёння — усё, што знойдзецца на складзе, а далей — па графіку, акуратненька.

— Што ў вас там, шмат балонаў? Узяў і адразу абуў...

— Ні вы, ні я, ні ён,— Дзякуйчык паказаў на танклявага забеспячэнца,— нічога нідзе браць не будзем. У наш аддзел збыту адсюль прыедзе афіцыйны прадстаўнік,— ён зноў торкнуў пальцам у бок танклявага,— з афіцыйнай просьбай. А задаволіць яе дапаможаце вы, вашым аўтарытэтам. Пераканаеце, так сказаць, наша начальства. Тады — афіцыйнае пералічэнне грошай з рахунку на рахунак, і машыны бягуць па шашы... Падыходзіць? Лады — з крыса ў крысо.

Не будучы ў захапленні ад выкладзенай з такім бляскам аперацыі, Малевіч спытаў:

— Значыць, склад не пусты, матэрыял усё ж такі ёсць?

Танклявы зрабіў загадкавыя вочы і ў знак згоды кіўнуў галавою.

Малевіч моўчкі падняўся.

— Хочаце рвануць да дырэктара? Шчасліва! — забеспячэнец паблажліва рагатнуў.— Слухайце, што будзе далей: дырэктар выклікáе мяне, я паказваю яму накладную на матэрыял. А яна пакуль што афармлена іншаму прадпрыемству... І больш матэрыялу — ні сантыметра. Усё... Ідзіце, псуйце сабе і свайму заводу.

Малевіч стаяў, як абвараны. Узяць бы за каўнер свайго Віцьку Дзякуйчыка і гэтага мышастага ды скалануць, ды патрэсці, пакуль не павысяваюцца з іх душы. А што з гэтага? Яны ж не саромеюцца і не баяцца, гавораць і пазіраюць у вочы. Сведак няма, дый што, каб былі? Упрэшся ў непрабіўны мур махінацый, узаемных паслуг, далікатна кажучы, а матэрыял — цю-га! — даганяй, ліха ведае дзе.

Якраз пра гэта і завёў Дзякуйчык.

— Разумееце, Усевалад Макаравіч! Мы дзейнічаем толькі ў інтарэсах нашых прадпрыемстваў: узаемныя паслугі. Асабіста ніхто з гэтага нічога не мае.

Дзесьці ў словах Дзякуйчыка чуліся рэзоны. Хіба тут фармальна што-небудзь супрацьзаконнае? Не, усё роўна патыхае здзелкаю, а што можа стаяць за ёю? Малевічу з яго непасрэднай неспрактыкаванасцю было не дашукацца. Пачуўся зусім безабаронным, зрабілася яшчэ больш прыкра ад гэтай свае жыццёвай някемлівасці, ад немагчымасці пайсці напралом супроць прайдзісвецкай гульні.

Гарчэй запякла і кінула ў гарачыню прыгадка — Верына ўсмешка на парозе. Сядзіць тут нямаведама чаго, слухае нямаведама каго, кола ж круціцца міма ягонай волі. Дарма марнуецца час, а там — чакаюць! Дый хіба не чакаў і ён, не стараўся наблізіць гэту хвіліну? Чаму ж зараз, калі яна прыйшла сама, з'явілася неўспадзеўкі, не толькі не імкнецца затрымаць яе, а выпускае з рук?

Гэта адчуванне, як знешне ні супраціўляўся Малевіч, дапамагло ліпучым словам суразмоўнікаў, абвалаклі-такі пакрысе, здаўся на ўгаворы. Дык бяда вас бяры! Ён падтрымае просьбу фабрыкі, але патрабуе накладную на матэрыял аформіць зараз жа, пры ім, і адгрузку пачаць сёння ж. Чакаць болей немагчыма.

Мясцовы забеспячэнец не хаваў задавальнення, ён як быццам загадзя ведаў — ягонае перацягне.

— Тады,— устаў і Дзякуйчык,— добрую справу належыць добра абмыць...

Малевіч мімаволі памацаў кішэню, дзе ляжалі даўно адкладзеныя грошы: а можа сустрэнецца шарсцяны гарнітурчык сыну. Рух гэты не застаўся незаўважаным.

— Не турбуйцеся, будуць цэлыя,— папярэдзіў забеспячэнец,— вы тут госці. Загадчык адной харчовай установы — мой сябар. Так сказаць, узаемныя паслугі...

Малевіч адмовіўся настолькі рашуча, што запрашэння не паўтаралі. Зрабіў непатрэбны візіт дырэктару, прасачыў за рухам накладной на склад і ўжо не ішоў, а бег да дома, дзе пакінуў Веру.

## 13

Трывожнае пачуццё памацнела яшчэ ў калідорчыку. Верыных рэчаў, раскладнога партфеля-чамадана і плашча, на вешалцы не было. Некалькі крокаў да дзвярэй у пакой не гасла надзея: напэўна, выйшла куды ў горад, бо казала на снеданні: «Я і ў абед буду цябе карміць, Севал. Проста веры даць не магу: мы — за адным сталом, разам ямо хлеб. Мне ж так хацелася: сесці з табою поруч, разламаць скібку і ўкусіць з аднаго кавалка. І так — кожны дзень, і ўсё жыццё».

Прыгадка з'явілася імгненна і гэтак жа знікла. Увайшоў у пакой і па збянтэжаным твары Мані зразумеў: чакаць няма чаго.

Выслухаў бязладныя тлумачэнні: Вера пазваніла дамоў і адразу пабралася на самалёт. Прыкусіў губу, не дазволіў сабе, хоць і хацелася, запытаць, як тады ў юнацтве: «І нічога не перахазала, не напісала мне?» Каб перахазала, дык бы перадалі, а Маня маўчала і, відаць, была звязана абяцаннем маўчаць. Каб унікнуць роспытаў, жанчына пачала накрываць на стол: «Перакусі трохі, мне весялей будзе, муж у адпачынку, надакучыла адной».

Малевіч сеў і машынальна пацягнуў з акна фатаграфію. Глянуў — і абудзіўся ад здранцвення: Вера! Такая яна была першакурсніцай, гэтак жа акурат завязаны два банты абапал галавы.

Але гэта была яна і не яна. У рысах дзяўчынкі гадоў чатырнаццаці, чыё аблічча так выразна свяціла з фатаграфіі, уладна праразаліся нейчыя іншыя рысы.

«Бацькавы»,— з гаркотай падумаў ён і тут жа злавіў сябе на тым, што гэта дзяўчынка стульвае вусны і крышку жмурыцца, як нехта яму добра вядомы. Толькі не Вера. А хто тады? Ды не хто іншы, як ён

сам, Усевалад Малевіч, на першым студэнцкім пасведчанні.

Ён верыў і не верыў у тое, аб чым пачынаў здагадвацца, адганяў палючую думку, а яна не адганялася. Мала чаго бывае на свеце, у каго толькі часам не ўдаюцца дзеці! «Ані ў бацьку, ані ў маці, а ў краўца, што спаў у хаце»,— прыгадалася прыказка.

Перавярнуў фота, папрасіў у Мані дазволу і прачытаў надпіс: «Манечка! Вось яна, мая дачушка-сястрыца!» Ніжэй стаяла В з тлустай кропкай, Вера любіла падпісвацца гэтак, адной літарай.

Што яна замужам, Малевіч дазнаўся пад час начное гаворкі. Чаму тады піша: «Дачушка-сястрыца»? Што гэта магло б значыць? З новай сілай ажылі і так не змоўкшыя падазрэнні — ён не здолеў, не асмеліўся ні пра што болей спытацца ў Веры.

Па гадах і падабенстве дзяўчынка на фатаграфіі магла быць ягоным дзіцем. Але ці ж давала зачэпку на гэта іх кароткая горкая блізкасць у апошні дзень перад ростанню?

Маня нічым не парушала бязгучнай размовы Малевіча з самім сабою. Яна глядзела на яго са спагадай, можна было заўважыць, што жанчына то парываецца нешта сказаць свайму ўзрушанаму аднакашніку, то стрымлівае сябе. Нарэшце, яна прыкмеціла: аблічча ў таго пасвятлела — мусіць, здагадаўся.

А Малевіч абвяшчаў сваю здагадку ледзь не ўголас: так! Іначай і быць не можа: у яго з Вераю дачка! І Вера, смешная, упартая, залатая, не магла ўтаіць, але не магла і сказаць проста, а зараз дае яму знаць праз фота.

— Праўда, Маня, праўда?

Прачытаўшы па вачах, што не памыляецца, выбег на вуліцу, не падзякаваўшы, не развітаўшыся.

У гасцініцы засеў за тэлефон: апошні самалёт з горада адляцеў, цягнік — позна вечарам. А ён на той самай адлегласці ад Веры, як і быў, можа яшчэ далей. Куды паляцела, як цяпер шукаць яе? Калі яна замужам, пэўна, носіць іншае прозвішча, не матчына і не тое дзявочае, па якім столькі папашукаў яе Малевіч.

Вярнуцца, паспрабаваць распытацца ў Мані? Сказала б тады, каб што магла. Не такая ў іх друж-

ба з Вераю, нічога не скажа без дазволу сяброўкі.

Ён убачыў увачавідкі твар дзяўчынкі на фота, успомніў гатунак паперы, карычняваты фон і нават большае, самае важнае з таго, што мог успомніць. Ліловы штампік на адвароце пад надпісам сведчыў: «Фотаатэлье г. Вічуга».

Пагасіў папяросу і пачаў супакойвацца. Не ведаючы яшчэ, што зробіць, як пагоніць яго вецер утрапення, рады быў аднаму: след не згубіўся.

Тым часам яна, праз каго ўзгарэлася ўся гэта душэўная ўструшня, пабыўшы ў аэрапорце і прыняўшы нечаканае рашэнне, вярнулася ў горад. Сядзела ў паштовым аддзяленні на першым паверсе новага дома, усяго за нейкія два кварталы ад гасцінічнага нумарка, дзе дасмальваў другі пачак папярос Малевіч.

Вера пісала ліст да маці. І, як здагадаўся Малевіч, сапраўды ў Вічугу, дзе працаваў муж і яна сама.

Пісала, рвала напісанае, то плакала крыху, то пасміхалася, мармычучы нешта ўголас, на здзіўленне паштовых дзяўчат. А больш думала. У думках дагаворвала свайму Севалу ўсё, чаго не сказала — аднаго не змагла, другога не паспела. Ён жа, святая душа, вылажыў усё даастатку!

Фатаграфія дачкі, падараваная Мані, не была, як думаў Малевіч, пакінута ў якасці весткі і нейкага знаку для яго. Наадварот, Вера намагалася ўтаіць, чыя дачка гадуецца ў яе сям'і. Каб Севал, барані божа, не дазнаўся, што ягоная. Хто ведае, што можа пачацца тады: за ім і за ёю стаяць людзі, з кім іх звязалі гады жыцця, і калі не светлыя, дык уцешныя часіны. Яна не хоча і не можа быць вінаватая перад яго сям'ёю. І так даволі ўжо віны перад ім самім: стаілася пад невядомым прозвішчам, не адгукнулася, калі шукаў, а магла ж, магла, павінна была і сама гукнуць яго.

Не гукнула. Вось і цярпі, і адказвай адна, бо ён жа, казаў, пайшоў на шлюб, страціўшы апошнюю надзею сустрэцца.

Усевалад не ведаў, што адбывалася пасля таго, як маладыя падпольшчыкі так слаўна адзначылі чырвонымі сцягамі Кастрычніцкае свята. Да іх ужо

знайшло дарогу партыйнае падполле і ўзяло пад апеку. Было вырашана і загадана: першай тройцы моладзі — Васілю, Веры і фельчаравай дачцы Ксені неадкладна перабірацца ў партызанскі атрад і быць гатовымі да перакідкі ў іншае месца. На даляглядзе ўзнікла пагроза: Ксенінага бацьку заспелі ў бальніцы на прыхоўванні лекаў і перавязачных сродкаў; арыштаваць не арыштавалі, а на заметку ўзялі.

Тады акурат і з'явілася ў гарадок уласнай персонай тая самая цёця Даша, што моцна хварэла перад пачаткам вайны і выклікала на развітанне Веру са сваёй маці. Хвароба адпусціла яе, а наўкольныя няшчасці зрабілі рухавай, здольнай на нялёгкае падарожжа з Чарнігава, дзе хапалася за сэрца цяпер другая сястра, млеючы ад невядомасці, як там маюцца яе дзеткі, Васіль і Вера, ці жывыя хаця.

Спрактыкаванае цётчына вока адразу прыкмеціла, у якім становішчы Вера. Калі тое самае пацвердзіў фельчар, у чыім доме яны ўсе жылі, цёця Даша катэгарычна заявіла: Вера паедзе да яе дамоў, каб там быць пад матчыным наглядам. Ёй далікатна далі зразумець, што ў Веры ёсць абавязкі, а таму без дазволу нікуды рухацца не можа.

Цётка, што называецца, стала на дыбкі. Найвышэйшая ўлада на свеце — матчына, гэта ўлада перададзена ёй, і, як сабе там хто хоча, будзе так, як сказала яна.

Што ж датычыць абавязкаў, дык хіба можа быць размова: Вера сама дзіця і чакае дзіцяці. Першага! Як можна кідаць яе ў небяспеку, у хваляванні? І, калі хочаце, найвышэйшы абавязак — узгадаваць чалавека. Іншая справа, калі ўсё добра абыдзецца, тады хай думае пра абавязкі. Ёсць у яе брат, ёсць бацька, яны падтрымаюць гонар сям'і.

Гаварыла-гаварыла і дамаглася-такі свайго. Кіраўніцтва падполля вырашыла перавесці да партызанаў толькі Ксеню і Васіля, прычым Ксеня пайшла пад ягоным прозвішчам, што мімаволі ўвяло ў зман славутага падрыўніка, і ён пасля расказваў, як загінула дзяўчына, называючы не яе сапраўднае прозвішча. Следам ашукаўся і Малевіч.

Цётка, па ёй адной вядомых шляхах, на ўсіх магчымых і немагчымых у акупацыю сродках

транспарту, месяцы праз два дабралася з Верай да Чарнігава — там ужо чакалі-прачакаліся іх у вялікай тузе і трывозе.

Заліўшыся слязьмі з радасці і засмучэння, Верына маці пачала дбаць пра лёс дачкі. Вось як не пашанцавала! Не пачынаўшы жыцця, ужо надламала яго. Што ж ёй рабіць? Не навек жа вайна. Трэба будзе вучыцца, думаць пра сям'ю, а ў яе на руках бязбацькавіч. Дарма чакаць, што вернецца той Севал з такой крывавай куламесы. Дый каб вярнуўся, вельмі ж няўклюдны ён, чысты вятрак на гарадской вуліцы.

І маці вырашыла: прыняць грэх, як ёй здавалася, на сябе. Брыдкавата, вядома, перад людзьмі, але перамаргаецца неяк. Дзеці, праўда, параслі, дый яна яшчэ не старая: як пойдзе, бывала, круціць вальс або польку з сваім Ігнатам Мацвеевічам, дык і маладыя камсастаўскія жонкі не здыхаюцца. Дзе ж ты, Ігнатка? Вось, каб сядзеў поруч, дык, пэўна, нешта б разумнейшае прыдумаў. І як сказаў бы, так яно і было б. Але іншы клопат у яго: вядзе салдатаў у бай чырвоны камандзір і вернецца з перамогай або ніяк. А ягонай жонцы трэба хавацца самой ды яшчэ прыхаваць ад цікаўных вачэй неасцярожны ўчынак дачкі. Няхай яна пасядзіць дома, а напрадвесні патрымае з месяц каля грудзей малое, далей — не яе клопат з дзіцем. Не такі час, каб маладыя спадзяваліся на нейчыя рукі, трэба самім прыкласці сілу, вызваляцца з-пад ворага.

Так вось і з'явілася «дачушка-сястрыца» Гэлька. Сакрэту гэтага не ведаў ніхто, толькі дзве бабкі ды цяпер Маня.

Ні вярнуцца ў гарадок, ні ўвайсці ў падполле на месцы Веры так і не ўдалося. Пасля смерці бацькі, ужо генерала, камандзіра гвардзейскай дывізіі, іх усіх вывезлі на Вялікую зямлю, пазней яны выбралі сабе аселасць у Вічузе.

«Мамачка! — пісала Вера.— Хуценька збірайся і прыязджай сюды з Гэлькай назусім. Я не звар'яцела, не асуджай мяне да часу. Табе будзе добра ў нашым старым гарадку, нам жа так шчаслівіла тут некалі. Праца для мяне ёсць, яшчэ лепшая пасада на хімічным камбінаце. І пра кватэру не турбуйся:

на першы час прытулак дае мая сяброўка, а да Новага году справім уваходзіны пад сваім дахам. Пра ўсё гэта я дамовілася так жа цвёрда, як і вырашыла застацца, сёння, сустрэўшы ў аэрапорце, я думала адлятаць у Вічугу, ведаеш каго? Тваю добрую знаёмую і маю, убачыш яе хутка сама і будзеш рада. Вось яна і ёсць дырэктар хімічнага камбіната, паважаны тут усюды чалавек. Не скажу, каб без яе рады і ўдзелу ў маім лёсе я адважылася на тое, што раблю.

Мамачка! Не плач і зараз нічога не пытайся. Я павінна была б прыехаць і сама сказаць усё Паўлу. Але ён такі добры, такі адданы нам усім, што баюся — як убачу, не збяру сілы расстацца. Калі не зможаш сказаць яму і ты, пакажы гэты ліст, дарагая. І пра Гэльку ўсю праўду скажы — уведае, якая я кепская, і пачуецца лягчэй. Я іду ні да кога і ні да чога, я проста не магу любіць яго, як бы хацела, дый ён варты большага. Хай даруе, што некалі падала руку на жыццё, а як жыць пад адным дахам далей? Праз павагу, у імя набытай звычкі? Цяпер ты згадзілася са мною, мамачка? Трэба ж паглядзець праўдзе ў вочы.

Я ўбачылася тут з адным чалавекам; ён, здаецца, ніколі не глядзеў іначай: толькі праўдзе і толькі ў вочы. Гэта — сама праўда, такое вялікае, чыстае дзіця.

Не палохайся, мамачка, якраз таму і я не звяжу свайго лёсу з ім, хоць бы і ўдалося дацягнуцца да яго цудоўнай даверлівасці і прастаты. Пралётнае захапленне — запозна для мяне, а каб хтосьці праз мяне адчуваў сябе нешчаслівым, не хачу.

Скажаш, раблю нешчаслівым Паўла? Не, мамачка, я вызваляю яго ад вялікага няшчасця няшчырасці. Ён маладзейшы за мяне гадамі і, мусіць, душою. У жыцці многа шчасця, толькі трэба не біцца за яго, не здабываць наўзахапкі, а проста ўбачыць — каторае тваё: яно пасміхнецца насустрач. Спадзяюся, стане радасці і на Паўлаву долю.

А мне даволі таго, што падараваў аднойчы лёс,— здаецца, усяго адну жменьку, а істота дасюль поўная.

І ведаеш, мамачка, што яшчэ зробім? Я стану для Гэлькі маці, а ты, мая нестарэнькая, як і нале-

жыць, бабулькаю. Ад каго нам хавацца, які сэнс, дый ці быў гэты сэнс калі-небудзь? І хай дзяўчынка ведае ўсё.

Бывай здарова, мая светлая мамачка, бедная мая! Колькі ты перацярпела праз сваю неспакойную дачку! Абяцаю больш не засмучаць цябе, роднень-кая. Абдымаю і чакаю, не баўся».

14

Малевіч на парозе аддаў сыну шыкоўнага шэрага каня. Мікітка кінуўся паіць і карміць свайго рысака ды паскакаў у двор хваліцца бацькавым падарункам. А бацька стаяў у калідоры, не распранаўся, не выпускаў партфеля з рукі і ўсё ніяк не мог павітацца з жонкай. Яна здзіўлена паглядала, потым затрывожылася.

— Ты нездароў, Сева?

Малевіч пайшоў у пакоі, як і быў, у плашчы. Спыняўся каля кніжных паліц, этажэркі з прыёмнікам, каля ўсіх абвыклых рэчаў, нібыта бачыў іх упершыню ці развітваўся назаўсёды.

— Ці не прынесці табе капылы? Падобна, ты збіраешся нас пакінуць,— у жарце пачуўся раптоўны адчай здагадкі.

Малевіч абсунуўся на першае бліжэйшае крэсла і глядзеў на жонку не міргаючы.

— Толькі ты і магла так адчуць,— вымавіў нарэшце.— Ты адна, Надзея. Лепшая з усіх, чулая. І засталася б такою для мяне, пакуль жыву... Каб...

— Не перасільвайся, Усевалад,— жанчыніны шчокі ўзяліся ў чырвоныя плямы.— Табе гэта задорага. Мне даволі таго, што сказаў, а сыну...

Такой размовы не магло не быць, надыходзіў самы скрутны момант. Малевіч усю дарогу дадому ўяўляў, як яны загавораць пра сына, не мог уявіць, і зараз спалохаўся ад гэтага ўпамінку.

Сын, хлопчык Мікітка! Гарцуе недзе наўскач на сваёй слухмянай канячцы, блізкі ў бесклапотнасці да бацькі, не сённяшняга, на жаль, а таго, што зусім нядаўна сам палез на каруселі, каб суцешыць нейчую растрывожаную душу.

А «дачушка-сястрыца»? Не бачаная яшчэ дзяўчынка з бантамі наўкол галавы. Якая ўцеха будзе ёй? Каму павінна аддаць перавагу бацькава сэрца?

— Зразумее і сын,— да Малевіча вярнуўся голас,— калі вырасце... Іншая справа, ці даруеце вы мне, абое. Напэўна, не. Сам вінаваты, не пра ўсё расказаў табе, Надзея. Я ведаў: кахаць — гэта раз і назаўсёды, але думаў — мінулае не вернецца... А яно...

Малевіч пачаў ад самага пачатку: з вядомага, як некалькі дзён назад прыехаў у гарадок, да невядомага і яму, і ёй, калі давялося адступіцца на пятнаццаць гадоў у маладосць.

Вярнуўся ў сённяшняе ён аж пад раніцу. Малы салодка спаў і, напэўна, не першы раз імчаўся ў атаку на чале атрада чырвоных коннікаў. Двое дарослых знайшлі ў сабе сілу паўсміхацца яму і пацалаваць, кладучы ў ложак адважнага ваяку.

Жанчына глядзела некуды праз Малевіча.

— Ідзі,— павольна вымавіла яна.— Табе трэба ісці туды. Ты не можаш зрабіць інačай.

Малевіч нахіліўся і пацалаваў ёй у руку. Усё аддавалася на яго волю: бяры горкае і жаданае права ўстаць і назаўжды зачыніць дзверы ў гэты дом. Спакуса зрабіць гэтак зноў паўстала так уладна і так неадольна, што ён з усяе сілы схапіўся за поручні крэсла.

Адчуваў, зараз скажа нешта па-дзіцячы простае і ў той жа час жорсткае, але перасіліць сябе не мог.

— Я не пайду нікуды. Яна не пажадала гэтага, не пачакала мяне зусім трохі. Відаць, не можа дараваць сабе, што не дачакалася некалі.

— І ты вярнуўся толькі таму? Тады пайсці змушана я.

Магчымасць даравання за нязроблены ўчынак аддалялася, і Малевіч з той самай жорсткай прастасцю запытаў:

— Хіба для сына гэта не адно і тое ж? Падумай, уяві, што ты так нічога і не дазналася. Мог жа я прыехаць і змоўчаць. А ці гэта было б лягчэй і лепш?

Жанчына падняла галаву. Першы раз за ўсю гэту бясконцую размову вейкі ў яе здрыгануліся, зліпліся ў мокрыя акварэльныя пэндзлікі. Вочы

бліснулі надзеяй, напамянуўшы, як блішчыць пад месяцам расянае лісце.

Малевіч адчыніў акно ў рэдкі туман вераснёвай раніцы. Не ведаў, які з сябе і ў якім баку ад іхняга дома той горад, куды ён выбіраўся ехаць і не паехаў, але ўяўляў, што глядзіць акурат на не пагашаныя там пасля ночы агні. Думка на чыгуначных колах пазгрукатала туды па прасторах радзімы, у яе пажоўклых беразаках, каля чырвоных рабін пры будачках дарожных майстроў, уздоўж прыпыленага цягніковым пытлем алешніку.

У высназканай хваляваннем, ахаладалай ад турбот і бяссоння істоце стала раптам цяплей. Не так ужо і далёка, дзесьці поблізу ад Волгі, абуджаецца, жмурыць супроць сонца шыбы невялікі рускі горад са спеўным, невядома як узнікшым імем — Вічуга!

Хай гадуецца здаровенек — перахаваў жа ў сабе незабыўнае, недасяжнае.

І ў душы, мусіць, бралася на дзень.

*1970*

## ЧЫРВОНАЯ КАМЯНІЦА

Ногі нездарма прывялі сюды Дземеша. Дом насупраць быў знаёмы здаўна і ненавісны яму, хоць і тады, і цяпер ён разумеў: не сам жа будынак агнюсіў сябе, прылажылі руку людзі. Але, што ні кажы, гэты дом быў вораг, каго ён асочваў некалі сем доўгіх дзён і сем яшчэ даўжэйшых начэй.

І вось цяпер, калі сыходзіў тэрмін гасцявання ў горадзе, Дземеш вырваў хвіліну пабыць на месцы свае першай адказнай турботы, першага падпольнага задання.

Якраз у гэты дзень дом меўся спыніць існаванне. Дземеш з крыху злаславай, непрыемнай самому сабе радасцю чакаў, як гэта будзе адбывацца. Варухнулася надзея: а можа?.. Можа возьме дый раскрыецца недагледжанае ў імгле і ўпоцемку тых ветраных дзён і начэй?

А пакуль што, верны сваёй заўсёднай звычцы, разгарнуў падарожны альбомчык і пачаў накідваць усё, на чым спыняліся вочы.

Разгайдаўшы на тросе чыгунную ігрушу ніштаватай вагі, кран раз-поразу шпурляў яе ў сцяну дома. Чырвоная старасвецкая цэгла і не думала паддавацца. Дом стаяў, як стаяў увесь свой немалы век, хоць быў ужо без даху, зеўраў пустымі вокнамі і праймамі дзвярэй, павыдзіраных разам з вушакамі.

Хлопец у сіняй майцы выключыў матор і сышоў па сходцах на зямлю.

— Казаў жа ім,— дакараў ён некага адсутнага, закурваючы,— было слухаць. А то рвалі, ды недарвалі. Што ж я яго — зубамі ўгрызу?

Сказаў і ўсміхнуўся, відаць, з абвыкласці сказанага. Час ідзе, зыначваюцца і меркі мацунку: дзе ўжо тым чалавечым зубам брацца за мур! Гэта даўней іхняя сіла здавалася сур'ёзнаю, ды толькі прыказка засталася на ўспамін.

— А ты лепш пастукай, любачка! — Пад рукі кранаўшчыку аднекуль, як быццам з-пад крана, вынырнуў дробнай косці, але ўхарчаваны чалавек, з выгляду брыгадзір.— Разкоў з дзесяць хаця б гупні!

— Нагупаўся, другую змену па ўсіх баках яму гупаю,— панура абазваўся кранаўшчык і палез на месца.

Вакол Дземеша сабраўся невялікі натоўп ахвотнікаў да здарэння, аднолькава радых гадзінамі вісець на мосце ў паводку ці бегчы глядзець пажару, а не трапляецца нічога цікавейшага — згодны паўзірацца, як расчышчаюць пляцы для новых забудоў. Дземешу і сапраўды было цікава: разглядаць твары добраахвотных назіральнікаў, слухаць, як бурчыць кранаўшчык і як яго ласкава ўгаворвае чалавек, што выглядае сама меней на брыгадзіра.

— Зараз гупнеш, любачка? Гупні, гупні.

Папабіваць мур давялося даўгавата, і ўсё ж кранаўшчык дамогся свайго. Глухая сцяна нібыта закрактала з натугі, зверху ўніз пазначылася крывая расколіна, і па ёй пасыпалася ручайка рудога друзу. Яшчэ ўдар, яшчэ — і ўвесь будынак, скрышыўшыся дзесьці пасярэдзіне, варухнуў сценамі, нібы ўзмахнуў рукамі на адвітанне, і пачаў аб'язджаць доле, развальваючыся ў розныя бакі.

— Быў дом — і няма дома,— пашкадаваў нехта, і людзі сталі разыходзіцца.

Дземеш азірнуўся на голас:

— Шкадуеце, як сваяка ўсё роўна.

Стары чалавек у даўгой кашулі, падпяразанай ваеннаю папругай, ахвотна адказаў:

— Чаму ж бы і не сваяк? Я каля яго верхам на кійку ездзіў,— во, здавалася, аграмадзіна! Бруку на вуліцы не было, зялёная трава расла. А гразота! Хто пакладзе каля ганка дошку, усім прахожым дабро зробіць. Каторыя гаспадары ўдоўж дошкі клалі, каторыя — упоперак, як хто...

— Нягуста,— пасміхнуўся Дземеш.

— І шкадаваць, па праўдзе сказаўшы, няма чаго,— чалавек, падобны да брыгадзіра, прылучыўся да іх.— Камянічка на два паверхі, чатыры кватэркі, а выгоды — адзін кран і прыбіральня адна на ўсіх, дый то ўнізе. Смех...

Не паспеў Дземеш здзівіцца з такой дасведчанасці, відаць, чалавеку во як замінала гэта будыніна, і ён горача адстойваў неабходнасць зносу, як думку перабіў гаваркі стары:

— Камянічка! — зняважліва передражніў ён.— Два паверхі! А вы ведаеце, што гэта за яна? Бачылі, як моцна трымала свае два паверхі? Да апошняга ўздыху, можна сказаць. Не на дзень стараліся будаваць. Дый муляры тутэйшыя ў славе былі. Вы як мастак,— ён паглядзеў на Дземешаў малюнак,— прыкмецілі гэта. Добра, схапілі хоць выраз дома перад сконам...

Стары быў, відавочна, патрыёт горада, і яму балела сэрца за лёс старасвецкіх забудоў. Чалавеку, падобнаму да брыгадзіра, давялося абазвацца больш лагодна:

— Каб на маю волю, дык і я б такіх дамоў не зачапіў...

— Дзіўна! Вы так падганялі кранаўшчыка...— Дземеш адчуў, як у ім абуджаецца цікавасць.— Вы не прараб часамі?

— Угадалі амаль: інжынер-будаўнік. Але не тутэйшы. Жыву...— Ён назваў горад за Смаленскам.— Завістовіч, Карней Сямёнавіч.

Дземеш пацісну́ў працягнутую руку і таксама назваўся.

— Не магу,— тлумачыў Завістовіч,— не магу глядзець, калі работа не клеіцца. Я ў адпачынку зараз, спецыяльна сюды прыехаў. Такое месца — пашукаць! Лес блізка, вады многа. І сёння выбіраўся за горад, пацешыцца на цёплым сонейку... А стаў каля гэтага хлапчука і прыстыў душою. Якая ў яго практыка? З рамесніцкага толькі-толькі. Падкажу, думаю...

— Знаёмствам не абцяжваю,— рухам, поўным уласнае годнасці, перапыніў стары,— проста заўважу: лёс дзеліць няроўна. Дом — у ім і жыць, і ўстановы трымаць можна было, чамусьці ўзяў адбыў, скончыўся... А вунь таго старца бачыце? Сам просіцца на дровы, ды не пускае нехта.

Дземеш павёў вачыма за яго рукою. Зусім поруч з разгалістым клёнам урастаў у зямлю касабокі дамок пад гонтамі. Не прыкмеціць яго ў розруху

будаўнічай пляцоўкі, дзе падвышаліся беласценныя шматпавярховікі, было няцяжка. Каму хочаш, але не Дземешу! Ён здалёк убачыў дах у зялёным моху, кветкі на падаконнях і ледзь не гукнуў: «Жывеш, браток?»

Гэта быў дом-друг, дом-абаронца, шмат каму даваў сход і прытулак, ваяваў, адно не адстрэльваўся.

Усе ўтрох, як змовіўшыся, перайшлі пад клён да драўлянага дома.

— Майго сябра работа,— стары паказаў на лавачку каля ганка.— Каласоўскі тут жыў да вайны, у адной школе працавалі. Нас яшчэ братамі лічылі: і ў мяне такое ж прозвішча.

Селі і маўчалі. Сама сабою прыйшла хвіліна прыгадаць: кожнаму пра сваё.

— А думаеце,— Завістовіч адрасаваўся да старога настаўніка,— доўга ўстоіць гэты дамок? Што, яго людзям жыць пакінулі? Зрабіла брыгада бытоўку сабе — прысесці перакусіць, ды трэба ж недзе пераапрануцца пасля работы.

— Дакладненька ўсё ведаеце,— пацiснуў плячыма Каласоўскі.

— Чаму ж не ведаць? Сам так прыстасоўваю, новага ж не набудуешся...

— А я думаў, вопыт у калег пераймаеце. Не першы дзень тут вас бачу.

Дземеш зірнуў на Завістовіча, той хмыкнуў і зарагатаў.

— Многа тут розных людзей ходзіць. У кожнага свой інтэрас: хто па вопыт, а хто на які матэрыялец разжыцца ў будаўнікоў...

Каласоўскі, пратэстуючы, падняў руку.

— Ды хіба я пра вас? Хадзіце на здароўе,— Завістовіч нібыта прасіў прабачэння і ўслед падколваў: — Я, праўда, не быў тут дагэтуль. Здалося вам, недабачваеце, мусіць...

— І дабачваю, і дачуваю, дарагі. Ды яшчэ маю дрэнную звычку не маўчаць, калі дзе не па маім боку. Так што ў пэўны час быў нахапаўся непрыемнасцей. Зрэшты,— Каласоўскі раптам загаварыў лагодней,— можа і лепш гэтаму дому не стаяць цяпер. Не падымаць гаркоты ў сэрцы...

— Гуманна,— Дземеш пачуў у голасе настаўніка хваляванне і памкнуўся супакоіць яго.— Гуманна не трывожыць людзей цяжкімі ўспамінамі. Але, даруйце мне, як асцерагчы свет ад новай бяды? Мусіць, памяць павінна быць у пэўнай меры жорсткай, няўмольнай, калі хочаце...

— Бясконца нагадваць, клікаць да помсты? — неяк калюча перапытаў Завістовіч.

— Я не так думаў... Адпомшчанне адбылося, можа не ўсіх дагнала, няхай. Над прахам герояў і ахвяр усталі помнікі і абеліскі. Іх падняла хваля вялікага смутку і падзякі жывых. Нас з вамі, усіх, што бачылі адсутных у твар, чулі іх галасы.

Каласоўскі ўхвальна паківаў галавою: гавары, гавары...

— А як тыя, хто прыйдзе за намі? Момант асабістага яднання — сумесныя хваляванні, любоў да загінуўшых, дружба з імі — усё гэта будзе страчана для наступнікаў. Хацелася б зрабіць такое, што ўваскрашала б вобліκі, гаворкі, не давала ім гаснуць. Каб у будучым не проста ведалі імёны і подзвігі, каб адчувалі прысутнасць адсутных блізка, як мы зараз.

— І што вы рыхтуеце чалавеку? Усе павінны насіць жалобу, чорныя павязкі на рукавах? — Завістовіч прыжмурыўся, як відаць, пераконаны ў неабвержнасці сваіх слоў.

— Не, я падумаў: вось такія дамы — гатовыя помнікі. У іх можна захаваць тое, аб чым я гаварыў.

— А я пагаджаюся з шаноўным педагогам: лепш, каб ад іх ні следу, ні знаку. Сыпаць зноў соль на раны? І так хопіць, людзі занадта ўсяго перажылі.

Як быццам не чуючы, што гаворыцца, Каласоўскі падкрэслена звярнуўся да аднаго Дземеша:

— Людзі звычайна не супроць, каб было знаць, як яны хадзілі па зямлі. Не для славы, вядома, для палёгкі другім. Бо след на след — і культура, можна лічыць, прыступка ў заўтрашні дзень. Каму рупіць ступаць без знаку, чуць што — кідаюцца зацірадь падлогу. А таго не ведаюць: у іх, як у Невідзімкі — бачылі фільм? — самога не відно, а сляды на снезе — чорныя, ланцужком...

Дземеш слухаў, пытаючы ў сябе, дзе яму даводзілася чуць гэты голас. Завістовіч нецярпліва вару-

шыўся, здавалася, больш цікавіўся, як кранаўшчык разбівае абломкі сцен на меншыя кавалкі, рыхтуючы друз да вывазкі.

— Што, карціць туды? — пасміхнуўся Каласоўскі і зараз жа загаварыў да Дземеша: — Мне да сэрца ваша думка, як звязаць учора і заўтра эмацыянальна. Шкада, няма яшчэ ў чалавецтва спосабу аднаўляць гукі. Тыя сцены нарасказвалі б шмат, каб выпадкам загаварылі. Цяпер ужо не вернеш... Гісторыю гэтага дома чулі?

Не чакаючы пацвярджэння, а Дземеша нешта ўтрымала, не прызнаўся, што ведае, ён гаварыў зноў:

— Гестапа — установа, здаецца, не патрабуе рэкамендацый,— наладзіла ў ім катавальню. Жыхароў сагналі ў гета, а сюды вазілі дапытваць свае ахвяры. Ну, і зазывалі тых, хто іх выдаў, быццам сведак розных. Гэта ўжо, калі нічога не выб'юць з чалавека, прыпіралі да сцяны вочнымі стаўкамі. Хітра прыдумана! Выйшаў нехта, пабыўшы ў гэтай пастцы, вось і разбяры, хто ён і што ён? Свой, ці выпадкова злоўлены, або самы што ні на ёсць гад печаны: прыйшоў на здраду сваімі ножкамі і гэтаксама пайшоў, зрабіўшы чорную справу. Сляды здраднікаў запарушваліся...

Каласоўскі памаўчаў, глянуў на сваіх слухачоў, нечаму зноў пасміхнуўся, хоць словы і не хінулі да ўсмешкі.

— Але,— ён зрабіў яшчэ паўзу,— дамы знікаюць, а сляды застаюцца. Вось і гэты дзядуля,— стары стаў тварам да касабокага дамочка,— хто ён? Сведка, так, сведка. Да часу, вядома, а ўсё ж застаўся. Пэўна, і з людзей нехта знойдзецца...

Гэта прагучала для Дземеша як пытанне. Каласоўскі не гаварыў проста нічога пэўнага, хадзіў увесь час поблізу ад таго, што не давала спакою Дземешавым думкам. Спытацца, сказаць пра сваю турботу?

Але не паспеў, Каласоўскі папрасіў прабачэння: сустрэча з юнымі натуралістамі, вельмі шкадуе — хораша размаўляецца.

— Будзе час і ахвота — зайдзіце,— ён назваў суседнюю вуліцу і дом.

Дземеш помніў гэты адрас, там у час вайны была падпольная кватэра, дзе яму давялося пражыць некалькі дзён.

— Пасядзім у мяне ў садку-халадку. Далажу ўсё з самага пачатку. Хто будаваў гэту камяніцу? Быў такі Грынблат. Не той, што папяровую краму трымаў, а з купцоўскага роду, жывёлай гандляваў. Каторы сп'яну ў цыганоў бугая замест каровы купіў. На памяці майго дзеда было, расказваў, увесь слуцкі рынак з рогату клаўся.

Паціскаючы руку, Каласоўскі пацікавіўся:

— Дзе што парабляеце? У нас не жылі часам?

З тым і адышоў, відавочна, здаволены, што Дземеш родам з недалёкага прыгараду, быў тут і ў вайну, вучыўся на мастака і некалькі гадоў працуе на поўдні. А прыязджаў у госці, як і кожны год, на дзень вызвалення горада.

Сядзелі, гаварылі, абы гаварыць. Раптам закранулі нячэпанае, недзе з глыбіні. Бывае ж так: трымае-трымае нешта ў сабе чалавек, не даверыць кароткаму сябру, нават у хвіліны шчырасці, а возьме ды выкладзецца перад выпадковым сустрэчным, каго, можна мець пэўнасць, бачыць першы і апошні раз.

Разгаварыўшыся каля камяніцы, Дземеш і Завістовіч вярнуліся ў гасцініцу, а разысціся не маглі. Заказалі ў нумар абед, недзе ў сярэдзіне дня, даседзелі да вячэры, потым колькі разоў турбавалі афіцыянта на дробныя выклікі.

Адзін з іх здагадваўся: ягоны суразмоўнік — не зусім тое, чым хоча здацца, дык ці няма ў ім нітачкі да звязаных з домам падзей; магчыма, выгарнуцца і ўсе яны, страшныя і крывавыя, цалкам; другі ведаў, хутчэй — скураю адчуваў: перад ім сядзіць само адпомшчанне, не размаўляе, а правіць нябачны і нячутны суд, і пайсці адсюль проста — не пойдзеш. Праўда, у гэтага адпомшчання, як і ў багіні правасуддзя, павязка на вачах. Значыць, шанс ёсць, трэба дазнацца: ці тут што ведаюць напэўна, ці толькі ходзяць вобмацкам.

Зараз гаворку выбіла на плыткае, і адзін пачаў спадзявацца — пэўна, усё абыдзецца, а другі амаль шкадаваў, чаму не завітаў у садок-халадок, на запросіны Каласоўскага: той ведае многа, трэба ўсё ж зайсці, пашукаць следу разам.

Завістовіч абіраў апельсін, старанна расхінаючы пакроеную на пялёсткі аранжавую лупіну; было дзіўнавата — плод зноўператвараўся ў кветку. Рыхлае аблічча малочна-цьмянага нездаровага колеру не выказвала больш нічога, менавіта адну гэту стараннасць, тое ж падкрэслівала і адвешаная губа. Кароткія пальцы, здавалася б, нязграбныя, завіхаліся ў зайздросным спрыце, хоць пазногці на іх былі не як ва ўсіх людзей, а парасплескваныя, нібыта іх пераехалі колам ці патрымалі ў цісках на варштаце. Гэта зусім не замінала пальцам падчэпліваць і абдзіраць з мякаці плада белыя валаконцы, усе да аднаго.

Дземеш адзначыў у памяці: губу адвешваюць добрыя, бязвольныя людзі. А вось расплесканых пазногцяў, прыкмета вучыць, сцеражыся — чалавек благі. І малыя безудзельныя вочкі, на якія чамусьці кажуць — свіныя, былі мітуслівыя, не знаходзілі ўпынку, глядзелі міма, за акно.

Уласнік іх адлажыў на талерку ачышчаны апельсін і зноў, каторы ўжо раз за вечар, правёў рукою па шчацэ.

— Паслухаў вас, не пайшоў у цырульню...

— Зноў упікаеце? — Гэта частае агладжванне твару раздражняла Дземеша.— Кажыце лепш проста: надакучыла, хочацца ўцячы. Або прыдумайце іншую зачэпку...

— Нікуды я не збіраюся, кепска адчуваю сябе: калі на твары лішняе, быццам не мыўся. Гэта такая дакука, каб вы ведалі: пагалю адну шчаку, не паспею ўправіцца з другою, мац — тая ўжо гатова́, абрасла.

— Вам бы ў цырульню перабрацца на жыццё.

— Ну! Каб не свае рукі, не хапіла б часу на работу. Галюся небяспечнай, рана і ўвечары. А як госці надарацца, дык і ўсе тры разы скрабуся.

— Шанцуе, значыць. Я недзе чытаў, нібыта так гоніць волас ва ўдачлівых.

— Якая ў мяне ўдача! Не галодны, жонка на сябе зарабляе. Праўда, агораў у дачным пасёлку будачку. Гэта яшчэ тое-сёе ў дом: рамачка мёду, кошык яблыкаў. За колькі год раз толькі ў адпачынак выбраўся! Вось і ўсяе ўдачы: цікавы горад наведаў, спачыў...

Гаворка канчаткова села на меліну. Маўчаць Завістовічу, мусібыць, было яшчэ горш, і ён вярнуўся на плынь ранішняй сустрэчы ўтраіх, не прадчуваючы, чаго гэта можа каштаваць.

— Вы казалі там на старыя дамы — гатовыя помнікі. Напакідаем такіх катушкоў, у вуліцы твару не будзе... Як будавацца?

— А так: высотны прыгажун і поруч даўнейшы гаротнік. Учора і сёння, радасць і гора.

— Вы фантазёр, дарагі мастак!

— Чаму? Паспрабуйце ў камяніцы, якую мы з вамі сёння хавалі, узнавіць, як жылі людзі і што вытваралі ў іхнім жытле нелюдзі. І адзін пакой, апошні, засяліць дакументамі, толькі фота і вытрымкамі з дакументаў: сапраўдных загадаў, пратаколаў. Хай іграе ціхая музыка, наведвальнікі паволі ідуць і чытаюць. На адной сцяне — імёны патрыётаў, што рабілі да вайны, чаму навучыліся ў вайну, каб не быць пад ворагам... І на каторым гадку ў іх адабралі жыццё...

— Яшчэ адна анкета.

— Няхай сабе. Але з яе відаць будзе мужнасць. Жыла, скажам, дзяўчынка, рыхтавала далікатныя тканкі пад мікраскоп, таямніцу бялка разгадвала. А давялося — не разважала, не задумвалася! — пацягнула тол на чыгуначную насыпу. І не войкнула, калі яе разарвалі, прывязаўшы да дзвюх зялёных бярэзін...

— Задума — шырокая...

Не даслухаўшы, Дземеш падхваціўся з месца, амаль прабег па пакоі і стаў насупраць Завістовіча:

— А на другой сцяне... Другая сцяна ў гэтым пакоі павінна быць чорная: спіс злачынстваў і злачынцаў, катаў і здраднікаў. Таксама падрабязны. Каб усе ведалі, каго праклінаць, з якога боку можа прыляцець іскра і куля.

— Баюся за вас,— Завістовіч не хаваў усмеш-

кі.— Паветраныя замкі. Дый ці не пахне гэта ўвекавечаннем здрады.

— Ніяк. Толькі ганьбаваннем яе. А значыць, і вынішчэннем. Раз і назаўсёды. Вось чаму я не спяшаўся б выгладжваць зямлю ад руін.

— Бывае, бывае... Часамі і з-пад руін нешта выблісне...

Насупраць на сцяне муляла вочы звычайная аздоба нумароў і фае, дрэнная копія з добрай карціны.

Дземеш глядзеў перад сабою і чакаў: гавары!

— Ну, скажам, трапіцца гарнушак з фамільнымі каштоўнасцямі або скрутак папер...

— А знайдзіся паперы з таго дома,— падкрэсліў Дземеш,— вам было б цікава?

Завістовіч падняў вочы, нібыта здзівіўся, але збянтэжанне яго не здоўжылася.

— Было б! А раптам — тайнік, весткі пра невядомы подзвіг — і новы герой. Ты быў пры гэтым, вось і сам быццам прычыніўся да нечага вялікага.

Ён адпіў віна, пасмактаў дольку апельсіна. Дземешу кінулася ў вочы, як трымае свой бакал яго суразмоўнік: схапіў за тонкае горлейка і нібыта пачаў душыць моцнымі пляскатымі пальцамі. Завістовіч перахапіў позірк, мусіць, адгадаў, што падумалася, бо паставіў бакал на сурвэтку.

— І гарнушак знайсці не пашкодзіла б,— пафаснае адценне ў яго голасе змянілася на больш простае і цёплае.— Мне паспелі расказаць тут: халупы ламалі на беразе ракі. Сцены ўжо ляжалі, экскаваторшчык печы разбіваў. Ляснуў па адной, а адтуль — залатыя манеты... Цэлы ручай!

Захапленне Завістовіча было амаль дзіцячае і выклікала дзіўны давер да гэтых яго слоў.

— Не наша з вамі ўдача,— у тон апавядальніку нібы пашкадаваў Дземеш.

— І не яго. Не таго, што знайшоў.

— Не адзначылі за находку? — Дземеш зрабіў выгляд, што не зразумеў.

— Не адзін ён там быў.

— А-а! — нарэшце здагадаўся Дземеш: — Не ўдалося нічога адхаваць.

Сказаў і пашкадаваў: няхай бы выгаворваўся!

Зрэшты, шкадаваў не адзін ён: «Лішняе гаворыш, лішняе!» — прытрымаў сябе за руку Завістовіч. І рэзка павярнуў:

— Якое там адхаваць! Узнагароду давялося дзяліць паміж некалькімі. Нашто так адразу — прысвоіць! Скарб не меў навуковай каштоўнасці, нават у газетах не напісалі. А можа дзе і прыліп да рук. Але,— ён ужо здаваўся абыякавым да магчымасці раптоўна забагацець,— у лёгкіх грошай быстрыя ногі.

— Гавораць і па-другому: лёгкія грошы — чорныя плямы...

Вочкі суразмоўніка на момант зрабіліся вострымі, пракалолі Дземеша і зараз жа сталі па-старому вадзяністымі і дабрадушлівымі, а голас набыў некаторую ваяўнічасць.

— Наогул, ведаеце: уся гэта старызна, колішнія пабудовы, шум вакол іх — марная валавода, па-мойму. Зачапі якія-небудзь чарапкі — бяды не абярэшся. Не да гэтага мяне хіліць. Шкло, бетон. Лёгкія канструкцыі, шырокія вокны, святло, паветра, будынкі — сучасныя ў поўным сэнсе слова.

— Без архітэктурных надмернасцей?

Завістовіч пачуў іронію: гэтым кідком у другі бок ён не паправіў становішча.

— Пасміхайцеся на здароўе! Што мне рабіць, прыгожыя словы не па маёй часці.

Але Дземеш як быццам нічога не заўважыў і нават падтрымаў яго:

— Мне таксама больш да душы дамы, якія мы пакінем пасля сябе. Праўда, часам здараецца дзіўнае: думку ніяк не адарвеш ад руін. Магчыма, тут вінавата адна гісторыя. Справа адбывалася ў гэтым горадзе і пакуль пахавана пад руінамі. На тым месцы хутка пабудуюцца, пачнуць жыць людзі...

— І вось вам — пачатак новай гісторыі.

— Але не канец старой. Нехта адчуе добры неспакой пошуку, і праменьчык прыгаслых дзей выб'ецца напаверх, пасвеціць. І стануць відны тыя, каго няма, тыя, праз каго іх няма. Невідзімка стане відочным, настаўнік праўду гаварыў раніцаю: след ёсць, абы толькі ўспасці на яго...

Мне расказвалі...

...Хлопец Мікола ляжаў на гарышчы трэція суткі. Клопат у яго быў адзін: назіраць за чырвонай камяніцай насупраць. Глядзець у шчылінку паміж гонцінамі і не спускаць вачэй. Асабліва з аднаго акна: калі там запальваюць электрычнасць і калі гасяць, хто паказваецца, хай сабе цень, трэба запомніць чый — цывільнага чалавека ці ў форме, а можа і жаночы.

За ўвесь час святло гасла ўсяго тры разы — хлопец засякаў калі, на гэта ён меў адмысловы гадзіннік — а палове пятай удзень, у тую ж гадзіну ноччу і роўна а палове пятай назаўтра вечарам. Калі лямпа запальвалася, было відаць, як пакалыхваецца фіранка: напэўна, у пакоі адчынялі і зачынялі дзверы, затым акно наглуха завешвалі маскіровачнымі шторамі.

Звычайна пасля гэтага з пад'езду выходзілі два гестапаўцы, сядалі на матацыклы і ад'язджалі. Следам прыходзілі другія два матацыклы, аднойчы здарылася — не з двума, а з трыма чалавекамі. Трэці, цывільны, не варушыўся, пакуль гестапаўцы не пасталі паабапал каляскі,— няйначай чакаў загаду. А калі вылез і пайшоў, па тым, як перастаўляе ногі, было відаць: не сам ідзе чалавек, яго вядуць. Усе трое схаваліся ў пад'ездзе, і зараз жа акно асвятлілася.

Дом, дзе пільнаваў хлопец, быў пакінуты і, як думалі немцы, пусты. Такіх дамоў можа з дзесятак раскідалася вакол узятай пад нагляд камяніцы. У адным з іх, ледзь не ў кіпцюрах ворага, падполле наладзіла яўку і назіральны пункт: так дыктавалі дзёрзкасць і цвярозы разлік — поблізу ад сябе не гэтак будуць трэсці.

Халупку выбралі самую незайздросную, затое яна выходзіла плячыма на суседнюю вуліцу і адтуль таксама мела ход, як часта рабілася ў яўрэйскіх дамах: гаспадары хадзілі да сябе праз адны дзверы, а пакупцы — праз другія, прарэзаныя ў процілеглай сцяне.

Такім чынам непрыкметна правялі на гарышча дазорцу, пракраўся да яго і сувязны; выслухаўшы здабытыя весткі, падзякаваў: шапянуў: «Мацуйся!» — і знік.

За што яму дзякуюць? Ён амаль нічога не падгледзеў, дый таго не было б, каб не рысіныя хлапечыя вочы: віднага часу ў студзені вобмаль, і месяц паказваўся рэдка, дапамагала толькі неасцярожнасць саміх немцаў — вольна абыходзіліся са святлом.

Нашто трэба ведаць усе дробязі пра дом, хлопцу не сказалі. Па юначай схільнасці да прыгод, ён меркаваў так: рыхтуецца напад, некага будуць вызучаць, адбіваць са зброяй.

У сапраўднасці было многа прасцей і ў той самы час танчэй. Падполле прыглядалася да людзей, каму не зусім давала веры, спраўджвала, ці заўсёды бываюць там, дзе гавораць, а ці не мае іхняя адсутнасць дома і на рабоце сувязі з наведваннем чырвонай камяніцы або іншай акупанцкай установы. А яшчэ патрабавалі пацвярджэння весткі, што светлавы сігнал з акна падаецца камусьці з важных патайных агентаў, каго не хочуць страціць, баяцца паказаць, а таму папярэджваюць: прыходзь, патрэбен, шлях вольны.

Хлопец вывучыў на памяць увесь распарадак, па якім ішло жыццё камянічкі: калі там елі — прыязджала машына з тэрмасамі ежы; калі там пілі — адчыняліся форткі ў вокнах, праз іх валіў цыгарэтны дым; калі там білі — форткі зачыняліся наглуха, зацягваліся фіранкі і шторы, але крык, лаянка, жаласныя енкі ўсё роўна даляталі да гарышча.

Перад гэтым да камяніцы бязгучна падыходзіла машына з брызентовай будай, выкіроўвала зад усутыч да ўваходу, з двух бакоў выстройваўся канвой, і разгледзець, каго і колькі прывезлі, не ўдавалася. Аднаго разу толькі канваснікі стаялі, шырока парасстаўляўшы боты, і хлопец палічыў: у калідор пратупала тры пары босых ног і адна абутая. Машына чакала па дзве, па тры гадзіны, як калі, потым у тым самым парадку, што і пры высадцы, забірала чалавечы груз і праз пэўны час вярталася.

Катавальня працавала на поўны ход. Немцы, сталыя жыхары камяніцы, зусім не паказваліся на паветра, і хлопец здагадаўся: для сувязі трымалі зменных матацыклістаў, а рабілі перадых у сваёй

крывавай рабоце на сон і глыток шнапсу, час гэты таксама быў засечаны ў хлопца.

Мікола быў высокі, бялявы і пасля нядаўняга запалення лёгкіх вельмі худы. Папраўляцца не было на чым, і праз гэта ён страшэнна мёрз. Ніяк не мог умудрыцца захінуць калені ліхенькім паўкажушкам, праз гэта ўвесь час даводзілася падкурчваць ногі. Растоптаныя чаравікі, колькі ні навертаў газет, таксама не трымалі цяпла.

Пакуль абцерпеўся, моцна адубеў і ў першую ж паўднёўку свае варты знайшоў ратунак. Назгрэбаў пад сябе кудзелі і кастрыцы, якімі запаслівы гаспадар ацяпліў столь, прабраў лагво і лёг, а кажушок зняў і накрыўся ім увесь.

У нары холад даставаў слабей, затое няўпынна напамінаў пра сябе голад. Справа была па новым годзе, увесь снежань Мікола прахварэў. Цяпер дзень стаў даўжэйшы, але хапала і ночы, а калі пад ранне прыхватвала марозам, есці хацелася яшчэ горш.

Мікола не наракаў, чаму сюды паслалі яго, не зусім яшчэ акрыяўшага; у атрадзе хапала дужэйшых і больш спрытных, яны не раз ужо хадзілі паўз смерць зняважліва і бесклапотна. Хлопец вельмі ганарыўся сваім даручэннем: яго ж выбралі, не каго іншага. Перакінулі ў горад, трымалі некалькі дзён употайку — еш, спі, нікуды не выходзь! — потым павялі некуды на ўскраіну.

Там з ім гаварыў чалавек у благенькай ватоўцы, з ніцяным шалікам на шыі. Здаваўся ён вельмі добрым — такі ўжо вясковы настаўнік, змораны, знясілены пасля шумнага школьнага дня. Аднак па адным тым, як слухалі яго камандзір іхняга атрада і яшчэ трое незнаёмых, слухалі і разумелі кожны яго позірк і рух, Мікола здагадаўся: вось дзе галава ўсяму падполлю!

«Табе — вера, на цябе і ўся надзея!» — Мікола ўспамінаў гэтае падбадзёрванне галоўнага падпольшчыка і сапраўды падбадзёрваўся, цяплей рабілася адседжваць варту на гарышчы.

Не разумеў толькі, навошта спатрэбілася таму чалавеку разглядаць і перабіраць партызанскія лісткі, што выпускаў у атрадзе Мікола. Як умеў, аздабляў заметкі малюнкамі лесу, лагернай стаянкі,

замалёўкамі партызанаў і шаржамі на іх. Лясныя яго сябры дабрадушліва рагаталі з саміх сябе, перанесеных Міколам на паперу з перайначанымі рысамі твару, не па-звычайнаму апранутых, а то і зусім без нічога, з павялічанымі насамі і вушамі, што ніяк не шкодзіла, а нават больш узмацняла падабенства. Усміхаліся з Міколавага малявання і на падпольнай кватэры.

Вось што, уласна кажучы, вызначыла выбар дазорцы на гарышча: хлопец мог багата захапіць у вока і меў талент у руцэ — убачанае жыло на паперы.

Мікола дагрыз апошні сухар. Калі ўвечары не прыйдзе змена, можна адыходзіць самому: ключы — у яго, паведамлены гадзіны — калі, паміж двума праходамі патрулёў.

Але хіба ж тут кранешся — самае ж галоўнае не выканана. Яму наказана запомніць кожнага цывільнага, хто зойдзе ў камяніцу без канвою: усё да апошняй дробязі, каб не толькі ён сам, а і нехта іншы паслухаў, сеў ды ўзяў і намаляваў прыкмечаную ім асобу.

І можа не гэтак зважаць на тых, што ідуць туды, бо не ўсе яны вярталіся, як не прапусціць без увагі нікога, хто будзе вольна ісці назад.

Міколу далі прыкметы, нават паказалі фатаграфію: малады лупаты мужчына з каршаковым носам на дробным твары — ці не з'явіцца часам такі. Расказалі, як выглядае, у чым ходзіць і ўсё, што ведалі пра яго: якія меў звычкі, дзе рабіў, на чым рос і гадаваўся. Адным словам, глядзі, падпільнуй, усё дадзена ў рукі.

Імя лупатага — Хведзька, а заадно і прозвішча — Астаховіч — напвёрда забыліся. За іх уласнікам равеснікі і старэйшыя замацавалі мянушку — Смурод, якая паказвала яго нібыта ў прысценным люстры, усяго, з галавы да пят, а сама больш — з вантроб, бо таго, што называюць сэрцам і душою, у Хведзькавым маленстве — шукай, не дашукаешся.

Мянушка пацягнулася за ім ад уласнае маці, а ўмацавалася ў школе. Хведзька атрымаў ад бацькі ў спадчыну скнарлівасць. Не было выпадку, каб ён падзяліўся з таварышам па школьнай лаве яблыкам

або кавалкам блінца з хатняга снедання. Хіба што хто даваў спісаць задачку ці дапамагаў зрабіць зададзенае на дом заданне.

Звычайна ён усё нешта мяняў, і абавязкова з выгадай для сябе. Цягаў у ранцы цэлы склад прыдатнай для выменьвання непатрэбшчыны: іржавыя пёры, царскай чаканкі медзякі, гузікі, падкоўкі для ботаў і нават конскія.

Калі Хведзька не проста бег у настаўніцкую заявіць, хто выціснуў шыбу, дурэючы на перамене, дык выгароджваў сябе вельмі празрыста, толькі што не паказваў пальцам на вінаватых. Хлапечымі забавамі — паскакаць у чахарду на лузе, пагуляць у мячыка — грэбаваў, стараўся абмінуць і ў вольны час сядзеў з вудаю на рэчцы. Рыбы ў двор не прыносіў, спродваў дачнікам і адразу на беразе менш удачлівым рыбаловам, каму не хацелася свяціць вачыма, вяртацца з пустымі рукамі.

Маці аднойчы сабралася ўсмажыць яго ўлоў на вячэру. Хведзька падумаў і запрасіў не паўрубля, а сорак капеек за нізачку — і сам жа будзе есці. Маці перапытала — пэўна, жартуе. Не, у сына быў зусім сур'ёзны твар: па сорак. І мусіла плаціць, не мела чым пачаставаць госцю — кума якраз прыехала. Хліпнула носам: «І я цябе, падлу, нарадзіла. Расце горшы смурод за бацьку». А з таго смяяліся, нібыта путае пчол, каб не ляцелі пераносіць пылок на чужую грэчку: і на сваім полі мёду хоць заліся, казаў.

Яшчэ смяшнейшае пераказвалі! Нехта з суседзяў хацеў павыганяць з град мурашак і накідаў на паточаным смярдзючага селядца кавалкамі. Дык Хведзькаў бацька ўсё чыста сабраў, падварыў селядца з кменам і кропам, еў сам і ўчаставаў за чаркаю суседа, таго самага, на чыім агародзе прыдабыў такую важнецкую закуску.

Пасля школы Хведзька хацеў вучыцца далей — не паступіў раз, не паступіў налета, а трэці раз і не спрабаваў. Не вяртацца ж дамоў — сорамна! Зачапіўся за работу ў абласным горадзе, і там з яго быццам нацешыцца не маглі. Які ён стаў сапраўды — пагоршаў ці палепшаў — да мястэчка не даходзіла.

Прыязджаў, праўда, на пабыўку, і тут яму паспагадалі: бацька адыграўся на сыне, не забыў прададзенай некалі рыбы. Лупіў за кватэру і харчаванне, як з дачніка, і нават лодкі пакатаць дзяўчыну на рэчцы дарма не даў: грошы зарабляеш, плаці па гадзінах, а хочаш дзешавей — купі. І прадаў! Старэнькую цякучую пасудзіну, даўно спісаную на лодачнай станцыі, чым і дапамог нашчадку пакарыць дзявочае сэрца.

У першы дзень вайны Хведзька нібы тут і быў, прыскочыў пад сваю страху — якая б яна там ні была, а ўсё ж бацькава. Пад'еў, адпачыў, а ўвечары пацягнуўся па хатах і ўсюды прасіў пазычыць пяць рублёў. «Хто гэта будзе пазычаць такою парою,— казалі яму,— усё роўна за табою прападзе».— «Хіба што мяне заб'юць, тады выбачай».— «А калі мяне заб'юць?» — цікавіўся сусед. «Ну, тады табе і грошы не спатрэбяцца».

І так і так выходзіла — Хведзька застаецца ў выйгрышы. Людзі слухалі яго, грошай не давалі, самі ж больш маўчалі, лічачы, што ніякія пазыкі яму не ў галаве, шукае зачэпкі вынюхаць, хто чым дыхае, вось і ўсё.

Калі да мястэчка дакаціліся немцы і пачалі набіраць мясцовых у паліцыю, ніхто не палічыў бы за дзіва, каб і Хведзька, каго і дарослага дражнілі той самай не дужа прыстойнай мянушкай Смурод, начапіў на руку паліцэйскую павязку.

Гэтага, аднак, не здарылася. Хведзька корпаўся на бацькавай сядзібе, нікуды не вылазіў, жыў, як жылі тады, унурыўшы галаву ў плечы. Потым, зусім неспадзявана, пачаў закідаць па слоўцу перад бліжэйшымі знаёмымі — маўляў, пара нешта рабіць. Але яму не верылі і баяліся гаварыць, што думаюць. Хведзька гарачыўся, абзываў тых людзей баязліўцамі і казаў: каб яму не далі браку па вушах — на гэта меў выпраўленую ў ваенкамаце паперку,— дык ваяваў бы на фронце і, пэўна, ужо заслужыў бы цэлую грудзіну ардэнаў.

Не атрымаўшы падпоры свайму шуканню, з мястэчка сышоў і намацаў дарогу да партызанаў сам.

Неўзабаве пайшла пашапотка пра яго вялікую адважнасць. Хведзьку бачылі пры налёце на гарні-

зон у суседняй з мястэчкам вёсцы, а потым гарэла чыгуначная станцыя, і там, казалі, без яго не абышлося. У атрадзе быў не чужы і не лішні, небяспечных спраў не цураўся, ні за чые плечы не хаваўся і раз быў прывалок з разведчыкамі тылавога нямецкага чына, запыніўшы яго машыну на шашы.

Так да Хведзькі вярнулася ўласнае імя, яго сталі зваць па прозвішчы — Астаховіч, а пра мянушку і зусім не ўспаміналі.

Усё ішло гладка і хораша, калі б пры пераходзе на зімовую базу атрад не наскочыў на карнікаў і паліцаяў. У часе бою партызаны не паспелі падабраць параненых. Хведзьку і яшчэ дваіх паліцэйскія прыцягнулі ў вёску і замкнулі ў старастаў свіран. Пачаліся допыты; адзін, слабейшы, не вытрываў і сканаў, а Хведзька з таварышам падкапаліся пад падрубу. Пратуляўшыся ■ тыдзень па лесе ў пошуках сваіх, агаладалыя і ахаладалыя ўцекачы ледзь жывыя дапаўзлі да атрадных буданоў.

Гэтак расказваў Хведзька Астаховіч камандзіру атрада і ўсім, хто хацеў слухаць, тое самае паўтараў і другі ўцякач. Іх шкадавалі, аддавалі лепшае ■ харчоў, стараліся хутчэй падлячыць і паднялі-такі на ногі.

Далей — болей. Астаховіча як чалавека выпрабаванага, да таго ж былога гарадскога жыхара, паставілі на сувязь з падполлем у горадзе, а крыху пазней і наогул пакінулі там.

Як і адкуль пацягнулася на Астаховіча падазрэнне, Міколу не гаварылі; ён ведаў толькі — падполле цярпела правалы: нехта спадцішка папярэджваў немцаў, чаго і дзе ім сцерагчыся. Захады і аперацыі зрываліся, а іх выканаўцаў знянацку гестапа забірала дома напярэдадні ці хапала за руку, падпільнаваўшы на гарачым.

Мікола перабраў у думках усе падрабязнасці расказанага пра Астаховіча. Найбольш важнае для яго зараз — прыкметы: невысокі, шчуплы, паліто з сіняга драпу, шапка чорная зімовая, стаўбуном. Рэшту вестак можна было і адкінуць, але яны нейкім чынам дапаўнялі знешні выгляд якасцямі ўнутранымі, складаўся больш-менш цэльны маральны партрэт. Ды які там цэльны! — падлавіў сам

сябе Мікола: агіднае маленства і геройскія паводзіны ў партызанах. Ну, не: гэта глупства! Хіба толькі ў казках брыдкія качаняты ператвараюцца ў белых прыгажуноў лебедзяў! А ці мала ён ведае выпадкаў, праўда, и кніг, як з добрапрыстойных, таварыскіх, адважных падлеткаў выраслі падлюкі, забойцы, а то і здраднікі. Усяго і ўсіх адной меркай не памераеш. У Астаховіча адны ўцёкі и палону чаго варты. «Уцёкі»,— паўтарыў Мікола і задумаўся: а ці да канца высветлены гэтыя ўцёкі? Усё ж такі быў у руках у немцаў. Ну і што з таго, што быў? Ён жа вярнуўся які, з куляй у лытцы, ледзь духі пераводзіў. Так чапляючыся, чаго добрага, і роднага бацьку ў здраднікі ўпішаш. Але ж падполле сумняваецца, значыць, мае падставы. І ён, Мікола, павінен зважаць ды зважаць.

Хлопец выклікаў на вочы партрэт Хведзькі, складзены з самых горшых рыс, якія пачуў пра яго, і набраўся такое злосці, што быў гатоў хоць паўгода мерзнуць на гарышчы, абы дазнацца праўды.

На тыя хлопцавы развагі ў акне камяніцы запалілася лямпа, праменне прарэзала чорны могільнік руін, як быццам падміргнуўшы некаму.

Мікола глянуў на гадзіннік: цыферблат высветліў лічбы — стрэлкі паказвалі акурат палову на пятую.

У палосу святла з акна ўвайшоў са змроку шчуплы маленькі чалавек у шапцы стаўбуном, твар яго быў ухінуты ў каўнер цёмнага паліто, колеру разгледзець не ўдалося. Постаць слізганулася па светлым і крыху памалей рушыла каля заценяванай сцяны. Агледзеўшыся наўкруга, чалавек шмыгануў у пад'езд камяніцы.

— Хопіць! Збірайся на адыход! — знаёмы сувязны дыхнуў парай за плячыма ў Міколы.

Той і галавы не павярнуў.

— Ён! — перарывіста шаптаў хлопец, не адрываючыся ад шчыліны.— Ён! Толькі што заскочыў. Як вы расказвалі: хірлявы, малы і шапка стаўбуном...

— Ідзі, вазьмі за сабою дзверы на завалу і ідзі. Я дагледжу сам.

— Дазвольце застацца,— Мікола не ведаў, як звярнуцца,— дзядзечка... Таварыш-дзядзечка... Вы

сабе папільнуйце шчыліны, але хвілінку. Я засну, адну кропельку.

— А ты нічога яшчэ не праспаў? — сухавата спытаў сувязны.

Спаць! Кроў ударыла Міколу ў галаву. А дзе ж яго камсамольскае сумленне? Якімі вачыма ён гляне на тых, хто даверыў яму першае заданне? Не справіўся, значыць, усё! Нікуды не варты, не здолен да барацьбы. Спаць хацелася, нічога не скажаш. Вось вы самі паспрабуйце заснуць у такім холадзе, ды калі яшчэ і ў жываце бурчыць.

— Не ўсходжвайся, не дзяўчынка.

Чалавек слухаў прыхільна, але найбольш пераканалі яго апошнія доказы, хоць Міколу і не вельмі хацелася ўспамінаць пра пусты жывот.

— Добра,— усё ўзважыўшы, сказаў сувязны.— Няхай па-твойму будзе. От з'еш, можа бульба не астыла, ну, і прыдрамаць можна...

Мікола застаўся на суткі, потым яшчэ на адны, зараз канчаліся трэція. Той, каго чакалі, хто зайшоў у камяніцу, ці не выходзіў, ці выпарыўся праз комін, растаў у паветры. Затрымалі, вывезлі ў машыне пад канвоем? Схітравалі або не выпусцяць зусім? Мікола не мог дабраць ладу, здагадкі разломвалі галаву.

Бралася на раніцу, сёмую ўжо з таго часу, як ён засеў на гарышчы. З пад'езду, так жа лёгка, пасоўваючыся, як цень, выскачыў чалавек у шапцы стаўбунком. Насупраць яму на двор уз'ехалі матацыклісты, пярэдні рэзка затармазіў, ледзь не наехаўшы на постаць, і ўключыў фару. Святло асляпіла чалавека, ён стаў, павярнуўся перадам да Міколы, і той убачыў твар пажылога чалавека, густа зарослы чорна-сіняй барадою.

Магчымасць аглядаць цягнулася адно імгненне, фара пагасла, але Міколу было даволі, каб перажыць горкае расчараванне — не той! Ніякага падабенства з фатаграфіяй і з слоўнымі апісаннямі. Не той!

...Шклянка ўпала са стала і пабілася, звонкія асколкі распырснуліся ва ўсе бакі.

Даўнія малюнкі раптам пакінулі Дземеша, ён як быццам абудзіўся. На крэсле насупраць нікога не

было. Падняўся, агледзеў пакой. За сталом на каленях стаяў Завістовіч, пальцы з пляскатымі пазногцямі, падрыгваючы, намацвалі дробныя аскепкі шкла і кідалі іх на далонь.

— Наколькі я разумею,— ён не падымаў вачэй ад падлогі,— на гарышчы былі вы?

Дземеш памаўчаў:

— Таго, што зайшоў і доўга не выходзіў з камяніцы, я шукаю дасюль. І мне пачало здавацца, што гэта — вы...

На ранішнім промні праз адчыненае акно ўляцела тапалінах пушына, электрычнае святло адразу стала слабое і непатрэбнае.

Дземеш узяўся за выключальнік.

— Пагасім?

Завістовіч паволі ўставаў на ногі. Што зрабіла з ім раніца! Сыценькі, старанна выгалены твар яго стаў цёмны, нават сіняваты ад кустамі паадскокваўшай барады.

«Каб гэтак абрасці за адну ноч! — пасміхнуўся сам сабе Дземеш.— Нездарма ўсё рваўся ў цырульню. А яшчэ гавораць, быццам нікому не ўдалося падсачыць, як расце трава. Тут мудрэй — барада... І за адну ноч...»

Гэта было апошняе, што ён падумаў з усмешкай. Тым жа шляхам, з-за адкінутай гардзіны, заляцела некалькі пушынак, цэлы камячок. Шумнуў вецер, прыгнаў новы камячок, за ім яшчэ адзін, потым пачаў гнаць усё часцей і часцей. Ужо, здаецца, стаў повен пакой, а яны ўсё ляцелі і ляцелі, без меры, без ліку. Кружыліся ў падсвежаным прахалодаю паветры і асядалі на сцены, на абрус, на ложак, на аблічча абросшага чорна-сінім шчаціннем чалавека.

Дземеш убачыў агнём і бамбёжкай складзены ў руіны горад і над ім у даўкім ад гарэлага паветры — шызыя ахлопкі недатлеўшага попелу папер,ануч, чалавечага гора. Убачыў і пазнаў таго, каго столькі чакаў і расшукваў, каго зараз суткі пазнаваў і, баючыся памылкі, гнаў прэч згадкі падабенства з даўняй фатаграфіяй, шукаў доказаў неабвержных, права пазнаць і не памыліцца.

— Астаховіч! — як не ў сабе крыкнуў Дземеш.

— Я! — абазваўся той ад нечаканасці і адразу згорбіўся, угнуў плечы, паменшаў.

— Хведзька? Смурод?

Астаховіч зноў абваліўся на падлогу.

— Дайце, дайце мне пайсці адсюль. Акуплю, адмалю ўсім жыццём. Даруйце! Вы ніколі нічога не пачуеце пра мяне.

Дземеш адступаўся да сцяны, узрушаны і абураны, каб не дакрануўся хаця, а Астаховіч гнуўся і даставаў рукамі яго чаравікі.

— Адпусціце мяне, даруйце... Ужо ж мяне не асудзіць ніякі суд... За даўнасцю... Але сын жа расце, сын... Дзеля яго, дзеля гэтай цудоўнай раніцы... Зірніце!

Дземеш павярнуўся да акна, і ў той самы момант, як падкінуты спружынай, перахапіў паднятае над яго галавою крэсла. Моцна тузануў за ножку на сябе, вырваў з рук у Астаховіча і цяжка пайшоў проста на яго.

Астаховіч падаўся ў дзверы, скеміў, што не праверцца, тады ён ускочыў на стол, са стала на падаконне, перахіліўся, каб глянуць, ці высока, не утрымаў раўнавагі і, прарэзліва завішчаўшы, рынуўся ўніз.

Цішыня неабуджанага рання данесла з вуліцы гук глухога ўдару, акурат як у млыне: сарвецца з ланцуга мех мукі, пляснецца вобземлю і лопне.

Дземеш стаяў каля акна і збіраўся з сілаю, нарэшце вызірнуў. На асфальце чарпела пляма, да яе ўжо ішлі і беглі з усіх бакоў.

Наліў у бакал віна, паднёс да вуснаў, але стрымаўся: можа паблытаў пасудак, а піць з аднаго — не! І так хапіла: вітаўся за руку, знаёмячыся, чокаўся.

Пачуццё незвычайнай гідлівасці апанавала Дземеша. Адчыніў ванны пакой, распрануўся і стаў пад душ. Потым пагаліўся, уставіўшы ў тронкі новае лязо.

Можна было ісці. Надзеў капялюш, перакінуў цераз руку плашч, і тут у дзверы пастукалі.

— Не замкнёна!

На парозе стаялі два чалавекі ў цывільнай вопратцы.

— Выбачайце, вы былі тут адзін?

— І так, і не,— пасміхнуўся Дземеш.— У вас ёсць усе падставы задаваць мне пытанні. Я ішоў адказваць на іх сам.

— Будзем адказваць разам,— за плячыма дваіх Дземеш адразу не заўважыў Каласоўскага.— І кранаўшчык з будоўлі. Ён бачыў. Калі тое, што там ляжыць, магло хадзіць, дык употай выстуквала сцены ў тым доме. Але не яму давялося знайсці схаванае. Мікола! — гукнуў Каласоўскі.— Мікола! Бяры ножны, абстрыгай маю сівую бараду і пазнавай, Мікола! Хто гэта ў мяне прасіўся адну кропельку паспаць?

*1973*

## ЛІСТЫ ХАРУЖАЙ

Летні прыцемак у Варшаве. Літаратурны вечар закончыўся, а гаворка плыве сабе пацiху. Падышлі муж і жонка, старыя польскія камуністы, яны бачылі наш фільм «Чырвонае лісце». Упадабалі, але не з усім пагадзіліся і зараз па-добраму трывожацца: зноў стужка пра Заходнюю Беларусь, пра падпольшчыкаў? Цікава! І Вера Харужая ўзята за прататып? Тады яны ахвотна падзеляцца ўсім, што ведаюць.

...Яна з'явілася ў іх як быццам адразу ўсюды: у Вільні, у Гродне, у Беластоку. Там і сустрэчы былі. Слухалі яе, «агітатара з божай ласкі», набіраліся духу маладосці. Куды ні трапіць, скрозь свая. Сапраўды! Збіраўся патайна камсамольскі камітэт. Людзі сноўдаліся па ўскраіне лесу, не знаходзілі месца. Вера глянула з-пад брывей: «Чаго вы топчацеся, як старыя дзяды? А ну, згуляем у гарэлкі!» І ўсе адчулі: ім жа толькі — каму семнаццаць, каму — васемнаццаць... На якое ліха натапырваць пер'е сталасці!

Весялосць весялосцю, а калі трэба, Вера ўмела цвяроза разважыць: што сказаць, дзе выбраць надзейную кватэру, як адчапіцца ад пільнага вока шпіцляў. Размаўляла ў краме, як прыроджаная варшавянка, з бляскам, а купляла толькі кавалак хлеба — усяго тых грошай было.

Чаго-чаго ні траплялася! Небяспекі — куды ні ступі, гора сёрбалі ці раз, але ж і радасць зачэрпвалася ў жменю...

...Мы ўжо гаворым даволі вялікім гуртом, слухаю і ледзь упраўляюся адказваць на пытанні.

Хто будзе іграць Веру? Што беларуская актрыса, дык і мовы няма; хацелася б, каб з вёскі была родам: Вера хоць і гараджанка, але больш цягне на беларуску вясковага тыпу. А якая яна ростам? Характар — добры? Трэба такая, каб узгаралася ад самай малой іскаркі, а ўжо як стане на сваім, дык без вàгі не зрушыш. Што ведае актрыса, апрача свайго мастацтва? О, ёй трэба шмат ведаць! Вера гаварыла і чытала на чатырох мовах, і размаўляй з ёю — пра што хочаш.

Распытвалі ў мяне, пэўна, не ў такім парадку, гаворка ішла спіслей і вастрэй, але маім суразмоўнікам рупіла дазнацца менавіта гэта. На заўвагу, што таленавіты акцёр стварае за жыццё дзесятак, а то і болей вобразаў, хоць і не надзелены ўсімі іх уласцівасцямі,— яны адгукнуліся з поўным разуменнем. Не, ніхто і не думае збіваць на залішні дакументалізм, смешна! Але ж стварыць вобраз Леніна дадзена не кожнаму: патрэбен духоўны зарад вялікай сілы.

Таксама і з Верай. Помніце, Крупская? Пачытала кніжачку лістоў Харужай — і што напісала?

Я помню тое выказванне вельмі добра і зараз перакажу дакладна:

«Гэтыя лісты робяць моцнае ўражанне. Яны перадаюць турэмныя перажыванні маладой камсамолкі... Напісаны яны проста, шчыра. Але з кожнага радка глядзіць на вас чалавек моцнай волі, перакананы рэвалюцыянер, змагар за рабочую справу... І столькі жыцця, маладосці, энергіі ў гэтых лістах...»

Далей ідзе самае галоўнае, услухайцеся як мага уважлівей:

«Міжволі ўспамінаецца Ільіч у турме. Бадзёрасцю дыхаў кожны яго ліст да таварышаў, колькі было невычарпальнай энергіі ў кожным з яго лістоў, колькі цёплага клопату ў адносінах да сямейных і цікавасць да справы, клопат пра наладжванне яе, што прэваліравалі над усім».

На такое зблізэнне з Леніным любой асобы, якой буйнасці яна ні была б, адважыцца цяжка, на гэта мела права адна хіба Надзея Канстанцінаўна, і яна ўбачыла ў беларускай дзяўчыне-падпольшчыцы духоўнае сваяцтва з тым, каго кахала, чыя думка абабягала кантыненты, парадкуючы свет на карысць працоўнаму чалавеку.

Тут — вялікая праўда: сапраўдныя рэвалюцыянеры не могуць не мець агульных рысаў, да гэтага іх абавязвае такая засяроджанасць жыцця на адной мэце, такая адданасць адной ідэі, што ўсё іншае саступае дарогу, адыходзіць убок. Да таго ж, Ленін — самы высокі ўзор чалавека і рэвалюцыянера, і хто з энтузіястаў рэвалюцыйнай справы не таіў мары быць падобным да яго? Прагнула гэтага, вядома, і Харужая, выхоўваючы ў характары, у паводзінах, нарэшце, у

самым галоўным — у практыцы барацьбы — якасці дзеяча ленінскага тыпу.

І вось сяброўка Харужай, таксама былая падпольшчыца, гаворыць на адвітанне:

— Вера прыйшла да нас — чысты агонь! Моцны, як толькі трывала чалавечая абалонька, яна ж кволая была. Але тут сагрэе, там пасвеціць, а то шугне і спапяліць. Часамі, праўда, запальвалася шумнавата, раскідаючыся, не заўсёды ўгадваючы, калі і на што рынуцца. У падполлі адбылося ўтаймаванне. Стыхійны агонь ператварыўся ў лазерны прамень: сіла неабмежаваная і накіравана дакладна — Вера стала адукаваным марксістам.

Назаўтра ў гасцініцы мне перадалі падарунак ад новых знаёмых, зборнік «Вера Харужая» з іх прадмовай і заўвагамі.

Як жа яны гучаць, так добра знаёмыя старонкі, па-польску? Пачаў гартаць і зачытаўся — каторы ўжо раз на сваім вяку! Беларускі тэкст ніколі не сыходзіў з невялікай палічкі маіх улюбёных кніг, а на рускай мове «Лісты на волю» прыйшлі да мяне ў трыццатыя гады.

Успомніліся людзі і абставіны гэтага першага чытання, усплыў воблік самой Харужай. І міжволі пачало думацца пра гераічнае, яго прыроду. Што ж гэта такое ў жыцці і ў мастацтве?

Усё на свеце павінна спраўджваць сваё прызначэнне. Вось сонца і дае — як і чаму, мы больш-менш ведаем — святло і цеплыню, расліна ператварае іх — не настолькі высветленым шляхам, каб мы маглі паўтарыць ператварэнне,— у жывую тканку. А чалавек? Тут справа і куды складанейшая, і куды прасцейшая. Чалавек — найбольш даследаваная частка жывой прыроды, ён не пашкадаваў на самога сябе ні сродкаў навукі, ні сродкаў мастацтва.

Каб спраўдзіць сваё прызначэнне, чалавек робіць учынкі, а ўчынкі у сваю чаргу, твораць чалавека. Без учынкаў — чалавека няма, вось яны і паўстаюць перад намі: высакародныя і нізкія, наўздзіў смелыя, чутныя на шырокім прасторы і амаль бязгучныя, ці-

шэй за мітусню мурашак у сваім дамку, нарэшце, зіхатлівыя па навізне і банальныя да агіднасці.

Мастацтва адбірае ўчынкі не самі па сабе, а толькі тыя ці толькі тое ў іх, што дазваляе выявіць гераічнае, смешнае, драматычнае, а таксама дакрануцца да прыроды гэтых катэгорый.

Тым не менш адзін твор уз'ядноўвае нас з гераікай, выклікаючы сузіральнае захапленне подзвігам, другі — дзейнічае актыўна, змушае прыняць гэту гераіку на ўзбраенне, і не толькі прыняць, а і адшукаць, выклікаць або выхаваць штосьці падобнае ў сабе.

Можна запярэчыць: розныя людзі — розныя ўспрыманні. Тут ёсць праўда, яе не вельмі проста абмінуць ці адкінуць. Успомнім фадзееўскіх маладагвардзейцаў. Маладыя падпольшчыкі знаходзілі ў кнігах, бачылі ў рэчаіснасці многа вартага захаплення. Але ж бралі ў свой абыходак, прасцей кажучы, у сябе, толькі з разборам. Няхай рабілі гэта падсвядома, ды не проста з налёту: адно — прэч, другое — да сэрца.

Да сэрца гарнулася тое, што задавальвала прагу ў гераічным, набліжала да яго, дапамагала зачапіцца за такую ж струнку ў сваёй душы і даць ёй магчымасць загучаць калі не раўназначна, дык хоць суладна.

І ўсё ж душэўная настройка чытача — адно, а эмацыянальныя магчымасці і рэзервы мастацкага твора — нешта іншае. Калі імкненні, закладзеныя ў ім, не парываюць на уздым, а зыбаюцца дзесьці на сярэднім ўзроўні, калі хваляванне пачуццяў не абуджае сустрэчнага хвалявання, калі не спалучана ісціна ўзнёслых мар і праўда штодзённай явы — як ні намагайся, нічога гераічнага для душы не здабудзеш.

Часам па творах літаратуры, хоць у аснову іх і пакладзены лёсы вялікіх людзей мінулага ці выдатных нашых сучаснікаў, нельга ўявіць і ўразумець, дзе ж мяжа паміж будзённым і гераічным. Магчыма, такой граніцы няма, не існуе, але я, чытач, хачу і павінен ведаць, як, чаму, праз што звычайная істота набрала столькі адменных сокаў, што раптам дала на-квецці і пырснула шчодрым цветам. Прасцей і празаічней кажучы, мне важна дазнацца, як даспеў ча-

лавек да ваеннага подзвігу або да навуковага выніку працы і тым самым зрабіўся ўзорам, вяршыняй, светачам.

Што ж за яно гэта геракчнае? Уласцівасць абраных, ці кожны чалавек у пэўных абставінах можа стаць героем? Нарэшце, дзе яно прытойваецца і калі выходзіць на свет? Пра ўсё гэта я пытаюся і шукаю адказаў у мастацкіх творах.

Чым паўней і прасцей, не аздабляючы надаеднай мішурой і не захінаючы покрывамі таямніцы, раскрывае твор сутнасць высакародства, глыбіню адданасці ідэі, меру самаахвярнасці, увесь рух і рост асобы да найбольшага свайго ўчынку, тым трывалей умацоўваецца пераканапне: геракчнае лунае над галавой кожнага чалавека, падобна таму, як маршальскі жэзл ляжыць у ранцы кожнага салдата.

Дык ці трэба паўтараць, што мастацкі твор, паглынаючы біяграфію героя, высвечвае факты духоўнага вырастання яго і дарастання да піку, дзе збяруцца ўсе ягоныя сілы і намаганні, каб ажыццявіць можа адну, але галоўную справу жыцця.

А як з іншымі падрабязнасцямі біяграфіі? Проста адкідаць, не лічыцца?

Скажам, зняволенне, вядома, не за крадзеж і фальшывыя грошы або штосьці падобнае. Гэта заўсёды — выпрабаванне на мужнасць, трываласць, высакародства. Але можна адбыць некалькі тэрмінаў у некалькіх турмах — такія выпадкі знаходзіш не шукаючы ў рэвалюцыйных біяграфіях,— заслужыць праз гэта павагу, здабыць аўтарытэт і ўсё ж не стаць героем.

Або возьмем іншы, калі не процілеглы першаму, прыклад. У жанчыны з бездакорнай рэпутацыяй рэвалюцыянеркі ніяк не парадкуецца сямейнае жыццё, і яна, у пошуках сапраўднага шчасця, дакладней — у пошуках чалавека, створанага для сябе ў сваім уяўленні, некалькі разоў ідзе на шлюб.

З жыццёпісу не выкасуеш! А ці да месца такі штрых у біяграфіі геракчнай, прызначанай для многіх тысяч вачэй, у наследаванне многім тысячам сэрцаў?

Чаму ж не! Абы не застуецца, не адпіхаецца ў цень нічога з таго, што стаўляе дадзенага чалавека на дарогу галоўнай справы свайго жыцця, галоўнага

свайго ўчынку. Інакш сам гэты ўчынак застанецца на такой жа адлегласці ад героікі, як звычайная мнагамужка ад годнасці маці-гераіні.

Пара зноў вымавіць імя той, чый вобраз не адступаецца з відавоку. Бачыць яе, на вялікае засмучэнне, давялося толькі раз, але яна на ўсё жыццё пакінула мяне перад сабой на каленях. Гэта не юнацкі экстаз і не малітоўнае захапленне, я думаю з пашанотным здзіўленнем пра Веру Харужую, героя, на чыё ўшанаванне не шкада ні многіх тысяч метраў кінаплёнкі, ні глыбін адменнага мармуру.

У жыццёпісе яе, на першы погляд, больш горкіх, чым уцешных старонак. Хапала адседак па суду і без суда, апошняя — самая кароткая і страшная — у фашысцкай катавальні: магчыма і ў дол жывую засыпалі, відавочцы казалі, што на месцы расстрэлу варушылася зямля...

А былі ж і звычайныя чалавецкія засмучэнні: не заўсёды ўдавалася ступіць як належала, сушыў гады маладосці астрог, не адразу прыходзіла справядлівасць, не спраўджвалі спадзяванняў сябры.

Дык спытаем самі ў сябе: трэба ўсё гэта ў кнізе ці на экране? Мусіць, трэба, але не абавязкова і не ўсё. Значыць, ухіляцца ад праўды, утойваць яе? Наадварот, набліжацца да праўды, весці апавяданне ці паказ, каб і на хвіліну не страціць асноўнага: што, да чаго і ў імя чаго парывае чалавека на подзвіг.

А як і якія справы рабіць герою — на гэта ёсць густ і пачуццё меры мастака. Няхай перад ім на момант узнікне крыху ўмоўная задача: выбраны герой, паважаны, вядомы народу абаронца яго інтарэсаў, змагар супроць тыраніі, раптам згадзіўся публічна, тры дні запар, запальваць ліхтар пашаны над помнікам тырану, магільшчыку народных надзей.

Пляміць гэта героя? Як быццам пляміць. Траціць ён давер і любоў усіх, што ведалі яго ў іншай пастаці? Ды як быццам і апраўдання няма.

А як зрабіць, калі другога спосабу няма, менавіта толькі так можна падаць сігнал паўстанцам у гарах, салдатам у далёкіх гарнізонах, узброеным рабочым на

ўскраінах: час пачынаць! Выходзьце на вызваленчае паўстанне зараз жа, усе, усюды!

Вось чаму ідзе да помніка герой, вось чаму ў яго руках ліхтар запальваецца, гасне і зноў запальваецца. Што гэта значыць, ведаюць толькі тыя, што чакаюць умоўнага знаку. Хто гэта робіць, невядома нават ім, а ў імя чаго дзеецца усё, хіба ж можна тлумачыць для ўсеагульнага ведама!

Пераможа паўстанне ці не ўдасца, усё роўна пляма на гонары героя будзе толькі ўяўная, рана ці позна ад яе не застанецца і следу.

Можна было б прыгадаць іншае, бліжэйшае да нас, што і без таго ва ўсіх на воку. Нашы людзі, самыя адданыя салдаты партыі і самыя верныя сыны народу, прымалі аблічны ворагаў яго і прабіраліся ў варожы стан, каб дапамагчы Радзіме, каб мацней і надзейней рыхтавала яна перамогу.

Самі сабой вымаўляюцца некалькі бліскавічных імён, яны вядомы ўсім, але ж невядомы і не названы многія тысячы нашых людзей-невідзімак, якія штодзень невідочна падрывалі фашысцкія штабы і тылы ў імя той самай мэты.

Мера подзвігу першых і другіх розная, але мяжу дазволенага ў сабе ўсе яны пераступалі адну і тую: насупар свайму духоўнаму строю, ладу жыцця, атачэнню, ідучы насустрач спачатку неразуменню, а следам — пагардзе і знявазе блізкіх, яны прымалі аблічча, не толькі не ўласцівае ім, а выразна супрацілеглае.

Вера Харужая, ідучы ў падполле, прымала аблічча невідзімкі, не пераступаючы названай мяжы, але можна мець пэўнасць — каб адчула канечную патрэбу, перайшла б, пераступіла б!

Што ж застаецца рабіць мастаку, творцу гераічнага вобраза? Быць смелым, весці героя на горы, апускаць у нізіны, абы была ва ўсім гэтым звышмэта, звышзадача, або чулася, як набіраецца разгон да яе. А пераносу ў твор, ды яшчэ кропка ў кропку, усіх перыпетый і акалічнасцей у паводзінах і ў абставінах жыцця — вось гэтага якраз не даруе ні жыццё, ні мастацтва.

Герой не можа існаваць без гераічнага пачатку,

узнёслага складу думак, без асяроддзя, адкуль ён убірае сокі гераізму.

Роздум мастака аб героі заўсёды будзе роздумам аб часе. Час выхоўвае і падымае героя, у сваю чаргу, дзейнасцю героя вызначаецца змест таго ці іншага часу, менавіта па гэтай дзейнасці мяркуюць аб часе.

Якія б велічныя карціны ні раскрываліся перад намі з апісанняў гістарычных падзей, са сведчанняў сучаснікаў, яны пачнуць жыць і дыхаць толькі будучы звязаны вобразамі людзей, пераважна геранічнымі.

Вось чаму дзейнасць мастака ўяўляецца пошукам і знаходжаннем героя, які б увасабляў поўна і выразна рысы ўзгадаваных Кастрычнікам пакаленняў.

Відавочцы і знаўцы падзей і людзей часта ўпарцяцца: вось гэтага ў творы няма, а так было. Аддадзім належнае іхняму веданню і спрактыкаванасці, але ўстрымаемся, не дапусцім героя да посных казаняў, не дазволім яму ператварацца ў істоту бясплотную, не будзем ствараць німб вакол галавы, дарма што, магчыма, нешта «так і было», хоць бы і знайшлося штосьці падобнае ў побыце і абыходку.

Гэтаму пярэчыць вобраз Веры Харужай, нездарма ж ніці духоўнага сваяцтва яе працягваюцца да першавобраза герояў і рэвалюцыянераў — Леніна.

Яна мела ўласцівасць не падбаўляць жыўлення сваім асабістым болям і смуткам, не таму, што яны не балелі,— балелі, і часам вельмі моцна, але ж не маглі засланіць адкрытага яе вачам далягляду.

Страта дарагога чалавека ў першым баі з фашыстамі, як цяжка гэта ні было, не заглушыла прагай помсты святога абавязку вызваляць ад захопнікаў родную зямлю.

З мукай адарвала яна дзіця ад грудзей, а не пахіснулася ў намеры ісці за лінію фронту, біцца з ворагам у яго тыле, бо «за ўсіх дзяцей на свеце адказвае камуністка»!

А большанькай дзяўчынцы, тая ўсё не магла зразумець, як гэта мама, жывучы так далёка, чуе «крыкі і стогны нашай Беларусі», растлумачыла: «Калі будзеш моцна любіць свой народ, тады пачуеш, не вухам, дачушка, а сэрцам».

І вось у перспектыве часу самі абсыпаюцца прыпісачныя аздабленні і дробныя падрабязнасці: усё

жыццё Веры Харужай узнікае перад намі як адзін суцэльны галоўны ўчынак.

Якія межы ў яго? Самыя шырокія: ад пятнаццацігадовай настаўніцы і адначасна парабчанкі ў кулака да байца з атрада асобага прызначэння, ад легальнага прапагандыста першай камсамольскай камуны ў Мінску да сакратара ЦК камсамола Заходняй Беларусі ў падполлі.

Вера Харужая паўстае ў многіх іпастасях, але ўсе яны бадай аб'ядноўваюцца ў адну — камуніст. Рэвалюцыянер у самым узнёслым, першаісным разуменні; жывое ўвасабленне адданасці народу і партыі; узор нязломнай веры ў сваю справу, у людзей, у сілу прынятых на ўзбраенне ідэй; чулая, сардэчная маці; нястомны прапагандыст і няўлоўны падпольшчык; страсны жыццялюб, абаяльная, шырокіх кругаглядаў асоба; верны таварыш, вясёлай душы чалавек.

Гэта не проста больш-менш гладка падагнаныя адно да аднаго азначэнні, кожнае з іх угрунтавана пэўным адрэзкам жыццёвага шляху Харужай, умацавана яе душэўным вопытам.

Жыццё без барацьбы нічога не важыла для яе, а жыццё народу пад няволяй было знявагай уласнай чалавечай годнасці. Духоўны стан заўсёднай зрыхтаванасці змагацца за народнае шчасце быў натуральным для яе станам, іначай жыць яна не магла. Пасля геройскай смерці мужа словы Далорэс Ібарury: «Лепей быць удавой героя, чым жонкай баязліўца»,— загучалі для яе іначай: «Я зразумела, што ты, Беларусь мая, даражэй за самае дарагое, што, цябе любячы, можна ўласнае сэрца кроіць на кавалкі, быць мацней за самога сябе».

У нашай Радзіме бачыла яна надзею народаў, прыклад — краінам, жаданы дом волі і шчасця — сабе.

«Быць мацней за самога сябе»— у гэтых словах ключ да разумення подзвігу Харужай дый гераічнага наогул.

Вернасць слову і дружбе была для яе святы запавет. Да сябравання Харужай я вярнуся яшчэ, каб расказаць адну гісторыю, цяпер гэта, відаць, вядома

толькі мне аднаму. Зараз жа — пра жыццялюбства і трываласць.

Харужая арыштавана, асуджана пілсудчыкамі, кінута ў турму. І за кратамі вакол яе ўскіпае грамадскае, палітычнае, асабістае жыццё зняволеных. Яна вучыцца і вучыць, наладжвае галадоўкі, сустракае песняй рэвалюцыйныя святы. Яна захоўвае сілу і дзіцячую непасрэднасць, цешыцца з кавалка сіняга неба, удалага верша, прыемнай навіны, пачутай ад сяброўкі. Радуецца сама і пасылае зарады бадзёрасці, паводле выразу яе самой. З турмы — на волю! Тым, хто замаркоціўся ці змарыўся. І не толькі на заняволеныя абшары Заходняй, а і праз калючы дрот, цераз мяжу, сябрам і знаёмым у Савецкай Беларусі.

Светлы чалавек, які шмат ведае і разумее, аб усім дбае і турбуецца, размаўляе з намі ў лістах на волю. І з кожнага слова, памкнення, намеру, дзеі відзён камуніст. Крыштальны, нібыта акурат для яе створана гэтае слова,— самай чыстай чысціні. Мець і несці гэту годнасць, дзе сплаўлены ўсе пачуцці, усе якасці, усе ступені, на якія можа ўзняцца чалавек,— сапраўднае прызначэнне Веры Харужай. Яна ўяўляецца ў гераічнай цэласнасці адзінага чалавечага вобліку — нішто чалавечае не чужое ёй і ўсё чалавечае ўзвышаецца праз яе, паўстае ў святле высокай духоўнай красы, пралітай на ўсе яе ўчынкі.

Харужая — герой народны, нацыянальны, з таго самага велічнага шэрагу, дзе Каліноўскі, Заслонаў, Мінай.

Такі вобраз ставіць на калені і друга і ворага, але, як ні шкада, існуе больш ва ўяўленні, узнікае са скупых яе лістоў і запісаў ды яшчэ з таксама не дужа шчодрых успамінаў таварышаў, з кім працавала яна ў падполлі, на камсамольскай і партыйнай рабоце.

А як перадаць у пластычнай форме ці перанесці на паперу абагульнены мастацкі вобраз, надзелены такім багаццем цвёрдай, як алмаз, волі, чулай і пяшчотнай душы, смелага і вясёлага сэрца? Не адважышся, а калі паспрабуеш — не дадуць веры: хіба змесціць у сабе столькі добрага нехта адзін?

Некалі ў маладым захапленні я пісаў юнацкую сваю рэч «Галасы гарадоў». Там ёсць раздзел «Таварыш Вера».

Падштурхнуў мне руку, падахвоціў размовамі той, каго Харужая называла адным «з самых дарагіх, самых блізкіх». Гэта быў Анатоль Вольны — вострый на слова і выдумку, яркі, на жаль — не сабраны талент. Калі мы сталі таварышаваць, ён амаль не пісаў вершаў, за паэтам Вольным грымела слава фельетаніста Алёшы. Пад гэтым псеўданімам ён друкаваў шчодрыя на гумар невялічкія рэчы. З экранаў не сыходзілі фільмы па яго сцэнарыях, гэта здалося павабным: у пачатку 30-х гадоў я рабіў першыя сцэнарныя нарыхтоўкі і нават збіраўся набываць кінематаграфічную адукацыю.

Як і калі пачаліся ў нас з Вольным размовы па шчырасці? Не ўспамяну, не хачу абражаць памяць таварыша недакладнай перадачай. Адносіны складаліся сардэчна, нам захацелася нават разам папрацаваць. Дамовіліся пісаць аповесць. Каб ніхто не замінаў, пастанавілі ўцячы на бераг Чорнага мора, балазе стаяла ранняя вясна, было холадна, і гэта не абяцала вялікага тлуму на поўдні.

Сакавіковы адвячорак 1931 года з дробнай крупкай у твар. Сядаем у цягнік на Харкаў, куды пераведзены аванс пад будучую аповесць.

Як вядзецца на безграшоўі, перавод затрымаўся, мы прыехалі раней. Паглядзелі горад — Харкаў тады быў сталіцай і хораша будаваўся,— наведаліся ў тэатр. Вольны адшукаў сяброў, пачаліся сустрэчы. Найбольш прыемная і памятная — з Уладзімірам Сасюрам. Ён быў нашым госцем у Мінску і ветліва спаткаў нас у пісьменніцкім клубе. Праўда, настрой у гаспадара быў не з лепшых: не дагадзіў кніжкай крытыцы. Гэта замінала пісаць, і паэт збіраўся ў калгас — перабыць благую пару з мілымі яму людзьмі.

Праз колькі дзён справы нашы наладзіліся, можна было рушыць далей. Але вось тут і высвятлілася непрадбачанае і нечаканае: у Вольнага не зроблены і рупіць добры дзесятак самых пільных спраў у Мінску. Усе доказы — маўляў, недарэчна варочацца з палавіны дарогі, дый умова з выдавецтвам страшыць

недалёкім тэрмінам здачы рукапісу — усё гэта адскоквала ад непрабіўной упартасці майго спадарожніка. Контрдоказы выстаўляліся не менш перакanaўчыя: а на ліха так далёка ехаць? Вясна і ў нас добрая, схавацца ад вачэй і пісаць можна бліжэй і лепш.

Змарнаваўшы ва ўзаемных пераконваннях п паўдня, мы разрагаталіся і купілі білеты назад. Дарогай змовіліся: на ўсе роспыткі, чаму вярнуліся, адказваць — забылі зубную шчотку.

Невясёлы гэты жарт належаў не мне. Я не ведаў тады, што сарвала майго таварыша з гэтай дарогі, як і з многіх іншых, даўняе і горкае каханне. Прымроілася яму з адлегласці ласкавая ўсмешка прыгожай і вельмі нешчаслівай жанчыны. Паверылася ў радасць, і стрымгалоў рынуўся здабываць дараванне, выслужваць прабачэнне, бо, як прызнаўся потым, выязджаў ён з Мінску пасля цяжкай размовы, поўнага разрыву.

Аповесць мы ўсё ж такі напісалі, выехаўшы неўзабаве ў Чэрвень, дзе адзін з адказных работнікаў даў нам пакой з дзвюма канапамі ў сваёй установе. Лёс нашага твора, які гучна называўся «Смерць БНР», быў незайздросны: Вольны, маючы прывычку даваць у друк напісанае адным прыхваткам, лічыў, што рэч закончана, хоць яна ледзь-ледзь цягнула на першы чарнавік. Далей публікацыі аднаго ці двух урыўкаў справа не пайшла...

Але не пра гэта я сабраўся расказваць.

Аднаго разу пасля доўгай гаворкі я пачаў адвітвацца. Вольны падняў чырвоныя ад бяссонніцы вочы:

— Перабудзь са мной да раніцы.

Відаць, яму цяжка было застацца аднаму ў непрытульным нумары гасцініцы на Камсамольскай. Памаўчаў, угадваючы маю нязгоду, і сказаў:

— Або давай паедзем да маіх.

Гэта была навіна. Ніхто з нас не ведаў, што ў яго ў Мінску ёсць сваякі. Мы прыехалі на рамізніку ў раён, вядомы як паселішча мясцовых чыгуначнікаў.

Дом стаяў у глыбіні двара, проста да вокан працягваў азяблыя лапы чырванаваты вішняк. Яшчэ ў сенечках дыхнула ўтулкам: пахла вышараваная падлога, прыемна трашчалі смалякі з распаленай грубкі, на стале спяваў самавар.

Анатоль адтаваў у цяпле хатняга клопату. Мы елі свайго вырабу каўбасу, хрумсталі свежыя каржы, смакавалі хатнюю вішнёўку. І пасля паснулі бесклапотным сном маладых людзей аж да заўтрашняга паўдня.

З абуджэннем душэўная раўнавага аднаго з нас прыкметна парушылася. Майму сябру, відаць, зноў пачаў дапякаць боль у сэрцы. Ён пакрысе падгаворваўся да гаспадыні перад снеданнем: маўляў, сухая лыжка рот дзярэ. Але тут устала нечаканая і даволі рашучая перашкода ў выглядзе румянай чарнавокай студэнткі тэхнікума; здаецца, яны былі з Анатолем свае ў другой стрэчы.

Дзяўчына з бескампраміснасцю і просталінейнасцю камсамолак таго часу абвясціла, што ніякіх «чарак» у сваёй прысутнасці не дазволіць. Раніцай трэба працаваць, а потым, наогул, гэта брыдка. Яна надзьмулася і ад усведамлення важнасці свае місіі — паставіць на троп дзве душы хісткіх, так і сказала, паводзін,— як быццам падрасла, хоць, праўда, стала падобная да ката̀ ў чобатах — так называлася папыранае тады апавяданне.

Давялося падпарадкавацца. Паснедалі і вырашылі нікуды не хадзіць: падумаем, якой рады даваць нашай аповесці.

Пакуль гаварылі і спрачаліся, крэслілі і дадавалі, дзяўчына пісала поруч за столікам. Час ад часу паглядала ў наш бок ці то недаверліва, ці то са здзіўленнем: няўжо яе паслухалі-такі і ўзяліся за справу.

Нашы намаганні глыбей увайсці ў работу хутка вычарпаліся: Анатоль відавочна думаў пра нешта іншае. Ці паводзіны дзяўчыны нагадалі яму штосьці, ці проста прыйшла пара ўспамянуць добрае сяброўства, падзяліцца прыгадкаю.

Ён дастаў з кішэні паліто кніжачку:

— Бачыў?

Узяўшы ў рукі тоненькую, як спытак, брашурку, я прачытаў уголас пачатковыя радкі і апомніўся толькі праз некалькі гадзін, калі загарнуў апошнюю старонку.

Наша студэнтка, выслухаўшы ўсё прачытанае, крадком уцерла вочы і пабегла на вячорныя занятк, а Вольны пачаў расказваць.

Цяжка, з доўгімі паўзамі, з бясконцым прыпальваннем усё новых і новых папярос. Але ён трапіў на такую хвалю шчырасці, калі спыніцца не выспавядаўшыся было нельга, калі чалавек плыве ва ўспамінах нібыта за шпаркай плынню. Павярнуць на бераг сілы няма, і ён трывожна сочыць, як міма ідуць і едуць людзі і ніхто там, на зямлі, не чуе яго, не заўважае ягонай адзіноты.

Сядзелі ў паўзмроку. Папяроса, раскурваючыся, на момант паказвала, як перасмыкаецца аблічча, як бязлітасныя пальцы прымінаюць да цемя пакучараўленыя валасы.

Тая, што пісала сабраныя ў кніжачку лісты ад імя польскай камсамолкі, была добра вядомая мне па прозвішчу беларуская дзяўчына, і не хто іншы, як Вера Харужая.

Дык вось чаму мне не маглі ці не хацелі казаць, куды яна знікла.

А ведалі ж людзі! Як гэты мой сябар, ды што там — мой! Яе сябар, ён жа не проста бачыў Веру, а і таварышаваў, сустракаўся кожны дзень на рабоце, бачыўся вольным адвячоркам, хадзіў у кіно, на сходы, на дэманстрацыі...

Пра ўсё гэта Вольны расказаў. Заставалася самае цяжкае. І ён перасіліў сябе, адважыўся. Паказаў мясціны з лістоў, поўныя клопату, любасці, дружбы і невыказнай горычы. Словы, адрасаваныя яму.

Па маладосці я вычытваў адтуль зусім не тое, што хацела сказаць Харужая. Падумалася, нібыта яна кахае Анатоля і моцна тужыць, дазнаўшыся пра яго цяперашняе нешчаслівае захапленне. Вось адкуль, лічыў я, Верына гаркота ў развагах пра ператварэнне сяброў.

Стала дзіўна, чаму ж раптам так змізарнеў на вачах ён, той чалавек, што сядзіць з апушчанай галавой, на каго некалі ўпаў промень такога кахання?

Я не ведаў, калі і як апынуўся Вольны па-за шэрагамі камсамола, і не мог зразумець, што менавіта гэту духоўную страту ён балюча перажывае зноў.

Вера Харужая як быццам прыйшла ў наш пакой і патрабавала адказу і не адступалася: не ўстояў, а павінен быў устояць!

Пакуль Анатоль нанова перачуваў увесь цяжар перажытага, цягнулася маўчанне, і я зусім заблытаўся ў адвольных здагадках і развагах. Нарэшце ён сабраў сілу вярнуцца да слова.

— І чаму яе няма тут? Усё магло быць зусім іначай. Каб яна і Колька...

Так упершыню Вольны вымавіў імя Мікалая Арэхвы, першага важака камсамольскай моладзі ў Беларусі. Разам з Харужай яны працавалі ў Цэнтральным Камітэце камсамола, у адзін час прыкладна пачалі торыць шляхі ў заходнебеларускім падполлі.

І гэтыя словы таварыша мне давялося зразумець многа пазней. Яны значылі вось што: у цяжкую хвіліну каля Вольнага не было двух найбліжэйшых яму людзей. Ён, відаць, зрабіў няпэўны крок. Магчыма, таму, што быў адзін, жыў толькі сваім адумам. Выйшаў за нейкую рысу, і гэта наглуха адгарадзіла яго ад звыклага асяроддзя, і ў першую чаргу — ад камсамольскіх сяброў.

Мусіць, не так і шмат неставала яму, каб утрымацца ў іх коле: крыху веры, пляча падтрымкі, кроплі дружбацкай спагады. Тады не страшна ніякага ўшчунку, ён прыняў бы яго з падзякай, ператрываў бы самае цяжкае пакаранне.

Цяпер позна дашуквацца, што і як было парушана, але Харужай стала вельмі горка, і яна не замарудзіла асудзіць першага з сяброў, аб кім выказвала самы гарачы клопат з-за астрожных крат. Магчыма, яго віна куды глыбейшая, чым уяўляецца мне зараз у паўвекавой адлегласці. І ўсё ж, думаецца, бяда тая, хутчэй — няшчасце, здарылася з ім праз маладую гарачнасць, неперабарлівасць у знаёмствах, прыманне чужых поглядаў на веру, не разважыўшы, чые яны, што за імі магло таіцца. Да таго ж, снаваў павуцінне нэп, і трывалейшыя збіваліся з тропу, забабліваліся ў багему і засільваліся.

Да часу нашага таварышавання Вольны паслужыў добраахвотнікам у Чырвонай Арміі, пабыў на адказнай камсамольскай рабоце. Ён здаваўся больш за іншых літаратараў спрактыкаваным, узмужнелым у светапоглядзе.

Не скажу, што я мог узяць за прыклад усё ў маім старэйшым таварышы, аднак у чыстаце адносін да

рэчаіснасці, у яснасці позірку на заўтрашняе ніхто не здолеў бы кінуць яму ніякага дакору.

Яго слову можна было верыць, як свайму: спраўдзіць, зробіць, калі паабяцаў, і гэта не толькі ў адносінах да тых, з кім таварышаваў.

Лёгка ўгадваў, у каго за знадворнай добрапрыстойнасцю прыхоўвалася патайнае донца. Гэты гатунак ненавідзеў люта, дзе толькі мог, выкрываў і выкпіваў, ахватней — проста у вочы, ды яшчэ так, каб чалавек, апынуўшыся ў смешным становішчы, траціў раўнавагу і міжволі паказваў сябе без абарончай пафарбоўкі.

Затое заўсёды вадзіўся Вольны з кім-небудзь з малодшых літаратараў, любоўна апекаваўся, рэкамендуючы і выхваляючы свайго падапечнага як найдаражэйшую для чалавецтва знаходку.

Сказаць праўду, такое апекаванне было больш неабходна самому Вольнаму, складала ўласцівасць яго адкрытай насустрач людзям душы. Ніхто далікатней і танчэй не мог папытаць: ці ёсць у цябе на абед, ці маеш свежую кашулю, ці не пасміхнулася з вітрыны новая кніга. Удасца ўдружы́ць хоць што — ходзіць, як быццам зямлі не дакранаецца, хоць сам дабрачынца не мае пэўнасці, за што будзе палуднаваць заўтра. Вы́ручаць таварышы, ведае, па няпісанаму закону дружбы камсамольцаў дваццатых гадоў.

Яны стаялі над побытам, пераймаючы гэту навуку ад старэйшых камуністаў. Н. К. Крупская пісала, што не можа ўспомніць выпадку, каб у іх дома гаварылі пра ежу і вопратку, а ў эміграцыі жылося ім — куды як скрутна!

Вось і камсамольцы першага закліку, бачачы, як нялёгка краіне выбаўляцца з векавой адсталасці, абмяжоўваліся самым сціплым, канечне неабходным для асабістых патрэб. Яны гадавалі здаровую пагарду да мешчаніна і нэпмана з іх праданнем дрыжыкаў над сваімі гняздзечкамі, напханымі безліччу рэчаў.

Магчыма, касаваротка ці юнгштурмаўка і сандалі на босую нагу — нешта кшталтам камсамольскай уніформы — патыхалі крыху аскетызмам, а гальштук і капялюш дарма абвяшчаліся атрыбутамі мяшчанства, затое, лічылі маладыя людзі, нішто не звязвае

рук, нішто не замінае вачам углядацца ў асветленыя нязгаснымі ідэаламі блізкія далечы.

Так і мусіла быць, каб чалавек, здольны на самаабмежаванне, нават на самавыраканне, таварыскі, праўдзівы — да таго ж — паэт! — стаў другам Веры Харужай. Такой веры трымалася яна сама.

На жаль, у некаторых з моладзі самаабмежаванне перарастала ў нядбайства да ўсіх і ўся, у адмаўленне элементарных жыццёвых умоў. Пакрысе і Вольны ператварыўся ў бесхацінца. Жыў на колах, часцей за ўсё паміж Ленінградам, дзе змяшчалася наша кінастудыя, і Мінскам, дый тут туляўся па гасцініцах і падначоўваў у таварышаў. Гэта няўладжанасць вынікала яшчэ і з беспрытульнасці душэўнай — я ўжо ўспамінаў аб дзіўнай і трагічнай гісторыі яго кахання.

Пералётнае жыццё не абяцала разгарнення здольнасцям. Вольны кінуўся шукаць ратунку ў сям'і — шлюб аказаўся не больш удалы і не менш цяжкі, чым нешчаслівае каханне, ад якога ён збіраўся такім чынам уцячы.

Напачатку зламаліся як таленты, пасля крыўдна рана скончылі чалавецкае існаванне ўсе трое: чорнавалосы прыгажун, гучнай у той час славы паэт, выключнай паставы актрыса з антычным абліччам і ён, невысокі з добрымі светлымі вачамі пад кранутымі цікам павекамі, мой сябар.

Калі і як пісаў Вольны, уявіць цяжка; відаць, усюды, дзе здаралася на гадзіну прысесці, і абавязкова за адзін раз — у гэтым я меў магчымасць упэўніцца. Але ж яны з'яўляліся, вершы, гумарэскі, аповесці. І ў кожнай рэчы — зерне свайго, непасрэднага, будзь гэта смех, лірычная споведзь ці позірк у мінулае народу. Аднак адчувалася: пачуцця і думак — цераз край, а дысцыпліны для даводкі, для канчатковай адліўкі ў форму — што ні крок, то больш не хапае.

Прыходзіла іншая вядомасць — у вусным жанры: вядомасць апавядальніка за сталом; хоць вострыя слоўцы яго і перадаваліся потым па горадзе, гэта было сумна. Ён так і не зазнаў спакою. Выстараўся свайго даху, перавёў туды сваю выгараваную абранніцу, але запозна.

А на якім уздыме, бліскуча, іначай не скажаш, пачыналася гэта жыццё, адбываўся ўваход у літаратуру! Першы пленум і з'езд «Маладняка». Вольны ў першай тройцы імён, робіць справаздачу па арганізацыйных пытаннях, выступае з прапановамі камуністычнай фракцыі.

Дзе ні з'явіцца — радасная ўзрушанасць і ажыўленне: яго любілі аднагодкі, старэйшыя і маладзейшыя. Быў ён у абыходку з людзьмі — лёгкі, суразмоўнік — цікавы і вясёлы. Любіў і ўмеў пажартаваць і востра і дабрадушліва: не пакрыўдзішся, каб і хацеў.

Насустрач Вольнаму ўсміхаўся Янка Купала, яго прывячалі, абдымалі за плечы партыйныя дзеячы, заснавальнікі нашай дзяржавы, пры ім мякчэў і хіліўся ў сантымент роўны і стрыманы Міхась Зарэцкі, аж свяціўся заўсёды нечым узрушаны Валеры Маракоў.

Дык вось «Маладняк». Вольны карыстаўся павагай там па заслугах. Тэмпераменту і энергіі ў яго — хоць пазыч каму, працаваў, што называецца, з душою, закасаўшы рукавы. Дый, апрача ўсяго іншага, быў адзін з арганізатараў аб'яднання, удзельнік, калі не сказаць ініцыятар, славутага сходу шасцярых, які празваніў пачатак літаратурнага жыцця ў рэспубліцы.

Гэта апісана і даўно стала здабыткам гісторыі літаратуры. На маю долю прыпадае дадаць пачутае ад самога Вольнага, недаказанае ў свой час у друку і такім чынам вывесці з незаслужанага забыцця яшчэ адну асобу, каму абавязаны сваім нараджэннем «Маладняк».

Справа ў тым, што на пасяджэнні ў клубе КІМ на Камсамольскай вуліцы ў Мінску было не шэсць, а сем чалавек, сёмы, праўда, прысутнічаў невідочна.

Быў гэта добры прыяцель усіх, што сабраліся закладаць падмуркі новай літаратуры, чалавек, каму паэзія заўсёды жывіла сэрца і пры патрэбе служыла зброяй. Дый па рабоце блізкая да літаратурных спраў асоба: рэдактар «Маладога аратага» (не часопіса, а газеты на рускай мове), член рэдкалегіі «Полымя», адказны камсамольскі работнік.

Словам, менавіта Вера Харужая першая падала добрую думку маладым пісьменнікам. Спачатку Чароту і Вольнаму, а пасля і другім:

— Што вы, хлопцы, ходзіце самапасам? Бачылі, што ў Маскве робіцца? Арганізуйцеся і вы, закладайце літаратурную групу. Камсамольскую, вядома ж...

Якім бы значным ні здавалася наша цяперашняе рэчышча, сягоняшні літаратурны рух з нязменнай пашанай глядзіць на свае далёкія вытокі. Большасць заснавальнікаў групы — бясспрэчныя і немалыя таленты — засталася жыць у літаратуры. А хто, пачытаўшы яе лісты, адмовіць у таленце Веры Харужай!

Могуць сказаць: гэта талент сэрца.

Паболей бы нам такога!

...Мінск вітае нядаўніх вязняў, выхапленых з санацыйных астрогаў. Польскія камуністы і паслы Заходняй Беларусі ў польскі сейм ступілі на савецкую зямлю.

Гэта было ў Негарэлым, я не трапіў туды, і хто прыехаў — дакладна не ведаў. Нічога, праз нейкую гадзіну ўбачымся!

Вуліцы нашай даваеннай сталіцы сталі вузкімі яшчэ з ночы, калі прыйшоў цягнік з дарагімі сябрамі. Натоўпы выплёскваюцца з ускраін, залiваюць плошчы і галоўныя магістралі: зірнуць, хоць бы здалёк!

Міліцыя, конна і пеша, трымае нешырокі праход да кіно «Культура» (цяпер Рускі тэатр). Нарэшце працiскаемся ў дзверы, і тут — Вольны, яго не пазнаць, так адухоўлены твар радасцю і хваляваннем.

— Давай за сцэну! Я не магу адзін, а ты ўсё ведаеш...

Цягне за руку, спяшаецца.

— Хто прыехаў? Зараз, зараз!

За кулісамі Анатоль ужо бяжыць і кідаецца, не бачачы нікога і нічога, да невысокай жанчыны, худзенькай, зусім дзяўчынкі:

— Вера!

Ён спыняецца, не дабегшы: ці пярэйдзе парог ня-

даўняга адчужэння колішняя дружба, ці будзе дарована яму?..

— Толя!

Харужая абдымае яго першая, яны глядзяць адно на аднаго, адступаюцца на крок і зноў глядзяць.

Гляджу і я. Гэта вось і быў той адзіны выпадак, калі давялося ўбачыць яе.

Бялявыя ў рыжынку валасы, крыху пазападаўшыя вочы, нос з кірпацінкай над шыракаватым разрэзам губ і вуглаватыя, як у падлетка, рухі. Акурат селавая настаўніца: выбралася на першыя заняткі, паднядзелілася трошкі, апранула белую, у беларускі ўзор вышыванку.

Добрае, мілае, больш чым простае абліччa! І праз гэтую прастату, дзе затоены рысы мадон, што падгледзеў некалі ў вясковых дзяўчат Максім Багдановіч, я гатоў прысягнуць: ніколі, нідзе ад той пары не сустракаў я нікога прыгажэйшага, так мякка, нібы вячорным сонцам, была асветлена яна ўся някідкім хараством душы.

— Што ж ты маўчыш, Толя?

Яны зноў абдымаюцца, і ўжо ўсім, хто тут ёсць, відно: сябры засталіся сябрамі, усё вальней і лягчэй робіцца ім, паплакаўшы пасля доўгай ростані.

Не ведаю, куды падзець сябе, на сцэне аказваецца поўным-поўна знаёмых і незнаёмых. Уцякаць — не выпадае, не лепш і стаяць тут, як быццам у ролі выпадковага назіральніка. Але я не быў такім і не надта паказваў вочы на святло.

— А з кім ты прыйшоў, Толя? Ну, мы то мы, а чаго ты румзаеш? — Харужая ўжо смяецца, звяртаючыся да мяне.— Ведаю, ведаю! — Яна перапытвае маё прозвішча і падыходзіць бліжэй: — Я твае вершы дзяўчатам чытала. Ну, дзе ж яшчэ? У турме.

Дарагая вестка цешыць і аглушае — маўчу. Харужая на момант прыхінаецца галавою да пляча:

— Дык і ты рыжаваты? Значыць, павінен быць заядлы. Будзем дружыць...

На сцэну выплывае Купала з неадменным кійком на рукаве. Вітаецца з людзьмі і, расцягваючы склады, здалёк гукае:

— Ве-рач-ка!

Зноў абдымкі, пацалункі і мокрыя ва ўсіх вочы.

А найбольш — яшчэ ў аднаго з блізкіх Верыных сяброў. Таго самага «таварыша С.», каму так адрасаваліся частыя лісты са зняволення. Ён — Сёмка, пакамсамольску,— працаваў тады ў ЦК МОПР пад пільным і патрабавальным вокам А. Д. Стасавай. Дазнаўся, што Вера прыязджае, і ўзгарэўся. Хоць бы на дзень які злётаць у Мінск, прывітаць таварышку на роднай зямлі. Аднак усе спробы пачаць гаворку пра гэта перад начальствам цярпелі няўдачу.

Давялося пастукацца да чалавека, якому ніхто і ні ў чым не мог адмовіць. Надзея Канстанцінаўна выслухала ўсё, уздыхнула і напісала на карталюшцы: «Дарагая Алена Дзмітраўна, у мяне да Вас вялікая просьба: адпусціце тав. Кэмрада на пару дзён сустрэць на мяжы т. Харужую, якая прасе́дзела 7 гадоў у польскай турме. Яны блізкія таварышы. Прыедзе — паднацісне на работу. Трэба ж у іх скуру ўлезці. Будзьце добранькая, гэта мая асабістая просьба. Моцна цісну руку. Н. Крупская».

Непрабіўны мур пахіснуўся, дазвол быў дадзены. І хлопец тут. Стаіць поруч з Верай, як быццам і не было таго расстання.

І вось я ўжо гляджу і слухаю з залы.

Неяк асабліва хораша і ўрачыста гучыць сёння беларуская мова. І ў старшыні сходу, чорнабародага сакратара акруговага камітэта партыі, і ў былых зняволеных, цяпер роўных з намі ўсімі грамадзян, і, нарэшце, у вуснах доўгачаканай Веры.

Так і крыкнула на сотні галасоў зала:

— Вера! Вера!

Усе падхваціліся з месцаў, моладзь рынулася ў праходы, вось-вось падхопіць на рукі сваю ўлюбёнку і панясе яе, як несла ўначы на вакзале.

Харужая доўга стаяла перад трыбункай моўчкі і, калі б нават хутчэй утаймаваліся несціханыя воплескі і воклічы, напэўна, не знайшла б сілы абазвацца адразу.

Падняла абедзве рукі, просячы цішыні, пасміхнулася.

І загаварыла, зрушыла такую патоку згаладалых па волі, па роднай зямлі і ўжо раскаваных пачуццяў,

што боязна было дыхнуць, узлятаючы за ёю з грэбеня адной хвалі на яшчэ вышэйшую.

Як пераказаць пачутае? Хіба ж пераказваюцца словамі: полымя, гром, паводка?

Стан збялелага ад радасці і хвалявання чалавека на трыбуне, напал узрушанай да апошняга аўдыторыі — дапамагчы ўявіць усё гэта можа сама Харужая, адзін з яе лістоў:

«...Мне заўсёды хочацца пісаць Воля з вялікай літары. Ёсць яшчэ некалькі такіх слоў...»

Вось так і гаварыла яна ў той вечар: толькі словы з вялікай літары, самыя дарагія.

А потым мы ўсе спявалі, як часта рабілі ў тыя гады: перад пачаткам сходаў і абавязкова ў канцы, а здаралася — і ў сярэдзіне.

— Паўстань, праклятцем катаваны! — узляцеў пад столь неўміручае сілы заклік.

— Паўстань! — вымавілі другі раз яшчэ званчэй і гучней людзі розных нацый, камуністы і беспартыйныя, камсамольцы з румянцам на ўсю шчаку і сівагаловыя ветэраны трох рэвалюцый.

Пяе Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў, пяе Вера, варушыць вуснамі натхнёны перакладчык гімна камуністаў Янка Купала.

Пяём, амаль навобмацак адчуваючы непарыўную сувязь пакаленняў, непарыўныя повязі рэвалюцыйнага руху.

Пяём; сталыя і маладыя, шчаслівыя стаяць разам у шэрагах, прычыніцца да бессмяротнага пачатку першага, ленінскага хрышчэння бальшавікоў.

Пяём. І сцены будынка, здаецца не мне аднаму, расступаюцца, і поруч з урадам рэспублікі пяюць не толькі вырваныя ў капіталу вязні, ужо людзі аднае з намі сям'і,— пяе ўся яна, змёўшы межы, зламаўшы паняволенне, наша спрадвеку заходняя зямля, уз'яднаўшыся пад найлепшым у свеце сцягам сярпа і молата.

Пяём, нібы прадчуваючы, што наша мара зусім блізка ад ганкаў, гатова стукнуць у дзверы, і, каб стаць явай, ёй застаецца ступіць з гэтага верасня ў вызваленчы менш за дзесятак крокаў-гадоў.

*1973*

## ВЕЧНАЯ НЯВЕСТА

### 1

Сустрэча з ім была такая ж нечаканая, як і раптоўнае знікненне гэтага чалавека...

Я прыехаў у Сухумі позняй восенню 1936 года. У Маскве было золка, дзень і ноч вісела дробная імжака, а старыя клёны ў скверы каля Крамлёўскай сцяны ўжо не мелі чым акрыцца. Раніцай, ідучы на работу па яшчэ не падмеценых алеях, я чуў, як след у след скача з ліста на ліст цыбаты дожджык на тонкіх вераб'іных ножках. А ў мяне адна справа набягала на другую, і вырвацца ў адпачынак ніяк не ўдавалася. Трэба было рабіць, хоць назбіраная за год змора ўсё часцей надакучала бяссонніцай і галаўным болем.

Нарэшце — перон Курскага вакзала! Пачмыхвае парай перад дарогаю на поўдзень хуткі. Уся стомленасць і нядужасць, разам са штодзённай мітуснёй, шэранькім надвор'ем і няўтульнасцю майго халасцяцкага пакойчыка на Цвярскім бульвары, раптоўна адступіліся. Пад Растовам, калі паўз акно вагона пабеглі яшчэ толькі ледзь-ледзь прыжоўклыя таполі, нават спяваць захацелася. І я, выпіўшы шклянку віна, мармытаў сам сабе нешта накшталт «Чарнаморац мой не едзе» — слаўнае мора прадчувалася, можна сказаць, за паваротам.

У Сухумі пасля надаеднай асенняй слаты асабліва ярка сінела неба і свяціла сонца. Неахаладалая хваля раз-поразу пагладжвала ўзбярэжны пясок, заліваліся цветам ружы ў скверы, а па вуліцах мільгалі лёгкія сукні жанчын, хадзілі мужчыны ў белым.

Дамовіўшыся пра месца ў гасцініцы, я адразу рушыў у горы. Лапушыліся, чакаючы свайго зацвітання, мімозы, і ў іхнім зацішку прыезджыя людзі пражылі на сонцы і так загарэлыя да нельга твары і спіны. Праз паўгадзіны я ўжо рабіў тое самае, перагаворваючыся з суседзямі па імправізаваным пляжы наконт абедаў і вячэр, кіно і мясцовага малпятніка.

На жаль, сіняя паўднёвая казка адляцела — не

дазволіла і нацешыцца з сябе. Назаўтра мяне і тут дагнаў дождж, толькі, прабегшы двое сутак з поўначы, ён, што называецца, разышоўся, стаў не ніцяны, а ўлеўны. Струмені сцёбалі, як пастухоўскія пугі, і пакуль я пераскочыў з гасцініцы ў кафэ, плечы ў плашчы сталі добра мокрыя.

Тут пачалося знаёмства з чалавекам, нават больш — з цэлай парою, адлучанай ад маіх вачэй заслонай часу і таямнічых акалічнасцей.

Сапсуты дзень, а можа і цэлы адпачынак! Я сядзеў за столікам, кленучы ў душы паганае надвор'е. Таму і не адразу адгукнуўся, калі нехта спытаў дазволу прысесці разам,— высокі худы мужчына вымушаны быў паўтарыць просьбу. Дый гэта, па праўдзе сказаць, здзівіла крыху: кафэ амаль пуставала, можна было абысціся і без суседства.

— Калі ласка! — я паказаў на крэсла збоку, аднак ён зрабіў крок, каб сесці насупраць мяне, спінаю да святла.

— Калі ласка? — ён пакланіўся, і я адчуў на сабе дапытлівыя вочы.

Гэты зварот вырваўся ў мяне не сказаць каб выпадкова — роднае слова заўсёды ўсплывае ў скрутную хвіліну, а тут я пачуваў сябе некалькі вінаватым.

— Значыць, на беларуса пашанцавала? — пытанне гучала дабрадушліва, ён відавочна не пакрыўдзіўся.— Выходзіць, мы амаль што землякі. Я ў мінскай турме на дзвюх адседках быў.— І падаў руку: — Сяргей Іванавіч.

— Міхаіл Трафімавіч,— назваўся і я.

— Ну, па ўзросце вы для мяне проста Міша. Не будзе абразы, калі скажу так?

У голасе ў Сяргея Іванавіча чулася нешта бацькоўскае, і я паспяшаўся запэўніць, што не хварэю на залішняе самалюбства. Апрача таго, гэта абяцала магчымасць звесці знаёмства карацей. Ужо ж не крадзеж і махлярства прыводзілі яго двойчы за краты, не выглядаў ён на такога. А калі гэтак, дык можа ўдасца зазірнуць у гарачы час, калі старэйшыя браліся за зброю, каб перайначыць жыццё.

— Будуеце гарады ці проста аматарская цікавасць?

Адгадка такой пранікнёнасці ляжала поблізу: Сяргей Іванавіч прачытаў назву кнігі, якую я прыхапіў з сабою, збіраючыся снедаць. Але на першым часе мне стала ніякавата. Чамусьці ўсё пайшло наадварот: збіраўся выклікаць на размову яго, а загаварыў сам. Расказаў, што архітэктура — мая прафесія, адукацыю заканчваў у Маскве. І працую там зараз: пакінуў у сябе ў майстэрні вядомы ўжо майстар гэтага мастацтва.

Сяргей Іванавіч здаваўся здаволеным маімі растлумачэннямі. Упраўляючыся з яечняй і чабурэкамі, мы гаварылі пра нязначныя рэчы. Маўляў, па-сапраўднаму адпачыць можна вось так, як мы з ім, «дзікім» парадкам. У санаторыях ты сабе не гаспадар: лячэнне — прызначаць усё роўна, трэба ці не трэба,— нудны рэжым, а для развагі — масавік з гармонікам і дапатопнымі жартамі.

— Толькі што там людзі наўкол,— уздыхнуў Сяргей Іванавіч.— Я вось пражыў колькі дзён адзін і не вытрымаў: пайшоў набівацца да вас на размову. А заракаўся: з чым прыехаў, з тым паеду...

— А чаму да мяне? — пацікавіўся я і зараз жа адчуў нетактоўнасць. Лёс сутыкнуў мяне з чалавекам відавочна незвычайным, і спудзіць яго прыхільнасць было б недаравальна.

— Чаму? Не ведаю, самі ногі павялі да вашага століка.

Лоб яго быў спісажаны зморшчкамі, і хоць бы крывінка пазначылася на твары. Шчокі здаваліся абцягнутымі васкаванай паперай, як у людзей з невылечнымі хваробамі. Не-не дый заводзіліся вочы пад павекі, што, аднак, не магло схаваць трывожнага пабліскваня ў зрэнках. Сяргей Іванавіч нязграбна абыходзіўся з нажом і відэльцам: пальцы на адной руцэ амаль не гнуліся, відаць, былі пашкоджаны ў суставах.

Ён перахапіў мой позірк і падняў над сталом рукі:

— Гэта ў мяне з Мінска памятка. Правая рука падгуляла, затое левая — разумніца: піша і выбівае дзевяць з дзесяці магчымых. Вядома, з рэвальвера. Як гэта здарылася? Даўгаватая песня.

Некаторы час мы сядзелі моўчкі. Ён глядзеў мне проста ў твар, нібыта выпрабоўваючы, і пад вострым позіркам рабілася неспакойна.

— Ведаеце, Міша, ёсць прапанова... Вы, здаецца мне, з тых людзей, у каго вочы бачаць болей, чым выпускаюць на язык. Відаць, мяне нездарма пацягнула да вашага століка. Я ўжо столькі наашукваўся ў людзях, што не магу і на гэты раз памыліцца. Да таго ж, кажуць, архітэктары думаюць аб'ёмамі. Мне не здаралася сустракацца з такой пародай. Я думаю лінейна, у адной роўніцы. Разумееце, да мяне прыйшло дзівацкае прадчуванне, нібыта з гэтым светам давядзецца хутка развітацца. Вечарамі не знаходжу месца, трэба жывая душа поруч...

Сяргей Іванавіч памкнуўся сказаць яшчэ штосьці, але стрымаўся. Потым махнуў рукою і падняў на мяне павесялелыя вочы:

— У вас добры пакой у гасцініцы? Тры ложкі? Мнагавата. А я адзін на цэлую кватэру — гаспадары паехалі аж да новага года. Дык ці не згодзіцеся вы?.. Гарантуецца асобны пакой і добрая кухня. Так што можна піць чай і варыць каву дома. А пры жаданні і шашлык спячом, я нагледзеў, дзе шампуры і вугалле.

Пакуль я ўзважваў, як могуць павярнуцца гэтыя пярэбары, ён, па-ранейшаму, лавіў мае вочы ў свае.

— Не згодны? Ну, як сабе хочаце. Хоць павінен сказаць: апрача бар'еру ўзросту, вам нічога не пагражае. Я — у асноўным — ціхі і не даю адчуваць свае прысутнасці. Ды што вам? Напэўна, на які бок ляжаце, з таго і ўстаяце, хоць у бубен грымі над вухам.

Мне стала брыдка. Чалавек, які ведае, што душа найлепей набіраецца сілы ў адзіноце, раптам хоча выбавіцца з яе. А ты? Хіба ніколі не адчуваў патрэбы абтрэсці цяжкі настрой з дапамогай сабе падобных? Табе ж ішлі насустрач...

Ён прачытаў маю згоду ў вачах.

— Ну, вось так бы і адразу! — Сяргей Іванавіч устаў і паклаў руку мне на плячо.— Дождж перасціх, пройдзем куды-небудзь. Потым забяром вашы гардэробы з гасцініцы і справім улазіны. Так, здаецца, па-вашаму называюць перасяленне ў новае жытло?

2

— Па ўсім бачу, нам трэба зраўняць шанцы,— Сяргей Іванавіч закурыў і прылёг на канапу.— Вы пра сябе тое-сёе расказалі, а цяпер — мая чарга. Закон супольнага існавання абавязвае.

З нашай ранішняй праходкі нічога не атрымалася, сонца толькі падражнілася, а дождж і не думаў пераносіцца са сваімі палівачкамі ў іншае месца. Я перацягнуў рэчы на кватэру да Сяргея Іванавіча. Тут было ціха, прасторна, а галоўнае — проста пад вокнамі пашумлівала мора і за апонай дажджу ўгадвалася далёкая сінеча ветраных разлогаў.

Гадзіна была перад вечарам і сама хіліла да непаспешнай гаворкі.

— Успамінаць зняволенне — мала прыемнасці. Гэты стан пярэчыць прыродзе жывога. Нават расліны і тыя нудзяцца пад штучнымі дахамі. Знаёмы агароднік расказваў мне, нібыта ў яго кожную вясну адзін-два агуркі абавязкова ўцякаюць з цяпліцы. Належыцца зернетка ў перагнойнай цемры, вылезе парастак. Наўздагад, здаецца, а шыецца і беспамылкова вылазіць дзе-небудзь з-пад сцяны, проста пад вясновы дожджык. Выломваюцца звяры з вальераў, і, вядома ж, уцякаюць людзі з-за крат. Уцякаў і я. Астрог ёсць астрог. Сцены — на метр таўшчыні, халодныя, як быццам усярэдзіне лёд замураваны. Што яшчэ? Кавалачак неба ў акенцы, забраным у жалеза, убачыш часам аблачынкі шматок — і шчаслівы! Дык як не ўцякаць з такой выгоды? Будзеш голымі пазногцямі цэглу дзерці, у вераб'я крылы пазычыш, а вырвешся. Пераляціш, пераскочыш...

Сяргей Іванавіч падсунуў да сябе крэсла з папяльнічкай.

— Нудна? — ён перахапіў мой позірк за акно ў туманную далеч мора.— Дождж у некаторым родзе дазваляе адчуць слодыч таго стану, пра які я гавару: нікуды не вытнешся, макрыня. Сядзі, са столі не капае — і тым будзь давольны. Зрэшты, гэтыя акалічнасці можна і ў мастацкай літаратуры знайсці. Ну добра! Дождж прывязаў нас з вамі на дзень, на два. А я, разам злажыўшы абедзве мае адседкі, месяцаў трыццаць пракачаўся на юрцах. Не чулі? Юр-

цы — турэмныя нары, страшэнна мулкія. Чалавек засынае на паўгадзіны, не больш, і прачынаецца — бок адлежаў. Так і варочаецца ўсю ноч, а сябры па камеры падсмейваюцца: «Юр напаў!» Разумееце? Вясновы неспакой птушак і жывёл, перад тым як паркавацца. Бачыце, вашы суайчыннікі не гублялі гумару і пад замком. Я пра іх і гаварыць буду, пра вашых землякоў.

Сергея Іванавіча пачало апаноўваць хваляванне. Сеў на канапу, не ўседзеў, пачаў мераць крокамі пакой, заходзячы і ў мой, куды былі адчынены дзверы.

— Пасля Лютаўскай рэвалюцыі павялося як каму. Адных вызвалялі, а другіх — мяне, скажам,— за шкірку і браму наглуха...

Ён зрабіў выразны жэст і зноў закурыў.

— Мяне перакінулі на Заходні фронт, там стаяў адзін з грэнадзёрскіх карпусоў. А даручана мне было тое самае, што камандуючы фронтам Балуеў абвясціў рэвалюцыйнай прапагандай. За гэта належала ні многа ні мала: ваенна-палявы суд і пакаранне смерцю. Паднятае Часовым урадам наступленне скончылася вядома як. Ліпеньскія падзеі...— Сяргей Іванавіч спыніўся.— Трэба тлумачыць, што гэта такое? Не? Салдацкі кацёл зашумеў крутым кіпнем. Мітынгі, дэманстрацыі, сходкі, камітэты. За Піцерам — Мінск, можна сказаць — франтавы горад. Ваяваць ніхто не хоча. Кераншчыкі ўзяліся за распраўы. Акажацца ў часці бальшавіцкі настрой, яе адразу на расфарміроўку, а то цэлымі батальёнамі — у турму. Лепшай паслугі нам яны і зрабіць не маглі. Уяўляеце, тысяч шэсць франтавікоў, за кратамі. І гэта толькі ў Полацку і ў Мінску. Глеба — самая ўдзячная, фарміруй бальшавіцкія часці і выходзь браць уладу.

Мяне прывезлі ў мінскі астрог. Што я член карпуснога камітэта, бальшавік — расказваць не трэба было. Ведалі, што і пры цары сядзеў. З гэтай прычыны рабілі выгляд, нібыта паважаюць, лічацца. Пасадзілі ў лепшую камеру, чуць гусцейшую баланду носяць. І кожны дзень — размовы. То да намесніка камандуючага вязуць, то валачэцца адвакат да мяне. Быў такі дзядок, з эсэраў. Член можа дзесяці розных камітэтаў, і ў тым ліку «абароны рэвалюцыі».

Цягнуць на свой бок, як толькі могуць. Чаго твая душа ніколі не пажадае, і тое абяцаюць. Не за так сабе, не. Абзавіся, маўляў, скажы — ваяваць да пераможнага канца, напішы адозву, калі не хочаш паказвацца публічна.

Сяргей Іванавіч спыніўся каля акна, узлакоціўся на спінку майго крэсла.

— Не засумавалі? Як-ніяк, амаль дваццаць гадоў прайшло, інтарэсы ў людзей змяніліся. І самі людзі, вядома. А тыя падзеі — жывыя. З чыстага зерня выраслі, цяплом многіх душ абагрэты...

Пабачыўшы на маім твары цікавасць, ён вярнуўся да ранейшага.

— Дык вось. Пэўна, з месяц ішлі ў мяне з тымі асобамі, так сказаць, праграмныя спрэчкі. Надакучыла. «Чаго дарма ваду ў ступе таўчы? — кажу.— Мы адзін аднаго пераканаць не можам, дык вынесем гаворку да салдатаў: за кім пойдзе большасць, таго і праўда». Мне далі зразумець: упартасць ні да чога, падумай, чалавеча, ты будзеш мець для гэтага час і адпаведныя ўмовы. Неўзабаве да мяне пачалі раптам чапляцца наглядчыкі: то доўга мыюся, то не хутка ўстаю. І я паддаўся на правакацыю: адказаў грубасцю. Сунулі ў карцэр, стварылі ўмовы думаць. Тут ужо і акенца не было, шчыліна нейкая пры самай зямлі, закратавана і знадворку застаўлена глухім шчытом.

Што дзень, што ноч — не разабраць, цемра. І я страціў адчуванне часу, дакладней — мяжу паміж днём і ноччу. Не памагаў і гадзіннік, удалося неяк прыхаваць яго, можа толькі горш з толку збіваў. Цыферблат і стрэлкі ў ім свяціліся, гэта навінка была, з-за мяжы прывезена. Такім чынам, я ведаў, катораю гадзіна, але блытаў дзень і ноч. Гэта магло скончыцца псіхічным захворваннем, каб не адзін ваш зямляк. І хто б, вы думалі?

Сяргей Іванавіч неяк асабліва гучна пстрыкнуў пальцамі.

— Турэмны наглядчык! Па мянушцы — Маніфест, бо ён выстройваў твар пад так званага цара — вызваліцеля сялян: гадаваў вусы і бакі, а падбароддзе начыста галіў. Служака, аддany начальству, тут на палёгку і не спадзявайся, арыштант! Я схапіўся

з ім аднойчы. Глянуў на гадзіннік — ноч, людзі спяць, а ён разносіць хлеб і кіпень. Крычу: «Яшчэ дзве гадзіны, а ад вас спакою няма». Маніфест на гэта як быццам ніякай увагі, а праз суткі тое самае, у тую ж пару. Я зноў учыняю гвалт. Ён пытае: «Адкуль вам вядома, што зараз дзве гадзіны?» — «Вось маеце,— я быў не ў сабе,— гадзіннік — гэта не паліцэйскі сабака, не збрэша». Маніфест адным кідком да мяне і выхапіў гадзіннік. «Ад гэтага часу,— выскаляецца,— калі я скажу, тады і будзе раніца або вечар. Вы ў нашых руках і павінны жыць па нашым часе. А калі хочаце ведаць, зараз дзве гадзіны дня — абед. Сілкуйцеся на здароўе!»

— Задалікатна для вернага служакі...

Сяргей Іванавіч пасміхнуўся на маю заўвагу.

— Вось і я пачуў у голасе Маніфеста спачуванне. Ён падумаў, што ў цемры і ў адзіноце я кіўнуўся з розуму. І не толькі падумаў, а так і далажыў начальству. Да мяне на агледзіны з'явіўся сам начальнік турмы і доктара прывёў. Мяккенькія абодва, цягнуць размову абы пра што, відавочна прамацваюць, ці канчаткова я даспеў да вар'ята. Пасля іх прыйшоў Маніфест і ўжо зусім ласкава абвяшчае: «Вас загадана перавесці ў іншае месца. Калі ласка, не спяшайцеся. Вам адразу на святло нельга, каб не аслеплі часам. Я ад акна шчыток адсланю, пабудзьце ў паўзмроку крыху. А потым і перавядзём, не хвалюйцеся». Сяджу, чакаю, думаю: «Што гэта з Маніфестам здарылася? Не можа быць, каб у сабакі раптам усе зубы выпалі. Мусіць, нашы верх бяруць, таму яны і са мною шануюцца». Але прычына была не ў гэтым, мы да яе дойдзем пазней.

У агульнай камеры лягчэй стала. Асабліва калі туды падкінулі маладога грэнадзёра Гаўрылку. Я помніў яго яшчэ з палка. На ўсе салдацкія сходкі — першы. Сядзіць, слухае кожнае слова ўважліва, здаецца, бачыш, як у ім душа расце. Непісьменны, можна сказаць, цёмны хлапчук, а сэрцам чуў, да чаго гарнуцца. Бальшавікам ад такіх вялікая падтрымка была.

Вось вам яшчэ адзін зямляк. І што цікава, яму давялося, як потым высветлілася, працаваць заадно з Маніфестам.

Пра гэта — другім разам. Я пайшоў заварваць чай, вам, па маладосці, такія адказныя справы не даяраюцца. Можаце накроіць хлеба, дастаць масла і што мы там яшчэ купілі...

### 3

Абяцаны «другі раз» надышоў не вельмі хутка і не зусім так, як мне хацелася.

Кастрычнік у самым канцы сваім абдараваў вадою і небам амаль аднолькавай сінізны. З набярэжнай не пазнаць было, дзе яно, у якім баку, мора: тут, за жоўтай стужкаю берага, ці там, над гарамі, куды, нібы па прыступках, узбягаў вечназялёны падлесак.

Сяргей Іванавіч рашуча адхіліў намеры загараць у аблюбаваным мною мімозным зацішку. Дзень у дзень мы хадзілі ў розных кірунках і памногу. Нават купаліся, хоць тэмпература мора не дацягвала да курортнай нормы. Праўда, ахватней і даўжэй прарабляў водныя працэдуры Сяргей Іванавіч: папанацку жвава акунаўся і плыў, пакуль не забівала духі. У вандроўках да бліжэйшых рэк Гумісты і Кадоры ён не зазнаваў стомы.

Паснедаўшы, мы выбіраліся часцей за ўсё ў ваколіцы Кадоры. Ехалі крыху, потым падымаліся па берагах ракі ўгару. Сяргей Іванавіч як назнарок выбіраў самыя крутыя сцяжыны і найбольш працяглыя маршруты. Лёгка скакаў з каменя на камень, умела перабіраўся па скальных парожках над прорвамі. Я даўно быў гатовы прасіць злітавання, а ён сабе ішоў ды ішоў, памахваючы знятаю з плячэй кашуляй.

Нарэшце абвяшчаўся прывал. Мы з'ядалі па бутэрброду, закусвалі мандарынамі і з паўгадзіны спачывалі нерухома пад халоднае пабульканне горнай ракі.

Дрэнны настрой майго спадарожніка як быццам пачынаў развейвацца. Ён стаў падкпіваць з мае нецягавітасці, чакаючы, пакуль я адолею чарговы пад'ём, гаварыў: «Ну вось, пяць крокаў па адхоне — і ўжо засопся. Колькі вам гадоў? Трыццаці няма? А мне ўсе сорак, з хвосцікам. Значыць, наперад! І не крыставаць».

І ўсё ж мяне не пакідала думка, што трывогі яго не сышлі назусім, што ён усё нечага чакае, да нечага рыхтуецца.

Сяргей Іванавіч добра арыентаваўся ў гарах, выбіраў найбольш зручныя і кароткія дарогі. Узнікалі здагадкі, што ён бываў у гэтых мясцінах раней і яны нечым дарагія яму. Такое ўражанне асабліва ўмацавалася, калі расказваў дарогаю, як поблізу гэтай самай ракі чырвоныя атрады цэлы тыдзень не падпускалі да Сухумі меншавіцкіх войскаў. Толькі бачыўшы на свае вочы, можна было пералічыць, колькі атак і дзе давялося адбіваць за дзень абаронцам горада, толькі ведаючы ў твар кожнага, можна было называць іх прозвішчы, паўтараць іх перадсмяротныя воклічы. Аднак ад свайго ўдзелу ў гэтых баях Сяргей Іванавіч не сказаць што адрокся, але невыразна хмыкнуў:

— Мала...

І болей ні слова. Не адказаў таксама толкам, ці не давялося яму і сухумскай турмы пакаштаваць, адмахнуўся:

— Амаль што...

Затое пачатая некалі гісторыя пра зняволенне ў Мінску, наглядчыка Маніфеста і салдата Гаўрылку хутка атрымала нечаканы штуршок і пачала разгортвацца далей.

4

Мінула два тыдні, я заказаў білет на зваротную дарогу. Сяргей Іванавіч не спяшаўся з гэтым, яму належаў адпачынак за два гады.

Тым часам надвор'е пагоршала, і выбірацца на ўвесь дзень за горад стала рызыкоўна — нахватваліся пралётныя дажджы.

Мы гулялі поблізу свайго жытла. Не ведаю, так было толькі ў тым годзе ці гэта звычайная для горада з'ява: прыкладна каля паўдня ад бухты дзьмуў чысты, свежы вецер з паўднёвага захаду, пад вечар на некаторы час ціхэла, а яшчэ пазней паветра пачынала рух у адваротным кірунку, з паўночнага ўсходу. Такім чынам, на горад як бы працавалі два натуральныя вентылятары, прадзімалі яго наскрозь.

Прыкмеціўшы гэта, мы навучыліся выбіраць час, калі лепей выходзіць на праходку, падыхаць на поўныя грудзі, бо паветра, роўнага па чысціні, не глынеш і ў Кіславодску — там няма мора.

Аднойчы, вярнуўшыся з кіно, куды мне Сяргей Іванавіч звычайна не таварышаваў, я не застаў яго дома. На стале, пераплётам дагары, ляжала разгорнутая кніга, якую ён прывёз з сабою і не выпускаў з рук апошнія дні. Гэта была гісторыя нешчаслівых прыгод высакароднага гідальга Ламанчскага на іспанскай мове. Сяргей Іванавіч не карыстаўся слоўнікам і калі-нікалі перакладаў мне даволі вялікія, асабліва ўпадабаныя ім мясціны.

Даўно мінуў час нашых сумесных падвячоркаў, а яго ўсё не было. Пры той акуратнасці, з якой ён пільнаваўся дамоўленага распарадку дня, гэта здзіўляла. Пачакаўшы яшчэ з паўгадзіны, я выпіў чаю, але са стала не прыбіраў, а чайнік сунуў пад падушку.

Блізка дванаццатай гадзіны, калі мне стала трывожна, дзверы адчыніліся.

— Заходзь! — Сяргей Іванавіч прапусціў перад сабою здаравяку ваеннага з ромбам на пяхотных пятліцах.

Ваенны даволі нядбала кіўнуў мне галавою і жартліва казырнуў Сяргею Іванавічу:

— Дазвольце адбыць у распалажэнне санаторыя?

Яны абняліся.

— Пазналі? — спытаў Сяргей Іванавіч, правёўшы свайго спадарожніка.— Не? Ну і брыдка. Як можна не пазнаваць землякоў? З яго ж, хоць і ў высокіх чынах ходзіць, акцэнт так і прэ. Як і з вас, між іншым. Гэта не ў ганьбу,— засмяяўся ён.— Я схілен верыць выслоўю: «Матчына слова ў пялёнкі кладзе і за труною брыдзе». Чулі?

Сяргей Іванавіч павесіў у шафу пінжак, адгарнуў коўдру на ложку.

— Наша не азмрочанае ніводнай сваркай знаёмства,— загаварыў ён, пабліскваючы вачыма,— дае мне права засведчыць буйны недахоп у вашым характары.

Высокі, нязвыклы яму стыль размовы змушаў чакаць нейкай падэсці. «Што будзе далей?» — падумалася мімаволі.

— У вас поўная адсутнасць цікаўнасці. Недахоп? — Ён падумаў крыху.— А можа і не. У падполлі некалі гаварылі: «Меней ведаеш, меней раскажаш». У дадзеным выпадку аднясём вашу нецікаўнасць на рахунак прыроджанага далікацтва.

Зноў усмешка і зноў закрашаныя ironіяй словы:

— І ўсё ж, Міша, каб вярнуліся пасля поўначы вы, ды яшчэ з незнаёмым, ды яшчэ пацалаваліся б з ім, я загнаў бы вас запытаннямі пад самую столь.

Разумеючы, што мяне паддражніваюць, я напусціў на сябе непрабіўную абыякавасць. Падышоў да палічкі з кнігамі як быццам выбраць што-небудзь на сон.

— Значыць, нецікава? — ён сеў на ложак і пагасіў лямпачку.— Тады будзем спаць у святым няведанні...

— Сяргей Іванавіч! — узмаліўся я, хоць і адчуваў, што вядзецца тая ж гульня.— Адкуль мне што ведаць, калі вы не хочаце гаварыць?

Лямпачка пры ягоным ложку зноў запалілася.

— Так, канстатуем яшчэ адзін ваш недахоп: адсутнасць назіральнасці. Можна было лёгка здагадацца, хто прыходзіў. Лічыце адзнакі: ваенны — раз, абдымаемся, значыць, мы добрыя сябры — два, ён звяртаецца да мяне, як да старэйшага,— тры, беларускі акцэнт...

— Сяргей Іванавіч, у задачы вельмі шмат невядомых...

— Ды Гаўрылка ж гэта, Гаўрылка. Той самы, з кім турэмныя юрцы дзялілі. Адкуль узяўся? Проста з неба, прызямліўся каля тытунёвага кіёска на вуліцы. Я прашу ў прадаўца «Казбек», а нехта мяне схапіў ззаду за плечы і не дае павярнуцца. Нарэшце адпусціў. Гляджу, не пазнаю ніяк. Пакуль не абазваўся. А яго бог голасам надзяліў: век, пачуўшы, не забудзеш. Стаім, ляпаем адзін аднаго па плячах, а гаварыць не можам. Па шклянцы сухога ўзялі, тады насілу языкі размачылі. Пацягнуў ён да сябе ў госці, у «Сіноп». Давай угаворваць перабірацца да іх у санаторый. Можна было б... Хлопец — са старой дружбы, ціха там і догляд нішто. Але...

У вачах Сяргея Іванавіча зноў з'явіўся знаёмы выраз чакання і заклапочанасці.

— Але,— паўтарыў ён,— дабудзем разам да вашага ад'езду... Свята ў мяне, Міша, сёння... Свята... Мне хацелася, каб яно і вам пасвяціла. Таму даруйце, калі што якое...

5

— І навошта вам было тое кіно? Мы ўчора з Гаўрылкам усю нашу турэмную мінуўшчыну ператрэслі. А можа зараз да яго рушыць?

Сяргей Іванавіч пасля ўчарашняга гасцявання пабадзёраў і пасвяжэў. У белай пікейнай кашулі, гладка паголены, ён спыняў на сабе ўвагу крыху ўрачыстым выглядам.

Мы сядзелі пад бамбукавай засенню каля набярэжнай. Разгульваўся дзень, абяцаючы нескупое святло. Не толькі некуды ісці, нават варухнуць рукою не хацелася, каб не пабунтаваць выпадкам сіняга спакою ў прасторы.

У такім самым стане знаходзіўся, відаць, і мой суразмоўнік.

— Не,— прамовіў ён,— сама раз брацца за ўспаміны цяпер. І ўдвух. Вы і Гаўрылка незнаёмыя, адчувалі б сябе звязанымі на першым часе. А ўчора мы багата аднавілі ў памяці. Пойдзем па гарачых слядах...

Сяргей Іванавіч устаў, нечым нагадаўшы плыўца, які стаіць над запененым вірам і вось-вось кінецца туды.

— Я не сказаў, здаецца, што сустрэча з Гаўрылкам у турме была невыпадковая. Карпусному камітэту спатрэбілася перадаць мне і атрымаць такія-сякія весткі. Як? Трапіць у турму. А гэта не вельмі проста. Вось калі не хочаш — яна сама браму расчыняе. Думалі, гадалі хлопцы: каго паслаць? Трэба было, каб і я паверыў, што не правакатар прыйшоў, і каб казацкія патрулі мелі падставы затрымаць яго. Выбар прыпаў на Гаўрылку: з выгляду праставаты, а хітрыны — хоць пазычай. «Ідзі,— сказалі яму,— галубок, проста ў сваю вёску. Не хаваючыся, па трактах. Затрымаюць, гавары: вайна нам без карысці, іду да бацькі, работу рабіць пара... Разлік быў правільны, і праз нейкі тыдзень Гаўрылка ўжо сёр-

баў арыштанцкі крупнік разам са мною. Што належала, ён мне перадаў, цяпер была турбота, як хлопца адправіць назад у часць. Нашы добрыя адносіны з ім не маглі не звярнуць увагі турэмшчыкаў. Вось і ўзяліся яны за Гаўрылку. Думалі, дазнаюцца, ці не задумана ў нас што, і за адным заходам мяне настрашаць.

Трапіў хлопец у лапы да следчага Ляцкага. П'янюга, шэльма, мардабойшчык, салдаты іначай трохі ягонае прозвішча вымаўлялі. Апрача дэзерцірства, Гаўрылку ні ў чым не звінавацііш, а гэты хвастакрут умудрыўся агітацыю супроць вайны прышыць. Пратрымаў на допыце суткі. А як прывялі ў камеру, глянуў я на свайго сябра і не пазнаў: твар апух, вочы пазаплывалі, што з ім рабілі, пытаць не трэба. Накармілі бедака, далі памыцца, пачаў расказваць. «Іх благароддзе, гаспадзін следчы,— кажа спакойна, а вочы гараць,— разы два ўсяго па шчацэ пагладзілі. Ручка далікатная, у пальчатцы, сам не ведаю, чаго гэта морда так падышла».— «А ў вас гаворка была якая?» — «Амаль што ніякай. Іх благароддзе, калі па мордзе гладзілі, дык і па зубах цалялі, але не парушылі: зубы ў нашым родзе да сямідзесяці год растуць».

Сяргей Іванавіч зябка павёў плячыма.

— Мяне перасмыкнула, як вось зараз. Гляджу: салдаты стоўпіліся вакол нас, маўчаць, але заціна-юцца — пальцы самі ў кулакі камечацца. Давай я далей распытваць: чаго дамагаліся на допыце, што ведаюць, на што найбольш насядалі. Гаўрылка павесялеў, дый, мусіць, менш балець стала. Пераказаў дакладна ўсё. Ён і дагэтуль гаворку са следчым слова ў слова помніць.

За плячыма ў нас пачуўся гучны, заразлівы рогат.

— Ну і размалёўваеце вы мяне, Сяргей Іванавіч!

Учарашні ваенны, зараз ён быў у цывільным, стаяў, узяўшыся ў бокі, відаць, ён даволі доўга слухаў нашу размову.

Прырода высякала гэту постаць, не вельмі турбуючыся пра тонкі інструмент: далей сякеры і долата справа, відавочна, не пайшла. А за мацунак можна ручацца: вычасала з векавога граба тулава, паста-

віла яго на магутныя ногі, ажывіла замашныя рукі. І пакінула, як у жывым дрэве, густую верхавіну — чупрына светлых валасоў спадала на лоб, адценьваючы чорныя з блішчынкай цыганскія вочы. Аднак грубаватасць постаці і простасць аблічча ніяк не шкодзілі яму, наадварот, прываблівалі своеасаблівай абаяльнасцю.

І я, вядома, мог пазнаць земляка — Сяргей Іванавіч казаў праўду, бо не раз жа бачыў падобных волатаў на родным Палессі.

— Сядай, калі не спяшаешся,— запрапанаваў Сяргей Іванавіч і пазнаёміў нас.

— Спяшаюся! — Гаўрыла Пятровіч, аднак, сеў і расшпіліў каўнер лёгкай кашулі.— Я ўсё-такі прыйшоў па вас, Сяргей Іванавіч. З галоўным урачом дамоўлена, пакой рыхтуюць самы ціхі...

— А мне і тут някепска. І ў мяне малады таварыш — Міша. Загадаеш кінуць яго?

— Ён даруе, дальбог, даруе! — Гаўрыла Пятровіч узяў мяне пад руку.— Ды ў нас з вамі дружба даўжэй трывае.— Ён не дазволіў мне абазвацца.— Ну, вось бачыце, у яго пярэчанняў няма. А каб у вас, Міша, крыўды не было, што забіраю такога чалавека...

— Пад нары! — гукнуў Сяргей Іванавіч, і яны абодва засмяяліся.— Гэта наш турэмны покліч. Як толькі хто перабіраў меру, гаварыў лішняе, яго адпраўлялі простым ходам туды,— палец Сяргея Іванавіча паказаў пад лаўку.

— А тут ніякага перабору. І я скажу, што́ хацеў, каб наш малады друг ведаў. Такіх людзей, як Сяргей Іванавіч, з кожным годам усё меншае. Узрост, нястачы, блуканні... Найбольш сілы паглынуў унутраны агонь, які падымаў іх у дарогі. Мала такіх... А роўных па розуме, трываласці, па заслугах, галоўнае, па сціпласці — пашукаць...

— Гаўрылка!

Сяргей Іванавіч нездаволена закурыў. Недакінуў да урны запалку і памкнуўся падняць яе.

— Ну, што я казаў? — Гаўрыла Пятровіч ускочыў і нагнуўся па запалку сам.— Колькі тут людзей сядзела, кідалі недакуркі і недасмалкі, і ніхто не па-

турбаваўся... А вы за сабою павінны і запалку прыбраць...

— Ты не гаворыш мне камплімептаў, дружа!

— Самі вінаваты, самі! — Гаўрыла Пятровіч крыху збянтэжыўся, але адказаў жартам: — Недавучылі лапуха...

— Гэтым ты ад мяне не адбаярышся.— Сяргей Іванавіч глядзеў убок і нібы сварыўся: — Тваё пустабайства і марнаслоўе не могуць быць нічым акуплены. Хіба што раскажаш Мішу, як ты са следчым Ляцкім размаўляў. Учора людзі за жываты браліся, хто слухаў.

— Што ж... Толькі ўмовімся: не прытрымліваць мяне за руку і не заганяць пад нары.

Сяргей Іванавіч не мог не пасміхнуцца, і апавяданне пачалося.

— Ведаеце, зямляк, я нездарма паставіў умову. Гэта гісторыя патрабуе чыстай праўды. А па праўдзе кажучы, з тым следчым размаўляў не зусім я. Вядома, я быў на допыце, але толькі варушыў вуснамі, гаварыў жа старэйшы і больш вопытны таварыш. Хто — здагадацца не цяжка...

На нездаволены рух Сяргея Іванавіча апавядальнік усміхнуўся мне адным бокам.

— Імёнаў дзеля сціпласці называць не будзем. Усе мае адказы следчаму былі загадзя абдуманы, вызначана лінія паводзін, як і што. Я тады быў — пацёмкі, так бы канцы з канцамі не звязаў. Слухайце. Прывялі мяне на допыт. Пакой пусты, як стадола, адзін стол ад сцяны да сцяны, быццам мост. А за сталом, на крэсле, нешта зусім дробненькае, і не відно добра. Галоўка стаўбуном, нібыта клінок з тварагом, і твар нейкі малочна-шэры.

«Падыдзі бліжэй!» — крычыць.

Падыходжу. Следчы ўсхваціўся і замахваецца па твары ўдарыць. Не дастаў з-за стала: ручкі кароткія, а я ладна ўгору вымахаў. Тады выбег на сярэдзіну пакоя:

«Сядзь!»

Не паспеў я сесці, а ён адну поўху, другую. А я не зважаю, што крыўдна дый балела,— умеў біць, хоць і нягеглы. Сяджу і рагачу.

«Чаго зубы продаеш, сукін сын? Яшчэ па зубах хочаш?»
«Вінават, ваша благароддзе, вёску ўспомніў».
«Якую такую вёску?»
«Маю родную, Кіяхі».
«А што цябе там, білі?»
«Нікак нет, ваша благароддзе. Там адзін дзядзька жыў, Раменьчык яго звалі па-вулічнаму. Сам прысадзісты, а жонку высозную, як хвойка, узяў. Дык ён, калі завядуцца ў сварцы, лезе на лаўку і крычыць: «Адэля! Ідзі сюды, я табе ў морду дам».
Следчы на дыбкі:
«З кім ты мяне раўняеш, сучая душа?»
«Я не раўняю, бо тая Адэля магла і за дзверы ўцячы. А я ад вашага благароддзя куды дзенуся?»
Тут ён мне яшчэ пару разоў адважыў.
— Гэтага мы ў камеры не прадугледжвалі,— не ўтрываў Сяргей Іванавіч.— Так што вы, Міша, улічвайце: у салдата Гаўрылкі былі прыроджаны гумар і схільнасць да імправізацыі.
— Не будзем адракацца ад уласных заслуг,— Гаўрыла Пятровіч нахіліў галаву і павёў апавяданне далей: — Астыў крыху мой следчы і давай пытаць:
«Грэнадзёр?»
«Так точна, ваша благароддзе!»
«Дэзерцір?»
«Так точна, ваша благароддзе?»
«Ваш полк — бальшавіцкі?»
«А як жа іначай, ваша благароддзе?»
«Я цябе, мамінага сына, яшчэ горш па храпе натраплю!»
«І гэтым давольны, ваша благароддзе».
«Ты што, здзекуешся?»
«Нікак нет, морда баліць, ваша благароддзе».
«А ты — бальшавік?»
«Як вы, так і я, ваша благароддзе».
«Як жа ты, бальшавік, з фронту ўцёк?»
«Дадому захацеў, ваша благароддзе».
«Дзе твае дакументы?»
«Скурыў, ваша благароддзе».
«Курыць хочаш?»
«Няма чаго, ваша благароддзе!»

«На, дымі!»

«Вельмі далікатная папяроса, дазвольце дзве, ваша благароддзе».

«А чым вы ў камеры займаецеся?»

«Бядуем, ваша благароддзе. Хлеба мала. Мы сядзім, а людзі недзе маёнткі дзеляць».

«Хочаш болей хлеба атрымліваць?»

«Чаму не!»

«Давай, дар за дар: я табе — хлеба, а ты мне будзеш расказваць, што салдаты паміж сабою гавораць».

«Дзякуй, ваша благароддзе! А вы мне будзеце расказваць, што афіцэры гавораць?»

«Цябе змалку па галаве абухом ударылі, ці ты нарадзіўся дурны!»

І зноў палез з кулакамі. Лаяў, бэсціў, нарэшце выгнаў у камеру. Пачалі цягаць другіх салдатаў, а яны ўжо дачуліся, што са мною было, і ведалі, як адказваць.

Апавяданне падыходзіла пад канец. Мы рагаталі, усміхаліся. З суседніх лавак у наш бок паварочваліся міжвольныя слухачы і гледачы. Двое маладых людзей нават падбеглі да нас і запляскалі ў ладкі, відаць, палічыўшы, што слухаюць кагосьці з прыезджых акцёраў. Але глянулі і асекліся, адышліся.

Гаўрыла Пятровіч гаварыў не без задавальнення і, я б сказаў, не без умельства. Адзін, здавалася б, нязначны рух, і ён з хітругі-салдата ператвараўся ў плюгавага следчага, а пасля, таксама непрыкметна, рабіўся самім сабою, цяперашнім і такім, як быў у маладосці. Следам за ім я трапляў у той узбуджаны, ускаламучаны час. Задуху камеры праразала маланка недалёкай мэты, усплёскі чалавечых страсцей кіраваліся ў рэчышча рэвалюцыі.

Часамі яго магутнае тулава калацілася ад стрыманага смеху, раптам ён бялеў, гаварыў адрывіста і жорстка, праз зубы. А ўнутраны запал, хоць не першую гадзіну цягнулася апавяданне, не сціхаўся, не гас.

Як ні дзіўна, і яго старэйшы сябар, Сяргей Іванавіч, не мог уседзець на месцы. Паліў папяросу за па-

пяросай, папраўляў апавядальніка, гаварыў сам. Словам, яны перажывалі перажытае нанава.

Я не мог адарваць вачэй ад даўніх таварышаў, але ў істоце прачыналася няёмкасць, нібыта памільгвала вочка сігналу на трывогу: ці не лішні ты тут? Людзі вяртаюцца ў балючае і цяжкое, што давялося зазнаць, перабыць, перабароць. А на якое ліха шаноўнаму чалавеку, што прыехаў спакойна адпачыць, расхлістваць насцеж душу? Расказваць, як яго зневажалі, білі па твары, змушалі на здраду? І, галоўнае, перад кім раскрывацца, каб хто спытаў? Перад першым стрэчным, нікому не вядомым архітэктарышкам!

І мяне пранізала здагадка...

Не для ўласнай уцехі, каб паказытаць не абыякавае людзям славалюбства, пацацкацца з былымі заслугамі, адгортваецца тая, далёкая і блізкая, слаўная ў часе старонка. Ды ўжо ж і не для цябе, мілы чалавек!

Завялікі гонар быў бы, завысока занёсся ты ў сваіх развагах, палічыўшы, нібыта нешта важыш у сустрэчы і размове сяброў.

Тут узнаўляўся паядынак — вось што! Так, ён завершаны перамогай. Але ці канчатковай, ці ўсюды ў свеце?

Таму за ўспамінамі грымотных падзей выразна адчувалася праверка гатоўнасці...

Зусім поруч з гэтым скверам, праз водар мора і руж, праз воклічы бесклапотнай малечы зыбалася марская мяжа. За ёю цяжка дыхаў выпарэннямі золата, гноем ран, чыстай і нячыстай крывёй свет неверагодных палацаў, непарушных турмаў, часовых урадаў, купленых следчых, свет, на які паўстаюць, з якім ваююць, у якім мучацца Сяргеі і Гаўрылкі іншых народаў. Не зачапі — і не падумае збірацца ў нябыт сваёю ахвотай...

І два чалавекі, што сядзелі разам са мною, не цешыліся мінулымі схваткамі, не ганарыліся імі, яны проста жылі ў іх і не забывалі, каб не даць прамашкі, калі прыйдзецца, у заўтрашняй барацьбе. Яны сягоння адчувалі сябе яе ўдзельнікамі, былі ўсюды, дзе хто-небудзь падымаўся за свабоду. Іначай яны не ўмелі жыць, не маглі.

Я ачуўся ад гэтых думак і разваг, калі сябры пачалі развітвацца.

— Дружа мой,— казаў сур'ёзна Сяргей Іванавіч.— Пакінем гаварыць пра пярэбары. Дзякуй табе за клопат, але ў санаторый я пакуль што не пайду.

6

З раніцы Сяргей Іванавіч пісаў лісты, хадзіў на пошту. Вярнуўся адтуль занепакоены, як і на пачатку нашага знаёмства. Ляжаў, як быццам гартаў свайго «Дон Кіхота», а вочы былі скіраваны паўзверх старонак, на столь. Перад вечарам нібыта крыху супакоіўся і запрапанаваў мне прайсціся да бухты.

Мы не прыкмецілі, як выйшлі далёка за горад. Прытомленыя, селі ў выцягнутую на бераг лодку.

Буйныя асеннія зоры зрываліся з неба над самай вадою; здавалася, мора падхватвае іх і гасіць, а яны шыпяць, раскідаючы пырскі. Аднак гэты гук нараджаўся пры беразе, дзе ляніва набягалі на пясок дробныя хвалькі і шумелі лагодна,— было падобна, нібыта дзесьці ў шырокай пасудзіне закіпае малако.

Мы доўга і лёгка маўчалі, абнятыя пачуццём з'яднанасці з вялікай цішынёй прасторы.

— Дзіўная рэч,— хутчэй да сябе, чым да мяне, прамовіў Сяргей Іванавіч, удосыць надыхаўшыся і намаўчаўшыся.— Нахадзіўся я па зямлі, здаецца, да ўтомы, нагледзеўся благога і добрага — на некалькі душ хопіць. І ўсё мала. Цяпер кожнае гадзіны шкада. Прагаварыў ты яе ці праспаў, а за гэты час сонца закацілася, чалавек прайшоў міма цябе, не паказаўшыся: шчодрага ён сэрца ці безнадзейны скнара. І ты ўжо ніколі не дазнаешся, што прапусціў, якія дзівосы нарадзіў свет за тую змарнаваную гадзіну. Вось і пачынаюцца дакоры: а каб не прапусціў, а каб дазнаўся? Магчыма, пабагацеў бы і ты, і свет, магчыма, адхіліў бы ад свае галавы ці ад ягонай бяду якую. Што ж гэта, старасць? Міжвольнае звужэнне магчымасці думаць і адчуваць, а можа боязь раптоўна і назусім страціць такую магчымасць?

Усе пытанні, відавочна, толькі ставіліся, аднак я паспрабаваў адказваць і зрабіў гэта даволі нязграбна.

Сяргей Іванавіч паківаў галавою.

— Ваша сэрца ўмее слухаць, гэта многа. Але яно яшчэ не ўмее гаварыць, выказаць тое, што пачула. Паўбяды! Назбірвайце ў сябе як мага больш, адной-чы само сабою загаворыцца.

Відаць, яму захацелася падсаладзіць сваё жорсткае навучанне. Набраў у жменю вільготнага пяску, прапусціў струменьчыкам паміж далонямі.

— Не хачу пахваліцца, нібыта валодаю такой якасцю выказвання. Але, здаецца мне, не маю права і трымаць у сабе набытае за жыццё. Зрэшты, што̀ жыццё кожнага з нас? Эпізод, момант, можа яшчэ менш — усяго літара ў навуцы агульнаму жыццю, у навуцы часу, калі мы існуем, думаем, стараемся пакласці прыступку для тых, хто за намі.

— Я ўдзячны вам за гэтую сустрэчу, Сяргей Іванавіч. Хоць пастаяў каля крыніцы, адкуль вы пілі і п'яце... Хачу спадзявацца...

— Словам, мой дарагі, філазафічныя разважанні вам надакучылі! — суразмоўнік ахаладзіў мой пафас.— Што ж, і я не супроць перайсці да канкрэтнай навукі жыццю. І мне, і вам яшчэ трэба добрыя зубы на гэты граніт... Дый у мяне часу не хопіць, каб дагаварыць тую даўнюю гісторыю. Давайце! Якраз Гаўрылкі няма, і мы здолеем абысціся без высокіх рэгістраў.

Ліловы агеньчык запалкі дакрануўся да пагаслай папяросы, і ў ёй ажыў чырвоны вугалёк.

— Гаўрылка расказаў пра сваю кароннную, так сказаць, сустрэчу са следчым. Схадзіў яшчэ пару разоў, на тым і заціхла. Пабачылі, што, апрача дэзерцірства, нічога не прышпіліш, і паабяцалі накіраваць назад у часць. Нам гэта толькі і трэба было. Гаўрылка павінен быў перадаць таварышам, колькі салдатаў адправіць у Петраград і куды ім з'явіцца. Дзе чакаць і як дзейнічаць, калі бальшавікі дадуць сігнал да паўстання. Усё гэта я ведаў і трымаў у сакрэце. А членам камітэта не паспеў перадаць, мяне схапілі вельмі раптоўна.

Гаўрылку мы навучылі: у сваю часць не прасіся, каб падазрэнняў не ўзнікла. Кажы, што не хочаш

туды, ад сораму згарыш за дэзерцірства. Шліце, маўляў, куды хочаце, абы бліжэй да фронту. Тады і зробяць насуперак жаданню, вернуць у корпус.

Аднак час ішоў, яго не чапалі, а я пачаў прадчуваць: надыходзіць мая чарга. Так неўзабаве і здарылася. Выклікае мяне Ляцкі. Я не даю яму нічога папытаць, адразу пратэст:

«На якой падставе мяне трымаеце?»

«А хіба вас не было за што арыштоўваць?»

«Не бачу законных падстаў».

«Чаму ж вы не хочаце растлумачыць салдатам, што Часовы ўрад трэба паважаць і вайну належыць працягваць?..»

«А вы самі паспрабуйце. Ці не саб'юць яны вас за гэта на горкі яблык?..»

Следчы на дыбкі:

«Вы і тут, у турме, змову арганізавалі. Пакайцеся — і заўтра на волю».

Лаяць ён мяне не лаяў і ў твар кулакамі не соваў, хоць адказ пачуў не вельмі далікатны. Прыдумаў, не ён, праўда, прыдумаў, і ўжыў самае горшае. Стаў абвінавачваць у разлажэнні арміі...

Сяргей Іванавіч пераклажыў папяросу ў знявечаную руку і пацёр яе леваю.

— Наконт змовы следчы, вядома, не памыляўся. Мы ў турме ажыццяўлялі дырэктыву гуртаваць пабальшавіцку настроеных салдатаў. Па магчымасці падтрымліваць дысцыпліну, нават заняткі праводзіць, каб не забываліся, як зброю ў руках трымаць. А выбухне паўстанне, дык на дапамогу з турмы — баяздольная бальшавіцкая адзінка. Нашы турэмшчыкі падступаліся з усіх бакоў, так нічога і не вынюхалі. Скажам, выходзіць аддзяленне — мы разбілі салдатаў па ўзводах і аддзяленнях — на праходку і давай штыкавыя прыёмы на па̀лках прарабляць. Наглядчык у крык, а яму адказваюць: «Мы тут седзячы забудзем, як тату з мамаю зваць. Трэба нейкую справу рабіць, вайна не скончылася, і ніхто яе за нас не скончыць». Ну, якой тут рады дасі — трымаліся хлопцы дружна.

Ляцкі падкладаў міну і пад тое, і пад гэтае, пакуль не пераканаўся, што нічога ад мяне не даб'ецца. Тады ён зрабіў выгляд, нібыта адпускае ў каме-

ру. Падвёў да дзвярэй кабінета, адчыніў іх і як быццам незнарок штурхнуў мяне. Я абапёрся на вушак рукою, а ён і прыціснуў пальцы дзвярыма.

«Ну, будзем гаварыць?»

Маўчу. Націскае мацней. Маўчу. І так з гадзіну: курыць і ціснe, курыць і ціснe. У мяне ў вачах чырвоныя мухі плывуць, цярпець — сіла канчаецца. Вырашыў: дам яму нагою пад жывот, адпусціць, быць не можа. А там — хай хоць страляе...

Выручка прыйшла нечакана. Нехта папхнуў з калідора дзверы, і рука мая вызвалілася. Зайшоў уласнай персонай камісар Часовага ўрада на Заходнім фронце. У фрэнчыку, як і Керанскі, у дэмакратызм граецца, ручку мне цягне. Так яна ў яго і павісла ў паветры. Скрывіўся. А я кажу: «Падзякуйце яму,— паказваю на следчага,— і вось тым дубовым дзвярам!» І падымаю руку, хоць ледзь трываю: яна — сіняя, пухне, набракае. «Зрэшты,— дадаю,— каб і не балела, я ўсё роўна вам бы не падаў». Камісар давай тупаць нагамі на следчага. Паклікалі доктара, той мяне ў шпіталь. Не так палёгку даць хацелі, як салдатаў, мусіць, баяліся, каб якой узрушні не выйшла. Вось мае пальцы і не выпростваюцца...

У блакітным спакоі ночы ўсё гэта гучала страшна і неверагодна. Але прыглушаны вільгаццю голас, пад амаль нячутнае паплёскванне хваль, сцвярджаў, пераконваў, вяртаў у тую пару і вёў па яе дарогах.

— З Гаўрылкам мы пабачыліся перад яго адпраўкай. Правёў хлопца ў шпіталь усё той жа Маніфест. Гаўрылка спачатку не паверыў: як гэта так, наглядчык падручаецца сам наладзіць сустрэчу арыштантаў, ды яшчэ небяспечных? Ветліва папрасіў яго пайсці туды, адкуль з'явіўся. Маніфест настойліва запрапанаваў другі раз: «Цябе чакаюць, не траць марна часу». Хлопец згадзіўся. Я тлумачыў Гаўрылку падрабязнасці, звязаныя з перакідкай салдатаў у Петраград, а Маніфест пільнаваў дзверы з калідора. Потым зайшоў, сказаў канчаць і даў мне бутэлечку з нейкай асаблівай гаючай прымочкай для рукі. «Вам кланяліся і загадалі перадаць,— Маніфест звычліва зірнуў і дадаў: — А выйдзеце са шпіталя, будзеце мець спатканне».

Я падумаў, што наглядчыка добра падмазалі і не даваць яму веры падстаў няма.

Гаўрылка ўсё дакладна пераказаў у карпусным камітэце, і хлопцы падаліся ў Піцер. Трэба сказаць, тады рух салдатаў па чыгунцы быў даволі значны і не вымагаў асаблівых фармальнасцей. А нашы дзейнічалі асцярожна, пад'язджалі ад станцыі да станцыі, дзе-небудзь ва ўмоўленым месцы спыняліся, правяралі наяўнасць і ехалі далей. Вінтоўкі — пры сабе, а кулямёты везлі ў рэчавых мяхах, разабраныя. У Піцеры сабраліся разам на Пуцілаўскім заводзе. Там і дачакаліся загаду выступаць... Ну што, пайшлі дамоў? Золка нешта...

Мы падаліся ў горад. Рэдкія ліхтары стаялі па калені ў раптоўна апаўшым тумане.

— Хіба гэта ўсё, Сяргей Іванавіч?

— А што ж болей? Партыйны наказ мы выканалі. Бальшавіцкай арганізацыі турмы давялося папрацаваць. Але захавалі і баявы дух у салдатах і нават узброілі іх. Так што 25 кастрычніка на вуліцы Мінска выйшаў сфарміраваны ў астрозе рэвалюцыйны полк. Далей — гісторыя: усё вядома, усё запісана.

Сяргей Іванавіч, відаць, змарыўся ці проста абмінаў далейшыя акалічнасці. Давялося набрацца смеласці і запытаць яшчэ:

— А як ж са зброяй? Гэта не запіска, у хлебе не перадасі.. А на цэлы полк, ды цераз астрожныя сцены...

Ён некаторы час ішоў не адказваючы.

— Вы, здаецца, не паверылі мне, Міша? А можа і мелі рацыю. Цяпер гэта выглядае вельмі складана, тады ж... Па-першае, прывёўшы ў турму, салдатаў часта абшуквалі абы абшукаць. Калі ж прыбывала асабліва шмат арыштаваных, наглядчыкі не ўпраўляліся. Клікалі на дапамогу такіх самых салдатаў, хто ўжо абжыўся ў турме. Ну, тыя і зусім нічога не глядзелі. Вось і праносілі: карабіны, рэвальверы, а то і з вінтоўкай каторы праскочыць. Чаго не хапала — дастаўлялі з волі. І даволі арыгінальным шляхам. Спатканні са зняволенымі дазвалялі толькі сваякам. Ну, адкуль у варонежскага салдата сваякі ў Мінску? Затое бадай у кожнага трэцяга з нашай брацii пачалі з'яўляцца «нявесты». На правах бу-

дучых жонак атрымлівалі спатканні. І перадавалі ўсё, што трэба. Туды і назад. Гэта былі сваячкі членаў гарадской арганізацыі бальшавікоў і проста добрыя знаёмыя, дзяўчаты, якія нам спачувалі...

— Ці не пра такое спатканне вам даваў знаць Маніфест?

— Вы робіце поспехі, Міша. Так, і мяне наведвала «нявеста». Зусім дзяўчынкай выглядала. Ніхто і падумаць не мог, што на ёй трымалася падпольная работа вялікага раёна. Каця...— вымавіў ён з ласкавым засмучэннем. Нібыта нечага спалохаўшыся, загаварыў, рэзка абрываючы словы: — Гэта была падпольная мянушка. І сапраўднае імя. Яе звалі Кацярына Юраўна Вернікоўская.

І, мусіць, каб не даць мне нічога больш запытаць, кінуў напаўжартліва:

— Позна ходзім, позна! Вам не здаецца, што нас могуць палічыць за браканьераў ці, не дай божа, яшчэ за каго. Прыбаўляйце кроку.

Каля самага дома спыніўся і зноў нечакана памякчэлым голасам прамовіў:

— Кацярына Юраўна павінна быць у Сочы. Я пасылаў ёй адсюль ліст.

Гэта ўжо была шчырасць, чаго я не чакаў і на што не мог спадзявацца.

7

Разгублены і ашаломлены, я не ведаў, што думаць і якой яшчэ даваць рады. Ехаў аўтобусам на маскоўскі цягнік і нічога не прыкмячаў. А за акенцам — голлем, хмарамі, верхавінамі гор — адвіталіся мясціны багатай красы, усё, на што звычайна глядзіш і не можаш наталіцца, пакуль не адцягнеш сябе за руку і не закалышашся на якіх-небудзь дарожных колах. На гэты раз не было месца нават шчымліваму смутку ад перамены месца, ад расстання з морам. Адна трывога, незразумелая і неадступная.

Дзяжурны ў міліцыі выслухаў мяне, тое-сёе запісаў, запытаў маё прозвішча і зніклага. І, на маё здзіўленне, не ўстрывожыўся, а шырока пасміхнуўся:

— У Маскве жывеш? Хар-рошы горад! Ніколі не

быў там. Ну, шчаслівай дарогі! І не турбуйся: чалавек не іголка, знойдзецца. У нашым горадзе такіх здарэнняў не бывае: мы нават іголку знаходзім.

Раніцай у той дзень у фортку нашага акна заляцеў голуб, глянуў у пакой і павярнуўся дзюбаю да мора.

— Калі голуб садзіцца так, дык, па турэмнай прыкмеце,— сказаў Сяргей Іванавіч,— адсюль нехта павінен пайсці. Угадала птушка ці падслухала, што вы ад'язджаеце...

Гэта былі апошнія пачутыя ад яго словы.

Я займаўся гаспадарчымі справамі: пакаваў рэчы, хадзіў на рынак. Купіў вінаграду, славутых сакаўных ігруш, прыхапіў і пару бутэлек маджары. Сяргей Іванавіч любіў гэта маладое віно, хацелася цяплей правесці астатнюю гадзінку.

Нагружаны пакункамі, я вярнуўся дамоў і пачаў выстаўляць прыпасы ў куханьцы. У кватэры было ціха, ніхто да мяне не абазваўся, як заўсёды, не пачулася і знаёмага пакашлівання.

Відавочна, Сяргей Іванавіч пайшоў па газеты. Ну так, няма плашча і капелюша на вешалцы. Але дзе ж чамаданчык? Стаяў жа ўвесь час вось тут, у нагах ложка. А-а! Пэўна, здаўся нарэшце на ўгаворы Гаўрылы Пятровіча і перабраўся ў санаторый. Толькі чаму было не папярэдзіць? А навошта? Ён жа ведае, што буду выязджаць па абедзе. Значыць, ёсць час вярнуцца, забраць у мяне ключы і скурыць развітальную папяросу.

Усе здагадкі былі раптоўна абвергнуты адной акалічнасцю. У мяне на падушцы ляжаў «Дон Кіхот», а з гэтай кнігай Сяргей Іванавіч амаль не разлучаўся. Мне падабалася даўняе выданне ў старамодным пераплёце са скураным карашком і абцягнутымі скурай ражкамі.

Дык што гэта: памятка? Падарунак, наказ, даручэнне?

Я прысеў за стол і пачаў гартаць кнігу, яна маўчала, адказу не было. Закурыўшы, звярнуў увагу на папяросны карабок з прыгашанымі недакуркамі. Гэтага Сяргей Іванавіч не любіў і ніколі не рабіў так, нават у папяльнічцы не пакідаў нічога і апалоскваў яе, выходзячы з пакоя.

Машынальна абтрасаючы попел у той самы карабок, я заўважыў на сподзе яго ледзь прыкметныя літары: «Перад...» — закончыць слова, відаць, не хапіла нагару на запалцы. Ці часу?

Па нейкіх няўлоўных адзнаках адчувалася, што тут быў яшчэ нехта. Можа яго прысутнасць не дазволіла дачакацца мяне ці хаця б растлумачыць штонебудзь запіскай.

Я зноў успомніў пра Гаўрылу Пятровіча. Ну так, каму ж іншаму быць тут? Ніякіх другіх знаёмстваў у Сяргея Іванавіча не заўважалася. Значыць, ён. Тады нашто было пісаць на карабку? І запалкай? Праўда, сваю ручку Сяргей Іванавіч згубіў і звычайна карыстаўся маёю. Збіраючыся ў дарогу, я забраў яе са стала. Але ж у Гаўрылы Пятровіча, калі гэта заходзіў ён, няўжо не знайшлося ніякага алоўка?

Гэтыя і другія меркаванні няспынна ўзнікалі, развязваючыся самі і застаючыся без адгадкі, калі я ледзь не бегма праставаў у санаторый. Гаўрыла Пятровіч адпачываў пасля працэдуры, але, выслухаўшы мяне, усхапіўся.

— У яго былі непрыемнасці? Атрымаў ліст? Хадзіў куды-небудзь? Да яго заходзілі? Як трымаўся? Настрою не паказваў?

Цэлая патока пытанняў нізрынулася на мяне, пакуль Гаўрыла Пятровіч апранаўся.

Што я мог прыгадаць яшчэ для яго і для сябе? Адно хіба: апошнія дні Сяргей Іванавіч не мог дачакацца газет. Ён і раней купляў усе, што трапляліся ў кіёску. Тут жа, на набярэжнай, разгортваў, не дайшоўшы да лаўкі, і прабягаў палосу міжнародных навін. Тады вочы ўсіх былі прыкуты да бітвы рэспубліканцаў за Мадрыд, усе мы жадалі ім перамогі. Таму не патрабавалі тлумачэнняў красамоўныя выгукі Сяргея Іванавіча ў адрас фалангі, фашысцкіх змоўшчыкаў і чужаземнай інтэрвенцыі. На большае ён не ішоў. Маўчаў аж да канца кастрычніка, калі наш урад абвясціў, што не лічыць сябе звязаным пагадненнем пра неўмяшанне ў іспанскія справы. Аднак і тады пачуў я не вельмі многа. «Нарэшце можна будзе дапамагчы»,— уздыхнуў Сяргей Іванавіч. І ўсё.

Вось што я мог паведаміць Гаўрылу Пятровічу, разам з ім вяртаючыся ў горад.

Дарэмныя турботы! Сяргея Іванавіча ў доме не было, і слядоў яго не прыбавілася.

Гаўрыла Пятровіч пакруціў у руках карабок, пачытаў надпіс.

— Сапраўды, пісаў запалкай.— Ён пахадзіў крыху па пакоі.— Але ж пісаў. Гэта дае надзею.

Я прынёс з кухні маджары, і мы чокнуліся за здароўе адсутнага.

— І ўсё ж такі навошта яму была запалка? — падумаў я ўголас.— Вунь на этажэрцы алоўкі. Праўда, каляровыя.

— У турмы і падполля быў непахісны закон: напісанае запалкай выконваецца неадкладна, любымі сродкамі. А вось што гэта за «Перад...»? **Перад** дарогай, **перад** бурай? Ці не дапісаў, што скончылася **перадышка**,— ён жа так называў бытаванне тут. Не, хутчэй за ўсё,— да Гаўрылы Пятровіча вярталася абвыклая манера жартаваць,— **перадыміўся** і пайшоў на вецер...

Ён устаў.

— Здаецца, усё гэта не падыходзіць. З нас, Міша, пінкертонаў не атрымаецца. Будзем чакаць, спадзявацца на лепшае. Трэба думаць,— Гаўрыла Пятровіч моцна паціснуў мне руку,— што і я хутка адбуду ў тым жа кірунку. Калі, вядома, разумею ўсё правільна.

На развітанне Гаўрыла Пятровіч параіў занесці ключы ад кватэры ў міліцыю.

8

Вылезшы з аўтобуса на сочынскай аўтастанцыі, я ўжо ведаў, што буду рабіць. Кінуўся ў адрасны стол і праз нейкія паўгадзіны званіў у кватэру на другім паверсе невялікага цаглянага дома.

Жанчына, якая адчыніла мне, была апранута ў дарогу і трымала ў руцэ паходны баульчык.

— Кацярына Юраўна? — я пераступіў парог.

— Так... Але я не маю часу... Вось-вось адыходзіць сухумскі аўтобус.

— Справа ў тым, што Сяргея Іванавіча там ужо няма. Я спадзяваўся знайсці яго ў вас...

— Хто вы? Адкуль вам гэта вядома?

Уражаная нечаканай весткай, яна апусцілася на пыльнае крэселка даўно не прыбіранага калідора.

Блытана, хапаючыся, я расказваў пра знаёмства з Сяргеем Іванавічам, камячыў патрэбнае, тоўкся на залішніх падрабязнасцях. Жанчына здавалася ўкамянелай і падняла вочы, калі я перайшоў да яго знікнення.

— Былі якія-небудзь непрыемнасці? — звярнулася з тым самым пытаннем, што і Гаўрыла Пятровіч.

— Непрыемнасці ў адпачынку? Магу даць слова, я нічым не засмуціў яго.

Яна кінула на крэсла летняе паліто і засталася ў чорнай карункавай накідцы.

— Зайдзіце ў пакой. Не зважайце на рэзрух. Месяц не была, толькі сёння — з Растова. Знайшла ў паштовай скрынцы ягоную запіску і ліст з Сухумі. Сабралася ехаць, не прысеўшы. А тут — вы...

Жанчына на момант затуліла твар рукамі, потым загаварыла ціха і горка:

— І так усё жыццё. Лёс кідаў нас па свеце, як сам хацеў. Але абавязкова падгадваў: мяне ў адзін бок, яго — у другі. Нарэшце, думалася, з'едземся. Пры моры, у цішыні, можа крыху акупіцца наш жыццёвы неспакой. Хоць на час. На вельмі доўга я не спадзявалася. Вы не павінны думаць благога, мне агідны матылiныя звычкі: мах-мах крыльцамі — і на іншую кветку. Проста мы большую частку жыцця правялі, дбаючы не пра сябе, і першы покліч ахвяраваць сваім, каб цяплей стала дзе-небудзь другому чалавеку, мог лёгка разлучыць нас. А мы даўнымдаўно родныя, хоць і гадзіны не прабылі пад адным дахам, не з'елі кавалка хлеба ўдваіх.

Кацярына Юраўна адвярнулася. Здрыгануліся плечы, толькі па гэтым і было відаць, што яна праглынула даўкі спазм. Зараз жа авалодала сабой і ўжо глядзела на мяне, ці не заўважыў хвіліннай слабасці.

— Пасля грамадзянскай пагубляліся ўсе сляды. Мне нічога не маглі сказаць пра яго. Пэўна, быў дзесьці далёка. Я ўжо думала: жывога няма — і ўсё ж нечага чакала. Раптам — сустрэча: летась, такою ж амаль парою. У Харкаве, на вакзале, пад трэці званок. Усяго і паспелі: пазналі адно аднаго ды я свой

адрас сказала. З год перапісваліся, змовіліся: пачынаем жыць разам...

Яна зажурана пасміхнулася, бліснулі вільготныя вейкі.

— Аднак простымі рэчы здаюцца толькі здалёк. Словам, як заўсёды, лёс паклаў сваю цяжкую лапу. Сяргей выехаў сюды без папярэджання, хацеў зрабіць нечаканку. А мяне ў гэты час выклікалі да хворай сястры, я хутка выбралася, паведаміла яму, але мая тэлеграма не захапіла яго. Вось і размінуліся. Ён прыехаў і, не заставўшы мяне, пакінуў запіску, што будзе чакаць у Сухумі. І чакаў. Для сустрэчы нам не хапіла аднаго дня...

Кацярына Юраўна зірнула на дзверы. Я зразумеў яе позірк. У ім блiснула надзея: дзверы адчыняцца — і на парозе стане ён. Не можа быць іначай. Яна чакала ўсё жыццё, павінна ж нарэшце ўзяць верх справядлівасць. Але званок не звінеў, дзверы стаялі нерухома, агеньчык надзеі, што быў узгарэўся ў яе вачах, пагас.

— Я разумею... Звычайная справа не магла б адарваць яго. Мусіць, так павінна было стацца.

Пакрысе яна супакойвалася і, калі я памкнуўся на адыход, не дазволіла.

— Сядзіце, сядзіце. І расказвайце: як сустрэліся з ім. Пра кожны крок, пра кожную гадзіну. Што бачылі, што гаварылі? Можа марылі пра што? Мяне гэта шчасце абдзяліла, не пасвяціла і на трохі. І вось, як у юнацтве, я зноў — «нявеста». Да таго ж вечная, так ахрысцілі некалі ў турме. Што я кажу,— яна нібыта ўзлавалася на сябе,— нават каб мы жылі разам, у яго была б іншая нявеста. Сапраўды вечная...

Кацярына Юраўна прыгасіла ў голасе гаркоту. Паслала абрусок, уключыла электрычны чайнік і пачала даставаць з баульчыка брынзу, халоднае кураня, прыпасы, падрыхтаваныя, відавочна, не для мяне. Яна асцярожна і асабліва прыгожа стаўляла талеркі, раскладала прыборы, нібыта збіралася частаваць таго, хто павінен быў прыйсці.

На спробы адмовіцца ад вячэры яна амаль рэзка кінула:

— Пайсці? Гэта была б здрада.

Стала відавочна: яна не можа заставацца сам-насам з сабою. Я прынёс з калідора свой партфель і паставіў на стол маджары, апошнюю, таксама не для гэтай сустрэчы рыхтаваную бутэльку.

— Яму падабаецца такое віно? — ажывілася Кацярына Юраўна.— Налівайце.

Прыгубіла бакальчык зеленаватага шкла, скрывілася.

— Выбачайце, але гэта нешта кіславатае... Праўда, у кожнага з нас сваё ўяўленне пра віно, пра поўню жыцця, пра шчасце... Мы з Сяргеем вырашылі пабыць шчаслівымі. Вырашылі... І забыліся — шчасце заўсёды бліжэй да трывогі, чым да спакою. А як спадзявацца на спакой? Цяжка ў наш час: над чалавецтвам звісае столькі трывог!

Мігнулі ў люстры лямпачкі, прыбавілася напалу, і я ўбачыў перад сабой жанчыну не часта спатыканага хараства. Не той позняй красы так званага бабінага лета, хоць гады і паклалі яго цені пад вачыма, а свежай сілы ад нерастрачанай маладосці ў постаці і ў абліччы.

— Бяда не прыходзіць адна, Міша... Дазвольце мне клікаць вас, як ён? Тры дні назад я страціла апошняга блізкага чалавека, сястру. А сягоння — яго. На гэты раз, адчуваю, назаўсёды... Гады мінаюць. У свеце трывожна,— Кацярына Юраўна вярнулася да ранейшага,— вельмі трывожна. Стаць на ўтаймаванне давядзецца вам, маладым. А хто ведае, можа і нам. Мы ваявалі з навалай, але не пазбылі яе ўсю...

Яна ненадоўга задумалася.

— Міша! Пасля яго не засталося ніякай рэчы? Алоўка, запанкі ці чаго?

У партфелі ў мяне ляжаў «Дон Кіхот», я дастаў і падаў ёй кнігу.

— Мой падарунак!

Кацярына Юраўна падхапілася з месца, з усіх бакоў агледзела кнігу.

— Тая самая! Я прынесла яму ў мінскую турму. Аддайце мне, добра? Не! Калі ён перадараваў дараванае, значыць, нездарма. Хай будзе ў вас. Я перадала яе з «начынкай», у пераплёце былі сакрэтныя весткі. Наконт кастрычніцкага перавароту. Даводзілася хадзіць у турму не раз, пад выглядам...

— Нявесты... Я чуў пра гэта, Кацярына Юраўна.

— Так, казала і я. Але не ўсё. Мае наведванні сталі здавацца падазронымі турэмнаму начальству. Ролю давялося іграць па-сапраўднаму, і, у прысутнасці канваіраў і наглядчыкаў, мы аднойчы пацалаваліся... Яна затуліла вусны рукою, нібыта ад апёку: сказала лішняе незнаёмаму, аднак не спынілася.— Аднойчы за ўсё жыццё. Дый то праз краты. Маглі б уявіць, што існуе такая жанчына? Затое я адчуваю той дотык у цяжкую хвіліну. Тады ж мы страшэнна збянтэжыліся, трэба было яшчэ сказаць нейкія адпаведныя словы. «Сумую», «кахаю» ці яшчэ якія. А ні ён, ні я гэтага не ўмелі. Маніфест глядзеў збоку на нас і пырснуў... Чаго ўсміхаецеся? Сяргей расказваў пра Маніфеста? Цікавейшая постаць...

Як бы адказваючы на маю маўклівую просьбу, яна гаварыла далей:

— Я прыйшла на спатканне да яго... Не мае значэння калі. Вось гэты Маніфест і сустрэў. Вочы вострыя, наскрозь бачыць, што недазволенае меруся перадаць. Заводзіць гаворку здалёк:

«Бывалі ў нас?»

«Не мела задавальнення».

«Вось памяць мая, старэчая! Усё здаецца — заходзілі. У 1912 годзе не завіталі хіба да Пятровіча?»

— Сяргей тады сядзеў пад гэтым прозвішчам,— растлумачыла Кацярына Юраўна.

«Памыляецеся,— кажу яму,— я цяпер хачу пабачыць Пятровіча».

«Цяпер? На правах нявесты?»

«Так, мы збіраемся павянчацца».

«Нешта, як толькі ён сядзе, вы адразу нявестай робіцеся... І ў 1912 годзе...»

«Кажу вам, не была тады».

«У 1912 годзе былі,— ён як быццам і не чуў пярэчанняў,— зараз на двары 1917. А вы ўсё нявеста... Пара б і жонкаю стаць...»

— Пазнаў, стары пень! — Кацярына Юраўна засмяялася.— А тады было не да смешак. Я, вядома, выконвала тую ж ролю і ў 1912, а тут — няўпраўка. Уся падрыхтоўка ўцёкаў і перадачы зброі магла сарвацца. Тым часам Маніфест падступіў бліжэй і гаворыць напаўголасу: «Зараз яго прывяду. Размаў-

ляйце пра што хочаце — не чую і не бачу. А вось патроны для рэвальвера, вы іх і мінулы раз прыносілі ў хатніх булачках, патроны, кажу, аддайце мне. За ім сочаць. У мяне спрат больш надзейны. Калі будзе трэба, перадам ва ўласныя рукі».

— Уяўляеце, Міша, мой стан? Відавочная правакацыя. Зараз абшукаюць, і я прапала. Уцякаць? Позна, не ўдасца. А Маніфест нагінаецца і шэпча на вуха наш падпольны пароль. І дадае ўголас: «Давай булачкі, дачка! І не заставайся ў вечных нявестах».

Вытрымка здрадзіла Кацярыне Юраўне, тонкі твар яе ўзяўся зморшчкамі і пастарэў, яна голасна заплакала.

— Даруйце, Міша,— толькі і здолела вымавіць.

Я зразумеў: трэба развітвацца. Калі прыйшлі слёзы, недзе непадалёку і палёгка сэрцу. І тут выбліснула здагадка. Я адгадаў недапісанае слова на карабку. «Перад...айце» — значыла яно. Каму і куды — мне было сказана напярэдадні імя і прозвішча, а тое, што належала перадаць, ляжала на маім ложку.

— Кацярына Юраўна! — крыкнуў я.— Гэта ваша кніжка, мне даручана было перадаць яе вам. Слухайце, як...

Аблічча яе пасвятлела.

— Здаецца, я пачынаю тое-сёе разумець. Аднак не буду блытаць вас здагадкамі. Каб ён мог, сам бы даверыўся вам. Ды, па сутнасці, нічога не сказаў і мне. Толькі развітаўся. Дзякуй, Міша! Калі ўбачыце яго раней, раскажыце, як вы знайшлі мяне... Бывайце!

Праз многа гадоў на гаманлівым, раптоўна расцвіўшым чырвонымі берэтамі стадыёне таварыш хацеў пазнаёміць мяне са славутай партызанскай разведчыцай.

— А навошта? — сказала яна таварышу.— З табою мы пазнаёміліся ў атрадзе, а з ім,— усмешка ў мой бок,— трохі раней.

Кацярына Юраўна! Высакародная сівізна, аніяк не сагнутая векам постаць, тыя самыя маладыя вільготныя вочы.

— Я такі ўбачыла яго,— яна паглядзела на мяне, ці не забыў, пра каго размова.— На жаль, у кінахроніцы. Сяргей стаяў у берэце, вось гэтак, як мы з вамі, сярод байцоў інтэрнацыянальнай брыгады. На іспанскай зямлі. Па-мойму, яны святкавалі перамогу пад Гвадалахарай. На жаль, там былі не адны перамогі. А можа, гэта быў і не ён...

*1975*

## БАБА-ЯГА

Дзеці начавалі на дачы адны.

Мама раніцай папярэдзіла, што едзе з татам у горад і сёння яны не вернуцца — пойдуць у тэатр. Карміць малых, выводзіць на лужок каля рэчкі і наогул мець на воку павінен быў іх стрыечны брат Стас. Абавязкі не дужа пачэсныя, аднак і не цяжкія. Гэта было асабліва важна. Нядаўні дзесяцікласнік Стас збіраўся прыняць ганаровае імя студэнта і, каб не выйшла асечкі, мусіў шчыраваць над падручнікамі. Для гэтага яго і выправілі ў лясную цішыню, далей ад усялякіх спакус у выглядзе валейбольных і розных іншых мячоў, дый трэба набрацца сілы перад экзаменамі.

Спачатку ўсё адбывалася дакладна паводле мамінага раскладу. Да саменькага абеду Стас сядзеў на закрытай верандзе і рашаў задачы па фізіцы, а Ганька і Цярэшка каля варотцаў будавалі ў пясочнай скрынцы непрыступную цытадэль з вежамі і гарматамі ў праймах сцен.

Абедалі дружна. Ніхто не ныдзіў, што, маўляў, не хочацца булёну: надзеі спагнаць сваё на салодкім, як пры маме, не было.

Раскладаючы ў талеркі катлеты, Стас пакінуў чацвёртую на патэльні, хоць яму, як большаму, і належала падвойная порцыя.

— А тая каму? — далікатна пацікавіўся Цярэшка.

— Тая? Усім...

Стас велікадушна падзяліў катлету на траіх, узнагародзіўшы сябе дадатковым чарпаком масленай локшыны.

— І мне дадай,— папрасіў Цярэшка.— І ёй,— ён паказаў на сястрычку,— не скажа сама, толькі мяне каленам штурхае...

— Ты маладзец, Церах! Сапраўдны мужчына. Не будзь строгі да сястры: яна — слабое стварэнне...

Гэтыя словы выклікалі ўсмешку: крыху самазадаволеную ў хлопчыка і некалькі іранічную ў ягонай

сястры. Сапраўднаму мужчыну Цераху было пяць гадоў, а слабое стварэнне, сямігадовая Ганька, перарасла яго на цэлую галаву і смела магла сысці за вучаніцу другога класа.

— Я памыю талеркі,— сцвярджаючы сваю прыналежнасць да гаспадыньскага роду, сказала яна.

— Можна,— згадзіўся Стас,— з пэўнай асцярогай. Пакольні нам не вызначаны ліміт на бой пасуды...

Пахадзіўшы з гадзінку па лузе, яны вярталіся абцяжаныя здабыткамі. Ганька знайшла каля купіны птушынае гняздо, хоць і леташняе, аднак зусім добрае — усе бадылінкі цэлыя і нават пух захаваўся ўсярэдзіне.

— Прымашчу ў кусце снежнай ягады,— Ганька знайшла месца сваёй знаходцы.— Там мухаловачкі лётаюць, можа ўпадабаюць і будуць жыць.

— Птушкі ў пачэпаных гнёздах не вядуцца,— ахаладзіў захапленне практычны Цярэшка.

Ён цягнуў на плячы некалькі тоўстых каліў маркоўніку. Вельмі ж удалыя помпачкі выходзілі з гэтых, пустых усярэдзіне, цырубалак. Прабі з аднаго боку дзірачку, а з другога ўпусці квач, абмотаны ватаю. Тады стой сабе каля паддашнай бочкі і набірай ваду: струменчык дастае аж да градак з радыскаю.

— Я мог бы і гуркі паліваць, і званочкі,— Цярэшка відавочна запабягаў перад Стасам: без яго такую складаную гідратэхнічную прыладу не збудуеш.— Праўда, выйдуць магутныя помпы, га, Стас? Як у пажарнікаў...

Салідны Стас аблузваў чарэмшынавы кіёк, падгадваў, каб на кары атрымаўся белы ланцужок з літар «Т». І ўсё ж з нечаканай ахвотай адгукнуўся: прымайстраваў гняздзечка ў кусце сярод гусцейшых галінак і зрабіў Цярэшку адмысловую помпу. Струмень біў за плот, пры выпадку можна было ўцэліць у суседскага сабачку Тобіка, нахабніка і задаваку, які насіў хвост абаранкам і не саступаў дарогі нікому з дзяцей.

Надышоў час падпалуднаваць. Печыва з халодным малаком — страх як смачна! Потым Стас абвяс-

ціў, што ён зноў адбывае ў нетры законаў аб газах і вадкасцях.

— Зробім цішыню. Можаце цешыць сябе надзеяй, што і вам давядзецца пазнаёміцца з цёткай фізікай.

У дзяцей заняткаў было аж занадта. Гняздом пацікавілася, уткнула дзюбу чырванагрудая птушачка — значыць, сачы ды сачы.

А шчаслівы Цярэшка бясконца выпрабоўваў далёкасць вынасу свае помпы, смакуючы прыемнасць помсты фанабэрыстаму Тобіку. Не клеілася толькі ў Стаса, ён глядзеў некуды паўзверх кнігі і ўсё часцей ускідаў вочы на гадзіннік, дзе пражывала даволі галасістая зязюля. Калі яна пракукавала пяць разоў, хлопец устаў. Як быццам на нешта адважыўшыся, прыбраў са стала падручнікі і ўзяўся прасаваць барвістую, у восеньскія лісты, кашулю. Заадно прыціснуў кант на портках і падпарыў, каб прудчэй выглядалі, штрыфлі ў рудзенькім пінжачку.

— Мусіць, у кіно,— падміргнуў Цярэшка сястры.

— А куды ж яшчэ!

— Папросімся, а?

— Прасіся сам, калі хочаш. Не возьме.

А перад вачыма ўзнікаў і вабіў таямнічы сіняваты паўзмрок пасялковага клуба. Пранізанае крылом святла, палатно экрана ператваралася ў непраходныя лясы, табуны коней, у імклівую пагоню машын за злачынцамі.

Ганьчыны ваганні перасіліліся, і яна зрабіла крок да Стаса:

— А можа б і мы пайшлі з табою?

— На білеты ў нас ёсць,— Цярэшка адразаў Стасу шляхі да выкручвання.— Аўтакрамнік учора не прыязджаў, і ў нас засталіся марожаныя грошы.

Стас прысвіснуў.

— Марожаныя грошы! Не, я не магу пайсці на зніжэнне каларыйнасці вашага рацыёну. Грошы, адпушчаныя з сямейнай касы на марожанае, трэба выдаткоўваць па прызначэнні.

— Ну Стас, Стасік! — галасы дзяцей сталі ўмольнымі.

— І адкуль вы ўзялі тое кіно? А потым — асоб вашага ўзросту туды не пускаюць.

— А там не напісана! І фільм — пра пагранічнікаў...

Ганька пярэчыла смела, яна была ўжо граматная і чытала прылепленую на іхнім плоціку афішу.

Цярэшка горача падтрымаў сястру, а Стас і вухам не вёў — правяраў падгонку свайго гардэробу. Дзверцы люстранай шафы паказалі яму бялявага падлетка з вастраносым аблiччам і даволі-такі вялікаю радзімкаю над брывом. Аднак хлопец упадабаўся сабе і звярнуўся да малых іранічна і паблажліва:

— Дарагія суайчыннікі! Справы найпярвейшай важнасці прымушаюць мяне расстацца з вамі...

Дзеці маўчалі, зніякавелыя.

— На некаторы час,— паправіўся хлопец.— «Ці я ўпаду, стралой прабіты...» — завёў ён і спахапіўся: — Нельга ж дазваляць, каб розныя Анегіны забіралі нашых Тацян.

— А сёння будуць паказваць «Анегіна»?

Цярэшка чуў імёны Анегіна і Тацяны ад мамы, яна казала, што любіць гэту оперу, і часам наспеўвала адтуль тое-сёе.

— Паўтараю: ні ў якае кіно я не іду. Куды? Тлумачыць залішне. У маім узросце, у раёне атрымання пашпарта, зразумееце самі...

Ад засмучэння Цярэшка адвярнуўся тварам да акна і пачаў дзьмуць на шыбу, размазваючы вільгаць пальцам.

— Церах! Не рыпай на маіх, перагружаных навукаю, нервах. Пабудзеце вечарок адны, нічога не станецца. Час прывыкаць да самастойнай дзейнасці. Так што адгонім непатрэбныя слёзы і не будзем больш задаваць нясціплыя пытанні...

Пакрыўджаны Цярэшка глянуў на Стаса крыху зняважліва, як быццам хацеў сказаць: «Штосьці ты замнога віляеш, ці не трэба табе чаго ад нас».

— Наша расстанне,— гаварыў далей Стас,— будзе кароткае. Каля дванаццатай я вярнуся, і гора вам, няшчасныя, калі заўважу ў каго-небудзь расплюшчанае вока!

— Стас, мы самі збегаем у кіно,— не вытрымала Ганька.— Ты толькі білеты купі... Бо касірша...

— А хто будзе замыкаць і, галоўнае, адмыкаць дзверы? Дарэчы,— Стас паклаў у кішэню ключы ад

дома і забраў запалкі са стала.— Гэта, зразумейце мяне правільна, захады элементарнай бяспекі. Каб у вас не ўзнікла жадання запаліць газ і гатаваць манку для лялек. Або не заманулася зрабіць вылазку на прыроду з навуковымі мэтамі — лавіць жабак і конікаў...

«Хай бы ён ужо ішоў сабе, гэты Стас,— думалі дзеці.— Якой з яго карысці: спіць так моцна, што перавярні дом дагары нагамі — не абудзіцца... А тут можна ўсё самім... Піць чай, прыдумваць гульні...»

І ўсё ж было страшнавата крыху. Праўда, поруч жылі суседзі, але незнаёмыя. Проста цераз вуліцу стаяў высозны, як бы двухпавярховы дом, выглядаў ён непрытульна, быццам неабжыты. Брамка там увесь час была на замку, і дзеці не заўважалі, каб хто з'яўляўся за агароджаю.

— Вось што, шаноўная моладзь! — у Стасавым голасе зазвінеў метал.— Паўторым нормы паводзін. А сёмай гадзіне — вячэра. Чай у тэрмасе, масла і сыр у халадзільніку, батон — самі ведаеце дзе. Потым — гадзіна культмасавых мерапрыемстваў: гульні ў хованкі, маляванне звяроў і птушак. Вось вам мае фламастэры. Роўна а дзевятай — бай-бай. Пытанні ёсць? Няма. Распарадак прымаецца.

Ганька хацела нешта спытаць, але не паспела. Стас трымаў рэй, як спрактыкаваны старшыня на сходзе: папярэджваў пярэчанні, сам пытаў і сам адказваў у патрэбным кірунку. Аднак, заўважыўшы некаторую нязгоду на тварах малых, раптам раздобрыўся:

— Зрэшты, фламастэры я магу перадаць вам у вечнае ўладанне. Малюйце, а можа станеце красою роднага мастацтва.

Гэта значна папраўліла настрой Стасавых слухачоў, вочы іх пасвятлелі. Цярэшка хацеў быў выторгаваць лішняе паўгадзінкі на гульні, ды падумаў і змоўчаў: хто гэта будзе ведаць, лягуць яны а дзевятай ці прыхопяць яшчэ крыху часу.

— Цяпер,— Стас гаварыў многа мякчэй і лагодней,— напамяну дэвіз старажытнага рыцарства: «Маўчок, што пабіў бацька гаршчок». Мама, вы разумееце, не павінна ведаць, як мы правялі вечар. Дадзім клятву маўчання.

Ён выйшаў на сярэдзіну пакоя, падняў вочы ўгару і абхапіў адною рукою запясце другой. У Цярэшкі ад здзіўлення адвісла ніжняя губка.

— Падыходзьце сюды. Перш ты, Церах, гордасць і надзея дзіцячага сада нумар 41.

Стас знарок аддаваў перавагу Цярэшку, не без падстаў мяркуючы, што якраз ён можа не датрымаць сакрэту перад мамаю.

— Зрабі так, як я. Цяпер бярыся за мае рукі.

Скрыжаваўшы такім чынам рукі, хлопцы ўрачыстым шэптам прамовілі:

— Клянуся маўчаць пра ўсё, што было, ёсць і будзе.

Тое ж самае прарабілі Стас і Ганька, а потым і малыя паміж сабою.

— А хто парушыць клятву? — на ўсякі выпадак пацікавіўся Цярэшка.

Стас хвіліну падумаў.

— Таго забярэ баба-яга. Якая? Тая самая. Няўжо не помніце? Баба-яга, касцяная нага, у ступе раз'язджае, таўкачом паганяе, памялом след замятае. Яна і да нашага лесу дапінае. Але, відаць, не лётае, а больш ходзіць. І касцяная нага так і рыпае, так і рыпае: рып-рып, рып! Я сам чуў...

Стас відавочна перабраў меру: тварыкі ў малых выцягнуліся, вочы трывожна замгліліся. Справа магла павярнуцца плачам на ўвесь пасёлак. Тады кажы «бывай» усім яго планам. І хлопец даў адбой.

— Ну, гэта сказана для хараства стылю. У век электронікі і касманаўтыкі на ступе далёка не заедзеш. Таму міфічныя істоты накшталт бабы-ягі вядуцца больш на тэлебачанні. А ў лясы камандзіруюцца толькі ў выпадках вострага непаслушэнства і клятвапарушэння.

Ён дастаў з кішэні дзве вялікія пляскатыя цукеркі з падобным да сонца сланечнікам на абгортцы.

— Датрымаеце клятву — будзеце мець яшчэ па адной такой штучцы. Ага! Калі хто пастукае ў дзверы, сядзіце без панікі, і ніякіх перамоў. Ты, Церах,— мужчына. На цябе спадзяюцца ўсе тры нашы дачныя пасёлкі. А цяпер — паклон! Застаюся любімы ваш брат. Чакайце і пішыце.

Дзверы зачыніліся, два разы шчоўкнуў ключ.

Ганька і Цярэшка прыплюснулі насы да шыбіны: Стас сашчыкнуў з куста чырвоную ружу і выйшаў на вуліцу.

Дзеці ўзяліся за маляванне. Дванаццаць сініх, зялёных, ружовых і ўсякіх іншых фламастэраў — можна як след разгарнуцца! Дамы з дымам над комінам, разгалістыя сосны, гваздзікі і астры неверагодных колераў — усё само выходзіла з-пад рукі.

— Ой, а наша жывёла не кормленая!

Выпусцілі з клеткі марскую свінку, далі ёй морквы, паставілі свежай вады. Жывёлінка пад'ела і не пажадала вяртацца ў сваю загародку — бегала па верандзе, пацешна падкідаючы азадак, акурат як гэта робяць, узгуляўшыся, свойскія парсюкі.

Да дзевяці, як пасведчыў гадзіннік з зязюляю, заставалася гадзіна, а да дванаццаці...

— Можа Стас і раней сышчацца,— з надзеяй прамовіла Ганька.

Цярэшка, падтрымліваючы мужчынскі гонар, заначыў, што дачакацца Стаса зусім глупства — яшчэ і не ўцямнее добра, як вернецца.

Гэта была праўда. Стаяла сярэдзіна чэрвеня, пара самых даўжэйшых дзён: сонца, не паспеўшы схавацца пад зямлю, ужо выкачвалася з-за небакраю.

Трэ было ж, каб у гэты дзень густы прыцемак абсунуўся раптоўна, куды раней, як звычайна.

Дзве сажыстыя хмары выхапіліся на неба зусім нечакана і заспяшаліся насустрач адна адной, сілячыся хутчэй захінуць апошнюю лапінку блакіту. Віхор падняў у паветра пясок і пыл, шэры слуп пабег, раскручваючыся, па вуліцы, як вялізнае верацяно з пражаю. Кусты чаромшыны і спірэі пакорна прыгнуліся ўпоравень з травою, пападбіраўшы пад сябе кволае лісце. І тут зашумелі-загулі вершаліны хвой, яны разгойдваліся больш і больш, нібыта мерыліся дапамагчы ветру размесці навалу хмар.

Цераз набрынялае ліловай вільгаццю неба праскочыў сляпуча-белы пісаг маланкі. Гром бахнуў пачакаўшы, нібыта раздумваючыся, і з нездаволеным бурчаннем пачаў бухаць цішэй, як быццам нехта калоў плашкі на далёкіх узлесках.

Захопленыя знянацку дзеці як сядзелі над параспанымі па падлозе кніжкамі і малюнкамі, так і не

рушыліся. Навальніца знясіліла іх. Не маглося нават зрабіць некалькі крокаў у свой дзіцячы пакой, хоць там было б многа зацішней: бліскала б усяго ў адно акно, дый тое засланялі галіны.

А дажджу ўсё не было. Нарэшце ён пасыпаўся, шумны і асабліва лапатлівы ў мяккім, маладым яшчэ лісці. Але вецер на гэтым не здаволіўся: шматаў на касмылі адны хмары, наганяў другія, шпурляў у шыбы жменямі буйных кропель.

— Мусіць, зараз аціхне,— уздыхнула Ганька, падняўшы вочы на зашклёную сцяну веранды.

Пасля чарговага ўдару грому мяккая цішыня абступіла дом. Цярэшка зачапіў рукою пенал, алоўкі рассыпаліся па падлозе з аглушлівым грукатам. Ганька замахала на хлопчыка рукамі, але вільготная цішыня стаяла не варухнуўшыся, і дзеці супакоіліся.

Раптам, аднекуль паблізу, прыляцела прарэзлівае «Р-ррып-рып! Рып-р-рып!» Вецер шугнуў зноў, трывожны гук паўтарыўся.

— Яна! Баба-яга! — пабялелымі губамі шапнуў мужчына Цярэшка.

— Палем святло! — Ганька пацягнулася да выключальніка.

— Што ты! Адразу пабачыць, што мы ўдваіх...

На пальчыках, прысядаючы пры кожным пошугу бліскавіцы, яны пракраліся ў свой пакойчык. Паўскоквалі на ложкі і з галавою ўкруціліся ў коўдры, каб нічога не чуць і не бачыць.

Гэта не ўратавала. Страшнае рыпанне чулася раз-поразу і ўжо ледзь не на самым іхнім ганку!

— Давай хавацца ў склеп! — Ганька высадзіла галаву з-пад коўдры.

Цярэшка прыўзняўся. На падлогу ўпала яркая палоса — у доме насупраць запалілася святло. На тонкай фіранцы калыхнуўся жаночы цень.

— Яна — там...

Мужчына Цярэшка за адзін скок перабраўся пад ахову сястры. Яны сядзелі на ложку, тулячыся да слаба асветленай сцяны.

— Маўчэм... Можа яна і не ўчуе нас. А ты думаеш, баба-яга можа запальваць святло? — дадаў Цярэшка зусім ціхенька.

— Стас жа гаварыў...

— Ён гаварыў пра касцяную нагу...

— І што баба-яга жыве на тэлебачанні... Забыўся?

— Значыць, яна, як тэлевізар? Працуе на электрычнасці?

Тым часам вецер паменшаў, мякчэй і памалей білі кроплі па даху, дый рыпанне амаль сціхла, гучала глуха і не гэтак палохала.

Дзеці пашапталіся: а чаго бабе-язе патыкацца да іх? У тым жа вялізным доме больш прастору. Напэўна, і Стас дзесьці на падыходзе. Так пакрысе супакоіліся і паснулі на адной пасцелі.

...Пакой быў поўным-поўны сонца, свежага, асабліва яркага пасля дажджу святла, што люструецца ў кожнай вымытай да зелена травіне і лісцінцы.

Дзеці прахваціліся і паселі на ложку. Цярэшка сціраў у кулачок дрымоту, нібыта адганяў недагледжаныя сны пра навальніцу з грымотамі і тым вусцішным рыпаннем, ад якога смактала пад сэрцам.

Прыслухаліся. У доме і ў сінім рухомым прасторы наўкол было ціха, вельмі ціха, і ад гэтага зноў стала вусцішна.

— А Стас? — вырвалася ў абаіх разам.

Кінуліся глядзець. Беглі, толькі ружовыя пяткі паблісквалі. У пакоі хлопца не было, ложак відавочна не разбіраўся, уваходныя дзверы, як і звечара, стаялі замкнутыя.

— Пэўна, на рыбу пайшоў,— супакоіла сама сябе Ганька.

Цярэшка рашуча запярэчыў:

— Так рана? Мы ж яго заўсёды будзім...

— Дык ты думаеш?..— У Ганькі перахапіла мову.— Яна... яго схапіла? Дзверы ж на замку...

— Магла і праз комін,— Цярэшка гаварыў змрочна.— Хутчэй вылазьма цераз акно.

Хлопчык быў цвёрда ўпэўнены, што на пяску павінны застацца сляды ад ступы. Выклікаць расшуковага сабаку — і за краты гэтую праклятую бабу-ягу.

Адсырэлая рама паддалася, Цярэшка перакінуў нагу на падваконне, каб выскачыць у сад, але адразу ж захінуўся фіранкай:

— Ц-с-с!

З ганка процілеглага дома, дзе ўночы палілася святло, збегла дзяўчына. Лёгкая зелянцовая сукенка пашумлівала і блішчала, як падлакіраваная дажджом і сонцам лістота бэзу. Зеленаватыя водбліскі мянёнага святла падалі на твар і на распушчаныя валасы, таксама як быццам зялёныя. І ўся яна, высокая і тонкая, стаяла сярод пагоднага дня нечаканая для вока, як бярэзіна ў вясновым убранні сваім дзе-небудзь на паляне між змрочнага ельніку.

Дзяўчына жартліва пагразіла дзіцячым мордачкам у суседнім акне і адчыніла фортку на вуліцу. Закінуты за шыю ручнік узвіўся над плячыма, і малым здалося, нібы гэта вялікая птушка бусел раптоўна распасцерла крылле, узлятаючы з сенажаці.

Шумнуў у хвоях вецер, і недзе ўверсе пачулася злавеснае «р-рып-рып».

— Яна!

Цярэшка кумільгом саскочыў з падваконня і адцягнуў за руку сястру. А дзяўчына на вуліцы галасна гаварыла і смяялася:

— Дзе ж ты быў? І які ты смешны.

Дзеці вызірнулі. Стас стаяў каля дзяўчыны і спадылба пазіраў на яе. Ад наведзенага ўчора глянцу не засталося і знаку, у пакамечаным і вільготным пінжаку ён выглядаў, як нашатыраны ў нягоду верабей.

— Адкуль ты ўзялася, Таня? — панура запытаў хлопец нарэшце.

— Прыехала аўтобусам, бо ўчора вызвалілася раней. А ты чакаў электрычкі?

— Як змовіліся,— усё так жа панура адказаў Стас.— Цэлую ноч...

Таня выхапіла ў яго чарэмшынавы кіёк, зірнула на выразаны ланцужок літар «Т» і пасміхнулася:

— Вельмі міла! Бачу, ты не забыўся, як мяне зваць. І не дзьмуйся! Пайшлі купацца.

— І мы з вамі,— узмаліліся праз акно Ганька і Цярэшка.

— Цярплівасць, шаноўныя суайчыннікі! — Да Стаса пачаў вяртацца звычайны гумар.— Пакуль што я вас адамкну. Займіцеся туалетам пад рукамыйнікам. Спадзяюся, вы спачывалі добра?

— Грымела,— коратка буркнуў Цярэшка, каб не выдаваць усіх іхніх трывог.

А Ганька не ўтрывала:

— І рыпела...

— Ой, Стас! — выгукнула Таня.— Так страшна рыпала. Я ўсю ноч перадрыжала...

— Усё нармальна. Бачыце тыя дзве хваіны? Яны растуць усутыч і ў вецер шаруюць сук аб сук. Ясна?

Таня і Стас узяліся за рукі і пабеглі да рэчкі.

Разгледзеўшыся і расслухаўшыся, мужчына Церах разважаў, намыльваючы далоні:

— А ты казала — баба-яга! Гэта — Таццяна, Стас адваяваў яе ад Анегіна.

— І ўсё ж такі яна яго забрала,— задуменна прамовіла Ганька. І, па звычайнай жаночай звычцы пярэчыць і не згаджацца, дадала: — Бабы-ягі могуць і маладыя быць.

*1974*

## МАТЧЫНА КРЫЛО

Наша дачная суседка Гэля з вясны спазнілася пасадзіць хоць адну квактуху на рэшата. Думала — абыдзецца. Але старыя куры Жаўтуха і Скочка, а следам за імі і маладзейшая нясушка Зінка ніяк не хацелі пагадзіцца з цяжкаю доляю адзіноцтва. Яны без упынку квакталі, хадзілі вялізныя, як копы, з нашатыраным пер'ем, злыя, не беручы піць і есці.

Гэля паехала ў горад і купіла дванаццацера куранят. Яны былі зусім кволыя — камячкі пуху: добра падзьмі — і апынуцца немаведама дзе.

— Наце вам дзяцей! Вадзіцеся! — сказала Гэля і падсадзіла кожнай квактусе па дзве пары ціўкуноў.

Выгадаваныя без матчынага назірку і голасу, пад роўным святлом, у роўнай штучнай цеплыні інкубатара, кураняты баяліся вялікіх курэй і ўцякалі ад іх. Скочка з Зінкаю самі не прынялі такіх дзяцей і неўзабаве забыліся на свае сямейныя прэтэнзіі. Уся плойма перайшла да Жаўтухі, як найбольш спрактыкаванай у справах выхавання і наймацней ахопленай прагаю мацярынства.

Не сказаць каб сёлетнія пiскляняты былі вельмі ўжо даспадобы Жаўтусе. Яна прыдбала іх без усялякага клопату. Не паспела нават усохнуць за тры тыдні сядзення на гняздзе, калі п'ецца і есца вобмаль, бо сыходзіць адтуль надоўга страшна, не дазваляе вялікая рупнасць. І яшчэ адно, самае галоўнае: Жаўтуха не чула таго слабога — яшчэ ў шкарлупіны — ціўкання, што з'яўляецца нібы першым зваротам да яе як да маці і сцвярджае матчыны правы і кроўныя сувязі з дзецьмі. Не дапамагала яна ім вызваляцца з цёмнай абалонкі, не вучыла ўпершыню клюнуць крошку гэтых, як быццам сваіх і нейкіх не сваіх, куранят. Ды ўсе яны былі аднолькавыя, спрэс беленькія. Ну хоць бы дзе шэрая ці чорная пярынка!

Але нічога не зробіш: дзеці ёсць дзеці, і Жаўтуха ўзялася карміць іх, выхоўваць і спадарожнічаць на ўсіх іх малечых сцежках. А бегалі кураняты за мошкамі і абзываліся адно да аднаго гэтаксама, як некалі

уласныя, выгратыя яе цяплом пад зацішкам мяккага крыла.

Адно было кепска. Малыя зусім не пільнаваліся свае прыёмнай маці. Яны рассыпаліся па двары, залазілі між штыкецін у садок, забягалі нават да лугавіны перад рэчкай. Паспрабуй пазбірай ды прывядзі іх начаваць дадому: колькі трэба нерваў і турботы! Кураняты не слухалі ні ласкавага «квох-квох!», ні запрашальнага «ко-ко-ко!», якімі куры склікаюць дзяцей на пачастунак, знайшоўшы муху ці чарвяка.

Жаўтуху засмучала таксама, што малыя не туліліся да яе з надыходам прыцемку і спалі, паўтульваўшы галоўкі, асобна, хто дзе прыпёрся.

Не карыстаўся павагай у куранят і гаспадар мясцовае курасадні, вялізны, у жоўтым бліскучым пер'і, нібы ўвесь абліты золатам, певень Даніла. Ён вадзіў свой гарэм ужо трэці год, быў надзвычай ветлівы і галантны кавалер. Даніла ніколі нічога не з'ядаў сам. Убачыўшы якую-небудзь спажыўную крупінку, ён тонкім голасам абзываўся да сваіх сябровак, прапануючы ім пакаштаваць ласунку. Чым ён жыў і якім чынам падтрымліваў свой магутны голас — а спяваў Даніла чыста і звонка,— невядома. Ён дазваляў сабе дзюбнуць пару разоў, калі Гэля насыпала многа ячменю ці варанай бульбы. Нават кавалачкі хлеба, што давалі яму дзеці, асцярожна браў з рук і зараз жа нёс курам.

Даніла не быў безудзельны да маладых насельнікаў двара. Ён спрабаваў карміць іх, вельмі стараўся і праз неасцярожнасць клюнуў чмяля.

— Ратуйце! — закрычаў на ўвесь двор Даніла.

Чмель паспеў джгнуць яго за язык. Неўзабаве язык распух, і бедны певень паўдня не мог стуліць дзюбу.

А кураняты нават не звярнулі ўвагі на такую страшэнную бяду. Яны пабеглі на выган. Жаўтуха падалася ўслед, сварачыся на даручаных ёй белых бязбацькавічаў за легкадумнасць.

Раніца была пагодная, нішто не паказвала на благое. Але раптам найшлі чорныя хмары, ускруціўся моцны вецер, задзьмуў пад рэдкія крыльцы куранятам: вось-вось падхопіць, і яны распырхнуцца па ўсім лузе.

Жаўтуха стала грудзьмі супраць ветру і выгукнула ваяўнічае «ко-о-о!». Вецер і не думаў сунімацца. Напалоханыя, па адным да квактухі пачалі збягацца кураняты. Яна патапталася на месцы і села, растапырыўшы крылы, у разгрэбеную крацінуую норку.

Хутка Жаўтуха ўзвышалася на паплаўцы, як купіна, у вянку белых куранячых хвастоў — усе галовы былі схаваны ў яе пад крыламі. Здалёк курыцу можна было палічыць за вялізны рамонак: жоўтая сярэдзіна і вакол белыя пялёсткі.

Тым часам дождж нават і не пакрапіў, і кураняты зноў разбегліся па лузе. Але з гэтага выпадку пачалі прызнаваць Жаўтуху за сапраўдную маці. Яны не адыходзілі далёка, а вечарам абкружалі яе колам, зашываліся, хто як мог, у пер'е і так засыналі.

Гэтак цягнулася і калі кураняты ніштавата павырасталі: у пеўнікаў паадскоквалі грабянцы, і яны сталі смешна кукарэкаць — не на поўную певунову ноту, а як дзеці, заціснуўшы шырокую травіну ў далонях.

Да самай восені ўся курыная сям'я збіралася разам: Жаўтуха пасярэдзіне, а кураняты наўкол, мерачыся хоць на якую хвіліну затуліць галаву ў родным цяпле. Як тады, упершыню знайшоўшы ўратоўчае матчына крыло ў час навальніцы.

*1963*

## ВЕРАБЕЙ І КОШКА

Кошка жыла на самым беразе вялікага возера. У яе гаспадара, як падсмейваліся ў вёсачцы, было два імя і ніводнага прозвішча. Яго звалі Іван Мірон. Гэта быў кульгавы кравец, ён больш ніцаваў і пароў вопратку, але лоўка шыў картовыя порткі і мог змастачыць нават шапку. Здаралася, што адна калашына ў портках выходзіла крыху шырэйшая, а шапка на палец не прыставала да галавы.

— Абляжацца,— гаварыў у такіх выпадках Іван.

Заказчыкі не спрачаліся, тым больш што яны ніколі не плацілі майстру, хіба што давалі дзесятак яек і бутэльку «хмызняковай».

— Некалі і мы табе нешта зробім,— казалі яны і, падзякаваўшы, знікалі да новай патрэбы ў шытве.

Іван не крыўдаваў. Ён корпаўся ў агародзе, даглядаў кароўку і нават даіў яе, калі жонка позна вярталася з далёкіх калгасных палеткаў.

Мы хадзілі з ім разам у грыбы. Год быў дажджлівы, і баравікі павыбіраліся з невысыхаўшага лесу ў хмызнякі, што засталіся нявысечаныя сярод жытняй ці пшанічнай нівы. Гэтыя грыбныя хітрыкі першы раскусіў Іван, але сакрэтам сваім ні з кім не падзяліўся. Таму мы заўсёды прыносілі дамоў поўныя — пад дужку — кошыкі.

Верабей таксама жыў у Іванавай хаце. Сказаць праўдзівей, у паддашку, проста над маім акном. Там у яго была будоўля, агораная вялікім клопатам дзюбы і крыл. Ён насіў салому і сухія бадылінкі, выкладаў з іх гняздо, а потым збіраў пух і скуб поўсць, ездзячы на спіне ў кароў, якія не паспелі выліняць за зіму. Калі гняздо было гатова і вераб'ёва сяброўка палажыла туды пяць рабенькіх яечак, у вераб'я знайшлася новая турбота. Каб вераб'іха не засумавала, пільнуючыся гнязда, ён, палётаўшы каля возера за стракозамі, сядаў на кусце бэзу насупраць свайго жытла і расказваў апошнія навіны. Спярша паведамляў, колькі градусаў цяпла ў вадзе, наколькі нагрэлася паветра і адкуль дзьме вецер. Гэта ён падслухваў ад

цыбатага худога дзядзькі з гідраметслужбы, які рана, удзень і ўвечары хадзіў на возера правяраць, што паказваюць прыборы.

Далей — тут ужо былі ўласныя назіранні — верабей расказваў, дзе пасеяны ячмень і дзе ён, трэба чакаць, хутчэй пачне выспяваць. Тады, вось толькі падрастуць дзеці, можна будзе ўсёй сям'ёю лятаць і ласавацца.

Плёткамі і абгаворамі дачнікаў верабей не займаўся. Ён не хацеў пераказваць сваёй сямейніцы, што па ўсім беразе хадзілі і шапталіся чалавечыя пары, і не зважаючы на белы дзень і яснае сонца, часта прыцісkaліся сваімі ружовымі дзюбамі. Верабей быў немаладзенькі і віў ужо сёмы ці восьмы раз гняздо пад Іванавым дахам. А з гэтаю вераб'ішкаю, амаль зусім подлеткам з апошняга леташняга вываду, пазнаёміўся толькі вясною.

Навошта ўводзіць у вушы ёй абы-што! Лепш проста паціўкаць, хвалячы светлую раніцу і хлебныя крошкі, пакрасавацца перад суседзямі сваім дабрабытам і ўтульным домам з маладой жонкаю.

Усё было добра, каб не псавала здароўя гэта чортава кошка!

Яна скакала з ганачнай лаўкі на плот, а з яго — у агародчык. Ляною, нячутнай паходачкай, быццам ёй нічога не трэба і ані нічога не цікава, кошка сунулася паўз падрубу проста пад бэзавы куст.

Там быў халадок, блішчалі кроплі расы ў дзіцячых каптурыках. Так у вёсцы звалі прыплотную траву: калі ўзяць травіну за ножку і стуліць пальцамі выразаны лісцік, атрымаецца нешта падобнае да дзіцячай шапачкі ў зборках.

Кошка выпрасталася ў халодных каптурыках і ляжала як нежывая. Ці то праўда яна так ратавалася ад гарачыні, а ў хаце да таго ж дакучалі мухі, ці хітравала, напэўна, хацела дачакацца, пакуль птушкі кінуць асцерагацца. У яе падрастала трое кацянят, і мне здаралася бачыць, як яна прыносіла дзецям мыш або неспрактыкаванае ў лёце птушаня.

Калі з'явілася кошка, верабей разумеў гэта як замах на жыццё — сваё асабістае і сваіх хатніх. Ён пачынаў лётаць сюды-туды перад акном у мяне на відавоку і падымаў страшэнны піск. Я не мог усе-

дзець за сталом і падымаўся, каб выгнаць кошку з агародчыка.

Аднаго дня, прарабіўшы гэту цырымонію разоў з дзесяць, я пажаліўся Івану:

— Прымкнуў бы ты дзе-небудзь кошку. А то верабей памрэ ад разрыву сэрца.

— О, халера тая котка! — аблаяўся Іван.

Ён так і сказаў «котка», і я растлумачыў гэта ўплывам польскай мовы. Але ў размову ўкінула слова Іванава ўнучка — Веранічка. Яна пераканала мяне, што котка трэба гаварыць заўсёды, гэта не папольску, а «па-правільнаму». Бо калі скажаш кошка, дык як тады назваць яе ката, шэрага вялізнага мурлыку? Кошык? А гэта смешна, у кошыку бульбу носяць.

Так у нас і павялося: кошка лезла пад бэзавы куст і пазбаўляла спакою вераб'я, а ён, убачыўшы ва мне свайго заступніка, кідаўся клікаць на дапамогу.

Трэба было толькі бачыць і чуць яго! Я выманьваў кошку на малако ці кавалачак каўбасы. Яна ішла з агародчыка і кіравалася на ганак тою ж самай лянною паходачкай. А ўслед, літаральна крок у крок, скакаў, толькі не па зямлі, а па прасле, з калка на калок, верабей. Ад вугла да самага ганка, нашатыраны для пастраху, раптам вырасшы з добрае кураня, ён праводзіў кошку немым лямантам:

— Вон! Вон! Вон!

Ускочыўшы на біла ганачнай лаўкі і ўпэўніўшыся, што яго ворага забралі ў хату ці ў прыгрэбіцу, верабей змяншаўся да звычайных памераў. З палёгкаю зазначаў, што ён жыў, скакаў па прасле назад і садзіўся на куст. Некаторы час ён дзяліўся з жонкай пазбытай бядою і, мусіць, крыху прыманьваў, па ваяцкай звычцы, пра свае подзвігі для шэрых таварышаў і сваякоў, што тоўпіліся за плотам, з павагай слухалі і часамі ўстаўлялі прывітальныя воклічы «жыў-жыў!». Калі ўсё было расказана, верабей браўся за туалет: укладаў пер'е на галаве, пакуль яно не пачынала здавацца карычневым капялюшыкам, і папраўляў плямку чорнага пуху на грудзіне, быццам гэта быў наймаднейшы ў свеце гальштук-матылік.

Неўзабаве ў гняздзе абазваліся вераб'яняты — мне і кошцы стала хоць выбірайся. Верабей зрабіўся

звышпільны і звышпадазроны: ворагі ўяўляліся яму на кожным кроку, і я быў змушаны амаль не адступацца ад яго. Адагнаўшы кошку з тым жа гвалтам і падскокваннем па плоце, верабей не спяшаўся назад, а сядзеў на ганку, як бы гаворачы мне: «Не ідзі ў хату! Нідзе не дзенецца яно, тваё пісанне, давай лепш разам пільнаваць маіх малых».

Сам ён ні на хвіліну не адлятаўся ад гнязда, вартаваў, не сплюшчваючы вока, а вераб'іха выбівалася з сілы, не паспяваючы накідаць мух і чарвякоў у пяць жоўтых, вечна разяўленых, галодных дзюбак.

Скончылася гэта гісторыя нечакана. Прачнуўшыся аднойчы раніцаю, я не пачуў за акном знаёмага ціўкання. Падумаўшы благое, кінуўся ў агародчык. На паддашку было пустое пакінутае гняздо. Мусіць, уся сям'я паляцела куды-небудзь у нагледжаны бацькам ячмень.

А ён? Хоць бы падзякаваў, бадзяга! Хто ж яму памог падгадаваць дзяцей!..

*1963*

## УДОЎЧЫНА ГНЯЗДО

— Вось дзіва,— з таемным выглядам шапянуў Косцік, мой нястомны напарнік у паходах з вудаю,— пад нашу хату лётае салавей.

«Наша хата» — вясёлы дамок, дзе не першы раз даводзілася летаваць,— стаяла на пясчаным узгорку зусім недалёка ад рэчкі. Загончык бульбы, далей лапіна асакі з аерам у грузкай балоціне, і ўжо кучаравы, быццам наплоены, алешнік выходзіць на патужэўшы бераг — там Свіслач.

Пад вечар нам чуваць, як пляскае па вадзе рыба, разгуляўшыся ў цёплай тумановай пары. Гэта, вядома, калі не выступаюць незлічоныя хоры жаб. Яны забіваюць нават пушчаную на ўсю магутнасць радыёлу з суседняга двара. Шчымлівы голас неўціхана пяе з рання да вечара:

Мой хлопчык мілы,
Кладуся спаць,
Не маю сілы
Цябе чакаць.

Пласцінка, відаць, знарок падбіралася для хлапчукоў і дзяўчатак з дзіцячага сада, які нядаўна пасяліўся ў нашых суседзей. Добра, што малыя спяць моцна і не чуюць далейшых падрабязнасцей, бо той нядбайны хлопчык усё ж такі з'явіўся, і ўсё, чаму належала адбыцца, адбылося.

Вестку пра салаўя Косцік прынёс мне потайкі, бо не хацеў уводзіць у вушы Саньку і Верачцы, сваім меншым брацiку і сястры. Праз нясталы ўзрост — дзяўчынцы было сем, а хлопчыку ішоў пяты год — у іх абуджалася не зусім здаровая цікаўнасць да птушак, і асабліва да птушанят. Парушыць гняздо — не парушаць, але пачнуць назаляць, глядзець дзесяць разоў на дні, і птушка як бачыш адцураецца.

— Салавей? — перапытаў я.— А што ты думаеш, напэўна, ён прылятае браць урокі спеваў у радыёлы.

Косцік пакрыўдзіўся.

— Вы ўжо скажаце! — махнуў ён рукою.— Можа я ўжо салаўя з мухалоўкаю пачаў блытаць.

Уласна кажучы, асаблівых падстаў сумнявацца не было. Пад саменькімі нашымі вокнамі добра кусціўся малады сліўняк, а ўздоўж драцяной агароджы шчыльна стаяў, вызверыўшыся калючымі лапамі, агрэст. Там ветрала нявыграбенае леташняе лісце, а пад ім былі цэлыя спраты наземнай жыўнасці — чарвей, лічынак і розных іншых прысмакаў салаўінага стала. Можна было смела заставацца на жыццё, хіба што крыху шумнавата магло здацца тут: пасвіствалі шынамі, праслізгваючы па асфальце, машыны, шчабятаў, спяваў, плакаў дзіцячы садок, ды яшчэ тая няшчасная радыёла.

Назаўтра мы з Косцікам сядзелі на лаўцы ў прыхатнім цяньку. Было пасля паўдня. Мы спазніліся на снеданне і цяпер чакалі, парадкуючы снасць пасля ранішняй лоўлі: навешвалі ямчэйшыя грузілы, умацоўвалі кручкі, спехам навязаныя, замест ушчэмленых у карчах і ў шчупаковых пашчах.

Раптам Косцік угнуўся, нейк адразу паменшаў ледзь не ўдвая і тузануў мяне за рукаў. Песенька, якую ён насвістваў, змянілася іншым, добра знаёмым гукам: на яго з усіх ног кідаюцца гаспадыні даганяць закіпеўшае малако:

— Ш-шшы-шыі!

Я павёў вачыма за хлопцавым пальцам. Над кустом баярышніку павісла, ледзь зыбаючыся ў паветры, птушка. Зрабіўшы выгляд, нібыта садзіцца, яна лёгка дакранулася да калючай верхавіны і ў момант саслізнулася ў ніжэйшы, зацяняваны ярус куста.

Птушка насцярожана пабліскала ва ўсе бакі чорнымі кропелькамі вачэй. Прарабляўся звычайны манеўр: перад залётам у гняздо трэба было ўпэўніцца, ці не пагражае адкуль небяспека. Цяпер і я мог як след разглядзець нашу госцю. Шэрае пяро ў крыльцах няўлоўна пераходзіла ў колер балотнай руды, грудзінка са светлага аксаміту была злёгку кранута жаўтаватым пэндзлем. Косцік не памыліўся — салавей!

Пакуль я перадаў гэта хлопцу, нават не пошапкі, а толькі позіркам, салавей вылецеў з куста, зноў на хвіліну павіс, пазыбаўся і знік за аконнаю ліштваю так хутка і непрыкметна, быццам растаў ці выпарыўся на сонцы. Праз некаторы час над пярынкай, што

вытыркала са шчыліны паміж сцяной і ліштвай, з'явілася зграбная галоўка, уважліва агледзела нас і панадворак ды так і застыла напагатове, каб, калі што якое, узляцець.

Гэта была ўжо сапраўдная нечаканка. Каб салавей загнездаваўся на доме, такога не даводзілася чуць. Здзіўлення дадала нам і Косцікава маці. Яна, яшчэ капаючы грады, прыкмеціла, што ў гняздо пад акном лётае адна птушка, а не дзве, як бывала раней.

Мы ўзяліся назіраць. Дзён праз два ўсё пацвердзілася. Сапраўды, у птушкі не было пары. Можа, яе сябар трапіў у сіло да аматара салаўіных спеваў або, яшчэ горш, у лапы драпежніку, які не надта разбіраўся ў тонкасцях птушыных рулад, а больш падабаў свежую дзічыну.

Сапраўды, каб не няшчасны выпадак, нашто спатрэбілася б салаўісе рабіць гняздо высока на сцяне, калі наўкол ставала густых недаступных кустоў?

Да апошняй версіі схіляўся Косцік і адкрыта вінаваціў у гэтым злачынстве шэрага ката, які чамусьці насіў жаночае імя Дуся. Гэта быў пострах ваколічных мышэй і пацукоў, але сапраўдны бандыт з пункту погляду дзікіх і свойскіх птушак. Ён не размінаўся з галубамі, дабіраўся нават да качыных гнёздаў на балоце і выпіваў яйкі.

За Дусем лічыліся сотні буйных і дробных крадзяжоў. Ніхто з яго супляменнікаў так спрытна не ссоўваў кружкі з гладышак, каб злізаць смятану. Ніводзін ваколічны кот не адважваўся спусціцца ў калодзеж і выкрасці прывязаную на шпагаце свежыну. Але вяршыняй Дусевых рабункаў быў крадзеж мяса з летняй куханькі, дзе яно кіпела ў вялікім чыгунку. Гаспадыні былі схільны растлумачыць прапажу ўдзелам звышнатуральнай сілы, але зірнулі на імгненна патаўсцеўшага ката — мяса было каля двух кіло! — і зразумелі.

У вольны ад грабежніцтва час, пэўней, калі дбайнасць гаспадынь рабілася непрабіўная і не было лягчэйшага спосабу здабыць ежу, Дуся ішоў на рэчку рыбачыць. Ён ускокваў на камень, што вытыркаў з вады недалёка ад берага, садзіўся і чакаў. На яршоў і іншую драбязу кот не кідаўся — нашто дарма замочваць лапы і паўкажушак, але краснапёрак і пад-

лешчыкаў узнізваў на кіпцюр амаль без промаху. Дык што значыла такому прайдзісвету з невыгойнымі шрамамі на мордзе ад вясновых баталій, што значыла яму злавіць малую, безабаронную птушку!

Словам, салаўіха жыла адна. Двойчы на суткі — адразу пасля паўдня і перад вечарам, калі сонца пераходзіла на вокны і моцна награвала гняздо,— птушка выбіралася ў кароткую вандроўку. Ніхто не з'яўляўся падмяніць яе ў цяжкім клопаце выседжваць дзяцей, каб раптам не перарвалася жыццё пад тонкай лупінкай. Ніхто не турбаваўся даць ёй адпачынак, каб злётала трохі размяць крылы і пашукаць якога наедку. Ніхто не абзываўся да яе нават ціхім ціўкам, а не тое каб любоўным посвістам, хоць шмат якія салаўі спявалі ў садах і ў прырэчным хмызняку, цешачы сваіх сяброўак, абы весялей было выконваць ім матчыны абавязкі.

Усе турботы даводзілася перабываць адной, і салаўіха нейкім чынам упраўлялася гэтак хутка праветрыцца і падсілкавацца, што я не паспяваў прабегчы газету.

Мы з Косцікам не здолелі надоўга захаваць свой сакрэт. Хутка гісторыю адзінокай салаўіхі ведаў увесь дом. Дзеці назвалі гняздо ўдоўчыным і абвясцілі яго пад цімураўскай апекай. Верачка павесіла на баярышніку фанерку і не забывалася насыпаць туды зярнят і наліваць свежай вады ў шкляную сальнічку.

Нам удалося ўбачыць, што салаўіха не грэбавала дапамогай: яна злятала з гнязда і ласавалася крупамі, а часам і грэцкай кашай.

Хлопцы ўжылі адпаведныя захады і да драпежніка з жаночым імем. Яму было ўрачыста агалошана, што найдрабнейшы замах на ўдоўчына гняздо пацягне за сабой пакаранне смерцю праз павешанне на варотах.

Не ведаю, памагло такое сур'ёзнае папярэджанне ці проста кот не разнюхаў, што ў яго пад носам вылупіліся маладыя птушкі, але ўсе пяцёра ўдоўчыных дзяцей бясклапотна дажылі да канца чэрвеня, калі прыйшла пара вучыцца лятаць. Праўда, на маці іхнюю страшна было зірнуць: пер'е тырчала ва ўсе бакі, як прылепленае, быццам яна абсыхала пасля вялі-

кага дажджу. Падняць наўзлёт такую плойму ўжо ж нялёгка. Каб не Верчына падкормка, птушка знебылася б зусім.

Вылецеўшы з гнязда, птушаняты яшчэ доўга трымаліся каля нашай хаты. Яны карміліся ў садку, заглядвалі і на кармушку, а начавалі ў баярышнікавым кусце: там было найбольш бяспечна.

Аднойчы на захадзе сонца мы былі ўзнагароджаны за ўвесь час асочвання і апекавання птушак. Усё на той жа лаўцы паміж сасною і бярэзінай, адкуль вяліся нашы назіранні, сядзелі Косцік, Верачка і я. У баярышнікавым кусце нешта заварушылася, і мы заўважылі, як з галінкі на галінку перабегла маладая птушка, па ўсім відаць — подлетак.

— Ффіід! — абазвалася яна вельмі нясмела і змоўкла, нібы здзівіўшыся, няўжо гэта сама вінна, што выпусціла з дзюбкі такі слаўны гук.

— Кроэк! Крок! — пачулася ўжо куды смялей і выразней.

Косцік затуліў рот рукою.

— Салавей р-робіць пер-ршы кро-ок! — перадражніў ён спевака.

— Фіід! Крок! Ффіід! Кррок! — паўтарыў салавей і паслухаў сам сябе.

Выходзіла як належыць!

От табе і ўдоўчына гняздо!

Самое ўдоўкі мы так і не ўбачылі. Мусіць, яна слухала першы сынаў канцэрт дзесьці ў публіцы і, шчаслівая, прыціскала да вачэй мокрую ад слёз хусточку.

*1963*

## ЗЛОСНЫ САБАКА

Бобік з'явіўся ў двары разам з Лысаю. А Лысую — чырванаватую кароўку з белаю лапінаю ад рагоў да мызы — Аня выменяла на швейную машыну і казу Эму, бо маленькі Віця з восені хварэў і на вочы не дапускаў казінага малака.

Калі Лысая, абнаджаная скібкай пасоленага хлеба, пайшла на налыгачы за Аняю, ранейшы гаспадар каровы сказаў:

— Вазьміце хіба і сабачку ў прыдачу. Вельмі ж яны дружна жылі. А цюцька добры і спраўны на вуха. А галасны — ніякі званок не паправіць...

Так той цюцька і даехаў разам з Аняй і кароваю на бразгатлівай палутарцы аднекуль з-пад Глыбокага ў вёску на беразе Мінскага мора.

Бобік быў ростам з пералетаваўшага ката, шчуплы і танканогі. З дзвюх пасылачных скрынак яму змайстравалі будку на зіму. Уладзік, старэйшы Віцеў брат, хлопец не без гумару, выбеліў фарбаю на бакавіне будачкі вялікі надпіс: «Злосны сабака».

Вясною прыбыло віднае пары, на зямлі ўсё надаўжэй пачала заставацца ўтульная коўдра цеплыні. Развіліся дрэвы, растаў лёд на возеры, пырснула зелянінаю трава.

Падужэў і Віця. Раніцаю, выбегшы на двор, ён перш-наперш станавіўся на карачкі і заглядаў у будачку. Бобік высаджваў адтуль галаву, пазяхаў спрасоння і дрыгаткім ад хвалявання ружовым языком аблізваў заспаную мордачку малога. Далікатнасць за далікатнасць! У адказ на гэта Віця вымаў з рота жоўтую соску, ад якой яго праз нядужасць шкадавалі адвучваць, і даваў яе на трохі сабаку.

Так яны і гулялі ў пяску пры будачцы, па чарзе смокчучы соску: «злосны сабака» і паўтарагадовае хлапчаня. Шкада толькі, Аня зусім не разумела смаку ў такой слаўнай гульні. Яна, у роўнай меры жорстка і ласкава, давала плескача аднаму і другому, за-

ганяла Бобіка ў будку, а дзіця цягнула за руку ў хату — паласкаць цёплаю вадою рот.

Каб не гэта староння і зусім непатрэбная апека, малым жылося б зусім удала. Да вострых сутычак, якія б з аднаго боку канчаліся плачам, а з другога — екатаннем, у іх ніколі не даходзіла. Раз, праўда, было. Бобік выплюнуў пустую нясмачную соску, прыціснуў яе лапаю і лёг насупраць Віці, нібыта пытаючыся: «І чым яна табе міла, гэта няшчасная сусла? Ад яе ж, дарэчы, так пагана патыхае, як і ад гаспадаровых ботаў, у якіх ён ходзіць на рыбу і потым сушыць на плоце.

Віця, вядома, нічога не зразумеў і не адказаў. Ён пацягнуўся па сваю забаўку, але Бобік захацеў падурэць, схапіў соску ў зубы і адскочыў убок. Хлопчык скрывіўся, хацеў адабраць сілаю, але шчанюк адбегся яшчэ далей.

Тады Віця скоранька ўстаў з чатырох апор на дзве, падбег і ўкусіў Бобіка за вуха. «Злосны сабака» скавытнуў і схаваўся ў будку.

Такім чынам, у гэтай дробнай і хутка забытай сутычцы пацярпеў зусім не той бок, як трэба было чакаць.

Куды больш складаныя адносіны былі ў Бобіка з старым катом Хведарам. Ён не адчуваў патрэбы асцерагацца такога сабакі, бо праз дробны рост не бачыў у ім свайго спрадвечнага ворага. Сам жа Хведар быў здаравец, ён моцна раз'еўся і мог бы ў якасці пясцовага каўняра аздобіць голыя плечы самай вялікай модніцы. Сабачка выглядаў поруч з ім, праўду кажучы, мізэрна. Але рост ростам, а па характары Бобік быў задзірака. Згледзеўшы ката, ён прымаў ваяўнічую паставу, гатовы паскубці белае Хведарава футра. Кот спаважна, як быццам ні аб чым не дбаючы, набліжаўся, рабіў імгненны падскок і навотлег лупіў сабаку лапаю па мордзе.

Тут пачыналася жахлівае сабачае абурэнне і невыказная па сваёй красамоўнасці скарга. У глыбіні будачкі, дзе ў той жа момант апынаўся пакрыўджаны, ніяк не мог аціхнуць брэх на самых высокіх і надрыўных нотах.

Аднак навукі ставала ненадоўга. Ахвота задзірацца знікала ў Бобіка, толькі пакуль Хведар не выбі-

раўся на праходку пад хлеўчык, куды ката цягнула і вабіла поўнае падстрэшша вераб'ёў.

Бобік чуйна бараніў сваё жытло: турыў надакучлівых куранят, шчэрыўся на старую сяброўку Лысую, спрабаваў нават не падпусціць Уладзіка. Гэта, вядома, канчалася марна: Уладзік падымаў яго за вушы і так вытрасаў сабачае свавольства. Але падставы пільнаваць сваю фанерную хатку Бобік, безумоўна, меў: там быў немаленькі спрат. Праз драбноту і слабыя зубы Бобік не мог разгрызаць косці, але складаў іх усё ж на чорны дзень. Прыхоўваў ён таксама і скарынкі, а бульбу, каб не ўкрыўдзіць дзяцей, браў, але тут жа закопваў пад маладою рабінкай.

Час ад часу Уладзік абвяшчаў санітарны дзень. Ён прыносіў Бобіку свежага сена. Перакуліўшы будку, хлопец выбіваў адтуль злямчаную падсцілку. На траву высыпалася цэлая торба назапашанага: недагрызкаў і недаедкаў.

— І ліха цябе ведае,— нязлосна ўшчуваў Уладзік,— нашто ты сухары сушыш? Вайны баішся, ці што?

Бобік слухаў, вінавата матляў хвастом, але ад звычкі назбірваць харчы пазбавіцца не мог. Спрачацца і сварыцца за адабранае не мела сэнсу, за першаю часткаю санітарных працэдур ішла другая, прыемная. Уладзік спускаў сабаку з ланцужка, і яны ішлі купацца.

Трэба сказаць, што Бобік быў ніштаваты плывец, кідаўся ў возера даставаць дручок і наогул боўтаўся ў вадзе, пакуль не вылазіў на бераг Уладзік. Асалода купання была зусім поўная, калі хлопец забываўся ўзяць мыла: яно шчыпала вочы і, галоўнае, кепска пахла — каб жа дзёгцем ці шкіпінарам, а то рэзедою ці настурцыяй.

Прыйшло гарачае лета. Скрозь па беразе бялелі турысцкія палаткі, у лесе стаялі фанерныя дамочкі на колах. Людзі дапазна хадзілі па дамбе, голасна гаварылі і смяяліся. Маладыя спявалі песні, палілі кастры, а часамі нават пускалі ракеты.

А найбольш клопату задавала шаша. Дарога праходзіла каля саменькага дома Віцькавых бацькоў. З досвітку да досвітку па ёй густа ішлі машыны. Яны рабілі страшэнна многа шуму і грукату. Ад колаў

падымаліся сухія хмары пылу і доўга не асядалі. Тым не менш шаша неадольна прыцягвала абодвух сяброў: Віцьку і Бобіка. Яны так і цікавалі, каб выскачыць за вароты.

Тады і спраўдзіліся словы першага Бобікавага гаспадара: цюцька быў сапраўды спраўны на вуха і яшчэ больш востры на голас. Чалавечая весялосць і неспакой трывожылі звыклага да вясковай цішыні шчанюка, і ён усю ноч брахаў. І не даваў спаць сваім хатнім і суседзям. Пачалі раіцца, што рабіць. Аддаць каму-небудзь — шкада, прывыклі. Трэба неяк суцішыць.

І Уладзік надумаўся. Ён сеў з кнігаю каля сабачай будкі і, як толькі Бобік змружваў павекі, голасна гукаў:

— Бобік, не спі! А то выспішся завідна і зноў усю ноч гаўкаць будзеш.

Можа гэта і памаглося б, але Уладзіку надакучыла. Хлопец пабег гуляць у футбол на выгане, а Бобік выспаўся і брахаў не ўціхаючы да світання. Назаўтра нехта са змучаных бяссоннем дачнікаў прынёс з аптэкі парашкі на сон.

— Дзядзя! — сказала Ніначка.— Вы самі не прымайце, лепш падсыплем тыя парашкі нашаму Бобіку.

Мы пачалі смяяцца і ўгадваць, якія сны могуць прыбачыцца сабаку пасля сонных парашкоў. Уладзік ларашуча выказаўся за каўбасу, бо сам быў вельмі ласы да яе. Ніначка сказала, нібыта Бобік прысніць, што едзе верхам на Хведары, паганяючы ката дубцом...

— Дзеці! — крыкнула Аня.— А дзе наш Віця?

І мы ўсе пабеглі за вароты.

Непаваротныя аўтобусы, пацягнутыя брызентам грузавікі, выбуховыя матацыклы і бразгатлівыя інвалідныя мотакаляскі, цэлы паток чатырохколых страшыдлаў супроць нашага дома, нібыта чамусьці сумеўшыся, перавальваў цераз кювет і пыліў па пясчанай абочыне.

Пасярэдзіне шашы, на асфальце, сядзеў Віця з неразлучнай соскай у роце і паважна перасыпаў жвір і дробныя каменьчыкі з падолу ў сцягнуты з галавы каптур.

Сонца біла проста ў вочы, ён жмурыўся, затуляўся локцем, і тады з-пад задзёртай кашулі паблісквала голае чэраўца.

Каля хлапчука, грозна наставіўшы хіб і падціснуўшы да галавы вушы, захлынаўся, давіўся ад гарачага брэху Бобік і ўсё мацней упіраўся лапамі, каб у выпадку чаго кінуцца ў бойку.

*1963*

# АДКЛАДЗЕНАЯ АПЕРАЦЫЯ

Цімох з'еў рыбалоўны кручок. Дакладней сказаць — праглынуў разам з лёскай і двума дзесяткамі нанізаных на яе яршоў, якіх нацягаў Лаўрык раніцаю. Ён пачапіў улоў на клямку ў сенечных дзвярах і забегся на хвіліну ў хату пахваліцца рыбацкай удачаю.

Калі маці выйшла паглядзець, на дзвярах ужо нічога не вісела. Недалёчка на мураве сядзеў, аблізваючыся, кот. Ён ужо не мог уцякаць — поўны жывот кранаўся зямлі.

— Стой, Цімох! — закрычаў Лаўрык.— А кручок?

Кручок быў мара і зайздрасць усіх наўкольных рыбаловаў. Яго прывезлі з Прагі — адмысловы, на самым канцы была ўзнізана быццам жывая зялёная капронавая мушка. Варта было толькі павесці лёскаю па вадзе, як нават непаваротныя ліні ў самы нелавушчы месяц ліпень не вытрымлівалі характару і кідаліся на павабную прынаду. Лаўрык аддаў за гэтае хараство дзве паштовыя маркі і голуба. І цяпер усё пайшло прахам!

Няшчасце пачалося з таго, што ў разгар клёву нейкі галодны яршышча мёртваю хваткаю ўляпіўся за кручок. Здымаць яго было марудна, і Лаўрык, каб не збаўляць тэмпу лоўлі, абрэзаў лёску і навязаў новы. А потым забыўся і так прынёс дамоў. А тут нахапіўся кот...

Гэта была не першая прыгода з катом. Некалькі год назад Лаўрык прыйшоў таксама з рыбы і паставіў каля студні вуду з незаматанай лёскай. Кручок лёгенька пагойдваўся на ветры. Кот, тады яшчэ не Цімох, а Цімошка, надумаўся пагуляць. Ён зачапіў лапаю лёску, кручок загойдаўся мацней. Гульня ўпадабалася. Цімошка сеў на заднія лапы, а пярэднімі пачаў церабіць і ганяць лёску з аднаго боку ў другі. Забава цягнулася нядоўга: кручок надзейна ўпіўся ў падушачку кацянячае лапы. Цімошка вякнуў, папрабаваў рвануцца, але ад гэтага толькі горш забалела.

Каток хадзіў на трох лапах вакол вудзільна, а злоўленую на кручок трымаў перад сабою, быццам яна была на перавязцы, і жаласна мяўкаў. Ратавацца ён не даваўся: абадраў Лаўрыка, а на яго маці шыпеў і пляваўся. Добра, што нахапіўся на здарэнне шафёр Ілья Мікалаевіч. Ён схапіў ката за каўнер і заціснуў яго паміж каленяў. Адзін рашучы рух — і кручок застаўся ў руцэ Ільі Мікалаевіча, а кот адбегся пад плоцік залізваць лапу. Пад вечар ён ужо на ўсіх чатырох ганяўся за матылямі.

Цяпер справа была куды сур'ёзней. Лаўрык кінуўся абшукваць мураву, дзе толькі што баляваў кот. Кручка не было і завідам.

— Няўжо ж і праўда? — усё паўтараў Лаўрык.— А, Цімох? З'еў?

Кот сядзеў на вераі, далей уцячы не было змогі. Прадчуваючы кару, ён жмурыўся і пакрысе падвываў.

Лаўрыкавы сябры голасна абмяркоўвалі неабходнасць хірургічнага ўмяшання. Іначай загіне і жывёліна і кручок. Хірургам прапанавалася быць самому Лаўрыку, як гаспадару ката. Толькі як быць с наркозам? Чаго б гэта даць Цімоху, каб ён не адчуваў болю?

Погляды разбіліся, узняліся спрэчкі. Нарэшце ўсіх пагадзіў Міцька, самы меншы з Лаўрыкавых прыяцеляў. Ён яшчэ мяняў малочныя зубы і таму шапялявіў.

— І чаго вы ўшхадзіліся? — сказаў Міцька, прытрымліваючы рукою портачкі.— Хай той кручок заштанецца ў Цімоху, ён будзе шам шабе лавіць рыбу.

Усе засмяяліся і пакінулі ката ў спакоі. Так ён і жыве да гэтага часу. З кручком.

*1963*

## БРОНЬКА

### 1

Бронька быў шчыгол, ён перабыў адну зіму ў начальніка станцыі і ўдосыць нагледзеўся чалавечай нязгоды.

Бронька злавіўся ў сіло па-дурному. Калі найшло многа снегу і стала галаднавата, ён паляцеў пацерабіць галоўкі сухога дзядоўніку за чыгункай. Не паспеў выдзеўбаць пары зернят, як пачуў: нешта тонкае і бязлітаснае сціснула яго за шыю. Бронька рвануўся і павіс. Боль на горле стаў нясцерпны, вочы самі сабою заплюшчыліся. Добра, што хутка нахапіўся і выратаваў з валасяной гапелькі Стась, старэйшы сын начальніка станцыі.

Гаварыць — начальнік станцыі, мусіць, будзе загучна. Ігнат жыў у чыгуначным дамку на платформе, дзе была студня і прыбудовачка на два аддзяленні, абавязковая на ўсіх станцыях. Ён змазваў стрэлкі, падмятаў чыгуначнае палатно і перон, прадаваў білеты, але ж, праўда, сустракаў і праводзіў цягнікі.

Гэта здаралася раз на суткі. Недзе каля абеду на станцыю па вузенькіх рэйках прыкочваў паўдзесятка нізенькіх цесных вагонаў пузаты піскдявы паравоз. Высадзіўшы некалькі бабулек з кошыкамі і дачніц, якія вярталіся з рынку ў недалёкім пасёлку, састаў цярпліва паўгадзіны чакаў ахвотнікаў наведаць раённы магазін або закусачную. Дачакаўшыся пасажыраў, паравозік прарэзліва пішчаў і рушыў назад.

Хуткасцю гэтая вынаходка чалавечага розуму не вызначалася. Мясцовыя жартаўнікі казалі, што пад час язды хлопцы і дзяўчаты выскоквалі з вагонаў і збіралі паабапал чыгункі грыбы. Нашто трымалі гэту старасвецкую вузкакалейку, адказаць цяжка: на возеры, дзе стаяла канечная станцыя, ішла першакласная асфальтаваная шаша, а па ёй аж да самай сталіцы кацілі грузавікі, аўтобусы і легкавушкі. Аднак жа,

калі старая чыгуначка ліпела дасюль, значыць, гэта было на невашта трэба. Да таго ж кіраваў усёй цырымоніяй адпраўкі і прыёму цягнікоў Ігнат. Яму падабаліся свой гучны тытул, чырвоная шапка — сімвал прыналежнасці да вялікай чыгуначнай дзяржавы, улады над рухам і асабістай недатыкальнасці, міл быў таксама білетны кампосцер, як увасабленне фінансавых аперацый.

У дом да такое важнае персоны і трапіў напаўзадушаны воласам Бронька. Ён даволі хутка акрыяў, пачаў лётаць па кватэры і дзёўб усё, што было на відавоку: бульба дык бульбу, крошкі дык крошкі, проса дык проса. Адсюль, з гэтага жытла, і ўзыходзяць яго назіранні над чалавечай нязгодай.

Больш за ўсё непаразуменняў узнікала паміж Ігнатам і ягонай жонкай, начальніцай станцыі, як для пашаны і ў той жа час напаўжартліва звярталіся суседзі.

Не зважаючы на сумяшчэнне многіх пасад, Ігнат не меў персанальнага акладу або хоць надбаўкі. А дзяцей было васьмёра — усё хлопцы, адзін у адзін, толькі кожны наступны на галаву ніжэйшы. Паспрабуй пашыць восем пар штаноў, няхай і не за раз, ш па адной пары ў тыдзень, бо акурат за гэты тэрмін хто-небудзь з начальнікавых наследнікаў пачынаў свяціць каленьмі.

Вось чаму, управіўшыся з работай на станцыі, Ігнат лавіў рыбу. Смаку ў гэтай ежы Бронька не дабіраў, але разумеў, што рыба разнастаіць меню начальнікавай сям'і, памагае набываць шапкі, кашулі і школьныя сшыткі і, апрача ўсяго іншага, дае пэўную асалоду самому начальніку. Часамі Ігнат вяртаўся з возера без улову, але вясёлы. Гэта значыла, што рыба была аддадзена за вадкасць, зусім не падобную да той, у якой яна плавала.

Ух, як засмучалі такія рэчы начальніцу! Жанчына павышала голас, не шкадавала крыўдных слоў для Ігната і нават плакала.

Броньку стала надакучаць гэткае жыццё. Ніхто ў доме на цябе не зважае і не слухае тваіх песень, хоць расперажыся шчабечучы. Толькі сварацца ўвесь дзень...

Бронька думаў уцячы, але маразы трымаліся моц-

ныя, а ён ведаў, як цяжка пажывіцца ў сцюжу. Таму цярпеў і чакаў.

І вось за акном зазелянелі бярозы, Бронькава сэрца затужыла па прасторы, па сяброўцы, па ўтульным лясным гняздзе.

Тае раніцы ў доме была найбольшая калатня. Начальніца страшыла, што паскардзіцца на Ігната ў міліцыю, бо як жа ён, п'яны, можа прымаць і адпраўляць «машыну». Яшчэ няшчасце здарыцца. А тады — чакай вялікае кары, чаго добрага, астрогу. Дык няхай лепей цяпер звольняць з работы.

Ігнат няўважліва слухаў і паглядаў у акно. Зараз павінен быў прыйсці цягнік. Мусіць, позніцца... І раптам на пераездзе з'явілася постаць у міліцэйскай форме.

— Наклікала бяды на сваю галаву! — крыкнуў Ігнат жонцы і кінуўся з хаты.

Выбегшы ў канец платформы, ён па прывычцы адчыніў семафор, а потым за два крокі пераскочыў лінію і схаваўся ў гушчары лесу.

Хатнія дзверы засталіся адчыненыя. Бронька свіснуў ад радасці і вылецеў услед за сваім часовым гаспадаром. Ён не здзівіўся, што Ігнат раптоўна знік. Дакуль жа цярпець? Ён, шчыгол, і то не ўтрываў бы, каб так назалялі і лаяліся. А то мужчына, начальнік станцыі...

Бронька сядзеў на бярэзіне і падхарошваўся. Пахла зялёнай смолкаю, лісце было яшчэ ліпкае, жаўтлявае і на сонцы прасвечвалася наскрозь. Бронька зляцеў з галіны, напіўся вады ў лужынцы пры калодзежы і зноў заняў пазіцыю на дрэве.

А падзеі тым часам разгортваліся далей.

Міліцыянер зайшоў у дом, але пабыў там нядоўга. Відаць, нешта спытаў, вярнуўся на перон і закурыў, сеўшы на лавачцы.

Падкаціў задыханы цягнічок, высыпалі пасажыры. У акенца касы застукалі нейчыя нецярплівыя пальцы — час было прадаваць білеты на зваротны рэйс.

Ігнат не паказваўся, бо меў на гэта падставы. Ён не заўсёды выязджаў на возера з дазволенай снасцю. З'яўленне міліцыі, па-першае, магло пацягнуць за сабой штраф. А пасля... Пачніся зараз якое следства —

сапраўды могуць адхіліць ад работы: стан яго не сказаць каб падыходзіў да выканання адказных службовых абавязкаў...

Тэрмін стаянкі сышоў. Пасажыры, марна папачакаўшы, калі адчыніцца каса, паселі ў вагоны без білетаў. Машыніст даў сігнал на адпраўленне, а рушыць з месца не мог: не было начальніка станцыі.

Давялося пасылаць памочніка дазнавацца. Высветліўшы, што Ігната няма і невядома калі будзе, машыніст пачаў даваць гудкі бесперастанку. Праз некаторы час прапаўшага начальніка станцыі ўжо гукала ўсё наваколле: перапалоханая начальніца — крый божа, што здарылася! — з падаткнутым падалом, некалькі суседзей і суседак, уся васьмёрка Ігнатавых сыноў, міліцыянер і найбольш жвавыя з пасажыраў. Ні чыху, ні дыху: Ігнат не абзываўся.

Усе, хто быў у той час на станцыі, пачалі прачэсваць лес. На чале добраахвотнікаў выступала Ігнаціха, трымаючы на руках дзесяцімесячнага Юзіка, самы апошні доказ начальнікавай вернасці. Два большанькія хлапчукі беглі паабапал яе, на колькі крокаў наперадзе.

Такім строем, у выглядзе пастаўленага на вяршыню трыкутніка, яны звычайна збіралі грыбы. Пасля гэтай тройцы ў лесе заставалася зона пустэльні. Хлопцы бачылі наскрозь самыя хітрыя грыбныя схованкі. Калі нельга было дастаць рукою, абмацвалі нагамі кожную прыўзнятую лісціну ці падазрона набухшы машок. Што казаць пра баравікі або чырвонагаловікі! Тут не магла выкруціцца нават самая благенькая, непрыкметна апранутая зялёнка.

Востры на вока Стась неўзабаве згледзеў між лап ядлоўцу калошы форменных портак.

— Тата! — не ўтрымаўся ўзрадаваны хлопец.

Куст зашыпеў: «Маўчы!» — і адтуль паказаўся здаравенны, са слядамі мазуту кулак. Што гэта значыць, Стасю не трэба было тлумачыць. Ён хацеў падавацца наўцёкі, але на голас падышла маці і пачалі набягаць пасажыры.

Ігнат зразумеў, што выйсця няма, і вылез са спрату. Каб хоць крыху падтрымаць гонар службовага чалавека, што без дай прычыны зашыўся пад куст, ён

пачаў гаварыць нешта, абы сказаць, абіваючы сухую іглiцу з адзежы:

— Я, гэтага, хацеў кляніны пашукаць... Усе тапарышчы паламаліся, бяда на іх...

Ці трэба тлумачыць, што Ігнат выкручваўся не самым лепшым чынам. Ні пілкі, ні сякеры пры ім не было. Дый чаму яго панесла па тую кляніну акурат у час, калі ён, начальнік, адзін раз на дзень быў сапраўды патрэбен на станцыі!

Аднак ніхто не звярнуў увагі на тыя марныя спробы апраўдацца. Усе былі радым-радзенькі. Пасажыры, хоць і падсмейваліся спадцішка, прадчувалі хуткі ад'езд. Дзеці ўляпіліся за бацьку, быццам ён вярнуўся з вялікае дарогі, і дружна запшчабяталі. Ігнаціха была памкнулася выпусціць злое слоўца, але суме-лася. Яна толькі сунула мужу на рукі дзіця, мусіць, каб напамянуць, што ўцякай не ўцякай, а ад гэтага, галубок, нідзе не дзенешся. Малы Юзік ад нечаканасці стаў мокры і да таго ж кінуўся ў слёзы.

Гэта здарэнне чамусьці ўсцешыла тоўстага румянага дзядка, і ён праціснуўся да Ігната праз невялікі гурток пасажыраў. Дзед зухавата задзёр бліскучы козыр лётнай фуражкі і паправіў на жываце папругу і нямецкі клямар з надпісам «Gott mit uns» [1], захаваны, мусіць, яшчэ з тае вайны.

— Дарма, дарма, каток! — загаварыў ён да збянтэжанага Ігната.— Гэта як народзіцца каторае дзіця ў дождж, дык гадкоў да пяці мала калі высыхае. А ты вазьмі, пасля навальніцы, накладзі з мокрага галля агню. Калі ўгарыцца, стань з сваёю жанчынаю абапал цяпельца. І перадавайце над агнём малое з рук у рукі на ўсход і на захад сонца. Трыццаць тры разы — у адзін бок і трыццаць чатыры — у другі, каб добра дымам праняло. Паможацца як бачыш, патужэюць уторы...

Дзед падштурхнуў локцем Ігната і пастукаў пальцам у свой жывот:

— Gott mit uns! — выпаліў па-нямецку і тут жа пераклаў:— З намі бог! А хочаце ведаць, чаму трыццаць чатыры?..

— Можа, вы, дзеду, гэта ў вагоне дакончыце? —

---

[1] З намі бог *(ням.)*.

абазваўся пехта з пасажыраў, каму, відаць, найбольш рупіла ехаць.

Ігнат успомніў пра занядбаныя абавязкі... Цягнік так даўно ўжо чмыхае на станцыі і крычыць, глумячы пару і вугаль.

— А дзе ён? А давайце мне яго сюды! — нечакана пачуўся голас.

Адхінаючы рукамі маладыя асінкі, проста да іх набліжаўся міліцыянер.

Ігнат пануры́ўся. «Ліхой долі не ўсцеражэшся!» — укалола і знікла імгненна думка. Раптам ён стрымгалоў сарваўся з месца і схапіў міліцыянера ў абдымкі.

— А братка! А Клемусь!

Мужчыны абдымаліся доўга і сур'ёзна, як толькі не паўломваліся рабрыны.

— Гэй, салапякі! — нарэшце кінуў Ігнат здзіўленым сынам.— Кажыце хутчэй «дабрыдзень» дзядзьку! Стэфа, глянь: Клемусь! Вось калі пабачыліся...

Гэта быў стрыечны начальнікаў брат. Жыў ён недзе за Віцебскам, а ў гэты раён прыехаў па справах і завітаў на станцыю дзянёк пагасціць.

Паравічок нарэшце атрымаў фармальны дазвол на адыход. Бадзёра піснуўшы, ён павалок вагоны. Трэба было спяшацца — першы раз за ўсё існаванне чыгункі ён спазніўся больш як на гадзіну, не сыходзячы з месца.

Ігнат пазіраў услед і то чухаў патыліцу, то ўсміхаўся. Міліцыянер ляпнуў яго па плячы. Яны падміргнулі адзін аднаму і пайшлі ладзіць снасць на рыбу.

## 2

Шчыгол Бронька сядзеў на бярэзіне і радаваўся нечакана здабытай волі. Тут і заўважылі яго адсутнасць дзеці. Бронька не здаўся ні на ўгаворы, ні на жменьку канапель. Каб быць далей ад бяды, бо ці мала чаго могуць надумацца накольнікі, ён пераляцеў цераз дарогу і сеў на штыкет, за якім стаяў высокі дом, разнасцежыўшы вокны на возера.

Загарэлы, голы па пояс чалавек напампоўваў кола матацыкла на панадворку. Потым прысеў на бервяно,

разгладзіў чорную бараду і закурыў. Яго позірк спыніўся на штыкецiне, дзе сядзеў Бронька.

— Заставайся тут жыць,— чалавек павабіў Броньку пальцам.— Я люблю вашага брата, шчыглоў.

Чорнабароды паказаў на дошчачку, птушыную кармушку, са слядамі нядаўняга гасціявання птушак.

— А не хочаш есці з сініцамі, дам табе асобную пасудзіну.

Не спыняючы ціхай размовы, ці то з самім сабою, ці то з птушкаю, чалавек вынес з прыбудоўкі дзве бляшанкі: у адну наліў вады, а ў другую насыпаў проса.

Бронька сачыў за яго павольнымі рухамі, за добрай усмешкай на твары і асмеліўся: зляцеў з плота, перш напіўся вады з бляшанкі, а потым пакаштаваў і зерня. Такія нескладаныя маніпуляцыі з ежай і пітвом штодня праробліваліся ў Ігнатавай хаце. Бронька прывык, што яго кормяць і не робяць благога, і на гэтай падставе верыў людзям і не баяўся іх.

Чорнабароды здаволена прамармытаў:

— Ты, брат, аднекуль нашы законы ведаеш: спачатку п'еш, а потым закусь цярэбіш. Мусіць, зімаваў у кагосьці.

У Бронькавым жыцці пачалася новая дружба. Ён застаўся без сяброўкі і ўжо не адлятаўся з двара таго чалавека, прывык да яго і да ягонай жонкі, маладой, як быццам нечым засмучанай жанчыны.

Неўзаметку падаўжэлі ночы, не такія цёплыя і шумныя праходзілі дажджы. Бронька ведаў — набліжаецца восень. Чорнабароды чалавек нацямку выбіраўся з кошыкам у лес. А жанчына ішла на бераг і нерухома сядзела там па некалькі гадзін, не адрываючы вачэй ад замглёнай далечы.

Аднойчы раніцаю яна выбегла з дому заплаканая. Следам выскачыў расхрыстаны чорнабароды і гукнуў, стаўшы ў браме: «Вярніся!» Жанчына на момант прыцішыла крок, махнула яму, не адварочваючыся, ражком хусткі і шпарка пайшла далей.

Бронька паляцеў услед. На завароце дарогі пад старымі таполямі стаяла зялёная машына з брызентавым верхам. Белазубы лейтэнант прачыніў дзверцы, пасадзіў каля сябе жанчыну і ўключыў скорасць. Яна

ўсміхнулася тонкімі дрыгаткімі вуснамі і сінімі заплаканымі вачыма, і наўкол як быццам пасвятлела.

Шчыгол вярнуўся на свой панадворак. Пакінуты чалавек стаяў, апусціўшы рукі, сярод дужаватых яблынек і безуважна глядзеў на галіны, абцяжаныя першымі пладамі. Бронька сеў каля яго на сцежачку, і нібы хочучы суцешыць, ціўкнуў нешта падобнае да вераб'інага «абы жыў!».

Чалавек схамянуўся.

— Жыў, кажаш? — цераз сілу пасміхнуўся ён.— Засталіся мы з табой бабылямі. Ды, мусіць, трэба неяк жыць. А ты нікуды не паляціш ад мяне?

Чалавек зайшоў у сенцы і сыпануў адтуль жменьку проса проста на зямлю. Бронька здзівіўся: гэта быў непарадак. Ён любіў гэты двор, тут пільнаваліся чысціні. Скрынка для смецця шчыльна прыкрывалася векам. І добра! Хай не лётаюць нахабнікі вераб'і. Не вельмі тут пажывішся і награбешся. Ячмень і бульбу для хатняй птушкі насыпалі ў чыстую місачку і карытца. Сыпалі шчодра, можна было заўсёды падзапасіцца. Але Бронька прызвычаіўся знаходзіць сваю порцыю ў кармушцы. А тут маеш: проса кінулі долу, проста ў пясок!

Чорнабароды ўздыхнуў і пачаў падымацца па драўляных сходцах. Пад дахам у яго быў прасторны пакой, адкуль аглядалася ўся вадзяная прастора аж да процілеглага берага.

Возера было вельмі чулае на колеры. Некалькі разоў на суткі яно прымала адценні неба: звечара было цёмна-сіняе, на ўсходзе сонца рабілася шэрае і зараз жа залівалася залацістай чырванню, а ўвесь дзень гайдала столькі блакіту, колькі магла прыняць і ўтрымаць шкляная роўніца паміж берагамі.

Тая трывожная раніца не абяцала ні мяккіх фарбаў, ні лагоднага плюскатання хваль. На сонца насунуліся хмары, зрабілася цёмна і халодна, быццам на плечы ўпала асенняе бяззорнае змярканне. З лесу выскачыў віхор, закруціў слуп пылу на дарозе і ўскінуў над возерам чорныя сажнёвыя вагары. Абсыпаныя зверху пенай і белымі пырскамі, яны злосна ганяліся адзін за адным і з грукатам спіраліся на ўзбярэжнае каменне. Было падобна, што распачалі бойку старыя гняўлівыя дзяды і, дужыя, хапаюцца за сівыя ўскуд-

лачаныя чубы, трасуць барадамі, упіраюцца грудзямі ў грудзі і, кульнуўшыся, валяцца на дол.

Чалавек бачыў са свайго паддашніка, як узляцела на хібах хваль яго лодка з вясёлым жаночым іменем на карме. Здавалася, яна вось-вось сарвецца з прыколу і, бездапаможная, затопіцца ў чорнай бязодніцы. Але ланцуг быў моцны і не пускаў лодку адну ў небяспечныя прасторы, яна крыху адплывала і вярталася назад.

Навальніца лютавала і назаўтра, яна захапіла яшчэ палавіну наступнага дня. Увесь гэты час чалавек не спускаўся наніз. Ноччу з яго акна на возера свяціла моцная шматсвечная лямпа. На світанні акно адчынілася, і адтуль, сіні і густы, як туман, падаў на зямлю тытунёвы дым.

Калі нарэшце суняўся дождж, чалавек сышоў з гарышча, адамкнуў лодку і моўчкі пагнаў яе ад берага. Ад'ехаўшыся метраў на трыста, паклаў вёслы, распрануўся і скочыў за борт.

Бронька сачыў за ўсім гэтым з берагавой алешыны. Што за ахвота купацца на такой глыбіні! Сам ён пялёхаўся ў цёплых лужынках каля ганка, калі пачынала свярбець пад крыльцамі, што нязменна паказвала на дождж.

А чалавек плаваў, даваў нырца, аддзімаўся, чмыхаў і прыгаворваў:

— Да чаго ж добра!

І яшчэ ён сказаў:

— А ты — дурная!

Бронька так і не зразумеў, да чаго гэта гаварылася. Але з наступнай раніцы ў яго бляшанцы пачало з'яўляцца проса.

*1963*

## БЕССАРОМНЫ ТРУБКІН

Я вярнуўся з горада і сядзеў на ганку, слухаючы вечаровы пошум хвой, якія падступалі пад самыя сцены дачных дамочкаў.

— А да цябе тут сабачка прыходзіў,— раптам пачуўся голас.

Ён стаяў, упёршы рукі ў бокі, і пазіраў мне ў твар. Кароценькія портачкі з шлейкаю цераз плячо не маглі схаваць свежых струпоў на пазбіваных каленях. Не лепей было і з локцямі, я прыкмеціў гэта, калі ён падняў руку, каб засланіцца ад сонца.

Хлопчык быў чорнагаловы і зусім дробненькі. Загар прыстаў да яго цельца, тугога і зграбнага, так густа, як быццам карычневая скура асмуглела не на ветры, а закурылася дзе-небудзь у смалярні і яшчэ пахне хвойным дымком. З вуснаў малога не сыходзіла ўсмешка, гэта рабіла раток яго крыху шыракаватым, але не брыдзіла аблічча. Бо яшчэ ж усміхаліся два радкі снежных зубоў, такіх сляпуча белых, нібыта хапіў ён маладога сняжку з галіны і не стуляе губ, каб не растаў; усміхаліся з-пад доўгіх веек буйныя цёплыя чарніцы, і ўсё гэта — усмешка не ўсмешка, ззянне не ззянне — ператкарала маленькую постаць у камячок святла.

— Сабачка доўга чакаў, ён такі харошанькі,— зноў абазваўся хлопчык.

— Чаму ж ты яго не папрасіў застацца?

— Яму надакучыла. Ён павіляў хвастом і пабег. Туды.

Хлопчык крутнуўся і паказаў рукою на лес. На нейкі момант, калі я не бачыў яго ўсмешкі, на дварэ, здавалася, паменшала святла, як быццам набег пералётны воблак. Але ён зноў павярнуўся да мяне тварыкам, і ўсё засвяцілася па-ранейшаму.

— Не смуціся, ён вернецца,— суцешыў мяне хлопчык.— Я казаў, што ты сёння прыедзеш.

«Харошанькі сабачка», што так прыпаў да вока майму суразмоўніку, быў, відаць, не хто іншы, як

вядомы ўсяму нашаму пасёлку Дазор, рудавата-белы дварняк з нявыліняўшай поўсцю, валацуга без пэўных заняткаў і сталага месца пражывання. Сабака, як прыдумалі вострыя языкі, працаваў у некалькіх дварах на паўстаўкі. Строга пільнуючыся чаргі, ён прыходзіў раніцаю пад чые-небудзь дзверы і падаваў голас: я — ваш вартаўнік, самі разумееце, што трэба рабіць. Ежаю ён не грэбаваў, з'ядаў, колькі б чаго ні вынеслі. Пасля клаўся каля ганка — адрабляць харчы: гаўкаў на ўсіх прахожых, у тым ліку і на тых, хто карміў яго напярэдадні. Праз гадзіну Дазор знікаў, і хрыплаваты брэх паказваў, што ён пачаў варту на другім участку.

— Як зваць яго, таго сабачку? — запытаў я, каб праверыць сваю здагадку.

— Не ведаю. Я з ім зусім нядаўна пазнаёміўся. Гэта мяне Сіма пазнаёміла.

— А цябе як зваць? — пацікавіўся я.

Малы пераступіў з нагі на нагу і падаў мне руку:

— Трубкін.

— Добра, будзем знаёмы. Што ж, таварыш Трубкін, цябе і дома так клічуць?

Трубкін пырснуў у кулачок.

— Таварыш — мне яшчэ ніхто не гаварыў. Дома я — Лізавецік.

Цяпер давялося пасміхнуцца мне.

— Не, Трубкін, тут нешта не тое. Лізавецік... Можа ты дзяўчынка?

— І не думаў быць плаксам. Мая мама, праўда, дзяўчынка. Тата так на яе і кажа: дзяўчынка, Лізаветка. А на мяне — Лізавецік.

— Гэта значыць — Лізавецін сынок?

Трубкін здзівіўся:

— Адкуль ты ведаеш? Гэтак мой тата выдумаў. Але на вуліцы я павінен гаварыць на сябе — Трубкін. Калі згублюся, каб ведалі, да каго завесці.

— А як зараз будзем лічыць — ты згубіўся?

— Відаць, згубіўся, калі ласка.

— Вось як... Выходзіць, цябе трэба весці дамоў?

— Выходзіць, калі ласка.— Хлопчык апусціў галаву.— Я пачакаў бы яшчэ таго сабачку,— з нясмелай надзеяй прамовіў ён,— але хочацца, калі ласка, хлеба.

Я пасадзіў яго за столік на верандзе, накроіў батона і наліў яму і сабе малака.

— Поўны? — Трубкін зірнуў на кубак.— Многа. Дзецям трэба налiваць тры чвэрткі.

— Нічога, не з'ясі, дык хай застаецца.

— Ты нейкі дзівак.— Трубкін паціснуў плячамі.— Застанецца, а потым што, выліваць? Малака ж ніхто дарам не дае.

Бесклапотны ўзрост і тым больш адкрытая ўсмешка майго госця ніяк не пасавалі да гэтага занадта практычнага тону. Некаторы час мы елі моўчкі.

— А чаму ты не намазваеш хлеб варэннем? — спытаў ён, адпіваючы глыток малака.

— Хочаш?

— Хачу, калі ласка.

Я дастаў слоік журавін і ўзяўся за кансервавы нож.

— Што ты! Не пачынай! — рашуча запярэчыў Трубкін.— Хай на зіму будзе. Ды гэта куплёнае, а на дачы трэба есці сваё. Бо нашто ж тая дача!

Я запрапанаваў хлопчыку замену, сподак свежых суніц.

— Ты, мусіць, не ўмееш нічога рабіць у запас,— пашкадаваў ён.

— Не,— шчыра прызнаўся я.

— Вось і мой тата такі. А дзед і бабка — абое ўмеюць. І сырых ягад мы не ядзім. Шкодна. Цяпер нам бабка дае тое, што ў прамінулым-замінулым годзе варылі. Тады, кажа, леташнія слоікі пачнём.

Тым часам з поўным кубкам малака і шкоднымі сырымі ягадамі было пакончана.

Трубкін падзякаваў і сказаў:

— Трэба, калі ласка, памыць рукі.

Я спахапіўся і папрасіў прабачэння, што мы не зрабілі гэта перад ядою.

Старанна намыльваючы чорныя лапкі, Трубкін раіў:

— І ты заўсёды так рабі. Пасля абеду — пальцы тлустыя, плямы застаюцца, штаноў не накупляешся.

Пра дом ён забыўся, і мы пачалі перагортваць часопіс з каляровымі малюнкамі.

— І я мог бы, калі ласка, памаляваць.— Ён па-

глядзеў на мяне, відавочна, не жадаючы пачуць адмовы.— Мне толькі аловак, я магу і на газеце.

Вялікі аркуш паперы ў клетачку значна павысіў настрой мастака.

— На добрай паперы і малюнкі добрыя,— сказаў ён.— А ў цябе многа такой? Мусіць, заявы пішаш? Мой дзед любіць пісаць заявы. Кажа, што ёсць людзі благія і яго крыўдзяць. І ты благі?

Што адказаць, я не ведаў, і мы ўзяліся за маляванне. Хутка я высветліў, што кружок з двума трыкутнікамі ўгары і закруткам унізе трэба лічыць за мыш. Два кружкі, пастаўленыя адзін на адзін, такса- называюцца кошкай. Соль і алей пры ўсіх намаганма з трыкутнікамі — вушы — і загагулінай — хвост,— нях, нават крыху высалапіўшы язык, нікому з нас намаляваць не ўдалося. Затое я дазнаўся многа каштоўнага для абыходку ў свеце. Прасіць што-небудзь у знаёмых, а яшчэ горш у незнаёмых — брыдка. Можна маўкліва згадзіцца на прапанову з'есці цукерку і сказаць толькі «калі ласка». Маляваць, вядома, прыемна, але толку ад гэтага ніякага. Куды больш карысці прарываць маркоўку на градах і здымаць з ліспяў вусень. За гэта дзед налічвае працадні і дае за кожны авансам капейку. Манеты Трубкін кладзе ў «катка» — у яго між вушэй дзірачка. Калі ён праз два гады пойдзе ў школу, бабка адамкне скарбонку і купіць панчошкі. Тата і мама прыязджаюць толькі ў нядзелю, прывозяць прадукты і даюць дзеду грошы. Тады Трубкін не поле грады, а ідзе з бацькам на рэчку. І яшчэ дзед кажа, што добра было б на кожным рагу ўчастка навязаць па сабаку. Хай адпужваюць зайцаў, каб не аб'ядалі яблынь.

Вочы ў Трубкіна загарэліся. Чатыры сабакі каля дому, і ўсе гаўкаюць, і кожнага можна пагладзіць! Гэта яму, відавочна, падабалася.

— Але я іх усё роўна не пабачу,— уздыхнуў ён.— Зімою мы тут не жывём.

Вычарпаўшы ўсё ўмельства ў галіне малявання жывёл і дрэў, Трубкін адкінуўся на спінку крэсла і глядзеў праз акно. Я прасачыў за позіркам хлопчыка: проста ў пакой звісала галіна з белымі налівамі яблыкамі.

— Можа пакаштуем?

— Сырыя, шкодна,— няўпэўнена прамовіў ён.

— Давай праверым, узлезь на падваконне і нарві.

— Сам? — не паверыў Трубкін.

Аднак паўтараць запрашэння не давялося. Ён, не хаваючы асалоды, рваў самыя буйныя яблыкі і перадаваў мне.

— Давай не будзем мыць! — Трубкін па-змоўніцку зірнуў на мяне.

Мы елі нямытыя яблыкі, суцяшаючы сябе тым, што ўчора быў дождж, а каб і не было, дык яны ўсё роўна чыстыя дый так смачней. Раптам Трубкін суняўся:

— А ты не будзеш выціскаць яблычны сок на зіму?

Супакоены маім адказам, Трубкін з'еў яшчэ яблык і пазяхнуў. Ён такі добра змарыўся. Бо сядзеў каля нашага ганка з паўдня, усё чакаў, ці не вернецца бадзяга Дазор. Здрадлівая Сіма, яго малая суседка, пазнаёміўшы хлопчыка з сабакам, таксама збегла, а куды ісці, Трубкін забыўся.

Вечарэла. Дзе жывуць дзед і бабка Трубкіна, я не ведаў. Прыкметы іхняй дачы мала давалі для пошукаў: акурат гэтак выглядалі амаль усе дачныя дамы. Я вагаўся, што рабіць?

— Ты, мусіць, баішся хадзіць вечарам? — прыйшоў на выручку Трубкін.— Я мог бы, калі ласка, паспаць і тут. Знойдуць! Калі я губляюся, дык дзед бяжыць у адзін канец пасёлка, а баба — у другі.

Пакідаць яго нанач мне здавалася рызыкоўным. Тым больш, што дзед і баба бегаюць дзесьці, можа шукаюць у лесе ці ў суседнім паселішчы.

— Вы не бачылі часам чорненькага хлопчыка? — пачуўся голас з вуліцы.

— Бабка! — шапнуў хлопчык, ён сціснуўся на крэсле і зрабіўся яшчэ меншы.

Мне стала шкада дзіцяці. Каб крыху падбадзёрыць яго, я спытаў з удаванай весялосцю:

— Што будзем рабіць, таварыш Трубкін! Трэба абзывацца.

Ён зірнуў на мяне. У позірку было бязгучнае асуджэнне за здраду нашым сяброўскім інтарэсам і просьба: не скажы нічога лішняга.

Хлопчык павольна падышоў да акна:

— Я тут!

Бабка аказалася таўсматай жанчынай, гадоў так за сорак пяць, з вусамі маладога Будзённага.

— А-яй! — нараспеў загаварыла яна.— Сам нічога не робіш і ў чалавека час адабраў. Дзякуй жа вам. Бессаромны ты! От згубіцца і сядзіць цэлы дзень у чужых людзей. А бабка ламі галаву, шукай. І без цябе клопату хапае!

Так прыгаворваючы, яна павяла Трубкіна на вуліцу. Каля брамкі ён памахаў рукою:

— Я мог бы і заўтра, калі ласка, табе памаляваць. Можа і сабачка прыйдзе. Я хачу яго не баяцца.

*1964*

# ГІТАРА

Васілёк не зморваўся. Яны ўвесь дзень хадзілі з бацькам па горадзе, а хлопцу ўсё не было ўпынку. Сказаць хадзілі было б не зусім дакладна, бо яны добра такі пракаціліся на тралейбусе, не мінулі пад'ехаць на трамваі, а да Мінскага мора дабіраліся на маршрутным таксі.

Пасля Кармы, дзе настаўнічаў Васількоў бацька, сталіца тлуміла шумам і гарачынёю. Аднак для хлопчыка ліпеньскай спякоты як і не было, ён цягнуў бацьку далей, стараючыся не прапусціць ніводных дзвярэй у магазін. Хто ж гэта паверыць, каб за бліскучымі вітрынамі, дзе стаяць святочна паўбіраныя «дзядзі» і «цёці», не знайшлося нічога цікавага. Спачатку ён палічыў манекены за жывых і пацікавіўся:

— А што, у іх работа такая?

— Як, як? — перапытаў, не зразумеўшы, бацька.

— Ну, стаяць цэлы дзень у акне і пазіраць на вуліцу.

— А-а,— пасміхнуўся бацька,— чым сабе і не работа?

Васілёк успомніў, як нядаўна ён быў на калгасным лузе і куляўся ў пасцягваных коннымі граблямі валках.

— Я ж і кажу,— разважліва зазначыў ён,— работа не цяжкая. Але нудна, ехалі б лепей да нас, на сенакос.

Найбольш было клопату з роспытамі. Бо як тут растлумачыш малому, што прыгожы дом [illegible] маладымі яблынькамі пад вокнамі — гэта міністэрства, а на рагу, насупраць стадыёна — гасцініца. Хлопчык не задавальваўся назвамі, яму трэба было дазнацца, што могуць рабіць у такіх вялікіх дамах. Ён ведаў, што ў калгаснай шавецкай майстэрні шыюць і ладзяць абутак, на фермах — гадуюць свіней і авечак, і патрабаваў адказаў ясных і вычарпальных.

Выслухаўшы, што ў міністэрстве працуюць, Васілёк адразу ж захацеў удакладнення.

— І многа там людзей працуе?

— Пэўна, з паўтысячы.

— А куды яго здаюць тое, што зробяць?

Бацька збянтэжыўся.

— Бачыш, сынок,— старанна выбіраючы зразумелыя словы, пачаў ён,— тут пішуцца паперы, складаюцца планы. Як лепей даглядаць зямлю, колькі і чаго трэба зрабіць.

Як проста ні гаварыў бацька, да хлопчыка не дайшло. Ён запярэчыў, што бацька, мусіць, сам усяго не ведае. Як гэта можа быць?

Тым часам яны выйшлі на цэнтральны праспект, і ўвага хлопчыка адцягнулася на іншае. Ледзь не паўквартала займалі вялікія вокны кнігарні. Васілёк падумаў, што злажы ў адно месца ўсе кнігі ўсіх вучняў іхняй школы, дык і то гэтулькі не назбіраецца. Але каб падаравалі яму столькі, дык частку можна было б паставіць у школьным калідоры, бо, мама кажа, у кватэры і так цесна. Потым ён пацікавіўся, як бы зрабіў у такім выпадку бацька.

— Ну, чытаў бы іх,— адказаў той, ачнуўшыся ад сваіх думак.

— Адзін?

Васілёк зараз жа выказаў слушнае меркаванне, што ён перш параскладаў бы кнігі па літарах і тады браўся б за чытанне. Можа б за паўгода і прачыталі як удваіх.

Яны выйшлі з кніжнага магазіна. У вочы кінуўся высокі, крыху змрочны дом на другім баку вуліцы. З-за маладых ліп паглядалі закратаваныя вокны першага паверха.

Васілёк прыгледзеўся.

— Ведаю,— рашуча заявіў ён.— Тут п'яніц цверазяць, трымаюць, пакуль не выспяцца.

— Як, як? — не паспеў здзівіцца бацька.— Гаворыш абы-што.

Васілёк пакрыўдзіўся. Ён ведае, што гаворыць. Хіба не пры ім расказвалі, як нарыхтоўшчыка з раёна забралі дружыннікі і ён потым дзесяць дзён падмятаў вуліцы, а начаваў дзесьці за кратамі. Вось яны, тыя краты, і ёсць.

— Не, Васіль, гэта банк. Тут, брат, грошы лічаць.

— І ўсяго работы? Зноў скажаш — працуе паўтысячы чалавек?

— Сама меней.

Тут Васілёк выказаўся за рашучае спрашчэнне банкаўскіх аперацый. Навошта дарма траціць час? Каму колькі належыць, хай прыходзіць і адлічвае сам.

— Ну, браток,— усміхаўся бацька.— Гэта ўжо быў бы поўны камунізм.

— Ой, тата, гаворыш сам абы-што,— адпомсціў Васілёк.— А хто мне казаў, пры камунізме грошай не будзе?

Бацька палічыў за лепшае накіраваць размову на другое, балазе іх падхапіла патока людзей, што заходзілі ў вялікі магазін.

— Гэта універмаг? — на хаду спытаў Васілёк.— Язык паломіш аб гэта слова. Наша бабка на яго лепей гаворыць.

У «ермаку», як гаварыла бабка, Васілёк нястомна абхадзіў усе паверхі, спыняўся каля ўсіх прылаўкаў. Тут яны купілі фарбы, альбом для малявання і добрых алоўкаў.

— Ты, мусіць, брат, таго... падбіўся? — спытаў бацька, калі яны нарэшце выбавіліся на зялёны скверчык.

— Не, татачка. Калі хочаш, пасядзі ў халадку. А я на плошчу збегаю.

І так Васілёк ні разу і не папрасіў ні спачынку, ні падмацавання. Праўда, калі па паўдні стала ўжо зусім горача, хлопец пачаў уважліва паглядаць на сінія скрынкі, каля якіх стаялі вясёлыя жанчыны ў белых халаціках. Дый то не папрасіў піць. Бацька прыйшоў на дапамогу сам, і яны са смакам елі брусочкі замарожанага малака, едучы ў машыне на мора.

Вось тут і быў парушан Васількоў спакой і яго дзіцячае прызвычаенне — нічога не прасіць.

На моры яны хораша паплавалі, пасядзелі на пяску, пад'елі пад вялікім брызентавым парасонам яечні, запілі ліманадам. А па дарозе да аўтобуснага прыпынку трэба ж было трапіцца ларку з культтаварамі. Чарнавокая жанчына ўсміхалася ім з-за прылаўка. А там былі раскладзены трусікі, ласты, даміно і вісела гітара. Крыху меншая за тыя, на якіх іграюць дарослыя, але акурат такая самая.

Васілёк схапіўся за бацькаву руку. От бы яму гэта сямістраннае дзіва! А прадаўшчыца, нібы адгадаўшы, што ўразіла хлопцава сэрца, зняла гітару з цвічка, прабеглася пальцамі па струнах:

— Чысты гук! Сама грае! Сёння дзесяць штук прадала. Апошняя.

Да Васілька вярнулася мова. Аднак ён проста не выказаў свайго жадання, а даволі безудзельна прамовіў:

— У нас у самадзейнасці большыя. Але і з такою запісалі б у гурток.

Бацька пераглянуўся з прадаўшчыцай. Адным словам, на кватэру да бацькавых сваякоў Васілёк прыехаў з гітарай. Не выпускаў яе з рук і пад час вячэры трынкаў у безладзь, уяўляючы сябе ўжо ўдзельнікам калгаснай самадзейнасці. З гітарай заснуў. Бацька асцярожна распрануў хлопчыка, паклаў на канапку, а гітару павесіў поблізу на цвік.

За размовою дарослыя заседзеліся да поўначы. Насценны гадзіннік пачаў вызваньваць чвэрткі. Васілёк прачнуўся і сеў на канапку. Праціраючы кулакамі вочы, прыслухаўся:

— О, мая гітара сама грае! Праўду казалі ў магазіне.

Паклаў галаву на падушку і адразу зноў заснуў, не чуючы, як ціхенька смяяўся, накрываючы яму плечкі, бацька.

*1964*

# ЛЯВОНІХА

*Паэма*

1

Няўцешнаю гадзінай
На твой ступіў я шлях,
Бацькоў маіх радзіма,
Палеская зямля.

Мурожны і лясісты
Ласкавых сэрцаў край,
Ды рос там непамысны
Ніщчымны ураджай.

А скрозь глядзелі хаты
У люстра поўных рэк,
Патупваў хітраваты,
Спаважны чалавек.

Зімой дзічка ўпалюе,
Б'е рыбу ў ледастаў.
Не скажа:
«Я мяркую!»
А ўсё:
«Як той казаў».

Не то каб меў за сорам
У вока праўдай тнуць,
Ён так навучан горам,
Калі не мог дыхнуць,

Калі пятой жандара
Яго прыціснуў пан,
Калі ён гаспадарыў
Ад сошкі і цапа.

І толькі знаў дакуку,
Чуць што:
«Спускай штаны!»
Упісвалі навуку
Яму ніжэй спіны.

У пошуках ратунку
Ад гэтых злых прыгод
Сваю святую думку
Валіў ён на «таго»:

Як той казаў, аконам
Сыцей за воўка жыў;
Як той казаў, законам
Хоць пень падпяражы.

А хто ён, «той»? У свеце
Спаткай ці дажані,
Калі дагоніш вецер
Сярод пажатых ніў.

Прыдумка скіне шоры
І рынецца ў аблёт,
Увесь яе паўторыць
Ваколічны народ.

І так, абавязкова,
Па коле прыйдзе зноў,
Пастукаецца слова,
Адкуль пайшло, дамоў.

І хтось, нібы не ведаў,
Як бы не сам складаў,
Штурхне пад бок суседа:
«Ці чуў, як «той» казаў?»

Прыложыць, прымудруе
І рад — чаго яшчэ! —
Ён выкпіў долю злую,
Нібы прагнаў з вачэй.

Хоць гнуўся з панскай ласкі
І часта еў кару,
А песняю і казкай
Багаты беларус.

З высокіх ганкаў дома,
З гары, дзе мы стаім,
Шчаслівы мой патомак,—
Схіліся перад ім.

Ён з граматы агорваў
«Тры крыжыкі» навек,
Не злыдзень, не аторва,
Цярплівы чалавек.

Лічыў за гонар працу,
Як пух, араў папар,
Здаралася, знянацку
Нажне снапок з выгар.

Але бяды не сходаў,
Бо вочы выеў дым.
Ён жыў даўно, твой продак,
Схіліся ж перад ім.

Яго ў старых выданнях
Размалявалі ўсмак,
Цянётамі паданняў
Заблытвалі ўсяляк.

Ману пагналі хваляй
Пра люльку з капшуком
І голаў забрыталі
Злавесным каўтуном.

Балотнай трасцай білі,
Загнюшвалі душу,
А зверху начапілі
Мянушку:
«Паляшук».

Ды не зламала трасца
Яго ў глухім жыцці:
Пачаў угору брацца,
Вышэй бароў расці.

Ён развітаўся з горам
І перад светам стаў,
Прыдбаўшы сталы гонар
Умельца слаўных спраў.

2

Там кожны добра ведаў
Дамок ля ветрака
Гудца, па ўзросце дзеда,
Ды трохі дзівака.

Дамочак — тры на восем —
Як быццам зазываў:
Хлябок падзелім з госцем,
Крыніца дасць пітва.

Зямлі — з жабрачы вузел,
Ды ў дзеда на страсе
Чырванадзюбы бусел
Спаў на адной назе.

Было з дзесятак клетак
Са спеўнай птушыной,
Цвіло ці мала кветак
Пад вокнамі вясной.

Збірала лета ў соты
З пахучай ліпы мёд,
Дарыла і ўмалотам,
Няхай не кожны год.

Як жнівень мэндлі звозіў,
Уцёршы пот з пакош,
Па садзе несла восень
Буйных антонаў кош.

Выспельвала ігрушы,
Як медныя званы,
Збіраючы ў папушы
Буйныя тытуны.

Каб доле пасадзілі,
Дык і дзіця расло б:
Ніколі на сядзібе
Не зводзіўся прыплод.

Была з удачай хата,
Трымаўся добры лад:

Прыводзіла багата
Жывёліна блізнят.

А на пацеху ўнучкам,
Хоць і бурчыць стары,
Не астанецца сучка:
Прываліць пар са тры.

І кожная тварына
Маленькага двара
На мове гаварыла
Свайго гаспадара.

Як выйдзе раніцою,
Ускінуўшы кажух,—
Авечай мітуснёю
Акажацца катух.

Як быццам бы пад швайкай,
Падсвінак вераскне,
Перажаваўшы жвайку,
Падласая ўздыхне.

Вачыма сонна лыпне,
І, быццам незнарок,
Падняўшы мызу, мыкне
Лабаты бугаёк.

Няпэўнымі нагамі
Падыдуць да рукі,
Варушачы губамі,
Два лысых стрыгункі.

І раптам дасць у трубы,
Задраўшы галаву,
Высокі, белагруды,
Як жораў, галагут.

Аж рэха страпянецца
Ад стрэшкі да спяны,
А дзед сабе смяецца:
— Адкуль гэта бярэцца
У дробнай птушыны?

Тут і мярцвяк ускочыць
Ад пеўневай трубы!

Пад свірнам забуркочуць
Сівыя галубы,
Хвастамі завіляе
Сабачая сям'я.

Дзед весела гукае:
— Капэлія мая!

Зарохкае, забрэша,
Замыкае хляўчук...
А гаспадар усцешан:
— Мацней, зялёны сук!

3

Дзівіліся па вёсках
І, меркаваўшы ўсяк,
Пусцілі пагалоску,
Нібыта дзед — вядзьмак.

Што ён, травы на пойме
Сабраўшы ля ракі,
Як дасць карове ў пойле,
Дык зразу блізнюкі.

Каб выпытаць сакрэты
Пра тыя спарышы,
Старому шмат за гэта
Стаўлялі барышы.

Перакуліўшы чарку,
Ён важна прамаўляў,
Што трэба гаспадарку
Трымаць, як той казаў.

Бо кожнае ж стварэнне
Шануе догляд твой:
Падбай у час аб сене,
А ў холад цёплым пой.

Ён ведаў трохі лекаў,
На зёлках разумеў,
У болю чалавеку
Ён пасабіць умеў.

Патрэбныя прыкметы
У памяці збярог,
Якое будзе лета,
Сказаць зімою мог.

А сілаю замоваў
Ніколі не ўладаў,
Хоць пра вядзьмарства мову
Не лішне адкідаў.

Была з таго пашана
І чарка на стале.
Хадзіў ён на Івана,
Як бы на чары, ў лес.

А ў пушчы грыбам пахне,
Жывіцай баравой.
Ні чараў тых, ні страхаў
У цішыні начной.

Там, каля хвояў гонкіх
Прыстояўшы адзін,
Паслухае гамонкі
Шумлівых верхавін.

Далоняю пагладзіць
Смалістыя камлі
Ды сам сабе парадзіць:
— Эх, дожджачкі былі б!

І дрэў, як у люстэрку,
Жыццё яму відно.
Пускаў святло сякеркай
У дом цераз акно.

Пяе на гэблі стружка,
З-пад майстравай рукі,
Як шлюбная істужка,
Злятае на бакі.

Ён вырабляў драбіны —
Цяпер такіх няма:
Да лёстачкі — з кляніны,
Хоць зараз на кірмаш.

А ў снежныя павевы,
На радасць хлапчанят,
Малым выточваў з дрэва
Звяроў і птушанят.

Па лыжцы ўсім знаёмым
Спрэзэнтаваць любіў,
Адно труны нікому
Ніколі не зрабіў.

— Я, бачыш, не аматар,—
Казаў на просьбы ён,—
Стаўляць глухія хаты,
Без печы, без акон.—

Было ў сталярцы чыста,
Уцешна для душы
І крышачку ўрачыста,
Як калісь на імшы.

Кавалкаў восем грабу
Ён вяліў там з вясны,
Камлі чырвоных яблынь,
Бярозы і сасны.

Здаецца, ажывалі
Застылыя брусы
І формы набывалі
Высокае красы,

Каб стаць дзесяткам рэчаў,
Цабэркаў і дайніц,
Начыннем чалавечай
Штодзённай сумятні.

І ў марах уздымаўся
Іх лёсаў уладар,
Маленькі, сівы майстар,
Што ўсім жыццё ім даў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пагаманіўшы з голлем,
Дамоў прастуе дзед,
Мяркуючы павольна,
Як складна зроблен свет.

І сінія прасторы,
І бору галасы,
І ў ясным небе зоры,
І ў полі каласы.

Здавалася ў спакоі
Зарошаных палян
Разумнаю, жывою
Істотаю зямля.

Ды толькі крыўды многа,
Няроўна дзеліць бог.
Палаяць бы старога —
Ён, пэўна б, лепей мог.

І год ужо багата!
Дзед ціхенька ўздыхне,
Што мае ўсё пачатак
І мае ўсё канец.

4

Былі вачам на ўцеху
У дзеда тры сыны:
Старэйшы не прыехаў
З японскае вайны;

Сярэдні на германскай
З-пад Буга не прыйшоў,
А меншы ў грамадзянскай
Спачыў за Іртышом.

Застаўся сціхатою
Адзін старадзяроў
З малых дзяцей капою
І паўкапою ўдоў.

Раслі яны як трэба,
Дзяўчаткі і хлапцы.

Дай хлеба і да хлеба,
Спрабуй стачыць канцы!

У лапціках хадзілі —
Лазы такі было! —
Іх сцюжы халадзілі,
Іх лашчыла цяпло.

Са столярскай работы,
Шкадуючы малых,
Зрабіў ім пару ботаў,
Але адну на ўсіх.

Каб добра ўмелі хлопцы
Дайсці да зерня спраў,
Па цэлай сямігодцы
Ім дзед асвету даў.

— А дзеўка без вучэння
Падчэпіць жанішка,
Абы,— казаў,— хаценне
Хадзіць каля гаршка.—

І хоць варыла ў дзеда
Сівая галава,
Ды тут наконта ведаў
Ён моцна пудлаваў.

Не тыя ўжо навукі
Ступалі па раллі...
Сталелі ў дзеда ўнукі
І праўнукі раслі.

І час растоптваць шырай
Ім сцежкі загадаў,
Ляцець у дальні вырай
Ад роднага гнязда.

Адзін птушынай фермай
Удала кіраваў,
А той зямлю размерваў,
А той старшыняваў.

Унучкі — хто даярка,
Руплівая пра ўдой,
Хто лепшая свінарка
У вобласці сваёй.

І кожнае нядзелі
Сястрыцы і браты
За абавязак мелі
Да дзеда слаць лісты.

Заўсёды віншавалі
З вясёлым днём каляд
І грошай падкідалі
На чарчыну да свят.

Мог жыць ён і без працы,
Дастаў пашаны дзед —
Каб зажадаў катацца,
Увесь бы з'ездзіў свет.

Пакуль такое шчасце
Зірнула на парог,
Зазнаў ён шмат напасці —
Цароў не менш як трох.

А колькі змусаў, чыншаў
За век свой праглынуў,
Што нетрывалы іншы
І капыты б згарнуў.

А ён рабіў, не гнуўся,
З радна прыждаў відна.
І паклякотваў бусел,
Вартуючы гумна.

Часамі, цёплым ранкам,
На росныя шляхі
Стары глядзеў з прыганка,
А бусел са страхі.

І дзед махаў рукою:
— Зусім бацян сапсеў!
А бусел думаў тое ж,
Але сказаць не ўмеў.

5

Як хлопцы талакою
Пайшлі на ўласны хлеб,
Застаўся дзед з адною
Унучкаю ў сяле.

Ці то спалохаў морак,
Калі была ўцяжку,—
Нявестухна заморак
Радзіла нацямку.

Прыхворвала малая,
Тулялася маўчком.
Ляны яе не лаяў,
Не сцёбаў паўразом.

І ад уласнай маці
У шэрых дзён хадзе
Жыцця не мела ў хаце,
Пакуль не ўзяўся дзед:

— Так можна з чалавека
І нелюдзя зрабіць! —
Ён даў малой апеку
На зёлкі, на грыбы.

Тады ў яе на лекі,
Што вынайшаў народ,
Расплюшчыліся вейкі,
Каб несці з роду ў род.

І неяк неўзаметку
Дараджваць пачала,
Што трэба, каб улетку
Раілася пчала.

Як падысці да раны,
Як боль дурпы суняць,
Як шчаўем шаткаваным
Зняць наедзі ў каня.

Тут ад свайго закону
Дзед адступаць пачаў:

Зімы чатыры ў школу
Дзяўчынку пасылаў.

Пасля займеў ён скруху:
Расце, цвіце дзяўчо!
Такую шчабятуху
Бяры пад сем ключоў.

Паперадзе усюды —
На ржышчы і ў танку.
Валодаць гэтак склюдам
Не брыдка мужыку.

І ў будні дзень, і ў свята
Значна паміж людзей —
З касою аж па пяты,
З азёрцамі вачэй.

Красу такую ўпотай
Дарэмна не хавай,
І дзеду ад залётаў
Хоць браму падпірай.

Уславілася гэтак,
Што, як на цуд які,
З пятнаццаці паветаў
Кацілі жаніхі.

І хоць часамі ўнучка
Знаходзіла пад густ,
Сватам уласнаручна
Дзед падкладаў «гарбуз».

Не мог знайсці абранца,
Каб мець душы спакой,
Ніяк не мог расстацца
З адзінкаю сваёй.

Не аддаваў, хоць рэжце,
Паўсвету абшукаў,
Ды мусіў-ткі нарэшце
Прыняць ёй прымака.

І дуж, і ў працы здацен,
Прыгож быў з твару ён,
Адно ўсяго багацця,
Што меў імя — Лявон.

З малым пасагам скрыня,
Але — такой бяды!
І стала Кацярына
Лявоніхай тады.

Гарой падушкі ўзбіты,
І выбелена столь,
Засланы дамавіта
Настольніцаю стол.

І хоць была замужкай
Спаважнаю ў жыцці,
Яна любіла стужку
У косы заплясці.

Ды ў часе шэрых змрокаў
Крадком туды міргнуць,
Дзе з выганаў далёкіх
Начлежнікі пяюць.

Румяная, як вішня,
Убёры зіхацяць.
Як толькі з хаты выйшла —
Пяе наўкол прасцяг.

Пяе пра той вяночак,
Што ў полі начаваў,
Пра тое, як Лявончык
У губкі цалаваў.

Як некалі кахала,
Дзяўчынаю была —
Сымону вышывала,
Лявону аддала

Кашулю з васількамі
На восем каляроў,
З дубовымі лістамі
І з парай галубоў.

Ці ж мала іх бывае
На свеце, розных дзіў:
Лявон яе не лаяў,
А як яшчэ любіў.

Ды толькі ў добрай ласцы
Не шмат яны жылі:
Тады з вайной чапляцца
Суседзі пачалі.

На тую пагалоску,
Што стала ля акон,
Сабраўся хутка ў войска
Зімовым днём Лявон.

А цераз месяц з Мінска
Паперу дзед дастаў,
Што без весці на фінскай
Зямлі
Лявон прапаў.

У вёсцы стала ціха,
Няведама адкуль
Прыблыталася ліха
У дом пры ветраку.

А гора над жанчынай
Звінела ваднём,
Ваду слязьмі гарчыла,
Ляцела ўслед грунём.

Ды смутак, сцяўшы грудзі,
Хоць боль душу вымаў,
Не паказала людзям,
Адужвала сама.

Жыла сабе ўдавою,
У працы — ад відна,
Дзявочаю красою
Свяцілася яна.

Ёй кожны пасміхнецца —
І прэч турбот раі,
Бо ведала, як сэрца
У часе падгаіць.

Ці прыказкай, ці складкай,
От гэтак, акурат,
Як некалі прабабка
Сто год таму назад.

Дык нездарма гавораць:
Лягчэй таму знайсці
Шлях да людскога гора,
Хто меў сваё ў жыцці.



Сцвярджаць не падручуся,
Але, як сведчыць дзед,
У кожным беларусе
Жыве-крыху паэт.

З усіх найлепшых згадак
Любіў згадаць сівы,
Як ён рабіў парадак,
Вярнуўшыся з Масквы.

На ўтаймаванне сварак,
Каб згодай дыхаў дом,
Падаўся ён на старасць
Ад вёскі хадаком.

Хацеў узяць да ладу,
Ці будзе так сяло
За сённяшняй уладай
Жыць, як даўней жыло.

Ці доўга брыў, ці мала,
Дамогся ж без прыгод,
Ён, чалавек бывалы,
Інтэрасу свайго.

Пасля расказваў многа,
Як у Маскве жывуць,
І пра сваю дарогу
Ды ўжо ж і пра Маскву.

І добра там, і чыста,
І ўсё ў сваёй пары,

І можаш асабіста
З кім хочаш гаварыць.

Быў госцем ён паўднёўку
У саменькім Крамлі:
Аддзячылі вандроўку,
Адказ на ўсё далі.

На сходах і ў размовах
Дзед стаў як старшыня:
Абы прамовіў слова —
Адразу ціпыня.

Казаў:
— У гаспадарцы
Мы з вамі — галава.
Сам Ленін кухаварцы
Даў права кіраваць.

Смяхоцце з нашых ніваў!
Уперак ляжа пёс —
Дык на маёй — загрывак,
А на суседскай — хвост.

Што возьмеш з гэткіх шматаў?
Ары, гнайком аблі,
Глядзіш — а коп нажата,
Як грыўняў у рублі.

Дык што?
Пара загоны
Вылузваць з-пад мяжы,
Па новаму закону
Давайце, людзі, жыць.

Той верыць, той не верыць...
Як рушыць даўні ўток?
Зямлю супольна мерань
Не важыцца ніхто.

Арцельна?
Штось не смачна —
Усё ў адзін прыпол...

А як жа гусь і качка,
А як жа конь і вол?

Расказваць казку — хутка,
Рабіць — куды цяжэй.
А тут благая чутка
Бянтэжыла людзей.

Паблізу злоснік сноўдаў.
Паднёс і ён брыды
Наконт агульных коўдраў
Ды іншай лабуды.

Не даў бы рады больцы
Наш дзед, адзін, як ліст,
Калі б не камсамольцы
Ды стэльмах-камуніст.

Няхай і маладзенькі,
А ўпорчывы гурток:
У вёскі памаленьку
З вачэй сагналі змрок.

Што людзі робяць кружна,
На месяца ставіць час.
І там пачаў адужваць,
Пачаў сталець калгас.

Чаго не надта мелі —
Дадасць наступны год...
А дзед стаў у арцелі
Сталяр і пчалавод.

За гаспадыню ў дзеда,
Застаўшыся змала,
Вясёлая кабета,
Лявоніха, была.

Яму за ўпраўнай гэткай
Не жытка — любата!
Ён клікаў бога ў сведкі,
Што будзе жыць да ста.

7

Як доўга вее вецер
З паўночнай стараны,
Дык па старой прыкмеце —
Чакай тады на свеце
Вялікае вайны.

І выйшла так на справе,
Што ў гэты год якраз
Адтуль усенькі травень
Вятруга дзьмуў да нас.

Адходзілі салдаты,
Ад іх пачуў стары,
Што Мінск ужо заняты,
Як ёсць агнём гарыць.

І стала шэра, мгліста,
Маркота навакол:
Калі ўжо там фашысты —
Чакай сюды за стол.

Якраз у вазавіцу
Удаўся дзень-парун,
Услед за бліскавіцай
Раз-пораз біў пярун.

Дзесь гупалі зеніткі,
Як прайнік на ставу,
Нягода ўвачавідкі
Дыхнула ў твар сялу.

І вось — на самаходах,
Як бралася на ноч,
Нямецкая пяхота
Заспела ў Белабоч.

А ў дзеда — хата з краю.
Зайшлі — нішто куток!
І афіцэр пытае:
— Ну, як жывём, дзядок?

— Жывём, гасцей не клічам
І ў госці не паўзём,

Няпрошаных па лычу
Частуем таўкачом.—

Адказ, як кажуць, трапны —
І той незалюбіў,
Схапіўся за гарапнік,
Аднак не зачапіў.

— Што ж, ёсць вада і паша,
Дык станем на папас.
Гарэлка сёння наша,
Цягні на стол прыпас.

— А з чым жа піць гарэлку? —
Стары яму сказаў,—
Пайшла цыбуля ў стрэлкі,
Увесь гарод збуяў.

— Абы хапіла солі —
Цыбулю сам з'ясі,
А мы і кілбасою
Не дурні закусіць.

— На баранову лытку
Шукайце іншы дом,
А ў нас вада з малітвай,
Скарынка з часнаком.

— Дык вось што! Значыць, васпан,
Мы трапілі ў калгас?
— Калгас сабе калгасам,
А страва — не для вас.—

Кіпіць, бялее немец,
Як шума з малака,
І дзеду ў грудзі стрэліць
Хапаецца рука.

Бягом, на мову тую,
Лявоніха да іх:
— Я вам усё згатую,
Не слухайце старых! —

Крыху перапрасіла,
Зняў з кàбура далонь:
— Памыцца прынясі нам
Ды запалі агонь.—

А дзед як не падскочыць,
Не можа памаўчаць.
І кпіны сыпле ў вочы,
Як пылам з дзеркача:

— У нас такія справы,
Што лямпы не гараць,
Хіба гасцям паставіць
Пад вока ліхтара.—

Жанчына — да старога:
— Суціш душу сваю!
Тут кпіны ні да чога —
Што стрэмка бугаю...

— А ты ўжо рада госцю,
Мяркечаш, як каза...
Ніхто ж сабе ад злосці
Язык не адгрызаў.

— Лепш нашчапаў бы трэсак
Камінак распаліць...—
І стала пеўняў рэзаць,
На сала яйкі біць.

Заложна глушыць скваркі
Нямецкі целяпень.
Пасля чацвёртай чаркі
Крыху асалапеў.

Разявіў зяпу насцеж,
І зубы — напаверх,
Стаў вельмі выхваляцца,
Што храбры афіцэр.

Пачаць спрабуе гулі
І валіць напрасцяк:
— Не баба — проста куля,
Які дасі ёй брак!

Само жывое срэбра,
Хоць жменю падстаўляй!
Дамовімся, як трэба,—
Яшчэ па чарцы дай.

— Ага, ў мяне схавана
Ёсць пляшачка адна,
Калі паслаў бог пана,
Мы ў ёй дастанем дна.

Яна прынесла блёкат,
Траву, што горне ў сон,
Лінула шчодра соку —
Глыні, калі жадзён.

— Са мною хочаш сесці?
— Ды дзе мне там сядаць!
Ці ж толькі пану есці —
Хай вып'е і салдат.—

Смяюцца, рады немцы:
Удачу лёс паслаў!
Жанчына ім у сенцы
Нясе ўсялякіх страў.

Ды сочыць, каб нікому
З іх крыўда не была,
І соку вартавому
Перш-наперш наліла.

Пакуль яна хадзіла,
Сп'янелы афіцэр
Хваліўся, плёў пра дзівы
Са шклянкаю ў руцэ.

— Праз месяц мы Расію
Падтопчам, быццам гаць...
— Жывому не пад сілу,
А мёртвым не падняць.

— Мы ў свеце многа важым,
Што ёсць на свеце — я?
— Хай не крыўдуе вашаць,
Вось прыказка мая:

Кабыла цягне сані,
Фурман кабылу б'е,
А хто на возе, пане,
Цяжару дадае.—

— Як бачу, ты заядлы,
З заразаю ў крыві,
Хоць стараваты, падла,
Ды, мусіць, бальшавік.

Не казырыся надта,
Міргну — і з ног далоў.
Ты бачыў, ці багата
Тут войска іх прайшло?

— Ідзі сабе за вёску,
Налева завярні,
Пабачыш тры бярозкі
І тры дубовых пні.

Ударышся з разгону
Аб крайні галавой —
І сцежку да чырвоных
Пабачыш, пане мой.

— Даволі вёрз, нахаба! —
У грудзі даў штурхель.—
Ну, ты са мною, баба,
Рыхтуйся грэць пасцель.—

І тут жа, хоць не слаўся,
Падаўся спаць пад стол,
Пра ўсё, што дамагаўся,
Забыў — і п'ян, і квол.

Паснулі ў хатах немцы.
— Ну што ж — рабем канец! —
І хату, і гуменца
Падпальвае Гудзец.

У пушчу шлях завіўся,
Глядзіць сяло здалёк,
Як, ціхенькі, з'явіўся
З падстрэшша агаёк.

І тут жа занялося!
Пайшло шугаць: насхло.
Крык.
Стрэлы.
Разгалоссе.
І ўсё — пад памяло.

8

«Тут ходзіць варажбітка,—
Гудуць палешукі,—
А з ёю кот-мармытка
І хлопчык без рукі».

Ёй, гаварылі ў вёсках,
Чуваць усё кругом,
Бо мае вуха з лёсткай
І вока з ліхтаром.

— Адкуль ты? — хто спытае.
— Здалёк я... З вёскі «той».
Сама завуся «тая»,
Хлапец завецца «той».

Калісьці, ў дні былыя,
Дзяўблі:
«Як той казаў...»
Дык зноў мы сталі «тыя» —
Ні спраў няма, ні праў.—

Над хлопчыкам нялёгкі
Учынены быў здзек:
Фашыст па самы локаць
Руку яму адсек.

Дзе хлопцы маладыя —
Кіўне ён галавой
І дагары падыме
Пустое рукаво:

— І ты не партызаніш,
І ты не на вайне?
Вось што зрабіў германец —
Адпомсці за мяне! —

Ідуць праз бор, праз верас,
А з'явяцца куды —
Псуецца ўвесь інтэрас,
У немцаў нелады.

Паставілі, халеры,
Каб змацаваць прымус,
У местачковым скверы
Свайго Адольфа бюст.

І вось з усіх ваколіц
Бягуць сабакі выць:
Паселі густа доле,
Аж не відаць травы.

Падпёршы лапай морду
Канцэрт як завялі,—
Тут немец, сэрцам цвёрды,
І той бы слёзы ліў.

А потым талакою
Зямлю скрапілі так,
Што ў лужыне з сям'ёю
Паплыў стары гусак.

Ці ж гэтак выць ахвочы,
Ці фюрар не пад густ?
Не, проста салам воўчым
Абмазаў нехта бюст.

Ну, а ў сабакі з воўкам
Рахункаў — на сувой.
Народ пусціў памоўку,
А «той» намазаў лой.

Ідзе ў пару начную
Лявоніха з малым,
Што бачыць, што прачуе —
Усё вядома «тым».

На гуце пахла крахам,
Усё наўкос ішло,
Паганае і з бракам,
Але варылі шкло.

Там здраднік і зараза
За майстра быў — шклавар.
Прыйшлі яны —
адразу
Ператварыўся ў пар.

Казалі: мусіць, з чаду
У шкле гарачым сеў,
Не мог падняць азадак
І к богу паляцеў.

А гута знежывела —
Ці бог, ці «той» памог...
І зноў пра ўчынак смелы
Чуваць з другіх дарог.

Выходзяць людзі з лесу —
Працэсія, з папом.
Нясуць крыжы, пратэсы,
Нясуць ахвяр прыпол.

Нясуць абраз ад рана,
Нібы ў другі прыход...
А гэта ж партызаны —
Ужо грыміць налёт.

І выбухаюць міны,
І рвуцца правады.
...Ідзе з малым жанчына,
Падняўшы сцяг бяды.

9

На лісці грае мосендз,
Конь у нарог звініць...
Лявоніха праз восень
Прадзе дарогі ніць.

Не змусяць беларуску
Ліхія чужакі
На ростані Езуску
Падвязваць хвартушкі.

І вось па вузкай сцежцы
Прыходзіць у сяло,
Якое з ласкі немцаў
Распустай заплыло.

Каля чужое міскі,
Ну, рыхтык, ліхтары,
Параз'ядаўшы пыскі,
Спявалі жаўняры:

«— Катрынхен, майн лібхен,
Вас костэт пар шу?
— Айн талер, цвай грошы
Унд кюсхен да цу» [1].

Яна цікуе: мабыць,
Стаіць у вёсцы штаб,
Бо густа ходзяць бабы,
А што ж за штаб без баб!

Жаночых і кабечых
Таўчэцца шмат гурткоў.
— Дай бог вам ціхі вечар
І добрых мужыкоў.

— Адкуль ты, маладзіца,
Куды, чаго брыдзеш?
— Без роду я, ўдавіца,
Хаджу, як шлях вядзе.

Не грэбую работай,
Ажно смыліць рука.
Магла б вам у ахвоту
І шыць, і кросны ткаць.

— Саткаць мы ўмеем самі,
А шыць якраз пара...
Абы за мужыкамі
Не стала прыўдараць.

---

[1] — Кацярынка, мая мілая, колькі каштуе пара чаравікаў? — Адзін талер, два грошы і пацалунак у прыдачу.

— Авой! Мужчыны вашы
Хіба вас не глядзяць?
— Сабакам сена важаць,
Ды ты нам не суддзя.

— Што я? Хіба я ў сіле
Пераманүць дуду?
А вось каб падкармілі,
Дык песню завяду.—

Знайшоўся ў крайняй хатцы
Куточак на дваіх,
Змагла атаўбавацца
Таксама ва ўдавы.

У сэрцы ж у малога
Гула жуда яшчэ:
Начы, густой, як дзёгаць,
Разбой душу пячэ.

Зарваўся ў леснічоўку
Злых карнікаў атрад.
Ваяка, горш за воўка,
Нявечыў жыхара.

З бацькамі — цуглі ў роце! —
Ганялі за канём
І хлопчыка ў аброці
Усё грунём, грунём.

Калі ж у чорнай ропе
Усіх сапхнулі ў роў,
Павarушыўся хлопец
І з губ адплюнуў кроў.

Хлапчыну з гнойнай ранай
Лявоніха знайшла,
Лячыла ў партызанаў,
Сюды вось прывяла.

Пайшла шукаць па хатах
Работу на пачын.
...Праз нейкіх дзён дзесятак,
Паменшала мужчын.

Вядома, не адразу:
Па два, па тры,
Цішком,
Каб не трымаць адказу,
Знікалі ў хвойны дом.

Так іх сарамаціла,
Да чырвані ўпякла
Кабеціна з хаціны,
Што на канцы сяла.

Там з выгляду майстэрня
Сукенак і спадніц,
А беляць там ці чэрняць,
Што зверху, што пад ніз?!

Жанчына кроіць, шые,
Работы повен стол.
Туды байцы лясныя
Падносяць ноччу тол.

Каб вораг на сялібу
Грымотаў не правёз.
...І грымнуў першы выбух
Пад першы паравоз.

10

У цяжкія часіны,
Як даўняй болькі сверб,
Брыдота з каляіны
Шугнула напаверх.

Усе, каму пры сценцы
Даўно пара стаяць,
Займелі ласку ў немца,
Пашаны ж — удвая.

І ў губу кожны мае,
Па рангу кумпякі:
Пасней — для паліцая,
Тлусцей — ядуць панкі.

Рабілі ўсё не здуру,
А свой трымалі план:
Не пераб'еш натуры —
Сабаку трэба пан.

Яны зракліся роду,
Радзімы і радні...
З такога ж быў заводу,
От [redacted] гэткае гайні

Бургомістр Зэшка Бегай,
Каму, хоць стаў ён мэр,
Ніхто зімою снегу
Не даў бы напавер.

Наняты быў з-пад Глуска,
З тамтэйшынскіх бадзяк,
Не дурань да закускі,
Да выпіўкі мацак.

Ён быў прычынен нават
Да навуковых спраў —
Пра нейкае там права
Цыдулу напісаў.

Каб ведала акруга,
Што з гэтае пары
Сабе такога друга
Прыдбалі жыхары,—

Напыжыўшы аблічча,
Сказаў прамову ён,
Што ўводзіць даўні звычай
І ўвесь стары закон.

Не баючыся, кожны
З ваколічных сялян
Падаць даведку можа
Пра лагер партызан,

Пагаварыць удосыць
І прапанову даць.
Калі ж чаго папросіць,
Дык можа атрымаць.

І не лухту якую —
Запалкі або шкло,
А хоць бы маладую
Жаробку на прыплод.

А хто свайго да часу
Шнура не паарэ —
Дастане столькі чосу,
Што ў губу не ўбярэ.

З такім удалым лёсам
І дурань жыць дапне:
Паветра перад носам,
Вада ў Беразіне.

Усюды: ў небе сінім
І доле, акурат
Як быццам у Берліне,—
Нямецкі строгі лад.

Што сэрцу болей трэба?
Устань сабе з расой,
Кладзі паклоны небу
І будзеш мець усё.

Хай кожны долю хваліць:
Ці так было калісь?
Дзяды таго не зналі,
Гібелі — не жылі.

Калі бургомістр спрытна
Закон паставіў свой,
З прыстойным апетытам
Узяўся за пітво.

Заморскіх він і старак
У склеп назвозіў ён,
І цэлы дзень ад чарак
Стаяў у доме звон.

А пры ўваходзе ў горад
Сказаў намаляваць:
«Прашу вас як бургомістр
У госці заязджаць».

Паказваў чорнай стрэлкай
Бярозавы кругляк
Аматарам гарэлкі
Беспамылковы шлях.

11

Як сонца шызы ранак
Па небе павалок,
Бургамістру на ганак
Народу шмат найшло.

Але на ўсё аднакі
З адмовай быў адказ:
Па добрасці ў сабакі
Не ўкусіш кумпяка!

На вулках паліцаі,
Са стрэльбамі, ў сукне,
За здраду проста маюць,
Калі дзе хто ўздыхне.

Прыслужнік праз дзверы
Натоўп адспавядаў:
— Ціпшэй вы там, блюзнеры,
Прастуе сам спадар! —

Заліты вочы гарай,
Здавалася, іпоў
Свінячы сыты карак
На двойцы капытоў.

А лой як не вылазіць
У пана праз жывот,
Хапіла б колы мазаць
Сялу на цэлы год.

Прайшоўшыся па садзе,
Пратрос ён трохі здор:
— Чаму гэта пазаддзе
Набілася на двор? —

Тады з-пад сонных шчэлак
Ён глянуў на людзей:

— Сягоння панядзелак —
Прыйсці па серадзе.—

З жалобаю на ўбранні
Пад брамныя слупы
Ішла такая пані,
Хоць вочы засляпі.

Ён быў цяжкі да скокаў,
А да прыгожых лас,
Не прамінаў навокал
Ні куста, ні сцябла.

«А што, калі падстрэлім
Такую дзічыну?» —
Зірнуў ціхом пад вэлюм
І горача дыхнуў.

А вочы ж! Як у жыце
Валошкі зіхацяць...
— А вы мне раскажыце!
— А што вам расказаць? —

Цяжкімі з перапою
Павёў вачыма ён:
— Прашу вас да пакояў,
А іншых — проша вон.

Як так, што вы ў жалобе? —
У доме зноў пачаў:
— А што ж кабета зробіць,
Калі мужык прапаў?

— А-ей, якая страта,
Які бязмерны жах...
А можа наш салдат ён —
Дык вернецца ў крыжах.

— Не, тыя не прыходзяць,
Чый шлях у мерцвякі...
У лагеры, на ўсходзе,
Згубілі басякі.—

І хустачку да твару:
— Даруйце, млосна мне...—
Як быццам на пажары,
Затросся кабінет.

Бургамістр зразу ў клопат —
Даць рады ад бяды:
Шукае ў шафцы кропель,
Стараецца вады.

Саджае на канапу
І лекі ўжо нясе,
Ды так і суне лапу
На станік пакрысе.

Туды, дзе спакушаюць
Тугія камякі,
Дзе ў хованку гуляюць
Два белых блізнюкі.

Але сама ўжо неяк
Мінае тая млосць.
Глядзіць яна з-пад веек:
— Даруйце, ваша мосць!

Адгэтуль недалёчка
Я маю паплавец,
Жыву сабе дамочкам,
Як трэба удаве.

Ды ці ўсяго дагледзіш
У гэтакі разор,
Калі вакол суседзі —
Бандыты на падбор.

Ігрушы з голлем ломяць,
Латошаць гарбузы...—
І бачыць зноў бургамістр,
Што блізка да слязы.

— Я ў госці б вас пазвала,
Калі б маглі вы быць...
— Я рад размове з вамі!
А разам закусіць...

Тады ўтрасём, вядома,
Мы гэты амбарас...
Ажно бярэ аскома,
Абы зірнуў на вас.—

Як быццам бы нясмела,
Яна сказала:
— Во-ох!
Няўжо ж я не даспела,
Няхай даруе бог!

— Адно прашу — сакрэту...
— І я...
— Хай будзе так...—
Бургомістр ад імпэту
Ледзь столі не дастаў.

— Але хацеў бы ведаць —
Калі?
Я вас прашу...
— Увечар да катэдры
Прыйду я на імшу.

— Прышлю вам пару коней,
Звяругі на бягу...
— Ох, нешта неспакойна...
Так раптам...
Не магу...

— Ды што вы? Пані стрэне
Спакой і супачын.
Вось, каб патруль не стрэліў,
Нарваўшыся ўначы,

Трымайце цэтлік — белы! —
Праходзіць можна з ім,
Як і са мною, смела,
Па горадзе маім.—

Бярэ паперку дама,
Ён цмокнуў у руку
І, вывеўшы за браму,
Стаяў на халадку.

12

Хоць я змяніў убранне,
А твару не ўтаю:
Чытач пазнаў у пані
Знаёмую сваю.

Вядома ж, не на жарты
Рабіўся той заход:
Не ведалі, дзе варта,
Дзе выхад, дзе ўваход.

Лявоніха ж удала,
Ударыўшыся ў млосць,
І вокны, і завалы
Агледзела як ёсць.

А Зэшка ў новых споднiх
Пад нос заводзіў спеў:
Спаткання ждаў залётнік
І жданкі ўсе паеў.

Ды сонца, як гамоняць,
Ад рання — на валах,
Пасля паўдня — на конях,
А ўвечар — на зайцах.

Нарэшце — шорхат колаў,
У браме стаў вазок,
Праз момант ля касцёла
Спыняюць коні скок.

Бургамістр ходзіць поруч.
Гудзе стары арган.
Вось пані, ў тых жа ўборах,
Сядае на рыдван.

За горадам на грудзе,
Адкуль маячыў лес,
Халодна ўпёрся ў грудзі
Бургамістру абрэз.

— Хоць ты не вельмі порсткі,
Хутчэй, ядрона мыш,

Скідай пінжак і порткі —
І голы павісіш! —

Натужваў ён залозы,
Ліў грозьбы са слязьмі.
Бяроза — не пагроза,
Калі ўжо не шуміць.

На конях бургамістра,
У панскім пінжаку,
Рвануўся хлопец быстры
І лёгкі на руку.

Да Зэшкавай кватэры
Ён з форсам падкаціў,
Пабраў з шуфляд паперы
І грошы прыхапіў.

Назад!
Аж ветрам гнула
Кустоўе да зямлі...
...Раскормленае шула
Матлялася ў пятлі.

Трымаў жа ягамосця
Той самы белы слуп,
Што шлях паказваў госцю,
Каму бургомістр люб.

На стрэлцы напісалі:
«Глядзіце:
Вось Зыдор,
Які заместа сала
Збываў сабачы здор».

13

Бярэзіны спляліся
У сіняй глыбіні,
Пад імі летапісец
Штось крэмзае на пні.

Хлапчына — год пятнаццаць,
Ці больш, ці можа менш.
Ёсць зорачка на шапцы,
Каб гэткі ж і рамень!

Раўня яго — ў разведцы,
Таксама ж хлапчукі!
А ён вось, як ні рвецца,—
Няшчаснік, без рукі.

У лагеры праз гэта
Цягні турбот цяжар:
Ён тут — насценгазета,
Глаўпіс і санітар.

З крывулькаю-расошкай
Прыходзіць дзед Гудзец.
— Як пішацца?
— Патрошку...
— Старайся, маладзец.

— Дзед, ты не бачыў «Мамы»?
— Шукай адно сляды,
Казала, пойдзе ў краму —
Ты ж ведаеш — куды...

— У краму?
Знацца, ў горад,
У пашчу тым ваўкам?
— Такі ўжо, хлопча, нораў,
Дый нешта ж робіць там.

Калі б пашанцавала,
Зноў мецьмуць немцы пай...
Я пакуру памалу,
А ты мне пачытай.—

На пальчыках — сасонкі,
Дзед пыхкае ў цішы.
Хлапчына басам ломкім
Чытае ад душы:

«Пачынаем байку-складку,
Што за справы і выпадкі

Наша ўславілі сяло.
Якаво ж яно было?

Назвы мы сказаць не можам
Не таму, што непрыгожа,—
Прыгажэйшай за яе
Я не чуў ні аднае.

Не таму, што гэтай назвы
І не вымавіць за раз вам,
Але звычай ёсць у нас:
Кожнай гутарцы свой час.

Добры той зямлі кавалак,
На якім сяло стаяла,
А цяпер там у двары
Чорны пыл мятуць вятры.

Новы дах мы маем — неба,
За падлогу служыць глеба,
Сцены хаты — лес густы
Ды ядловец і кусты.

Між гушчарніку ў зямлянках
Партызаны, партызанкі:
Ёсць паважныя дзядзькі,
Ёсць салодкіх год жанкі,
І дзяўчаты, і хлапчыны
Маюць зброю чын па чыну.
Проста ў вока б'е блазніца,
Што тут з фрыцамі дражніцца.

Біць-то б'ём, ды фрыцаў многа,
Так і шныраць па разлогах.
Калі знаеш, дзе наш край,
Языком не целяпай.

Праўда, ў пушчах Беларусі
Нас, такіх, не злічыш, мусіць:
Дзе ні глянеш — партызаны,
Пакажы, дзе іх няма!
Налятаем нечакана,
Згінь, фашысцкая чума!

Як жа наш атрад узнік?
Камандзір наш — бальшавік,
Быў, калі жылі мы дома,
Старшынёй райвыканкома.
Дзядзька з Балтыкі — начштаб,
У яго на шапцы краб.

Дзед Гудзец — дарадчык штаба,
А паколькі піша слаба,
Мне загадана пры ім
Быць глаўпісам баявым.
Што ж датычыцца разведкі,
Мы не пішам рэчаў гэткіх.

Толькі ўспомнім аб адной.
А завуць яе Ўдавой,
Але можна зваць таксама
І Лявоніха, і Мама.

Дзе паходзіць, дзе пабудзе,
Нібы звон людзей абудзіць,
І пад кожнаю страхою
Звоніць зброя,
Звоніць зброя!»

14

На шолах за плячамі
Гудзец падняў брыво.
Хлапец чытаць канчае —
Лось жывіцца травой!

Як без лістоў галіна,
Паблісквае ражок,
Даверліва, нявінна
Глядзіць на іх бычок.

Скубе, нібы тут неруш,
Пры самым будане...
— Жывёла людзям верыць,
А людзі людзям — не.

— А я ўжо думаў — Мама,—
Падзьмуў у люльку дзед.—

Няўжо якая пляма
Пабрудзіла ёй след?

— А як няўдача раптам? —
Трывожыцца хлапец.
— Ну, быстрай вошы трапіць
Лягчэй на грабянец.

— Ці ж быстры той паскробак?
— Ды, пэўна ж, не цяля:
Уласнаю асобай
Дапытваў і страляў.

Прыцёгся, не гукалі,
Няпрошаны гасцёк.
Хто з доўгімі рукамі,
Садзіся пад касцёл,
А то — на мох!
І кропка...—

Зірнулі:
Да грудка
Прастуюць нетаропка
З адведзін гарадка.

І той, хто з паняй ехаў,
Хто быў за фурмана...
І пані...
Кпіць,
Са смехам
Пытаецца яна:

— Чаго вы ўсе пакіслі,
Як рыба без лускі?
— Ды вось, благая мысля
Разломвала мазгі...

— Ай, ты гаворыш, дзеду,
Нібы ў лапцях язык.
Прасі за стол бяседу,
Налі якой «слязы».

— А як вам у паходзе,
Ці ёсць жа клёк які?

— Ды тыя не прыходзяць,
Чый шлях у мерцвякі.—

І зноў смяецца Мама:
— Які хацеў ты клёк?
А мы яго не ў яму,
А так — па вецярок.

— Тады — па поўнай чарцы!
З удачай,
Малайцы!
Гэй, кухар, дзе мачанка?
Цягні сюды блінцы!

Пасля нямецкіх трактаў
Каб добра з'елі ўсе...
Як кажуць,
Конь — не трактар,
Працуе на аўсе.—

І дзед ізноў пра тое:
— Якоў ён?
— Мех таўсты...
Нябожаю расою
Адно крапіў кусты.

— Ну, волас-то адменны
Панок адгадаваў,
Як голае калена,
Бліпчала галава.—

Як ветрам жарты дзьмула:
Сябры, усе свае.
Лявоніха міргнула
І следам дадае:

— Панок на розум слабкі,
Усё адно звягаў:
Каровы нашай бабкі
Дзядуля быў бугай.

Даводзіў: ён не з лыка,
Гадзіцца немцу ў знаць.

Хоць бог і невялікі,
Але ж Міколам зваць.

І хоць пільнуе дому
Гусак на ланцугу,
А гонару, вядома,
Пад самую дугу.—

Хто больш да слова спрыцен,
На выдумку васцёр,
Пайшлі званіць:
Як Зміцер
З вады ўпаліў касцёр.

Як дзядзька, што з-пад Шацка,—
Здаецца, не дурны! —
Казаў на цыцку цацка,
Бо дзеці ёй жадны.

І неяк пры мачанні
Ён так упіўся быў,
Што люльку з'еў дазвання,
А пернікі скурыў.

Майстры прыдумваць штукі!..
...На ўлонні баравым
Лявоніха з бязрукім,
З вандроўнікам сваім.

— Што робіш?
— Смешнавата...
Пішу...
Пра лес, пра снасць...
— Габлюй, сынок, а тата
Сякерай глянцу дасць.

Не марна рвуцца рэйкі,
Расце лясны наш дом.
Заважыць і капейка,
Калі прыбіць рублём.—

Як маці-парадзіха,
Суцешыла душу...
— Нам, хлопча, трэба ціха
Рабіць вялікі шум.

У верасні над вухам
Не звоняць камары,
Наглее ўвосень муха,
Не згоніш, хоць пары.

І вораг перад сконам
Мудрэй пачаў наглець.
Дык што?
Яшчэ дагонім
І зноў падсмалім шчэць.

**15**

Там пашумець пад хаты
Збіраліся садкі...
А ў тых садках — дзяўчаты!
А ў тых дамках — жанкі!

Як пройдзе ды як гляне,
А павядзе брывом:
Змярканне стане раннем
І ноч здаецца днём.

Адразу сэрца ўсушыць —
Загінуў чалавек,
Заблытаўшыся ў пушчах
Разбойніцкіх павек.

А ўбёраў быццам скупа —
Анучы не ў часці,
Бо замуж можа ступа,
Прыбраўшыся, пайсці.

Хоць хата не багата,
Ды міла паглядзець.
Яны умеюць святам
Зрабіць звычайны дзень,

Валошкаю
галоўку
Чарнявую
прыбраць
І залатое слоўка
На вуха пашаптаць.

А хто палезе ў губы,
Адразу — па руках:
— Ты большага, мой любы,
У жонкі пашукай.—

Вось гэтак на Палессі
Кабеціна адна
Жыла
і стала песняй,
Што аж дасюль чутна.

Як жонкаю вясёлай
Лявоніха была,
Ды раптам хлеба-солі
Лявону не дала.

Ні маладых, ні сталых
На месцы не ўтрымаць,
Як пырсне на цымбалах
«Лявоніху» струна.

А ўжо не згледзіш часаў,
Адкуль
церав прыгон,
Праз войнаў перагасы
Дайшлі Яна і Ён.

Калі гібееш горка,
Як муха на смале,
Вясёлая гаворка
Нам сілы дадае.

Народ быў у краіне
Ні гаспадар ні госць,
Тады ў адной жанчыне
З'яднаў ён весялосць.

З якога хочаш краю
Зайдзі ў маю зямлю:
Тут кожны гай хавае
Лявоніху сваю.

І ўсе па-свойску мілы,
Па-свойму цешаць зрок...

А ім бы ветру ў крылы,
Ляцелі б да аблок!

І каб не знаў жывую —
У часе злых нягод
Лявоніху такую
Прыдумаў бы народ.

Руплівы і вясёлы,
Блукае вольны дух
На акрыянне кволым,
На радасць тым, хто дуж.

*

Чытач,
Мой знаўца тонкі!
Наш у палове шлях.
Перагарні старонку
І сам складай працяг.

Яшчэ не ў страх дарога,
Лянота ні пры чым,
Не, трэба часу многа
Стаць зноўку маладым.

Ды склаўся твор выпадкам
Як «Кніга пра байца»,
Што выйшла без пачатку
І нават без канца.

Я гэту эстафету
З аслабшых рук прыняў.

...Ідзе па Мінску лета,
Дажджы звіняць, звіняць.

Згусае кроў у горле.
Праз сілу кажа друг:
— Я не паспею... Хвор я...
А гэта трэба ў друк.

Пад сэрцам рупіць тэма,
Дарую ад душы:
Раман або паэму,
Што ўхопіш, напішы.

На маладым развілку
Такі вось запавет
Даў мне Ўладзімір Жылка,
Вандроўнік і паэт.
Праз лёсаву памылку
Пакінуў рана свет.

...Рабіў, што мог, сумленна,
Дый мой век пры канцы,
І я гукаю змену:
— Бярыцеся, хлапцы!

Разгортвайце палотны,
Прабіў грымотны час:
Шмат Ціляў несмяротных
Не ў Фландрыі, а ў нас.

Ламаў навалы крыгі,
Крышыў варожы стан,
Мудрэй, як Уленшпігель,
Айчынны партызан.

І фландрскаму герою,
Што ўсім краям сваяк,
Даводзіцца сястрою
Лявоніха мая.

*1943—1974*

## ЗВАНЫ З ВАЙНЫ

1

На званіцах
З паўвека паглухлі званы.
Я даўно ўжо забыўся б,
Як звоняць яны,
Каб не рэха з вайны...

Узлятаюць угору,
Спадаюць далоў
Гукі,
горам у медзь спрасаваныя.
З папялішчаў,
З гарышчаў,
Паўзверх камінoў,
Абгараючы,
звоніць рука спрацаваная.

Дружа,
Гэта — Хатынь...
Сэрца,
Помні
І не астынь!

2

Пад неба цёплай апонаю
Гай — аж зіхціць! — бярозавы,
Ды ўпотай хусткай зялёнай
Змахвае з веек слёзы.

Ідуць здалёку вандроўнікі,
Адзін аднаго пытае:
Чаму б, у вясновай поўні,
Плакаць такому гаю?

Таго ж, дзівакі, не ведаюць:
Коцяцца кроплі долу,

Бо разам зімуюць і летуюць
Бярозы
і
ўдовы.

Дрэвы поруч з жанчынамі,
Пакрыўджанымі на долю:
Яны пасадзілі гай салаўіны,
Мужоў не прыждаўшы дома.

З іх кожны — у шлях развіўся,
Зрабіўся сцягам барвістым —
Быў камуністам
Ці не быў камуністам.

І ўдоўкі саджалі некаму —
Свайму і чыймусьці —
помнік.
Хай, белы, стаіць над рэкамі,
Адводзіць маланак промні.

А скончылі —
скорам рэзалі
На ўсіх, як у час памінак.
...Кранала плечы бярэзіна,
Нібыта рукой, галінай.

Як тыя жанкі, згасаючы,
Развітваюцца з жывымі,
Разносяць вятры, гайсаючы,
Гаю вечнае імя.

Ён, срэбны, ідзе пагоркамі
Не страш — устоіць, няпудкі.
Збройная мая Хатынь,
Белая мая Хатынь —
Беразак удоў
пад Навагрудкам.

3

Палямі жытнымі,
Барамі густымі
Сляды зараслі
І, здаецца, астылі.

А зерне пшаніцы,
А жменю брусніцаў
Рассып на далоні,
І звон забруіцца.

У ліпеньскай спёцы
І ў студзеньскай стыні
Зазвоніць Хатынь,
Адгукнуцца Хатыні
І Лідзіцэ попел,
І скаргі Дахау...

Кроў чалавечая
Не высыхае.

Са спаленых сэрцаў
Спякае цуркамі,
Брусніцамі спее
І звоніць званамі.

*1974*

## ПАМІНКІ

Маладое маджары па шклянках сумуе даўно.
Вострым пахам з рыжкамі спрачаецца сыр-сулугуні.
А чаму ж у пасудку дасюль не завільжала дно,
Звон чуваць не крыштальны, не срэбны,
а быццам чыгунны?

Хутка ж з'явіцца вечар,—
нам песні пара пачынаць:
Нас дванаццаць сяброў,
значыць, будзе і песень дванаццаць.
І шырокі Байкал, і азёр маіх морская стаць —
Усё чыста спяецца, што можа сябрам прыгадацца.

Што б, здаецца, узяць ды напраўду пабачыцца так:
Сесці разам за стол,
зацяпліць весялосць на аблiччы?
Не спяшаюцца нешта.
Наўкол — сціхата, сціхата...
Не пачулі, відаць, хоць я доўга і голасна клічу.

Ды як бралася на золак,—
Рып дзвярэй і бляск вачэй:
Завіталі два Міколы,
А пасля пайшлі гусцей!
Вольга з Волечкай,
Таццяна,
Тры Міхайлы,
Два Іваны
І, прытупнуўшы, Сяргей.

Ды на што ж гэта падобна:
Ты ў данскім пяску, мой добры!
А ты ўпаў, равеснік мой,
Пад карэльскаю сасной.

Над табою крача воран,
Пад табою стэп няворан.
А ты, спраўдзіўшы таран,
Захінуўся ў акіян.

О, сястрычкі — цэлых тры! —
Усе тры ў адным віры,
На плывучым тым шпіталі,
Дзе не ўсіх дабінтавалі.

Мы ішлі насупраць зграям
Добры лёс вярнуць зямлі.
Дык навошта вы ўміралі,
Як памерці вы маглі?!

Міна,
Куля,
Штык,
Асколак —
І ад сэрца друг адколат.
Жыў-быў друг і не жыве:
Ні адным дарожным ветрам,
Ні салютам пісталетным
Не ўзбудзіць яго ў жарстве.

Ён учора, адвячоркам,
Стаў Зямлёй.
А стане Зоркай.

Свята блізка, на ганку.
Сябры паказаліся мне,
Маладыя, прыгожыя...
Толькі шкада, на хвілінку.
Пэўна, многа лягчэй адляцець з імі
ў ранішнім сне,
Чым той стол накрываць і не стрэчу
спраўляць, а памінкі.

Я штовосень хаджу з жураўлінай трубой і журбой.
Збажыну высяваю, гукаю зямлі — патурбуйся!
Адзінаццаць палегла — суровы надарыўся бой,—

Я — дванаццаты...
Глянь!
Склаў буслянку
падранены бусел.

*1974*

## ПАРАД ПЕРАМОГІ

Шырока ў свеце цэлым іх слава прагрымела.
Два маршалы.
Сустрэча ля даўняе сцяны.
Адзін — з крамлёўскай брамы,
ён выехаў на белым,
Другі яму насустрач скакаў на вараным.

Наўсцяж стаялі тыя, хто танкі крыў гранатай,
Масты наводзіў міру, працуючы штыком,
Хто маршалаў стварае —
звычайныя салдаты!
На гэтым, як вядома, трымаецца наш дом.

Штандары баявыя раслі пад Маўзалеем,
Рады, як перад боем, знітованы былі.
Так гучна білі крокі, здаецца, чуе Ленін,
Як рэха перамогі лунае па зямлі.

Канчаюцца на плошчы пяхотныя парадкі,
Адзін стаіць, без руху, асобы батальён.
Каб рук не пагнюсілі, байцам далі пальчаткі.
У іх цяжкая ноша — на ёй ляжыць праклён.

Вось барабан павёў іх, хлапцоў тых знакамітых,
І следам новы пошчак — уласных сэрцаў стук:
Варожыя штандары — шаўкі і аксаміты! —
Шпурляюцца на камень, ляцяць на мокры брук.

Ці ж хлопцы іх шпурляюць, каб выказаць знявагу?
Іх тут навек хаваюць, каб не ўваскрослі зноў.
А столькі паланіць іх —
патрэбна вернасць сцягу,
Адвага, і любоў, і тысячы баёў.

Тады перад вачыма прайшла сутычка светаў —
Скрываўлены пачатак і мужных спраў вянец:
Пад сцяг чырванакрылы я запрасіў планету,
А вораг склаў штандары.
Памог мой друг — баец.

*1974*

## СВЕТЛЫ ЧАЛАВЕК

Чыста мару марыўшы
Свой кароткі век,
Жыў ды быў, таварышы,
Светлы чалавек.

Сонца над памежкамі
Ён сабе хацеў,
Каб зялёнай вешкаю
Матчын спеў шумеў.

Шмат з такімі душамі
Млела пад гужом,
Прыціскалі крушнямі
Бедны іх ужон.

Шмат з такімі думкамі
Не трапляла ў кон:
Лёс насілі клункамі
Ад сваіх акон.

Гора гарцам сёрбалі
Ля чужых сянец
І хадзілі з торбамі
Нават пад вянец.

У арла ў кіпцюрынах
Жыў той чалавек,
Ён з-пад стрэшкі курнае
Трэль у долю сек.

...Шрот вазілі парамі,
І з высокіх лаў
Кат у сэрца мары біў,
Каб народ не ўстаў.

І ад стрэлу кожнага
Адпраўляй імшу:
Ніва, стаўшы пожняю,
Падала ў імжу.

А за ёю падалі
Ніцма ў дол сыры,
З мары стаўшы лядамі,
Сінія бары.

Толькі чалавечая
Цяглая душа
На зары засвечыны
Зноў і зноў ішла,

На зары засвечыны
Бачачы здалёк
Мары неўміручае,
Волі вугалёк:

Той, што, не дамарыўшы
За нядоўгі век,
Заціяпліў, таварышы,
Светлы чалавек.

Рваў ён змроку прадзіва,
Цэлы свет любіў,
А быў нашым прадзедам,
Беларусам быў.

Мары сцяг нявытканы
Ён сплаціў жыццём.
Знаўся з белай світкаю,
Зваўся Кастусём.

З шыбеніцы дзёрзка ён
Б'е ў грымотны звон...

Чуеш Каліноўскага?
Пакладзі паклон.

*1974*

## АПОШНЯЯ НОЧ ПЕРАД ПАЭМАЙ

Калі вочы палаюць зялёнай паходняй,
Калі промін душы на прастор загучаў —
Абзавецца яно з-пад абломкаў стагодніх
І закружыць...
Прымусіць работу пачаць.

Гэта ўсё так банальна завецца — натхненне...
А па мне — хай бушуе!
З ім жыць — не тужыць:
Уяўляеш сусветы ў маленькім засценні,
Бачыш сонца праз дождж і праз сонца — дажджы.

За цыгаркай цыгарку...
І слова — да слова.
У напружанні вольтаў выкрэсаеш трут.
Ставіць невад папера і сны мае ловіць
За страфою страфу...
Развіваецца скрут:

«Сонны пошум лістоў...» — так пачнецца паэма.
«Цокаў іскрамі конь...» — гэта едзе казак.
Перасёдзеў я поўнач з нязводнаю тэмай —
Дзе ўжо людзям паказваць! Самому няўсмак.

І праз морак,
знудзіўшыся ў нетрах кватэры,
Што ад берагу чоўна не зрушыць паэт,
Зарычаў кажушок, стаўшы раптам пантэрай,
Быццам По свае здані выводзіць у свет.

Там, дзе скончыцца твар і пачнецца жанчына,
Там, дзе скончыцца твор і пачнецца душа,—
Падпільнуй...
А пабачыш сваімі вачыма,
Прымуць слова
палеткі
і бездані шахт.

Я так доўга насіў непатрэбныя латы,
Як нячытаны ліст, што вярнуў адрасат,
І,
 радамі старонак заставіўшы хату,
Заміналі мне класікі вершы пісаць.

Ноч у ноч тупацелі настроі, любові,
Дзе сваё, дзе чужое — хавае імгла...
Ноч у ноч Беранжэ і Максім Багдановіч
У мяне за сталом не гасілі святла.

Я хачу —
 як нявольнік, забіты ў калодкі,
Рвецца ў сонца і ў вецер далёкіх прыгод —
Вадаспадамі біць, ліцца слоўнай паводкай,
Быццам вершаў не ведаў ні захад, ні ўсход.

Там, дзе скончыцца твар і пачнецца жанчына,
Там, дзе скончыцца твор і пачнецца душа,
Прабяжыць, калі ўздымеш сваімі плячыма,
Са стагоддзяў шаша.
 І ў стагоддзі шаша.

*1974*

## МАЛАДЫ СНЕГ

Колькі б ні найшло і ні нападала,
Першы снег — нікуды не ўцячэш!
Паляжы, мой пульхны, за прысадамі,
Пацурчы ручайкамі ля меж.

Ты збярэшся ў воблакі, каб выліцца,—
Страпянуцца грывамі дажджы.
Першы снег...
                    На лёгкай кроплі вільгаці
Восень хлеб замешвае ў дзяжы.

*1974*

## ДАРОГА

Быццам рукі дзяўчыніны шоўк разматалі,
І мяцеліца звоніць на вуха слупам,
Нібы гэта не поле, а пенныя хвалі
Акіяна, што інеем белым апаў.

Узрастае салодкая ў сэрцы трывога,
Проста ў твар пацягнула дымком ад сяла,
Дробных зор падсыпае пад ногі дарога
З тых гаёў, дзе з нябёс да зямлі дарасла.

*1974*

* * *

Снег — трэці дзень.
Слядоў няма,
На двор і ў сад задзьмуты дзверцы.
Як мякка сцелецца зіма,
Відаць, надоўга спаць кладзецца.

*1975*

## ЛІСТАПАД

Ляцяць лісты... Пакінуць свет
Не менш патрэбна сілы,
Чым тая, што пагнала ў цвет,
З насення ў рост пусціла.

Як у вясновую ваду,
Я ў жоўтай завірусе...
Руку на лісце пакладу —
Да сонца дакрануся.

*1975*

* * *

Курыць надранішні прастор,
А я пад Шляхам Млечным
Іду, міргаюць вокны зор,
Адкуль цікуе вечнасць.

Здаецца, ходзіш так даўно
Па падваконню ў сонцаў,
Што мог бы стаць і сам акном
У вечнасць, у бясконцасць.

*1975*

## УМОВА З ЧАСАМ

Далячынь пад снягамі, сцяжыны нятоптаны,
Хоць і моцна падбіўся ў шляхах чалавек,
Недачэрпана мара, налітая з коптурам,
Што на душу даецца адразу навек.

Я не мераў, малая яна ці вялікая,
Супраць ветру ішоў, не ўцякаў ад клінка.
Другу сэрца аддаць не лічыў я пазыкаю
І па марнай трывозе сяброў не склікаў.

Не тужу, што патрэбна адсюль выбірацца нам.
Гэта — хочаш ці не — незалежна ад нас.
Не, бывае страшнейшы канец кантрактацыям,
Калі ўмову з табой разрывае твой час.

Можа ў скрутнай гадзіне, мой клопат узважыўшы,
Скажуць:
рату яшчэ папрацуй, калі дуж.
Я падумаю, мусіць, згаджуся, таварышы,
Як там, часе, з умовай?
Бяруся за гуж.

*1975*

## УСХОДНЯЕ ПАДАННЕ

...І была ў яго турбота:
Вабіў хлопца мілы тварык,
Белы-белы, быццам лотас,
І каса чарней ад хмары.

Запрашае сіраціна
Маладую стаць да шлюбу.
На шчытку яго хаціны
Качкі выпілены ў дубу.

Птушкі дзедавай рукою
Дзеля шчасця там прыбіты,
А гняздзечка пад страхою
Белай ластаўкаю звіта.

Каб і ў іх гняздо вілося,
Каб і ў іх дабро вялося,
Ды пачулі ў тую восень
Маладыя пагалоссе:

Напрарочыў валацуга
Ей — праз год — без вокан хатку,
А яму жыццёвым лугам
Папаходжваць шэсць дзесяткаў.

Не злучыўшы — разлучыла!
Не, на гэта смерць не ў сіле!
Папалам рашыў хлапчына
Век дзяліць...
                    І падзялілі.

І пражыць ім давялося,
Як засведчыў час руплівы,
Аж да сівага валосся,
І, расказвалі, шчаслівы.

Як бы цяжкім крок ні здаўся,
Калі нават грозіць згубай,
Не шкадуйце, аддавайце
Палавіну веку любым.

*1975*

## НА ЛЕДЗЕ ІРЫНА РАДНІНА

Як на прапросце вострая травінка
Рыхтуецца лязом прабіць снягоў скарынку —
І раптам выблісне!
Не знаючы калі,
Не ведаючы, як здарылася дзіва:
Зялёная насельніца зямлі
Ледзь прарасла — і стала ўсім шчаслівa.

Як толькі рух абудзіцца ў Ірыне,
Абвал пачуццяў стоўпіцца і рыне
За далягляд...
Пакінеш ты істоту,
Сябе самога.
Вызвалішся з сотаў
Зямнога бытавання...
І — ў паветра!
Ляціш за музыкай з ледзянага паркета.

Нашто цягацца мне па лёдзе ў Гетэборгах,
У Інсбруку чакаць запаленай паходні,
Я Нарач размяту сярод пагоркаў,
Каток, як шкло,— хоць кіламетраў сотню.

Вы ступіце — пачнуць трубіць крыніцы,
Вятры натрудзяць крылы ад авацый,
Усім пачуецца,
як чыста гімну ліцца,
Як лёгка сцягу нашаму ўзвівацца.

Я кланяюся Вам! Вы ў непрыветных далях
Наш гімн і сцяг над светам выклікалі.

*1975*

## СЛУЧЧЫНЕ

Учора мы разам хадзілі ў анучынах,
Малолі на хлеб у старым ветраку.
Ды гэта, мая неаглядная Случчына,
На тысячы міль засталося ўбаку.

І я нездарма падышоў з тваё рошчыны,
Спякоты зазнаў і стрываў халады.
Цябе мне даволі, ніяк не зайздрошчу я
Краінам, што вечна зяленяць сады.

На лес небагата, на воды няшчодрая,
А нетры ўзбудзіла і — рынула соль,
І маеш яшчэ ты багацце нязводнае —
Высокае мора людскіх галасоў.

І колькі ні ёсць нас, малыя і сталыя,
Раскіданы ў свеце, далёка жывём,—
Імя тваё ўчуем — і ўсім заспявалася,
І дзверы адчынены кожнаму ў дом.

*1975*

## СЛУХАЮЧЫ СВЕТ

Не адкладаўшы на пасля,
Ніяк не сцерплю і не змоўчу,
Калі ў кругах сваіх зямля
Пачуе часам голас воўчы.

Дастаўшы зброю з там-тых рук,
Яе трымаюць напашэве
Уедлівы фашысцкі крук,
Заядлы рэваншысцкі певень.

Іх за адзін аброк запрог
Заакіянскі жоўты д'ябал,
Аматар лёгкіх перамог,
Калі трашчаць чужыя скабы.

Дзяліць гатоў ён земны шар,
Граніц трымаючыся цвёрда
Курца таўшчэразных цыгар,
Англійскага старога лорда.

Паіў нас гарцамі маны,
Як бой вялі, нібыта ў пары,
Але аралі мы адны
Вайны крывавыя папары.

Растуць там руні спакваля,
Нішто жыву, някепска крочу,
І горка мне, мая зямля,
Калі пачую голас воўчы.

*1975*

## ЖАЛЬБА ЗДАЛЁКУ

...За сцяной нехта з раніцы ў радыё ўпрогся,
Круціць шлягеры, джазы...
Ды шчасце, што Робсан
Лінуў басам і змыў іх...
Тады асмялеў
Нескладаны,
Знаёмы,
Шчымлівы
Напеў.

Тая тонкая дудачка так бедавала,
Што пазнаў я:
ў далёкіх-далёкіх краях
Землякова душа горка рукі ламала,
Дом згадаўшы былы,
Цёплы жнівеньскі шлях.

Той прастор,
дзе я толькі што з жоравам лётаў,
Падразаў верасовы рабы баравік,
На паўнюткіх трохтонках каціў з умалотам,—
Столькі важыць радзіме і сам я не звык.

Ці ж не ведаць мне, як яна, добрая, прыме
Жальбы тых, хто калісьці ў адлёт паспяшаў.
Не магу я адмовіць нікому ў радзіме,
Калі ўпоцемку стане відушчай душа.

А ў тае, што іграла, вільготныя вейкі...
Спадзявайся, зямляча, і ступіш да нас.
Вось прабілася ж неяк журбота жалейкі
Цераз тлумны, спатнелы, запенены джаз.

*1975*

## ВЫБУХ

Бліснуў, загрукатаў,
Выкуліў кубак ставу,
Быццам душу дастаў
Усерджаны Кракатау
І паваліў з хрыбта
Дымнае гліны лаву.

Ссыпаўся друзам гмах
З горадавага цела.
Змогшы да ўзлёту страх,
Стаўшы ад жаху смелай,
З ластаўкамі ў лістах
Ліпа на дах ляцела.

Дрэва было ў агні,
Але ў смяротным стане,
Выпрастаўшы карані,
Голлем агонь хвастала.

З чорнае вышыні
Біў і біў Кракатау.

З неба — малы павук,
Д'ябал з маторам — зблізку,
Вышаліў сіняву —
Цесна ў паветры прыску.

Помню — колькі жыву! —
Бомбы.
Апошнія.
Ў Мінску.

*1975*

## УСПАМІН

Вагоны ветраюць на рэйках.
Салдаты ў лазні...
                              Мы цішком
Рыхтуем стол у школе нейкай,
Дзе роўна суткі быў наш дом.

Гартае кнігу вецер з пасек,
Пра мір і пра вайну яна...
Але як светла піша класік,
Няўжо святлей была вайна?

Нам выязджаць не вельмі лёгка...
Ну дзе ж яны?
                         Давай нальём!
Пачуюць тост: за дзесяць крокаў
Стаіць звышпільны батальён.

Зенітчыцы, нябёс ахова
І земных душ разгардзіяш.
Ідуць.
            Хоць не з графінь Растовых,
Затое цэлы ўзвод Наташ.

За вас, дзяўчаты селавыя!
І вам наліта не скупей.
Хай дзесьці мыляцца Талстыя,
Пісцы наступных эпапей.

А мы станцуем! Гэта лепей,
Чым смуткі з некалішніх кніг,
Дзе, пэўна, крылейкі прылепяць
Да вашых плечыкаў крутых.

Прайшоў паўз вокны манеўровы,
Гукнуў і ахінуўся ў дым.
Бывай, Наташа не-Растова!
Куды мы едзем? Памаўчым.

Вунь той, дужэйшы цягнічыска
Пасля падзеліцца з табой,
Што вёз нас, колькі можна, блізка
Туды, дзе пагрукотваў бой.

*1976*

* * *

Я свой радок на сэрцах важу —
Таго, хто будзіць сталь разцом,
Тае, што ажыўляе пражу
На сотнях звонкіх верацён.

Яны заўжды вядуць да ўзлёту,
Я з імі слухаю зямлю:
Чый голас сам прыму ў істоту,
Каму сваім я пасаблю.

Не страціць крыл мая надзея,
Як гіне рыба без лускі,
Што хтось чагось не ўразумее,
Памкнецца мне ўпраўляць мазгі.

Не шкода тут, а невыгода,
Калі вам суне цесны бот,
Нібы ад імені народа,
Той, хто ніякі не народ.

Не здоўжыцца неразуменне,
На ўсё свой час, не наракай,
Калі і думай аб замене,
Дык не душы і не радка.

*Красавік 1977,*
*кастрычнік 1979*

## ЧАЛАВЕЧКІ

Ёсць чалавечкі-невідзімкі —
Нашто ім нейкі самапал?
Яны з бясшумнай ананімкі
Цаляюць так, каб напавал.

Сапхаўшы ў мех класічнай формы
Грахі, што сам з сябе саскроб,
Распіша чыста, бездакорна,
Хутчэй санет, а не паклёп.

Радочак вышукае ў творах
І ўчэпіцца: не так гучыць!
А за мяжой аблезлы вораг
Ад здавальнення загурчыць.

Той, што ні дай, нясе на продаж,
Гатоў крычаць на сто ганей —
Маўляў, у іх расце нязгода,—
Раўне, а потым і рване.

І хмыліць губы невідзімка:
Ён — што, ён папярэдзіў свет!
І зноў бярэцца без затрымкі
За свой бясшумны пісталет.

Пакуль адвеюць з тых санетаў
Няпраўду, зайздрасць, фальш заган,
Ён ходзіць ясны, ходзіць светлы —
Здабыў маральны чыстаган.

Калі ж дзе ступіць неахайна,
Сам падстаўляе касмылі:
Даруем, знае...
Пільнасць, дбайнасць
З парадку дзён не адбылі.

Як ён прабіўся, неданосак?
Такія, кажуць, мастакі

Падзараблялі на даносах
З-пад бенкендорфавай рукі.

...Заблытан след, схавана імя,
Ужо мінуўся той папас,
Як пад імёнамі сваімі
Хапалі нас не за абцас.

Вайна... Сягнулі не пад кулі,
А дзе цішэй, за частакол.
Рабілі так, каб іх прымкнулі,
Ды не трымаць жа пад замком.

Цяпер шануюцца... На пару
Пякуць без прозвішчаў лісты,
На вуха пішуць мемуары —
Чаго не выслухаеш ты!

Ці гэта каеццаураднік,
Жандар, што жылы рваў з людзей,
Ці тхор вяшчае з курасадні,
Як плакаў, душачы курэй?

Гавораць, пішуць...
Божа мілы!
Каму пісаць, вучыць каго?
Вазьмі ты іх, калі пад сілу,
У рай усіх да аднаго.

Мая цярплівая эпоха,
Усім адкрыты, цёплы край!
Не вымагаю, каб усохла
Чыя рука — так не карай!
Ну, паківай, ушчунь патроху,
А вось паперу — прыхавай!

*1974*

## БОТЫ НА ПАТЭЛЬНІ

Макасін з тупым наском,
Пальцы тры — падэшва,
Гальштук з дзікім жарабцом
На грудзях падвешан.

Як свісцёлачкі штаны,
Плашчык пры пагонах...
Ён прыбраны ў лахманы
З трох камісіёнак.

Выбрывае ў нітку вус,
Чэрніць бровы сажай.
З год не стрыг ён галаву,
Але больш не важыць.

Што ж пабачыў на вяку?
Дзьмулі мама з татам,—
І пададзена сынку,
І за ім — прынята.

Чхне выпадкам — нездароў!
І гарачку мерыць
Паўдзесятка дактароў
Прэцца на кватэру.

...Скончыў курс, даўгі аддаць
Мог бы ўжо з працэнтам,
Ды дзіцяці пагражаць
Сталі аліменты.

Бацька кажа:
— Так і так,
Ці не лепш жаніцца?
— Не,—
Адказвае лайдак,—
Я хачу вучыцца.

Шлюб у пушчу не збяжыць,
Будзе час на жонку.

Ты капейкай памажы
Роднаму дзіцёнку.

Падаткнуць каму пад нос,
Каб пусцілі ў дзверы,
Бо не буду ж я ўсур'ёз
Пэцкацца з паперай.

Вось як цэліць! Менш рабіць,
Браць пабольш зарплаты...
Кажа бацьку:
— Пасабі
Выйсці ў кандыдаты.

Бацька ў крык:
— Няхай мазгі
Ёлуп сам патрудзіць.
Сын яму:
— Ну, вось — бацькі!
Эгаісты-людзі,

Ты не злуй і не крычы,
Не грымі нагамі.
Што б дзіцяці памагчы,
Вам жа памагалі.

Мама хворая: вага,
Сэрца, усё такое...
Я так думаю, што льга
Даць ёй супакою.

Дзед не здолен працаваць,
Ён зусім здзяцінеў...
Значыць, бацьку трэба дбаць
Аб няшчасным сыне.

Падкаціўся сціхатой
Будучы «вучоны»...

...Не даможацца ніхто
Лепшай абароны.

Б'е ў званы падхалімаж,
Сын той — першы ў спіску:

Кажуць:
— Гэтакі багаж,—
Кандыдат з калыскі.

І пайшлі віляць, гадзі́ць —
Як не брыдка людзям!
Кандыдат ён можа быць,
Працаўнік ці будзе?

Пэўна, прыйдзе з часам стаж,
А багаж — не вельмі,
Бо не ўкусіш, як ні смаж,
Боты на патэльні.

*1974*

## КАНДРАТУ КРАПІВЕ

Плывуць даўнейшыя гады,
Старое казкі склад.
Гудуць увечары дзяды
На прызбах каля хат.

Дзед-земляроб, і дзед-сталяр,
І трэці дзед — каваль.
А мы глядзім ім проста ў твар,
Не дыхаем амаль.

Старыя ўмеюць расказаць,
Каб знаді блазнюкі,
Як гебель у руцэ трымаць,
Наварваць сашнікі.

Былі гады, прайшлі гады,
І зараз, акурат,
Гудуць увечары дзяды,—
Змяніўся толькі склад.

Тлумачым, як трымаць пяро,
Пакурваем, сядзім,—
І дзед Кандрат, і дзед Пятро
І я ўжо дзед — Максім.

Як прамільгнуў няўмольны час!
Юнацтва, дзе ж яно?
Нібы на свет я толькі раз
Зірнуў цераз акно.

І не магу пазнаць дзяўчат,
А мы ж міргалі ім —
Крыху Пятро, крыху Кандрат,
Міргаў і я — Максім.

На змену стаў каля дзвярэй
Дзядоў магутны стан:
Дзед Анатоль, і дзед Андрэй
І тройчы дзед Іван.

А час махне крыламі зор,—
Пачне хадзіць з клюкой
Клінабароды дзед Рыгор
З бабулькаю Вярбой.

Дзяды! Нам травы ў росце чуць
І першы спеў вясны,
Дык паспрабуем не сапсуць
І новай баразны.

*19.3.56—7.10.69*

## РАЗМОВА З ПРОМНЕМ

Не вельмі цешыць столь
У гэтым новым доме,
Паскардзіцца дазволь
Табе, вясёлы промень!

Ты толькі заляцеў,
Пазалаціўшы вокны,
А крыльцы збіць паспеў
Аб мой паддашак мокры.

Пасля дзвярны праём
Без надужання выкрыў,
Што ўвесь гэты раён
Не макра ён, а мікра.

З акустыкай, маўляў,
Бяда... Хіба магчыма
Вяселле адгуляць,
Адсвяткаваць радзіны!

Да мулярскіх вушэй
Закінь ты слоўца ціха:
— Рабіце столь вышэй,
Лягчэй у доме дыхаць!

Прыспешце часу бег!
Пакінем пад адхонам —
Мікрараёны стрэх
І душ мікрараёны.

*1977*

# «ПАЎЛІНКА» І ЯЕ ВЫТЛУМАЧЭННЕ Ў ТЭАТРЫ

Літаратурная спадчына Янкі Купалы, у тым ліку і купалаўскі тэатр,— гэта наша класіка, школа мастацкай праўды і прастаты, пэўная вяршыня і крыніца пазнання.

Янка Купала — не проста літаратурная з'ява ці эпоха, творчасць паэта перад усім — з'явішча грамадска-палітычнае, выключнае па свайму аб'ёму і значэнню, гэта паэтычны летапіс геройства, працавітасці, нацыянальнай гордасці і сталасці беларускага народа. На першай старонцы гэтага летапісу чалавек працы абвяшчаецца дзейнай сілай гісторыі, кідаецца выклік «агромністай грамады», гэта значыць — усяго народа, які вымагае права «людзьмі звацца». Так Янка Купала, пачаўшы своеасаблівую паэтычную гісторыю барацьбы народа за чалавечую годнасць, ад абуджэння грамадскай і нацыянальнай свядомасці адзінак прыйшоў у нашы часы, калі беларус стаў свабодным тварцом і гаспадаром свае савецкай дзяржавы.

Кожная сур'ёзная спроба раскрыцця і растлумачэння літаратурнай спадчыны Янкі Купалы, пашырэнне і выкарыстанне шматлікіх купалаўскіх скарбаў сустракаюцца з радасцю. Сапраўды, ні ў адной паважнай гаворцы аб нашай краіне, аб яе мінулым і сучасным, аб яе чорных днях і пары паслякастрычніцкага росту і ўздыму, аб яе гераічным змаганні супраць тэўтонскай навалы нельга абмінуць імя народнага паэта, як, да прыкладу, немагчыма гаварыць аб Украіне, не прыгадваючы вялікага Тараса. Вось чаму растлумачальная прамова, якою суправаджае пастаноўку «Паўлінкі» і «Прымакоў» тэатр імя Янкі Купалы, калі нават палічыць яе патрэбнаю з папулярызатарскіх мэт, выклікае здзіўленне сваёю прымітыўнасцю. Гэтак, скажам, здзівіў бы гледача ўступ да МХАТаўскага спектакля з вучнёўскімі разважаннямі аб творчасці Гогаля ці Астроўскага.

З такой прамовай можна было б пагадзіцца, калі б яна падводзіла нас да паўнейшага і глыбейшага

разумення паказу, расказваючы аб тым, што новае здолеў прачытаць тэатральны калектыў вачыма людзей 50-х гадоў нашага стагоддзя ў камедыі Янкі Купалы, як пашчасціла ператварыць гэтую навізну ўсведамлення ў сцэнічных вобразах. Аднак, апрача першай, мы маем яшчэ адну прамову, укладзеную ў вусны «весніку» ці «вядучаму». Выкарыстоўваючы гэты, па сутнасці парадыйны, прыём, пастаноўшчыкі звычайна кіруюцца думкаю паставіць пасрэдніка, прадстаўніка сучаснасці, паміж гледачом і падзеямі, а таксама асобамі, што маюць ажыць на сцэне ва ўмоўных ці сапраўдных абставінах і супярэчнасцях, аддзеленых ад сягоння пэўным прабегам часу.

На гэты раз «весніку» давялося здубліраваць сціплую ролю праграмы і абмежавацца азнаямленнем з персанажамі і выканаўцамі. Здавалася б, што такі пасрэднік, пачынаючы надзвычай багаты смехам паказ, сам павінен добра і трапна жартаваць. На справе ж гэтага няма, і свае нешматлікія словы артыст не распрацаваў хоць бы да правільнага развымаўлення нацiскаў, а дзе ж павучыцца добраму вымаўленню, як не ў тэатры, які павінен з'яўляцца школай літаратурнай мовы.

Але вось два разы падымаецца заслона, і — на сцэне «Паўлінка».

«Паўлінка» — гэта найбольш папыраная п'еса аматарскага рэпертуару. Адразу ж пасля напісання яна абышла ўсю тагачасную Беларусь, шмат ставілася пасля Кастрычніка, а ў заходніх абласцях замацавалася амаль што да нашых дзён.

Вырасшы з фальклорнай асновы, «Паўлінка» стала сама здабыткам фальклору: шматлікія выразы і сказы з яе зрабіліся так званымі крылатымі словамі. Гэтая ўласцівасць у спалучэнні з выключнай прастатой і рэалістычнасцю набліжае п'есу да народных драм.

Нельга недаацэньваць грамадскае і сацыяльнае значэнне камедыі. Яна служыла мэце абуджэння народа ў такой жа меры, як і паэзія Я. Купалы, а часамі дзейнічала і больш эфектыўна, дзякуючы магчымасцям, якія адкрывае жанр. І зусім невыпадкова Купала — лірык і трыбун — звярнуўся да драматургіі.

У «Паўлінцы» паэт з вялікай рэалістычнай сілай прымусіў ажыць адзін з найбольш характэрных момантаў бытавання дарэвалюцыйнай вёскі, узяўшы за касцяк камедыі самае пашыранае ў той час і самае трагічнае ў жыцці жанчыны — вымушанае шлюбаванне з нялюбым. Трыкутнік — дзяўчына, блізкі ёй чалавек і нялюбы, бацькі, волі якіх не можа пераступіць дачка, даўно вядомы з народнай казкі і песні. Не новым з'яўляецца і асноўны паварот сюжэта — ашуканне нялюбага і ўцёкі з бацькоўскага дома. Людзям, знаёмым з тагачасным сялянскім побытам, падзеі камедыі здаюцца добра падслуханым запісам таго, што адбывалася ў заможнай вясковай сям'і ў адзін з кірмашовых вечароў некалькі дзесяткаў год назад.

Аднак у сапраўднасці справа значна складанейшая.

Ці поспех і шырокае распаўсюджанне п'есы тлумачыцца толькі блізкасцю яе да народнай творчасці і тым, што аўтар здолеў надаць сваім героям такія характэрныя адзнакі, якія пераводзяць іх у катэгорыю тыпаў? Ці дадаў Купала што новае да адвечнага сюжэта як чалавек другой пары, іншага часу? Паспрабуем знайсці адказ.

Вясковая дзяўчына Паўлінка і настаўнік Якім Сарока, як вядома са зместу камедыі, хочуць пабудаваць жыццё па сваім жаданні, бунтуючы супраць закасцянеласці бацькавых поглядаў. Гэтая сутычка маладога і старога, у адрозненне ад фальклорных сітуацый, мае відавочны адбітак рэвалюцыйных зрухаў 1905 года, якія не маглі не дакаціцца да беларускай вёскі. Гэта падкрэслівае аўтар весткай аб арышце Сарокі «за афішкі».

Няцяжка заўважыць, што сімпатыі ўсіх дзеючых асоб на баку Сарокі. Праўда, гэтыя сімпатыі ў Альжбеты і Агаты абумоўлены сваяцкай любасцю да Паўлінкі і тым агульным у іх жаночым лёсе, што і ім некалі давялося ісці замуж, падпарадкуючыся бацькаваму выбару. «І мой як ка мне пасватаўся, бацька нябожчык і кажа: ідзі, бо ўсё роўна ніхто цябе лепшы не возьме»,— гаворыць Агата да Паўлінкі. Нават Сцяпан Крыніцкі, хоць ён пад час дзеі і ставіцца рэзка адмоўна да Сарокі, некалі падтрымлі-

ваў з ім добрыя дачыненні. Са слоў Паўлінкі, асноўнае пярэчанне бацькі супраць Якіма заключаецца ў тым, што «Якім з мужыкоў», але, паводле ўсяго тэксту камедыі, у вачах Крыніцкага Сарока перад усім «недаварак», «забастоўшчык», «гэрэтык», «бязбожнік», а пасля ўжо «мужыцкае насенне» і «хамуйла». Гэтая пагромная тэрміналогія ёсць пэўная адзнака часу рэакцыі, след распаўсюджання чарнасоценнага друку з яго бруднай агітацыяй.

Такім чынам, у параўнанні з традыцыйнымі палажэннямі фальклору мы знаходзім у п'есе значныя адступленні, бясспрэчна, абумоўленыя тым, што аўтар разумеў сацыяльныя і палітычныя зрухі, бачыў новае, характэрнае для свайго часу.

Тут мы маем не проста каханне беднага і багатай, а настаўніка і вясковай дзяўчыны, не схіленне перад воляй бацькоў, а бунт супраць яе, не звычайнае расстанне каханкаў і далейшы шлюб з нялюбым, а больш цяжкую ростань — арышт,— выкліканую трэцяй сілай. Уводзячы момант арышту Сарокі, аўтар падкрэслівае, што асноўнай перашкодай да ўпарадкавання чалавечых адносін з'яўляецца не ідыятызм патрыярхальных поглядаў і забабонаў, а іменна гэтая трэцяя сіла — капіталістычны лад, тагачасны рэжым самадзяржаўя. У п'есе гэта падкрэсліваецца словамі Якіма Сарокі, якія пераказвае Паўлінка Агаце: «У нас, кажа, усё ідзе не так, як трэба... Сляпыя, кажа, усе сляпыя. Адзін над другім не маюць ніякай літасці, хоць усіх душаць зверху ўсялякія пошасці ды злыдні».

Пададзенае недвухсэнсоўнае выказванне, уносячы пэўнасць у рэвалюцыйную характарыстыку Сарокі, адначасова паказвае, наколькі яснай была думка Купалы ў ацэнцы навакольнага становішча.

Цікава, што Купалу-пісьменніка амаль дакладна пераказвае Купала-публіцыст. У адной з рэцэнзій («Наша ніва», № 5, 1915 г.) ён піша: «В. Марцінкевіч... у сваіх творах выказваў, што ўся бяда беларускай беднаты паходзіць не ад паноў, а ад панскіх слуг: аканомаў, цівуноў і іншай марноты». І далей, абгрунтоўваючы выказанае меркаванне, паэт гаворыць: «Марцінкевіч не бачыў, што сярод мужыкоў пачынаецца эвалюцыя, што колькісотлетняя пан-

шчына не забіла да апошняга ў мужыцкай душы жадання падняцца вышэй са свайго паніжэння, са сваёй беднаты-цемнаты».

Такім вось разуменнем першапрычын няроўнасці і ўціску, дыханнем «эвалюцыі», якая пачалася ў сялянстве, і прасякнута камедыя. Трапна ўлоўлены і пададзены подых часу набліжаў «Паўлінку» да рэвалюцыйных колаў — студэнцтва, настаўніцтва, вучнёўства, якія выкарыстоўвалі і пашыралі п'есу.

Сказанае вышэй дазваляе правільна ацаніць вобразы камедыі і вылучыць цэнтральны з іх. Мяркуючы па назве камедыі, можна было б сказаць, што галоўная гераіня Паўлінка. Вядома, Паўлінка — найбольш яскравы характар твора. І ўсё ж лічыць яе асноўным чыннікам у падзеях было б таксама наіўна, як, скажам, за багатым цветам на маладой яблыні не бачыць садоўніка, які выкапаў у лесе дзічку, прышчапіў яе і зрабіў культурным дрэвам.

Бунт Паўлінкі супраць бацькоў, жаданне быць гаспадыняй свайго лёсу ўзрошчаны і накіраваны Сарокам. Сарока — гэта душа Паўлінкі, ён арганізуе ўнутраны свет дзяўчыны, выхоўвае, навучае яе. Паўлінка не проста запамінае і пераказвае словы Сарокі, як гэта мы бачылі ў гаворцы з Агатай, яна бярэ іх за кірунак, з іх вырастае яе светапогляд і як крайняе выражэнне бунту — намер уцячы з хаты.

Няхай сабе Сарока выходзіць на сцэну толькі на пачатку першага акта, але размовы аб ім не спыняюцца праз усю дзею і характарызуюць яго не горш, чым зрабіў бы ён сваімі словамі. Сарока ўвесь час невідочна прысутнічае ў хаце Крыніцкіх, накладваючы адбітак на развіццё падзей. Толькі ў залежнасці ад гэтага вобраза аўтар вырашае ўсе астатнія.

Мы далёкія ад таго, каб бачыць у Сароку паслядоўнага і зусім спелага рэвалюцыянера, але гутаркі аб ім як аб бунтаўшчыку, распаўсюджвальніку кніжак — гэта не п'янае ўяўленне цяжкага на одум Паўлінчынага бацькі, гэта сапраўднасць.

Станоўчасць Сарокі адчуваецца ўсімі персанажамі. Паўлінка згаджаецца ўцякаць з ім не толькі пад уплывам пачуцця — не будзем пазбаўляць яе сялянскай разважлівасці,— а галоўным чынам таму, што

яна верыць свайму Якіму як чалавеку, каму смела можна даручыць жыццё.

Нават Сцяпан Крыніцкі адчувае, што проціставіць Быкоўскага Сароку ў якасці жаніха нельга, бо гэтае процістаўленне будзе відавочна не на карысць Быкоўскаму. Вось чаму Крыніцкі наважваецца «даць дарогу» Сароку, ці, прасцей кажучы, прыбраць яго з дарогі.

Усё выказанае дае магчымасць лічыць зусім беспадстаўным вытлумачэнне Сарокі як выключна каханка, з чым мы сустрэліся ў апошняй тэатральнай пастаноўцы «Паўлінкі». Памылковае разуменне вобраза налажыла след на акцёрскае выкананне: сапраўднае пачуццё Якіма падменена саладжавай тэатральнай развязнасцю, сцэны здаровай маладой любасці і флірту ператварыліся ў сентыментальныя пастаралі, прычым Якім зусім нечакана з асобы, якая сур'ёзна імкнецца паяднаць два лёсы, набыў рысы таннага спакушальніка.

Няпраўдзівая падача вобраза Сарокі збяднiла і зрабіла супярэчлівым вобраз самой Паўлінкі. Бунт яе супраць бацькоў стаў незразумелым, бо падстава, на якой ён узрос, а іменна ўплыў Сарокі, тэатрам адкінута. Даволі вострыя сутычкі Паўлінкі з бацькам выглядаюць толькі як свавольства адзінай і таму крыху раздуранай дачкі.

Тое ж самае мы маем і ў дачыненні да іншых персанажаў камедыі. У тэатральнай падачы вобраза Якіма няма нічога, што вылучала б яго, прымушала аддаць яму перавагу перад іншымі і ў першую чаргу перад Быкоўскім. З гэтай прычыны тэатру давялося ўжыць для абмалёўкі Быкоўскага фарбы густога шаржу, супраць чаго выступаў Купала ў той жа рэцэнзіі на «Залёты» Дуніна-Марцінкевіча. «Сабковіч у «Залётах»,— пісаў ён,— гэта ёсць шэльма з шэльмаў, узвялічаны аўтарам да нейкага горшага гатунку карыкатуры, а не чалавек з яго добрымі і благімі старонкамі».

У трактоўцы вобраза Быкоўскага тэатр кіраваўся правільным у асноўным уяўленнем аб «старым кавалеры», збяднелым шляхціцу, у якога для надворнае пыхі застаўся толькі сурдут ды вельмі падазроны ў сэнсе наяўнасці жарабец. Аднак зусім нелагічна па-

даваць Быкоўскага старою руінаю, у дадатак да ўсяго брыдкаю і дурною. Перад усім «стары кавалер» — гэта не стары чалавек па веку, так звалі ўсіх засцянковых шляхцюкоў, якія марудзілі са шлюбам да трыццаці і болей гадоў. У Быкоўскага жывыя бацькі, аб гэтым ён сам гаворыць Паўлінцы. Паміж Быкоўскім і старымі Крыніцкімі працягваюцца ніці ўзаемнай сімпатыі, якая прыкрывае відавочную для моладзі нікчэмнасць гэтага залётніка. Быкоўскі імпануе бацькам Паўлінкі; гэта і зразумела, бо за брыдкага старога дурня, якім выглядае Быкоўскі ў тэатры, ніколі не аддасць дачкі няхай сабе п'янаваты і крыху асляплены шляхецтвам селянін.

Быкоўскі — хвалько і манюка — паказаны аўтарам так ярка, што тэатру няма ніякай патрэбы дадаткова згушчаць фарбы і такім парадкам рабіць непраўдзівым вобраз Сцяпана Крыніцкага, які, як і кожны селянін яго тыпу, мусіць перш добра даведацца, чаго варты жаніх, а потым ужо гутарыць аб шлюбе і, галоўнае, аб пасагу. Паводле аўтарскай задумы, Быкоўскі сам выкрывае сябе кожным словам і кожным учынкам.

Не рэалізаваўшы патрэбным чынам магчымасцей аўтарскага тэксту (не гаворым ужо аб падтэксце!), тэатр адышоў ад правільнага вытлумачэння вобраза Сарокі, што выклікала непраўдзівасць і супярэчлівасць у вобразах Паўлінкі, Быкоўскага і Крыніцкага і прымусіла пайсці на парушэнне аўтарскага развіцця дзеі. Тэатр вымушан быў адкінуць арышт Сарокі і зьначыць заканчэнне п'есы, бо нельга ж, нарэшце, арыштоўваць чалавека за каханне, а другіх падстаў для арышту, паводле сцэнічнай падачы камедыі, няма.

Такім парадкам атрымалася п'еса «са шчаслівым канцом», камедыя страціла сацыяльнае гучанне, і спектакль мае хіба што этнаграфічную цікавасць, хоць нават гэтай мэце супярэчыць залішняе стылізатарства ў афармленні і разрыў у часе паміж дэкарацыяй і вопраткай (сучасная хата і старасвецкія світкі).

Аднак паглядзім, ці можна пагадзіць аўтарскае азначэнне жанру п'есы з яе некамедыйнай у агуль-

напрынятым уяўленні канцоўкай? Калісьці аб «Горы ад розуму» Грыбаедава Бялінскі пісаў:

«Камедыя, на маю думку, ёсць такая ж драма, як і тое, што звычайна называецца трагедыяй, ...яе элемент ёсць не тая нявінная дасціпнасць, якая дабрадушна здзекуецца з усяго праз адно жаданне павыскаляцца».

Пры ўсёй непараўнальнасці «Гора ад розуму» і «Паўлінкі» трэба адзначыць, што Купала менш за ўсё лічыў сваёй задачай дабрадушны здзек і што геніяльны твор Грыбаедава мае таксама зусім некамедыйнае заканчэнне.

Перачытаўшы дарэвалюцыйныя творы Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, мы знойдзем там, не зважаючы на агульны гумарыстычны тон, сумную развязку, абумоўленую бяссіллем героя ў змаганні супраць абставін, супраць уціску «пошасцей і злыдняў зверху», кажучы словамі Сарокі. Гэтае своеасаблівае вырашэнне лёсу героя, зробленае ў меру магчымасцей і шырыні светапогляду кожнага аўтара, і ёсць адна з адзнак прагрэсіўнасці творчай практыкі гэтых пісьменнікаў.

Заплюшчваючы вочы на гэтую адзнаку, мы механічна прыйдзем да скасавання сацыяльнай глыбіні і вастрыні дэмакратычнай літаратуры дарэвалюцыйнага часу.

Вось чаму «Паўлінку» трэба разглядаць па асноўных момантах зместу, ставячы яе ў безумоўную сувязь з усёй дэмакратычнай літаратурай і тагачасным рэвалюцыйным рухам.

Паставіць і сыграць гэтую п'есу вельмі цяжка. Нязначная на першы погляд рэпліка, змест якой папспеў прыхавацца пад налётам часу, можа, пры належным выяўленні яе падтэксту, асвятліць увесь твор, цэлы спектакль.

Такой глыбокай распрацоўкі купалаўскага тэксту якраз і не хапае пастаноўцы. У гэтым прычына і залішне прасталінейнай трактоўкі п'есы, і збядненне асноўных вобразаў, і вырашэння камедыі штучнымі тэатральнымі прыёмамі, зусім неўласцівымі гэтаму выпадку.

Вядома, на пастаноўку затрачана шмат майстэрства, працы, энергіі. Мы сустракаем многа момантаў, якія можна лічыць творчымі дасягненнямі артыстаў, пастаноўшчыка і мастака. Аднак спектакль не ўспрымаецца цэльным, і нават таленавітыя выканаўцы, не знаходзячы належнага напаўнення вобразаў іх сапраўдным зместам, вымушаны звяртацца да знешніх эфектаў.

*1945*

## ПЕРАМОГА АКЦЁРА

«...Вось выходзіць бедны Гамлет з яго запаветным пытаннем: быць ці не быць...»

*В. Бялінскі*

На высокіх крэслах сядзяць Клаўдзій і Гертруда. Светлыя ўбранні, вясёлыя твары прыдворных... Кароль гаворыць напышлівую прамову, і вочы ўсіх прысутных з увагай сочаць за ім. Толькі ж чаму раптоўна вяне весялосць, блекне ўрачыстая каралеўская прамова? Так бывае, калі нечакана набягае хмара на чыстае неба і яркія колеры пачынаюць ліняць.

У гэтым вінаваты чалавек у чорным. Толькі аднаму яму нявесела. Ён стаіць збоку, нерухомы, і на першы погляд гэтая постаць здаецца высечанай з мармуру, адной з тых статуй, якіх так многа пастаўлена для аздобы каралеўскага палаца. Чалавек неадрыўна глядзіць на сваю маці-каралеву, і яе вочы адбягаюцца ўбок. Ён пераводзіць зірк на свайго дзядзьку-караля, і той губляе ўпэўненасць і, надужаючы сябе, спрабуе жартаваць.

Так упершыню з'яўляецца перад нашым позіркам Гамлет.

Ён стаіць моўчкі, назірае, мяркуе, спрабуе знайсці ўтаймаванне сваім думкам. Ён яшчэ не ведае, што сябры бачылі на начной варце здань, якая так падобна да яго бацькі, памёршага караля Гамлета.

Яму вядома адно: яго выклікалі сюды з прычыны нечаканай смерці караля. Смерць гэта незразумелая. Яшчэ больш незразумела тое, што маці яго, не паспеўшы стаптаць чаравікаў, у якіх ішла за трунаю мужа, не адбыўшы тэрміну жалобы, стала жонкаю роднага дзядзькі прынца Гамлета, новага караля — Клаўдзія.

Падстаў для развагі шмат.

І перш за ўсё за гэтую надзвычайную і бліскучую паўзу, невымерна цяжкую для выканання, мы павінны быць удзячны таленту Паўла Малчанава, выдат-

нага артыста, які зноў прымусіў нас паверыць у існаванне Гамлета, перажыць разам з сабою яго трагедыю ў тэатры, што расказаў нам гісторыю, аб нешчаслівым, ці, як часта называе яго Бялінскі, «бедным» прынцы Дацкім.

Гэта ўжо другая сустрэча тэатра з Шэкспірам. Некалі, можна сказаць, у юнацтве, на пачатку свае самастойнай творчай працы, тэатр імя Якуба Коласа паставіў «Сон у летнюю ноч». Прамежак часу — ад пастаноўкі адной з самых лёгкіх і вясёлых камедый Шэкспіра да складанейшай трагедыі, адзначанай спеласцю генія,— не маленькі. Сягонняшняя пастаноўка абумоўлена таксама пэўнай творчай спеласцю тэатра і ўзроўнем яго майстэрства. У першую чаргу гэта стасуецца да выканаўцы галоўнай ролі.

Тэатр зрабіў новы крок на шляху вытлумачэння «Гамлета», і ў гэтым яго бясспрэчная заслуга. За многія вякі, у якія «Гамлет» не сыходзіць са сцэны, галоўнага героя паказвалі і вар'ятам, памылкова лічачы, быццам вар'яцтва ўзвышае вобраз, і схільным да самагубства містыкам, і закаханым, і бястварою нікчэмнасцю, народжанаю ладам феадалізму, і прэтэндэнтам на каралеўскую ўладу, і расхрыстаным дэкадэнтам пачатку першых гадоў нашага стагоддзя. Спрачацца з гэтымі трактоўкамі цяпер не мае ніякага сэнсу, як зусім не цікава весці размову аб тым, каму аддаць перавагу: іспанскаму гідальга Дон-Кіхоту ці дацкаму юнаку Гамлету, абуранаму ўсім, што ёсць злачыннага і несправядлівага на свеце.

Бялінскі сто год таму назад, поруч з уражаннямі ад ігры Мачалава, даў геніяльнае вытлумачэнне трагедыі, ускрыўшы ўнутраныя падставы ўчынкаў і ваганняў Гамлета, асэнсаваўшы вобраз яго як жыццё чалавецтва і імкненне да святла і праўды.

Сучасны тэатр, сучасны чытач Шэкспіра і сучасны акцёр маюць поўнае права надаць трагедыі сваё ўласнае напаўненне.

Кожнага з нас часта вяло ў тэатральныя залы жаданне сустрэцца з Гамлетам, і выходзячы са спектакляў, нават з шырока вядомымі імёнамі, даводзілася толькі пасумаваць аб няспраўджаных надзеях убачыць ператвораным у вобраз сваё ўяўленне аб гэтым героі.

Перанясёмся думкаю на тры стагоддзі назад, у стары англійскі тэатр «Глобус», дзе, трэба думаць, адбываўся першы паказ трагедыі. Можна з пэўнасцю сцвярджаць, што, апынуўшыся там, мы заўважылі б, як з кожным маналогам Гамлета мелавая бледнасць укрывае твары прынцаў крыві і тытулаваных асоб у іх высокіх ложах. Гэта не сведчыць, вядома, аб тым, што ў Гамлета ёсць рысы хаця б пасіўнай рэвалюцыйнасці. Але веліч Шэкспіра ў тым, што ён пісаў да празрыстасці проста. А праз гэтую празрыстасць відаць: Гамлет, перад усім, руйнавальнік асноў старога, хоць ён і не можа супрацьставіць нічога новага таму, што імкнецца разбурыць.

Трагедыя Гамлета — не проста трагедыя асобы, якая праз злачынства страціла бацьку і абавязкова павінна помсціць. Акт помсты Гамлета значна вышэйшы, ён хоча адпомсціць усяму злачынству, подласці і несправядлівасці ў свеце, канкрэтным носьбітам якіх з'яўляюцца кароль Клаўдзій і яго атачэнне. А ўсе ваганні і развагі, якія складаюць трагедыю, вынікаюць праз тое, што Гамлет адзін, яму няма на каго абаперціся. Гарацыо? Гэта добры сябар, але ўзровень яго далёкі ад узнёслых пабуджэнняў Гамлета.

Значыць, помста каралю, якую кожную хвіліну можа ажыццявіць Гамлет, не дасць вынікаў, бо нават сам прынц, апыніся ён на момант каралём, хоць для яго зусім непрыдатна такога парадку варварства, будзе змушаны схіліцца перад абставінамі і плысці за лёсам, пакуль не захлынецца ў душным асяроддзі палоніяў, осрыкаў, розенкранцаў, якія ў кожны момант могуць прадаць сваю шпагу новаму ўладару.

Вось чаму Гамлет, прыкінуўшыся вар'ятам, прыдумвае страшнейшы від помсты — не фізічнае, а маральнае знішчэнне сваіх ворагаў, бліскуча выкананае ім у так званай «Мышалоўцы».

Вось адкуль і вынікае славутае «Быць ці не быць?». Гамлету з яго кругаглядам зусім зразумела, што ён згіне ў змаганні з абставінамі. Справа ўся толькі ў тым, які шлях выбраць:

Што разумней — альбо цярпець удары,
Каменні, стрэлы яраснага лёсу,
Альбо узброіцца на мора крыўд
І знішчыць іх змаганнем.

І для нас, сягонняшніх гледачоў і акцёраў, трагедыя дацкага прынца заканчваецца не на схіленні прыдворных Клаўдзія перад Фарцінбрасам, а на ад'ездзе Гамлета ў Англію.

З гэтага сцвярджэння можна і распачынаць самыя гарачыя спрэчкі аб тым, што апошнія акты, так сказаць, закругляюць падзеі, высвятляюць адносіны Гамлета да Афеліі, завяршваюць яе лёс і лёс другіх дзейных асоб, у тым ліку і галоўнага героя, які знаходзіць смерць у няроўнай барацьбе з абставінамі і выпадковасцямі.

Тым часам, нельга лічыць развязкай тое, што на працягу некалькіх хвілін гінуць усе асноўныя персанажы трагедыі і такім чынам да дзвюх папярэдніх смярцей дадаюцца яшчэ чатыры. Гэты крывавы фінал і не робіць уражання на гледача, бо ён быў ужо раней узрушаны помстай, адзіна магчымай і адзіна справядлівай для Гамлета. Наадварот, запавет Гамлета Гарацыю і яго духоўная перамога над злом, уносяць святло, якое пераважае над крывавымі падзеямі.

Мне здаецца, што ў нас ёсць усе падставы іменна такім чынам прачытаць сягоння геніяльнае стварэнне Шэкспіра. Трэба думаць, што Шэкспір, падаючы трагедыю ў такім выглядзе, у якім яна дайшла да нас, па-першае, сплаціў даніну часу, а па-другое — да гэтага яго змушала выкарыстанне хронік і фактычных матэрыялаў.

Тэатр не абарваў п'есу на яе лагічным завяршэнні, але, як відаць, кіраваўся ў рабоце пададзеным вышэй вытлумачэннем. Ці можна механічна заканчваць дзею на трэцім акце? Думаецца, што не. Павінна быць смелая, але ўдумлівая рэжысёрская работа над пераняcеннем вышэй і кампанаваннем паасобных эпізодаў з завяршэння п'есы. Шэкспіраўскі жэмчуг не павінен рассыпацца дарэмна, але выкарыстоўваць яго трэба так, каб асноўная думка не засцілася.

У гэтым кірунку тэатр зрабіў многа. Мы не знойдзем у пастаноўцы надмернага акцэнтавання падзей апошніх двух актаў. Наадварот. Сцэна з магільшчыкамі добра падкрэслівае непрыдатнасць самагубства для Гамлета, аб чым думалася яму раней, а пахаванне Афеліі выяўляе ўсю глыбіню і чыстату пачуцця Гам-

лета да дзяўчыны. Паасобныя купюры, зробленыя тэатрам, толькі дапамагаюць раскрыццю сутнасці п'есы, канцэнтруюць увагу гледача на першарадных здарэннях і падзеях.

Чым жа радуе нас гэты спектакль? Па-першае, стройнасцю ансамбля. Тут непрыкметны шурпатасці, недапрацаванасці, прыкрыя ў сваёй непатрэбнасці дэталі. Ва ўсёй пастаноўцы відна школа і сапраўдны мастацкі густ. Ігра выдатных выканаўцаў нас узрушвае і хвалюе, але і выкананне другарадных роляў стаіць на добрым узроўні тэатральнай культуры.

Тэатр здолеў запоўніць шэкспіраўскую тканіну дзеяй і перажываннем, і таму сэнс не толькі кожнай рэплікі, але і кожнага слова выяўляецца поўна; яны маюць вагу, адкрываюць перад намі тое з задумы драматурга, чаго да гэтага не ўдавалася адчуць ні пры чытанні, ні на спектаклях.

Вось Гамлет і Афелія. Да гэтых двух вобразаў несупынна цягнуліся многія пакаленні таленавіцейшых акцёраў, яны займалі ўвагу выдатнейшых паэтаў ад Пушкіна да Блока. Сапраўды, яны з'яўляюцца асяродкам, вакол якога развіваюцца падзеі; іх трагічны лёс пераплецены паміж сабой шчыльней, чым лёс усіх іншых персанажаў.

Гамлет і Афелія кахаюць адзін другога і ў той жа час ускосна вядуць адзін аднаго да згубы. Сярод свету няпраўды і злачынства Афелія — адзіны светлы прамень для Гамлета, але і перад ёю ён не можа скінуць маскі вар'яцтва, бо пачуццё помсты больш важкае за пачуццё кахання.

Гамлет абражае і адпіхае Афелію цынічнымі размовамі, раіць ёй ісці ў манастыр. Але як жа іначай можа трымацца ён, за кожным крокам якога сочаць сябры-шпіёны, Палоній і сам кароль. Апрача таго, перад вачыма Гамлета неадступна стаіць вобраз уласнай маці, жанчыны, якая падала такі ганебны прыклад жаноцкае нявернасці. Ён баіцца кахання, не дазваляе яму блізка падысці да сябе, каб і самому не стаць заўчаснай ахвярай, прынамсі да ажыццяўлення помсты. Паводзіны Гамлета, потым забойства ім Палонія губяць кволы розум Афеліі, і яна гіне. У сваю чаргу, смерць Афеліі з'яўляецца ўскоснай прычынай смерці Гамлета, бо каралю трапляецца зручны выпа-

дак наладзіць паядынак Гамлета з Лаэртам, калі атручаная шпага развязвае лёс абодвух герояў.

Гэтыя акалічнасці дазвалялі многім акцёрам, у якіх, па выразу А. Блока, не засталося за душой нічога, апрача «біцця здаровым кулаком у хрыплыя грудзі», ператвараць Гамлета ў «смутнага красунчыка», прыносячы ідэйнае напаўненне трагедыі ў ахвяру хоць і моцнаму, але не асноўнаму ў п'есе матыву кахання.

У выкананні Паўла Малчанава Гамлет паўстае перад намі як чалавек, засмучаны раптоўнаю смерцю бацькі, абражаны вельмі паспешным замужжам маці. Ён губляецца ў здагадках, адчуваючы, што за знадворным хаваюцца больш глыбокія ўнутраныя падставы падзей. Даведацца аб гэтых падставах яму даводзіцца не дужа звычайным спосабам, але гаворка са зданню сумненняў не пакідае. Вось адсюль і пачынаецца помста. Няхай сабе здань заклікае да помсты крывёй. Гамлет — чалавек асвечаны, ён выхаванец Вітэнбергскага універсітэта, і для яго простае *забойства забойцы* важыць вельмі мала: забойца і яго вольная ці не вольная хаўрусніца павінны быць выкрыты і знішчаны пры жыцці. Аднак, адчуваючы сябе ў небяспечным становішчы, бо той, хто атруціў бацьку, не пасаромеецца накіраваць да праайцаў і сына, Гамлет не спяшаецца помсціць, а выдае сябе за вар'ята, які не становіць сур'ёзнай пагрозы для караля, і шукае найбольш пэўных шляхоў да ажыццяўлення задумы. Прыезд акцёрскай трупы дае нечаканае выйсце.

Калі Малчанаў гаворыць:

Ў камедыі пастаўлю пастку я
І заманю сумленне караля,

у гэтым адчуваецца спеласць задумы Гамлета, і ён паўстае цвярозым, дужым і непахісным мсціўцам.

Відовішча, наладжанае вандроўнымі акцёрамі, але падрыхтаванае Гамлетам, і з'яўляецца самым сапраўдным актам яго помсты. Іменна помсты, а не выкрыцця вінаватых і не пераканання ў тым, што яны сапраўды вінаваты. Ці ёсць сэнс караць ледзь жывых ад страху каралеву і караля, які становіцца на малітву, просячы даравання грахоў, калі абое яны ўжо

зпішчаны маральна, перад людзьмі? Яны страцілі спакой, здабытая злачынна ўлада не дае радасці, значыць, Гамлету можна выязджаць у Англію. Хоць падарожжа гэта і не абяцае дабра, але заставацца тут далей небяспечна. Версія аб вар'яцтве ўжо нікога не пераконвае, і кароль будзе шукаць сродкаў пазбавіцца ад ворага і прэтэндэнта на ўладу.

Малчанаў дае гледачу многа хвілін высокага перажывання і хвалявання. Ён дасканала падкрэслівае асноўны матыў трагедыі, тую «неадпаведнасць рэчаіснасці з яго (Гамлета) ідэалам жыцця», якую так трапна заўважыў і выказаў Бялінскі. Вось чаму мы і гаворым аб перамозе акцёра, што вельмі поўна зразумеў вялікага драматурга і данёс да нас вобраз Гамлета ў яго сапраўднай чыстаце.

Гамлет — асоба гнеўная, палымяная і рашучая, асабліва ў тых выпадках, якія не супярэчаць яго прыроджаным нахілам. Для перадачы ўсіх гэтых якасцей у Малчанава стае выразных і пераканаўчых сродкаў. Але над пералічанымі асаблівасцямі ў Гамлета пераважае розум, і як бы ні пакіравалася яго помста, ён ведае, што адзін чалавек — не воін, ён занадта слабы для таго, каб усталяваць справядлівасць. Вось чаму ў Малчанава словы

Век зрушыўся з падруб і горш ад усяго,
Што я прымушан утрымаць яго,—

гучаць трагедыяй не адной асобы, якая гіне ў барацьбе са старым, а цэлай плеяды людзей, якія зложылі галовы пад руінамі аджыўшага свету, на цяжкіх шляхах да новага жыцця.

Мы дазволілі сабе прывесці цытаванае вышэй месца ва ўласным перакладзе, бо з недакладным «век разваліўся, раззлаваны лёс замест падпоры ўзяў мяне прынёс» — пагадзіцца немагчыма.

Выдатным майстрам паказаў сябе Малчанаў і ў пераходзе ад аднаго настрою да другога: ад блазенскіх і кплівых размоў чалавека, які ўдае з сябе вар'ята, да гнеўнага і бязлітаснага выкрывання караля, Палонія, сваіх сяброў — добраахвотных шпіёнаў і, нарэшце, самога сябе. Усмешка Гамлета — Малчанава запамінаецца надоўга; у кожным асобным выпадку гэтая ўсмешка тоіць у сабе новую нечаканасць. Пад ёю

гараць гатовыя сарвацца злыя кпіны і сумная развага, і цвярозае слова, якое вядзе да рашучых ўчынкаў.

Сапраўдным натхненнем адзначаны шмат якія са сцэн спектакля і паміж іх асабліва — гора Гамлета над труною Афеліі. Ён зразумеў глыбіню свае страты, адчуў віну ў смерці дзяўчыны і выплеснуў бясконцы смутак.

Хацелася б заўважыць адно: на выкананні ролі Гамлета адчуваецца нейкі, можа і нязначны, налёт псеўдарамантычнай акцёрскай школы. Гэта выяўляецца ў некаторым злоўжыванні жэстам і ў яго пэўнай аднастайнасці пры выкананні розных па характару маналогаў. У многіх месцах хацелася б бачыць Гамлета больш сціплым і лаканічным. Аднак лічыць гэта сур'ёзнай заганай нельга, тым больш што мы маем справу з акцёрам, талент якога спалучаны з пачуццём меры і які не спыняецца ў сваім развіцці і дасканаленні.

Ролю Афеліі актрыса праводзіць сціпла. Толькі мала ўскрываецца падтэкст вар'яцтва, іменна тое, што ў добрым сэрцы Афеліі месцяцца супярэчлівыя пачуцці: любоў да бацькі і брата і каханне да Гамлета, насупар таму, што бацька яе — блазнуе, а любімы чалавек незаслужана смяецца з яе.

Ёсць сведчанні, што Шчэпкін палажыў пачатак таму асэнсаванню вобраза і той манеры выканання, у якой выдатна праводзіць ролю Аляксандр Ільінскі. Мы ўяўляем Палонія, як нейкі барометр двара, як чалавека з занадта гнуткаю спіною і ўменнем прыстасавацца да абставін. Ва ўсім гэтым Ільінскі бясспрэчна мае рацыю і сваёю таленавітаю ігрою ставіць Палонія ў шэраг тых персанажаў, якія жывуць з гледачом і пасля выхаду з залы. Але нам здаецца так: у далейшай працы над роллю акцёру не шкодзіла б падумаць аб тым, што Палоній — бацька, які любіць сваю дачку і цяжка перажывае абразлівае стаўленне Гамлета да яе, што ён больш блазен па неабходнасці, як па прыродзе, бо блазенства, як і вар'яцтва Гамлета — зручны ўбор для прыхоўвання розуму і ўласных думак.

Пры такім напаўненні ролі будзе больш падкрэслівацца і сам Гамлет, бо ён набывае сапраўдных ворагаў, моцных і хітрых, а не простых падхалімаў і ска-

марохаў. Пасля караля Палоній — асноўны вораг Гамлета не толькі як слуга, які вельмі лёгка пайшоў слугаваць новаму каралю, але і як узор людской няпэўнасці. Каралева і Палоній — вось падставы таго, што Гамлет зняверыўся ў людзях.

Кароль (Н. Звездачотаў) выглядае крыху спрошчаным. Па задуме аўтара, ён не хапае зор з неба, Гамлет кпіць з яго п'янства ў суправаджэнні гарматных салютаў, але ў той жа час кароль мае і хітрасць, і розум, якія ў спалучэнні з яго злачыннымі дзеямі робяць караля першым ворагам Гамлета. Нарэшце, кароль для Гамлета — гэта ўвасабленне ўсяе подласці, зла і няпраўды. Вось чаму адмоўныя якасці караля павінны паказвацца вельмі тонка, без непатрэбнага падкрэслівання. Гэта таксама чалавек у масцы, і маска гэтая — каралеўская годнасць. Чым больш умела носіцца гэта маска, тым агіднейшым робіцца яе носьбіт.

Трэба ўлічваць у сваю чаргу, што чым мацней будуць пададзены Палоній і кароль, тым дужэйшым будзе выглядаць Гамлет, тым яскравейшай стане яго перамога над імі. А гэта значыць, што і ўвесь спектакль выйграе ў сваім сучасным гучанні.

*1947*

## ЧУТНЫ СВЕТУ

Каля цяпельца грэецца халаднаватая жніввеньская ноч, гупаюць капытамі спутаныя коні, а начлежнікі у гàматных саматканых бурках, пазіраючы, як то прыгасаюць, то зноў пацягваюцца ўгару зыркія чырвоныя язычкі полымя, пяюць песню.

Пакураць, памаўчаць і пачынаюць спачатку. Усё тую ж самую: «Раве ды стогне».

Калі і як прыйшла яна на лугі Случчыны, песня пра шырокі Дняпро, і чаму так палюбілася людзям, што павырасталі на бязрэчнай лапінцы беларускай зямлі? Пэўна, вабіла шырынёю прастораў, якія разлягаліся ў мелодыі, можа заварожвала ўсплёскам неспакойнай хвалі на сінім моры, а хутчэй за ўсё прыцягвала тым, што і ў далёкім адчувалася сваё, добра знаёмае. Гай з начным кугіканнем сычоў, рыпенне ясеня пад ветрам, трэція пеўні з радасным абяцаннем недалёкага світанку.

Тады думалася, што і гэта адна з безымянных песень, ці то складзеных пры жніве або якой іншай вясковай рабоце, ці то прынесеных з цяжкіх паходаў салдатамі, перайначаных дома на свой лад і перададзеных з роду ў род невядомымі выканаўцамі.

У песнях прыгадваўся і Дняпро, і нават Дунай. Назвы гэтых, здавалася б, далёкіх ад нас, рэк вымаўляліся любоўна, мякчэлі ў зручным для случчака вымаўленні, абрасталі прывычнымі для вуха словамі і такім чынам рабіліся зусім сваімі, успрымаючыся пахатняму, быццам якая-небудзь Случ або Морач.

Веданне, што ў песні можа быць аўтар, прыйшло пазней, калі, застаўшыся вучыцца ў Мінскім педтэхнікуме, пачаў я глытаць кнігі не тамамі і поўнымі зборамі, а цэлымі шафамі, з прагавітасцю вясковага хлапчука, які нарэшце дарваўся да чытання і мае магчымасць спагнаць смагу за сябе, а можа, і не толькі за сябе.

Зашыўшыся на аблюбаванае ў чытальні месца, я кожны вечар бачыў за сталом насупраць невысокага хлапца з кучаравай галавою. Ён таксама ўпарта чы-

таў, але ўсё адну, акуратна загорнутую ў паперу, кнігу, якую прыносіў з сабою. Рабіў выпіскі ў тоўсты цыратовы сшытак, варушыў губамі, паўтараючы прачытанае, напаўголасу смяяўся, часам надоўга задумваўся, падпёршы рукамі галаву, і тады здавалася — яго выразныя вочы робяцца вільготнымі.

Мы не былі знаёмыя, але я ведаў — гэта студэнт другога курса, завуць яго Паўлюк; да прозвішча — Трус — з павагай дадавалася: «Паэт».

Неяк, перасядзеўшы ў бібліятэцы ўсіх, нават самых старанных да вучэння, мы спусkaліся з Трусам па сходах.

— Забіваеш галаву ліха ведае чым! — раптам пасміхнуўся ён і зноў загаварыў, крыху картавячы, вельмі прыемным баском: — Вось, брат, што чытаць трэба.

І тут жа, разгарнуўшы на першай старонцы сваю кнігу, пачаў, на маё здзіўленне, нашу, слуцкую, ці раз спеваную і чутую песню: «Раве ды стогне».

— Вазьмі на вечар,— сказаў Трус, падаючы мне кнігу.— Заўтра прынясеш на лекцыі.

Не кароткая была тая ноч, але праляцела яна неўзаметку. Нельга было вырвацца з грознага паветра каліiўшчыны, немагчыма было не ўкамянець перад суровым прароцтвам «Сну», не затужыць над нешчаслівым каханнем украінскіх юнакоў і дзяўчат, не ўсміхнуцца спеву нашай Лявоніхі, што амаль дакладна абазвалася ў «Гайдамаках»:

Ці ж я цябе не люблю, не люблю?
Ці ж я табе чаравічкаў не куплю? [1]

Ціхом мармыталіся і салёныя гайдамацкія прыпеўкі з шматкроп'ямі замест рызыкоўных радкоў, якія таксама на Случчыне спяваюцца, але, відаць, крыху мякчэй:

Заганяй квактуху ў бочку,
Кураняты ў вершу,
Не глядзі ты на дзяўчат,
А на ўдоўку першу.

Светлым смуткам і непераможным пачуццём ахінаў ласкавы зварот да любай дзяўчыны:

Спачні, мая зорка,
Ты ж з неба зляцела...

[1] Цытаты падаюцца ў перакладзе аўтара.

І тым больш уражала гэтая пяшчота, што ішла яна ад шмат перацярпеўшага кайданніка, гатовага на ўсё, каб толькі здабыць волю.

Каб мог кайданы перагрызці,
Патроху грыз бы. Але ж не,
Не тыя кавалі кавалі,
Не так жалеза гартавалі,
Каб перагрызці...

А ўся кніга з агромністай страсцю гаварыла, запэўняла, прысягала, што зняволенне фізічнае не можа закаваць у жалеза народны дух.

Раніцай я нёс пад пахай «Кабзара» з адчуваннем чалавека, які нечакана знайшоў скарб, што належаў яму даўно, але ўсё не даваўся ў рукі, а цяпер ужо не выслізне і не адбярэцца, застанецца вось так, прыціснуты да грудзей, на ўсё жыццё.

Заўсёды пры падножжы высокай гары чалавечага духу нас трывожыць невядомасць: ці хопіць сілы дасягнуць найвышэйшага пункта, ці здолее вока ўвабраць у сябе цудоўны свет, які адкрыецца з высачыні?

З такім адчуваннем спыняешся і каля «Кабзара». Але не паспееш перагарнуць старонку, як упэўнішся, што гара сама падняла цябе і паставіла на саменькай вяршыні. Гэта — светлая ўласцівасць добрых геніяў чалавецтва: не прыгнечваць звычайных смяротных сваёю веліччу, а ўзвышаць іх да сябе.

Аднак дзіўна было б пачуць, каб хто-небудзь, хоць калі, сказаў «Джордж» на Байрана ці «Вільям» на Шэкспіра. Гэта прагучала б непатрэбным дзівацтвам ці абразлівым амікашонствам.

А вось невядомая карэспандэнтка Паўла Тычыны так і выславілася, не ўспамінаючы прозвішча, не ўжываючы пашанотных эпітэтаў і азначэнняў:

Пра Вас нядаўна хтось пісаў:
«Паэзіі акраса».
А ўсё ж такі у Вас не так,
Не так, як у Тараса.

Мусіць, толькі да яго, аднаго паміж усіх вялікіх, роўных яму волатаў, і можна звярнуцца проста па імені — Тарас!

Гэта — выяўленне гранічнай блізасці народа да паэта і паэта да народа. Так прыгадваюць чалавека, які выгадаваў цябе, замяніўшы бацьку, настаўніка,

што знаёміў цябе з літарамі ў простай і складанай навуцы жыцця, брата, які хадзіў з табою па цяжкіх дарогах, паказваючы, як узгараецца ўдалечыні агеньчык чаканай і жаданай мэты.

Усе гэтыя якасці цалкам абагульняюцца ў кароткае імя — паэт. Не асоба, каранаваная аднадзённымі лаўрамі вядомасці і поспеху, а той, помнік каму спачатку будуецца ў чалавечых сэрцах і потым ужо, хай сабе многа пазней, выносіцца на гарадскія плошчы і ўзгоркі над рэкамі. Туды ніколі не зарастае «народная тропа», там ніколі не вянуць наношаныя многімі пакаленнямі многіх народаў сціплыя, але вечназялёныя галінкі роднага барвінку.

Каб у паэта ўсё было так, «як у Тараса», словы павінны

Людское сэрца прабіваць,
Людскія слёзы праліваць.

Толькі і ўсяго. Велічна мала і неабдымна многа. Так многа, што мы не можам, нават у малой ступені, прыраўняць сілу паэтавага слова да выбуховай магутнасці атамнага ядра, хоць і ўзбуджаецца яна нечуванымі тэмпературамі і недаступнымі ўяўленню электрычнымі токамі, хоць і здольна яна за адзін момант спапяліць мільёны жывых сэрцаў і выклікаць акіяны гаручых слёз.

Як ні дзіўна, але заўсёды была і будзе мацнейшай не сіла, закаваная ў звыштрывалыя абалонкі ракет, а тая, што вылятае песняй з кранутых добрай усмешкаю і пазначаных гаркотаю вуснаў пад апушчанымі сівымі вусамі народнага песняра, Кабзара.

Ці можна даць веры, што ўжо цэлае стагоддзе аддзялае нас ад радкоў, напісаных слабнучай рукою Шаўчэнкі, калі слова паэта ўсё шчыльней і шчыльней прырастае да душы! І нават усеўладным подыхам часу не выдзімаецца з гэтага слова горкая соль слязы зняслаўленай маладзіцы, і ўсё так жа чуваць у ім вольналюбівае сэрца чалавека.

Іначай і быць не можа!

Паэт не толькі каштаваў смак усіх слёз, а сам ператвараўся ў слязіну народнага гора, ён не толькі выслухваў усе людскія сэрцы, а сам балеў, трывожыўся, гневаўся, стаўшы праз дасведчанне пачуц-

ця неўціханым, руплівым, разумным сэрцам свае краіны.

Ды хіба толькі свае!

Шаўчэнка — гэта вусны, праз якія выгаворвалася і беларуская нядоля.

Бо йшла доля беларуса
З доляй украінца
Адналькова — ў поце, ў слёзах
Церневым гасцінцам.

(*Янка Купала*)

Тады яшчэ беларуская зямля хадзіла ўцяжку, збіраючы сілу нарадзіць два народныя галасы, якія прынялі Кабзарову спадчыну і турботу пазней, у гады першай рускай рэвалюцыі. Шаўчэнку даводзілася гаварыць ад імя ўсіх і за ўсіх паярэмленых братоў, што гібелі ў паніжэнні, прагнучы вырвацца на свабоду, на святло.

А гэта была сама тая пара, калі свіст шпіцрутэна зліваўся са звонам кайданаў, а цень шыбеніцы, замаячыўшы на кронверку Петрапаўлаўскай цытадэлі, ахінаў усё цараванне «не першага рускага каранаванага ката», якраз таго, што «прыспаў заморак-волю».

Каб увесці нас у той час, дзе давялося жыць і спяваць, прарываючы ўсю нясцерпнасць прыгнёту і глухой магільнай цішыні імперыі, Шаўчэнку спатрэбілася ўсяго адна саркастычная ўсмешка:

Ад малдаваніна да фіна
На ўсіх гаворках ўсё маўчыць,
Бо благадзенствуе...

Абазвацца было нельга, і тым неадольней узрастала патрэба гаварыць пра ўяўнае «благоденствие», за якім чулася катаржная праца прыгоннага, узрастала патрэба будзіць народ і «прыспаную» волю, заклікаць: «Раскуйцеся, братайцеся!»

Бо рукі, прызвычаеныя некалі да зброі, не развучыліся трымаць яе і не павінны марудзіць. Бо горш за ўсё тыя, што стаяць збоку, прыцярпеўшыся да здзеку і несправядлівасці, абыякавыя да лёсу народа і свайго ўласнага.

А мы глядзелі і маўчалі,
Ды моўчкі чухалі чубы —

Нямыя, подлыя рабы,
Атопкі царскія, лакеі
Капрала п'янага...

Тая ж гнеўная туга і тая ж гаркота точацца і з разваг Волгіна, героя, надзеленага рысамі аўтара ў «Пралогу» Чарнышэўскага: «Нацыя рабоў — знізу даверху, усе чыста рабы».

Глыбіню гэтага сцверджання, яго горкі сэнс прыкмеціла і вылучыла вострае ленінскае вока. «А панашаму,— пісаў Ленін,— гэта былі словы сапраўднай любві да радзімы, любві, якая тужыць праз адсутнасць рэвалюцыйнасці ў масах велікарускага насельніцтва... Ніхто не вінаваты ў тым, калі ён нарадзіўся рабом, але раб, што не толькі цураецца імкненняў да свае свабоды, а апраўдвае і прыхарошвае сваё рабства (напрыклад, называе ўдушванне Польшчы і Украіны і г. д. «абаронай айчыны» велікаросаў), такі раб ёсць халуй і хам, які выклікае законнае пачуццё абурэння, пагарды і агіды».

Яшчэ не раз і не двойчы сустрэнуцца думкай і словам лютыя ворагі «людскіх шашаляў» рэвалюцыйныя дэмакраты: украінскі паэт і рускі крытык. Пад просьбай аб вызваленні сваякоў паэта ад прыгону поруч з подпісам «памешчык Арлоўскай губерні Іван Тургенеў», стане подпіс — «рэдактар «Современника» Мікалай Чарнышэўскі».

Падкрэсліваючы ўзаемнае разуменне надзённых задач, Чарнышэўскі напіша: «Маларускаму селяніну не было б ні на волас лягчэй, калі б усе паны ў Маларосіі былі маларосы,— як сведчыў нам Шаўчэнка».

І далёка прагрымяць заклікі вялікіх аднадумцаў пачынаць паўстанне: «К тапару клічце Русь!» і «Вастрыце так як след сякеру!»

Шырокі розгалас здабудуць гэтыя крылатыя словы, нібы выдыхнутыя адным сэрцам. Хутка абзавуцца яны ў «Мужыцкай праўдзе»: «Мужык, пакуль здужае трымаці косу і сакеру, бараніць свайго патрапіць»,— упэўнена агалосіць Кастусь Каліноўскі, а пасля і другі Кастусь — малады Колас — гукне: «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Калі слова, здабываючы разам з народам свабоду, было крыламі, паліла агнём, біла куляю, пады-

мала знясіленых, вастрыла слых і зрок дужым, дык не знойдзецца сілы, мацнейшай за ягоную сілу. Таму, не страціўшы ні кроплі ў трываласці, не згубіўшы ніводнай іскрынкі ў агністасці, паэзія Шаўчэнкі пераступіла парог неўміручасці і прыйшла ў заваяваны і нанова адбудаваны намі свет.

Мы проста йшлі — у нас няма
Няпраўды зерня за душою.

Шаўчэнка гаварыў жорсткую праўду. Яна палохала ўбогія душы ахвотнікаў да «чыстай красы», прабітых дарог, прывычных уяўленняў. А Шаўчэнкава паэзія раскрывала перад вачыма карціны бязлітасныя.

Бацька забівае сваіх сыноў, баючыся, што яны могуць стаць здраднікамі. На плячах нясе ён маленькія цельцы ў стэп і капае для іх апошні схоў тым самым пасвянцоным нажом, якім прывёў у выкананне свой бацькоўскі прысуд. Нема крычыць душа, трагедыя перавышае межы чалавечага ўспрымання. Ці магло гэта змясціцца ў драматургічныя або хоць якія літаратурныя рамкі да Шаўчэнкі!

І галоўнае: надмерны груз перажывання, цяжар спрэчкі абавязку мсціўца з бацькавай любоўю прыняла на сябе не асоба з «вышэйшых колаў», якім, паводле прызвычаеных у літаратуры канонаў, былі даступны высокія пачуцці, а звычайны мужык, каго народная помста паставіла на чале паўстання.

Страшны касцёр залівае святлом страшны бацькаў занятак — над ім і над ямінай

...Умань палае,
Свеціць Гонту пры рабоце
І на дзетак свеціць.

Чалавек не хавае сыноў, перадаючы зямлі ў спрат сваё найдарожшае, а р о б і ц ь  р а б о т у. У гэтым самае трагічнае. Бо і ў хвіліны найбольшага гора чалавек не можа забыцца, што трэба даглядаць і ўрабляць зямлю, бо і ачышчэнне гэтай зямлі ад ворагаў для яго таксама р а б о т а, якая патрабуе, акрамя ваяцкага поту, яшчэ і крывавага мазаля і самое крыві.

Асэнсаванне барацьбы народа як р а б о т ы вы-

зваляе расказаную Шаўчэнкам гісторыю ад покрываў антычнай трагедыі і ператварае яе ў трагедыю новага часу і веку, ніяк не меншую па ўзвышанасці і драматызму.

Проста з памяці людское пераліў гэты твор у радкі паэт, прыгонны, сын і ўнук прыгоннага, на чыіх вачах і адбываліся падзеі. Ён паказаў нам не адну такую трагедыю.

Бадзяга-варнак пускаў «пад нож усё, што панам звалі», распінаў голую паненку на кані і выганяў яго ў стэп, а панскага дзіцёнка «пражыў, нібыта жабу, на ражне».

Пан з маладою жонкай пасля шлюбу вярнуўся з касцёла. За гэтую пàру

Нічога лепшага сам бог
Не бачыў на зямлі вялікай...
А мы сустрэлі іх, і ўсіх —
Княжат, панят і маладых —
Усіх парэзалі. Рудою
Вяселле ўмылася.

Не могучы стрываць цяжару жахлівых злачынстваў, хацеў і сам сябе зарэзаць стары катаржнік, ды вырашыў ісці ў свет, на суд, толькі не дзяржаўны, панскі, а «суда людскога ў людзей прасіць». Такі суд ён прызнае і спакойна чакае яго, бо можа расказаць, што ён выцерпеў, пазіраючы з сашчэпленымі зубамі на панічоў, якія «селавых дзяўчат, як бугаі, перабіралі».

Адзін з гэтых панічоў разбіў ягонае вяселле, разліў нарыхтаванае піва, зганьбіў абранніцу. Тады і варнак дапільнаваў часу, калі пан ішоў з-пад вянца, і разлічыўся. Хай цяпер карае яго суд людзей, суд сумленных, калі прызнае вінаватым.

Шаўчэнка не выносіць сам прысуду, аддаючы яго на волю народа, і яшчэ ў адной, не чутай да яго трагедыі.

Сымон Босы, Іван Голы і Іван Ярашэнка, трое слаўных запарожцаў, прыехалі ў сваты да красуні Кацярыны. За адну гадзіну, прабытую з ёю разам, адзін абяцае дзявочыне ўсё золата, колькі б яго ні ўдалося прыдбаць, другі — усю сваю сілу, а трэці кажа, што няма такой справы, якой не зрабіў бы ён для прыгажуні.

«Хто вызваліць майго брата з татарскага палону, за таго і пайду»,— адказала Кацярына.

Паехалі казакі. Утапіўся ў Дняпры Сымон Босы, пасадзілі на кол Івана Голага, а Іван Ярашэнка дастаўся да Бахчысарая і, рызыкуючы жыццём, прывёў да Кацярыны чаканага палонніка.

Заплакала, загаласіла дзяўчына. Прызналася, што ашукала яна казакоў, што не брат гэта, а яе любы.

Вызвалены казак, каму яго вызваліцелі — і жывы, і тыя, што загінулі,— сталі сапраўды братамі, адсякае каханай галаву і едзе «вецер даганяць».

Пачуццё павяло Кацярыну на падман, але не прызнала кранутага няпраўдай кахання суровая казацкая дружба, змацаваная пагібеллю двух пабрацімаў.

Часам даводзіцца чуць, як з усмешкай спяваецца Шаўчэнкаў верш пра дзяўчыну, якая, рвучы арэхі, цалавала для пацехі млынара, збіраючы апенькі, абдымалася з рымарам, ходзячы па дровы, кахалася з бондарам. Потым давялося адказаць маці, што не аднаго будзе мець зяця старая, а «ўсіх, усіх».

Так, усіх. Бо ўжо ніхто не адважыцца весці пад вянец знеслаўленую ў вачах даўнейшай вёскі. Але ж не салодкае жыццё кінула дзяўчыну на выпадковую ласку аднаго, другога, трэцяга. Можа і яна бачыла столькі ж прасветласці, як тая сіротка, што перад сяброўкамі, якія выхваляліся сваімі абновамі, істужкамі і вышыванымі кашулькамі, магла адно сказаць: «А я ў папа абедала».

Занадта цяжкі лёс у беднай збіральніцы грыбоў і арэхаў, каб мы маглі цяпер спяваць аб ім усміхаючыся.

У тым і змяшчаецца веліч Шаўчэнкі, што ён адкрыў свету, як б'ецца высакароднае сэрца пад зрэбнай кашуляй, як у звычайнай мужычай душы выспявае высокая трагедыя. Гэта ён адкрыў, але пачуў падзяку не адразу і далёка не ад усіх. Царызм аддзякаваў яму здачай у салдаты, забаронай пісаць і маляваць. А колькі было выкпівання, фарысейскага паляпвання па плячы: маўляў, мужыка на мужычае цягне! Іменна пра іх, фарысеяў з ліслівым вокам і куслівай душою, сказаў паэт:

Не так тыя ворагі,
Як добрыя людзі,
Абакрадуць, шкадуючы,
Плачучы, засудзяць.

Нечувана новая, зусім адменная ад усяго вядомага з'ява, як Шаўчэнка, палохала тагачаснае літаратурнае асяроддзе, у адных выклікаючы варожасць, а ў другіх — разгубленасць ці неўразуменне.

Нават вялікі пісьменнік, забыўшыся на рэзкія фарбы і вострыя пахі свайго «Сарочынскага кірмашу», кінуў іранічнае слоўца, што ад твораў Шаўчэнкі занадта «дзёгцем патыхала».

Што ж рабіць!

Напэўна, нехта з продкаў паэта, па-майстэрску валодаючы шылам і дратваю, шыў запарожскім казакам зухаўскія чобаты з вырабленага на дзёгці тавару. Яшчэ паэтаў дзед Іван насіў прозвішча Швец, якое проста пальцам паказвала на колішняе ўмельства прадзеда. Сын Рыгор ужо стаў Шаўчэнкам, гэта значыць атожылкам працавітага роду шаўцоў, а ўнук Тарас употай занатоўвае вершы ў маленькую кніжачку, захаляўную, бо даводзілася перахоўваць яе ад «пільнага вока» за халявай грубага салдацкага бота.

Каб і хацеў, як жа тут усцеражэшся ад дзёгцю!

З вяршыні новага стагоддзя можна з паблажлівай усмешкай ацаніць упічкі Гогаля і дакоры яго вялікага крытыка, які не прыняў «Гайдамакаў» і ў прыватным лісце асудзіў шаўчэнкаўскі «Сон», нават не чытаўшы. Аднак не забываецца, як той жа Бялінскі пісаў, што яму прыемна бачыць імя Шаўчэнкі «на кніжцы, якая ў поўнай меры заслугоўвае ўхвалу крытыкі».

Нам дадзена зразумець гэта. «Мая натура вечна ў крайнасцях»,— пасведчыў сам Бялінскі. Мы адчуваем заўсёдны палемічны запал яго агністай душы, на якой не маглі не адбіцца і розныя няпэўныя чуткі, што шырыліся дробнымі чалавечкамі вакол імені Шаўчэнкі. Нарэшце, мы помнім другі ліст, які называюць палітычным запаветам Бялінскага, дзе гаворка ідзе аб ролі пісьменнікаў, «адзіных правадыроў, абаронцаў, уратавальнікаў ад рускага самаўладства»,

аб прадмеце, вышэйшым за тую ці іншую асобу,— «аб існіне, аб рускім грамадстве, аб Расіі».

А чыё ж, як не Шаўчэнкава, слова выкрывала ў «Сне» самаўладства, а хто, як не ён, паставіў гэтым творам сябе ў строй ратавальнікаў усяе прыгнечанай краіны ад цемрашальства і абсалютызму, што

...нясытым вокам
За край свету заіраe,
Ці няма краіны,
Каб загрэбці і з сабою
Ўзяць у дамавіну.

Так няўхільна адганяецца часам туманок выпадковага непаразумення ад мужных абліччаў народных асілкаў і ва ўсёй непаўторнасці паўстае іх духоўная еднасць, сяброў па зброі, братоў па духу.

«Дзённік» Шаўчэнкі, а вёў яго паэт, дарэчы сказаць, па-руску, як нельга лепш перадае благагавейную пашану пісьменніка да Гогаля і Шчадрына, да культуры і мовы вялікага братняга народа.

Шкадуючы, што дрэнна валодае рускім вершам, Шаўчэнка зазначаў: «Юродзівага» трэба абавязкова напісаць па-руску».

Асабістыя і духоўныя сувязі паэта з рускімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі абумовілі і яго блізасць да рэвалюцыйных колаў іншых нацыянальнасцей.

Мы не ведаем зместу сяброўскіх гутарак высланага Шаўчэнкі з непасрэдным практыкам польскага паўстання Зыгмунтам Серакоўскім. Зусім верагодна, што ён пазнаёміў паэта і са сваім паплечнікам, Кастусём Каліноўскім. Цікава было б дазнацца пра гэта дый пра тое, ці не трапілі да паэта вершы Чачота, якому, праўда, крыху раней, давялося пабыць ў тых жа «не вельмі аддаленых месцах», дзе апынуліся Шаўчэнка з Серакоўскім. Вядома, што «Наследаванне Эдуарду Саве» пераклікаецца з народнай песняй чачотаўскага зборніка. Нельга сказаць, каб гэты крыху ідылічны малюнак сямейнага шчасця выбіваўся з паэтычнага строю Шаўчэнкі, ён хутчэй перадае жаданне паэта бачыць людзей шчаслівымі.

Ці жаць, ці не жаць,
А пасеяць трэба,—

гаварыў Шаўчэнка вуснамі сляпога, якому,

Як лату на лату,
На сэрца журботу нашылі гады.

На розную глебу, не мінаючы ніводнага выпадку, сеяў паэт веру ў неабходнасць народнай помсты, не ведаў ён зморы, ні на хвіліну не сумняваўся ў лёсе свайго засеву, а меў пэўнасць, што пасеянае вырасце нажамі, «вострымі з бакоў абодвух». Хоць хто, а збярэ ўсё ж такі гэты ўраджай!

Чалавечае цярпенне вычарпалася да астатку, і не было ўжо змогі глядзець на пакуты і руйнаванне:

Вось так, бацька! Я шчаслівы,
Што вачэй не маю,
Што нічога больш на свеце
Не бачу, не знаю.

Жудасная мера для чалавечага шчасця! Яе мог знайсці толькі той, каго «хоць і білі, але добра, шмат чаму навучылі».

Услухаймася ў гэтыя словы. «Гэй вы, відушчыя,— чуецца набраклы стрыманым гневам голас,— дакуль вы будзеце трываць! Няўжо і вы хочаце раздзяліць «шчасце» страціўшых зрок і долю «добра» бітых?»

Доля — рэч няпэўная, яна можа паказацца і ўцячы, падражніваючыся, толькі злая доля моцна ўмайстроўваецца на мужыцкім карку.

Той блукае за марамі,
Свет пераплывае,
Ходзіць следам за доляю,
А долі не мае.
Як памерла! Іншы рвецца
На ўсю сваю сілу
За доляю... Вось-вось дагнаў,
І — гоп у магілу!
А ў трэцяга, як у старца,
Ні хаты, ні поля,
Адна торба, а з той торбы
Выглядае доля,
Як дзіцятка, а ён яе
Лае, праклінае,
У карчомцы закладае —
Не, не пакідае!

«Чалавеку трэба свая доля,— зноў з-за радка падказвае нам паэт.— Нашто шукаць яе за светам, калі можна здабыць дома, перайначыць злую на добрую».

Так чытаецца ўвесь Шаўчэнка.

Што б, здавалася, прасцей: хлопец развітваецца з дзяўчынай. Звычайная тэма не аднаго мільёна вершаў, напісаных на бяросце і на пергаменце, гусінымі пёрамі і аўтаматычнымі ручкамі. А ў Шаўчэнкі за постаццю дзяўчыны ўзвышаецца вобраз бясконца дарагой, скрыўджанай краіны. Паэтаў смутак па другу ўспрымаецца як прага ўбачыць народнага мсціўца, ці «апостала праўды і навукі».

Было б памылкаю меркаваць, што такое прыхаванае выказванне думак было спосабам абмінуць цэнзурныя забароны, хоць і пра гэта мусіў дбаць паэт.

Багатыя таленты заўсёды перапоўнены ўнутраным зместам, дасведчаннем свае асобы, перапрацаваўшай дзесьці ў патайнай глыбіні практыку навакольнага свету, і, падобна вулканам, кожную хвіліну гатовы выбухнуць гарачаю лаваю карцін і вобразаў. Але такой шчодрасці спадарожнічае ўмельства абмежаваць сябе. Таму ў творах выключных, якія пішуцца раз на стагоддзе, за радком можна прачытаць куды больш, чым у самім радку. Гэта датычыцца і тых твораў, дзе Шаўчэнка, не азіраючыся на цэнзуру, гаварыў на ўвесь голас пра зямных уладароў.

З забойчай іроніяй звяртаецца паэт на «вы» да старэнькай сястры Апалона, музы, запрашаючы яе на дапамогу «прыдыбаць» і, узвысіўшы свой «бажэсцвенны» голас «да оды пышна-урачыстай», пачаць з ім удваіх «цароў, не жарты, услаўляць»:

Па праўдзе кажучы, самому
Дакучылі мне мужыкі,
Дзяўчаты бедныя, панкі,
Хацелася б сагнаць аскому
На каранаваных главах,
На ўсіх памазаніках божых.
Не хопіць сіл? Пасобіш, можа,
З тых птахаў пер'е аскубаць
І кішкі выпускаць паможаш?

І блізка не магла падступіцца да такой справы старая муза, згрыбелая ахоўніца не прызнаваўшай Шаўчэнкі рэптыльнай паэзіі, на прадстаўнікоў якой і была скіравана пагарда паэта.

На гэта была здольна другая муза, акрываўленая, абшарпаная і галодная ўкраінская прыгонніца,

родная сястра някрасаўскай спісягаванай бізуном маладой сялянкі.

Шаўчэнкава муза сарвала пышныя баграніцы з распуснага і плюгавага цара Давіда, «бога ў сваёй зямлі», і такога ж «нясытага блуду» князя Уладзіміра, які паланіў гордую полацкую князёўну, «растлі ю і прожене».

Выкрываўчая ўласцівасць паэтавай музы прымусіла яго прыняць іменна гэтую летапісную версію (Нестараву), не зважаючы на сведчанні гісторыі, што Рагнеда стала законнай князевай жонкай, хоць і адмаўлялася спачатку «разуці рабыніча».

Неўзабаве паэт скалануў іншы, яшчэ больш высокі трон, пасад уладара нябеснага, чыё ўсепраніклівае вока глядзела, як «братамі аруць разлогі», мучаць, распінаюць, гоняць у кайданах «святых нявольнікаў» дзекабрыстаў, глядзела і не аслепла.

Не дзіўна, што прыслужнікі абодвух тронаў, апрача ярма салдатчыны, прыдумалі паэту яшчэ цяжэйшую кару, забараніўшы яму пісаць і маляваць. Аднак не здолеў «жахлівы вопыт,— як пісаў Шаўчэнка ў «Дзённіку»,— закрануць сваімі жалезнымі кіпцюрамі мае перакананні. Паніжэнне і ганьбаванне... найдрабнейшага следу не пакінулі пасля сябе».

Заспяваю — мора грае,
Вецер павявае,
Стэп чарнее, і магіла
З ветрам размаўляе.

Усё гэта было пад сілу яму, вялікаму чараўніку слова; нават даўно аняметыя курганы пачыналі гаворку з жывымі, бо, абуджаючы мінулае, думаў ён аб сучасным і яшчэ болей аб тым, што прыйдзе. І хоць паэт называў некаторыя свае творы «наследаваннямі», не было выпадку, каб голас яго не перакрываў біблейскіх прарокаў, не вырастаў да самастойнага, шаўчэнкаўскага гучання.

Можа толькі прыдзірлівы слых зловіць у радках

Пра ўдавіцу-маладзіцу,
Як яна тужыла,

далёкую інтанацыю пушкінскага «Спой мне песню, как девица...»

Хараство мовы Шаўчэнкі неадольна-прывабнае, музычная плынь яго верша з плюскатання малой ручаіны лёгка ператвараецца ў сімфонію то ўрачыстага размаху, то журботнага рыдання.

Шмат выдатных майстроў слова нямала палажылі сілы на выкананне абавязку свайго сэрца — на пераклад Шаўчэнкі, каб зрабіць яго творы здабыткам сваіх народаў.

Аб дакладнасці і паэтычнасці перакладаў Шаўчэнкі турбуецца Максім Горкі, які яшчэ на маладых сваіх дарогах у рэвалюцыю так часта паўтараў: «І ноч ідзе і дзень ідзе».

Англійская дзяўчына Ліліян Буль, у будучым аўтар «Авадня» — Войніч, вывучае ўкраінскую мову, каб перакласці пачуты ад Сцепняка-Краўчынскага «Запавет».

Гадамі працуюць над «Кабзаром» Якуб Колас і Янка Купала, які задоўга да напісання «Тарасовай долі» задумваўся: «Чаму плача наша песня?» І адказаў: «Невясёлая цяперщчына не магла настроіць у вясёлы тон песню паэта», тым самым прымаючы і палітычную і эстэтычную праграму Шаўчэнкі:

Калі б вы знаді, панічы,
Дзе людзі плачуць жывучы,
Дык вы б элегій не стваралі,
Дарэмна бога б не ўслаўлялі.
За што, не знаю, называюць
Хаціну ў гаі ціхім раем?
Не мае й бог напасці злой,
Каб не вялася ў хаце той,
А хату раем называюць!

Глядзець на свет як на земны рай можна толькі надзеўшы лакейскую ліўрэю, а гэта «цёплы кажух, ды не на мяне шыты». Не тыя плечы і не той размах былі ў паэта, напоўненага неспакойным унутраным агнём. «Я, як майстар,— сведчыў ён у адным з лістоў,— вывучаны не горам, а нечым страшнейшым, расказваю людзям сябе...» І расказаў сябе, ператвараючыся ў казака, сляпога, катаржніка і ў многіх простых людзей, даў нам цудоўную магчымасць «адчуваць на дотык хараство чалавечай душы» (Станіслаўскі).

На шматлікіх мовах чытаецца «Кабзар» — летапіс паэтычных вандраванняў у сэрца чалавека, кніга

найглыбейшай, найадданейшай любві і спапяляючай нянавісці, новы маніфест паэзіі, навука паўстання і мужнасці, скрыжалі прароцтва.

Мы жывём ужо ў тым дні, які бачыўся паэту з яго «незамкнёнай турмы»:

І праўда на зямлю зляціць...
Святло сляпым праніжа вочы,
Нібы алень, кульгавы ўскочыць,
Нямыя вусны загавораць,
Праравецца слова на прасторы,
І ў непалітыя пустыні
Струмень вады гаючай хлыне,
Яны прачнуцца, паплывуць
Імкліва рэкі, а азёры
Наўкол гаямі парастуць,
Вясёлым птаствам ажывуць.

І здаецца, сам ён, ганаровы грамадзянін выспенага ім свету, просты чалавек з высокім чалом мудраца, пазірае з насыпанага нашай любоўю надрэчнага кургана і на любы Дняпро, і на зялёныя лугі, і на сыноў сваіх, што завіхаюцца на рабоце «ў сям'і вольнай, новай», глядзіць і не можа наглядзецца, і гукае на ўвесь стэп: «Добра, хлопцы, добра!»

*1961*

## ПРАЎДА, ПОДЗВІГ, ПАЭЗІЯ

Першая і галоўная, а калі дакладней сказаць, неад'емная адзнака сапраўднага таленту — шчодрасць.

Такі талент не зважае, што па небе, з усходу на захад, тысячы год ходзіць сонца. Ні хвіліны не вагаючыся, ён абдарвае людзей яшчэ адным сонцам, сваім, ім створаным, ці наноў знойдзеным, ці па-свойму прыкмечаным.

Такі талент не глядзіць, што спакон веку ў прыродзе існуюць мільёны светаў, якія могуць змяшчацца на велізарных кантынентах і ў дзіцячым, велічынёй з дзіцячы кулачок, сэрцы. Ён, гэты шчодры талент, ні на момант не падпускаючы да сябе сумненняў у мэтазгоднасці таго, што робіць, даруе нам яшчэ адзін, а то і многа светаў, выснаваных з свайго ўяўлення і заселеных паводле свайго меркавання.

Ахоплены неспакойнаю прагаю тварыць, талент шчодра прапануе нам адкрытае яму і невядомае нам.

Якуб Колас!

Вымавім гэтае імя самі да сябе, на хвіліну ўслухаемся ў яго і прыгледзімся, што яно пакажа кожнаму з нас паасобку.

Можа быць, адным уявіцца чысты свет маленства, які сімвалізуецца іменем малога Костуся, і свет горкае долі, не да канца выспеўшага пратэсту, звязаны з іменем лесніка Міхала. Сутыкнуўшыся, абодва светы стануць для нас адным — з такою павабнай, добра знаёмай, і здаецца аж цёплай ад гэтага назвай — Новая зямля.

Другія, напэўна, успамянуць і ўбачаць «На ростанях»: свет забітых і адначасна гордых, цёмных і ў той жа час мудрых людзей, з якога выйшаў і ў якім жыве думкай і справай Андрэй Лабановіч.

Трэція апынуцца «На прасторах жыцця» ці ў глухіх пушчах «Дрыгвы» або ў «Рыбаковай хаце», у свеце слаўных Сцёпак і Алёнак, партызанаў Талашоў. І якой бы рознабаковай ні выглядала творчасць Якуба Коласа — не забудзем, што ён паэт, празаік, дра-

матург, крытык, публіцыст — усе светы, што створаны і апісаны ім, аб'ядноўваюцца ў адзін: народ і яго жыццё.

Не будзем гнацца за дзёрзкім намерам ацаніць неацэннае, гэта значыць поўнасцю ўявіць ролю і значэнне такой з'явы, як творчасць Якуба Коласа. Кожную ацэнку творчасці Коласа няўхільна паправіць і зменіць час, бо Колас — з'ява, якая знаходзіцца ў руху, належачы больш будучаму, чым нам, сучаснікам. І наступнікі, людзі вастрэйшага вока і чутчэйшай душы, вычытаюць з Коласа куды больш, як мы сягоння, бо і мы ведаем яго глыбей, чым папярэднікі!

Вось чаму абмяжуемся скромнай спробай накідаць творчы партрэт пісьменніка, які ўвесь час ідзе з намі наперад, дапамагаючы здзяйсненню найвялікшай мары, што перш стала мэтай, а зараз ёсць справа савецкіх людзей. Колас працуе для будучага цяпер, напярэдадні расстання з бацькаўшчынай у тым разуменні, як ён некалі пачынаў сцвярджаць свой край, і значыць перад уступленнем у свет, якому суджана стаць радзімай, адзінай для ўсіх насельнікаў зямлі.

Да Якуба Коласа, так як і да яго вялікага друга і саратніка Янкі Купалы, можна дапасаваць словы, сказаныя А. М. Горкім пра Пушкіна: «Ён у нас — пачатак усіх пачаткаў».

Гэта вялікая праўда.

Ад Коласа, а ў роўнай меры і ад Купалы, пачынаецца мова, якая амаль цалкам увайшла ў склад сённяшняй, той, што карыстаемся мы.

Ад Коласа пачынаецца літаратура, упершыню ад вытак сваіх звязаная з перадавой культурай рускага народа, літаратура, унутраныя ўласцівасці якой дазваляюць лічыць яе наскрозь сучаснай і ў той жа час класічнай.

Ад Коласа пачынаецца ўсведамленне, што сацыяльныя змены і перавароты не валяцца з неба, а здабываюцца ў жорсткай барацьбе з эксплуататарам і прыгнятальнікам. Паэт дае формулу гэтай барацьбы: «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры».

Далей, ад Коласа пачынаецца паступовае ўсведамленне сябе як прадстаўніка нацыі, «магутнага народу», паводле слова Купалы. Коласам даецца форму-

ла патрыятызму, любві да радзімы, выражаная ў трох словах: «Мой родны кут».

І трэцюю формулу даў Якуб Колас — паэтычную формулу — неразрыўнай еднасці народа і партыі:

Яна — гэта голас народу,
Яна — яго воля.

І невыпадкова ў часы грамадзянскай вайны на Куршчыне вясковыя камуністы выбралі Якуба Коласа, свайго беспартыйнага настаўніка, сакратаром партыйнай ячэйкі. Мы ўспамінаем аб гэтым з усмешкай, а сам факт сведчыць, што камуністамі людзі станавяцца задоўга да атрымання партыйнага білета.

Глыбокі сэнс закладзен у імені паэта: расці на роднай зямлі, ствараючы духоўны хлеб для народа, жыць зернем у шматлікіх пакаленнях маладых каласоў.

Палавіну стагоддзя правёў Якуб Колас у нястомнай працы, пакінуўшы нам незраўнаную спадчыну. Гэта і ёсць той духоўны хлеб, які дастойна служыў беларускаму народу, калі ён змагаўся за свабоду, будаваў сваю савецкую дзяржаву, ўставаў на абарону заваёў Кастрычніка, у працы і барацьбе ўмацоўваў дружбу з народамі-братамі.

Як жа і калі адзін чалавек узяў на сябе смеласць падымаць голас за мільёны, гаварыць вуснамі мільёнаў, адчуваць сэрцам мільёнаў?

Усведамленнем неадлучнасці ад народа поўнілася істота Коласа ад пачатку шляхоў у жыццё і ў паэзію. Адгэтуль і вырас заклік «Песняру», у першую чаргу адрасаваны самому сабе:

Заспявай жа мне песню такую,
Каб маланкай жахала яна
І паліла нядолю людскую,
Каб грымела, як гнеў перуна.

Каб здзейсніць мару аб свабодзе, патрэбны сапраўды моцныя і дужыя людзі, упэўненыя ў сваёй сіле і прызначэнні. Гэтыя рысы і вылучае ў тагачасным чалавеку паэзія Коласа:

Хоць мяне нядоля гнала,
Ўсё ж мне сілы не зламала.
Ці ж я ростам не высокі,
Ці ж у грудзях не шырокі?

Валасы да плеч густыя,
Мае рукі, як стальныя.
Спрытна рэжу дол сахою,
Здатны ў лузе за касою!..
Толькі дол чужы капаю,
Толькі долі я не маю.

Колас ведаў, што здабыць свабоду здольны такія людзі, якія маглі б сказаць пра сябе:

Толькі ўскіну я вачыма,
Мой і погляд зробіць след,

і здольны ператварыць слова ў актыўную дзею, бо, як вядома, ярмо

Не спадзе яно ніколі,
Не спадзе яно само.

Не складае цяжкасці ўбачыць, як паступова расце і дужэе вобраз чалавека ў творчасці Якуба Коласа. Ад Міхала і Антося з «Новай зямлі», спыненых на паўдарозе да свае ілюзорнае мэты, да Аксёна Каля з «На ростанях», які пачаў усё ж такі першы сялянскі бунт, да Марціна і Талаша, распраставўшых плечы ў барацьбе за савецкія ідэалы жыцця, да Данілы ў «Рыбаковай хаце», думкі і справы якога скіраваны на прылучэнне да савецкае радзімы.

Але мы не збіраемся дзяліць Коласавых герояў на лепшых і горшых. Тое, што Міхал і Антось бачылі ў зямлі сродак свайго ратунку вузка па-сялянску, не парушае нашага спачування да іх трагічнага лёсу і не змяншае нашага захаплення творам, які прынята называць энцыклапедычным. Аднак заўважым, што энцыклапедычнасць «Новай зямлі» не ва ўсебаковасці ахопу жыццёвых з'яў ці ў колькасці вобразаў. Гэта рэчы ўяўныя, хоць за іх даволі моцна трымаюцца некаторыя даследчыкі. Энцыклапедычнасць твора змяшчаецца ў адборы тыповага і, перад усім, у яркасці тыпізацыі, у дасканаласці выканання, якая перавышае магчымае для тагачаснай мовы і літаратуры і робіць твор як бы фактам рэальнага жыцця, а яго герояў нашымі добрымі знаёмымі і сваякамі. Прасцей кажучы, «Новая зямля» напісана так шчодра, што, здаецца, там гаворыцца аб усім чыста з вычарпальнай паўнатой.

«Новая зямля» — твор вялікага выхаду ў свет, гэта паэма чалавечых дарог, тых, што зараслі «не чаратом, не лебядою, а беларускаю бядою», і па якіх ішлі Міхал з Антосем, не маючы ўнутраное сілы ступіць на іншыя, што будуць адкрыты іхнім дзецям.

Прасторны шлях! Калі ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсе дарогі?

Так прарача заканчваецца паэма. І цяпер, стоячы на гэтым прасторным шляху ў распачаты будоўляю свет камунізма, нельга не ўспомніць твор, у якім «нацыянальныя вобразы паэзіі Якуба Коласа выходзяць у свет шырокага інтэрнацыяналізму» (К. Чорны).

У гэты ж вялікі свет выходзіць і паэма «Сымон-музыка», дзе, здавалася б, нацыянальны пачатак б'ецца куды больш глыбока і востра.

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутарку вядуць,
Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, азёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор.

З цяжкай горыччу кажа паэт, што прыгнятальнікі розных масцей зрабілі ўсё,

Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

Паэт не можа пагадзіцца з гэтым і гаворыць ад мільёнаў дужых людзей:

Дык хіба мы праў не маем,
Сілы шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць?

Як сучасна гучаць гэтыя, напісаныя паўстагоддзя назад, гнеўныя словы ў пару абвостранай нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў свету за права называць родныя краіны — сваімі!

Вось Сымонка слухае з дзедам, як у парку гухае тапор. Толькі яму чутны гэтыя гукі, бо хто ж у сапраўднасці можа асмеліцца высякаць князевы дрэвы? А старажытная прылада мужыцкае помсты глуха стукае па камлях, прарочачы няўхільны крах несправядліваму панаванню чалавека над чалавекам.

У герояў і ў чытача расце перакананне: вораг народа ёсць вораг мастацтва, вораг свабоднае песні, з якою ідзе да людзей Сымон, гэты вораг не можа існаваць. Бо не адзін жа Сымонка і не ў адной Беларусі туляўся галодны, закінуты, непрызнаны. Па ўсёй зямлі вялося так. Вось якраз праз гэта паэма, будучы глыбока самабытнай, выходзіць за нацыянальныя рамкі. У ёй, як добра сказаў сам паэт, «дух сусвету з духам лучыцца зямлі».

Так неўзаметку раскрываецца асноўная якасць творчасці паэта — яе народнасць. Нарадзіўшыся ад народа беларускага, гэта творчасць па духу, мэтах, шляхах блізкая і дарагая ўсім народам савецкай радзімы і ўсім працоўным зямлі.

Як дасягаецца народнасць?

Бялінскі казаў, што не ведае лепшага азначэння народнасці, чым дадзенае Гогалем:

«Нацыянальнасць змяшчаецца не ў апісанні сарафана, а ў самым духу народа», калі паэт «...адчувае і гаворыць так, што суайчыннікам яго здаецца, быццам адчуваюць і гавораць яны самі».

Колас — наш сучаснік і ў лепшым сэнсе гэтага слова сучаснік эпохі. Таму яго народнасць мае яшчэ адну ўласцівасць — яна партыйная, у тым высокім разуменні, як партыйны наш савецкі народ — будаўнік камунізма.

Колас заўсёды клікаў нас быць «пад чырвоным штандарам эпохі», бо сам быў пад гэтым штандарам і нёс гэты штандар.

Вось чаму так сардэчна і важка выношвалася ў паэтавай душы, выходжвалася ў цеплыні пачуцця кожнае слова, якое прысвячаў ён роднаму краю, рэспублiцы рабочых і сялян, новай савецкай Радзіме.

Выглядаеш ты яснай вясной,
Наша маці, краіна Саветаў!
А зірнеш на цябе, і з табой
Маладзее ўся наша планета.
Перад намі бязмежны прастор,

З намі моладасць сілы юначай,
Дык да сонца, краіна, да зор
З нашай верай цвёрдай, гарачай!

І калі над радзімай звісла пагроза фашысцкага паняволення, ён дае салдату бацькоўскі загад:

Глядзі, не прамахніся!

Паэт звяртаецца да ўсіх проста і сурова:

Запытай ты сябе, чалавеча,
Што зрабіў для айчыны, ці многа?
І які ўзяў цяжар ты на плечы,
Каб наблізіць наш час перамогі?

Для таго каб наблізіць гэты час, Якуб Колас рабіў усё: пісаў вершы, паэмы, лістоўкі, звароты да народа і партызанаў, выступаў на мітынгах, па радыё, паслаў на вайну і свайго сына.

А сустрэўшы перамогу, з новай сілай стаяў за абарону міру ва ўсім свеце, думаў аб народным дабры, дбаў пра ўраджай на савецкім полі.

Такім мы яго і ўяўляем, заўсёды заклапочаным, заўсёды неспакойным, старэйшым і ў той жа час самым маладым, прысутным сярод нас. І можам паўтарыць за Коласам:

Ідзём мы вернаю дарогай,
Ірдзяцца зоры нашых дзён,
Бо нам прастору, волі многа
І ўсё шырэе даль-разлога
І ўсё дужэе наш разгон.

Прыхільнікі творчасці Якуба Коласа, сваякі і асабістыя сябры народнага паэта, чытачы з братніх рэспублік і з братніх зарубежных краін, усе, каму імя народнага паэта Беларусі такое ж блізкае і роднае, як імёны народных паэтаў сваіх земляў, пацвярджаюць яшчэ раз народную любоў і пашану да беларускага чалавека, які разам з Купалам з'яўляецца найярчэйшым выяўленнем нацыянальнага генія, да вялікага паэта нашага народа.

«Я — сляза твае душы»,— некалі пісаў Якуб Колас пра цяжкую пару жыцця народа.

Зараз мы можам сказаць:

— Дзядзька Якуб! Ты ўсмешка нашай душы! Ты наша вялікая, поўная і чыстая радасць на доўгія, незлічона доўгія гады!

*1962*

## ШЛЯХАМ ЖЫЦЦЯ

...Яна і дасюль перахоўваецца ў мяне, гэтая кніга...

Маленькі Слуцак гарэў і трэсся ад артылерыйскага абстрэлу. Уцякалі легіёны, як называлі тады акупацыйнае польскае войска. У дом на Шырокай вуліцы, дзе я, вучань першага класа, кватараваў разам са сваімі аднавяскоўцамі, гухнуў снарад. Аглушаныя выбухам, асляпшыя ад пылу і друзу, што сыпаўся з абваленай столі, мы кінуліся шукаць ратунку ў больш надзейным месцы. Насупраць была камяніца, стары будынак мужчынскай гімназіі, якую часовыя ўлады (ненадоўга, праўда) паспелі ператварыць у польскую школу. Паказвацца туды ў іншы час было небяспечна: зухаватыя хлопчыкі ў канфедэратках і кашулях з блішчастымі гузікамі заўсёды чапляліся да даматканых сялянскіх світачак. Штодня выніклі вострыя сутычкі. Яны канчаліся для абодвух бакоў нелапы́мі гузакамі. Цяпер на гэта зважаць не даводзілася. Дварамі, цераз сад пастара (на той жа вуліцы стаяў і кальвінскі касцёл, пра які мясцовыя каталікі зняважліва кідалі: Starsza Fara, niż kalwińska wiara [1]) мы прыбеглі ў гімназію.

Пад раніцу страляніна аціхла. На вуліцах з'явіліся першыя конныя раз'езды Чырвонай Арміі. Дарослыя падаліся дамоў, а мы пачалі шныпарыць па класах і калідорах, адчуўшы сябе гаспадарамі будынка, які дасюль заставаўся для нас недаступным.

На самым выхадзе, каля бар'ерчыка вешалкі, ляжаў перавязаны шпагатам дужаваты пачак кніг з лаканічным надпісам: «Do pieca» [2].

Утрымацца ад спакусы было цяжка. Кнігі! Дый яшчэ безгаспадарныя, выкінутыя на знішчэнне. Не так і многа трапляла іх у нашы рукі тою парою, каб можна было застацца безудзельным да такога горкага лёсу. Асуджаныя кнігі хутка перайшлі ў нашы за-

[1] Будынак фары (прыхадскога каталіцкага касцёла) старэйшы за кальвінскую веру.
[2] У печ.

пазухі. Дасталося і мне крыху, у тым ліку адна, з якой я ўжо не разлучаўся.

За сорак год пад час пераездаў з месца на месца страцілася толькі чырванаватая вокладка з малюнкам асенняга беларускага гасцінца, што як бы растлумачваў назву: «Шляхам жыцця».

Малады чалавек, зусім малады, узяў за руку і павёў у свет свайго вялікага сэрца, а праз яго — у свет шырокага жыцця і сапраўднай паэзіі. Перад усім жа паэт падараваў мне свет роднай мовы: «Шляхам жыцця» было першае выданне, якое сцвердзіла, што пісаць кнігі можна так, як гаворыш ты сам і ўсе твае сваякі і знаёмыя. Адкрыццё гэта многае пабунтавала ў істоце, з'явілася адчуванне, што ў цябе прыбавілася невядомых дагэтуль магчымасцей, пэўнасці ў думцы і ў хадзе, хоць усвядоміць сапраўдную цану нечаканага здабытку тады, вядома, я не мог.

Вось і цяпер гляджу я на той юнацкі партрэт. Як мала ў ім, дый у многіх іншых, сапраўднага Купалы! Нестае нам выяўленчых сродкаў, няма іх такіх, каб загаварылі да цябе скульптура, акварэль ці масла, выказваючы духоўную сутнасць асобы, надворныя рысы якой можа і ўдалося схапіць мастаку.

Малады твар з вусікамі, дзіўнаватая на сягоннямні густ вопратка, відаць, старанна падабраная для фатаграфавання, каб выглядаць «паэтам». Але высокі лоб і праніклівыя вочы, карыя, а не блакітныя, як пішуць цяпер ва ўспамінах і нават у вершах, вызначалі ўжо аблічча таго Купалы, якога давялося ўбачыць зблізку, зблізку пачуць, сустрэць позірк і адчуць у часіны адкрытай размовы яго бясконцую глыбіню.

Вучачыся ў Мінскім педагагічным тэхнікуме, Коласа мы бачылі амаль кожны дзень: Канстанцін Міхайлавіч выкладаў на старэйшых курсах методыку мовы. Праўда, выкладанне гэтае было крыху своеасаблівае: часта, здаўшыся на просьбы студэнтаў, ён адмяняў лекцыю і, узяўшы з аўдыторыі слова самастойна прапрацаваць чарговы раздзел з падручніка, чытаў новае апавяданне ці толькі што напісаны абразок з «Сымона Музыкі».

Заўзятыя прыхільнікі скрупулёзнага выканання вучэбных планаў, напэўна, абурацца: што можа даць

такі «непедагагічны» спосаб выкладання! На практыцы ж выходзіла наадварот: з усіх дысцыплін студэнты найлепш ведалі методыку мовы, бо навучаліся любіць самую мову, чуючы жывыя ўзоры яе з вуснаў паэта, яе непасрэднага стваральніка. Аднак тут трэба ўлічваць яшчэ адну акалічнасць: любоў да прадмета заўсёды абумоўлена любоўю да настаўніка.

У гэтым выпадку любоў, калі можна так сказаць, была падвойная. Мы любілі Якуба Коласа — творцу неўміручых кніг, што абкружала яго арэолам пашаны і ўздымала над іншымі як істоту амаль што надзвычайную. Нам быў бясконца дораг і люб чалавек, Канстанцін Міхайлавіч, за сціплым выглядам якога ўгадвалася нязвыклая шырыня духоўных даляглядаў, а за надворнай замкнёнасцю і нават недаступнасцю адчуваліся абаяльнасць, чалавечая прастата і чуласць. Да яго можна было лёгка падысці, спытаць парады, атрымаць пазычку, праўда, невялікую, але затое беззваротную. З аўдыторыі ў настаўніцкую Коласа заўсёды вёў гурток студэнтаў, ён жартаваў з намі, смяяўся, не даючы ні на хвіліну адчуць сваю перавагу як настаўніка, пісьменніка, чалавека са значным жыццёвым вопытам.

Колас і Купала! Гэтыя два імені вымаўляліся разам, неслі ў сабе недасяжны ўзор жыццёвай праўды, уваскрашалі карціны невядомага: рэвалюцыі 1905 года, пары з'яўлення першых беларускіх кніг і выданняў.

І тым больш хацелася хоць краёчкам вока зірнуць на Купалу: які ж ён, як гаворыць, як трымаецца, ці падобны хоць кропелю да Коласа.

У гэтым дапамог выпадак.

Вучыцца ў тэхнікуме было цікава. Студэнты старэйшых курсаў ладзілі спектаклі, літаратурныя вечары. На іх было мнагалюдна, збіралася моладзь з другіх навучальных устаноў горада, выкладчыкі, бывалі і пісьменнікі-маладнякоўцы.

Восенню 1924 года студэнцкі гурток абвясціў «літаратурны суд над Лабановічам як грамадскім дзеячам». Гэтая цырымонія вабіла сваёй незнаёмасцю. Суд над героем любімай кнігі «У палескай глушы»!

За што судзіць яго? І як наогул можна рабіць гэта, калі нам, юнакам, герой здаваўся і добрым, і чулым, і наогул ледзь не вяршыняй дасканаласці?

Невялічкі клуб, празваны «стадолаю», паўнюткі. Папаўзла ў бакі заслона. На сцэне было ўсё, як у сапраўдным судзе: за накрытым чырвонаю настольніцаю сталом сядзелі старшыня — выкладчык літаратуры, і члены «суда» — студэнты. Збоку, за меншымі столікамі, змяшчаліся «пракурор» і «абаронца».

Адзін за адным праходзілі «сведкі» абароны і абвінавачання. Перакрыжаваны допыт іх выклікаў у зале напружанне. Сыпаліся ўдалыя запытанні і адказы, аўдыторыя рэагавала то востраю цішынёю, то ўхвальным пошапкам, то лёгкім смехам.

Я сачыў за ходам «працэсу», умайстраваўшыся на нейкі гімнастычны снарад — «казёл» ці «кабылу», паводле спартыўнай тэрміналогіі. Адсюль было добра чутно і ўсё відно.

Колас сядзеў у пярэднім радзе, сур'ёзны, нават крыху суровы, вельмі роўна і проста, так што пастава яго здавалася напружанай. Поруч з ім быў чалавек, які паводзіўся іначай. Ён штосьці гаварыў Коласу на вуха, пасміхаўся і часам нават пляскаў у далоні, калі «пракурору» ці «абаронцу» ўдавалася заблытаць каго-небудзь са сведак. Седзячы збоку, я не мог добра разгледзець аблічча гэтага чалавека, але міжволі чамусьці болей сачыў за ім, чым за тым, што адбывалася на сцэне. І не адзін я рабіў гэта: многія позіркі і галовы былі скіраваны ў бок незнаёмага.

Раптам ён павярнуўся назад, і я здагадаўся: Купала! Здагадка ўмацавалася: успомніўся партрэт, які вісеў у аўдыторыі мовы і літаратуры, і той першы, з кнігі «Шляхам жыцця».

Пасля «суда» Колас і Купала выходзілі з клуба разам. Мы ішлі за імі крок у крок, стараючыся пачуць размову.

— А здорава, Якубе, сёння рэзалі твайго Лабановіча! — дабрадушна падсмейваўся Купала.— І галоўнае — твае ж выхаванцы.

— А я ім усім пастаўлю за гэта па двойцы! — пажартаваў Колас.

Гэтак перагаворваючыся, выйшлі яны з тэхніку-

маўскага двара і накіраваліся ўніз па вуліцы да рэчкі.

Купала быў стрыманы на выяўленне пачуццяў, раскрываўся перад суразмоўнікам не часта і ненадоўга. Гаварыў мала і скупа, ажыўленую размову падтрымліваў хіба што ў коле прыемных яму людзей, калі быў у асабліва добрым настроі. Хто ведае, можа ім кіравала жаданне ашчадзіць сваё ўнутранае багацце для вершаў, можа вяло падсвядомае імкненне ўвабраць паболей уражанняў ад людзей, ад таго, што адбывалася на яго вачах. А магчыма, справа тлумачылася яшчэ працай: ці не прызвычаіўся ён думаць з алоўкам і лічыў думку канчаткова выказанай толькі пасля замацавання яе на паперы? Вось чаму гаворка-роздум, захопленае разважанне пра ўбачанае не былі ў Купалы пераважнай формай для выяўлення пачуццяў.

Гэта не значыць, што ён шукаў адзіноты. Купала любіў бываць сярод людзей, і людзі шанавалі і ўмелі цаніць яго прысутнасць. Паэтычная моладзь таго часу гарнулася да Купалы, дзверы яго гасціннага дома не паспявалі зачыняцца за шматлікімі наведвальнікамі. Ён ведаў у твар усіх, каму ўжо ўдалося напісаць дзесятак прыстойных радкоў, заўсёды прыветна вітаўся, запрашаў да сябе, дарыў кнігі, вадзіў аглядаць сад, зусім па-дзіцячы радуючыся даволі вялікаму разарыю, якім ён асабліва ганарыўся.

Вонкавая абаяльнасць Купалы магла растапіць самую чэрствую душу. Гэта была не проста ветлівая манера абыходжання з людзьмі. Праз вонкавыя рысы выказвалася ўнутраная абаяльнасць чалавека шчодрага сэрца, хоць і скупога на слова. Пры сустрэчах ён усміхаўся, гаварыў два-тры звычайныя словы, а здавалася, што пачуў ты нешта асабліва важнае, што атрымаў нешта надзвычай каштоўнае і не страціць яно сваё павабнасці ніколі.

Пра падобныя адчуванні расказваюць і людзі, незнаёмыя з ім, каму давялося раз ці двойчы пачуць Купалу з трыбуны. Да публічных выступленняў ён не меў асаблівай ахвоты. Відаць, праз прыроджаную сарамяжлівасць, якая прыводзіла яго ва ўзрушэнне нават перад звычайным чытаннем вершаў.

Выйшаўшы на трыбуну, Купала хваляваўся яшчэ

больш. Каб саўладаць з сабою, ён паволі даставаў акуляры, праціраў іх, пасля адшукваў у бакавой кішэні пінжака рукапіс, глядзеў з-за шкельцаў на залу і пасля пачынаў чытаць крыху дрыготкім голасам, расцягваючы некаторыя словы на ўдарных галосных.

«Як пацерку за пацеркай, за годам год»,— гэтыя радкі з паэтычнай споведзі «Шляхам гадоў» я ўпершыню пачуў з вуснаў Купалы на яго юбілейным вечары ў 1925 годзе. А потым чамусьці найбольш запомніліся выступленні з вершам «Сыходзіш, вёска, з яснай явы». Яго Купала чытаў часцей і ахвотней за іншыя.

Мікола Нікановіч, малады празаік, заўсёды элегантна, крыху пад Купалу, апрануты чалавек, весялун і перасмешнік, даволі ўдала імітаваў Купалава чытанне. Прарабіўшы ўсе маніпуляцыі з акулярамі і адшукваннем рукапісу, Мікола прымаў паставу Купалы і пад вясёлы рогат прысутных працяжна заводзіў: «Сыходзіш, вёска!..»

Аднаго разу маладыя літаратары, седзячы ў Доме пісьменніка на Савецкай вуліцы, дзяліліся ўражаннямі аб нядаўнім літаратурным вечары, дзе выступаў Купала.

— Пакажы, Мікола! — папрасілі мы.

Нікановіч не прымусіў сябе доўга ўпрошваць.

Тым часам нячутна адчыніліся дзверы, і голас, вельмі падобны да таго, які мы слухалі, перапыніў імітатара:

— А ніштто сабе выходзіць, ліханька!

У пакой зайшоў Купала.

Збянтэжаны Мікола густа пачырванеў і памкнуўся ўцякаць.

Купала затрымаў яго:

— Ану, давай спачатку!

Дзе там! Той не ведаў, куды падзецца ад сораму. Няёмка пачуўшыся, мы пачалі закурваць. Але Купала не толькі не пакрыўдзіўся, а павёў усіх нас у буфет.

— Ведаеш, Міколка,— гаварыў Іван Дамінікавіч, крыху падбадзёранаму Нікановічу,— ты практыкуйся, можа я калі прыхварэю, дык заменіш. Толькі яшчэ раз праверу, паслухаю.

На пачатку 1928 года я прынёс у Дзяржаўнае выдавецтва сшытак перапісаных ад рукі вершаў. Сакратар пагартаў, паківаў галавою:

— Не вазьму, нясі да «самога». Загадаў без яго-нага дазволу вершаў да друку не прымаць.

«Сам» — гэта быў Цішка Гартны, у той час ён загадваў выдавецтвам.

Справа паварочвалася нялепшым бокам. Прызнацца, я разлічваў, што мая кніжка праскочыць як-небудзь паўз вочы Гартнага.

Зміцер Фёдаравіч не так даўно, крытыкуючы вершы маладых паэтаў перад студэнцкай аўдыторыяй, не мінуў і мяне, упікнуў за мудрагельства, як на цяперашнія мае вочы — зусім слушна. Тады ж я горка пакрыўдзіўся, памкнуўся недзе адказваць яму і зрабіў гэта па маладосці не дужа тактоўна.

Хвілін дваццаць шнураваў я па вузкім калідорчыку, паглядаючы на дзверы з шыльдачкай «Загадчык выдавецтва». Ісці ці не ісці? Але выйсця не было. Выданне мае кніжкі ў бібліятэцы «Маладняка», пасля таго як я ўступіў ва «Узвышша», сарвалася, а ў новай арганізацыі сродкаў не хапала. Надзея амаль не падпірала мяне: выдавецкія рагаткі падымаліся толькі для Труса і Моркаўкі, іншыя маладыя паэты нават не рабілі спробы патыкацца туды. Адчуваючы, што пад нагамі абсоўваецца падлога, я пастукаўся і адчыніў дзверы ў кабінет Цішкі Гартнага.

Ён сядзеў за сталом каля самага акна ў вузенькім, вельмі доўгім пакоі.

Купала стаяў побач, збіраючыся адыходзіць.

— Што скажаш? — пачуўся характэрны голас Гартнага ў адказ на маё здароўканне.

Я падышоў бліжэй. Іван Дамінікавіч зрабіў крок наперад і падаў мне руку.

— Здароў! — павітаўся тады і Гартны.

Збіваючыся, са здушаным горлам, я вытлумачыў мэту свайго прыходу.

— Каб ты дуж быў! — пасміхнуўся Гартны.— Пішуць гэтых вершаў цэлыя стагі, а я — выдавай.

— А ты дзякуй богу, што пішуць,— падаў голас Купала.— Бо машыны ў друкарні стануць, не будзе чаго рабіць.

Жарт зменшыў напружанне. Я пасмялеў і палажыў на стол сшытак.

— У мяне не так многа, дзядзька Зміцер! Не толькі за стог, за воз не заважыць.

— Добрая ў нас прырода,— усміхнуўся Купала.— Многа пра яе пісаць трэба... І маладыя хлопцы глядзяць на яе ўжо іншымі вачамі, чым глядзелі мы. Але адна справа — дрэва ў лесе, а другая — у вершы. Тут яно павінна ўжо не лісцем шумець, а чалавечым голасам гаварыць.

У словах Купалы прагучалі і дакор і навука. Яны былі проста адрасаваны майму няўмеламу прыродаапісальніцтву. Неяк жа трапілі яму на вока мае першыя радкі.

Гартны бліснуў акулярамі на Купалу, потым на мяне.

— За дзесяць дзён перачытаю, зайдзі,— сказаў ён.

Я перачакаў яшчэ дзесяць дзён супраць прызначанага тэрміну, ведаючы, што Гартны быў у ад'ездзе.

— Пішаш акуратне,— ён па-капыльску вымавіў апошняе слова,— а тэрміну не трымаеш.

На рукапісе красавалася рэзалюцыя:

«Друкаваць. Недрукаваныя вершы па 15 кап. радок, друкаваныя — па 10. Адзначаныя ў змесце — зняць. З. Жылуновіч».

— Нясі, заключай умову. Нішто кніжка будзе.

Учуўшы добразычлівасць у яго голасе, я наважыўся запярэчыць:

— Дзядзька Зміцер! А можа не трэба тых вершаў здымаць? Я папраўлю.

— Убачай, браце! — ён ужыў слова «выбачай» зноў у капыльскім вымаўленні.— З гэтымі вершамі не будуць кніжку купляць. Кажу як гаспадар.

Я не знайшоўся, што можна супрацьпаставіць такому аргументу, і пайшоў, не здагадваючыся, як памог мне Янка Купала.

Прайшло некалькі год. Гарачым летнім днём мы сустрэліся на Савецкай з Міхасём Зарэцкім.

— Пойдзем Купалу павіншуем,— сказаў ён.— Сёння — дзень нараджэння.

Я сумеўся. Ісці някліканаму? Няёмка.

— Не бянтэжся. Ён будзе рад,— супакоіў Міхась.— Ён добра ўспамінае цябе. Толькі вось зойдзем купім якую драбязу ў падарунак.

Перад вечарам мы сядзелі ў Купалавай сталовай за сталом, хораша падрыхтаваным дбайнымі рукамі жонкі паэта, Уладзіславы Францаўны.

Прайшоў лёгкі дожджык. У сад, дзе былі клумбы, з пакоя выцягнулі провад з лямпачкай. Пахлі ружы, на лісці блішчалі дажджавыя кроплі. Купала жартаваў, цешачыся самаробнай, але чароўнай ілюмінацыяй.

— Ну, чым вам не поўдзень, хлопцы? — гаварыў ён.— Вось ружы, а тут пляж.

«Пляж» быў у кабінеце паэта. Каля адной са сцен проста на падлозе была насыпана марская галька. Купала заўсёды прывозіў з поўдня поўны чамадан каляровых, назбіраных на беразе каменьчыкаў.

— Здаецца, марская хваля з табой размаўляе,— казаў ён, перасыпаючы ў руках каменьчыкі і прыслухоўваючыся да іх шорхату.— Шкада толькі, што Свіслач за мора не цягне. Улетку яе пераходзь дзе хочаш. І костачкі не замочыш. А вясною такога наробіць, клопату не абярэшся.

Мы пасмяяліся, разумеючы, аб чым гаворыць Купала. У тыя гады паводкі на Свіслачы былі вельмі бурныя. Яна выходзіла з берагоў, заліваючы ўсе нізкія мясціны ўздоўж рэчышча. Кастрычніцкая вуліца з домам паэта на некалькі дзён аказвалася адрэзанай ад горада, і Купалу даводзілася загадзя выбірацца і адседжвацца то на кватэры ў Коласа, то дзе-небудзь у іншым месцы.

Вясною 1931 года рака ўзбунтавалася ноччу так хутка і раптоўна, што праз нейкую гадзіну дом Купалы быў заліты па вокны. Вада хлынула ў сярэдзіну. Іван Дамінікавіч, Уладзіслава Францаўна і ўсе хатнія эвакуіраваліся на гарышча. З Дома пісьменніка была накіравана «ўратоўчая экспедыцыя» на чале з Сымонам Баранавых, якая на лодках перавезла «пацярпеўшых» да Міхася Чарота. Па званку гаспадара кватэры мы прыйшлі туды з Валерыем Мараковым. Папыталіся, як адчуваюць сябе ўратаваныя ад стыхіі.

Купала адпачыў і пасміхаўся, прапануючы Чароту мяняцца на кватэры. Раптам у кухні нехта адкруціў кран, зацурчаў струменьчык вады.

— Не, Міхасёк,— звярнуўся Купала да Чарота,— лепш будзем жыць, як жылі. Вада мяне і тут даганяе, ведае, што я яе люблю.

Усе гэтыя прыгоды нядаўняй вясны ўспаміналіся нам у садзе паэта ў купальскую ноч пад густа-сінім небам, якое час ад часу перакрывалася дажджавымі хмарамі. Купала прайшоўся па сцяжынцы да варот, дзе пашумлівала на ветры неўзаметку вырасшая таполя.

— Гэта мой вартавы,— сказаў ён, абапёршыся рукою на камель.— Перад паводкай гнецца, стогне, нібы што прадчувае. І першая сустракае разводдзе.

Ён задумаўся...

— А ваду можна было б сустрэць за горадам і сюды не пусціць. Там жа,— Купала паказаў рукою на захад,— каля Ждановіч — нізіна. Паставіць заставкі — і будзеш мець возера. І людзям выгода, і не даводзілася б пасля паводкі цэлы год дзіркі латаць. Мне казалі, якія гэта страты. Сотні тысяч... Дык лепей жа няхай яны пойдуць на вадасховішча.

Тады гэта здавалася мараю, гучала неверагодна. Але не прайшло і дзесяці год ад паэтавага прадбачання, як мінчане прыдбалі сабе возера, а яшчэ амаль праз такі ж час і другое, куды большае. Яго мы ўжо называем Мінскім морам. І гайдае яно хвалю якраз у тых мясцінах, пра якія думаў Купала.

На развітанне ў той вечар ён сказаў:

— Дзякуй за падарункі, хлопцы. Але ад цябе,— ён зірнуў на мяне,— я ўжо каторы год чакаю падарунка не гэткага.— Убачыўшы на маім твары разгубленасць, растлумачыў: — Помніш, як Цішку рукапіс прыносіў? Мы тады ж з ім удвух і прачыталі яго. А ты мне да гэтага часу кніжкі не падараваў.

Сапраўды гэта было так. Некалькі кніжак, якія былі выпушчаны мною, здаваліся зусім не вартымі Купалавай увагі. Цяпер сабраў іх усе, зрабіў надпісы вершам і назаўтра ж перадаў Уладзіславе Францаўне. Купалы дома не было.

— Дарагія ты мне словы напісаў,— сказаў ён

пры сустрэчы.— А можа і не словы. Ты, праўда, любіш мяне?

Пытанне было занадта простае і вострае, каб адказваць. Але я не ўчуў у голасе сумнявання і здолеў расказаць паэту, што прынесла мне ў маленстве яго кніга «Шляхам жыцця».

У клубе імя Карла Маркса, што стаяў да вайны насупраць Купалаўскага тэатра, ідзе сход ці дыспут. Дакладна ўспомніць цяжка — ці мала іх адбывалася ў 30-я гады.

Вялікая зала поўным-поўная. БелАПП, «Полымя», «Узвышша» — усе тагачасныя літаратурныя арганізацыі — прысутнічаюць у поўным складзе. Купала нешта гаворыць, схіліўшыся да Міхася Зарэцкага. Белявая чупрына Чорнага суседзіць з гладка выгаленай галавою Цішкі Гартнага.

Сяджу з Хадыкам, поруч — Дарожны з Кавалём: два белаппаўцы і два ўзвышэнцы. Мы сябруем, не адчуваючы, што мы «прадстаўнікі розных лагераў», як утлумачваюць дасціпныя крытыкі. Чорны і Крапіва часта выступаюць з Чаротам і Галавачом, а мы, маладзейшыя ўзвышэнцы — Глебка і я, аб'ездзілі з белаппаўскімі брыгадамі ўсю рэспубліку, пабылі ва ўсіх клубах сталіцы, чыталі вершы, гутарылі з чытачамі пра савецкую літаратуру. Калі толькі пісаць ўпраўляліся!

Да выязных брыгад далучаліся таксама Купала і Колас. На Асінбудзе (ехаць туды яны выказалі настойлівае жаданне) церусілася імжака, было халаднавата. Купала, наставіўшы каўнер асенняга паліто, абышоў разам з намі вялікую тэрыторыю самай буйной у тыя часы электрастанцыі рэспублікі. Успёршыся на кіёк, слухаў тлумачэнні, распытваў, як справа з жытлом і забеспячэннем. Потым пазнаў у адным з рабочых знаёмага і павёў да сябе ў вагон, з якім мы прыехалі і дзе жылі дзень ці два.

— З газет гэтага і за год не вычытаеш...— гаварыў Купала, калі, сабраўшыся ў вагоне, мы дзяліліся ўражаннямі.— Я з вамі, хлопцы, абавязкова яшчэ куды-небудзь з'езджу.

Лагодна пасмейваючыся, да размовы прычыніўся Канстанцін Міхайлавіч:

— Куды нам, Янка, цягацца з імі.

І расказаў, як у яго прысутнасці аўдыторыя шумна сустракала маладых літаратараў.

— От я і кажу тады хлопцам: што б было, каб вам столькі далоняў урэзала па адным месцы.

Сапраўды, мы не скардзіліся на няўвагу. Моладзь цёпла прымала маладых пісьменнікаў, вядома, больш за настрой і задзёрыстасць, якія неслі нашы вершы, бо іх толькі з вялікім прыбліжэннем можна было назваць «творамі».

Літаратурнае жыццё падыходзіла, як цеста ў дзяжы, абяцаючы неўзабаве духоўны хлеб дастойнага гатунку. Выдавалася многа кніг, з кожным годам яны лепшалі. Часопісы ўвесь час радавалі новымі імёнамі. Было аб чым гаварыць і спрачацца на сходах, падобных да таго, што праходзіў цяпер.

Кагадзе аціхлі гарачыя спрэчкі, спыніліся ўзаемныя дакоры, справядлівыя і несправядлівыя. Падбіваюцца вынікі.

Прамоўца, асоба на той час уплывовая ў літаратурных колах, зноў пералічвае — каторы раз! — пісьменніцкія грахі, сапраўдныя і ўяўныя. Найбольш пападае «Полымю» і «Узвышшу».

Некаторыя пісьменнікі атрымліваюць індульгенцыі, яны «пераадольваюць памылкі», таму пераводзяцца з разраду «правых» папутнікаў у «левыя». Міжволі прыгадваецца Маякоўскі. Паэт бурна пратэставаў супраць навешвання такога ярлыка, сцвярджаючы, што папутнік не ён, а тыя, што ідуць па пратораной ім дарозе.

Заключнае слова працягваецца. Не чую свайго прозвішча ні ў адным з «класіфікацыйных радоў». Не ведаю: радавацца ці сумаваць. Раптам успамінаюць і маю работу ў якасці зусім нечаканай: халтура. Па катэгарычнасці тону — гэта амаль прысуд, закрэсліванне ўсяго напісанага. Стараюся выглядаць бадзёра, але міжволі ўгінаю галаву ў плечы. Тут жа адчуваю востранькі позірк аднаго прабітнога вершапісца. Ён першы дарадчык прамоўцы, яго пахвалілі, чаго нядаўна не зрабіў я, выступаючы ў студэнтаў. Па по-

зірку пачынаю разумець, каму абавязан сягоннянішняй пачосткай.

У зале чуюцца крокі. Галовы паварочваюцца на гук. Спыняецца прамоўца, здзіўлены такой непавагаю. Па праходзе не спяшаючыся ідзе Купала і хаваецца за дзвярыма.

Даслухваем апошнія заклікі стварыць магнітабуды літаратуры і разыходзімся. На лесвічнай пляцоўцы Купала дакурвае, відаць, ужо не першую, папяросіну.

Спыняе:

— Хадзем са мною.

Пастукваючы кійком па дошках тратуара, гаворыць:

— Я ўжо не мог уседзець. Ведаю, гэта можа кепска адрыгнуцца. Не веру я, што чалавека можна чаму-небудзь навучыць, б'ючы аглобляю. А некалі Аляксей Максімавіч абазваўся да мяне добрым словам, і вось трымае яно мяне ўсё жыццё. Хіба Ленін папраўляў Горкага кіем, як цяпер узяліся папраўляць нас крытыкі? Успамяні маё слова: калі мухі злейшыя робяцца? Перад сконам, восенню. Пасыплецца дагары лапкамі ўся літаратурная навалач. Пабачыш...

Успомніць пра гэта давялося неўзабаве, усяго праз некалькі месяцаў, чытаючы партыйны дакумент аб ліквідацыі літаратурных арганізацый.

Дома Іван Дамінікавіч хадзіў па кабінеціку каля шафы з кнігамі, адчыняў дзверцы, нібыта хочучы паклікаць на дапамогу сваім думкам кагосьці з вялікіх розумаў, зноў зачыняў.

— Праз мяне і табе сёння ўляцела. Хаты мае не цураешся, кнігі дорыш. Я не прыбраў іх у часе, ляжалі на стале. А тут круціліся неяк розныя герцы і, мабыць, узялі на заметку. Ім, бачыш, кожны паэтаў чых падазроны. Пачынаюць калупаць у носе, дашуквацца, чаго гэта пясняр чхае? Адны кажуць: калі ў яго катар, дык як ён мог застудзіцца ў нашым здаровым паветры? Значыць, гэта чалавек другое пароды, не наш. Другія дудукаюць: пясняр зусім не хворы, а зняважліва ставіцца да сягоннянняга будаўніцтва і чхае на ўсё...

Я не мог не ўсміхнуцца. Вельмі ж падобна было ўсё, што ён казаў, да тагачасных крытычных разважанняў, што даводзілася часамі сустракаць у газетах і часопісах.

— Павесялеў? — пасміхнуўся і Купала.— Слухай далей. Выдумае такую лухту які-небудзь крытык і пачынае стукаць сябе ў грудзі цытатаю, не разумеючы, што духам сваім гэта цытата забівае яго насмерць.

Іван Дамінікавіч дастаў выразку з Бялінскага і прачытаў невядомыя мне ў той час радкі аб зайздрасці ўнукам і праўнукам, якія ўбачаць Расію на чале адукаванага свету.

— Такою і мне відна наша Радзіма. А хто гэтага не разумее, хай наракае на сябе. Будзем глядзець на большае... Рэшта ўсё — глупства. Мала што можа чапляцца за ногі ў вялікай дарозе.

— Дзе ты цяпер? — запытаўся Купала, сустрэўшы мяне летам 1932 года ў Доме пісьменніка.

Пачуўшы, што мы з жонкай здымаем «дачу» — чыстую палавіну хаты — у Калодзішчах, паабяцаў прыехаць. І прыехаў. З Уладзіславай Францаўнай і Сымонам Баранавых.

Мы збянтэжыліся — як прыняць, дзе пасадзіць такога добрага госця! Гаспадарка ў нас была больш чым сціплая: два відэльцы, пара талерак, а пра гаспадарчы прыпас і гаварыць няма чаго. Але Купала прыехаў не з пустымі рукамі, няўрымслівая цёця Уладзя зараз жа кінулася на дапамогу, і неўзабаве наш дачны стол выглядаў зусім няблага.

Івана Дамінікавіча вельмі ўсцешыў сын гаспадароў нашай хаціны. Гэты пяці-, а можа шасцігадовы хлапчук, надзвычай самалюбівы, засвоіў ад дарослых пагардлівае стаўленне да жанчыны, якое яшчэ бытавала ў сялянскіх сем'ях. На сваю больш чым у два разы старэйшую сястрычку ён інакш не казаў, як «баба». Аднак гуляў з ёю і быў вымушан слухацца, калі яны заставаліся ўдваіх, а бацька і маці адыходзілі на работу.

Хлопчык ніколі не плакаў. Стары злосны гусак заўсёды шыпеў на яго і шчыкаў да сінцоў за лыткі.

Малы адбягаўся, хапаў дубец і кідаўся на птушку. І ўсё-такі перамог: гусак пачаў абыходзіць яго і, здавалася, зусім добразычліва гáгаў пры сустрэчы.

Аднойчы хлопец захацеў піць. У хаце вады не было, да калодзежа яму падыходзіць забаранялася, дый не хапіла б сілы выцягнуць цяжкое, акутае жалезам вядро. Звяртацца да сястры, «бабы», не дазваляў мужчынскі гонар. Моцна сасмаглы, малы знайшоў выхад. Падышоўшы да дзяўчынкі, якая нешта шыла на прызбе, ён з незалежным выглядам спытаў: «Табе, мусіць, вада трэба? Дык чаму ты не дастаеш?»

Купала весела рагатаў, слухаючы апавяданне пра прыгоды хлапчука. І якраз у гэты час у дзвярах з'явіўся мурзаты тварык самога героя.

— Хадзі сюды! — паклікаў Іван Дамінікавіч.

Малы памаўчаў: цікаўнасць, відаць, змагалася з самалюбствам.

— Дык там жа бабы! — нарэшце прамовіў ён, адмахнуўшыся рукою.

Перасіліўшы смех, Купала зноў паўтарыў запрашэнне.

— Я табе цукерку дам.

Хлопчык завагаўся: спакуса ўзрастала; аднак адказ быў цвёрды і зусім нечаканы:

— А я панцаку пад'еў.

Купала падышоў да парога і хацеў падвесці хлопчыка да стала. Не даўся. Але цукерку ўзяў, і яны падружыліся.

Раніцаю госці збіраліся дамоў. Іван Дамінікавіч пачаў развітвацца. Падышоў і да малога. Той падаў яму руку, паглядзеў і ўздыхнуў.

— А ў Мінску, мусіць, хораша? — прамовіў зусім ціха.

— Дык можа паедзеш са мною?

Працяглае маўчанне. Малы пацягнуўся да Івана Дамінікавіча і прашаптаў на вуха:

— Паеду.

І мы, і бацькі яго на момант анямелі ад здзіўлення: як і калі ўдалося гэтаму чалавеку знайсці ключык да такога незалежнага дзіцячага сэрца!

Хлопчыкава маці спляснула рукамі і роблена загаласіла:

— А куды ж ты, мой сынок? На каго ж ты мяне пакідаеш?

Хлопчык звёў бровы над пераносіцай і пасуровеў:

— Табе абы плакаць... Я з татам да іх паеду.

На станцыю ішлі пеша. Гаварылі пра пераклады. Іван Дамінікавіч успомніў свой пераклад паэмы «Парыжская камуна» Ул. Бранеўскага.

— Разумееце, перакладаў я гэту рэч і баяўся, што хутка канец. Што ні слова там, то выбух. І вось дзіва: падзеі даўнія, а твор сучасны. Рэвалюцыя не памірае.

Ён пачаў прыгадваць асобныя радкі і цэлыя строфы.

Пасля перайшоў да мае работы. Я працаваў тады над перакладам кнігі Анатоля Гідаша «Венгрыя праўляе ўрачыстасць», пазней яна выйшла без прозвішча перакладчыка.

— Гэтыя хлопцы, і Гідаш, і Бранеўскі, слаўныя паэты. І дзе толькі можна, трэба ім падаць руку. Словам, лістом, перакладам. Каб чулі падтрымку, каб сіла не падупала. Ім жа трэба свет перавярнуць.

Ужо каля вагона пасміхнуўся сам сабе і сказаў:

— Праўда, прывязі калі-небудзь малога да мяне. З ім варта сябраваць. З такіх аторваў моцныя людзі растуць.

Пасля юбілейнага вечара ў памяшканні кінатэатра «Культура» (цяпер — Рускі тэатр) ідзём у дом да Івана Дамінікавіча. Сяброў у яго шмат, а гаспадыня — цеснаватая. З гэтай прычыны там накрыты нізенькія столікі, пры якіх стаяць малыя крэселкі, пазношваныя з дзіцячага сада, дзе працавала цёця Уладзя.

Перагаворваемся, мыем рукі, чакаючы гаспадара. Ён змарыўся і, папрасіўшы прабачэння, адышоўся пераапрануцца ў лягчэйшае.

За сталом пакуль што сядзіць толькі адзін ляны вялікі кот. Умайстраваўся ўгалавах, побач з Купалавым месцам. За не дужа прыстойныя паводзіны кот быў пазбаўлены права прысутнічаць пры бяседах. Ён ведаў гэта, але нязменна сядаў за стол і пры з'яўленні Івана Дамінікавіча жмурыўся, каб не бачыць

таго, хто зараз больш-менш далікатна папросіць яго за дзверы.

Акурат так адбылося і цяпер. Увайшоў Купала, кот прыжмурыў вочы, але застаўся пры стале — адно месца было яшчэ вольнае.

— За ваша здароўе, хлопцы! — сказаў Купала.— Сягоння вы ўсе гаварылі пра мяне толькі добрае, а на ўсё іншае заплюшчвалі вочы. Так, як ён,— і паказаў на ката.

Крыху прыпазніўшыся, з'явіўся Зарэцкі. Кату давялося перaступіць месца.

— Нічога, вы абодва марцовыя кавалеры,— пажартаваў Іван Дамінікавіч.

Пры сваім гвардзейскім росце Зарэцкі выглядаў на дзіцячым крэселку нязграбна і смешна. Купала прапанаваў яму завязаць слюняўчык. Міхась перавёў жарт на свайго меншага ростам суседа.

Гаворка ішла нязмушана, без загадзя падрыхтаваных тостаў, яны агалашаліся адзін за адным, нападхоп.

Сымон Баранавых унёс з другога пакоя невялічкі прыёмнік — наш агульны падарунак — рэч на той час даволі рэдкую.

Слухалі музыку, чыталі новыя вершы, складалі тут жа экспромты.

Іван Дамінікавіч падышоў да мяне і загадаў:

— Аддай!

Я не адразу зразумеў, што ён патрабуе рукапіс прачытанага на ўшанаванні верша «Пяць хвілін гутаркі з Янкам Купалам».

— Яшчэ не зусім гатовы, дзядзька Янка. Спяшаўся сягоння закончыць. Папраўлю і прынясу.

— Давай цяпер! — ён стаяў на сваім.— Выходзіць, тысячы чалавек можна чытаць незакончанае, а паказаць таму, каму напісана, нельга.

Убачыўшы, што я прыняў яго дакор сур'ёзна і пачуўся ніякавата, Іван Дамінікавіч дадаў лагодна:

— Давай! Нічога там правіць не трэба. Толькі напсуеш.

Верш так і застаўся непапраўлены і ненадрукаваны, а я больш ніколі не патыкаўся на людзі з чытаннем недаконченых рэчаў.

Пачатак ліпеня сорак першага. Падаюся з мабілізацыйным лістком у маскоўскі ваенкамат. Сказалі — выклічам. Хаджу на работу, але, ашаломлены падзеямі, працаваць не магу. Няўцешныя весткі прыбываюць кожны дзень: Мінск у руінах, фашысцкае войска ідзе па Беларусі.

Як бы ў адказ на трывогі аб роднай зямлі, сябрах і блізкіх, што засталіся там, тэлефонны званок:

— Прыехаў Купала. Хоча пабачыцца.— У голасе Канстанцыі Буйло засмучэнне.— Калі можаш, не марудзь. Яму вельмі цяжка.

Спяшаюся ў гасцініцу «Масква».

У дзвярах нумара на пятым паверсе сустракае знясіленая, бледная Уладзіслава Францаўна. Ціха гаворыць:

— Пабудзь з ім трохі, я выйду ў горад.

Іван Дамінікавіч, успёршыся на локаць, ляжаў на канапе. Павярнуў на крокі галаву, адарваўшы на хвіліну позірк ад акна, за якім стаяў ясны, без хмурынкі, дзень. Крыху прыўзняўся.

— Ляжыце, не турбуйцеся, дзядзька Янка.

— Ляжыце! — горка паўтарыў ён.— Каб ты ведаў, колькі людзей палегла. Як луг касою, за адзін дзень агаліла. Я ўсю зямлю нашу праехаў. Усё з месца рушылася. Толькі кветкі цвітуць на дарозе. Сінія... Як чалавечыя вочы...

І каб не паказаць слёз, лёг тварам да сцяны. Я не знаходзіў што сказаць, ведаў — не мне суцяшаць яго; верылася, што хутка ён знойдзе сілу падняць і падтрымаць сваім словам людзей, як з дня ў дзень рабіў гэта ў доўгія гады няволі.

Вярнулася Уладзіслава Францаўна. Я пачаў адвітацца. Ён зрабіў рукою рух: застанься.

Вечарэла. Прыходзілі і выходзілі знаёмыя. Купала не варушыўся на канапе.

— Заснуў, здарожыўся,— гаварыла, праводзячы іх, Уладзіслава Францаўна.

І зноў мы засталіся сам-насам. Я маўчаў, разумеючы, што перапыняць яго размовы з самім сабою нельга.

Што думалася яму ў той летні адвячорак? Пэўна, не адступаліся ад вачэй страшныя малюнкі кагадзе бачанага і перажытага руйнавання роднай зямлі.

А можа ўяўлялася яна ва ўсёй сіле і красе тае халаднаватай, але шчодрай на руні і травы апошняй мірнай вясны.

Нарэшце Купала загаварыў, нібы пацвярджаючы мае здагадкі.

Ён устаў, захадзіў па пакоі.

— Дзякуй, што памаўчаў са мною. Удвох і маўчаць лягчэй. Хоць і не гаворыш, а ўсё ж як быццам раішся. Разумееш, якой парады я ў цябе пытаў?

Маўчанне Івана Дамінікавіча было аж занадта красамоўнае. Пазней Уладзіслава Францаўна і шафёр Яртымік, які вёз Купалу ў Маскву і ў Казань, расказвалі, што, пакідаючы Мінск, развітваючыся з улюбёнымі мясцінамі над Дняпром у Ляўках, едучы па бясконцай магістралі ў сталіцу, Купала нібы ўкамянеў, ад яго нельга было дабіцца ніводнага слова... Колькі горкіх дум перадумаў ён... Якія яны былі...

Купала спыніўся каля акна, стаў тварам да дзвярэй.

— І тая, што на свет пусціла, засталася там.— Купала не сказаў «маці» і праглынуў даўкі камяк.— Абедзве ў няволі апынуліся. І тая, што нарадзіла, і тая, што слова ў рукі дала. Аднае можа жывое няма, а другая зноў у крыві. І хто яе не крывавіў!

Успамянуўшы набегі татараў, салдатаў кайзера, легіёнаў Пілсудскага, Купала дадаў:

— Захопніка сустракала горшая доля, чым тая, што ён рыхтаваў захопленаму. Гэта ж спраўджвалася, і не раз...

Ён памаўчаў.

— Успомні тое, што блізка ляжыць. Гэтыя,— Купала зняважліва вымавіў два літаратурныя прозвішчы, кожнае ў множным ліку,— колькі людзей патапталі. І не агледзеліся, як самі галавою налажылі. Усе яны — як бурбалкі пасля дажджу. Пырх — і няма.

Зноў надышла хвіліна маўчання. Купала адпіў мінеральнай вады.

— І мы паўміраем, можа не дачакаўшыся, калі мінецца гэтае няшчасце. А зямля наша — будзе. Пэўна ж, не такая краіна, як цяпер, але з усім добрым, што выгараваў і выкаваў народны дух, які жыве ў яе імені.

І загаварыў аб духоўнай паўнаце, з якой некалі зліюцца народы ў адзіную радзіму. У вачах замільгацелі кропелькі святла.

Пакрысе браўся прыцемак. Купала запаліў электрычнасць, запрасіў падсунуцца да стала, дзе ад самага пачатку размовы так і стаяла нячэпанай бутэлька цынандалі. Залацістае пітво афарбавала шклянкі. Ён паглядзеў на віно проці святла:

— І тут ёсць сонца! Многа яго трэба чалавеку. Толькі не ў чэрствую істоту. Туды колькі ні лі, усё намарна, калі ў самім сэрцы няма сонечнага праменьчыка.

Купала падняў шклянку і павольна, з перапынкамі, відаць, на хаду перакладаючы, вымавіў пушкінскі радок:

— Няхай жыве сонца, хай знішчыцца змрок!

Памачыў губы і адставіў шклянку.

— Выпі, не зважай на мяне. Не магу цяпер, не хачу. Ад такой бяды ў бутэльні патолі не пытайся. От калі вернемся... Толькі сабраліся з заходнімі хлопцамі пад адзін дах, на троп жыцця сталі.

Ён пачаў успамінаць пра ўзварухнуўшыя сэрца падзеі, пра ўсё, што пачуў і пабачыў падчас уз'яднання заходніх абласцей, калі ездзіў у Беласток, на народны сход. І спахмурнеў.

— Багата чаго наноў пачынаць давядзецца. Многа работы будзе.

Стаяў пры акне, паглядаючы, як нязвыкла рана пачынае таймавацца рух на галоўнай вуліцы сталіцы. Думаў уголас, абрываў словы не дагаварыўшы, але нязменна пераходзіў да аднаго:

— Вернемся.

Адчувалася, што яго зірк абмінае вайну з усёй яе нечаканай суровасцю, што ён ходзіць па Беларусі, вызваленай ад ворага, думае, як жыць, што рабіць трэба будзе заўтра.

— А якая маці бліжэй? — раптам вярнуўся ён да пачатку размовы пра дзвюх маці. І зноў пачаў пытацца хутчэй за ўсё ў самога сябе: — Каторая з іх нас нараджае? А што робіць час? Можа ён усяму прычына? Мне вось расплюшчыў вочы дзевяцьсот пяты, а Кастрычнік ахрысціў. А далей ужо — слова жывіў

гэты дзень. Не, не гэты. Гэты — вайна. Я пра пядаўні, мірны, гавару. Ён жа не мінуўся...

Неспадзявана ў мяне вырвалася:

О, тады сноп у сноп жніво наша будзе,
Сотня коп, мільён коп, дзівуйцеся, людзі!

— Помніш? — Купала ўважліва паглядзеў на мяне.— Даўно ўжо я напісаў гэта. А яно ўзяло і ажыло.

Ён сеў, абхапіў калені рукамі і заспяваў напаўголасу:

Сотня коп, мільён коп...

Цяжка прыгадаць цяпер тую мелодыю, хутчэй вясельны ці дажынкавы рэчытатыў. Дый не гэта ўражала. Дзіўна і нават крыху вусцішна стала, аж прабегся лёгкі маразок па спіне — Купала спяваў! Расхрыстаны, у кашулі з расшпіленым каўняром, з пасмамі валасоў, што, ускудлачаныя, павыбіваліся з яго заўсёды акуратнай зачоскі. Спяваў! Ён, хто ніколі, прынамсі, на маіх вачах, не далучаўся да хору ў сяброўскай бяседзе іначай чым усмешкаю ці кіўком галавы. Здавалася, ён блізкі да таго стану, каб загаварыць вершам, як спевакі-імправізатары.

На відавоку да паэта вярталася яго спеўная сіла. Нібыта ў пацвярджэнне гэтых думак, ён сціх, запытаўся:

— А ты мог бы цяпер пісаць? — І, не дачакаўшыся адказу, прамовіў: — я, здаецца, буду...

Я паспяшаўся пакінуць яго аднаго.

У гэтай жа гасцініцы (тут ён найбольш любіў спыняцца і правёў апошнія гадзіны свайго жыцця, прыехаўшы з Казані), усяго некалькі месяцаў назад, у красавіку, Купала пісаў:

Пашыраецца, Май, твой пабедны паход...
Бомбы больш не спадуць з самалётаў,
Кветкі сыпацца будуць з высотаў...

Лёс разважыў іначай. Бомбы пасыпаліся і на людзей, і на заводы, і на кветкі.

Гэта ўсё трэба было перажыць, перачуць, перадумаць. Узяць у рукі слова, па выбуховай сіле мацнейшае за самую дасканалую зброю. Відаць, пры такім

пераўзбраенні аднаго з найвыдатнейшых паэтаў часу і давялося мне прысутнічаць у невялікім гасцінічным нумарку.

Можа ў тую самую ноч і пачалі выройвацца гнеўныя строфы верша «Беларускім партызанам». Вельмі ж выразна чуецца ў гэтым неўміручым гімне матыў радкоў, якімі адкрыў Купала кнігу «Шляхам жыцця» і якія вырваліся праз трыццаць год спевам з ягоных вуснаў.

Новы дзень прынёс новыя турботы. Купалу не хацелася выязджаць з Масквы, а для гэтага трэба было зрабіць сякія-такія захады. Назаўтра я ўбачыў яго ў вестыбюлі гасцініцы. Зрабіў крок насустрач, лёгкі ў хадзе, са светлымі вачыма, як быццам і не было тае цяжкай бяссоннай ночы. Свежапаголены, у добра пашытым гарнітуры, ён выглядаў па-маладому падцягнутым. Усё гэта сведчыла і аб сабранасці ўнутранай: яна адчувалася нават у нязначным руху, якім ён прыпаліў сваю неадлучную папяросу.

Заўважыўшы мой узрадаваны позірк, сказаў:

— Настрой ствараецца не толькі ў душы, а і звонку. Халодная вада, брытва — найлепшая зарадка. Я не магу нічога рабіць расчухраны, а пісаць і пагатоў.

Накіраваліся на Пятроўку. У міліцыі Івана Дамінікавіча ведалі і адразу ж справілі ўсе фармальнасці, звязаныя з яго далейшым бытаваннем у сталіцы.

Купала перабраўся да свайго даўняга сябра мастака Елісеева, які жыў на Грузінскай вуліцы, недалёка ад Беларускага вакзала.

— Хоць трохі ды бліжэй да дому,— пачынаючы з жарту, казаў Іван Дамінікавіч, і ў голасе яго жыла нязводная надзея.— Як толькі адгонім немцаў, адразу на цягнік і ў Мінск.

На гэтай кватэры яны пісалі з Коласам зварот да беларускага народа. Канстанцін Міхайлавіч прыехаў для гэтага з Клязьмы, папярэдне накідаўшы чарнавік. Купала пачытаў, ужо быў узяўся за ручку — падпісваць, ды адлажыў яе.

— Можа яшчэ падумаем крыху,— адразу ж зразумеў сябра Канстанцін Міхайлавіч.

— Падумаем, Якубе! У мяне ноччу нешта складалася. А я ўсё адкідаў, не запісваў. Не выходзіла так, каб ад слова папера агнём бралася. А табе ўдалося якраз гэтак пачаць...

І загаварылі горача, спрачаліся, перапыняючы адзін аднаго, пакуль з вялікай узбуджанай плыні дум не сфармавалася адна, самая вострая і смелая, пакуль з безлічы слоў, якімі ўладалі абодва, не былі выхаплены найбольш трывалыя. Такія, як вымагаў раптоўна пасуровеўшы час, якіх чакалі ўзброеныя і няўзброеныя людзі.

Колас канчаў перапісваць тэкст цвёрдым прыгожым почыркам.

У пакой зазірнула цёця Уладзя:

— А накурылі! Зараз столь падымецца. Прымайце паперы, дзядзька Колас. Пара есці.

На стале запаравала салятырка гарачай бульбы, такой, як можа ўмела варыць толькі яна адна, гэтая незраўнаная гаспадыня, калі бульба пастывае на талерцы, пахучая і сопкая, і есца смачна без усялякіх прыпраў, хіба што з палавінкай маласольнага гурка.

Проста, па-беларуску падрыхтаваны стол сягоння не цешыў вока, ён не мог не нагадаць пра дом. Сябрам успомніліся нядаўна бачаныя жахі заліўшай краіну навалы.

Яны нявесела чокнуліся і сядзелі моўчкі.

— А ўсё ж такі перажывём, Янка! — нарэшце абазваўся Колас.— Павінны перажыць...

Іван Дамінікавіч пацягнуўся па папяросу.

Адвячорак. Мяне затрымалі на рабоце, і цяпер я спяшаюся да Купалы, бо не здолеў прыйсці ў часе, як ён прасіў.

Раптам зараўлі сірэны, загукалі паравозы на пуцях, загаварылі галаснікі.

Паветраная трывога!

Вось яна, ужо не вучэбная, а сапраўдная, поўная пагроз і небяспекі.

Трывога!

Пешаходны паток раптоўна павялічваецца і так жа раптоўна згасае. Прыпыняюцца тралейбусы і трамваі.

Людзі бягуць у спраты, стараючыся паспець куды-небудзь бліжэй да дому.

Калі я прыскочыў у дворык на Грузінскай, узляцелі сліпучыя стрэлы пражэктараў, прамацваючы пашарэўшае неба, сілячыся схапіць у скрыжаванне промняў невідочнага ворага. А ён поўзае нібыта над самай галавою і гудзе неяк асабліва нудна і прыкра.

Часта застукацелі зенiткі. Хочацца пастаяць, паглядзець: а можа кульнецца зараз і загрыміць касцямі, падаючы з высачыні, шэры драпежны птах! Аднак бягу ў пад'езд і на пляцоўцы сустракаю Елісеевых, цёцю Уладзю. Купала яшчэ стаіць у дзвярах, упарцiцца, не хоча нікуды ісці.

— Мы з Максімам і ў хаце перасядзім. Ты ж не баішся?

Гуртом ледзьве ўгаворваем яго спусціцца ў бамбасховішча. Там душна і цесна. Плачуць напалоханыя дзеці, маці з трывожнымі, таксама поўнымі слёз вачыма не маюць сілы суняць, суцешыць малых. Не дзіва! Гэта быў першы паветраны налёт на Маскву...

Пакрысе са сховішча знікаюць мужчыны. Іх выклікаюць пацiху, па адным, каб не стварылася панікa. Гарыць Цішынскі рынак, на дамы сыплюцца запальныя бомбы. Трэба гасіць пажар, пільнаваць дахі, ратаваць горад.

Выходжу і я, следам памыкаецца пайсці Іван Дамінікавіч. Не кажучы яму, што здарылася, прашу пачакаць тут, абяцаю хутка вярнуцца.

Але вярнуўся толькі гадзіны праз дзве. Адбою яшчэ не было. Стала цішэй. Бамбавозы ці адляцелі зусім, ці рыхтаваліся да новага заходу.

Купала сядзеў у пад'ездзе пад сходамі. Ён выпрасіўся са сховішча на хвілінку, пакурыць. Але дзяжурная прынесла яму зэдлік і больш не змушала вяртацца. Іван Дамінікавіч, вядома, не ўтрываў і выйшаў на двор. Таму ён ужо ведаў і пра разбурэнні і пра пажары поблізу.

Убачыўшы мяне, змакрэлага, перапэцканага ў сажу, коратка спытаў:

— Гасіў? Дарма ўтаіў, куды ідзеш.

Не апраўдваючыся, я сеў поруч. Купала пачаставаў папяросаю.

— Вось табе і Дантэ ажыў. Пекла. Кола першае.

Агонь, землятрус і смерць. Толькі ў пекла не тыя людзі трапілі... Але ж паспытаюць гэтага і яны на сваіх дамоўках. І касавокі іхні бог не ўратуе.

Падняліся ў кватэру. Спачываць ён не хацеў ці не мог, яшчэ не пазбыўшыся вялікага ўзрушэння. Піў маленькімі глыткамі моцны гарачы чай, думаў уголас:

— Вялікую сілу трэ будзе перамагчы. Калі сюды дапялі, дык што яны з Мінскам зрабілі?..

І, памаўчаўшы, расказаў паданне пра ўваскросшы попел.

Моцнае войска напала на адну малую выспу. Жыхары яе жылі ў дабры і згодзе і не хацелі рабіцца нявольнікамі. І старыя, і малыя, з чым маглі, зацята стаялі за кожны верацень свае зямлі.

Мінуў год, два, а няроўная бойка не канчалася. Народ верыў, што змагаецца не марна, гэта дадавала сілы. Каб застрашыць людзей, заваёўнікі пачалі выпальваць усё, што траплялася на дарозе. Захапіўшы адно паселішча, яны сагналі ўсіх, хто жыў у ім, пад вялікі клён пасярэдзіне вуліцы. Потым паразбуралі хаціны і зласкылі вялізны касцёр. Дзень і ноч шугала полымя, пагарэлі людзі, сатлела ўсё жытло да апошняга бярвенца. А стары клён не паддаўся. Стаяў, падымаючы абсмаленыя галіны, і нібыта клікаў адпомсціць.

Зашорхалі хіжыя пілкі, застукалі драпежныя сякеры. Злыя людзі намагаліся знішчыць сведку свайго злачынства. Уздыхнуў клён, пахіснуўся і са страшэнным трэскам і грукатам упаў доле. А падаючы, прабіў сукам жарало ў зямлі. Адтуль зашугаў струмень, чырвоны ад кляновага соку і чалавечай крыві. Ён узлятаў аж да вясёлкі, што выплыла на неба, і вяртаўся назад бліскучымі светлымі кроплямі.

Пачало дзеяцца нечуванае дзіва. Як толькі ўпадзе такая кропля на попел, замест спаленай хаты адбудуецца дзве, з пня ссечанага дрэва вырастуць два яшчэ прыгажэйшыя, замест аднаго ўстануць два воіны, каб узяць меч загінуўшага.

Купала дакрануўся да шклянкі і адставіў яе: чай астыў.

Здзірцы кінуліся на свае караблі,— загаварыў ён,— і ўсе патапіліся ў моры, бо перасталі разумець

каманду, ашалеўшы ад страху. Той народ, удвая пападужэлы, жыве і дагэтуль і верыць, што попел уваскрасае, варта толькі крыві нявіннага чалавека, соку пакрыўджанага дрэва і струменю са зняважанай зямлі зліцца з сонечным промнем. Ад яго ж бярэцца ў рост ўсё жывое.

За вокнамі пасінела, набліжаўся дзень.

— Ведаеш, што нам можа найболей прыдацца з гэтага падання цяпер?

— Напэўна, ўсё.

Купала, адмаўляючы, паківаў галавою:

— Вера.— І паўтарыў: — Вера. Яна прыводзіць перамогу.

«Прыводзіць» вымавіў так, што ў слове адчуўся яго другі сэнс — нараджае. Пасля прыгадаў беларускі фальклор.

— А хіба «жывая вада» з нашых казак гэта не народная вера ў адраджальную сілу зямлі?

На развітанне сказаў:

— Прыходзь, калі будзеш вольны. Не пакідай мяне надоўга.

Гэта было зразумела. З Коласам яны бачыліся рэдка. Канстанцін Міхайлавіч жыў далекавата, у клязьмінскіх сваякоў. Як выйшлі з Мінска добрыя сябры — Крапіва, Чорны, Броўка, Глебка, Лынькоў, дзе яны цяпер, вестак пэўных не было. Іван Дамінікавіч трывожыўся, ездзіў распытваць у Саюз пісьменнікаў, прасіў мяне званіць, калі дазнаюся якую навіну.

Неўзабаве, зноў-такі падвечар, я забег да яго на хвілінку. Развітацца. У кішэні ляжала позва з'явіцца на зборны пункт ваенкамата з рэчамі.

Купала ўскінуў на плечы плашч і выйшаў праводзіць да трамвая. У браме спыніўся:

— Даруй мне той выпадак,— нячутна прамовіў ён.— Сам не ведаю, што на мяне найшло: пакрыўдзіўся і цябе пакрыўдзіў...

«Той выпадак» быў крыху незразумелы. Некалькі год назад Іван Дамінікавіч запрасіў павячэраць у «Метраполі». Ён прыйшоў з нашай агульнай знаёмай. За размовамі мы прасе́дзелі даволі доўга, як

раптам Купала затрывожыўся. Пайшоў званіць дзяжурнай у гасцініцу, каб папрасіла пачакаць знаёмага, які меўся хутка прыйсці туды.

Мерачыся паскорыць адыход, я папрасіў рахунак і памкнуўся разлічыцца.

— А хто каго запрашаў? — пачуўся над вухам Купалаў голас.— Не бярыце ў яго грошай, яны фальшывыя.

Сказана гэта было жартліва, але ў тоне ўсё ж чулася нездавальненне. Пасля гэтага ў адносінах надышло відавочнае «пахаладанне». Ён перастаў мне званіць прыязджаючы, а пры выпадковых сустрэчах далей звычайнага прывітання гаворка не ішла.

Сто разоў злаяўшы сябе за нетактоўнасць, я ніяк не мог дабраць моманту і паразумецца з Іванам Дамінікавічам. А цяпер ён прыгадаў сам, дый яшчэ лічыць сябе вінаватым! Хоча, каб і парушынкі не засталося паміж намі перад цяжкою дарогаю.

— Дружна мы жылі з табою гэты месяц. Дзякуй табе за клопат. А найбольш за тое, што благога ў душы не трымаеш.

Перайшлі вуліцу. Набліжаўся патрэбны нумар трамвая.

Купала палажыў руку на плячо, а другою зашпіліў мне гузік у пінжаку. Стала горача ў грудзях. З гэткім самым рухам выпраўляла мяне некалі маці вучыцца, і цяпер, мусіць, паўтараюць яго многія тысячы матак: абсмыкваюць каўнер шыняля і папраўляюць пояс, абдымаючы на расстанне тых, што ўзгадавалі пад сэрцам.

Я моўчкі пакланіўся яму і ўскочыў на прыступку вагона. І, пакуль дазвалялі адлегласць і змрок, глядзеў на апусцелы прыпынак, дзе ён стаяў, памахваючы ўслед рукою.

Гэта было 2 жніўня 1941 года.

Менш чым праз год паміж дзвюх градак слаўнага рускага лесу, на зялёнай лугавіне з трохі паадскокваўшай пасля касы травою, спачывалі байцы і афіцэры. Наша дывізія рыхтавалася да адпраўкі на фронт. З недалёкага горада Вязнікі прывезлі лісты і газеты.

Я разгарнуў «Красную Звезду». Упершыню імя

Купалы стаяла не пад вершам, не пад заклікам, яно было абведзена няўмольнай чорнай рамкай.

Радкі некралога плылі перад вачыма, блыталіся, мяняліся месцамі. Не верыць было нельга, але сэрца ўпарта не давала веры, не магло, не хацела пагадзіцца, патрабавала яшчэ жывога голасу добра вядомых людзей, подпісы якіх сцвярджалі страшную вестку.

Каманда падымацца!

Пакуль шэрагі раўнуюцца, не магу ўтрываць і кажу сваім байцам, што сягоння ў народа вялікае няшчасце, што ўсе гарады нашы мы вернем, а паэта не будзе.

Праз тыдзень батальённы камісар расказаў, што здарылася тады ў Маскве. Нездарма занадта стрыманыя словы паведамлення пра смерць адразу прымусілі падумаць аб трагічнай выпадковасці.

Камісару давялося трапіць на жалобны мітынг у Саюзе пісьменнікаў, ён запомніў усё, да астатняй драбніцы, і пераказваў так выразна і ўзрушана, што я пазнаваў суровыя твары прысутных і называў іх прозвішчы, чуў невыгойны смутак надтрунных прамоў, плакаў слязамі пахавальных мелодый.

Журботны вобраз краіны ва ўсёй моцы матчынай тугі ўстаў перада мною, калі народная артыстка, залатога голасу спявачка, нібыта анямеўшы, палажыла паэту ў ногі палявыя кветкі, родныя сёстры тых сініх, што здаліся яму вачыма зямлі і глядзелі ўслед на цяжкой дарозе адступлення.

Я не бачыў Купалу ў труне. Можа таму ён заўсёды ўяўляецца жывым: у садку, каля таполі, на трыбуне, за размоваю з хлапчуком на дачы, а найчасцей такім, як запомніўся ў час апошняй сустрэчы.

І цяпер, бываючы на Грузінах, я гляджу на трамвайны прыпынак, міжволі шукаючы між людзей дарагую постаць у накінутым на плечы шараватым плашчы.

*1961*

# КУЗЬМА ЧОРНЫ

## НЕВЫЧЭРПНЫ ТАЛЕНТ

Гэтыя радкі не бяруць на сябе смеласці даць жыццёвы ці творчы партрэт пісьменніка. Гэта было б надмернай задачай для асобных занатовак, якія ўзніклі пры нядаўнім перачытванні кніг Кузьмы Чорнага. Там, неадлучна ад герояў, жыве для сучаснікаў, якія ведалі і любілі пісьменніка, вобраз яго самога: нястомнага апавядальніка, безупыннага назіральніка і шукальніка.

Перадзімкам 1925 г. у рэдакцыі «Звязды» мелася быць чытанне новых твораў. У сярэдняй велічыні пакоі, які быў адбіты ад калідора фанернай пераборкаю са шклом, нізка звісала са столі нямоцная лямпачка пад бляшанай эмаліраванай талеркаю. Было цемнавата і цеснавата. Уражанне цеснаты павялічвалася ад убезладзь панастаўляных шырозных сталоў. Пры іх, па адным, па два, сядзела чалавек дзесяць. Супрацоўнікі рэдакцыі, маладыя літаратары, студэнты універсітэта. Следам за Трусам я праціснуўся ў цямнейшы куток, дзе мы і ўладзіліся з Паўлюком на ўвесь вечар, пацеючы ў сваіх жоўтых паўкажушках, якія былі ў той час нейкай своеасаблівай студэнцкай уніформай.

Кузьма Чорны сядзеў на крэсле паміж двума сталамі, спінаю да акна, што выходзіла ў двор, адкуль далятаў грукат друкарскіх машын. Аб прачытаным не гаварыў, толькі раз ці два хутка нахіліўся да суседзяў па другі бок стала і нешта заўважыў, мусіць, смешнае, бо яны зарагаталі. Сам жа ён захоўваў непарушную сур'ёзнасць, і калі, нарэшце, усміхнуўся, дык, відаць, не свайму жарту, а проста з весялосці суразмоўнікаў.

Мусіць, пачуццё гумару, на які ён быў такі багаты ў жыцці і ў творчасці, і штурхнула К. Чорнага падкрэсліць іранічную неадпаведнасць паміж сваім гроз-

ным прозвішчам і спакойным знешнім воблікам. Па першых апавяданнях, так ці іначай звязаных з ваеннай тэмай, і па псеўданіму пісьменнік уяўляўся высокім, шыракаплечым здараўцом, з гучным голасам, у скурапой куртцы і пакрыжаваных рыпучых рамянях. І, вядома, даводзілася расчароўвацца, убачыўшы ціхага бялявага чалавека ў міншвееўскім мышастым бобрыку. Маладое, занадта белае, нібы крыху хваравітае аблічча з рэзка акрэсленай губою і раздвоеным падбароддзем. Здавалася б, нічога асаблівага! Але над густою капою светлых хвалістых валасоў, надаючы ўсяму твару выраз задумення, узвышаўся цудоўны высокі лоб, па якім беспамылкова пазнаюцца людзі глыбокага розуму.

Чытаць Кузьме Чорнаму давялося апошнім, пасля бясконцых спрэчак, заўваг аб выслуханым раней.

Перш за ўсё ўражаў склад мовы, настолькі просты, што яна, бадай, не адрознівалася ад звычайнае гутаркі. У разгортванні апавядання было штосьці ад плюскатання ручаіны: вось яна, закруціўшыся на завароце, ударылася ў бераг; вось струмень пабег павальней, выбіўшыся на сярэдзіну; вось, здаецца, зусім сунялася плынь, разліўшыся люстрам над глыбокай мясцінаю. Да таго ж і расказвалася аб рэчах знаёмых, шмат разоў бачаных, такіх, што безуважна абміналіся, як занадта звычайныя і таму, здавалася б, нецікавыя. Аж не! Усё было нова, свежа і ярка. Прыйшоў талент, зірнуў наўкола вострым вокам, нагнуўся, падняў нешта з зямлі, абцёр пыл, і ўжо не шэры палявы каменьчык перад табою, а празрысты самацвет, багаты пераліўчатай ігрою граней.

Відаць, апавяданне гэтае засталося ненадрукаваным ці, магчыма, было перапрацавана. Можа, і зусім не мела яно вагі сярод большых і значнейшых твораў пісьменніка, але ў той вечар раптам папрастарнела ў цеснаватым рэдакцыйным пакойчыку. Пачулася жывая гаворка людзей, паплыў пах леташняй атавы на паплавах, дыхнула вясна. А Чорны чытаў спяшаючыся, не зусім выразна, без усякіх намаганняў падкрэсліць, «падаць» эфектны момант, часта паўтараючы адно і тое ж слова. Здавалася, яму хочацца хутчэй скончыць, выйсці на паветра, уздыхнуць на поўныя грудзі і ўзяцца зноў за рупіўшую, на кароткі час

і супраць жадання адкладзеную работу. Аўтар як быццам быў зусім безудзельны да таго, што чытаў, што ажыло пад яго пяром, прайшоўшы праз думку і пачуццё. Пастава і твар яго нібыта гаварылі: «Гэта яшчэ не ўсё, браткі, што я ведаю і ўмею».

Ці то праз абегласць вымаўлення, ці праз адсутнасць розных модных на той час літаратурных штукарстваў, апавяданне не зрабіла ўражання на прысутных. Затое заўвагі, справядлівыя і несправядлівыя, пасыпаліся з новай сілай. І, на ўсеагульнае здзіўленне, Чорны, не ў прыклад іншым аўтарам, нічому не пярэчыў. Ён згарнуў рукапіс і, прамовіўшы нешта накшталт: «Трэба раздумацца», пачаў апранацца.

Тады не вытрымаў Трус і ў дзвярах сказаў яму:

— Ну і дзівак! Тваё ж апавяданне — самае лепшае! А ты маўчаў!

Чорны ледзь прыкметна пасміхнуўся.

— Пакуль будзеш бараніцца, можна новае напісаць. Яшчэ ж уся ноч наперадзе.

І, зварухнуўшы плячамі,— гэты шматзначны рух застаўся ў яго і надалей,— ён развітаўся з намі і хутка пайшоў уніз.

Гады праз паўтара, на адным з падобных літаратурных сходаў, мне ўжо давялося чытаць самому. Седзячы ў першым радзе, супраць трыбункі, Чорны цярпліва выслухоўваў усю тую звышвобразную і перапоўненую недарэчнымі наватворамі вершаваную прадукцыю, якую ўдала ахрысцілі «бурапенаю». Гэта быў ужо сталы празаік з уласнымі кнігамі, выпушчанымі ў недасяжным тады для маладых аўтараў Дзяржаўным выдавецтве. Творчая манера была бадай акрэслена, Чорны стаяў напярэдадні ажыццяўлення шырокіх задум: рыхтаваўся пісаць раман «Зямля».

У гэты вечар некалькі разоў ён збіраўся пакінуць залу, пазіраў у акно, аглядаўся на дзверы і ўздыхаў.

Надышла мая чарга. У адным з прачытаных вершаў былі радкі, дзе гаварылася, што я чую пад нагою кожны камень і нават шуршанне пяску. Гэтыя словы не прэтэндавалі ні на якія абагульненні і былі выклі-

каны выключна катастрафічным станам маіх студэнцкіх падноскаў.

Аднак Чорнаму штосьці ўпадабалася ці, можа, проста захацелася згладзіць уражанне ад няўдалага выступлення. Ён пасадзіў мяне поруч і нязвыкла доўга гаварыў пра паэзію, пра вучобу. Потым запытаўся:

— А ты не хворы?

Я сумеўся.

— А чаму ты як ідзеш, дык нагамі соваеш?

Праклятыя падноскі! Я сапраўды баяўся падымаць ногі, каб не паказаць пратоптаных да вусцілкі падэшваў.

Чорны зірнуў на мяне і адразу ж здагадаўся.

— Заходзь да мяне ў «Вёску». І вершаў захапі, каб да жніва падышлі. Па-мойму, добра робіш, што прасцей пісаць стараешся. А чаравікі — купіш,— нечакана заключыў ён, паціскаючы руку.

Выпадак гэты Чорны запомніў надоўга. Ад таго часу пры сустрэчы ён, трымаючы маю руку ў сваёй, крыху адступаўся, уважна аглядаў мой абутак, круціў галавою, і мы дружна рагаталі. Такі спосаб прывітання, хоць і незразумелы для іншых асоб, вельмі добра замяняў звычайныя і абавязковыя словы: «Як маешся? Як жывеш?»

Пасля запрашэння заходзіць у рэдакцыю я стаў даволі часта наведвацца ў «Беларускую вёску», друкаваўся ў самой газеце і ў літаратурным дадатку «Чырвоны сейбіт».

На работу Чорны прыходзіў вельмі рана, здаваў паложаную колькасць радкоў у нумар і больш не затрымліваўся. Працаваў ён, як помніцца, загадчыкам рэдакцыі, а па сучаснай наменклатуры — адказным сакратаром. У пакойчыку — толькі два сталы і два крэслы пры іх. Больш не ўмяшчалася. На вольным кавалку падлогі магло стаць два-тры чалавекі, дый то пры ўмове, што яны не будуць размахваць рукамі.

А людзей гарнулася да Чорнага шмат. Найчасцей я заставаў прыезджых аўтараў з вершамі і апавяданнямі. Заходзіў Янка Купала, прыносіў казкі для «Сейбіта» Якуб Колас, амаль штодня бывалі П. Трус і мы з С. Дарожным.

Вершаў прыходзіла шмат. Два разы на дзень пажылы паштальён узносіў на апошні паверх некалькі скруткаў [illegible] лістамі.

Абціраючы ўзмакрэлую лысіну, ён глядзеў, як прымалі і парадкавалі карэспандэнцыю, і кожны раз гаварыў:

— І як гэта, разумееце, усё ўмяшчаецца ў адной газеце?

Чорны ўжо чакаў гэтай прывычнай заўвагі і адказваў таксама адным і тым жа:

— Іга! І яшчэ столькі ўлезе.

Тым часам, сапраўды, літаратурны матэрыял не змяшчаўся на чатырох паласах, і ў Чорнага ўзнікла думка аб выданні дадатку да газеты. Так нарадзіўся «Чырвоны сейбіт». Чорнаму прыбавілася клопату, але клопат гэты быў па-сапраўднаму творчы і таму нядзякі. З любоўю ён складаў чарговыя нумары маленькага часопіса, адбіраў вершы. Асабліва быў усцешаны, калі сярод прысланага ўдавалася знайсці добрае апавяданне ці хоць бы такое, што паказвала на здольнасці аўтара.

Свежаму нумару «Сейбіта» Чорны вельмі радаваўся і па некалькі разоў паўтараў:

— Паглядзі, тры новыя прозвішчы выцягнулі.

Парады празаікам, заўвагі аб мове ён пісаў для «Чырвонага сейбіта» сам, у сілу ўнутранага абавязку дапамагчы маладому аўтару, дбаючы пра агульны ўзрост культуры. Апекаванне Чорнага ў адносінах да пачынаючых не было нудным і прыдзірлівым і не выяўлялася ў парадковай праўцы. Правіў ён матэрыялы тых, каго нельга было выклікаць у рэдакцыю. Найбольш жа любіў пагаварыць, асабіста, даваў агульны накірунак для пераробкі рэчаў і быў задаволены, калі заўвагу разумелі з паўслова. Вось чаму, праходзячы паўз рэдакцыйны будынак на тагачаснай Савецкай, цяжка было ўтрымацца, каб не зайсці да Чорнага. Гэта быў куток, дзе ўладарыла творчасць, атмасферу якое заўсёды ствараў, можа і непрыкметна для самога сябе, Кузьма Чорны.

Там рыхтаваліся новыя нумары «Вёскі» і «Сейбіта», узгараліся гарачыя спрэчкі, абмяркоўваліся, а часам і пісаліся на хаду вершы.

Паўлюк Трус друкаваў у газеце прыгоды селяніна Ціта. Гэтая рэч з салёнаватым гумарам карысталася добрай папулярнасцю. А пісаў ён найчасцей на лекцыях або, адкруціўшыся ад заняткаў, у рэдакцыі. Пакольki месца ў пакоі Чорнага не хапала, Трус выходзіў на сходцы, спускаўся на адзін марш, клаўся на шырокае падваконне і пісаў. Праз некалькі хвілін мы ўжо чулі яго гучны залівісты рогат. Гэта азначала, што паэту ўдалося нешта смешнае і ён чытае новыя радкі каму-небудзь.

— Выходзіць,— падміргваў у такіх выпадках Чорны.

Калі на сходцах было ціха, ён прасіў паглядзець, што там адбываецца, або пытаўся ў першага, хто заходзіў:

— Не бачыў, Паўлюк піша? А то хутка нумар здаваць.

Часамі ў пакой набівалася людзей звыш нормы, папяросны дым вісеў густа, як пара ў лазні, не тое каб працаваць, не хапала змогі і сядзець.

Чорны некаторы час цярпеў, пасля дэманстратыўна ўзлазіў на крэсла і, пазіраючы мнагазначна на курцоў, адчыняў фортку ў высокім акне. Гэта не заўсёды памагала, тады ўжываўся іншы прыём.

— Хлопцы! — з нявінным выглядам прасіў Чорны.— Ці не зірнулі б вы, што Паўлюк на сходцах робіць? Можа, заснуў?

Калі сярод прысутных быў і сам Трус, Чорны, нібы збянтэжыўшыся, звяртаўся да яго:

— Дык ты тутака? А я думаў, ты пішаш?

Трусу вельмі падабаўся гэты спосаб выпасаджвання, як ён казаў, не вельмі сціплых наведвальнікаў. Паўлюк весяліўся кожны раз, нібы пачуўшы жарт упершыню. А часамі і сам гаварыў перад адыходам з рэдакцыі:

— Пайшлі, хлопцы! Зірнём, што там Паўлюк робіць.

Гадзін у дванаццаць, калі здача ў набор канчалася, з двара чуліся гукі катрынкі.

— Хлопцы, прыйшла вясельная музыка! — гукаў Чорны.

Аднак праз хвіліну мелодыя спынялася. Катрын-

шчык стаяў і, задраўшы галаву, пазіраў на знаёмае акно.

— Не хоча дарам рукі біць, ён жа ў мяне на пенсіі,— гаварыў Чорны і паказваўся ў акне.

Катрыншчык супакоена ківаў галавою, і музыка зараз жа пачыналася зноў.

Чорны ўвесь ператвараўся ў слых. Спачатку ігралася «Разлука», потым нейкі стары вальс, «Ойра» і нарэшце просценькі марш, які ўмелі ўсе вясковыя музыканты і ігралі яго на разыход моладзі з вячорак.

Катрыншчык пакідаў круціць ручку і зноў падымаў галаву. Усе прысутныя выбіралі з кішэняў дробязь, яна загортвалася ў паперу і ляцела праз фортачку проста ў шапку стараму. Дробныя грошы былі заўсёды ў Чорнага напагатове, ён турбаваўся аб гэтым з раніцы, ідучы на работу, або спецыяльна хадзіў у буфет купляць папяросы. Калі ж чаму-небудзь здаралася затрымка з «выплатай пенсіі», стары браўся за ручку і напамінаў аб сабе, зноў праігрываючы адну ці дзве п'есы.

Пасля адыходу яго пачыналася самае цікавае. Музычная праграма на гэты раз паўтаралася самім Чорным. Ён дакладна і вельмі смешна перадражніваў галасы хрыпатых дудак інструмента.

— От, як быццам у Цімкавічах пабыў,— са здавальненнем казаў ён, беручыся за работу.

Асаблівай асалодай было — участаваць музыкай, як гаварыў Чорны, свежага чалавека. Калі ў рэдакцыю заходзіў хто-небудзь такі, каму ў навіну былі ўлюбёныя музычныя працэдуры, Кузьма здаволена паціраў рукі:

— То зараз, ягамосць, у ваш гонар будзе зайграна адмысловая кавалерская полька. А калі ў саміх рука не скупая, то і яшчэ што-кольвек.

З гэтым, падрабляючыся пад мову засцянковай шляхты, ён станавіўся пры акне і паказваў катрыншчыку на мігі: іграй да канца, а потым яшчэ раз усё спачатку! Музыкант, нібы перапытваючы, паўтараў тыя самыя рухі і, атрымаўшы пацвярджэнне, што зразумеў правільна, выконваў заказ.

— Значыцца, маем падвойную порцыю музыкі,— хітранька гаварыў Чорны.— Хацеў бы я зараз зірнуць на нейчую храпу.

Ён таямніча паказваў вачыма на падлогу, а прысутныя і найболей Трус давалі волю рогату.

Усе ведалі, што на паверх ніжэй, акурат пад пакоем Чорнага, змяшчаўся кабінет аднаго адміністрацыйнага работніка. А ён, не заўсёды аб'ектыўны ў сваіх сімпатыях і антыпатыях і праз гэта не вельмі абдораны пашанай літаратурнай моладзі, ён цярпець не мог катрынкі! І спрабаваў змагацца з ёю грозьбаю, пасылаў сказаць, каб музыка выбіраўся вон...

Але катрынка давала добрую розрыўку ўсім, хто працаваў пад тым дахам. На некалькі хвілін адсоўваліся ўбок рукапісы, людзі памешвалі лыжачкамі ў шклянках, пілі чай, перакідваліся думкамі, смяяліся. Таму за вандроўнага дзядзьку дружна заступаліся рабочыя друкарні, супрацоўнікі рэдакцый і жыхары двара.

З чыйго боку ішла найбольшая падтрымка, сакрэту ні для кога не было. Завершваючы дзень у піўніцы, якая належала арцелі інвалідаў і таму называлася інваліднай, катрыншчык дакараў сваіх скупаватых слухачоў:

— Ну, што вы сунеце мне па капейцы! Пэўна, вы нічога не пілі, бо хто ж гэтак адарае музыку? Можа, я адзін на ўвесь Мінск! А ніхто не разумее. Ёсць, праўда, чалавек. Гэты, калі дасць, дык дасць! Усю маю камерцыю трымае. А каб ён ды яшчэ піў, я тады б азалаціўся! Зваць яго Кузьма. Мусіць, высокі начальнік. У друкаваным доме, на самым версе сядзіць...

П'янаваты катрыншчык не пазнаў свайго «мецэната» ў цемнаватай зальцы. А Чорны слухаў і ўсміхаўся з-за суседняга століка. Вяртаючыся з прагулкі, ён любіў пасядзець у гэтым шумным, аблюбаваным мінскімі ўскраінамі кутку, сярод нязмушаных размоў з выпадковымі знаёмымі, што прыходзілі проста пасля работы перакусіць і развеяцца.

Захопленую тыраду ў свой гонар Чорны запомніў і заўтра ж пераказаў сябрам, не без пэўнай «літаратурнай апрацоўкі» і аўтарскіх дадаткаў. Тое-сёе нават засталося надоўга ў яго абыходку. Ідучы на работу ў будынак, дзе змяшчаліся рэдакцыі і друкарня, ён так і адказваў на запытанні знаёмых:

— Выбраўся, каб вы ведалі, у друкаваны дом.

Я там ёсць вялікі начальнік, бо сяджу на самым версе і маю ўласную музыку.

Чуткі і гаворкі аб усім гэтым не маглі не дайсці да таго, каму гэта музыка стаяла ўпоперак горла. Праўда, чалавек той крыху абцерпеўся, абабіўся, але «падвойныя порцыі» катрынкі для новых аўтараў нязменна выклікалі яго нездавальненне. Аднойчы, пасля чарговага «музычнага моманту», ён пераняў нас у рэдакцыйным калідоры. Абмінуўшы Труса і мяне, сунуў Чорнаму кароткапалую моцную руку:

— Здароў! А не чуваў ты, хто мне такое кепства робіць?

Чорны зрабіў нявіннае аблічча, нібыта і не здагадваючыся, куды хіліцца гаворка.

— З гэтаю... катрынкаю,— даверліва ўдакладніў суразмоўнік.

— А што, перастала іграць? — спагадліва спытаў Чорны.— То, можа, сапсавалася ці, барані божа, майстар захварэў?

Тут ужо нельга было не адчуць выкпівання. Прысадзістая постаць рушыла прэч, прабубніўшы на адыходзе:

— Глупствам людзі займаюцца! Хай бы гэтыя! — Абураны позірк спыніўся на нас з Трусам.— А то ж як быццам чалавек сур'ёзны... Прозу піша...

— Дзівак! — засмяяўся ўслед Чорны.— Не ведае, з якога боку ўзяцца. Я плачу катрыншчыку за тое, што іграе, а ён павінен даць столькі, каб перастаў. Не пашкадуй дзесяткі, і ўсё — канец музыцы.

Мы зайшлі ў рэстаран пры гасцініцы «Еўропа», поблізу ад плошчы Волі. Чакаючы абеду, Чорны расказаў жартоўную навелу «Памінкі».

Вялікі гарадскі двор. Раніца. Раптам усе вокны ў дамах адчыняюцца. Жанчыны, дзяўчаты, дзядзькі, бабулькі летуценна слухаюць катрыншчыка. Да ног яго, на брук, падаюць манеты. Музычная скрынка абкружана дзецьмі. Іх вабіць марская свінка — пярэсты грызунок у клетцы, якая прымацавана на катрынцы. Свінка выцягвае ахвотнікам білецікі, дзе ўгадваецца твой лёс, твая ўдача, твоё шчасце!

Асабліва любяць старога музыку два яго прыхільнікі. Аднаго завуць Паўлюк... Чорны загадкава паказвае на сябе. Трус адразу ж падхоплівае: «А дру-

гога — Кузьма» і тыцкае пальцам у свае грудзі. Яны абодва, працягвае Чорны, кучаравыя, невысокага росту, толькі адзін чорны, а другі — бялявы. Надворны выгляд хлопцаў супадае з апавядальнікам і яго смяшлівым слухачом. Бялявы піша вершы — Чорны стукае ў грудзі сабе, а чарнявы — прозу — палец пераносіцца на Труса. Гэта вельмі развясельвае Паўлюка, ён ціхенька падрагатвае, цёхкае, як ахрысціў гэты смех Чорны.

Апавяданне пасоўваецца далей.

Ні чарнявага, ні бялявага не хоча друкаваць нейкі Цэнтразыхер. Ён не толькі не любіць вершаў і прозы, а і страшэнна ненавідзіць музыку... У хлопцаў бываюць сутычкі з Цэнтразыхерам за катрыншчыка.

Паўлюкова «цёхканне» пачынае галасней. Чорны грозіць яму рукою і налівае шклянку піва.

Катрыншчык старэе, яму ўсё цяжэй зарабляць на хлеб іграючы, трэба многа хадзіць па горадзе. Ён рашае разыграць катрынку ў латарэю і паехаць за гэтыя грошы да дачкі.

Нядзеля. Двор, дзе звычайна іграе катрыншчык. Тут жывуць Паўлюк, Кузьма і Цэнтразыхер. Распрадаюцца білеты. Музыка перад тым, як расстацца з сваім інструментам, выконвае ўсю праграму цалкам.

З акна высоўваецца галава здаволенага Цэнтразыхера: «Круці, круці! Усё роўна астатні раз». Катрыншчык заўважае свайго непрыяцеля, кланяецца: «Засталося ўсяго тры білеты, вазьміце! Можаце набыць асалоду на ўсё жыццё». «Давай адзін»,— кажа Цэнтразыхер і кідае рубель. Яму перадаюць білет. Два апошнія білеты забралі Паўлюк і Кузьма.

Розыгрыш. Свінка выцягвае білецікі, хлопчык раскручвае і абвяшчае нумары. Стаяць, хвалюючыся, Паўлюк і Кузьма, яны накупілі шмат білетаў на ўсе свае грошы. Каб не трапіла ў благія рукі катрынка, і — хто ведае! — можа, прыйдзецца пайсці з ёю ў заработкі. Калі агалошваецца чарговы нумар, хлопцы мармычуць «пусты» і дзяруць стаўшую непатрэбнай паперчыну.

Вось разгорнут яшчэ адзін білет, агалошана лічба і запаветнае слова — шэйнакатрынка.

— Выйграў! — крычыць Цэнтразыхер. Смутнее стары ўласнік катрынкі, стаяць нерухома Паўлюк і

Кузьма. Цэнтразыхер цягне дадому выйгрыш. Каб пакрасавацца сваёй велікадушнасцю, запрашае на вячэру музыку і абодвух хлапцоў.

Цэнтразыхер ра́дзенькі — вызваліўся ад музыкі! — частуе гасцей. Яны п'юць многа, але яшчэ больш змрачнеюць. Каб крыху разважыць засмучаных, гаспадар просіць катрыншчыка зайграць. І тут усе агледзеліся: няма марское свінкі. Пачынаюцца пошукі. У кухні на калодцы ляжыць пярэсценькая скурка.

Жонка Цэнтразыхера прызнаецца, што пусціла свінку ў падпечак да трусоў. Не разгледзеўшыся, і яе закалолі на закуску.

Усе плачуць. Асабліва несуцешны Цэнтразыхер. Яго каменнае сэрца адвільжала, падабрэла. Ён нічога не робіць, толькі слухае катрынку і плача. Пакінуты жонкай, зволены з пасады Цэнтразыхер спродвае на гарэлку апошнія рэчы з хаты. Але ў яго знайшліся добрыя сябры: катрыншчык і Кузьма з Паўлюком.

Усе ўчатырох ідуць яны ў раздабыткі. На кірмашах, каля цэркваў круціць катрынку Цэнтразыхер, падспеўваюць Паўлюк і Кузьма, а катрыншчык абыходзіць слухачоў з шапкаю. Крыху зарабіўшы, наладжваюць памінкі па загубленым звярку...

І ўжо не ўяўныя героі, а Паўлюк і Кузьма зноў доўга і міла смяюцца, цешачыся з свае ўласнае выдумкі.

Невялікі перапынак у рэдакцыйнай працы, каб паслухаць катрынку, рабіўся і не зусім проста. Пад музыку Чорны на нейкую хвіліну задумваўся, адсутнічаў у пакоі, пераносячыся, відаць, у родныя мясціны, дзе яму і давялося пачуць упершыню ўсе гэтыя нескладаныя матывы. Абуджаўся настрой, а ён быў патрэбен трывалы, надоўга, калі садзіўся пісьменнік на ўсю ноч за рукапіс.

Для чыстага адпачынку служыла іншае. Выходзячы пасля работы з рэдакцыі, Чорны вешаў загнуты кіёк па балясіну сходаў. Грукочучы акутым канцом па прыступках, кій ляцеў уніз, а Чорны наўздзіў хутка і спрытна тупаў услед і заўжды паспяваў падхапіць яго ў апошнім пралёце.

Гэта не ўдавалася нават маладзейшым.

— Цельпухі, бегаць не можаце! — казаў Чорны.

Аднойчы, уваходзячы з П. Трусам у рэдакцыйны будынак, мы ўбачылі, што на ніжняй прыступцы, прытуліўшыся да сцяны, стаіць паважнага выгляду чалавек і са страхам і здзіўленнем глядзіць, як зверху, проста на яго, шпарка ссоўваецца з шумам і грукатам добра знаёмы нам кіёк. Уласніка не было. Прыхаваўшы бездаглядны кій у цёмны куток, мы пачалі падымацца. Чорны на наступнай пляцоўцы вітаўся з тым самым чалавекам.

— Не бачылі, хлопцы, не праязджаў тутака мой кій? — заклапочана спытаў ён.

Мы адракліся.

— Дык гэта ваш? — здзівіўся незнаёмы, і мне здалося, што павага, з якою ён трос руку Чорнаму, адразу ж знікла з саліднага твару.

— Гімнастыку раблю,— растлумачыў Чорны.

— Пры вашай рабоце гэта неабходна, але ці не лепш бы гантэлі набыць.

Незнаёмы меў дачыненне да медыцыны і даў некалькі карысных парад. Наогул жа і такога віду гімнастыкі ён не адмаўляў, аднак на развітанне не без іроніі пашкадаваў, што ў гэтай будыніне малавата паверхаў.

Праца ў рэдакцыі займала першую палавіну дня. Калі часамі даводзілася разам з Чорным пераходзіць і ў другую, можна было заўважыць, як пакрысе сур'ёзнеў ён, рабіўся негаваркі, усё больш паглыбляючыся ў сябе. Кароткая пасляабедзенная праходка ўжо не павінна была парушацца размовамі. Сустрэўшы ў гэты час каго-небудзь знаёмага, Чорны ішоў разам толькі да першага скрыжавання вуліц, адразу ж пытаўся: «А табе ў каторы бок?» — і, у залежнасці ад адказу, накіроўваўся сам у процілеглы.

Далей — пачыналася праца за сталом бездакорнай чыстаты з дзвюма кіпамі вялікіх аркушаў добрай белай паперы. Злева ляжалі ўнізаныя роўнымі неразборлівымі радкамі вельмі тонкіх, нібыта вязаных, літар, а перад сабою — яшчэ чыстыя.

Да строгага парадку на стале пасавалі і вельмі акуратныя кніжныя паліцы і наогул уся абстаноўка пакоя, дзе кожная рэч мела сваё месца і прызначэнне.

Так прынамсі выглядаў кабінет Чорнага на Беларускай вуліцы, а пазней на Чырванасцяжнай.

Чорны часцяком зазываў туды малодшых, менш спрактыкаваных, «пагаварыць». Даваў кнігі, абавязкова па сваім выбары, раіў паглядзець той ці іншы фільм, пабыць у канцэрце або на спектаклі. Гэтак непрыкметна для таварыша, а можа, і для сябе самога, памагаў фармавацца густу.

Сам ён чытаў, калі можна так сказаць, і многа і мала. Найбольш тое, што давала веды — іх бракавала, асабліва сістэматычных. У другую чаргу чыталіся навінкі мастацкай прозы, рэчы, выключныя па думцы, бездакорнасці майстэрства. Пад час работы за чытанне не браўся, хіба што шукаючы штуршок для афармлення настрою. Так, пішучы «Вялікі дзень», разы са два прасіў мяне: «Прынясі што-небудзь з добрых стылістаў, французаў, можа, але каб нятоўстае». Я даставаў яму Рэнье, тоненькія томікі вярталіся хутчэй, чым іх можна было прачытаць.

У хатніх гаворках найчасцей бедаваў, што ў нас мала прозы. Таму, мусіць, і не пакідаў без увагі ніводнага, нават самага нясмелага празаічнага кроку.

Ведаю гэта і па сабе. Калі мне здарылася надрукаваць апавяданне «Багун», адразу прыкмеціў, пахваліў і падарыў сваю кніжку «Хвоі гавораць» з надпісам «...бо ты аўтар «Багуна», як быццам тая спроба была сапраўды чаго-небудзь вартаю. З таго часу пачаў «пераманьваць» мяне на прозу, не сказаць каб падказваў тэмы, але стараўся заахвоціць, абудзіць настрой да пісання.

— Ёсць інтэрас! — казаў ён у такіх выпадках са змоўніцкім выглядам.— Трэба апавяданне ў нумар. Праз тыдзень дай. Так каб са сняжком было, каб коні беглі, людзі рукі грэлі.

Калі што-небудзь падобнае ўдавалася, адразу цягнуў дахаты. Пытаў, што думаеш пісаць новага і, вядома ж, перахвальваў зробленае. І гэта было як невялічкае свята, грэла душу, змушала аддзякаваць за ўвагу работаю, бо ён жа адкладаў убок сваё, траціў час, парушаў абвыклы распарадак.

Звычайных, абы памянціць языком, наведванняў Чорны не любіў і, не саромеючыся, бараніўся ад іх. Здаралася, што пасярод чытання свае або чые-небудзь новае рэчы ён пачынаў напяваць «Брадзяга Байкал пераходзіць». Гэта азначала, што ў брамку ўсоўваўся які-небудзь непажаданы госць. Слова «брадзяга», вядома, замянялася прозвішчам.

Калі такі чалавек пераседжваў пару і шкодзіў рабоце ці размове, пачынаўся іранічны, з востранькімі шпількамі допыт:

— А вы самі пішаце ўдзень ці ўночы? Уночы, кажаце? А я акурат гэтаю пароючы, удзень.

Аднак, хоць слоўца і дапякала, на Чорнагачамусьці ніхто не крыўдзіўся.

Мне не даводзілася бачыць памарак на рукапісах Чорнага, шматлікіх чарнавікоў, пакрэсленых і паблытаных шматкоў паперы, што больш-менш характэрна для кожнай пісьменніцкай гаспадаркі. Магчыма, ён перапісваў услед, не дапускаючы непарадку і запуску, а можа, многае пісаў адразу, падобна таму, як пра гэта расказана ў пісьмах А. П. Чэхава.

Спачатку мне здавалася, што магутнаму будаўнічаму працэсу пісьменніка не папярэднічала ніякая падрыхтоўчая работа — проста садзіўся і пачынаў пісаць. Бо такім багатым было яго ўнутранае напаўненне, так многа ўбачыў і ўведаў ён, што хапіла б расказваць у многіх тамах, да паважнага ўзросту, і то б не вычарпалася ўсё.

У сапраўднасці было іначай. Кузьма Чорны ніколі не выключаўся з творчага працэсу. Гэта заўважалася і на сходах, і пры гаворках, і нават у шумных бяседах. Чорны шчыра весяліўся, успамінаў і выдумляў смешныя гісторыі, рагатаў і гукаў сваім крыху глухаватым голасам. Здавалася, весялейшага і самазабыўнейшага чалавека і няма сярод прысутных. Але варта было зірнуць яму ў вочы, і яны выкрывалі ўсё. Вочы паблісквалі і няўтомна ўбіралі ў сябе позы і рухі суразмоўнікаў, іх вопратку, прыход новых асоб, узоры на сценах, лямпачкі пад столлю, мокрыя галіны за акном. І сапраўды, назаўтра пры сустрэчы Чорны расказваў пра ўчарашняе так, як быццам цябе

там і не было. І ты са здзіўленнем адзначаў, што, не зважаючы на тваю прысутнасць у тым ці іншым месцы, ты адсутнічаў там, бо толькі прымаў удзел. А ён руплiва назіраў. Ды не толькі заўважыў і запомніў галоўнае, характэрнае, але прыкмеціў і ўсё смешнае і дробнае. Калі перад табой узнікала намаляваная Чорным карціна з усімі дробязямі і адценнямі, дык рабілася ясна: па тым, што гаварылі і рабілі людзі, высвятлялася, чаму яны так размаўлялі і дзейнічалі, што яны думалі ці павінны былі думаць і як будуць паводзіцца ў далейшым.

Гэта дзівосная здольнасць — не мінаць нічога, што траплялася на дарозе,— не мела нічога агульнага з натуралістычным плюшкінствам назірання ў некаторых пісьменнікаў, у выніку якога ў творах з'яўляюцца сфатаграфаваныя постаці знаёмых з больш ці менш удала зменеными прозвішчамі.

Кузьма Чорны ўмеў і любіў расказваць. Апавядальнік ён быў сапраўды невычэрпны. Часамі хацелася нават прытрымаць яго за руку: «Пачакай, што ты робіш! Гэта ж сюжэт, гатовая старонка твора».

Колькі найцікавейшых кніг можна было б скласці з вусных апавяданняў Чорнага! Карціны беласцi з вусных... польскай і нямецкай акупацыі на Случчыне, здарэнні з жыцця роднага мястэчка, бытавыя нягоды гаспадароў кватэр, дзе ён жыў, выпадкі з суседзямі па вуліцы, нарэшце, ледзь не цалкам прыдуманы вусны раман пра вандраванне цімкаўцоў па краіне! Але ніхто з яго слухачоў не можа прыгадаць выпадку, калі б расказанае пісьменнікам, заўсёды такое трапнае і цікавае, механічна пераносілася ў апавяданне ці раман.

Назіранне праходзіла ў Чорнага доўгі працэсператварэння і перайначання і паўставала ў зусім адменным выглядзе. Правільней кажучы, для пісьменніка было важна тое, што ён заўважыў у жыцці якую-небудзь з'яву. Такім чынам ствараўся грунт, на якім вырастала зусім новая, але неадменна праўдзівая сітуацыя. А расказы для сяброў былі ў Чорнага лішкамі вытворчасці, хоць і хавалі ў сабе безумоўна творчы момант: назіранне падавалася апрацава-

ным, дадаваліся словы ў гутарку, выпуклялася самае характэрнае ў падзеі.

Здаралася так, што, прачытаўшы раздзел новай рэчы, Чорны знаёміў з тым, што павінна адбыцца далей. А потым, калі твор быў надрукаваны, слухачы заўважалі: нічога падобнага да калісьці расказанага ў ім няма. Усё перайначыў, усё зрабіў нанова! І не таму, што першая задума была благая. Расказаў, значыць ужо стварыў, ужо нецікава ісці далей па выснаванай канве. Дый навошта гэта рабіць, калі думка даганяе думку, адкрываючы невядомыя і самому сабе прасторы.

Ніколі не падумаеш, што, па сутнасці, усе творы Чорнага невідочнымі сувязямі прымацаваны да аднаго месца, іменна да месца нараджэння пісьменніка. Героі ў пераважнай большасці сваёй паходзяць адтуль, растуць на адной глебе.

Дзіву даешся, як можна было на маленькай Случчыне ўзяць столькі, каб хапіла на ўсе кнігі, на ўсё жыццё. Але справа не ў колькасці матэрыялаў, а ўператваральнай здольнасці пісьменніка. З аднаго і таго кола назіранняў выйшлі «Бацькаўшчына» і «Трыццаць год». За маленькім гарадком, апісаным у абодвух творах, угадваецца Нясвіж; бясспрэчна духоўная роднасць цяжкога маленства ў маладога рэвалюцыянера Адася Гушкі і камісара Валодзі Кастрыцкага; пражэрлівае заграбацтва кулака Сурвілы блізка да ненаеднага драпежніцтва свінячага перакупшчыка Хурса. Але ж непадобны і кнігі, і людзі ў іх іншыя, бо кожнаму ўдыхнуў пісьменнік сваё адменнае жыццё, і нябёсы не гэткія, бо афарбоўваюцца яны ў колеры пад настрой герояў, не той і каржакаваты хвойнічак, які то роўна шуміць вершалінамі, то змаўкае, калі маўчаць вандроўнікі ў ім.

Ва ўсім гэтым выяўляецца дзівоснае ўмельства Чорнага браць з навакольнага ўсё і выбіраць самае патрэбнае, а потым ператвараць тое, што ўбачылася і запомнілася, у сплаў новай якасці, у сплаў, дзе ўжо не адрозніш факта і вымыслу, над якім, паводле Пушкіна, абліваешся слязамі.

Ад таго, што Чорны заўсёды імкнуўся глядзець на рэчы сваімі вачыма, у «звычайным», вядомым, знаходзіў «незвычайнае», незаўважанае, новыя якасці,—

верагоднасць канфліктаў, палажэнняў, учынкаў у лепшых, найбольш сталых яго творах не выклікае сумнення.

Пісьменніку не здраджвае пачуццё меры ў стварэнні сітуацыі. Гэта не значыць, што пяро занатавала ўбачанае дакладна так, як яно было. Ідучы гэтым шляхам, пісьменнік не пазбегнуў бы натуралізму і не ўзняўся б да абагульненняў. Чорны старанна ахоўваў сваіх герояў ад такіх учынкаў, якія яны маглі ці павінны былі б рабіць па загадзя вызначанай схеме. Гэта б давала чытачу магчымасць камбінаваць уласныя варыянты паводзін героя ў тым ці іншым выпадку, не паверыўшы, зразумела, у запрапанаваныя аўтарам.

Такая няпэўнасць, а таксама і схема рашуча адкідаліся пісьменнікам, бо не мелі нічога агульнага з мастацтвам. Учынак героя павінен натуральна і лагічна выцякаць з папярэдняга разгортвання падзей, калі пэўныя характары сталі ў пэўныя супярэчнасці, ■ унутраных якасцей самога чалавека, з абставін, у якіх ён дзейнічае. Жыццёва праўдзівы і мастацкі варыянт учынкаў тут можа быць толькі адзін. І на прыкладзе К. Чорнага мы бачым, як праўдзівасць вобраза, жыццёвасць героя абумоўліваюцца сталасцю светапогляду пісьменніка, яго ідэйнай узброенасцю ў пэўным перыядзе творчасці, глыбінёй пранікнення ў рэчаіснасць.

У першых творах траплялiся і прагляды. Але вось Юры Гарэйка ўцякае з астрога, выламаўшы жалезныя краты. Пісьменнік мог знайсці лягчэйшы і таму больш верагодны спосаб, скажам уцёкі з допыту ці ад канвойнага. І, аднак, не зрабіў гэтага, а выбраў герою самы цяжкі шлях, прымусіўшы нас паверыць, што голы, акрываўлены чалавек знайшоў у сабе сілу вырваць надзейныя ўмацаванні ў акне і бегчы полем і лесам па марозе. Але ж мы ўжо адчулі вялікую жыццёвую сілу Гарэйкі, усю нянавісць яго да панства, упартасць, з якою ён, знясілены, будучы недалёка ад дому, не зайшоў туды, а даганяў і дагнаў сваю часць. І таму мы паверылі ў яго ўцёкі з астрога.

Міхал Тварыцкі знайшоў пачак грошай і не толькі не аддаў іх дзяржаве, а яшчэ і кінуўся з сякераю на жонку. Гэта падрыхтавана і абумоўлена ўсім развіццём вобраза, затаўраванага праклёнам дробнаўласніцтва. Ад прысваення грошай да свядомай працы на будоўлі, да разліку з ненавісным Скуратовічам, чый кулацкі побыт атручваў свядомасць Тварыцкага, герой праходзіць доўгі шлях пераробкі. І тут пісьменнік нідзе не паграшыў супраць праўды, хоць, можа, жыццёвае здарэнне, пакладзенае ў аснову твора, было і не гэткім.

Першыя апавяданні яшчэ не мелі ў сабе тугой пружыны сюжэта, а часта складаліся з новых і свежых апісанняў, якія павінны былі быць цікавымі самі па сабе.

«У Слаўкі Чужахвала конь — проста нялюдская справа, лапавухі, вастразады, худы, як дошка, пад касматай скурай рэбры тырчаць, як частакол. Дай яму сена, а ў яго і пажаваць няма чым, сцебані яго пугаю,— а ён возьме і ляжа там, дзе стаяў» («Забойства»).

Цераз пяць год у «Бацькаўшчыне» для такога апісання старой закіданай жывёліны пісьменніку спатрэбіўся толькі адзін сказ:

«Конь гэты адбрыкаў сваю маладосць і адрабіў сваю сілу ў Сурвілы...»

І даволі, і зусім ясна, якога каня мог прадаць прагавіты кулак і што за худобіну мог купіць за свае мізэрныя грошы Леапольд Гушка.

Чорнаму было з чаго выбіраць, бо браць матэрыял ён умеў, як ніхто. Ён не адпачываў у часе сваіх неадменных падарожжаў па вуліцах. І за нейкую гадзіну паспяваў назбіраць дзесяткі карцін, і ў кожнай таілася зерне будучага твора.

Дзве жанчыны сварыліся каля вадакачкі. Памяць занатоўвала, як яны размахвалі рукамі, у што былі апрануты, узровень і колер вады ў вёдрах, асобныя пачутыя словы. А ўяўленне дамалёўвала: дамы, дзе яны жывуць, якія ў іх мужы, дзе працуюць, ці згодна жывуць.

З расчыненага акна чуўся плач дзіцяці. І адразу ўяўлялася: радасць маці, якая купае свайго немаўлёнка, ці гора яе пры пасцельцы занядужаўшага.

У брамцы дзяўчына махнула рукою на адыход маладому чалавеку. Яна ўсміхалася, усміхнуўся і хлопец, азірнуўшыся, і пайшоў павольна, як не сваімі нагамі. А! — заўважаў падарожнік,— ім не хочацца разлучацца, яны ў самым шчасці сваім.

І многа іншых апавяданняў даводзілася чуць ад Чорнага, калі варочаўся ён дамоў. Усё гэта прыдавалася да вялікіх задум, якія, чаргуючыся, а часамі выціскаючы адна адну, паўставалі перад ім. Ён не паспяваў упраўляцца, заносіў пачаткі твораў на паперу і складаў у папкі, на чаргу.

Часамі добры пачатак перабіваў работу. Калі ён быў яскравейшы і вёў задуму, напісанае раней адкладалася ўбок.

Для гэтага чалавека было б найвялікшай радасцю, каб дзень працягваўся гадзін шэсцьдзесят, а на змену змораным вачам і руцэ былі свежыя. О, тады б ён усё паспеў!

І паспеў нямала.

Чорны — праўдзівы летапісец чалавечага лёсу ў трох вялікіх войнах, пад час Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў далейшым, у пару перабудовы вёскі на сацыялістычных пачатках.

Калі грабежніцкая вайна 1914 г. выклікала ў салдата толькі стыхійнае пачуццё нездавальнення і пратэсту (Пятро Тадаровіч), дык у грамадзянскай такі чалавек усведамляе, чаму ён бароніць заваёвы Кастрычніка (Валодзя Кастрыцкі). Героі Чорнага з твораў перыяду Айчыннай вайны — гэта ўжо свядомыя змагары (Лукашэвіч, Катлубовіч, Татарынчык), у сэрцах якіх гарыць вялікая любоў да свайго народнага жыцця. У цяжкіх баях яны адстойваюць права на светлую будучыню, імкнуцца хутчэй наблізіць яе разам з партыяй, з усім савецкім народам.

І тым больш жыццёвымі і праўдзівымі паўстаюць гэтыя героі перад намі, што станаўленне іх і выпростванне на ўвесь горды чалавецкі рост адбываецца паступова, проста і натуральна, не праз дэкларацыю, а праз канкрэтныя ўчынкі.

Асабліва цёпла і любоўна малюе Чорны моладзь, падлеткаў і дзяцей — для іх дбаем мы пра будучыню, яны павінны з'явіцца творцамі яе. І яшчэ больш: да-

сягнуўшы сталасці думкі і характва пачуццяў, самі стануць будучыняй.

Дзеці павінны былі стаць у цэнтры новага твора Кузьмы Чорнага — п'есы, якую ён называў трагедыяй.

Мы сустрэліся ў Маскве, калі я на пэўны час вярнуўся з фронту. К. Чорны працаваў надзвычай настойліва і плённа. Шматлікімі артыкуламі, сатырычнымі фельетонамі, выступленнямі ваяваў ён за вызваленне роднай зямлі, за перамогу савецкага народа. У той жа час пісаліся новыя творы і ўпарта, хоць па старонцы ў дзень, аднаўляліся страчаныя, згарэўшыя ў Мінску рукапісы. У гасцінічным нумары не спынялася напружаная творчая работа. Пісаў Чорны раніцаю і не любіў парушаць гэты распарадак. Але аднойчы ён запрасіў мяне прыйсці якраз на гэтыя гадзіны. Я зразумеў, што гаворка будзе сур'ёзная, і не адмаўляўся. Тады ўпершыню раскрыліся задумы «Пошукаў будучыні» і «Млечнага Шляху».

— А закончу гэта,— сказаў Чорны,— і тады за новае,— і прачытаў цудоўны накід першага раздзела «Скіп'ёўскага лесу».

Я выйшаў, глыбока ўзрушаны шырынёю планаў, веліччу подзвігу, які прымаў на сябе пісьменнік, беручыся за адлюстраванне найвялікшых падзей у жыцці народа. Высокія і чыстыя імкненні савецкага патрыёта, гранічна выразнае ўсведамленне сваіх абавязкаў кіравалі ім, даючы сілу для здзяйснення задуманага і ў час, як быў ужо хворы, а ўсё ж не выпускаў пяра, насуперак дактарскім забаронам.

А тою раніцаю гаварыў Чорны доўга, час ад часу паглядаючы на малааджыўлены Ахотны рад. І нязвыкла было пачуць ад яго, чалавека, які не ўмеў і не хацеў паказваць глыбіннае пачуццё:

— Каб хутчэй, хоць на хвіліну хутчэй згнясці Адоліка (гэтую мянушку ён даў Гітлеру), я адразу ж рыпнуўся б дзе-небудзь з хлопцамі ў слуцкія лясы. Хай бы сабе і не вярнуўся. Душа рвецца.— І каб не паказаць завільгатнеўшых вачэй, пастаяў каля акна. Адвярнуўся, дадаў:

— Няпраўда, такі дажывём свайго.

І радасці, калі кожны дзень збіраўся ў вызвалены Мінск і нарэшце прыехаў у горад, не было канца.

— Хоць у зямлянку, абы столік прыперці льга было,— разважаў Чорны, калі яго прабавалі ўгаварыць часова ўстрымацца ад пераезду.

У апошні для яго 1944 год мы жылі на вуліцы Берсана ў суседніх пакоях. Вечарамі ён прыходзіў піць чай у мой пакой (там былі разетка і чайнік), і абавязкова з сваім кавалачкам цукру, хоць мы ўжо выходзілі з нястачы.

Працаваць яму было забаронена, думаць, каб не хвалявацца,— таксама. Для розрыўкі гулялі «ў дурня», з азартам, як і ўсё, што рабілася ім. Аднак гаварылі, і найчасцей пра будучую работу. Новы раман, вялікі, аркушаў на дзесяць, нарыс пра «Новую зямлю» Я. Коласа — вось што было ў яго на чарзе. Чорны набыў сшытак, нейкую квітанцыйную кніжку, запісаў сабе там заданні, вёў крыху дзённік. Кожны вечар ён патрабаваў ад мяне справаздачы — новых радкоў паэмы, якая пісалася тады. Калі іх не было, Чорны дакорліва ківаў галавою, і рабілася брыдка за марна страчаны дзень.

Аднойчы перад сном ён сказаў, паказваючы на галаву:

— Усе колы закруціліся,— будзе трагедыя.

Усю ноч я чуў за сцяною яго крокі. Рана пастукаў у дзверы, паголены, уважліва апрануты.

Тады ён расказаў змест новай п'есы, па актах, з прозвішчамі герояў і цікавымі падрабязнасцямі. У вайну жанчына страціла дзіця, дзяўчынка расла ў акупацыі, потым трапіла за мяжу. І вось — спатканне: родная маці і дарослая дачка сустрэліся чужымі. Яны ўваходзяць у супярэчнасці, не ведаючы пра сваё сваяцтва, і ў той жа час адчуваюць, што нешта збліжае, яднае іх. Маці любіць дзяўчыну і з тым большай страсцю змагаецца з адмоўным у яе паводзінах і ўчынках. Нарэшце, напярэдадні поўнага перавыхавання, дачка гіне, а для маці высвятляецца, хто яна. І тут ва ўсёй велічы вырастала постаць савецкай жанчыны — маці, якая ахоплена жалем па

загінуўшай і ў той жа час ведае, што рабіла ўсё ў дачыненні да яе, так як гаварыла чыстае сэрца.

Задума, здаецца, так і засталася незапісанай, не давялося нам пабачыць новы твор.

А як многа чакалася яшчэ! Узрастала майстэрства, пашыраліся далягляды, сталела думка, цвярдзела рука.

Калі думаеш аб гэтым непаўторным таленце, дык адразу ж прыходзіць імя яму — невычэрпнасць. Не тая крыніца, што, выцягваючыся ў тонкую срэбную нітку, спакойна выгінаецца па нізінах, а нястрымны паток, які выбіваецца напаверх спраміж скальнага грунту, кіпіць і шумуе, утварае вялікія рэкі і азёры, доўгія гады поячы людзей.

*1954*

## ПОШУКІ БУДУЧЫНІ

Як быццам і не было раптоўнага расстання, дзесьці зусім поруч робіць, здаецца, сваю добрую работу чалавек, да якога захоўваецца яшчэ маладая пашана за працавітасць і падзяка за навуку.

Кузьма Чорны ўмеў таварышаваць з людзьмі. Ён дапускаў іх у сэрца свабодна, праўда, крыху эгаістычна: толькі чым-небудзь цікавых яму. Не скажу, каб свядома рабілася гэта, хутчэй у сілу нявызначанай адборчай здольнасці, якая дапамагае распазнаць чалавека па першым уражанні, беспамылкова адвеяць мякіну з пачуццяў і ўспрыяццяў.

Тыя, што аднойчы ўвайшлі ў свет пісьменніка, трымаліся ўчэпіста, часамі назаўжды заставаліся там. Перш за ўсё, гэта былі людзі, якія, сваім часам, у маленстве або юнацтве ўбачыліся яму, скажам, каля вясельнага стала, на ворных палетках мілых сэрцу Цімкавіч ці поблізу іх, сустрэліся на гразкіх дарогах Случчыны — адны босыя і ў лапцях, другія — на паракonных пашарпаных ужо фаэтончыках між прысад, што значылі шлях да іх здрабнелых маёнткаў.

Усімі імі як было не даражыцца! У цішыні падакторску чыстага пісьменнікавага пакойчыка яны пачыналі новае жыццё: пераходзілі з уяўлення на паперу, надзеленыя шчодрасцю або скваппасцю, адвагай ці баязлівасцю. Але, як справа ўласных нерваў і рук, былі заўсёды блізкімі яго сэрцу.

Сябравацца з Чорным было лёгка: ён ні да чога не абавязваў, не даваў адчуць перавагі свайго ведання, дакладней сказаць — пранікнення. Не намагаўся ашаламіць і вастрынёй бачання, а галоўнае, не прыніжаючы сябе і не надужаючыся, станавіўся на ўзровень суразмоўніка: чым дыхаеш ты, тым і я.

Як ні дзіўна, у гэтым не было робленасці, падладжвання пад чый-небудзь густ. Чорны заўсёды трымаўся натуральна, і гэта ішло ад здольнасці і ўмельства разумець чалавека, пэўней, зразумець яго: учуць, што табе цікава і патрэбна, і раздзяліць тваю патрэбу і цікавасць.

Аб тым, что Чорны пасябраваў з вамі, можна было меркаваць па адной бясспрэчнай акалічнасці: вы раптоўна трацілі адчуванне часу. Слухалі яго або расказвалі самі далёка за поўнач, не робячы ніякіх высілкаў утрымаць скіўіцы ад не дужа далікатнага выяўлення нуды. Сядзелася вольна і проста.

У кожным чалавеку Чорны бачыў асноўнае, тое, што складае гэтага чалавека як асобу, з'яўляецца яго духоўным стрыжнем. Праз гэта ён неўзаметку знаходзіў шлях да пераходу на шчырасць, закранаў у істоце недаступнае і недазволенае старонняму дотыку, абуджаў патайныя галаснікі душы.

Гэта ўносіла ў сустрэчы своеасаблівую інтымнасць, незалежна ад таго, стаяў хто з ім плячо ў плячо цэлыя дзесяцігоддзі ці размаўляў упершыню. Нават у такой, самай першай, размове Чорны мог раскрыцца настолькі глыбока, што ўзнікала адчуванне: ён убачыў у вас найлепшага і прытым адзінага сябра.

Імкненне вызнаваць у чалавеку запаветнае было, бясспрэчна, перад усім патрэбаю мастака: не прапусціць нічога незаўважаным, хоць дробнай кропляю жыццёвага клёку пажывіцца для работы ўяўлення, усё роўна ад каго, сябра ці выпадковага сустрэчнага.

Не назіраць Чорны не мог. Што ж тычыцца таварышавання, дык мы паспрабавалі разабрацца вышэй. Напэўна, сэрца пісьменніка было настроена так, каб распазнаваць схільныя да яго сэрцы і адгукацца на іх голас. І гэта, хочацца думаць, ад уласцівасці больш шырокай — сугучнасці з сэрцам народа.

Перагортваючы чарнавікі і накіды, я натрапіў на адно не малой цікавасці выказванне і напачатку быў палічыў яго за Коласава. Аднак склад мовы, манера будаваць сказ хутка выкрылі сапраўднага аўтара, а затым напамянулі час і месца, дзе былі сказаны гэтыя словы:

«Я — проста няўмека. От, каб я столькі ўмеў, колькі сэрцам ведаю. А што нашы творы прыкметны, дык у гэтым час вінаваты. Ён — вялікі і з добрымі вачыма, усё заўважае».

Гэта гаварылася, калі мы дзяліліся задумамі і чыталі пачатыя творы напярэдадні пераезду Чорнага ў доўгачаканую і, як на страшэнны жыллёвы сціск першай пасляваеннай восені, добрую кватэру, адкуль ён, толькі што перабраўшыся, не выйшаў сам.

Я дзівіўся з гушчыні фарбаў, пакладзеных мастаком на побыт Скіп'ёўскага Перабродзя. Ад вачэй не адступаліся малюнкі і людзі. Тодзік Рамашка затрымлівае поўны аўтобус людзей, пакуль не выйдзе ўпадабаная «студэнтачка». Ягоны бацька, Сабастыян, у каго «не залежваліся на языку словы», прыехаў да Прыбыткоўскіх нібыта каб нараіць сродак «ад захалоду і падвяроду». Не адразу выкрылася сапраўдная мэта: засватаць за сына Ганну, дачку Прыбыткоўскіх. І сядзіць Сабастыян, не кажучы самага патрэбнага, паволі расказвае, як настойваць на мурашках спірт, як чалавек уратаваўся гэтым сродкам ад раматусу, але прывык лячыўшыся выпіваць, і перад тым, як націраць тою настойкай хворую нагу, клаў каля сябе закуску. Аднак і «ад магнасці» да такога пітва ёсць рада: трэба напаіць ласунчыка вадою з гарэлкай, «у якой шэсць тыдняў мок нежывы крот».

Усе гэтыя вясёлыя, падобныя да праўды выдумкі расказваліся, каб схіліць сэрцы прысутных — Ганніных бацькоў, Марціна і Магдалены, Мікалая з дзіўнаватым прозвішчам Разважнік і ўсяго застолля — не так да прыезджага, як да яго сына.

І заключныя радкі раздзела! Скупыя, нешматлікія, але вартыя многіх старонак. Празрыста і поўна нясуць яны смутак і весялосць, значаць няўлоўную мяжу між імі.

«Усё Скіп'ёўскае Пераброддзе і палавіна Якубавіч гуляла на вяселлі. Як толькі ў музык з аркестра якубаўскай пажарнай дружыны цэлыя асталіся шчокі? Два дні беспярастанку яны дзьмулі ў дудкі і трубы. На трэці дзень музыкі сталі ў браме і зайгралі марша. У Прыбыткоўскіх у хаце стала ціха».

Гэта ўжо рука не абы-якога майстра! А ён сам, ані не прыбядняючыся, ні трохі не падрызыкоўваючы скромнасцю, называў сябе «няўмекам»!

Усё гэта прыгадалася пры чытанні раздзелаў адной работы пра творчасць пісьменніка. Я быў накідаў уражанні, потым перагаварыў з аўтарам асабіста, а ліст застаўся недапісаны, неадасланы. Вось урыўкі з яго...

Прачытаў рукапіс. Нязгоды з Вашымі палажэннямі — гэта не значыць, што я адмаўляю вартасць напісанага,— больш, чым згоды.

За Чорнага схопяцца — і не раз! — і літаратары, і даследчыкі, і чытачы. Зараз яго работа даследуецца недаравальна мала. Здабытае пісьменнікам як майстрам амаль не выкарыстоўваецца ў творчай практыцы, калі не лічыць мовы, дый гэта робіцца некрытычна, адзінкамі, не заўсёды да месца і не заўсёды тымі, хто мог бы прадоўжыць добрую традыцыю.

Да гэтага часу літаратурная крытыка не раскрыла надзвычайна багаты падтэкст творчасці Чорнага, не ўслухалася ў тое, «аб чым ён не гаворыць, аб чым толькі думае» («Хвоі гавораць»). Адсюль дакоры, колькі іх! Невыразнасць светапогляду, натуралізм, біялагізм, пасівізм!

Усе смяротныя грахі навешваюцца на Чорнага ці, хутчэй, паўтараюцца навешаныя вульгарызатарамі ў 20-я гады.

Натуральна, светапогляд мастака складаўся не за адзін дзень. Ідэйна-мастацкі рост пісьменніка непасрэдна выказваўся ў шырыні задум, выбары больш значных тэм, у стварэнні ўсё больш глыбокіх вобра-

заў, у праўдзівасці матывіровак іхніх паводзін, нарэшце, у сталасці аўтарскай ацэнкі падзей.

Мусіць, з высвятлення ўсяго гэтага і трэба было пачынаць крытыцы. Аднак дасюль чуецца найбольш распаўсюджаны дакор — апяванне адзінокага лёсу, ізаляванасць героя ад навакольнага асяроддзя. Тым часам, той герой, каго ні вазьмі, дзядзьку Язэпа з «Хвоі гавораць», Гушку ці нават Бушмара, кожны з іх унутрана звязаны з большым за ягоны светам, і ўсе дзеянні героя абумоўлены гэтай сувяззю.

Некаторыя крытыкі з зайздроснай прастадушнасцю паўтараюць: у Чорнага няма батальных сцэн. Як быццам ад гэтага што-небудзь страцілася ў паўнаце і яркасці адлюстравання чалавека.

Вось чым мы займаемся пакрысе. А чаму ж бы не асэнсаваць, што Кузьма Чорны — першая старонка, пачатак сталасці ў беларускай прозе, а ў агульналітаратурным значэнні — з'ява першага парадку.

Вы турбуецеся аб такім асэнсаванні зараз. Гэтак і трэба. Чорны — у найвышэйшай ступені сучасная тэма для літаратуразнаўцы. Ад яе дастойнай распрацоўкі залежыць — і не абы-як — узровень і далейшы накірунак беларускай прозы, а таксама паўната адпаведнага раздзела літаратурнай навукі. Асобныя Вашы вывады здаюцца некалькі паспешнымі, не падмацаванымі як след доказамі. А можа, і не ў доказах справа, проста часамі аўтар бунтуецца, не жадае ўкладацца на падрыхтаваную пасцель, нібы адчувае ў ёй Пракрустава ложа. Прасцей кажучы, не ўсё, што сцвярджаецца Вамі, вынікае з напісанага ў К. Чорнага.

Каб праверыць і Вас і сябе, звярнуўся да аўтара, гэтага незраўнанага майстра замаруджваць дзеянне, выпукляць другараднае, загрувашчваць рэчы ўстаўнымі навеламі (а ў кожнай па зародку новага рамана!) і наогул ужываць усе магчымыя сродкі адпудзіць ад сябе чытача. Перагарнуў аповесць «Люба Лук'янская» і зноў ашаламоніўся бляскам, важкасцю, невымернасцю гэтага таленту, якому да геніяльнасці не хапіла, можа, толькі набітай рукі каго-небудзь з вынаходлівых і прабітных літаратурных рамеснікаў.

Акурат аб гэтым пісаў Н. Страхаў Дастаеўскаму (прозвішча вымавілася не выпадкова, мы яшчэ не раз успамянём яго ў далейшай размове):

«Спрытны француз або немец, май ён дзесятую долю вашага зместу, праславіўся б на абедзве паўкулі і ўвайшоў бы першаступенным свяцілам у гісторыю сусветнай літаратуры. І ўвесь сакрэт, мне здаецца, у тым, каб аслабіць творчасць, панізіць тонкасць аналізу, замест дваццаці вобразаў і сотні сцэн спыніцца на адным вобразе і дзесятку сцэн».

Тады ўсё, што распірала істоту нашага вялікага «няўмекі», што вылівалася паўз яго волю, стыхійна, хвалююча і, вельмі часта, пачварна, набыло б стройнасць закончанай будовы, якая, з прыступкі на прыступку раскрываючыся перад чытачом, на апошнім паверсе дзівіць непаўторнымі далягладамі і ўзорамі дасканаласці.

Вы разумееце, чаму я ўслед за Чорным паўтарыў «няўмеку»? У тых яго словах гучала нават не спроба дыягназу, а хутчэй горкае прызнанне агульнай бяды нашай прозы. Праз недахоп умельства яна хадзіла і пэўны час будзе хадзіць вобмацкам, пакуль не стане сапраўды прафесійнай. З кожнага з цяперашніх раманаў, якія часта чытаюцца не праз цікавасць да напісанага, а праз любоў і пашану да літаратуры наогул ці да таго, пра што размова, можна выкраіць дзве-тры цікавыя рэчы (з раманаў Чорнага выйдзе і па добрым дзесятку).

Я чытаў новы рукапіс маладога аўтара. Цікавы. І вельмі баяўся: стане яму матэрыялу на чарговую рэч? Першы твор яго ўсцешыў веданнем асяроддзя і самастойнасцю назіранняў у нашым часе. А зараз пісьменнік ўзяўся ўспамінаць юнацтва. Для літаратара да сарака гадоў гэта небяспечна: у такім узросце ён — лабараторыя больш для ўспрымання і рэалізацыі здабытага ў рэчаіснасці, чым для паўторнай перапрацоўкі назапашанага ў складах памяці.

Няўжо, думалася мне, у гэтага таленавітага чалавека пяро стала сухое, не можа зачэрпаць вільгаці з навакольнага, не здольна абагрэць душэўным цяплом успрынятае і хапаецца за агеньчык, які мігціць і здаецца павабным праз юнацкую аддаленасць?

Адчуваю, Вы зараз жа ўдарыце цяжкай артылерыяй прыкладаў з класікі, якія даводзяць адваротнае. Добра, згодзен. Вядома ж, Талстой напісаў «Мален-

ства», будучы зусім маладым. І тым не менш з'явілася «Вайна і мір».

Аднак, я маю чым адбівацца. Па-першае, каб рабіць падобныя рэчы, трэба ўсяго толькі быць Талстым. Па-другое, мая боязь, дзякуй богу, не спраўдзілася: пасля твора аб юнацтве той малады аўтар выступіў з новым, цікавейшым за ўсе папярэднія. Але гэта зусім не значыць, нібы ў яго не было ніякіх крызісных з'яў, проста іх удалося перабыць, перамагчы. У гэтага дый у таго-сяго з іншых нашых празаікаў бяда, відаць, не тая, што прыроджаная здольнасць не настолькі развіта працай і адшліфавана культурай, каб можна было саўладаць з якою ні возьмешся тэмай. Наша проза не атрымала ў спадчыну ўгноенай пакаленнямі глебы, па якой бы, без клопату, абапіраючыся на моцныя традыцыі, падымаўся ўгору гарманічна развіты талент.

Чорнаму было яшчэ цяжэй. Ён прыйшоў, калі не на голае месца, дык у кожным разе на нераскарчаванае, недагледжанае. І замест таго, каб ствараць рэчы мастацтва, быў змушан хапацца за сякеру, цярабіць хмызы, выварочваць пні, хадзіць па палосе з сошкаю, а не ездзіць на трактары. Карацей — пісьменніку даводзілася сцвярджаць нясцверджанае, брацца за няэробленае ці недавершанае папярэднікамі, аглядацца назад, класці масты перш за сабою — у створаную чалавецтвам культуру, а пасля і перад сабою — у літаратуру сённяшнюю і заўтрашнюю.

Спадзяюся, Вы не падумалі, быццам я адмаўляю грунт, які паклалі ў прозе Колас, Гартны, Гарэцкі, Бядуля. Але ў той час, калі Чорны ўзяўся за пяро, буйныя творы гэтых майстроў — раманы — былі яшчэ не напісаны.

Вось чаму і адкуль вынікла перад Чорным задача: «Нарысаваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларускага народа за часы ад знішчэння паншчыны і да нашых дзён...».

Чорны не быў гістарычным пісьменнікам, не гісторыя вабіла яго, ва ўсякім разе не часы Вітаўта ці Скарыны. Ён не мог трываць правалу, прабелу ў жыццеапісанні, мастацкай біяграфіі народа, не хацеў дапускаць месцаў неасветленых, прагнуў замацаваць адышоўшыя карціны жудаснай рэчаіснасці ў творах

мастацтва. Навошта? Ды хоць бы ў сілу таго, што гэта перажыў яго народ. Бо як жа стане зразумелай пастаць таго чалавека, які пачаў будаваць жыццё па праўдзе сярпа і молата і пабудаваў яго? Што ён, з неба зваліўся адразу такі чалавек? Не. Ён хадзіў на паўстанне з Каліноўскім, збіраў збожжа ў панскія свірны, але ж і паліў яго, баставаў на чыгунках і бровирах у 1905 годзе, рэвалюцыянізаваўся ў імперыялістычную вайну, моцна трымаў зброю ў Кастрычніку і гнаў ёю акупантаў пад час грамадзянскай і Айчыннай.

Вобразы такіх людзей не адступаліся ад Чорнага, пэўней, адзін вобраз — народа на самым складаным і цяжкім кавалку гістарычнага шляху.

Пастаўленую сабе задачу Чорны ўспрымаў як сучаснік. Многа яшчэ няволі ў свеце і многа прыгнёту на плячах у працоўнага чалавека. Вызваленне беларускага народа з царскіх і панскіх ярэм — яшчэ адна прыступка ў будыніне канчатковай свабоды чалавецтва. Значыць, трэба занатаваць навечна, як і кім быў зроблены такі крок, ад чаго і ад каго ўратаваўся беларускі чалавек, якою зброяю ён ваяваў і на які прастор выйшаў пасля канчатковай перамогі.

Кузьма Чорны сек дрэва па сабе. Была для гэтага і дасведчанасць відавочца. Хай мала, а бачыў пісьменнік царскі лад і народ пад няволяй, ведаў і людзей, якія пакаштавалі прыгону. Не напіша пра іх ён, хто ж яшчэ здолее зрабіць гэта?

І Чорны выпраўляў гістарычны пашпарт свайму герою, стаўляў на гэтым дакуменце візы пакут і барацьбы, яны дазвалялі безагаворачны ўезд у сягоняшні дзень. Трэба было па-мастацку давесці, што любімы герой заўсёды быў разумны і духоўна прыгожы, што ўладалі ім ва ўсе часы найвышэйшыя і найтанчэйшыя пачуцці, хоць яму і адмаўлялі ў праве звацца чалавекам і што-небудзь адчуваць.

Справіцца з такой задачай і стварыць эпас пачуццяў — можна толькі з дапамогай гнуткай і выразнай мовы. І ў праве на мову адмаўлялі герою, ён здабыў гэта права. Заставалася здабыць яго пісьменніку, бо лічылася ж не на жарт, што наша мова прыдатна толькі для прымітыву, для апавяданніцаў і вершыкаў

«з народнага быту» кшталтам пісаніны забытага па заслугах Пшчолкі.

І Чорны стварыў эпічную мову, натуральную ў вуснах кожнага чалавека: малое Ірынкі, хутаранца Бушмара, Міхала Тварыцкага (парабчука і дарослага), Кандрата Назарэўскага, ткача Гушкі.

Выявілася, што нашай мовай можна выразіць душэўны стан чалавека і рух вайсковых часцей, і бai, і пошум ветру, і думку, якая ператвараецца ў намер, а пасля ў дзею.

Здабыўшы такі інструмент, Чорны пачаў працаваць заложна. Перад ім была неаглядная неруш. Арацъ не перааравць! Вочы разбягаюцца! Што ні зробіш,— усё ў навіну, а самае горшае — усё добра, бо лепей ніхто з равеснікаў не ўмеў у нас.

Чорны, спяшаючыся, пачынае ствараць вобразы: хто не ведае, што сіла прозы — у яркасці і каларытнасці тыпаў. Пісьменнік высякае вобразы з каменю, лепіць з цімкавіцкіх глін, вычэсвае з дрэва, робіць бясконцыя пралікі ў выбары матэрыялу і зусім не турбуецца прывесці створаную ім галерэю ва ўзаемадзеянне. Адна задума выціскае другую, адкладаецца недапісанае, друкуецца недавершанае.

Здаецца, нястомны скульптар працуе ў накрытай небам майстэрні: растуць фігуры, эскізы, твары, сямтам з'яўляюцца групы. А хітры майстар ходзіць каля сваіх стварэнняў і пасміхаецца: «Многа вас? Будзе яшчэ больш. Сядзіце пакуль ціха. Я ведаю, якую пружыну націснуць, за які шпагат пацягнуць, каб вы пачалі гаварыць, спрачацца, любіць ці забіваць адзін аднаго. Я вывеў вас з небыцця, і ўжо відно, хто вы, адкуль узяліся. Пачакайце крыху, неўзабаве я дазволю вам паказаць, на што вы здатны».

І пажыві Чорны хоць бы і не гэтулькі, як паложана Мафусаілам літаратуры, ён бы давёў да ладу сваю гаспадарку. Даў бы рады ўсім задумам, напісаў бы завяршальны твор, куды б змясціўся і ўвесь вопыт вока і сэрца і ўся практыка папярэдняй літаратурнай работы. А тады прайшоўся б алоўкам па зробленым раней, надаў бы рух спыненым на паўкроку постацям, развязаў бы хаду іх праз жыццё.

Цяпер жа, як ні крыўдна, у яго творчасці шмат ад намеру.

Кажучы так, я сумысля завышаю крытэрыі, набліжаючы іх да аўтарскага, укладзенага ў слова «няўмека». Ды, уласна кажучы, адна мера і павінна быць для ўсяго, што называюць творамі літаратуры: мастацтва і не мастацтва. Гэтага спосабу ацэнкі прытрымліваўся і Чорны — для свае работы і ўсіх, хто працаваў поплеч. Але не будзем забывацца: намеры і задумы Чорнага каштоўныя самі па сабе і важаць больш за многія здзяйсненні.

Мая прадмова відавочна зацягнулася. Але майце цярплівасць! Вы ж, мусіць, адчулі, што я ўвесь час, гаворачы аб Чорным рэчы агульнага парадку, употай спрачаюся з Вамі. Ваша катэгарычнасць у меркаваннях аб пісьменніку як аб з'яве закончанай — паверце, праверце і не крыўдуйце! — мяжуе з міжвольным звужэннем маштабаў гэтай з'явы і, зразумела, Вашай задачы. Не лавіце мяне на слове, быццам узводжу ў канон недавершанасць. Гэта — ваш грэх: усё ў творах К. Чорнага, у сілу замілаванасці да іх, так патрэбнай даследчыку нароўні з цвярозым розумам, здаецца Вам аднолькавым па значнасці. Нават у недагаворанасці, нявыпісанасці і ў відавочных прамашках тыпізацыі Вы схільны вышукваць нейкі глыбока схаваны пісьменнікам сэнс.

Вось чаму пафас Вашых ацэнак і меркаванняў пра аповесць «Люба Лук'янская» мог быць, вядома, зніжаны. Праўда, у далейшым пачынаецца гаворка... аб схематызме ў паказе галоўных герояў рэчы.

«Люба Лук'янская» куды слабей за іншыя творы Чорнага, хоць і прылічаў ён сам аповесць да лепшых і змест яе ў памятнай запісцы аб сваіх творах вызначаў больш чым дзіўна: «Беларуская простая жанчына робіцца інтэлігенткай».

Наколькі гэтае азначэнне не пасуе да твора, будзе відаць пазней. Спярша пра некалькі момантаў кампазіцыі рэчы, вобразы і мастацкія сродкі.

Тут пісьменніку нават здраджвае такая выпрабаваная ім зброя, як гумар.

Калі ўзяць «Мураваны скляпок» — апавяданне прыкладна таго самага часу напісання,— колькі ў ім звонкага народнага гумару! І незраўнаныя слоўцы кшталтам «стаўбуней у дзеўках», і смешнавата-трагічная постаць Тоні Базылькевіча, задражненага ча-

лавека, што нарэшце распрастаўся і зазнаў добрае пачуццё. Гэта ж ён сослепу прывітаўся са сваім белым канём, назваўшы яго імем любімай жанчыны («Здарова, Насця!»).

Выпісак лепш не працягваць! Чорны абавязкова прымусіць пасмакаваць аблюбаванае ім слоўца і пацешыцца формаю сказаў, і тады пісаніны не абярэшся. А сатыру і гумар яго ўсё роўна давядзецца камунебудзь разглядаць асобна.

У «Любе Лук'янскай» толькі сям-там пракінецца іскрынка гумару, дый то грубаватая або выкарыстаная раней ці не прымацаваная ў гэтым творы і таму перанесеная ў пазнейшыя (апісанне хворасці Стафанковіча перайшло ў «Скіп'ёўскі лес»).

Аповесць без намаганняў расчляняецца на дзве. Першая — жыццё Любы ад бытавання яе ў млынара да нараджэння дзіцяці, дакладней — да ўзнікнення матчынага пачуцця, калі яна кажа: «Хлопчык мой, у тую ноч я хацела, каб ты радзіўся нежывы». Другая аповесць — пра Валю Іваноўскую, праўду сказаўшы, вобраз, як быццам задуманы не для гэтага твора, а прызначаны для пераводу ў адзін з серыі будучых раманаў.

Паспрабуйце паставіць поруч Валю і Любу і падумайце аб іх. Тады не цяжка будзе пераканацца ва ўсім, што кагадзе гаварылася. Абедзве гераіні, няма чаго казаць, намечаны вельмі цікава, але ў што яны вырастаюць? На нашых вачах адбываецца дзіўная архаізацыя пачуццяў. Валя — калі не вырасшы ў тып, дык ва ўсякім разе вельмі выразна акрэслены прадстаўнік моладзі, якая выходзіла на савецкія дарогі жыцця ў 20-я гады нашага стагоддзя. Галаднаватыя, змушаныя ўмовамі нэпа абіваць парогі бірж працы, маладыя людзі жылі непагаснаю вераю ў справу бацькоў і рабілі яе. А перабіваліся абы-як: насілі сандалі з драўляных дошчачак, хапаліся за першую, што траплялася, работу. Як Валя: арганізавала школу і знайшла для яе вучняў, каб толькі спраўдзіць мару, стаць настаўніцай і мець ад жаданай работы кавалак хлеба.

Варта ж было ёй сысціся з Сашкам Стафанковічам, як усе гэтыя чыстыя якасці душы, не сказаць, каб зніклі, але ж адышлі, саступіўшы месца нечаканаму.

Мы чытаем, што Любу «цягнула на споведзь перад многімі». За ёю і Валя пачынае адчуваць жаданне ці, як казаў Дастаеўскі, «патрэбу папакутаваць». Вось што ён пісаў, відаць, хочучы падсумаваць душэўны вопыт і абагуліць духоўны воблік сваіх герояў, а можа і пэўным чынам знайці тлумачэнне ці апраўданне іхнім паводзінам:

«...самая галоўная, самая карэнная патрэба рускага народа,— гэта патрэба пакуты, заўсёднай і няўтольнай, усюды і ва ўсім. Гэтай прагаю пакуты ён, здаецца, заражаны спакон веку. Пакутніцкі струмень праходзіць праз усю яго гісторыю, не ад надворных толькі няшчасцяў і бядот, а б'е крыніцай з самага сэрца».

Валя, грамадска актыўны чалавек, неўзаметку трапляе пад «пакутніцкі струмень». Мучыцца ад нездаволенага, натуральнага, але, на жаль, толькі *аднаго* жадання і жыццёвай мэты — мець дзіця. І трэба ж надысці жаданай хвіліне акурат тады, калі высвятляецца, што бацька будучага дзіцяці — нікчэмнасць, фальшывы герой, які да таго ж ашукаў і Любу, і не толькі не пацікавіўся лёсам ашуканай, а старанна ўнікаў сустрэчы, шкадуючы даць капейчыну на дзіця і баючыся, каб гэта як не пашкодзіла яго кар'еры.

Дзве звязаныя сяброўствам жанчыны звязваюцца да таго ж ніцямі няшчасця: маюць дзяцей ад аднаго і таго ж нягодніка, іх аднолькава ашукалі і ашукваюць.

Дзе ўжо знойдзецца шырэйшы прастор для пакуты! А калі яна «б'е крыніцай з самага сэрца», дык ператвараецца ў своеасаблівую асалоду, чалавек пачынае шукаць выпадку лішні раз «папакутаваць» і абавязкова на людзях.

Гэтак і Валя. Ведаючы ўсё пра Сашку, адпакутаваўшы ўжо сваё ў выкрываўчай гаворцы з Любаю, Валя ўсё ж вядзе яго пазнаваць фрэнч на руінах сяброўчынай хаты. І гэтага не хапае! Цягне мужа да Любы, стараючыся ні на момант не замарудзіць, каб трапіць на самы пачатак сустрэчы. Валі хочацца, «каб там народ які-небудзь быў, каб як агнём цябе пеканула». Ці трэба тлумачыць гэтае помслівае жаданне: балела мне, хай пабаліць і табе! Валя трымаецца так, што ў чытача расце пэўнасць — яна разарве з Саш-

кам. Праўда, Валя, намнажаючы пакуты, нібыта клапоціцца, «каб стаў чалавекам» Сашка. Але гэтая сучасная думка прыходзіць да жанчыны запозна, пасля ўсіх выпрабаванняў пакутай, якія яна ўжывае да мужа. І, самае галоўнае, Валіны намаганні не дасягаюць мэты: ён і не думае мучыцца і хвалявацца, яго палохае толькі выкрыццё, а значыць, страта дабрабыту і пасады.

Спадзяюся, Вы не будзеце пярэчыць, што пачуцці Валі, нашай з Вамі сучасніцы, не вельмі сучасныя. Яны архаізуюцца неправамерна, не праз якія-небудзь жыццёвыя падставы, а ў сілу прымацаванасці да літаратурнай крыніцы. Вышэй мы назвалі яе.

У гэтым галоўнае засмучэнне ад рэчы і немалая крыўда за Чорнага. Пісьменнік з амаль неверагодным запасам зачэрпанага ў жыцці матэрыялу спакусіўся знойдзеным, ступіў на сляды, хай сабе і бязмерна вялікага таленту. Ды хоць бы павёў далей ці пашырыў не ім прабітую сцежку, а то ўкалупнуў чужога пірага і не наеўся, а паграшыўся — на губах засталіся крошкі.

Пачатковыя раманы («Сястра», «Ідзі, ідзі») даносілі подых Дастаеўскага, як быццам успрынятага Чорным праз ранняга Ляонава. На гэты раз пісьменнік чэрпаў з аблюбаванай і ўпадабанай ім студні непасрэдна.

Хіба ж не ўспамінаецца Вам славутая гісторыя пра Лізавету Смярдзяшчую і яе спакушальніка? Ці не тыя ж гэта рызманы, закінутасць, адзінота? Нарэшце, выпадковая цяжарнасць і нараджэнне сына.

Дый не адну Любіну забітасць паказвае Чорны, ён прыпісвае гераіні і разумовую непаўнацэннасць гераіні Дастаеўскага, маці Смердзякова, аднаго з братоў Карамазавых.

«Адкуль жа ты сюды прыбілася?» — пытаецца Сашка і чуе: «З дарогі, што за лесам».

Прыдуркаватасць гучыць скрозь у Любіных словах на першай пары нашага знаёмства з ёю, выклікаючы непажаданыя прыгадкі аб раней створаным вобразе.

Каб скончыць гэту размову, спашлемся яшчэ раз на фінальную сцэну. Хіба гэта не жывы і не беспа-

срэдны водгук страсцей і пакут, якія кіпелі на кватэры ў Настассі Філіпаўны, калі ўсе патайныя закавулкі душ абнажваліся перад камінам, дзе вось-вось павінен быў загарэцца стотысячны пачак асігнацый, прывезены Рагожыным. І ў Любіным пакоі адбываецца раскрыццё пачуццяў, у форме, дарэчы, больш уласцівай людзям мінулага веку.

Паслухайце толькі!

Вось Любін бацька: «...плячыма да дзвярэй стаяў чалавек у вайсковым адзенні. Выцягнуўшы перад сабою рукі(!), ён трымаў у іх Любіну галаву... вайсковец дастаў з кішэні кавалак нейкай матэрыі.— Ты тады, Люба, не ўзяла была з сабою гэтага кафтаніка... А вазон твой тады так і высах... Па гэтым кафтаніку было відно, якія ў цябе тады былі вострыя плечы».

Бачыце, як элементарна нясціпла і непраўдзіва. Нібы падменена пісьменніцкая рука і піша гэта вельмі пасрэдны з сентыменталістаў.

А вось які Сашкаў бацька: «Стафанковіч стаяў, як распяты на сцяне... У гэтую хвіліну ён адчуваў сябе тут так, быццам гэтыя ўсе людзі маюць дачыненне да яго душы, якую ён і мае права тут перад імі выварочваць».

І ў гэтай сцэне прысутнічае своеасаблівы «пачак грошай» — футра, якое прынёс стары Стафанковіч. Аўтар занадта часта звяртаецца да рызманоў. Колькі разоў са смакам апісваюцца брудныя анучы, што служылі Любе за вопратку, аж пакуль яна не памылася і, астатні раз «папакутаваўшы» над смярдзючым рыззём, пераапранаецца.

Схільнасць перабіраць анучы можна дараваць беднай Любе, старому Стафанковічу. Але наколькі чужы гэты занятак Валі Іваноўскай і тым больш Лук'янскаму, які, праўда, намёкамі, але ўсё ж малюецца як палкаводзец. Тым не менш, Валі суджана праз сатлелы фрэнч дазнацца пра сапраўднае аблічча Сашкі, яна турбуецца аб лёсе старога Стафанковіча і яго футра, а «грозны камандзір» заўсёды носіць у кішэні дзіцячы кафтанік Любы!

Можна было б назваць гэта непатрэбным сантыментам, каб не аказваўся і тут успаміналы крыху вышэй «пакутніцкі струмень». Бацька страціў дачку,

яму горна, а кавалак анучыны штохвіліны нагадвае пра страту, прымушае «пакутаваць».

Зрэшты, даволі. Я зусім не збіраюся ўстанаўліваць унутранае або знешняе падабенства фінальнага эпізоду аповесці з творам Дастаеўскага. Гаворка ідзе аб агульным вобразе сцэны ў Чорнага, аб контурах і рамках, у якіх яна адбываецца. І тут памылкі не можа быць: хто б ні разгарнуў тыя старонкі, міжволі адчуе прысутнасць вялікага ценю.

Адбыўся выпадак, які можна назваць стратай уласнай формы і, быць пэўне ж, зместу. Вы не здзівіцеся, успомніўшы Гегеля: форма ў адзін і той жа час і змяшчаецца ў самім змесце і ўяўляе сабою штосьці знешняе да яго. Даруйце, цытую на памяць!

Чорны звярнуўся да Дастаеўскага па форму, аднак геній класіка перасіліў талент сучасніка. Дастаеўскі павёў пісьменніка новай пары, перад усім, за сваім зместам, а ў залежнасці ад гэтага прадыктаваў і адбор мастацкіх дэталяў і манеру пісання.

Цяпер можна перайсці да асноўнага пункту маёй нязгоды з Вамі.

Галоўныя вобразы — Люба, Валя — не зараджаны жыццёвым матэрыялам так, каб развіцца ў поўную сілу, па тым пункціры, які дадзены ў іх пачатковых характарыстыках. Адсюль і слушна заўважаны Вамі схематызм. З такой немалаважнай акалічнасці, гэта значыць, пры непаўнаце рэалістычнага паказу і непаўнацэннасці тыпізацыі, пачынаюцца заўсёды гаворкі аб інакшсказаннях, сімвалах і сімволіцы.

Не мінулі гэтага лёсу і Вы. Адсюль Ваша спроба разглядаць Любу як рэалістычны вобраз-сімвал.

Сіраціну, якой выпала горкая доля, давялося перацярпець здзек і ашуканства, а потым зазнаць радасць асветы, шчасце знойдзенай сям'і, можна, вядома, атаесамліць, як робіце Вы, з краінай, што перамерала нялёгкія шляхі да сапраўднага святла і свабоды. Можна, але ці лагічна гэта і ці патрэбна?

Вобраз-сімвал, тым больш рэалістычны, не ўзнікае адзін, ён існуе ў асяроддзі сабе падобных. Хто ж тады ў пераводзе на мову сімволікі будуць Вэня і Сашка, якія адразу рынуліся да Любы, калі яна скінула рызманы і паказалася вартаснай на мужчынскае вока істотай? А што за яны — млынар і стары Стафанко-

віч? Якім чынам растлумачыць у плане сімволікі з'яўленне дзіцяці ад нягодніка? Каго, нарэшце, загадаеце разумець пад Валяй Іваноўскай з яе так падобным да Любінага лёсам?

Настроіўшы сябе на расшыфроўку гэтых уяўных сімвалаў, лёгка ад схем пісьменніцкіх прыйсці да схем крытычных.

Ваша праўда, Чорны тут — схематычны. Трэба думаць, на гэты раз ён паспяшаўся пісаць, не будучы гатовым, унутрана сабраным.

Шырыня задумы пісьменніка патрабавала той сталасці таленту, якая прыйшла да яго пазней, з «Пошукамі будучыні» і «Скіп'ёўскім лесам». Сапраўдная філасофія твора куды шырэйшая за наўмысную падстаноўку сімвалаў пад рэальныя асобы і абставіны. І Кузьма Чорны з першай жа старонкі пастараўся паразумецца з чытачом. Асяроддзе, якое ён найбольш нечавідзеў, акрэслілася ў свядомасці, а значыць, і ў аповесці, адным словам — Камароўка. Некалі гэта быў брудны і душны, заселены мяшчанамі прыгарад дарэвалюцыйнага Мінска.

«Само паветра, якое тут стаяла,— піша Чорны,— спрыяла таму, што чалавечая душа абгортвалася карой фальшу і дробнай хітрасці. У тых людзей, якія тут жылі, і ў тых, што тут бывалі, размах жыцця быў вераб'іны. Такая была і хітрасць... часамі і пад вераб'інай хітрасцю камянела гáдаўскае сэрца, якое магло абязвечыць свайго, скажам, блізкага навек».

Пісьменніка нельга ўпікнуць у скупасці фарбаў. Ён нават не адрознівае тых, што складалі мяшчанскае кодла, ад тых, хто так ці іначай датыкаўся да гэтага асяроддзя, бачачы ў адных і ў другіх аднолькава ненавісны «вераб'іны размах» жыцця і «гадаўскае сэрца» пад «вераб'інай хітрасцю». Як мастак Чорны мяркуе: хто ўваходзіць у дачыненні з дробнымі людзьмі, сам не з буйных або неўзабаве здрабнее сэрцам. Але яшчэ больш выклік чуецца за вайной, абвешчанай Чорным мяшчанству, як саслоўю, з усёй яго грамадскай бясформеннасцю, кансерватыўнасцю і варожасцю дробнага ўласніка да новага і нязвыклага. Тут нельга не заўважыць, як моцна паўплывала на пісьменніка ленінскае абурэнне «Сухараўкай», такой

жа Камароўкай, але незраўнана большага памеру і маштабу.

Мастак замахнуўся на тую, калі можна так сказаць «агульначалавечую» катэгорыю мяшчанства духу, мяшчанства справы, што аніяк не можа звесціся, а прыжываецца на чужым соку, як амяла, і каростай успадае на арганізмы больш трывалых сацыяльных груп.

Камароўка ў аповесці — толькі пункт, адкуль зручна адштурхнуцца. Потым можна ўдарыць святлом мастацкага абагульнення па ўсіх нязмеценых рэвалюцыяй мурашніках у краіне, выкрыць шматлікія дробненькія «Камароўкі» ў чалавечай істоце і, нарэшце, збунтаваць добра ўстоеную, застыглую пад бросняй дрыгву вялізнай «Камароўкі» там на Захадзе, за недалёкай у час напісання аповесці мяжой, дзе ўжо разлягаўся іншы свет.

Мяшчанства калечыць жыццё рознымі спосабамі адносін да чалавека, у першую чаргу абыякавасцю, хамствам, падманам. Яно глухое да гора і зайздросліве да радасці, здзекуецца і кпіць з усяго недаступнага дробнаму ўразуменню: з велікадушнасці, адвагі, самаахвярнасці, высакародства. Яно душыцца за падвойнымі рамамі свайго берлагу, але наглуха замуроўвае форткі ад паветра. Яно схільна адчуваць сябе «воссю зямлі», ганарыцца ўдаванымі заслугамі, дарма што на староннія вочы няма ў ім ніякай вагі і значнасці. Яно засмечвае зямлю сквапнасцю, хцівасцю, скупасцю і гатова наталіць гэтыя тры клячы пана Багацця цаной свайго ці чужога жыцця. Нарэшце, мяшчанства зашываецца ў нару пры першым павеве небяспекі, сцелецца лістам перад мацнейшымі за сябе і не мінае выпадку патаптацца на тых, мацнейшых, калі яны выпадкам прыстануць ці аслабнуць.

Многа ёсць яшчэ іншых адзнак, па чым пазнаецца мяшчанства, як бы яно ні ўбіралася. Пэўна ж ведаў іх Кузьма Чорны, пачынаючы сваю аповесць. Але ўвагу яго прыцягнула не філістэрства, з якога так весела і злосна здзекаваўся Гейнэ, а сканцэнтраваны вобраз мяшчанства на айчыннай глебе. Такім здаўся пісьменніку ў Дастаеўскага стары Карамазаў. Не пана ўбачыў у ім Чорны, а мешчаніна, паўзучае і памаўзлівае стварэннейка, здольнае на любую подласць,

здольнае раскрыцца ва ўсёй абнажанасці тых якасцей, што мы паспрабавалі пералічыць крыху раней. І трэба аддаць справядлівасць мастаку: знайшоў у мешчаніне новыя, сучасныя выкрывальніку рысы. І знайшоў сваю, чорнаўскую, нават больш — нацыянальную — мерку для мяшчанства: вераб'іны размах і гадаўскае сэрца. Знайшлося і азначэнне — Камароўка, аднолькава трапнае, незалежна ад таго, прыкладаецца яно да мяшчанства ў местачковай ці ў сусветнай роўніцы.

І тут выказалася яшчэ адно творчае памкненне Чорнага: узбуйняць маштабы з'яў, падзей, чалавечых учынкаў. Іншымі словамі, праз тыпізацыю рассоўваць рамкі нацыянальнага, каб быць зразуметым шырэй і размаўляць з усімі моваю страсцей і дзеянняў пра сваё, самім мастаком на сваіх прасторах убачанае, вылучанае ў рад незвычайнага і ўзведзенае на ступень тыповага.

Аднак вайна з мяшчанствам, у тых памерах, як яна была задумана і абвешчана Чорным, патрабавала большых рэзерваў і больш дасканалага ўзбраення, чым меў тады пісьменнік. Ён відавочна перабольшваў незвычайную сілу, магію, ці што, слова.

Люба прачытала адрас на лісце і знайшла старога Стафанковіча. Дапамагло слова! Дык чаму ж гэтым словам не паспрабаваць вярнуць чалавечае аблічча сяброўчынаму мужу, Сашку, які быў «не работнікам, а чынам». І сапраўды, Люба гаворыць да Валі: «Заходзь з ім да мяне. Я яму раскажу сваю гісторыю, пакажу свайго сына, пакажу тое, што пра мяне пісалі, а я ж ніякай славы не дамагалася, я толькі працавала».

Гэта гучыць трагічна — Сашка ж бацька Любінага сына! — і падкрэслівае Любіну высакароднасць. Але ў дачыненні да мяшчанства трэба было ставіць мастацкаму слову задачу бязлітаснага выкрыцця.

Напэўна, слова справілася б з такою функцыяй, але будучы падпёртым сталай думкай, шырокай і прасторнай, каб мяшчанства як ненавісная і падлеглая вынішчэнню з'ява, абагульненая ў найбольш прыкметных і агідных рысах, было выстаўлена на ўсялюдскае ганьбаванне.

Задума рэчы была значная і ўладала аўтарам моц-

на. Але, відаць, Чорны пачаў аповесць яшчэ не ведаючы, як і куды пакіруе лёс герояў і паслядоўнасць падзей. І хацеў хутчэй вызваліць вобразы, хоць контурна, з паглынаўшай яго думкі, каб дазволіць ім развівацца і дзейнічаць паводле закладзенага ў кожным зародку тых ці іншых духоўных якасцей.

Як дасягнуць гэтага? Кінуўся па дапамогу да Дастаеўскага, паспрабаваў звярнуцца да моцы слова і ўсё ж задума не разгортвалася, як хацелася б, як вымагала звычайная патрабавальнасць. А калі ўбачылася па-свойму сцэна абеду ў доктара, Вэневага супрацоўніка, і ўсё ажыло: атрымалася сапраўднае развянчанне абодвух герояў. Далей пацягнулася думка, каб Сашка ў глушы ўзяўся «за сапраўдную працу». Стала ўсё непраўдзіва і літаратурна, а галоўнае, узнікла супярэчнасць з задумай. Гушчыня фарбаў на пачатку аповесці, далейшая абмалёўка Сашкі — падлюгі і кар'ерыста — не дазволяць паверыць у яго перайначанне: у чытача ніколі не ўзнікне сімпатыі да маладога Стафанковіча.

Твор дзесьці ў сярэдзіне прагнуўся, на адну сюжэтную лінію налажылася другая — з'явілася Валя, закасавала Любу: хоць ты называй аповесць — «Валя Іваноўская».

Нарабіўшы буйнейшых пралікаў, пісьменнік не зважаў на дробныя, не правіў нават відавочных недапісак. Глядзіце: у творы няма ніводнай сустрэчы, якая вынікала б з сюжэтнай неабходнасці. Ланцуг выпадковасцей цягнецца ад экспазіцыі: сустрэча Вэні і Стафанковічаў, заезд Вэні да млынара дый багата чаго.

А які няўважлівы тут Чорны да дэталей і падрабязнасцей, што дапамагаюць захаваць элементарную верагоднасць.

Сіняк у Любы на плячы набег, калі трымала падлогу ў млыне, а не сыходзіць ледзь не гады і пасля пераезду гераіні ў Мінск. У розных месцах па-рознаму Люба тлумачыць, як трапіла да млынара:

«Я выйшла разам з усімі з вагона, і ўсе пайшлі хто куды мог» (стар. 28).

«Маці памерла ў вагоне, я выйшла яе хаваць, а далей ішла пешшу па дарозе» (стар. 37).

Сашка Стафанковіч сказаў, што едзе ў «горад та-

кі самы, як і Мінск» (стар. 80). І раптам гэта «глухі раённы гарадок» (стар. 102).

Больш таго, Чорны ўжывае ў аповесці прыём, якога ён не прымаў у З. Бядулі і лічыў забароненым для сябе, а менавіта — спісваць адмоўныя персанажы са знаёмых, тых, на каго злаваў ці меў крыўду. У «Салаўі» пад прозвішчам ксяндза Курачкевіча ўгадваўся адзін выкладчык літаратуры. У «Любе Лук'янскай» Сашка Стафанковіч амаль не тоячыся спісаны з даволі «папулярнага немаведама за што» літаратара, які пакінуў ашуканую дзяўчыну на мяжы самагубства. Каб не было ў чытача памылкі, у каго ён цаляе, Чорны зрабіў сугучнымі прозвішчы прататыпа і героя і надзяліў апошняга некалькімі вельмі ж адметнымі рысамі.

Гэта — «крык аб уласных заслугах» і неадольная «прагнасць да таго, каб мець славу, але лёгкую», быць заўсёды на відавоку, «...у першым радзе тэатральных крэслаў, або за плячыма каго-небудзь большага за яго, чым аўтарытэтам ён быў асвечан у хвіліны, калі стаяў тут поблізу».

Што казаць, гэтыя дробязі можна было б і абмінуць. Аднак такія недагляды ў пісьменніка патрабавальнага і нават прыдзірлівага сведчаць: не проста яму пісалася, аб нечым большым ён думаў і дбаў, калі нават адступіўся ад пачатковай задумы. І гэта большае — прыход новага чалавека, ператварэнне Любы ў разгарнуўшую крылле асобу, немагчымае па-за межамі савецкай рэчаіснасці. Гэты працэс паказан у значнай меры праўдзіва, тут не трэба папракаць Чорнага як мастака.

Шкада толькі вось чаго. Гісторыя Любы ўражае, хоць і вельмі знаёмая яна, калі агаліць сюжэтны касцяк; кулакова наймічка, ашуканая чалавекам без сумлення, прыйшла ў горад, навучылася грамаце, выгадавала дзіця, стала добрым і прыкметным чалавекам. Аднак гэта гісторыя магла б узляцець на ўзровень наддарожных зорак літаратуры, набудзь станоўчы вобраз такую яркасць, стань ён настолькі дзейсным, каб не толькі скінуць з дарогі Вэню і Стафанковіча і тым самым мяшчанства, якое яны ўвасабляюць, а ператварыцца ў вобраз часу, калі хочаце, у сімвал непераможнасці яго.

Глядзіце! Млынар і Вэня, здаецца, выхаплены з самай гушчы тагачаснага жыцця, так яны пераканаўча гавораць і робяць усё па загаду іх «гадаўскага сэрца», што — дазволь толькі! — устануць са старонкі і пачнуць сварыцца грубымі сіплымі галасамі.

А Люба і тым больш Валя? Ці паводзіны і ўчынкі гераінь прымушаюць іх так выразна паўставаць перад нашым зрокам? Ці высвятляе іх характары ўкладзеная ў іхнія вусны мова?

Сапраўды, была-была Валя добрай дзяўчынай з пачатковай пары савецкага ладу, а сустрэлася выпрабаванне — пачала дзейнічаць і адчуваць — «пакутаваць», як яе прабабкі, да таго ж апісаныя ў іншых творах.

Вось наша размова і пры канцы...

У памятнай запісцы Чорны назваў апавяданне «Хвоі гавораць» гімнам маладосці. Чаму іменна гэту рэч, дзе як быццам невідочна пануе ўлада смерці?

Услухаемся ў Чорнага.

Дзядзька Язэп маўчыць, «бунт у ім схаваны ў глыбіні». Перш за ўсё гэта бунт супраць смерці як крыўднай недарэчнасці, якая адабрала ў яго сына. Язэпаў бунт паджыўляюць дзяўчаты, якія «залiваюцца слаўным срабрыстым смехам», і камсамольцы, якія моцна спяваюць, каб падражніць папа, у чыім доме зараз клуб. Там хлопцы чытаюць Дарвіна, і галасы іх абуджаюць думкі: «Гэта прэлюдыі да будучай індустрыяльнай вайны з прыродай» (можа і не прароцтва, але нядрэнна зірнута з 20-х гадоў у наш час).

Але Язэп прыгнечан смерцю блізкага чалавека і настроен філасафічна. Раўнівае пачуццё апавядальніка не згаджаецца, што стары абыякава ставіцца да шэптаў пары на недалёкай прызбе, «...як бы гэта Дося яму не дачка, а студэнт не малады хлопец, а якаянебудзь танная істужка, што выпадкова і без ніякіх слядоў пасля сябе абнімае Досіну шыю».

І як быццам знарок, каб паглыбіць смутак Язэпа, прыходзіць сусед з просьбай зрабіць яго жонцы труну.

Назаўтра майстры, габлюючы дошкі, выпіваюць па кроплі і ядуць, што там мог падкінуць на пачастунак заўдавеўшы гаспадар. Гэта не паўтор славутага апавядання, дзе расказваецца, як сялянка, пахаваўшы сына, есць капусту, бо яна «пасоленая». Там праз подых страшэннай беднасці чуецца пакора перад смерцю, тут — жыве жыццесцвярджэнне і бунт супраць адвечнай неабходнасці.

Яны ўсе — моцныя жыццялюбы, гэтыя майстры, у тым ліку і дзядзька Язэп. Майструючы чалавеку бязвокную «хату», драўляны кажух, як гаварыў Якуб Колас, пры гэтай самай цяжкой, не фізічна, вядома, рабоце, сталяры не толькі праводзяць адышоўшага чалавека чаркай, а яшчэ і пяюць яму ў апошнюю дарогу:

А там беглі-грукацелі
Залатыя-вараныя...

Мы не раз слухалі, як над дарагім нам нябожчыкам спявалі рэквіем і арыі ці песні з тых, што найбольш падабаў ён жывучы. І ўсё ж не адразу паверылі ў праўду кінематографа, пачуўшы, як спевы ўварваліся да смяротнага ложа маладога Балконскага.

Праўдзе літаратуры ў гэтым выпадку верыш без ваганняў. Дарма, што песня гучыць не ў жалобнаўрачыстай зале, а ў халаднаватым гумне, дзе поўна стружак, на тварах у людзей пілавінне і рукі ў іх запэцканы смалою. Яны робяць работу, смутную і горкую, але работу, без яе немагчыма далейшае жыццё. Пры рабоце заўсёды пяюць: лягчэй працуецца дый сэрцу лягчэй, не так апаноўваюць благія думкі. А што спяваюць не дыпламаваныя выканаўцы на падмостках, а звычайныя сяляне, стоячы босымі нагамі на гліняным таку, гэта толькі сведчыць аб тонкасці іхніх душ і глыбіні перажыванняў.

Тут Чорны намацвае грунт, дзе ўзрасталі народныя трагедыі, узор якіх нам падараваў Шаўчэнка ў «Гайдамаках». Там, відаць упершыню ў сусветнай літаратуры, пахаванне трактуецца як работа. Гэта трагічна, але яшчэ ў большай меры жыццесцвярджальна.

Гора дзядзькі Язэпа пасля надтруннай песні сталяроў знайшло выхад у слязах, і ён ужо суцяшае апа-

вядальніка, які кахае Досю, іранічна зазначаючы: «колькі яе ёсць, гэтай дзяўчыны». Язэп мае сілу на жарт і на параду, як быць з гэтым каханнем, як адсунуць убок студэнта: «адсадзі яго к чорту — і справе канец».

Вось, па-мойму, у чым сэнс заўвагі пісьменніка пра адно з сваіх пачатковых апавяданняў: гімн маладосці. Я дадаў бы: маладосці душы і чалавеку. Адсюль жа пачынаецца няспынная хада ў будучае, шуканне яго для сваіх герояў і для сябе.

У гэтым непадуладная зменам часу каштоўнасць твораў Чорнага.

*1963—1964*

## ВОБРАЗ ЮНАКА

Мінаюць гады, сціраюцца ў памяці падзеі і твары, а гэты вось такі ж жывы, як быццам толькі ўчора, пасля позняга студэнцкага сходу, развіталіся і пайшлі: ён — на Шырокую, а я далей, па Пралетарскай.

Дваццаць гадоў назад, як толькі пачалося навучанне, у Мінскім педагагічным тэхнікуме быў вечар. Пасля ўрачыстай часткі спяваў студэнцкі хор. Галасы былі чыстыя, маладыя, глыбокія, і народная песня гучала нейк асабліва празрыста. Тады, з групы мужчынскіх галасоў, на квяцістым фоне рознакаляровых вышыванак, выйшаў хлопец з буйнымі рысамі твару і кучаравымі валасамі. Ён трохі своеасабліва вымаўляў «р», але гэта не толькі не вàдзіла, а рабіла чытанне яшчэ прыемнейшым. Тое, што ён чытаў, гучала вельмі проста, але глыбока ўзрушвала і хвалявала. Яго вершы былі працягам тае ж слаўнай песні, што толькі паспела адгучаць над заціхшай залай. І слухачы правялі паэта доўгімі гучнымі воплескамі.

Гэта быў Паўлюк Трус.

Тады ў тэхнікуме пісалася вельмі многа вершаў. Народны паэт Беларусі Якуб Колас выкладаў на старэйшых курсах і заўсёды чула прыслухоўваўся да свежых паэтычных галасоў. Цікавасць да літаратуры была вялікая. Кожнае суботы наладжваліся вечары з пастаноўкаю п'ес і абавязковай літаратурнай часткай. Там апрача Паўлюка Труса выступалі паэты, якія таксама вучыліся ў тэхнікуме. На вечары збіралася студэнцтва з другіх навучальных устаноў. Найбольшым поспехам карыстаўся Трус, у якім студэнцтва любіла не толькі паэта, але і шчырага чалавека, простага ў абыходжанні, гатовага заўсёды падзяліцца капейкаю, падарыць сшытак, даць кнігу.

Да Труса прыцягвала народная крылатасць яго паэзіі. Ён не застаўся вольным ад уплываў моднага ў той час імажынізму, але гэтае ўздзеянне хутка абтрэслася, занадта ж чужароднае было яно і не пасавала да духоўнага складу паэта.

Паўлюк часта перачытваў Купалу, Шаўчэнку, Пушкіна і лічыў іх сваімі першымі і найлепшымі настаўнікамі. А больш за ўсё любіў ён народныя песні, ведаў іх на памяць, запісваў новыя, ахвотна спяваў, бо меў добры слых і голас — мяккі прыемны барытон. Да сканчэння тэхнікума ён быў удзельнікам студэнцкага хору і да спевак і выступленняў хору адносіўся таксама ўважліва, як і да свае літаратурнае работы.

Жылі мы дружна і весела. На Савецкай вуліцы, насупроць электрастанцыі змяшчаўся студэнцкі інтэрнат. Кожны вечар, сабраўшыся, чыталі мы ўлюбёных паэтаў, гаварылі, спрачаліся, пераходзілі на свае вершы і часта ахамяналіся, калі за вокнамі стаяла раніца, а часу заставалася, толькі каб памыцца ды паспець на першую лекцыю.

Трус тады супрацоўнічаў ва ўсіх мінскіх выданнях. Але найбольш жаданым госцем быў у газеце «Беларуская вёска». Там ён друкаваўся з нумару ў нумар і ахвотна пісаў на тэмы селькораўскіх допісаў. Ён быў вялікі майстар на востры агітацыйны верш, на прыпеўку, на апісанне смешных прыгод і здарэнняў. Гумар у Труса, як і ўся яго творчасць, быў трапны і народны.

На жаль, цяпер, мабыць, назаўсёды страчаны матэрыялы тэхнікумаўскае вуснае газеты «Чырвоны прамень». Ствараў гэтую газету папулярны ў студэнцкіх колах «Калектыў шаўцоў»: Трус, Глебка і я. Пісалі мы пра нашыя студэнцкія справы часамі вельмі востра і падпісваць сваё прозвішча было не заўсёды зручна. Аднойчы, перабраўшы сотні псеўданімаў, Трус падпісаў допіс мянушкаю «Шавец». Гэта ўпадабалася, і так з'явіліся «Шавец № 1», № 2 і № 3. Пасля мы аб'ядналіся, і ўсё напісанае паасобку выдавалі за агульнае, падпісваючы «Калектыў шаўцоў». Часта мы працавалі разам, выкарыстоўваючы формы раешніка і прыпеўкі.

Тут мне давялося пабачыць, як уважліва ставіўся Паўлюк Трус да слова і работы над ім. Не зважаючы на тое, што газета наша жыла толькі адну гадзіну, дый то вусна, ён даводзіў радкі да самага строгага гучання, да поўнае суладжанасці зместу з формай.

У выніку гэтага наша газета мела поспех і даволі

шырокую вядомасць. «Чырвоны прамень» заўсёды быў асяродкам нашых вечарын, і студэнты асцерагаліся трапіць на зубы «Калектыву шаўцоў». Яны ўважалі за лепшае атрымаць вымову ад дырэктара ці папярэджанне студэнцкіх арганізацый.

Вясною 1927 года Трус скончыў тэхнікум і працаваў у газеце «Палеская праўда». Ад'язджаючы, ён даў майму курсу абяцанне прыехаць на выпускны вечар. Да гэтага дня дзяўчаты вышылі яму ружамі прыгожую кашулю, ён выстараўся нейкі асаблівы пояс і з'явіўся дакладна ў тэрмін. Без папярэдніх спевак зноў далучыўся да нашага хору, чытаў новыя свае вершы і нават паспеў штосьці напісаць у газету. Да раніцы заставаліся мы ў сценах тэхнікума, пераспявалі ўсё, што ведалі, шмат перагаварылі, развітваючыся перад пачаткам самастойнага выхаду ў свет.

Год работы на раёне ўзбагаціў яго ўражаннямі, Трус творча ўзмацнеў і падоўгу расказваў аб сваіх новых планах.

Здавалася, што Трус пісаў заўсёды, не даючы сабе адпачынку. Ці раз, бывала, у перапынках ад званка да званка ён прачытваў дзесятку першых выпадковых слухачоў толькі што напісаны верш. Наогул да друкавання ён знаёміў з новымі вершамі добрую сотню чалавек. Цярпліва выслухваў заўвагі і чула адносіўся да іх. Пісаў ён адкрыта, чытаў варыянты, нават вершы з недакончанымі страфамі. І кожны новы верш мы страчалі з радасцю і здзіўленнем ад свежасці гэтага буйнога і непасрэднага таленту. Часамі здавалася, што ўвесь паэт — адна пявучая стыхія, а тое, што ён аддае чытачам і слухачам сваім,— толькі маленькія кроплі гэтай стыхіі, адшліфаваныя ў самацветы.

Мне не давялося быць на пахаванні Паўлюка. Ён быў хвараваты, калі мы адвітваліся пры маім ад'ездзе, а праз некалькі дзён у рэдакцыю гомельскай газеты прыйшла сумная навіна. Але столькі было ў гэтым чалавеку жыцця і сілы, што вестка аб смерці яго здалася неверагоднай. Толькі прыехаўшы ў Мінск, я паверыў — пабачыў у Доме пісьменніка партрэт нябожчыка ў жалобных істужках, а на вайсковых могілках жаўцеў курганок, засыпаны асеннімі астрамі, кветкамі, якія ён вельмі любіў.

Сёлета, пераглядаючы партызанскі друк, я ўбачыў на старонках аднаго з часопісаў вершы Паўлюка Труса. Слова паэта жыве!

*1944*

2

Невысокі хлопец падышоў да трыбуны, палажыў на яе моцную, загарэлую руку і, не спяшаючыся, пачаў чытаць верш. У зале, што крыху прытамілася ад гарачых прамоў, раптам сціхла гамана. З радоў выпырхнуў смех, добры спадарожнік увагі.

Мы слухалі вельмі простыя радкі, яшчэ не верш, а нейкі своеасаблівы пераказ чутага і бачанага. Хлопец чытаў пра нядбайных гаспадарнікаў, пра тое, як у калгасе агінаюцца гультаі. Няхітрыя падзеі і здарэнні былі закрашаны народным гумарам, адчувалася, што аўтар ведае смак і толк у слове і стараецца паставіць яго на самае патрэбнае месца.

Гэта было ў Чырвонай Слабадзе летам 1959 года.

Я глядзеў на чытальніка і ўспамінаў, дзе сустракаліся гэтыя вясёлыя вочы, так шырока расплюшчаныя на жыццё і яго скарбы?

Адкуль вядома гэтая непасрэднасць, нават радасць, што вось мае словы так складна злучаюцца ў радкі ды яшчэ змацоўваюцца рыфмай? Знаёмая, нарэшце, была і манера трымацца перад аўдыторыяй, не адчуваць яе, а нібы працягваць цікавую размову з добрым сябрам.

Але на сцэне стаяў упершыню ўбачаны малады калгаснік з неастыўшым ад засеўнага ветру тварам. Не сказаць, каб ён быў прапахшы зямлёй, але абаяльнасць працы на зямлі і неадрыўнасць ад яе нібы выпраменьваліся ад гэтага чалавека і неадольна гарнулі да яго.

Тады памяць пасвяціла ліхтарыкам у далёкую маладосць і выхапіла постаць таго, хто абудзіў усе гэтыя пачуцці і прыгадкі.

Паўлюк Трус якраз і быў моцны неадлучнасцю ад зямлі. І так надзейна, так хораша стаяў на ёй, што часамі здавалася: вось малады дубок, як ні руш — не зрушыш, глыбока ў родную глебу ўрасло карэнне.

Непасрэднасць пачуцця, цэльнасць, хутчэй — цалiннасць натуры пераходзiлi ў вершы. Уласна кажучы, яны i складалi самую сутнасць Трусавай паэзii. Гэта забяспечвала яму нязменнае пяршынства ў маладых паэтычных турнiрах — выступленнях перад чытачамi. Перамога была за iм, нават калi прысутнiчалi паэты, якiя ўжо «хадзiлi ў мэтрах» цi, прынамсi, так думалi пра сябе самi.

Чытаў Трус — самае простае, я не сказаў бы — лепшае, з напiсанага iм. На першых часах нашага сяброўства гэта быў верш «На сенажацi» i невялiчкая паэма «Астрожнiк». Пазней ён перайшоў да асобных раздзелаў з «Сiраты Алесi» i з «Дзесятага падмурка».

Вершаў пра каханне — а iх было ў Труса цi мала — ён лiчыў за лепшае перад аўдыторыяй не чытаць. Не рабiў выключэння i для нас, сяброў i паэтычных аднагодкаў. У лепшым выпадку казаў: «Глянь!», падсоўваў чыста перабелены цвёрдым чытэльным почыркам аркушык i адыходзiў убок. Здалёк сачыў за выразам твару чытальнiка, потым падыходзiў, моўчкi забiраў верш i стараўся павесцi размову на iншае.

Саромеўся ён тых сваiх вершаў! Аднойчы прызнаўся ў гэтым. Я сказаў, што дарма не чытае iх, знайшлi б добры водгук у моладзi.

Паўлюк нават зазлаваў:

— Не чытаю i не буду чытаць! Як гэта: сёння пацалаваўся, а заўтра разбрахаў па ўсiм свеце?

Аднак уся моладзь Мiнскага педтэхнiкума i без растлумачэнняў добра ведала не толькi, на якiм курсе вучыцца таямнiчая М., прадмет найбольшай колькасцi паэтычных уздыханняў, але калi i на якую карцiну яна хадзiла цi збiраецца пайсцi з Паўлюком. «Камсамолка Нiна» з яго вершаў была таксама нашай сяброўкай.

Дзяўчаты, не ў прыклад Трусу, былi зусiм не схiльны рабiць сакрэт з ягонага захаплення: i ўвага паэта i вершы iм надзвычай iмпанавалi.

Прысвячэнняў было шмат, пачуццё, як i заўсёды, адно. Калi яно прыйшло, у Труса нават змянiўся вобраз краiны: замест васiльковых вачэй i светлых кос, амаль што стандартных ва ўсiх тагачасных вершах аб Беларусi, з'яўляецца «яе валос чарнявы

шоўк». А потым пачынаюць расці горкія для Труса, а наогул падобныя да раманса [illegible]ндбайна перакладзенага Ясеніна радкі:

Дарагая мая, дарагая,
Кволых слюў не шукай для душы!
Для мяне ты сягоння чужая,
Я таксама па-свойму чужы.

Такія радкі лёгка можна знайсці ў шмат каго з Трусавых паэтычных паплечнікаў, дзе хто нават зарабляў вядомасць на багемным надрыве. Для Труса гэта было неарганічна, а таму і не кранала, не пераконвала.

Затое, калі першы боль па страчаным каханні крыху суняўся, з вершаў дыхнула тым мудрым спакоем народнай песні, пад якім не гасне памяць сэрца, бо за ёю стаіць і ніколі не адступіцца турбота сэрца:

Павей, вецер, з-за дубровы,
А я ўспомню чорны бровы,
Чорны бровы, ясны вочы.
Павей, вецер, апаўночы.

Зараз, відаць, не час раскрываць імёны і прозвішчы. А каб нават і можна было? Усё роўна нічога не зменіш і не паправіш!

Для чытача засталіся светлыя і сумныя радкі аб нешчаслівым каханні паэта. Можа хто знойдзе стары часопіс і ўсміхнецца з дакораў тагачаснага ўплывовага крытыка: «Трэба адзначыць вялікі ўхіл Паўлюка Труса ў бок любоўных тэм. Гэта — нездаровае з'яўшча. Мы б раілі даць больш увагі тэмам аб праламленні ў вёсцы Кастрычнікавай рэвалюцыі і яе вынікаў...»

Тут Паўлюка няма за што дакараць. Яго паэзія — уся ў паслякастрычніцкай беларускай вёсцы. Не зважаючы на даволі абстрактную стылістыку: «вір маладога», «сусвет вольна-новы», па вершах Труса адразу пазнаецца, адкуль яны ўзніклі, дзе жывуць, куды імкнуцца. Хто ж іншы мог напісаць іх, як не камсамолец беларускай вёскі 20-х гадоў, што наступаў за адным захадам на бога, трохполку, непісьменнасць, кулака і агітаваў за калектыў, школу, лазню, новы быт? Ён бясконца захоплены перамогай Кастрычніка, не можа нацешыцца з прыжданай свабоды, нат-

хнёна пяе пра гэта і пра рэвалюцыю ў сусвеце, хай сабе трохі спрошчана ўяўляючы, што яна недзе вось тут, не далей як за вясковымі весніцамі.

Паэзія П. Труса перахавала для нас — не ведаю, як надоўга — вобраз такога юнака. Яго лірычны маналог аб мінулым і будучым свае краіны мы прачыталі ў паэме «Дзесяты падмурак».

Вобраз калгаснага юнака, маладога чалавека 60-х гадоў, нёс перш за ўсё ў сабе самім і той чырвонаслабодскі хлопец, першыя вершаваныя спробы якога так жыва напамянулі пра Труса.

Мне давялося пабачыць Паўлюкову вёску і самога Паўлюка ў гэтай вёсцы.

Восенню 1928 года, пагасціўшы ў мяне на Случчыне, мы з сябрам рушылі пеша назад у сталіцу на Капыль і Пясочнае.

Перайшлі, падкасаўшыся крыху, Нёман, які выбіраецца адтуль у далёкую і слаўную дарогу, і неўзабаве трапілі ў Нізок.

Трус быў дома, сядзеў у сенцах над сшыткам. Ён узрадаваўся, але не так шумна і весела, як гэта бывала падчас ранейшых сустрэч.

Адпачыўшы, падвечар, мы выправіліся ў лес па арэхі. І колькі ні сустракалася людзей, кожны даваў Паўлюку «дзеньдобры», хвіліну прыстойваў каля яго або проста падкідаў ветлае слова.

Ён хмурнеў яшчэ больш.

— Шкадуюць мяне! — сказаў, калі мы ўвайшлі ў арэшнік.

Лісце засланіла яго, мы не маглі бачыць вачэй, але ў ломкім голасе чуліся слёзы. Паўлюкова маці хварэла на сухоты і — ён ведаў гэта — даходжвала апошнія дні.

Трус не паехаў з намі ў Мінск, як дамаўляліся, хоць туды трэ было патрапіць загадзя: у нас пачынаўся першы універсітэцкі год. Мы разумелі: хацеў яшчэ крыху пабыць каля хворай.

Успаміны пра Труса парасparушваліся па розных месцах: ёсць крыху ў маёй аўтабіяграфіі, у артыкулах пра Янку Купалу і Кузьму Чорнага.

Так найбольш і ўспамінаецца ён: поруч з Чорным. Можа таму, што жылі яны некаторы час на адной вуліцы і, ідучы да Паўлюка, нельга было абмінуць

Кузьму. Калі ж хто-небудзь умудраўся ўсё ж зрабіць гэта, каб не парушаць Чорнаму рабочага рэжыму, ён назаўтра жартліва прабіраў неслухаў, выдумляючы абставіны і выдаючы сябе за заможнага шляхціца.

— І якія гэта, проша пана, два герцы ў бліскучых ботах сунуліся на пары коней па маёй вуліцы? — пачынаў Чорны.— І едуць, пане мой, паўз мае вокны, а што б зайсці? Што ў мяне самагонка скісла, ці што? Дык не, пруцца да таго панка Трусецкага, быццам там ліха ведае якіх смачкаў нагатавана. А што той Трусецкі? Звычайны хутаранец! Дзве валокі зямлі. Усяго толькі тры япручкі на год б'е. О, хіба дзеўка на выданні! А за гэтых дзевак герцы ў бліскучых ботах гатовы, пане мой, сэрца раскалоць.

Далей Чорны не вытрымліваў, бо сам «Трусецкі» і яго госць рагаталі з рызыкай вывіхнуць сківіцы.

— На міравую,— казаў Чорны,— сходзім, хлопцы, на Пата і Паташона.

Прапанову Паўлюк прымаў з радасцю, ён любіў гэтых артыстаў і быў ахвотнік пасмяяцца.

Трус кватараваў у свайго дзядзькі — шаўца па прафесіі. Адсюль бярэ пачатак наш агульны псеўданім: «Калектыў шаўцоў». Насупраць вузенькага жалезнага ложка са злямчаным саламяным сеннікам, дзе спаў Паўлюк, пры акне стаяў дзядзькаў шавецкі варштат. Каля другога акна, якое глядзела на паркан ваеннага шпіталя, прыпіраўся на маленькім століку Паўлюк з рукапісамі. За фанернай пераборкай змяшчалася дзядзькава сям'я.

Працаваць не было як і не было дзе. Калі Трусу прапанавалі лепшы пакой, ён махаў рукою:

— Дзядзьку без мяне будзе цяжка, не пражыве ён са сваё работы.

І праседжваў ночы ў душным, наскрозь пракураным пакойчыку.

Прыроджаная далікатнасць і папярэдлівасць вызначала паводзіны Труса, абыходжанне з сябрамі, таварышамі па вучобе. Студэнты любілі яго. Як і ў роднай вёсцы, у калідоры тэхнікума ніхто не мінаў Паўлюка не павітаўшыся, не загаварыўшы, не запрапанаваўшы, скажам, папяросы ці — гэта часцей бывала — не пачаставаўшыся з яго нага пачка.

Сказаць, што Паўлюк плаціў людзям за добрыя адносіны тым жа, будзе мала. Гэта яго любоў да людзей выклікала ў іх адказнае пачуццё.

У маладосці людзей майго веку Паўлюк Трус быў першым расстаннем. Да яго адыходу мы яшчэ не трацілі сяброў. Дакранацца да гэтай страты і дасюль цяжка. І калі з маладога гурту вылеціць раскоцісты, гучны смех або дзе пачуеш крыху картавую мову, так і закарціць азірнуцца: пэўна ж, ён там! Прысадзісты хлопец у неадменнай талстоўцы і галіфэ. Капа — іначай не скажаш на столькі багацця! — кучаравых каштанавых валасоў і пад імі вельмі звычайнае, нібы высечанае з дубу аблічча...

*1964*

## ЛЁС ПІСЬМЕННІКА І ТВОРА

Перад самым Новым, 1963 годам на мой стол трапілі дзве кнігі. Лёс іх, як і лёс іхніх аўтараў, цяжкі і складаны, да таго ж і падобны ва ўсім, аж да заўчаснай смерці. Але кнігі, павыцвітаўшы і пакарабаціўшыся ў схованках, ажылі...

Аўтар першай з гэтых кніг — «Виленский Совет Рабочих Депутатов», выпушчанай у 1920 годзе за № 10 пад грыфам і ў выдавецтве ЦК Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі,— ніхто іншы, як старэйшы літоўскі камуніст, старшыня Савета, аб якім напісана брашура, З. Алекса-Ангарэціс (Антановіч). Адначасна ён з'яўляецца героем другой кнігі, прысвечанай той самай рэвалюцыйнай падзеі, рамана «Віленскія камунары», які належыць пяру аднаго з пачынальнікаў нашай літаратуры, буйнога майстра прозы Максіма Гарэцкага.

Дзіўны лёс сустракае чалавека ў яго падарожжы па прасторы часу! Сягоння даводзіцца рэкамендаваць чытачу таго, хто сам многа гадоў выконваў нялёгкі абавязак — знаёміць усіх з літаратурай і літаратарамі беларускай зямлі. А менавіта Максім Гарэцкі першы давёў, што наш народ мае літаратуру, а ў гэтай літаратуры ёсць немаленькая гісторыя.

Гэта бясспрэчная заслуга Максіма Гарэцкага, тым большая, што рабіў ён сваю работу па цаліне: сам расшукваў з'явы і сам жа сістэматызаваў, асэнсоўваў і, нарэшце, ацэньваў іх. Яго «Гісторыя беларускай літаратуры» вытрымала чатыры выданні і блізка дзесяцігоддзя не сыходзіла з школьных лавак і студэнцкіх сталоў. Напэўна ж, у кнізе не ўсё так, як хацелася б, як бачыцца нам зараз. Не будзем крыўдаваць на гэта і пастараемся паглядзець на рэчы гістарычна. Хіба ж меў даследчык, працуючы больш за сорак год назад, сучасны, створаны савецкай навукай інструментарый, прыёмы і метады даследавання? Асноўны касцяк кнігі фармаваўся ў той час, калі Гарэцкі быў адарваны ад савецкай рэчаіснасці, перажываў цяжкасці ва ўсталяванні светапогляду, што не магло не

адгукнуцца ў некаторых меркаваннях і ацэнках, а таксама і ў мастацкай практыцы пісьменніка. Што ж датычыць дакладнасці дат, біяграфічных і бібліяграфічных дадзеных, магчымай на той час паўнаты ахопу з'яў і фактаў, дык «Гісторыя...» Гарэцкага — вельмі сур'ёзная, вартая даверу крыніца.

І яшчэ адна акалічнасць вылучае згаданую работу: яна напісана вельмі проста — прачытаў старонку і адразу ж запомніў.

Гэта ўжо заслуга Гарэцкага-пісьменніка, ён умеў падаваць думку лаканічна і даходліва, меў невычэрпны лексічны матэрыял і па-майстэрску валодаў народнай фразеалогіяй. Як ні шкада, але бессаронні твар гісторыка засланіў ад многіх з нас жывое, своеасаблівае, багатае на адценні аблічча мастака.

Першыя празаічныя спробы Гарэцкага прыкмеціў і паставіўся да іх з надзеяй вялікі паэт, крытык бездакорнага густу, Максім Багдановіч (Творы, т. II. Мінск, 1928, стар. 34). Я. Ф. Карскі знаходзіў у творах маладога Гарэцкага «ўсе дадзеныя, каб з аўтара з часам развіўся добры пісьменнік з самародным талентам» (Беларусы, т. III, в. 3, стар. 373). Са здзіўленнем сталага мастака прыглядаўся Якуб Колас да майстэрства пісьменніка рабіць пры апісанні з'явы і рэчы як бы адчувальнымі навобмацак («Полымя», 1962, № 12, стар. 135).

Тры такія сведчанні — важаць больш за прызнанне. Таму цяжка паверыць, што зусім нядаўна аб Гарэцкім пісалася так пагардліва і паблажліва: «Аднак некаторыя яго апавяданні маюць пазнавальнае значэнне і ўяўляюць пэўную цікавасць».

Чаго тут больш: зняважы да нашай добрай спадчыны ці глухаты, хочацца думаць — выпадковай, да мастацкага слова? Можна было б не закранаць гэты артыкул, але, на жаль, ён з'яўляецца прадмовай, а прадмовы, як вядома, прыкладаюцца да кніг (М. Гарэцкі. Выбранае. Мінск, 1960).

Можа быць, яшчэ рана вымагаць сталых і пэўных меркаванняў аб творчасці Максіма Гарэцкага. Біяграфія яго пакуль што яшчэ не напісана. Спадчына пісьменніка сабрана далёка не поўнасцю, вывучана не настолькі, каб можна было ажыццявіць больш-менш саліднае выданне з прыстойнымі каментарыямі

па тэксту, мове і фразеалогіі, выданне, ачышчанае ад напластавання друкарскіх і рэдактарскіх памылак. Словам, трэба прызнацца ў гэтым шчыра, мы, у першую чаргу літаратары, літаратуразнаўцы і мовазнаўцы, як след яшчэ не прачыталі Гарэцкага. А пара б! Пара ўзбагаціць літаратуру і саміх сябе ды перадаць яго творы чытачу са справядлівай ацэнкай іх, фактаў літаратуры, цвяроза суаднесеных да часу стварэння і часу новага прачытання [1].

Максім Гарэцкі — мастак вялікага і «самароднага таленту» (Карскі), не падобнага ні на чый іншы ў беларускай літаратуры, становіцца на сваё заслужанае, але так і не здабытае пры жыцці месца. Відаць, больш дакладна: не становіцца на сваё месца, а вяртаецца на яго, дый здабыта гэта месца ўсё ж ім самім, пры жыцці, толькі што не ўдалося аўтару пацешыцца з плёну, розгаласу, з прызнання свае работы.

Наогул жа гаворка пра месца мае на ўвазе не абавязковае ўпамінанне слаўнага імені ў залатой пяцёрцы заснавальнікаў. Гарэцкі ніколі не выключаўся з яе, хоць і засланяўся на больш ці менш час неспрыяльнымі акалічнасцямі. Справа ідзе пра пашырэнне творчасці мастака са здабытку адзінак на шырокія чалавецкія абсягі, бо Гарэцкі адкрыў свайго суайчынніка і духоўны скарб, што ў беларусе ёсць, з новай, не пачэпанай нікім роўніцы, скарб такі, з чым не толькі не сорамна, а, наадварот, належыць выходзіць на вочы ўсялюдскія. Бо пасля прылучэння да сябе людскіх постацей, залітых роўным і скупым святлом магілёўскіх прастораў, людзей, сціплых па стану і велічных па духу, высакародству і шчыраван-

---

[1] Не так і шмат мінула часу ад напісання гэтага артыкула і друкавання не цалкам, праўда, а часопіснага варыянта ў выглядзе прадмовы да «Віленскіх камунараў» («Лёс пісьменніка і твора». «Полымя», 1963, № 3), да рускага («Виленские коммунары». Москва, 1966) і да літоўскага (Vilniaus komunarai. Vilnius, 1965) перакладаў. А выданне і вывучэнне спадчыны — гэтае слова не надта пасуе да жывой і сёння і надоўга пазней творчасці Гарэцкага — намнога і сур'ёзна зрушылася. Двухтомнік празаічных і драматычных твораў пісьменніка (Мінск, 1973) дбала складзены і адрэдагаваны і, няўпрыклад шматтомным зборам, грунтоўна арыентуе чытача каментарыем і прадмовай Д. Бугаёва, пяру гэтага ж аўтара належыць і манаграфічная работа пра М. Гарэцкага.

ні ў працы, гэтым усялюдскім вачам будзе бачыцца далей і шырэй, багацей і паўней будзе адчувацца і ўсялюдскай душы.

Вядома, зблiжэнне культур і ўзаемнае ўзбагачэнне іх магчыма толькі праз з'явы самабытныя і непаўторныя, і калі беларус прынясе ў агульны ўжытак немалую ношку, дык добрая доля ў ёй будзе Максіма Гарэцкага.

Такім чынам, калі ўжываць абвыклую ў крытыцы тэрміналогію, можна сцвярджаць, што Гарэцкі стала і сур'ёзна працаваў над стварэннем нацыянальнага характару ў літаратуры, далучыў да галерэі такіх характараў постаці адменныя і да яго невядомыя.

Сталася гэта таму, што жыццё пісьменніка, усё да астатку, было не аддадзена і не прысвечана літаратуры, як гэта часта гаворыцца і пішацца, а паглынута ёю, карацей — літаратура сама была яго жыццём, а безлічы іншых работ, што яму даводзілася выконваць, у большай ці ў меншай ступені, калі не стаўлялі перашкоды, дык, відаць, і не спрыялі прызванню.

Нехта ўспамінаў пра Ахматаву. Быццам ёй нельга было пашкодзіць у пісанні — патрэба вызваліцца ад пачуцця, ператварыць яго ў слова, была вышэйшая і мацнейшая за ўсё і перамагала, як бы пераходзіла на іншых, падпарадкоўвала іх, прымушала змаўкаць шумных і выпадковых знаёмых, і ў цесных і непрытульных закутках, дзе гасцявала паэтэса і бралася часам за пяро, стаяла суровая цішыня антычных храмаў, панаваў блізкі да малітоўнасці настрой.

Так і ў Гарэцкага. Праходныя пакойчыкі, брак паперы і газы, празмерная знябытасць ад работы не па фізічныя магчымасці перанёсшага цяжкое раненне і хваробы — гэта ў горшыя часы, а ў лепшыя — выкладанне, падрыхтоўка да лекцый, супрацоўніцтва ў навуковых установах, складанне слоўнікаў і падручнікаў,— усё пералічанае і непералічанае тут адцягвала, зморвала, адбірала залатыя гадзінкі. Але не магло пашкодзіць, хоць па крысе, па старонцы, рушыць наперад стрыжнявую, адзіна неабходную справу душы, без чаго няма патрэбы пераводзіць хлеб, глуміць алоўкі, дыхаць паветрам.

Магчыма, асяродкавасць і стрыжнёвасць гэтай справы не заўсёды, не ўсюды пісьменнік усведамляў

і асэнсоўваў цалкам, і Гарэцкі ўслед за сваім героем здзіўляўся з зацятасці свае ў ажыццяўленні мэты — «адкуля ўсё і што яно?». Але мэты — паказаць глыбіннасць, таленавітасць, жыццёвасць, цярплівасць, трываласць і, нарэшце, усмешлівасць свайго народу — не пакідаў. Не мог пакінуць, гэта было над яго сілу, як бы горка ні абыходзіўся з ім лёс.

А можа... А можа, каб не ўзнікала ўсіх згаданых завад, загат, перашкод на прамываным ім рэчышчы, бяднейшы быў бы духоўны вопыт, меншая трываласць была б у самога пісьменніка і сёння мы не мелі б магчымасці ісці ў вандроўку за ім і ягонымі героямі па ўзвышшах і далінах чалавечага думання і быцця.

Вось чаму падаецца канечне патрэбным зазірнуць на колькі хвілін у біяграфію пісьменніка. Хоць бы ў элементарны пераказ падзей, паездак, работ ад нараджэння да смерці, знаёмстваў, адносін са сваякамі і сябрамі, а найбольш — у складаны механізм перадольвання нягод і няўдач, барацьбы за дах над галавою і, літаральна, за кавалак хлеба. І ўсё ў імя яе вялікасці, мэты свае — стварэння летапісаў новага часу [1], якую здзяйсняў, не застагнаўшы ад беспараднасці, не паскардзіўшыся на знясіленасць, не пакрыўдзіўшыся на несправядлівае. Наадварот, яшчэ падтрымліваў, як мог, блізкіх лістамі: «...жыву і радуюся. Радуйцеся і вы».

Ідучы вось так праз жыццяпіс пісьменніка, лягчэй уявіць вагу і цану добрага і значнага, што падараваў ён нам на доўгае карыстанне, і як паспеў зрабіць гэтулькі за свой нялёгкі, крыўдна кароткі шлях.

Сялянская сям'я Гарэцкіх жыла на Магілёўшчыне, у беларускай вёсачцы, далёка не багатай, хоць і называлася яна — Малая Багацькаўка. Там і нарадзіўся Максім Іванавіч 6 лютага (па старым стылі) 1893 года.

Сыноў у сям'і было чацвёра,— як тут пражыць

---

[1] Дарэчы, «нарысаваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларускага народу»... меўся і К. Чорны (гл.: «Вачыма часу». Мн., 1964, стар. 113—152, а таксама ў гэтай кнізе артыкул «Кузьма Чорны»).

усім на лапінцы бацькавай зямлі! Няхай Максім — вырашылі бацькі — падвучыцца і выбіваецца ў людзі, ідзе на свой хлеб. Хлопчыка аддалі ў школу граматы суседняй вёскі, таксама Багацькаўкі, але Вялікай. Пасля Гарэцкі скончыў двухкласную Альшанскую школу ў Аршанскім павеце. Гэта давала права ўжо самому выкладаць у школе граматы. Але «настаўнік» быў яшчэ малы: давялося станавіцца за плуг і барану.

Трывожылі, не адступаліся думкі: што далей? Хацелася вучыцца, і, урваўшы вольную хвіліну, ён чытаў кнігі, рыхтаваўся працягваць навучанне.

Следам за некаторымі з вяскоўцаў Гарэцкі паступае ў даступнае на тыя часы сялянству каморніцка-агранамічнае вучылішча ў Горках. Гады навучання тут (1909—1913) не толькі далі спецыяльнасць, але і адкрылі магчымасць прылучыцца да літаратуры.

Пачытаўшы, прыгледзеўшыся да работы майстроў слова, юнак бярэцца за пяро. Пачынае звычайным тропам, з самага сціплага: пасылае карэспандэнцыі пра сялянскае і студэнцкае бытаванне-гараванне ў «Нашу ніву», адзіную ў той час газету, выдаваную беларускай моваю. На яе палосах знайшло месца і першае апавяданне Максіма Гарэцкага «У лазні» (1913).

У Віленскай землеўпарадчай камісіі, куды быў накіраваны на работу Гарэцкі пасля заканчэння вучылішча, ён затрымліваецца ненадоўга, неўзабаве — прызвы ў армію: потым пачалася першая сусветная вайна.

Аднак, і за нейкі год у Вільні шмат удалося зрабіць: імя яго замацоўваецца ў друку і ў памяці чытача. Гарэцкі знаёміцца з беларускімі літаратарамі, ён ужо — сталы аўтар «Нашай нівы». Жыццё ў вялікім горадзе, звязаныя з работай раз'езды дазваляюць назбіраць уражанні і матэрыялы, пісьменніцкі яго почырк робіцца цвярдзейшы і больш пэўны. Усё часцей з'яўляюцца апавяданні Гарэцкага ў той жа газеце, з іх склалася першая кніга «Рунь».

Восень 1914 года, фронт, баі ў Прусіі і 25 кастрычніка — цяжкое раненне. Лекаванне па шпіталях цягнулася доўга, не маглі даць рады з асколкам. Пажыў пасля адужання некаторы час дома, у роднай вёсцы.

Следам амаль імгненнае навучанне ў Петраградскай школе прапаршчыкаў: тагачасная прымаўка злавесна ўсміхалася: «Прапараў пякуць адзін дзень, прапары жывуць адзін дзень».

І зноў — фронт. На гэты раз Гарэцкі атрымлівае прызначэнне на Піншчыну, у балацяны край. Праз цяжкую хворасць — зноў шпіталь, цэлае лета ў Маскве — пасылка на акрыянне ў Жалезнаводск.

Нарэшце, у канцы 1917 года, даюць так званы «белы білет» — вызваленне ад ваеннай службы. Можа, цяпер удасца павучыцца па-сапраўднаму! Гарэцкі адчыняе дзверы ў Смаленскі археалагічны інстытут. Галоўнае — тут можна працягваць і літаратурную работу. Ён піша, у «Известиях Смоленского Совета» з'яўляецца супрацоўнік «дзед Кузьма». Псеўданім не хадзіў шукаць далёка, узяў імя дзеда па бацьку. Апрача допісаў і артыкулаў па заданню публікуе і свае творы («Сука магната», «За что?», «Легенда о богатыре»).

Дасведчанасць у газетнай рабоце, рэпутацыя добрага публіцыста прыцягваюць да Гарэцкага ўвагу, ім цікавіцца рэдакцыя газеты «Звезда». Неўзабаве — пераезд у Мінск і работа ў гэтай бальшавіцкай газеце.

1919 год. Агалашаецца Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусі, на парадку дня — хуткае зліццё яе з Савецкай Літвою. «Звезда» пачынае выходзіць у Вільні, сталіцы наваўтворанай Літоўска-Беларускай дзяржавы. Гарэцкі працуе ў рэдакцыі да красавіка 1919 года і праз раптоўную акупацыю горада белапольскімі легіёнамі не паспявае выбрацца ў Мінск.

Тады вось і пачынаюцца яны, блуканні і цяжкія нястачы. Гарэцкі — выкладчык Віленскай беларускай гімназіі — друкуецца ў прагрэсіўных беларускіх выданнях, але мала, час ад часу: роднае слова жыве пад бізуном. Чуць што, газеты закрываюцца ці канфіскуюцца акупацыйнымі ўладамі.

Ноч на 20 студзеня 1922 года. Раптоўны арышт і зняволенне ў славутай праз свой катаржны рэжым турме. Не лягчэйшае і абвінавачанне: антыдзяржаўная дзейнасць. За гэта па артыкулах 100, 125, 129 Карнага кодэкса прадугледжваецца ні больш ні менш як пакаранне смерцю.

Змайстраваць працэс аднак не ўдалося. У лютым, зноў жа ноччу, Гарэцкага прывезлі да сям'і: развітацца і ўзяць што цяплейшае з адзежы. На большае ў дачыненні да невінаватага гуманнасці не хапіла. Разам з іншымі, накіраванымі на высылку, яго даставілі на літоўскую граніцу: жывіце, калі ахвоту маеце, тут, гэтыя мясціны Літвы яшчэ не акупіравалі пілсудчыкі.

Спачатку прыблукаўся ў Коўна, але не заманулася заставацца там — няма да чаго рукі прыкласці. Рушыў да суседзяў у латвійскі горад Даўгаўпілс. Павыкладаў крыху беларускую мову на курсах, пасля яму ўдаецца атрымаць дазвол жыць у Вільні, але не проста — пад наглядам паліцыі.

Так і давялося зноў выкладаць у беларускай гімназіі, рэдагаваць газету... А перш за ўсё быў нялёгкі ва ўмовах рэжыму пілсудчыны клопат — арганізацыя беларускіх школ для працоўнага насельніцтва Заходняй Беларусі.

Літаратурная работа — толькі прыхваткамі. І ўсё ж у гэты найцяжэйшы перыяд жыцця пісьменніка была выпушчана кніга, якая прынесла Гарэцкаму заслужаную вядомасць гісторыка беларускай літаратуры. Невялікая аповесць «Дзве душы», напісаная ў тыя гады, апавядае пра блуканні і разгубленасць збянтэжанага інтэлігента. Твор гэты яшчэ недасканалы ў мастацкіх адносінах і несвабодны ад няпэўнасці з ідэйнага боку. Тады ж, што стала вядома пазней напісана больш за 30 апавяданняў і драматычных аб разкоў, значная частка іх увайшла ў двухтомнік.

Максім Гарэцкі ўвесь час парываецца душою ў Савецкую Беларусь, прадчуваючы, як буйна ідзе ў рост маладая літаратура, усё лепш жывуць людзі, развінае крылле культура народу. У 1923 годзе ўдалося прычакаць даўно жаданага: пісьменнік вяртаецца ў Мінск і працуе, як гаворыцца, не даючы спачыну рукам. Выходзіць зборнік апавяданняў «Досвіткі» і следам дакументальныя запіскі «На імперыялістычнай вайне», а пазней аповесць «Ціхая плынь». Ён перапрацоўвае і дапаўняе сваю ранейшую работу «Гісторыя беларускай літаратуры».

Літаратурнай дзейнасці ўвесь час спадарожнічае навуковая — у Інстытуце беларускай культуры,

у Акадэміі навук БССР — і педагагічная — выкладанне ў Камвузе, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, на рабфаку Мінскага універсітэта.

Не адзін і не два з маладых літаратараў рэспублікі пачулі бацькоўскія парады Гарэцкага датычна першых спроб у пісанні, запомнілі адкрытыя душэўныя гаворкі з ім, а ў далейшым атрымалі і дакладныя характарыстыкі сваіх работ у артыкулах і кнігах («Маладняк» за пяць гадоў»).

Пісьменнік памёр 20 сакавіка 1939 года. Дзе спыніла яго хаду крывязліццё ў мозг, загсаўская даведка не паведамляе.

Не дажыў хаця б да пяцьдзесяткі, не паспеў, не здолеў сказаць усё, да чаго яго абавязваў, на што быў багаты такі шматбаковы талент. На шчасце, апошнія творы: раман «Віленскія камунары» і «Камароўская хроніка» дайшлі да нас. Хай сабе рукапісы не ўсюды і не так завершаны, як таго вымагаў і намерваўся майстар. Аднак і пакінутае нам значна ў такой ступені, што не адзін даследчык будзе адкрываць у ім усё новае — рысы чалавека, сэнс падзей, вытокі жыцця, навуку любіць і ненавідзець, адзнакі ўмельства маляваць словам і звяртацца з ім,— дадаючы цаны і так неацэннаму.

Пакуль што, для пачатку, зараз скажацца ўсяго колькі слоў пра згаданыя вышэй творы. Першым чытачам іх, яшчэ да апублікавання, стала адразу відна неабходнасць, неадрыўна ад асобы аўтара — чалавека-сем'яніна, мастака-гісторыка, камбінацкага чарцёжніка, нарэшце,— паставіць гэтыя творы ў кола шырокага абыходку нашага сучасніка, чалавека іншай пары.

Бо і з «Віленскіх камунараў» і з «Камароўскай хронікі» перакідаюцца невідочныя, але надзейныя рыштаванні, трывалыя настолькі, каб вытрымаць думку і накірунак твора ў іх найтанчэйшых, найпрацейшых і найадкрыцейшых гуманістычных выяўленнях, калі гэта думка звяртаецца да нашага сучасніка, пачынае пераходзіць да яго, мацуе сувязі паміж ім і сабою.

Магчыма, гэта здасца спрэчным і не будзе тут належным чынам даведзена, але Гарэцкі, пачынаючы

ад запісак «На імперыялістычнай вайне», якія пэўным чынам прадвызначылі з'яўленне і характар апошніх твораў і з'ўляліся часткай задуманага летапісу, знаходзіцца ў полі цікавасці сучаснага чалавека з яго эстэтыкай, з абвостраным памкненнем атрымліваць у літаратуры праўду. Хай не дужа кідкую на пагляд і не вельмі прыемную, але праўду — тое, што было, што перажыта, а не толькі пачута або выдумана.

У гэтым сэнсе, можна сказаць, амаль не адчуваецца прасторавай і часавай мяжы паміж арыентаванай на дакумент, на сапраўднасць апісанага, сучаснай літаратурай і Гарэцкім, нават раннім. З яго бунтам супраць сацыяльнага прыгнёту, бо праз гэта зневажаецца або зусім касуецца чалавечая асоба; з яго абурэннем супраць вайны, што зноў-такі разбурае, нішчыць, адмаўляе асобу; з яго абнажваннем спружын, якія падпіраюць учынкі ў акалічнасцях, самых складаных, бязлітасна выкрываўчых для герояў.

Прынамсі, калі і адчуецца каму такая мяжа, дык больш умоўна, хутчэй не ў стылістычных і жанравых адносінах — запіскі, размова ад першай асобы, дзённік, усё гэта зараз у цане,— а ў сутыкненнях лёсаў і падзей, не кажучы пра сутыкненні і разбежкі паміж светамі герояў, тагдышніх і цяперашніх, набытым імі дасведчаннем тады і цяпер.

Пачаўшы абцяжвацца параўнаннямі, цытатамі, спасылкамі на прозвішчы, напэўна, можна прывесці гэта ўражанне ад прачытвання Гарэцкага са стану меркавання, здагадкі ў стан даведзенага палажэння. Аднак прасцейшая і больш сціплая задача бачыцца зараз: звярнуць увагу на тое, што вынікае з першых назіранняў. Пракінуцца яшчэ ў каго падобныя погляды, значыць, здагадка ўгрунтоўваецца, набывае правы існавання, а не — дык не!

Аднак, колькі думак пра названыя творы выказаць усё ж яшчэ давядзецца. Але перш узнікае патрэба — ці не сыграе нам у руку? — прачытаць уголас хоць бы ўрыўкі з лістоў Максіма Гарэцкага. Гэта — таксама творы, толькі больш бязлітасныя ў сэнсе пранікнення ў сябе і раскрыцця сябе — тут ужо за героя не схаваешся! — абнажванне поўнае, самая што ні на ёсць чыстая праўда. Да таго ж ёсць магчы-

масць пачуць з першых вуснаў гісторыю «Віленскіх камунараў» і «Камароўскай хронікі» [1].

Лісты гэтыя пісаліся да жонкі, пісьменніцы Л. У. Чарняўскай-Гарэцкай і да дзяцей — Галіны і Леаніда (загінуў на фронце ў час Вялікай Айчыннай вайны) [2].

10. IV 1931 г.

Я здароў, чуюся добра. Клапачу толькі, што вам і бацьком цяжкавата жыць, але за сэрца мяне гэта ўжо не хапае,— так што і вы плаціце мне тым самым і патрошку сцюдзянейце да мяне... Цалую ўсіх яшчэ мацней, чым заўсёды, бо даўно ўжо не цалаваў.

20.VII 1931 г. (бацьку, Івану Кузьмічу).

Добры дзень усім! Як здаровы? Як маецеся? Я здароў. З учарашняга дня перайшоў ужо на пастаянную кватэру. Пакойчык хоць прахадны, але чысценькі, светлы, вясёлы. І ў камхозскім доме, дык недарагі. Суседзі — людзі добрыя, прыветныя. Цяпер пачну ўжо хадзіць на пастаянную работу, змагу трошкі і вам дапамагчы.

Старайцеся, каб у калгасе жыць з усімі дружна і ласкава, каб калгас добра развіваўся, тады ўсім будзе добра.

Спярша, можа, будзе цяжкавата, а далей — усё лепей. Галоўнае — згода і агульны інтарэс, а не свой, індывідуальны.

У Вятцы многа фабрык і заводаў, кругом калгасы. Горад — вялікі на шырокай судаходнай рацэ Вятцы. Цераз Вятку дарога ідзе на Котлас. Улетку цёпла, як у нас, а ўзімку троху халадней.

16.VIII 1931 г.

...Учора ў газеце была абвестка, што патрэбны чыр-

---

[1] Пра тое, як задумвалася і фармавалася «Камароўская хроніка» і чым павінен быў стаць гэты твор у літаратуры, расказана ў артыкуле Алеся Адамовіча «...Браму скарбаў сваіх адчыняю» («Полымя», 1975, №№ 8—11). Там выкарыстаны цікавыя ўспаміны дачкі пісьменніка і наогул зроблена пэўная спроба зразумець і ацаніць, што гэта за з'ява — Максім Гарэцкі.

[2] Тэксты лістоў у свой час былі прысланы аўтару артыкула Г. М. Гарэцкай — дзякуй ёй! Прыводзіліся ў часопісе «Полымя» (1963, № 3), у кнізе «Максим Горецкий. «Виленские коммунары» (Москва, 1966) і ў перакладзе твора на літоўскую мову (Вильнюс, 1965).

цёжнікі ў ФУП (фабр. учебн. пособий). Дык я да сённяшняга дня зноў хадзіў на пабудову лазні, перавёз сотні тры з паловаю (тачак? — *М. Л.*) пяску, скончыў учора і пастанавіў пакуль што спыніць там работу: пахадзіць наконт службы, каб больш мець часу і фізічнае магчымасці для пісання.

18.VIII 1931 г.

...А ў мяне прыемная навіна. З учарашняга дня ўзялі мяне на чырцёжную работу ў ФУП (фабр. учебн. пособ.), у аддзел капітальнага будаўніцтва.

...У Вяткамстроі атрымаў 43 рублі. Пяску налічылі 30 кубам., ды капаў канаву.

23.VIII 1931 г.

Цяпер я рысую план трэцяга паверха новага фабрычнага будынка (здымаю копію) і паказваю, дзе вентыляцыя, апальванне, дзе паставіць варштаты і г. д. (тут ужо трэба канструяваць)... Праца якраз па мне. Пісанне маё пасоўваецца марудна... І мне бывае часамі сумна...

24.IX 1931 г.

...Я спрабую пісаць, але пісанне маё мне не дужа ўдаецца. Думаю кінуць гэта, што пішу, і ўзяцца за што другое,— можа, пойдзе лягчэй... Ці вярнулі ў партфелі «Сямейную хроніку»?

16.X 1931 г. Вятка.

...Як будзеш мець час, Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў», калі іх табе вярнулі з усімі рукапісамі; можа, я іх тут апрацую да друку (а напішу і па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуць).

10.XI 1931 г.

...Увечары чытаю, пішу. Толькі — збіўся з тропу ў гэтым чытанні-пісанні — не ведаю, за што хапіцца: ці за механіку, ці за гісторыю.

20.XI 1931 г.

...«Камунараў» атрымаў, пра што паведамляў ужо табе. Там частка рукапісу засталася ў цябе, дык няхай сабе, абыдуся без яе. Што пішу? Усё патроху. Цяпер якраз прыводжу да ладу рукапіс «Камунараў». Яшчэ канчаткова не

ведаю, у якім плане напішу. Ці гэта будзе нешта падобнае да нарыса ці нейкае сыраватае повесці з розных абразкоў і сцэнак.

Сёння ў мяне выхадны. Хадзіў па газу. Газы мне хапае, хоць і доўга можна сядзець увечары.

28.XI 1931 г.

У нас ужо зіма. Учора было 20 градусаў, а сёння, мусіць, яшчэ болей. Я здароў. Працую над «Камунарамі», пішу ў форме нарыса.

10.XII 1931 г.

Канчаю апрацоўваць «Камунараў». Цяжка мне іх пісаць для друку, баюся ўсё, каб не зрабіць якое памылкі ў асвятленні.

16.XII 1931 г.

Добры вечар! Заўчора атрымаў заказную бандэроль [redacted] рэштаю рукапісу «Віленскіх камунараў», [redacted] ўчора твой і Лёнеў ліст з яго малюнкамі... «Калгас» намалёван нішто, а «Горад» — незвычайна добра. Ты, Лёня, мусіць, і цяпер увесь вольны час праседжваеш над малюнкамі? Раю табе болей гуляць, яшчэ паспееш наўчыцца маляваць. Ліст твой напісан добра і цікава. Толькі дужа кароценькі. Пішы мне болей пра ўсё. Пішы, як умееш. Як думаеш і гаворыш, так і пішы,— і будзе добра. Але не прымушай сябе, а як захочаш — напішы.

Ты, Галя, таксама напішы мне пра сваё жыццё хоць трошку. А таксама прашу цябе напісаць кароценька ў Багацькаўку, дзеду і бабе... Яны будуць надта рады твайму лісту...

...Цяпер я раблю прадольны і пяць папярочных профіляў дрэваапрацоўчага цэха. Работы многа. А ўвечары чытаю «Гісторыю цывілізацыі ў Англіі» Бокля і канчаю апрацоўваць «Віленскіх камунараў». Нічога выйшаў нарыс, але папрацую яшчэ.

А больш навін у мяне няма. Вось сяджу, пішу вам, а прымус мой шуміць, толькі ціхавата.

27.XII 1931 г.

«Камунараў» напісаў, але нешта нездаволены ўжо. Хай паляжыць...

4.I 1932 г.

...Дзякуй табе, Лёня, што пацешыў мяне сваімі лістамі і малюнкамі, а цяпер дзякую і табе, Галінка. Я быў дужа рад, што і ты адгукнулася. Маладзец, што пасабляеш маме і насіла заказную бандэроль. Гэта, мусіць, другую, што я ўжо атрымаў. Я па тых рукапісах напісаў цікавую гісторыю, калі-небудзь прачытаеце. Там пра Вільню, дзе вы радзіліся, і пра віленскіх камунараў. Вам будзе прыемна, бо вы ж піянеры ўжо і шмат што разумееце.

А якія ж ты кніжкі бярэш, Галя, у школьнай бібліятэцы? І якія ты, Лёнечка, чытаеш? — таксама напішы, як будзеш мець вольны час і захочацца напісаць.

14.I 1932 г.

«Неяк яно будзе»,— казаў ці думаў «Жартаўлівы Пісарэвіч». Даруйце, што ў адрасе вуліцу напісаў не так і паправіў. І хоць бы ж п'ян быў. Цалую моцна. Ма.

19.I 1932 г. (Галі Гарэцкай).

...Ты пытаешся, як я працую? Звычайна... Іду ў чырцёжную і чырчу там ад 9-й да $4^1/_2$ розныя чырцяжы. Надоечы быў на пабудове. Гэта за горадам з вярсту ці болей. Бачыў «цеплякі»: абгароджана дошкамі, і печы бляшаныя, і можна мур класці, і бетон залíваць, калі і мароз.

Дрэваапрацоўчы цэх будзе гатоў ужо ўлетку. А потым — металаапрацоўчы.

...Гора маё, што не ўмею хутка напісаць, а то прыслаў бы вам [пісьмо] пра Задумекуса. (Мадыфікацыя прозвішча Лявона Задумы, новы «псеўданім», пад якім М. Гарэцкі вёў свой дзённік у новым часе і ўмовах.— *М. Л.*).

25.I 1932 г. (Лёні Гарэцкаму).

...У Ленінскі дзень мы працавалі і заробак за гэты дзень аддалі на школы...

Я пісаў пра Задумекуса, ды пакуль што адлажыў, бо не пішацца так, як хочацца... Малюначак твой на адкрытцы харош.

30.I 1932 г.

...Жыву ціха, спакойна. Дружу з сваім вечаровым столікам. Шаную і дагаджаю свайму дзённаму століку, які я называю сваім фаховым [1] тронікам...

[1] Прафесійным, ад fach *(польск.)* — прафесія.

...Ну, Лёнечка, віншую цябе з першымі доўгімі штанамі.

...Удалося мне сёння купіць 10 сшыткаў па 10 капеек штука. Буду што-небудзь пісаць.

3.II 1932 г.

...У мяне маршы, маршы і маршы лесвічнае клеткі... швэлеры і таўровыя бэлькі, ступені жалезабетонныя і металёвыя, і поручні і пярылы...

Гэтыя маршы — да новага жыцця, гэтыя ступені — для новых ног...

9.II 1932 г.

Калі будзеш мець час, Лёля, вышлі мне заказною бандэроллю мой сшытак «Хронікі», што да 15-га года. Хоць я яго троху спарадкую.

Не ведаю, ці вярнулі табе мае рукапісы з успамінамі пра дзіцячыя гады, вучэнне ў Крушні і Норках... Усё гэта я пісаў там. І гэта ўсё цяпер бы спатрэбілася. Але нічога: калі няма, дык я напішу ізноў. Там яшчэ было: плытагонская тэрміналогія, розныя запісы, «Мяшчанскае каханне», «Джаліта», «Маруся», «Вяселле» і інш.

14.II 1932 г.

...Не цешся дужа з майго пісання: вынік пакуль што мізэрны, хоць планую, мяркую, накідваю тое-сёе...

26.II 1932 г.

Добры дзень, ці праўдзівей — ноч, бо першая гадзіна ночы з 25 на 26. Запісаўся «Хронікаю». Атрымаў бандэроль, надта вам дзякую. Як быццам роднае нешта маё прыйшло да мяне ў хату. І хоць усімі сіламі хачу скараціцца, каб хутчэй, і хапаюся, але прыемна мне, і радуюся, што на лад пісанне маё патрошку пайшло. Калі ласка, прышлі, Лёля, яшчэ матэрыялы за 1913 і 1914 гады. Іх, праўда, вельмі мала, але прышлі. Яны ўкладзены, здаецца, за 1913 год — да выпраўленага друку «У чым яго крыўда?», а за 1914 год — да выпраўленых і друкаваных на машынцы запісак «На імперыялістычнай вайне»...

...Атрымаў, пэўна, усё: тры сшыткі, першы за 1913 год, другі — 1915 год і трэці — 1916. Хоць апошніх і не прасіў, але добра, што здагадалася...

...Пра ўсё, пра ўсё (гэта — зварот Гарэцкага да дзяцей.— *М. Л.*) маме расказвайце. Не бойцеся і не саромцеся, мама заўсёды зразумее вас і зробіць тое, што трэба для вас, для вашага добрага ўзгадавання...

4.III 1932 г. (Лёні Гарэцкаму).

Дзед піша, што ён даўно напісаў бы мне, каб сам умеў...

Шмат працую і цяпер не толькі чырчу, але маю справу і з рознымі вылічэннямі... Увечары пішу «Хроніку» і напісаў да 1903 г. Усё добра.

Перадай прывітанне Галі... І ў дзень яе нарадзін будзь з ёю ўвесь дзень асабліва ласкавы, і ў гэты дзень сыграй ёй што-небудзь на гармоніку, калі нікому не будзеш перашкаджаць.

29.IV 1932 г.

Можа, прыйдзецца бавіць час у Вятцы ці яшчэ дзе далёка, аж пакуль не адчыніцца простая дарога да Вільні. Туды б я таксама паехаў. Але, ізноў жа, калі тая дарога будзе?.. І клапоціць мяне, што трывога пануе ў свеце. Хто ведае, куды трапіш... Але нічога. Усё нічога. Усё добра будзе... Каб толькі мне напісаць гэтую сваю «Хроніку». Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае.

8.V 1932 г.

Добры дзень, жонка і дзеткі! Атрымаў вашы першамайскія лісты. Ну, дзякую вам вельмі... Так, сёлетні май быў лепшы, чым леташні, хоць і не былі мы разам, як і летась. Ну, можа, хутка будзем.

...Мне за маю работу далі І-ю катэгорыю (па забеспячэнню.— *М. Л.*)... Праўда, працаваць прыходзіцца здорава. А я таму і рад. Толькі што малавата застаецца часу на пісанне. Але тое-сёе раблю і з сваёю «Хронікаю». Упарадкаваў «1915 год»...

...Сеюць. Дрэўцы ўчора, пасля дожджыку, зазелянеліся...

14.V 1932 г.

...А ці маеш ты мой артыкул [1928 г.?] у «Маладняку» (агляд белар. літар. пасля «Наш[ай] н[івы]»)? Там, у раздзеле аб польскай акупацыі, я характарызую польскую шляхту. У падполлі (маецца на ўвазе віленскі перыяд.— *М. Л.*) выдана кніжачка майго перакладу: «Хто такія каму-

ністы?». [Мініна, здаецца],— з даручэння Міцк[евіча]-Капсук[аса].

І жыццём сваім здаволены, адно што не хапае часу пісаць.

22.V 1932 г.

...Ходзім ужо на пабудову. Гадзіну йду туды, гадзіну назад. Працы многа. Але нічога. Жыву, радуюся. Гэтыя дні стаяў холад. Троху пацяплела, але яшчэ не надта. Між іншым, і тут сяляне кажуць: надта, абутак, лоніська, дапамагчы, прыйдзеш, ідзеце і да т. п. Тут іншы год бывае «азіміца» — у маі, калі зацвітае бэз: часам вываліць снег у паўметра. А сёлета нічога, толькі халаднавата, як у нас у маі бывае. Гэта таму, што я тут.

...Што ж дзеткі мае, галубяткі мае парабляюць? І бацькі мае ці пішуць?

27.V 1932 г.

...А гэтыя дні замардаваў мяне інжынер складаннем генеральнага каштарысу на будаўніцтва. А ўсё нічога: жыву і радуюся. І вы радуйцеся.

Было б недаравальна прымаць гэтыя радкі толькі для меркаванняў пра творчы працэс, як сведчанне аўтара датычна работы над творам. Тут — увесь Гарэцкі з яго незвычайнай прастатою і сціпласцю, працавітасцю і выключнай праўдзівасцю, так уласцівымі людзям вялікай душы і сапраўднага таленту. Светла і моцна дыхае тут вера ў патрэбнасць работы за сваім «вечаровым столікам», з якім ён дружыць, пішучы раман, і тое, што выконваецца за «дзённым столікам», які пісьменнік «шануе» і якому «дагаджае», вычэрчваючы будаўнічую дакументацыю прадпрыемства.

Можна мець пэўнасць, што падзел «сябе» на два столікі гэта не «дзве душы» і не звычайнае размеркаванне часу паміж улюбёнай работай і «фаховай», бо і яна для пісьменніка — не адбыванне службовых гадзін, а змест жыцця душы, жыўленне з яе сокаў, хоць ведаў і сам: размаўляць з будучыняй яму наканавана пры дапамозе звычайнага пяра, а не рэйсфедэра.

Такая ўжо моцная ўладала ім любоў да рэчаіснасці, да будучых пакаленняў, што меў за высокі абавязак сумлення, як найтрывалей, разлічваць «маршы і

ступені», бо яны павядуць «да новага жыцця», паслужаць «для новых ног».

Дый не ўмеў гэты чалавек нічога рабіць напаўсілы, не тая была натура. Дарма, што пракідаецца ў Гарэцкага клопат пра лягчэйшую работу — ямчэ да магчымасці працаваць на двух століках,— клопат той не мае нічога агульнага памкненнем, як казалі: «жыць сыцей і рабіць лягчэй». Тут — сфера запаветнага, маральны абавязак не змарнаваць здольнасці, агаласіць відочны яму і перачуты ім духоўны набытак народа за многія вякі хады свае па разняволенне і тое, што творыць народ, стаўшы вольным.

Што ён мае зрабіць, пісьменнік ведаў дасканала: «Каб толькі мне дапісаць гэтую сваю «Хроніку». Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае».

Калі ўжо гэты больш чым сціплы і больш чым патрабавальны да сябе майстар адважыўся вымавіць такое ўголас, значыць, быў упэўнены ў трываласці задумы і ў надзейнасці выканання.

Вялікая задума вяла і ўздымала пісьменніка. Змушала не зважаць, што трэба важыць у пальцах кожную капейчыну, каб не адабраць яе ў дзяцей, пакуль знойдзецца хоць якая работа, дый потым ашчаджаць на газу і на сшыткі — хочацца ж пасядзець лішнюю гадзінку над раманам,— дый на мілую бульбу, відаць, і яна была не вельмі частай госцяй — купля яе ўспамінаецца ў лістах як падзея, ледзь не нароўні са скрылікам сала з радзімы, якім яго аднойчы пачаставалі.

Жывучы ў нястачах, пішучы, калі за плячыма хадзіла свая і чужая сям'я, хай сабе і «прыветныя людзі», але ж заміналі вывесці задуму на бальшак, не дапусціў, аднак, каб укалола крыўда, сціснулася горла нараканнем, асела на сэрца хоць бы якая адзнака ачарсцвення.

Гэта ён ад душэўнай дабраты і мяккасці ўгаворвае сямейнікаў, што ачарсцвеў ужо і цяжкое іхняе становішча яго «...за сэрца ўжо не хапае». Тут — так званая святая мана «ў імя ўратавання», каб менш турбаваліся пра яго блізкія, бо ва ўгаворах вялікі боль чуцён: «...і вы плаціце мне тым самым і патрошку сцюдзянейце да мяне».

Гэтае «сцюдзянейце», як пісаг лязом па сэрцы! Колькі ні чытай, усё роўна кожны раз скаланешся. Бо ціхі, змаркочаны голас падзвіжніка вылузвае з-пад паверхні ліста самае цяжкое для сябе і для сваякоў: вы там прывыкайце пакрысе без мяне, калі яшчэ ўбачымся ды ці давядзецца ўбачыцца... «Сцюдзянейце»...

Цяжка сказаць, што гэта — прарвалася слабасць, калі было не ўтрываць, ці зноў выказалася душэўная сіла: глядзі вока ў вока лёсу смела, не міргаючы, рабі, што прызначыў сабе, колькі зробіцца, не забываючы ніколі на гэтую сваю рупасць.

А рупіць яму ці мала... І перад усім: «трывога, што пануе ў свеце». Пісьменнік бачыў: набывае моцы фашызм, на межах краіны, асабліва на Далёкім Усходзе,— правакацыі: можа раздзьмуцца ваенны пажар. А пачніся новае пабоіска, колькі гэта будзе каштаваць людзям? І, напэўна, няхутка скасуецца мяжа ў яго родным краі, няхутка прылучацца да роднай сям'і адрэзаныя кардонамі прасторы Заходняй Беларусі, або словамі ліста, ці «адчыніцца простая дарога да Вільні»?

Радзіма дбае, каб нічога благога не здарылася, рыхтуецца, яна павінна быць гатова да нечаканасцей. І гэта бачыць Гарэцкі: «Па абедзе на пляцу — вайсковыя практыкаванні (як відаць, авіяхімаўскія вучэнні, наладжаныя ў процівагу велікодным царкоўным цырымоніям.— *М. Л.*). Ну, самая праўдзівая вайна: грукат, страляніна, агонь, дым, газы, выбухі. Лявон [Лявон Задума — герой з твора «На імперыялістычнай вайне», дакладней — асоба, ад якое гаворыць аўтар ці «псеўданім» яго] ніколі нічога падобнага на практычных занятках не спадзяваўся ўбачыць і стаяў доўга, успамінаў свой 1914 год. Сёння ён шыў, варыў бульбу, сушыў сухары»... (З ліста жонцы. 2.V.1932 г.)

Пэўна ж, поруч з усведамленнем моцы нашай абароны ўзнікалі і трывожныя думкі: калі так сур'ёзна абстаўляюцца вучэнні, дык чаго можна чакаць у сапраўднасці? І той жа «свой 1914 год» быў крывавы і страшны...

Не магло не рупіць яшчэ і тое, што тутэйшая царква «бітма набіта». Ён жа, як і Задума ягоны, ве-

ру страціў, дый у беларускай вёсцы, асабліва ў яе казцы і прымаўцы, на бога і ягоных служак глядзяць паблажліва, а то і зусім іранічна. І Колас, «аўтар той повесці пра Ядвісю», не мог памыліцца, малюючы сваіх палешукоў не асаблівымі ахвотнікамі хадзіць у царкву. А тут — вялікі горад, і вось табе маеш: «ува ўсіх свечачкі ў руках».

Што гэта значыць? Думкі зноў варочаюцца да трывогі ў свеце. Пад абарону найвышэйшай сілы звычайна хінуцца ў цяжкія часы: у прадчуванні вайны або ў вайну. А так жа і тут не павінна быць асаблівай пашаноты да бога. «Гром не ўдарыць, салдат не перахрысціцца» — не пра адно нядбайства гаворыць гэтая руская прымаўка.

Так-то яно так, але супраць убачанага на свае вочы не запярэчыш — значыць, не выходзіць з чалавечых мазгоў ачмурэнне. Значыць, трэба прыкладаць і да гэтай справы рукі, можа, улічыць пры сваім пісанні.

І зноў адна немалая рупасць. За клопатам пра ўзгадаванне сваіх малых у лістах Гарэцкага чуецца клопат невымерна большы — дзеці ўсяе краіны. І ён гаворыць пра нормы паводзін дзіцяці, пра падручнікі. А шырэйшая навука ў тым, як пераконвае нашчадкаў слухаць маму, дзякуе ім, што дапамагаюць маме, просіць, каб не забываліся пісаць бацьку.

Але, як просіць! «Як думаеш і гаворыш, так і пішы, і будзе добра. Але не прымушай сябе, а як захочаш — напішы».

Вось якава яна, далікатнасць,— трагічная! — на мяжы з поўным самавыраканнем. Бацька баіцца хоць на момант навязаць сябе, нібыта раіць нават: можа, ты забываеш мяне, дык выбачай за напамін, рабі сабе, як хочацца...

Навучанне далікатнасці, калі гэтае слова пасуе, каб вызначыць усю душэўную тонкасць, глыбіню і самаахвярнасць бацькі-настаўніка, ідзе далей. Бацька просіць сына, малога зусім хлапчука, у гадавіну нараджэння сястрычкі: «Будзь з ёю ўвесь дзень асабліва ласкавы, і ў гэты дзень сыграй ёй што-небудзь на гармоніку»...

Аднак і тут ёсць перадумова, чуллівая, нават страшнаватая: іграць можна толькі «...калі нікому не

будзеш перашкаджаць». Значыць, перацярпі, устрымайся ад таго, што жадаецца, вырачыся ад поцягу пандурэць, расцягнуць мяхі гармоніка на ўсю сваю дзіцячую моц і патрэбу.

Мала хто, відаць, утрымаецца, каб не ўцерці вочы ад такое далікатнасці. Але ж мы ведаем праз самога Гарэцкага: страшныя песні бываюць у музыкі.

Можа, акцэнтыроўка на падрабязнасцях — цяжкая для сябе і не патрэбная для іншых работа: тлумачыш, пабіваешся ад стараннасці, а яно і так усім зразумела. Але як іначай, знайшоўшы нешта дарагое, зробіш яго дарагім і чалавеку поплеч? Пакажы, тады яно стане двойчы і тройчы даражэйшым, на колькі вачэй ні трапіць, настолькі і падаражэе.

Таму спыніцеся яшчэ на адной акалічнасці. Пакладзіце поруч лісты: да жонкі, да дзяцей і да бацькі. Як адрозніваюцца яны адзін ад аднаго. Асабліва да бацькі: інтанацыя павагі да чалавека, які даў жыццё, мяжуе з сур'ёзнасцю размовы адукаванай асобы, каму давялося больш зазнаць і ўведаць, з парадай наладжваць калгасныя справы — «жыць з усімі дружна і ласкава, каб калгас добра развіваўся», «галоўнае — згода і агульны інтарэс, а не свой індывідуальны». І пазнавальны момант ёсць у лісце (апісанне горада) і агітацыйна-прапагандысцкі («У Вятцы многа фабрык і заводаў, кругом — калгасы»), дый выкладаецца ўсё проста, даступна для разумення адрасата.

Гэта ліст-твор, разлічаны на аднаго чытача, не на чые-небудзь староннія вочы, і тут выказалася прыроджаная здольнасць мастака гаварыць з кожным чалавекам як з раўнёю, не прыніжаючыся і не падладжваючыся, а сваёю заўсёднаю мовай.

Гэта якасць найлепшым чынам і выявілася ў прозе Гарэцкага, стаўшы яе неад'емнай і адменнай вартасцю.

У паперах Максіма Гарэцкага застаўся запіс, што рукапіс «Віленскіх камунараў» быў адасланы ў Мінск, у выдавецтва ў жніўні 1934 года. Відаць, гэта і ёсць той самы твор, аб страце якога шкадаваў Якуб Колас у сваім выказванні, што ўспаміналася раней. Застаецца парадавацца — раман не згубіўся, не быў знішчаны ў ваенным пажары, не трапіў на благое вока, перахаваўся ад злое рукі.

«Віленскія камунары» — суровая, можна сказаць, летапісная праўда пра тое, як беларускі і літоўскі народ змагаліся за Кастрычнік. І ў той жа час гэта не нарыс і не хроніка, хоць аўтар праз сціпласць і для надання большае верагоднасці сваёй рабоце стаўляе пад загалоўкам і такія азначэнні. Гэта самы сапраўдны мастацкі твор, які прыкоўвае да сябе ад першых жа бядот героевага дзядулі да драматычнага эпізоду расправы з членамі і абаронцамі Віленскага савета і нават да заключэння, дзе — праўда, крыху паспешліва — даецца завяршэнне ўсіх хваляваўшых нас чалавечых лёсаў. Проста не верыцца, што могуць існаваць творы, пабудаваныя толькі з аднае чыстай праўды: падзеі адбываюцца ў тыя ж дні і гадзіны, як было ў сапраўднасці, а героі дзейнічаюць пад сваімі імёнамі без прыдуманых прозвішчаў, за якімі можна ўгадваць далёкія правобразы.

Аўтар смела мог бы сярод шматлікіх эпіграфаў да раздзелаў кнігі паставіць і словы Чарнышэўскага: «Я пішу не дзеля здабыцця сабе мастацкае рэпутацыі, а як гэта было ў сапраўднасці».

У праўдзівасці апісанага Гарэцкім пераконвае неацэнны дакумент, які выйшаў з-пад пяра героя кнігі, старэйшага літоўскага камуніста, старшыні Віленскага савета З. Алекса-Ангарэціса, які выступаў тады пад прозвішчам Антановіч. Невядома, ці траплялася Гарэцкаму названая яшчэ ў пачатку брашура, але з ёю супадае гістарычная канва старонак, што расказваюць пра Віленскі савет.

Так, сапраўды, у канцы 1918 года на скрыжаванні нямецкай і польскай акупацыі ў неверагодна цяжкіх умовах арганізаваўся ў Вільнюсе Савет рабочых дэпутатаў. Так бальшавікі змагаліся за свой уплыў у масах, выкрываючы згодніцтва і здрадніцтва бундаўцаў, эсэраў, «сацыял-патрыётаў», хрысціянскіх дэмакратаў, літоўскай тарыбы. Так рабіла першыя крокі Савецкая ўлада, падмацаваная магутнай рабочай забастоўкай, так, нарэшце, былі разгромлены абаронцы новай улады, калі ў горад варваліся белапалякі, як сведчыць З. Ангарэціс, «на чатыры дні і дзве гадзіны».

Дакладнасць апісання Максімам Гарэцкім гераічных і трагічных падзей рэвалюцыі пацвярджае і

А. І. Якшэвіч, літоўскі камуніст, сведка і ўдзельнік барацьбы за Савецкую ўладу ў тыя часы, ён дае высокую ацэнку раману ў сваім лісце ў рэдакцыю часопіса «Полымя». А відавочцы чытаюць творы, перш за ўсё шукаючы ў іх вядомай, бачанай праўды.

У тым жа лісце адзначаюцца і недакладнасці. Напрыклад, наконт сказа ў рамане: «У верасні з'ехалася першая агульналітоўская камуністычная канферэнцыя» робіцца заўвага: «Відаць, аўтар мае на ўвазе І з'езд Кампартыі Літвы і Беларусі, які адбываўся не ў верасні, а 1—3 кастрычніка 1918 г.». Гэта ж сцвярджае і ВСЭ (т. 8, стар. 70). З. Ангарэціс таксама зазначае, што Прэзідыум Віленскага савета ўжо ў снежні 1918 года дзейнічаў па дырэктывах ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі.

Тым часам, у 25 томе ВСЭ (стар. 257) гаворыцца, што 1—3 кастрычніка 1918 года працаваў першы нелегальны з'езд Кампартыі Літвы. Пазнейшыя крыніцы называюць датай аб'яднаўчага з'езда Кампартыі Беларусі і Літвы 4—6 сакавіка 1919 года.

Хутчэй за ўсё Гарэцкі называе канферэнцыяй нараду прадстаўнікоў с.-д. арганізацыі Літвы і Заходняй Беларусі ў жніўні 1918 года. Была б большая бяда, каб аўтар адхіліўся ад правільнага разумення падзей. А іменна ў гэтым разуменні ён увесь час трымаецца на належнай для сучасніка вышыні.

Максім Гарэцкі не быў відавочцам узнікнення і барацьбы Віленскага савета. У Вільню ён пераехаў, як ужо ўспаміналася, на пачатку 1919 года разам з рэдакцыяй «Звезды», дзе працаваў загадчыкам аддзела. Факт немалаважны для біяграфіі пісьменніка. «Гісторыя «Звезды»,— пісаў А. Мяснікоў,— гэта гісторыя нашай партыі ў Заходняй вобласці і на Заходнім фронце» [1].

Чуццё супрацоўніка бальшавіцкай газеты, які прыйшоў у горад па гарачых слядах трагедыі, не пакідала Максіма Гарэцкага ні пры зборы, ні пры апрацоўцы матэрыялу.

Можна дашукацца і недакладнасцей у часе і ў апісанні падзей, але нельга не сцвярджаць, што Га-

---

[1] Октябрьские дни и их подготовка в Западной области. Мінск, 1919, стар. 5.

рэцкі ўбачыў галоўнае — волю народа да перамогі ў барацьбе за сацыялістычную рэвалюцыю. У гэтым дзейсная, нязгасная сіла рамана.

Віленскія камунары — рабочыя, камуністы, падпольшчыкі, людзі розных нацыянальнасцей — рускія, літоўцы, яўрэі, палякі і, галоўным чынам, беларусы. Яны не проста праходзяць перад вачыма, а пакутуюць і радуюцца, кахаюць і шукаюць, змагаюцца і паміраюць. І кожны з герояў нясе ў сабе калі не характар, дык жывыя рысы яго, не апісваецца, а выяўляецца ва ўчынках, у дзеянні.

Мацей, галоўная дзеючая асоба рамана, мае зусім неважнецкае прозвішча — Мышка. А адкуль узяць імя больш гучнае, калі ягоны род са спрадвечных часаў быў загнаны і забіты! Мацей жа — нашчадак прыгонных пана Хвастуноўскага (прозвішча, відавочна, ад дзеяслова — хвастàць). Бунтарства перайшло да Мацея ў спадчыну. Ягоны прадзед, «грубіян», на злосць пану засіліўся на асіне — не здолеў, не знайшоў спосабу ўзбунтавацца іначай. Дзед — стыхійны бунтар, суровы чалавек, аднойчы толькі давялося пачуць Мацею, як ён засмяяўся. Дзед апынуўся ў Сібіры, туды ж трапіў бацька, удзельнік падпольнай арганізацыі ў 1905 годзе.

А Мацей — шавецкі чаляднік, рабочы на лесапільні — ужо ўзброены абаронца Савецкай улады. Нездарма вестка пра кастрычніцкі пераварот выклікала ў яго жаданне «плакаць і смяяцца». Вось яна, воля, якое так доўга чакалі продкі! Прыйшла!

Тры пакаленні — дзед, бацька, сын — розныя часы, розныя лёсы. Але па іх без намагання прасочваецца шлях народа ў рэвалюцыю. Гісторыя роду Мышак тыповая не толькі для Беларусі, пад ігам бяспраўнасці і заняволення гібелі ўсе народы, якія насялялі Расію пры самаўладстве. Тыповая і гісторыя самога Мацея.

Тут варта зазірнуць у папярэднія кнігі Гарэцкага. Шмат якія з яго твораў бяруць выток у часе прыгону.

Страшны свет паўстае перад сучаснікам, дзе... «песняры-музыкі нашага народа, у тым чорным часе болем свайго сэрца ігралі страшныя песні паняволеных прарокаў волі» («Досвіткі»). Гэта былі песні

пра тое, як маці, пахаваўшы дзіцёнка, корміць грудзьмі панскіх шчанюкоў («Панская сучка»), як лупцавалі гарапнікамі мужыкоў за тое, што хавалі беглых, як ашуквалі іх служыцелі царквы («Прысяга»), як гібеў і знябываўся ад паднявольнае працы працавіты, разумны і добры просты чалавек. Ён яшчэ не ўмеў змагацца і схіляў галаву або сунуў яе ў пятлю.

Нават героі, узятыя Гарэцкім з больш позняга часу, як быццам спыняліся на паўдарозе, не знаходзілі выйсця ў барацьбу супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Не таму, што так хацелася аўтару, проста тыя героі яшчэ не мелі належнай спеласці і сталасці. З аднаго боку, над імі вісеў нядаўна пазбыты прыгон, дый у вёсцы было яшчэ галадна, холадна, цёмна, чорна. Так цёмна, што бацька гаварыў з пагардай, паказваў як на найвышэйшую ступень раздуранасці і разбэшчанасці сына: «Рукі мые па самыя локці» («Сасна»). З другога боку, героі Гарэцкага ўжо так ці іначай вырываліся з гэтага асяроддзя, хоць многа ў чым, паводле прыказкі, «ад зямлі адарваліся, а неба не дасталі». Але яны думалі, і разам з імі разважаў пісьменнік. Вось абваліўся прыгон, мінула пара, калі паны засякалі да смерці розгамі, ездзілі на людзях верхам, гвалцілі, няволілі, калечылі душу і цела чалавечае. Гэтага забыць нельга. Але ўнукі, праўнукі засечаных, заезджаных, паняволеных ішлі ў навуку, рабіліся інтэлігентамі, пісалі і гаварылі на роднай мове, абуджалі народ, пачыналі фармаванне нацыі.

Гэты працэс і займаў уяўленне Гарэцкага на пачатку літаратурнай работы, успрымаўся ім як доўгачаканае дзіва, а не як заканамернасць.

Маладыя людзі, героі яго аповесцей і апавяданняў, мучыліся ад так званых праклятых пытанняў, як і ўсе іх аднагодкі, літаратурныя папярэднікі, маладыя людзі ўсяго свету. Яны хацелі, па ўзору гётаўскіх герояў, пазнаць: «адкуля ўсё і што яно?» («Роднае карэнне»). Яны былі схільны мудрагеліста паразважаць, часам паторгаць спакусны кручок самагубства: «быць ці не быць!» Канчатковых мэт, ідэалаў свабоды не толькі для сябе, а для ўсіх, для народа гэтыя асобы, з нахілам да думання больш менш

крытычнага, яшчэ не бачылі і не ўсведамлялі. Таму мы і сказалі вышэй: спыняліся на паўдарозе.

Нават менш як на паўдарозе. У Хомкі, вартага спагады і чуласці падлетка з «Ціхай плыні», былі вялікія засмучэнні і непрыкметныя радасці. За сваё кароткае жыццё ён паспеў адчуць, якое паніжэнне і здзек выпадае на долю беднага чалавека. Бацьку, калі на яго ўпала падазрэнне ў крадзяжы, абшукваюць груба, зняважліва, толькі таму, што ён бедны. Самому Хомку на вясёлым кірмашы няма весялосці, няма ласкавага слова — ён кепска апрануты, усім відно — беднякоў сын. З тае ж прычыны Хомка трапляе ў армію «раней на два наборы» і гіне ў першым жа баі, не дазнаўшыся, якім павінна быць сапраўднае жыццё.

Дый Лявон Задума ў нечым падобны да Хомкі, хоць ён мае асвету і таму ваюе вольнапісаным, а не радавым. Вядома, Лявон стаіць на колькі ступеней вышэй. Хомка нават не ведае, з якога ён роду-племені, хоча сказаць, што «магілёўскі», ды не адважваецца і гіне, не паспеўшы як належыць спалохацца вайны і скону. Лявон — увесь у развагах пра жыццё і смерць, навакольны бруд, мукі, ашуканства. Ён баіцца смерці, але ў першую чаргу таму, што перарвецца ягонае запісванне і не скажа ўсяго наканаванага яму, да чаго мае неадольную схільнасць і ўважае за адзіна вартасную мэту. Герою такім чынам перададзены асноўны накірунак жыцця аўтара, што, вядома, набліжае запіскі «На імперыялістычнай вайне» да прозы, якая зараз прыняла імя дакументальнай.

Нам невядома, як рушыў бы і дзейнічаў далей Лявон Задума, з лістоў Гарэцкага відаць, што было намяркована герою месца ў «Камароўскай хроніцы». Значыць, невядома, ці не застаўся б і ён на паўдарозе.

Мацей Мышка прайшоў шлях цалкам. Мала асветы выпала на яго долю, затое здабыў ён хараство і шырыню душы, засвоіў навуку барацьбы і прыдбаў пачуццё рабочай салідарнасці, якое вядзе яго са зброяй у руках адстойваць правы рабочага чалавека, сваю савецкую ўладу.

Магчыма, Гарэцкі сёння перагледзеў бы некаторыя старонкі свайго рамана. Пакінуў бы радзей сма-

каванне ежы, убачыў бы, што эпізоды лоўлі гракоў і пацукоў вымагаюць ад чытача нервовай сістэмы павышанай трываласці. Паставіў бы больш надзейную мяжу паміж дзейнасцю буржуазных нацыяналістаў і выяўленнем нацыянальнага пачуцця хлопцаў і дзяўчат, якія збіраліся на вечарыны паспяваць родныя з маленства песні, схадзіць у мілыя душы танцы. Магчыма, не ўсюды ўсцярогся аўтар ад шаржу пры абмалёўцы варожага лагеру, хоць, наогул кажучы, вобразам ворагаў рэвалюцыі не адмовіш у перакананальнасці.

Кампазіцыя рамана, з выгляду хранікальная, у сапраўднасці — драматургічная, абумоўлена развіццём характараў і нарастаннем падзей. Апавяданне, што вядзецца ад галоўнага героя, успрымаецца не як расказванне, а як гаворка, да якое далучаецца і чытач. Аўтар не дазваляе сабе павышаць голас нават у мясцінах асабліва драматычных.

Гэта размоўная інтанацыя вельмі своеасаблівая, здаецца, што падчас чытання недзе далёка гучыць музыка. Нескладаная, адна-дзве фразы. Такая ж музычная, на наш погляд, і «Ціхая плынь». Успамяніце першае знаёмства з Хомкам і цудоўнае аўтарскае адступленне пра песню.

Прыгледзьцеся да гушчыні фарбаў і пачуйце іх смутную музыку ў гэтай карціне:

«Пакутна ападае ручка, брудненькая і худзенькая, на якой толькі трошку-трошку цьмяна-жоўтай дзіцячай пухласці... Адылі сціскаецца ў кулачок, падносіцца да воч — і зноў бясконцае, роўнае, ужо аплаканае за доўгі дзень, галосіць гора:

— Гу-гу-гу... Ма-ма!

...Гэта ўжо не плач — гэта песня роспачы.

І навучаюцца той песні ў забытым краі яшчэ пад сэрцам матак... Яе шумяць тут панскія дубровы, гудзяць пяскі ў мужыцкім полі, жабы кумкаюць вясну і лета ў выгарах-балотах. Яе тут шэпчуць гнілыя стрэхі вясковых хат, скуголяць свінні ўзімку ў дзіравым хляве, рыкаюць вясною галодныя каровы. Яе крычыць тут кожны бацька, калі цягнецца з карчмы дахаты па каляінах ніколі непаладжанай дарогі, сярод абы-як, абы-толькі, абы з рук уробленых палёў...

І гэтую песню бацькоў сваіх выплаквае тут перад вамі герой наш Хомка».

Чытаеш, і прыходзіць амаль фізічнае адчуванне болю і безвыходнасці. Так поўна і горка малюецца бедная вёска, няшчаснае дзіцянё, так бездакорна служыць мастаку слова і слухаецца яго, перадаючы ўсё, як яно бачыцца, уяўляецца.

Наогул жа спадчына Максіма Гарэцкага пашырае магчымасці нашай мовы лексічна і, галоўнае, у будове сказа. Услухайцеся ў гэтыя цудоўныя словы: нямыцька, подзіў, акенныя асады, ухарашэнне! І ў сакаўныя, быццам толькі з вуснаў выхапленыя звароты: мала не досмерці, маючы на ўспаміне, начытаная ў святых кнігах, на імя Васіль.

Максім Гарэцкі выключны стыліст, тонкі знаўца народнай і адзін з творцаў нашай літаратурнай мовы. Апошні раман яго яшчэ больш умацоўвае і памнажае гэтыя якасці, вартасці, набыткі пісьменніка.

«Віленскія камунары» — твор, як прынята гаварыць, пасмертны, галоўны, але не ім завяршваецца творчы шлях пісьменніка. Ёсць яшчэ «Камароўская хроніка», гэта рэч, праўда, недаканчаная, патрабуе асобнага даследавання.

Трэба думаць, што на двух названых творах тэма непрыгону для Гарэцкага вычэрпвалася. Змрочны перыяд гісторыі народа адбіты, замацаваны ў мастацкіх вобразах. Чалавек стаў гаспадаром свайго лёсу, перад ім адкрыта пуцявіна ў будучыню.

Са з'яўленнем «Віленскіх камунараў» абсягі беларускай прозы значна пашырыліся — вось яно, доўгачаканае, вялікае і шырокае гістарычнае палатно. Стрыманасць, нават суровасць рэалістычнага паказу — аўтар не грашыў на стылёвыя аздобы — адрозніваюць, вылучаюць, калі хочаце, падымаюць твор. Хай сабе дзе-якія старонкі здадуцца напачатку сухаватымі, такое ўражанне хутка мінецца, стане ясна, што гэта — стыль, манера пісання, дакладна выбраная для перадачы задуманага, убачанага духоўным зрокам. Усюды адчуваецца ўнутраная ўсхваляванасць аўтара, і яна міжволі перадаецца нам.

Мы ўдыхаем паветра эпохі, уваходзім у атмасферу рэвалюцыйных баёў і як быццам жывём з тымі

людзьмі, прымаючы на сябе іх турботы, удзельнічаючы ў іхніх поспехах. Кола вядомых і блізкіх нам герояў тае грознай пары вырастае, і да яго прылучаюцца віленскія камунары — людзі працы, рабочыя, камуністы, якія сціпла чыняць свой рэвалюцыйны подзвіг.

У час першай публікацыі рамана споўнілася 70 год з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Думаецца, што гэта дата новага нараджэння пісьменніка для літаратуры, для народа.

*Студзень 1963,*
*красавік 1966*

*

Пытаюцца, чаму не пішу ўспамінаў пра Максіма Гарэцкага. Вельмі хацелася б, але на гэта трэба мець права. Я павек удзячны яму, добрай душы чалавеку. Ён ніводнага разу не прайшоў паўз мяне, хлапчука, на вуліцы ці абы-дзе сустрэўшыся. Абавязкова спыніцца хоць на хвілінку: распытацца, пагаварыць, закінуць думку пра новы твор.

Так дасюль і гляджу на яго, як хлапчук на настаўніка. Але не гэты дзіцячы піетэт, а канечная патрэба змушала брацца за пяро, каб сказаць аб ім колькі слоў. Максім Гарэцкі для людзей майго пакалення — першаадкрывальнік творчых каштоўнасцей нацыі. І Купала з Коласам, відаць, не загучалі б так шырока і поўна, а галоўнае — хутка, не пачуйся спакойны і роўны голас, з-пад якога вырывалася радасць і захапленне: глядзіце, слухайце, шануйце, людзі! Вось яно, тое запаветнае, з чым выходзіць у свет беларус, і яму не сорамна ад свае дзялянкі ў гэтым свеце.

*1973*

## САД МАЛАДОСЦІ

*

Кінем позірк у 20-я гады. Гэта была шчодрая на вершаваныя радкі пара. Паштальёны гнуліся, носячы ў рэдакцыі туга напакаваныя скураныя торбы з тоўстымі самаробнымі канвертамі. І ў кожным другім — вершы.

Старшыні выканкомаў пісалі рэдактарам газет і часопісаў адносінкі: «Пры гэтым накіроўваецца 30 фунтаў вершаў, напісаных паэтамі з нашай воласці...»

Цяпер гэта выклікае ўсмешку, тады сведчыла пра вельмі многае.

Пачаў сцвярджаць сябе абуджаны Кастрычнікам народ. Будаваўся на разняволеных прасторах і абсяваў іх. Загаварыў на поўны голас сваёю моваю, і яму адразу спатрэбілася ўсё: школа — ад пачатковай да вышэйшай, тэатры і клубы, кнігі і газеты.

Абудзілася мноства народных талентаў, яны не адразу знаходзілі сваё прызначэнне. Моладзь шукала сродкаў самавыяўлення і кідалася пісаць вершы. Ва ўсе часы душа нашага народа была спеўнай. Але спяваць ёй даводзілася найбольш, глытаючы горыч і ўціраючы слязу,— горка і слёзна, як сказала народная заплачка.

А вось зараз і можна і хочацца гаварыць інакш, не хаваючы радасці. Бо, як сягае вока, скрозь непачыпаны край работы, свой гаспадарскі клопат турбуе чалавека, весялейшымі вачыма глядзяць людзі наўкол на справу сваіх рук.

Пра ўсё гэта складаліся радкі ўмела, а найчасцей няўмела. З усіх куткоў краіны пайшло абзывацца паэтычнае водгулле.

Гэтак уяўляецца, дый так сапраўды было, прыход у літаратуру моладзі, дакладней кажучы, пачатак савецкай літаратуры ў рэспубліцы.

Перад вачыма ў моладзі быў грамадскі розгалас і эмацыянальны ўплыў твораў Я. Купалы, Я. Коласа,

М. Багдановіча, М. Чарота. І хоць у далейшым маладыя вершапісцы сталі ў большасці сваёй настаўнікамі і дактарамі, дзяржаўнымі дзеячамі і інжынерамі, яны, дарэчы ўспамянуць, засталіся прыхільнікамі і прапагандыстамі мастацкага слова.

Адбыўся, калі можна так сказаць, працэс крышталізацыі: у літаратуры засталіся толькі тыя, для каго яна была прызваннем, галоўнаю справаю жыцця.

*

Дзіва, як не сатлела яно ў прыску разбамблёнага Мінска, гэта шэрае паспарту! Авалы фатаграфій — твары хлапцоў і дзяўчат — у аздобах, на якія не скупіліся правінцыяльныя фотамайстры. Васількі і каласы, паходня на разгорнутай кнізе — уся гэта наіўная сімволіка хараства і карысці, асветы і ведаў выразна сведчыла пра абавязкі сабранага на фатаграфіі юнацтва. Не пакідаў сумняванняў і надпіс на істужцы са зборкамі: «VI выпуск Беларускага педагагічнага тэхнікума, 1928 г.»

Унеслі ў пакой гэтую картку, і адразу ж спляснуў лісцем сад маладосці, зашумеў, як шумеў ён некалі — чатыры самыя лепшыя з пражытых мною гадоў.

Мілыя твары сяброў і сяброўак нібыта ажылі, і мімаволі захацелася назваць усіх па імёнах... Не маўчыце ж, адгукніцеся па старой дружбе!

Даніла, можа ты дзе недалёка? Ты ж родам з той мясціны пад Мінскам, што ўкрыла сябе славаю дукорскіх партызанаў. Нездарма ж гэта была радзіма ўсебеларускага старасты Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова. Ты, напэўна, пайшоў тым следам на змаганне супраць захопнікаў. І, калі не склаў маладое свае галавы, тупаеш зараз дзе-небудзь на сонейку, думаю, з кійком, бо за гэту дзядоўскую прыладу даводзіцца хапацца і самому.

А ты, Петрусёк? Сам добра не ведаеш, адкуль ідзе твой род, ты рос у дзіцячым доме. Ты тады ўжо насіў акуляры ў драцяной металічнай аправе. Здымаў іх толькі кладучыся спаць і па-майстэрску вырабляючы практыкаванні на кольцах.

А вы — дзве Наташы? Светлакосая — паэтэса, на

дзіцячых вершаваных кроках прыкмечаная Якубам Коласам, і дзяўчына цямнейшага воласу, пазней настаўніца-дашкольніца, дзе вы?

Маня... Мань тут аж тры. Каторую гукнуць спярша? Напэўна, вось гэтую. Невысокая, чарнявенькая, з такой светлай усмешкай насустрач, нібыта ты ёй самы блізкі сваяк і не бачыліся вы сама менш гады тры. Адрываючы скупыя хвіліны з адпачынку, ты вышыла кашулю Трусу. Паўлюк скончыў тэхнікум на год раней за нас і, развітваючыся, абяцаў прыехаць на наш выпускны вечар. Ты сказала: спраўдзіш, будзеш мець падарунак. Паўлюк прыехаў і атрымаў выдатную вышыванку, з буйнымі ружамі цераз грудзіну, такімі свежымі, быццам бы толькі-толькі з куста. Так хораша абдараваны, адразу ж надзеў і пайшоў спяваць з нашым хорам, людскаваўся на сціплым развітальным пачастунку.

Тут не было кахання, пісаў і думаў Паўлюк пра другую, таксама, праўда, Маню, з абліччам больш замкнутым і задуменным, пэўна, дамаляваўшы ёй рысы Марыі з пушкінскай «Палтавы», гэты твор ён ведаў амаль увесь на памяць. З маёю аднакурсніцай у Труса была дружба, не ў сучасным разуменні маладых, а таварышаванне: калі для сябра — усё папалам, і лепшая палавіна каб абавязкова прыпала яму.

Пачуццё таварыскасці добра вырастала на тэхнікумаўскай глебе. Многа чаго ўклалася ў гэты грунт: выдатныя настаўнікі і супольнае навучанне ў іх, вясёлыя заняткі ў харавых і скочных гуртках, вячорнае чытанне ў бібліятэцы, літаратурныя спрэчкі, святочныя адпачынкі ў клубе і ў зялёным кутку — нашай ферме каля Свіслачы. І галоўнае — адкрытыя юнацкія сэрцы: запала што, дык на ўсё жыццё.

Вось я і не магу спыніцца: выклікаю з юнацтва постаці так, як запомніліся, палюбіліся тады.

Тодар... Ці пашчаслівіла хаця табе ў жыцці тое, што насіў шчаслівае прозвішча? Дасюль гарэніць смуткам тваё апавяданне пра горкага бедняка, які, выходзячы на работу, клаў на стол скрыпку. «А хлеба, татка?» — прасілі галодныя малыя. «А вы, дзеткі, тромкайце!» Успамянуў гэта і цяпер як быццам глынуў разам з паветрам камячок слязы дзіцячага гора...

Янка! Высокі, дужы, але вельмі ціхманы. Не здолеў дамагчыся адказу ад вучняў на абавязковай лекцыі ў паказальнай школе, там выяўляліся нашы настаўніцкія таленты. Лепшы студэнт курса, і раптам — правал! Праўда, практыкантаў пераварочвалася многа, вучні былі раздураныя. У момант прыкмячалі, хто чуецца не зусім пэўна, не можа ўгібаць у рукі дысцыпліну, і малыя дурэлі. Асабліва адзін, з птушыным, здаецца, прозвішчам — ці не Верабей? Спытаешся, чаму не малюе, а ў адказ: «Я спяваць хачу!» Вось і ссадзіў практыканта з капытоў, бо на задніх лаўках сядзяць і сочаць за табой нашы і школьныя настаўнікі, метадысты, студэнты. Аднак гэтую малую птушку мне ўдалося выставіць за дзверы — мог бы ўперціся і не пайсці! Тады мая, наогул сярэдненькая, лекцыя была ацэнена добра — умее трымацца, не разгубіўся.

А ў Янкі — няўдача! У перапынку ўсе кінуліся спачуваць, спагадаць. А ён на ўсе жалі і засмучэнні адказваў толькі яснаю сваёю ўсмешкаю. Нарэшце абазваўся: «Нічога!» — і дадаў колькі слоўцаў...

Ніхто з нас, хлопцаў, не спадзяваўся ад яго такога. А Янка сказаў, ды яшчэ пры дзяўчатах, але так па-хатняму абвыкла, па-сялянску проста, што не адчулася ні цынізму, ні грубасці. Волечка, таўсмаценькая, вастравокая сялянaчка, што найбольш хвалявалася за Янку і церабіла яго за рукаво, сама не заўважыла, як механічна паўтарыла тое самае. Тады толькі схамянулася: «Ой, што я!» — зацiснула рот далонькаю і выбегла...

Тады ўсе зарагаталі, не шануючы дзявочых вушэй, бо смяяліся і дзяўчаты. Асабліва пырскаў Міхась-весялун — ён адзін з першых у горадзе сабраў сваімі рукамі дэтэктарны прыёмнічак,— гэты прысядаў, пляскаў сябе па каленях: «Янка аскароміўся!»

Прыкры выпадак не папсаваў, аднак, рэпутацыі нашага сябра: гады адменнага навучання дый іншыя хораша праведзеныя лекцыі прынеслі яму добры дыплом.

Яўген... Зямляк-случанін, з выдатным каліграфічным почыркам, працаваў як быццам у сялянскай газеце, ды мала пахадзіў па зялёнай мураве...

Міхась... Тады дружылі, убачыліся і ў сталым ве-

ку, пасля вайны, праводзячы нейчую труну. Змовіліся сустрэцца, а ён не прыйшоў.

Мікола... Прыехаў вучыцца ў смешнай шапачцы-магерцы, накшталт тых, што насілі палоненыя ў імперыялістычную аўстрыйцы. Прыгнаныя на работу ў фальваркі, яны распаўзаліся па вёсках, шукаючы падхарчавання: вылівалі з волава, выплесквалі з мядзяных трохкапеечнікаў пярсцёнкі, жуковіны, як называлі іх слуцкія дзяўчаты. Хадзілі палонныя хто ў чым, абы цяплей. Ці не за тыя, падобныя да аўстрыйскай, шапачку і курцік прыляпілі старэйшыя на наш першы курс мянушку «аўстрыйцы»? А Мікола хутка вылюдзеў, стаў прыкметным у горадзе камсамольцам.

Вера... Рэзкаватая, на першы погляд, але добрая і смяшлівая, яна была прафсаюзная актывістка.

Сяргей.... Гэты можа найболей абяцаў з маладых тады паэтаў, па ім засталося некалькі тонкіх, амаль забытых цяпер кніжачак. «Беларусь больш не стане крыжам пры дарозе з Хрыстом распятым». Ягоныя словы, помняцца і дасюль, першыя з радкоў пачаткоўцаў прагучалі ў маладнякоўскіх дакладах, паўтараліся ў прэсе.

Паляшук па нараджэнні, ён выхоўваўся разам з Толікам-мастаком у Мазырскім дзіцячым доме. Быў не надта старанны — рана спакусілі вершы! — але кемлівы, з добрай памяццю, хораша маляваў. Твораў, якія вымагала вывучаць праграма, чытаць ленаваўся, прасіў пераказаць змест. Слухаў і здаваў потым залік з лепшай адзнакай за таго, хто расказваў. Значыць, умеў вылушчыць з рэчы самы асяродачак, стрыжань, галоўнае. Гэта ўмельства сцвярджалася і тым яшчэ, што палавіна курса насіла дадзеныя Сяргеем мянушкі. Трапныя і вясёлыя, зусім някрыўдныя, яны адразу прыжываліся. Да часу выпуску стаў хлопец вельмі прыгожы і таксама займеў мянушку. Мы звалі яго Серж, зрэдку дадаючы — Путоўскі. Гэтак менавіта — у два словы — ён запісаў у канспекце прозвішча вядомага збіральніка беларускіх казак. Вершы Сяргеевы студэнты любілі і многія ведалі на памяць. Лёс не быў шчодры, здольны гэты чалавек пайшоў ад нас, многа чаго не дагаварыўшы...

Эстэрка... Біблейскага хараства дзяўчына. Яе ку-

чаравая галоўка хораша вылучалася на каўняры паўкажушка; такую вопратку — сялянскія дзеці! — насілі мы ўсе. Праз адну ці дзве зімы навучання ў яе з'явілася дзіця. Памылка на той час і на дзяўчынін век — нялёгкая, але ніводнага жарту, ніводнага кпілівага погляду не было кінута ў бок сяброўкі. Ёю апекаваліся дзяўчаты ў агульным памяшканні, без чаргі давалі месца пры абедзенным стале, непрыкметна падкладаючы лішняе паўлыжкі кашы: «на дваіх».

Стэфа, Ганна, Ларыса, Валянціна, пра якую Сяргей сказаў «зеленакосая бярозка»...

Вымаўляю імёны і нібыта чую, як з далёкіх дзён абзываюцца галасы. Тыя, тагдышнія... Вясёлыя, не зачэпленыя хрыпатою ад жыццёвых застуд, не прыглушаныя дарожнымі засмучэннямі.

На нейкі зусім кароткі момант пачынаю і я ўяўляць сябе такім, як хлопцы і дзяўчаты, што глядзяць з карткі: на першых кроках у жыццё. Аднак перамовы з парою ружовых летуценняў, якімі б светлымі яны ні здаваліся ў маладой далечыні, пакрысе надараюць смуткам па незваротным, пагражаюць перарасці ў боль...

Бо, пачаўшы лічыць, шмат каго ўжо недалічуся, не знайду іхніх курганкоў там, дзе адстойвалі яны сцяг наш і свет наш. Пра другіх прачувалася штосьці не дужа лёгкае: жыццёвыя неспадзяванкі, хворасці, часам чалавечыя нячуласць і несправядлівасць не дазволілі ім прыкласці, як маглі, як хацелі, сталую сілу сваю да той справы, якую ахвярна любілі, рабілі заўсёды са шчаслівым трапятаннем у сэрцы, цёпла і дакладна называючы яе — клопат пра наступніка. Той самы, што інакай называецца школа, дзе з малых, натурыстых, гарэзлівых чалавечкаў выгадоўваюцца грамадзяне, вартыя гарачага, уздымнага часу, патрэбныя нашай невычэрпнай на пачынанні і шляхі Радзіме.

Пра ўсіх, аб кім падумалася і ўспамянулася, я мог бы прыгадваць яшчэ і яшчэ... Бо ёсць што. Горшае не паказваецца ў такой паўнаце, хоць было і яно: шпарка ў розныя часы малолася мука, дзе ж тут абыдзешся без высевак!

Дзівіся не дзівіся, а паўвека прайшло. Нічога ўжо не пераробіш, не перайначыш, нічога не падвяслуеш назад з тых неўзаметку адплыўшых даляглядаў. Не адхіліш і нясціплага дотыку ўзросту: пачалі мы не пазнаваць адзін аднаго на вуліцы або, сутыкнуўшыся твар з тварам, дзе-небудзь у бальнічным калідоры. І размінаемся часамі, не пазнаўшы, не ведаючы, што жывём у адным горадзе, хіба што ўзятае ў чорную рамку паведамленне ў вячэрняй газеце напамяне, выхапіць са змроку мінулага сяброўскія рысы ці словы, тады зашчыміць дакор самому сабе: а маглі б і дасюль бачыцца!

...Тым часам з гэтай памятнай карткі ўсё точыцца і точыцца цеплыня... Каб агледзеўся і, як трэба, аслухаўся раней, можа і рызыкнуў бы напісаць што большае, бо маю пэўнасць: не пашкодзіць людзям ведаць пра тую маладосць, не толькі студэнцкую, а маладосць ладу, рэспублікі, яе ўраджаяў, вершаў, доследаў, першых, сваімі рукамі зробленых машын. Маладосць гэта ў маштабе Часу даўно мае лаўры Неўміручасці. Іначай сказаўшы, узгадаванае тады пакаленне дзівіць выключнага гатунку трываласцю і ў здзяйсненнях сваіх, не гавару пра вышыні памкненняў, багата дзе пазначыла свае шляхі подзвігамі, чутнымі і знанымі на радзіме і ў свеце.

Вось і шкада, што не аднатаваліся адметныя рысы кожнага, хто меў сілу, гонар і асалоду падымаць плячыма эпоху. Бо пакаленне ёсць пакаленне, яно — неўміручае, а чалавек ёсць чалавек: што душа, то свая постаць. Дый людзей тых усё меншае, а няхай бы жылі і надалей хоць на паперы ці на палатне, але жылі роўна і згодна з намі і з нашчадкамі.

Цяпер ужо не ўхаплю дагнаць і замацаваць недабачанае, можа хто іншы знойдзецца, скажу ўсяго толькі пра аднаго таварыша, чыйго аблічча на выпускной картцы няма, а магло быць.

Цэлыя два гады правёў ён пад дахам нашага юнацтва. Мы побач слухалі і не чулі лекцыі, нявыспаныя, стараючыся не пазяхнуць, бо ноч была праседжана за вершамі. Яны ляжалі, свежанькія, у прыскрынках нашых лавак і прасіліся на божы свет —

пачытаць у перапынку дый можа заімчаць куды у рэдакцыю.

На вялікіх пераменах мы стрымгалоў ляцелі па сходах у падвал абедаць і ўвішна бразгалі алюмініевымі лыжкамі, каб што болей вылавіць у пуставатай сталовачнай капусце. Калі ўдавалася трохі зарабіць, хадзілі ў кіно са сваімі тагачаснымі захапленнямі і, не выбіраючы ні часу, ні месца, чыталі адзін аднаму напісанае, а яго прыбывала кожны дзень.

Я выбраў гэтага таварыша не праз агульнасць прафесійных інтарэсаў і не таму, што ягоны лёс больш драматычны ці адменны за лёсы іншых, чые імёны ўспаміналіся тут. Вядома, хапіла і на ягоным шляху адменнасці і драматызму, да таго ж, вызначыцца і зрабіць прыкметныя рэчы майму таварышу пашанцавала пазней.

Пішу пра яго, бо не магу не напісаць: сярод вельмі блізкіх ён быў тады самы бліжэйшы. І я знарок пачаў варушыць час, калі мы былі прыблізна роўныя — усе на ўзлёце! Васемнаццацігадовыя, нават яшчэ маладзейшыя, бо васемнаццаці большасць з нас дасягала ўжо на вылёце з тэхнікума, мы здаваліся адзін аднаму, дый, мусіць, і сталым людзям, добрымі, толькі добрым здавалася і ўсё наўкол. Так яно і было: добрае расло жыццё і добрыя падрасталі ў яго хлопцы!

Аднак ці адна добрасць, чытай — чуласць, сардэчнасць, шчыраванне ў абавязках, была ў тым нашым юнацкім стане? Нас поўнілі смеласць, маладая прасталінейнасць — альбо так, альбо так! — і ўсё ў вочы, як таго вымагала праўда ўласнага пераканання; частавата прарывалася, напэўна, безразважнасць, не леградумнае кіданне на ўзвей-вецер, а пераход да дзеяння без доўгіх хістанняў; паўзверх усяго свяціла, вядома, велікадушнасць. Цэласнасць натуры, некранёнасць характару здаваліся дадзенымі назаўсёды, дый хто думаў тады — да васемнаццаці! — пра эрозію ўзросту і траўленне душы горычамі і кіслотамі перажытага.

Каб жа можна было застацца ў такой непарушнасці да схілу апошняга дня, да сходу ўсіх дарог! Мы не маглі не змяніцца, вядомая рэч, а пра вартасць гэтых змен развáжаць пасля нас.

Вось чаму ва ўсім, што ўспамянецца, я не буду выходзіць за агароджу юнацкага саду. Мой сябар, як і ўсе тыя, чые аблічча захавала картка, куды ён не трапіў, быў добры сябар. І застаўся для мяне такім, як ні задзімалі віхуры, як ні развозілі ў процілеглыя бакі жыццёвыя цягнікі. Пазней мы сустракаліся ў розных умовах, у неаднолькавых якасцях, на розных прыступках, але над кожнай сустрэчай, калі яна адбывалася, пачынала невідочна калыхацца зялёная галінка ўсё з таго самага саду маладосці.

Пра тое, як і калі паводзілася, напішацца не ўсё. Не таму, што я пра нешта забыўся, проста мы з таварышам многа дзе былі разам і багата чаго ведаем адзін пра аднаго.

Мінск.

Канец жніўня 1924 года.

На рагу Савецкай — цяпер Ленінскі праспект — і Пралетарскай — цяпер вуліца Янкі Купалы — сярод драўляных дамкоў узвышаецца двухпавярховая камянічка, запаветны педагагічны тэхнікум.

Вузкая палоска асфальту вядзе з вулічнай брамы на прасторны двор. Па правай руцэ — драўляны флігель, там кватэры дырэктара і загадчыка гаспадаркі. У глыбіні двара відзён доўгі мураваны будынак, вельмі падобны да памешчыцкіх стайняў, што звычайна складаліся з нябітага камення. Але мы ведалі ўжо: тут змяшчаецца клуб. Старэйшыя студэнты так і называюць яго — стадола. Амаль усутыч пры стадоле, утвараючы просты кут, цягнецца нізкая даўгая афіцынка. Тут жывуць тэхнікумаўскі дворнік, дзядзька Кісель, і вартаўнік, дзядзька Лабанок. Ён невысокі, з клінаватай барадкай, мае абавязак даваць званок на заняткі. За чатыры гады ён расказаў упадабаным студэнтам неверагодную колькасць старасвецкіх анекдотаў і салонаватых гісторый — па некалькі штук на кожнай перамене.

Ні ён, ні дворнік Кісель ніякія не дзядзькі навучэнцам, Дзядзька — пашыраны ў дваццатыя гады зварот, дадатак да прозвішча. Так звярталіся студэнты да настаўнікаў і настаўнікі да студэнтаў. Смешнавата было чуць, як мажны Міхайла Грамыка, вы-

кладчык геалогіі, выклікаў да дошкі хлопчыка, у якоґа і барада яшчэ не высядала: «Проша, дзядзька Серада!»

Увесь двор — забрукаваны, на тых месцах, куды радзей дастаюць студэнцкія ногі, каля дрэў і паўз сцены касмылямі расце зялёная трава. На лаўцы, за спінаю ў якой падсыхае старая, уся ў парастках, пірамідальная таполя, размаўляюць, а можа больш прыглядаюцца адзін да аднаго, два хлопцы. З-пад заламаных кепачак выбіваюцца шыкоўныя чубы, няйначай над іхнімі зачоскамі папахадзілі рукі мястэчковых цырульнікаў.

Абуты і апрануты хлопцы таксама не абы-як. Адзін ва ўсім крамным: порткі з цёмнага корту і шэрая ў падоўжную палоску сацінавая кашуля. На другім, крыху меншым і шчуплейшым, шарачковыя, пафарбаваныя ў альховай кары галіфэ, у пагоні за модаю нагавіцы зашыраны ў клубах і вісяць, як сабачыя вушы. Затое ў яго весялейшая кашуля — сіняя з белымі пасачкамі.

На дзвярах камянічкі прылеплены аркуш паперы, на ім цвёрдаю рукою тэхнікумаўскага справавода, дзядзькі Зэйдаля, выпісаны прозвішчы: сорак прынятых у студэнты і пяць кандыдатаў.

Хлопцы і дзяўчаты падыходзяць пад дзверы і, задраўшы галовы, шукаюць сябе ў спісе. Не знайшоўшы, чытаюць яшчэ раз. Калі не дапамагае і гэта, стаяць у смутным роздуме — вяртацца ж у вёску не хочацца! — ды падаюцца забіраць дакументы.

Замацаваныя ж у правах і абавязках студэнтаў выглядаюць іначай — яны ўжо тут гаспадары! Значыць, трэба разглядацца, дзе што.

Хлопец у сіняй кашулі з паўгадзіны назад адчуваў сябе вельмі нешчаслівым: не вычытаў свайго прозвішча ў алфавіце! Пазіраў угару, нібыта мог дагнаць страчаную надзею, не ставала сілы адысціся.

— А ты чаго нос павесіў?

Засмучаны хлопец — гэта быў я — азірнуўся на голас.

Крыху рыхлае аблічча з ледзь-ледзь адстаўленаю ніжняй губою добразычліва ўсміхалася. З тым, хто загаварыў, мы перакінуліся словам на першым экзамене і ўжо некалькі дзён віталіся як знаёмыя. Па-

думалася: што ж ты пытаеш? І так жа ўсё зразумела! Палічыўшы за лішняе адказваць, я кіўнуў галавою ў бок дзвярэй.

— Дрэнна глядзеў!

І сапраўды, у гэты момант я ўбачыў сваё прозвішча. Толькі не там, дзе яму належала стаяць згодна з алфавітам, а ў канцы, апошнім, саракавым.

Не верачы вачам, я правёў па слупку прозвішчаў пальцам.

— Во-во, пачытай рукамі,— засмяяўся хлопец з адстаўленай губою — гэта быў Глебка.— Ды прыцiскай добра, каб не выслізнула часамі з-пад кіпця!

Усмешка сама сабою з'явілася і ў мяне. Мы пажартавалі: мусіць, такі праўда: мужык пакуль не памацае, ніколі не паверыць.

Пахадзілі па будынку. Нашаму першаму курсу была і прызначана першая ў правым канцы калідора аўдыторыя, якраз супраць настаўніцкай. На другім паверсе змяшчаліся кабінеты прыродазнаўства, хіміі, бібліятэка, вучыліся старэйшыя курсы, выпускнікі.

Праз некаторы час мы перайшлі на лаўку пад таполяй і ўзаемна запаўнялі вусную анкету: адкуль, што канчаў, якія кнігі больш любіш? Неўзаметку прызналіся адзін аднаму, што пішам вершы.

На гаворку падышоў трэці і, праўду сказаць, крыху парушыў яе, прыгнятаючы нас сваім элегантцкім выглядам. Апрануты па-гарадскому, ён трымаўся вельмі свабодна, сесці з намі не сеў, а стаяў насупраць, час ад часу падымаючыся на пальчыкі, нібыта хацеў звярнуць увагу на свае модныя штыблеты, жоўтыя, з пляскатымі, «качынымі» насамі. Яго не прынялі ў тэхнікум, але хлопец не гараваў, меў надзею на нейкія падрыхтоўчыя курсы. Ён даволі бесцырымонна папраўляў і павучаў нас і, трэба сказаць, змусіў да некаторай павагі да сябе: яго брат піша вершы і ўжо друкуецца. Дык можа мы пачытаем свае «творы»? Але як тут вытыкацца перад такім аўтарытэтам! І ўсё ж Глебка адважыўся, пачытаў нешта.

Новы знаёмы пахваліў, ён разліваўся калі не салаўём, дык сама менш жаваранкам: хораша напісана, ёмка. Толькі шкада — у духу нашаніўцаў, а ця-

пер маладыя «ломяць форму», бяруцца ў рожкі са «старымі». Пачаў расказваць пра «Маладняк». Сыпаў прозвішчы — Чарот, Вольны, Дубоўка, Дудар,— нібыта яны былі яго найлепшыя сябры.

Пра гэтых пісьменнікаў ужо даводзілася чуць, нават чытаць іх вершы ў часопісах, а вось пра «Маладняк» я не ведаў нічога. А Глебка пахваліўся, што знаёмы з вядомым пісьменнікам, гэта яго зямляк, таварыш па школе, Паўлюк Трус.

Маё знаёмства з Паўлюком пачалося недзе ў сярэдзіне навучальнага года, ён аднойчы даў мне на ноч «Кабзара», дый хадзіць нам з тэхнікума дамоў было ў адну дарогу, у бок Старажоўкі. Але, вядома, самы трывалы звянчак у адносінах быў Пятро, ён таварышаваў і з Трусам, і са мною.

Тут разгортваюцца самыя цікавыя старонкі гэтай дружбы траіх, але, на жаль, яны даўно напісаны і, спадзяюся, прачытаны. Дык не выдзіраць жа і пераносіць сюды ўрыўкі з ранейшых кніг! Дый там гаварылася пра Пятра Глебку, таго, што быў поруч, калі адчувалася плячо сябра і яго клопат. Хто ж мог думаць, што так хутка давядзецца ўспамінаць пра яго ўжо адсутнага.

Некалі, магчыма, збяруцца ў адны вокладкі гэтыя нататкі і запісаныя раней сустрэчы. Пакуль жа давядзецца перапрасіць чытача, параіць, паводле прыкладу навукоўцаў,— хай зазірне ў кнігу вышэй, пагартае ўспаміны пра К. Чорнага, П. Труса і маю аўтабіяграфію.

Зробленыя цяпер накіды будзем лічыць за ўваходзіны ў сад маладосці. Адтуль пачалося ўсё: першыя радкі і роздум пра жыццёвую дарогу, ды, уласна кажучы, і сама дарога...

Мы не былі стараннымі студэнтамі, за ўзор не возьмеш, але ведаць хацелі і веды прызапашвалі. Часамі, праўда, забываліся пра гэта, калі выпадкам кружылася галава ад маленькіх поспехаў: з'явяцца дзе-небудзь у газеце слабенькія радкі, а да аўтара не прыступіцца, кіем носа не дастанеш.

Першыя вершы Пятра друкаваў Алесь Якімовіч у дзіцячым часопісе, а выйшаў паэт у шырэйшы друк увосень 1924 года праз Адама Бабарэку, які за-

гадваў аддзелам літаратуры ў газеце «Савецкая Беларусь».

Той выпадак здаўся тады вялікім дзівам, нават дасюль застаўся ў памяці радок: «І вецер франтам па вясковай разгульваў вуліцы». Газета з вершам абышла ўвесь наш курс, Пятра віншавалі, прыходзілі паглядзець на «паэта» і старшакурснікі. Гэта дадавала ахвоты да працы і нам з Сяргеем Дарожным. Сяргей выйшаў у друк следам за Глебкам, а з наступнае восені выплыў і я.

Лекцыі лекцыямі, а па-сапраўднаму мы браліся за работу ў бібліятэцы. Пасля вясковай галадоўлі на кнігі — з дзесятак можна было наскрэбці ў настаўнікаў і па хатах, дый то па колькі разоў паперачытваных,— тут быў неаглядны прастор. І мы з галавою рынуліся ў свет хараства і пазнання. Чыталі ўсіх класікаў запар, ад першага тома да апошняга, стараліся не прапусціць ніводнай новай кніжачкі паэзіі. Так днявалі і начавалі б, каб не папярэджвала далікатна бібліятэкарка, відаць, здзіўленая з такой маладой ненаеднасці. За адным столікам — Пятро, за другім — я, выбіралі месца далей ад дзвярэй, бо там пакручваліся дзяўчаты: ну як не кінуць вокам у той бок.

Тут жа, у бібліятэцы, заспела нас смутная вестка. Стаў у дзвярах Трус і памануў пальцам. Ён быў задыханы, толькі што з «Маладняка»: няма Ясеніна!

Сяргей Ясенін — не проста наша юнацкае захапленне, гэта была больш чым любоў. Кожны радок адразу падхопліваўся, запаміналіся і паўтараўся бясконца, пераходзячы мімаволі ў зусім адкрытае наследаванне. Мы спявалі яго вершы на выпадковыя і ўласныя мелодыі, чыталі гуртам і паасобку. Што казаць пра моладзь, гэты магутны ўплыў зазнала ўся тагачасная паэзія.

Мы стаялі аглушаныя, слухалі Паўлюка: у Ленінградзе здарылася няшчасце, у гасцініцы, невядома чаму. Напісаў крывёю развітальныя радкі. І Дубоўка з Вольным напісалі вершы, заўтра будуць у газетах.

Як, на чым скончылася тая наша гаворка? Дома кінуўся да паперы, праседзеў усю ноч. У тэхнікуме на перамене па вачах пазнаў, што не спалі ні Паўлюк, ні Пятро. Але напісанага мы так і не паказалі адзін аднаму, занадта многа нахлынула горкага пачуцця, каб можна было ўправіцца выказаць. Потым нешта ўсё ж пракінулася ў друку, мой верш надрукавалі нават у «Маладняку».

Але страта была занадта буйною і цяжкай, каб не пакінуць большага следу ў душы і чалавечай памяці. Цераз трыццаць год мне пазванілі з газеты «Знамя юности». Спыталіся, ці не здаралася пісаць пра Ясеніна, і калі я адрокся, нагадалі фельетон «Развянчайце хуліганства», надрукаваны ў «Комсомольской правде» 19 верасня 1926 г. Там,— нязручна і няёмка вымаўляць зараз,— паэзія Сяргея Ясеніна абвяшчалася маральнымі дражджамі хуліганства.

Роўна праз чатыры дні з Мінска паляцеў адказ. Маладыя паэты з усім запалам сваіх васемнаццаці гадоў рынуліся на няпраўду, тым больш што выходзіла яна ад уплывовага тады фельетаніста Л. Сасноўскага. Ліст, пад якім у ліку іншых стаялі прозвішчы Пятра Глебкі і маё, можна падпісаць і зараз, не зважаючы на асобныя палемічныя аздобы стылю. Мы сцвярджалі: Сяргей Ясенін — вялікі нацыянальны паэт і ніяк нельга раўняць пад адзін капыл Ясеніна і ясенішчыну — гэтак называлі ўпадніцка-багемныя настроі і паводзіны некаторых літаратараў.

Пішучы так, мы не маглі ўгадаць, што ў нейкай ступені дарастаем да поглядаў Горкага, Луначарскага, Маякоўскага, да многіх слаўных галасоў савецкай літаратуры, заклапочаных паэтычным лёсам Сяргея Ясеніна. Дзіва тут вялікага, відаць, няма: моладзь бачыць востра, заўсёды імкнецца да вяршыняў новага і перадавога, жыве прагай да вялікага, паэтычнага, узвышанага.

Гэту гісторыю напамянуў асабіста вядомы літаратуразнаўца Ю. Л. Прокушаў, яму належыць і першая публікацыя матэрыялаў у 1955 годзе («Судьба поэта», б-ка «Огонек», № 14, 1976 г. стар. 11—12.)

Тут не было адхілення ўбок. Трохі вышэй гаварылася пра ненаеднае чытанне маладосці.

Ці не пачалася ад таго штодзённага гасцявання ў бібліятэцы Глебкава любоў да кнігі? І так, мусіць, і не. Гэта схільнасць пакрысе мацавалася ў яго з самага маленства, а ўжо тут, у немаленькім на той час кнігасховішчы, яна ўзрасла. А зарабіліся першыя грошы, купілася і першая кніжка. У тыя гады магазіны часта абвяшчалі танны распродаж кніг. У мяне — а ў Глебкавай бібліятэцы і пагатоў — знойдуцца набытыя тады зборнічкі вершаў, выданні «Всемирной литературы» з перакрэсленай старою цаною і пастаўленай алоўкам сходнаю для нашых кішэняў — 5 або 10 капеек.

У Пятра Глебкі збор кніг вырас не вузка прафесійны, паэтычны, а бадай усебаковы: гісторыя, геаграфія, мовазнаўства. Перавага, вядома, беларусіцы і мастацкай літаратуры. Мне здаецца, Пятро не меў сілы адкінуць, развітацца з чым-небудзь надрукаваным, хай сабе гэта будзе брашурка на некалькі старонак або проста нумар газеты. І ў яго перахоўваліся камплекты газет, часопісаў, тыднёвікаў. Па самае нельга напакаваныя паліцы і ўсе шуфлядкі ў кватэры і на дачы, да таго ж — пад дах загружаны гараж. Аднак тут не было скнарасці, якая калоціцца над набытым, набыткі падбіраліся паводле схільнасцей гаспадара: а можа некалі спатрэбіцца. І патрэбілася, не самому, дык людзям, у прыватнасці мне. Калі заманулася неяк паглядзець на першыя свае кніжачкі, я хацеў быў выпісаць іх праз міжгародні абанемент, ажно Пятрусь палазіў па паліцах і дастаў: маеш, карыстайся, але прынясі. І не раз напамінаў, бо адна кніжка чамусьці не адшуквалася, хоць цяпер, як высветлілася, стаіць на месцы: я даваў яе В. Таўлаю, а ён вярнуў па прыналежнасці, Глебку, толькі, мусіць, пастаўлена была не туды.

Аднойчы, праўда, у ваенныя часы, здзівіў ён мяне. Спыніліся на Кузнецкім мосце перад вітрынай, спыніла дарвінаўскае «Падарожжа на караблі «Бігль». Гэтай кнігі не было ні ў мяне, ні ў яго, а мець вельмі хацелася. Пятро прытрымаў мяне:

— Дзе ты яе дзенеш? Давай лепей грошы на чарку пакінем.

Давялося паслухаць горкае рады, аднак, зайшоўшы праз некалькі дзён да яго ў гасцініцу, я ўбачыў

на тумбачцы разгорнутае «Падарожжа». Не толькі, выходзіць, купіў, але і чытаў.

На мой запытальны пагляд Пятро вінавата прыплюшчыў вочы:

— Ведаеш, давялося вярнуцца тады. Не трымаў жа ў руках ніколі...

Тут ён быў вымушаны зрабіць паўзу, каб выслухаць нараканні, што гэта не зусім па-таварыску. А Ільля Гурскі, з кім яны жылі ў адным пакоі, засмяяўся:

— Дык ён жа і табе купіў. Кажа: «Вайна-то вайна, а кнігу забяруць».

Міла і цяпер, перабіраючы паліцы, патрымаць тое ваеннае, на жоўтай паперы, выданне! Таннае і вельмі дарагое.

...Год выпуску з тэхнікума — 1928 — быў і годам нашай сустрэчы ва універсітэце, куды Пятро падаўся пасля таго, як не перайшоў разам з намі з другога курса на трэці, а Паўлюк трапіў, замест настаўніцкай практыкі, адрабіўшы год у абласной газеце.

На адным курсе, апрача нас траіх, апынулася многа пісьменнікаў: Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар, Сяргей Дарожны, Наталля Вішнеўская, Ядвіга Бяганская, Віктар Казлоўскі, Паўлюк Шукайла, Тодар Кляшторны, Мендэль Ліўшыц і З. Вітэнзон.

Было гэта таленавітае і разумнае асяроддзе, быў і тут сад, і таксама малады, ды ўсё ж не такі, як той, ранейшы.

Нават у нас траіх сяброўства чамусьці не шырылася, не глыбела, а працягвалася, калі можна так сказаць, некалькі інерцыйна. Паўлюк здаваўся нечым заклапочаным, занадта паглыбленым у сябе, усё менш і радзей чуўся яго бесклапотны раскацісты смех. Пятро нядаўна ажаніўся і адпаведна выпадку пасалідпеў, больш трымаўся сямейных пенатаў, і хоць мы жылі зусім поруч на ўскраіне каля чыгуначнага пераезду, а бачыліся не вельмі часта. Няма ў тым Пятровай віны, ён часцяком залучаў мяне ў дом бацькоў ягонай жонкі Ніны, каб напаіць чаем, накарміць абедам. Для хлопца з няўладжаным побытам гэта было зусім няліпіне, асабліва калі вытха-

лася стыпендыя, хай сабе персанальная, ды ўсё роўна — скупаватая.

Ва універсітэце рыхтавалася вечарына. Паўлюку, Пятру і мне прапанавалі аднавіць практыку «калектыву шаўцоў». Пад гэтым псеўданімам мы ў тэхнікуме выпускалі вусную газету «Чырвоны прамень». Чаму «калектыў»? І чаму «шаўцоў»?

У Паўлюка быў дзядзька, шавец па прафесіі,— гэта першае. Другое: у тэхнікуме вучыўся А. Александровіч. Друк адзначыў яго рабочае паходжанне: сын шаўца. У нас з Глебкам, вясковых гадаванцаў, не было такіх козыраў у біяграфіі, вось неяк і высмеялася аднойчы назва добраахвотнай суполкі перасмешнікаў, якая працавала калектыўна.

Звычайна напярэдадні выступленняў мы замыкаліся ў свабоднай аўдыторыі і складалі вершам фельетоны, кідалі з'едлівыя заўвагі ў бок студэнтаў і выкладчыкаў, расказвалі смешныя выпадкі ў сталовай ці ў агульных памяшканнях. Па выбухах Трусавага смеху, калі ўдавалася прыдумаць нешта дасціпнае, студэнты ведалі: «шаўцы працуюць».

Калі надыходзіла наша чарга выступаць на вечары, у зале прыгашвалася святло. Адзін з нас абзываўся са сцэны, другі — з гімнастычнага снарада каля сцэны, трэці — проста з гурту слухачоў. Такім чынам праграма тэатралізавалася, хоць гэтага можна было і не рабіць: на нас не глядзелі, а слухалі.

Пэўна, траплялася тое-сёе ўдалае. Трус меў практыку: гумарыстычныя прыгоды ягонага героя Ціта чыталіся наросхапы. Глебка таксама друкаваў дробныя гумарыстычныя рэчы, псеўданімы — Язэп Касіла і Грыша Асот — успомніліся яму пад час вайны.

Архіваў газеты, напэўна, не захавалася, мы не ўмелі калаціцца над кожнай паперкай, аднак не падручуся, што калі-небудзь пры разборы Глебкавых спратаў не знойдуцца матэрыялы «Чырвонага прамення».

Тады ўжо адчувалася патрэба ў спрашчэнні граматыкі і правапісу, у Інстытуце беларускай культуры мы слухалі дыскусіі з гэтай прычыны. Жаліліся і студэнты на залішнюю складанасць. І «шаўцы» не замарудзілі адгукнуцца. Злажылі доўгі верш пра пакутніка-студэнта, які заблытаўся сярод граматычных

умоўнасцей і выключэнняў: «Так і ходзіць, адным словам, ад прыдаткаў к дзеясловам, а як стане якаць-акаць, можа портачкі... надзець не тыя»,— з ходу дакончыў радок Глебка. Трус гэта месца чытаць не згадзіўся: «Зарагачу раней часу, смешна не будзе». Не сказаць, каб тут збыткаваліся добры густ, пераборлівасць, аднак тады было весела і слухачам і аўтарам.

Дык вось, сабраліся мы ў Глебкі, каб адрадзіць «шаўцоў» на універсітэцкай глебе. Доўга сядзелі, разоў колькі выкідалі недакуркі з попелкі, напсавалі гару паперы, малюючы рагатых і бязрогіх чорцікаў, а нічога людскага так і не выжартавалі.

На тым і разышліся, не разумеючы, чаму не прыйшло, не падняло, як раней падымала, пачуццё гумару, не пайшоў складацца радок. Было сумна: не заспявалася колішняя маладая песенька! Адказ на гэта далёка не ляжаў: нічога не зробіш — пасталелі! Сябры выходзілі на сур'ёзныя задумы: Трус на «Дзесяты падмурак», Глебка — таксама на паэмы, яны пазней праравліся ў яго цыклам.

Літаратурнае жыццё ў той час ускладнялася, часамі штучна, уяўнымі і няўяўнымі абвастрэннямі, словам, калі і не кіпела, дык бурбалкі ўсхватваліся. Спрэчкі, дыспуты, палеміка ў друку, папрокі і абвінавачванні — усё гэта як быццам абмінула наша сяброўства, хоць мне і Глебку пападала: мы не належалі да БелАППа, куды ўваходзіў Трус, а гэтага ўжо было даволі, каб заслужыць няласку ў крытыкі і прабіць расколіну ў адносінах.

Не маю намеру варушыць накладныя выдаткі і страты пары. Час развыжыў усё: паказаў абвінавачаных без віны і вінаватых у іх абвінавачванні. Цалкам гэта стала ясна пазней, а многа чаго было ўжо відно і ў час вайны.

Мой сябар стаў, як і ўсе мы, бесхацінцам, пеша, у лапціках прайшоў немалую і нялёгкую дарогу з Мінска аж пад Смаленск, і толькі сустрэўся там з таварышамі, як налучылася хвароба і пачала кідаць яго па гарадах і шпіталях Паволжа.

У ваенных нягодах, далёка ад «бацькаўскіх гоней», пад выпадковымі дахамі, а то і без іх, вырасла ў яго жывая і цэльная кніга паэзіі: 1941—1945. Хоць

не шмат там вершаў, але, думаецца, чытацкая прыхільнасць да іх застанецца трывалай.

Тою парою ў Пятра Глебкі як бы адкрылася другое паэтычнае дыханне.

Мы сустрэліся ў Маскве, калі ён быў адклікаыны з газеты на Калінінскім фронце, а я вярнуўся з-пад Сталінграда.

Ніколі не быў такі смачны чорны асушак хлеба, а я такі каштаваў той, прынесены з-за лініі фронту партызанскім пасланцом. Сапраўды родны хлеб, пах і смак якога застаўся ў Глебкавым вершы. І не скупая чарка памагала нам успамінаць і гаварыць, яе магло б і не быць зусім,— над нашымі галовамі зноў шумела зялёная галіна ■ саду маладосці.

Чаго толькі не ўспомнілі, чаго не перагаварылі! У думках прайшліся пяшэчкам па Мінску: з Дома пісьменнікаў — а ці цэлы? — да ягонай кватэры — а кнігі не згарэлі? Увесь, як ёсць, абтупалі родны горад, успамянулі перш-наперш сваякоў і знаёмых, якія з той адлегласці прасторы і няшчасця таксама здаваліся сваімі.

І адчулі патрэбу: пабыць хоць на крок бліжэй да дому, паехалі зірнуць на тое месца, адкуль яшчэ не хадзілі цягнікі ў Беларусь,— на Беларускі вакзал. На пероне сталі тварам да ветру, як нам здавалася, з роднага боку. Маўчалі і думалі. Потым прыселі на дубовыя цяжэразныя канапы ў вестыбюлі, не парушаючы маўчання, пакуль не падсуседзіўся чалавек, таксама ў шыняльку, з нясвежым тварам, распаўсюджваючы букет моцнага перагару. Аб тым аб сім пагаварыў і неўзабаве папрасіў пару дзесятак — не хапае даехаць дамоў, а ён сам — ужо інвалід, адваяваўся.

Я хацеў быў пашкадаваць просьбіта, але Пятро паклаў на плячо руку.

— Пайшлі! — тонам загаду прамовіў ён і павёў нас да касы. Тут, каля акенца, хаваючы ўсмешку, звярнуўся да нечаканага знаёмага: — Давай, колькі ў цябе там ёсць,— рэшту я даплачу.

Той рэзка крутануўся і знік у дзвярах.

Не пазнаючы, я глядзеў на Глебку: новыя якасці ў характары — на такое ад яго ніяк нельга было спадзявацца.

Пятро, скрывіўшыся, абціраў рукі, нібыта хацеў абтрэсці штосьці бруднае.

— Ужо і на бядзе майструюцца зарабіць,— прамовіў ён неяк зусім незнаёма, пачужэла.

А праз хвіліну зноў стаў тым самым добрым Глебкам, якім яго ведалі ўсе:

— Паколькі я ашчадзіў табе грошы, дазваляю пачаставаць мяне.

Вярнуліся ў гасцініцу, і я застаўся ў яго начаваць. Ніяк не маглі адагнаць ад вачэй прыкры вакзальны выпадак. Як так! Народ увесь узняты на подзвіг, мы самі былі не раз сведкамі, як урасталі ў зямлю людзі ў шынялях і заступалі дарогу ворагу. Хіба ўжо не варушыліся, тады... І калі была ў кім дагэтуль доля ашуканства, крывадушнасці, баязліўства, дык мусіла сатлець і выветрацца усё гэта ў зыркім агні і ў віхурах вайны.

На вачах адбывалася перагартоўка волі, свядомасці, перадужванне слабасці, перайначванне ўсіх душэўных і фізічных сіл. Нерашучы бег з гаручай бутэлькай на танкі, бязногі, ледзь авалодаўшы хадой на пратэзах, зноў садзіўся за штурвал, той, хто недабачваў раней, набываў раптам рысіны зрок разведчыка. Усе і ўсё рабілі зацяўшыся — мы парадаваліся ёмкаму роднаму слову! — нацэліўшыся на перамогу.

А як жа гэты чалавечынка? Не той, што на вакзале, не! Гэтага мы маглі, асабліва Пятро, наглядаць раней зблізку. На твар, некалі ганарлівы і пагардлівы, як навесіў, так і не спускае ні на момант лагоднасці, добразычлівасці, усмешачкі да ўсіх разам і да кожнага паасобку. Прыстала гэта да яго, як выбранае на маскарад аблічча, даволі ўдала, аднак часам так і хочацца падысці і калупнуць: а што адтуль пакажацца? Не, лепей не трэба. Асцярожненька гудзе, нібыта і ён нешта творыць. А куды яму гэта? На масцы нічога людскага не натворыш, яшчэ, чаго добрага, сапраўднае аблічча праступіць. А яго нельга паказваць. Не толькі людзям, а і сабе. Хто ж ён — вораг? Не. Мог бы стаць ворагам? Бадай што, таксама не. Тады — хто ж ён? Проста дробненькая істота, сябелюбец, можа і не без здольнасці, але нарабіў шкоды людзям — як каню павезці. Вось цяпер, дры-

жучы і калоцячыся, ён сіліцца кожнаму гадзіць, каб не ўспамянулі чаго благога часам. А то з'явіцца аднекуль нехта ўкрыўджаны ім або ўстане прысутны сярод бяседы і пакажа пальцам...

Гэты жэст атрымаўся ў Глебкі вельмі маляўнічы.

— «Вось ён! — Пятро паўтарыў гогалеўскія словы,— закрычаў Вій і наставіў на яго жалезны палец».

Мы пакінулі абурацца: вайна зганяе шлакі прэч, але ж і падымае мул на паверхню. Дый не гэта займала думкі: многа было ваенных дарог наперадзе, яшчэ больш чакала работы ў разбураным доме, калі суджана вярнуцца...

У Маскве меліся выходзіць часопісы «Беларусь», «Партызанская дубінка», збіраліся сілы, каб адкрыць выдавецтва. Тады, аж на самецькі верх старога дома на плошчы Пушкіна, і падаўся неўзабаве Пятро ў якасці галоўнага рэдактара. Гэта быў сапраўдны клопат, ёсць да чаго прыкласці рукі.

Пятро многа чаго ведаў, як там вядзецца ў Беларусі. Кожны поспех партызанскага атрада ці падпольнай групы падкідаў нам праменьчык надзеі: хутка дом!

Цеснаваты пакойчык у «Якары», дзе доўга жыў Пятро, быў для мяне і родным кутком, і крыніцаю навін з партызанскага краю, з нашага нешырокага тады літаратурнага асяроддзя. Сапраўды, хто б ні прыбываў з-за лініі фронту, адразу ж кіраваўся да Глебкі. Імправізаваўся стол з сваіх прыпасаў, нешта падносілі суседзі. Кузьма Чорны звычайна прыходзіў з кропляй партвейну ў аптэчнай бутэлечцы — ён ачуньваў яшчэ пасля цяжкой хваробы. Заглядваў цудоўны дзед Талаш, нязменна беручы пад казырок перад кампаніяй. Часамі ўсе мы пераходзілі да Уладзіславы Францаўны і Алесі Александровіч. Цягнулася тая ж бяседа, але гарачая бульба і прыбраны жаночымі рукамі пакой стваралі добры ўтулак і святлейшы настрой.

Там жа, у «Якары», многа цікавага расказваў пра партызанскае жыццё-быццё М. В. Зімянін, тады сакратар ЦК камсамола Беларусі. Ён толькі вярнуўся ад лясных мсціўцаў, зрабіў, як сказаў сам, асноўны даклад у Цэнтральным штабе, але і на нашу долю за-

стаўся цэлы вечар гераічных, трагедыйных і вясёлых падзей. Бачыць яго, вострага на слова апавядальніка, давялося ўпершыню, ягоны запал скалануў істоту — захацелася туды самому, і я падаў аб гэтым рапарт па начальству. Мяне адчыталі, на тым справа і скончылася.

А паехаць можа і не шкодзіла б. Неяк Пятро перадаў мне пісьмо ад партызанаў Случчыны: прышлі нам вершаў, мы надрукуем іх, каб не брахалі лішняга пра цябе нацыяналістычныя газецінкі, заткнём ім горла. На нейкі складаны адрас — «Пятру для Івана» і г. д.— я паслаў, але ў партызанскіх выданнях нічога не з'явілася. Як потым расказаў І. В. Куляшоў, аўтар пісьма, мая пасылка не дайшла. Падумалі, параіліся мы з Пятром і вырашылі: публікаваць пабольш тут, дойдзе і туды.

У той самы першы вечар сустрэчы мы ўсмак начыталіся вершаў. Многа гадоў не чуўшы адзін аднаго, як быццам знаходзілі сябе наноў. Перапынялі, калі што вельмі падабалася, не даслухаўшы, на хаду прыдумвалі новыя варыянты, словам, трымаліся, як некалі даўным-даўно, уваходзячы ў знаёмства.

Тады неўзаметку пачалі перабіраць па імёнах, як я зрабіў спачатку, усіх сяброў па садзе маладосці...

Успомнілі выкладчыка, які на экзаменах любіў задаваць каверзныя пытанні кшталтам: «Колькі «а» ў беларускай мове?» І як нехта з хлопцаў зрэзаў яго, здагадаўся: «Два — вялікае і малое».

Уласна кажучы, успомнілі перш не гэта. Пасля чытання нейкіх зімовых радкоў, якія крышку падобны былі і ў яго, і ў мяне, усплыла перад вачыма дзяўчына, маё юнацкае захапленне. Яна, пачытаўшы ў адным нумары часопіса нашы вершы пра зіму, аддала перавагу Петрусёваму. Проста ў вочы, перада мною. І мне стала смутна, думаў — свет абернецца, здалося, яна наогул перакінулася да таварыша.

І другую дзяўчыну прыгадалі, гэта ўжо было сяброва захапленне. Светленькая, лялечнага амаль харáства і зграбнасці, яна не чытала нічыіх вершаў, затое хораша смяялася і не адмаўлялася пайсці з Пятром у кіно.

Разламалі апошнюю лусціну з нашага пачастунку і, не змаўляючыся, разам вымавілі:

— А хлеб?

Мы з Пятром, як дзеці сялян, якія плацілі сельскагаспадарчы падатак, атрымлівалі самую ніжэйшую ў тэхнікуме стыпендыю. З яе вылічвалі за абед і за хлеб, што можна было атрымаць у недалёкай пякараньцы на рагу — хочаш увесь, хочаш па буханцы. Цэлы пуд, 16 кілаграмаў на цяперашнія меры, даваўся ў адны рукі студэнту. Зараз, калі краіна даражылася кожным зернем, карміла франты, заводы, вазіла па лёдзе абкружаным ленінградцам, гэты пуд уявіўся асабліва важкім, ледзь не ажыўленай істотай, апраненай у мех, з саламянымі валасамі і каласянымі вусамі.

Пуд хлеба — больш чым багацце! І даваўся нам зусім дармова, праўда, на руках ад стыпендыі заставалася гатоўкі ўсяго паўрубля — гэта на сшыткі, чарніла, лазню, кіно. Але затое — пуд хлеба!

— Можа і не прапаў той клопат, нездарма нас кармілі...— абазваўся Пятро.

Тады стала зразумела, чаму мы толькі што накінуліся на няўартаснае на нашай дарозе, на дробнага таго чалавечка. Гарачнасць, рэзкасць, незамiральнасць — усё гэта ішло адтуль, з саду маладосці. Абвеяныя яго галінамі, мы паснулі аж пад раніцу.

Апошні раз — дасюль не магу пагадзіцца з гэтым словам — мы бачыліся незадоўга перад заўсёдным расстаннем. Глебкі зайшлі да нас на вячэру, тады лістапад 1969-га акругліў мой узрост да пярэйдзенай сябрам шасцідзесяткі.

Пятро быў хвараваты, лячыўся перад гэтым у Нясвіжы і збіраўся на больш капітальны рамонт кудысьці пад Маскву. Таму — найстражэйшая дыета і рэжым, чаго, дарэчы сказаць, быў змушаны пільнавацца і я сам. Аднак мы чокнуліся, не так за пражытыя гады, як за тыя, што чакаюць наперадзе.

За размоваю пра лячэнне ў Маскве ўсплыла і наша ваенная маскоўская гаворка.

— А што ты думаеш,— Пятро стаў адвітвацца,— можа сад маладосці і ёсць самыя лепшыя лекі? Вярнуся, давай зробім туды яшчэ адну вандроўку...

*1976*

## РОДНАЕ СЛОВА

### ПІСЬМЕННІК І МОВА

Пісьменнік павінен уладаць мовай так арганічна, мець настолькі вялікі і шырокі слоўны запас, каб усе яго думкі, ідэі і вобразы былі данесены да чытача выразна, ярка і дакладна.

Гэтага можна дасягнуць руплівай працай над узбагачэннем свайго моўнага багажу новымі словамі, зваротамі, формамі сказаў. Такая работа, вядома, не мае ніякай сувязі з мудрагельнай словатворчасцю, стварэннем бяссэнсных слоў-калек. Да паслуг пісьменніка — невычарпальная крыніца сягоняшняй народнай мовы, творы класікаў, зборы фальклору даўнейшага і сучаснага, напрыклад партызанскага, нарэшце, у патрэбных выпадках мы маем магчымасць выкарыстоўваць старажытныя летапісы і дакументы. Усё гэта той урадлівы грунт, на якім вырастае мова пісьменніка і наогул мова літаратуры. Аднак некрытычнае выкарыстоўванне фальклору і помнікаў старажытнай літаратуры можа пацягнуць за сабой і непажаданыя вынікі: замест асвяжэння слоўніка атрымаецца яго засмечванне, і пісьменнік апынецца ў палоне архаічнасці.

Як на прыклад выдатнага выкарыстання народнай мовы і фразеалогіі Случчыны можна спаслацца на творчасць Кузьмы Чорнага. Каб навучыцца творча валодаць мовай, з яго кнігамі не шкодзіць і класціся і ўставаць. Мова К. Чорнага сапраўды з'яўляецца ўзорам трапнага ўжывання слова, узорам пабудовы сказа. Чорны падняў літаратурную мову да высокай ступені выразнасці і маляўнічасці, прадоўжыўшы ў гэтым працу Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Ёсць у К. Чорнага невялікая колькасць мясцовых слоў і зваротаў, а таксама застарэўшых слоў. Але яны зразумелыя, сэнс іх арганічна выцякае са сказа. Як паказваюць працы даследчыкаў, Пушкін ужываў *пустынный* у сэнсе *адзінокі* («Звезда пустынная сияла»). Пушкінскае слова *ничтожест-*

во азначае нябыт, презрительный — варты пагарды, добыча — ахвяра. Але хіба праз гэта траціць што-небудзь спадчына геніяльнага паэта? Значыць, перш чым што-небудзь адмаўляць, трэба добра вывучыць тую з'яву.

Звернемся да К. Чорнага. Возьмем першы, на якім разгарнулася кніга, абзац з апавядання «Нянавісць».

«Там не было ніякіх фатаграфій. За што там было здымацца, калі хлеба ў хаце не было! Тады, як родны Бухчаў брат служыў у Бухчы за парабка, стрэчныя сваякі прысявалі ў Бухчы на аджон то картоплі, то льну, то бралі часамі гатоўкаю збожжа на адработак. Усё гэта агульвалася нейкім сваяцтвам: Бухча, бывала, з паўкаша лішняй бульбы сваякам усыпле, або Зоську раней (тады яшчэ зусім дзіця была) з работы пусціць».

Параўнаем гэта з першым, што трапіўся на вочы, фальклорным запісам са Случчыны, радзімы Кузьмы Чорнага:

«Я на́ват не віедаю, як яго́ звалі на ймѐне. Яшчэ я маленькі быў, а ён тагды ўжэ міеў сівую велі́зарную бо́раду па самы пуп. Ось ужэ я пасівіеў, саўсі́м сапсіеў, а ён туолькі ліетась памёр. Ка̀жуць, што ён сам лік згубі́ў, куолькі гадуоў жыў. Ужэ яму было́ пеўне больш за дзвіе капы гадуоў, а ён... бало адзін спутае здаравѐннага быка, пераки́не вяро́ўку цераз спі́ну, залыгаўшы за рогі да як пацягне, дак той бурды́к на зе̂млю да туолькі равѐ».

Простае ўспрыманне на слых выразна паказвае, адкуль ідзе карэнне мовы Кузьмы Чорнага, увесь яе лад, апавядальныя інтанацыі. Але да якой высокай дасканаласці давёў сваю мову пісьменнік, як смела абыходзіцца ён са словам, не баючыся паўтораў: «за што там было здымацца, калі хлеба ў хаце не было», бо яны ўзмацняюць уражанне. Чорны гаворыць прысявалі і як гэта дакладна! Не засявалі, не сеялі, а іменна прысявалі, трохі, з ласкі. Толькі так і трэба было сказаць: не насыпле, не дасць, а ўсыпле кош бульбы, адчэпнага, з пагардай. І з пяці прыведзеных радкоў ясна, хто такі быў яго герой, Бухча.

Мова Кузьмы Чорнага даўно патрабуе даследавання, сур'ёзных работ, бо пісьменнік пашырыў рамкі сказа, межы ўжывання асобных слоў, узбагаціўшы мову ўсяе літаратуры. Галоўнае, вядома, змяшчаецца ў тым, каб дасканала вывучыць жывую сучасную мову ва ўсіх яе адценнях, багацці і гнуткасці.

Работа над творам мне ўяўляецца, як двухбаковы творчы працэс: моўны і вобразны. Калі пісьменнік адносіцца да мовы не творча, карыстаецца гатовымі размоўнымі ці газетнымі зваротамі, не шукае уласнай будовы сказа, новай расстаноўкі слоў, інтанацыйных хадоў, дык твор будзе напісаны штампаванай невыразнай мовай. У выбары моўнага матэрыялу пісьменнік заўжды суб'ектыўны, ён хутчэй паставіць у радок слова, знаёмае яму змалку, чым пачутае ў пазнейшыя часы. Але ён заўсёды імкнецца знайсці самыя правільныя, самыя яркія словы, якраз тыя, што патрэбны для дакладнага выражэння думкі.

Ніякі муляр не кладзе ў сцяну поруч з апаленай цэглай неапаленую, нетрывалую. На жаль, мы часта грэшым на гэта і ўстаўляем у творы не толькі нетрывалы, неапалены слоўны матэрыял, а і розны друз. І вось такія слоўныя пабудовы не вытрымліваюць ні патрабаванняў, ні выпрабавання часу.

Мы вельмі мала выкарыстоўваем тыя багатыя магчымасці, якія дае нам мова ў адносінах адценняў. Калі наша ўспрыманне адкідае карціну, напісаную аднымі асноўнымі колерамі, скажам, толькі чорным і белым без пераходаў, дык таксама нельга мірыцца і з літаратурным творам, дзе выкарыстаны толькі дзве-тры моўныя фарбы. І ў тым і ў другім выпадку атрымліваецца не мастацкі твор, а кепская дэкарацыя. Ці можна прапанаваць такі твор нашаму патрабавальнаму чытачу, які беспамылкова адрознівае літаратурную з'яву ад нелітаратурнае, добра ведае, калі перад ім сапраўдны яблык і калі расфарбаваны муляж?

Вышэй прыводзіліся прыклады ўмельства Кузьмы Чорнага карыстацца моўнымі адценнямі. Калі ўзяць адну толькі прыстаўку «у», дык якое багацце дзеясловаў можна атрымаць з яе дапамогай: уліць вады, усыпаць жыта, унесці дроў, уехаць, убіць, учарнець. Кожны з гэтых на месца пастаўленых дзеясловаў мо-

жа карэнным чынам змяніць характарыстыку вобраза, даць новае асвятленне сказу, а часам і ўсяму твору.

У адным з сваіх выступленняў А. Фадзееў прыводзіў прыклады работы Л. М. Талстога над дзеясловамі. Папрабуем прасачыць, ці можа атрымацца гэтак і ў беларускай мове. Возьмем, напрыклад, дзеяслоў: рабіць. З дапамогай прыставак, суфіксаў і флексій ад яго можна ўтварыць безліч новых дзеясловаў, правільней дзеяслоўных відаў. Вось яны: зрабіць, вырабіць, выраб ляць, ўрабіць, ураб ляць, перарабіць, перараб ляць, зарабіць, зараб ляць, адрабіць, зрабіцца, перарабіцца, выраб ляцца, вырабіцца, рабіцца,— і так без ліку.

Вось якое мноства адценняў і колераў дае нам у карыстанне мова.

Разнастаіць мову можна пры дапамозе сінонімаў і не трэба старацца звесці іх. Возьмем назоўнікі: гаворка, гутарка, гамонка, гамана (апошняе слова ўжываецца і ў сэнсе — пагалоска), статак, чарада, гавяда, худоба, жывёла, тавар (на Палессі). Усе яны маюць права на жыццё. Часамі трэба сказаць гаворка, а часамі гамана. Ужываем мы пераважна слова жывёла, але нішто не можа замяніць слоў статак і чарада.

А вось другія назоўнікі: прадонне, бяздонне, бязодня, бязодніца. Выбірайце да спадобы! Або — сум, нуда, смутак, туга, журба, сумота, журбота, маркота. З іх дапамогай можна перадаць усе станы чалавечага настрою.

Часта мы баімся амонімаў — кажам: склад у сэнсе — частка слова і сховішча, але пішам састаў прэзідыума, састаў руды, забываючы, што і тут ёсць амонім — таварны састаў. У гэтым выпадку ніяк не скажаш: таварны склад. Мы гаворым: простыя людзі і чамусьці — прамая дарога. Ужываецца ж слова бавіцца ў двух значэннях: бавіцца дзіця, гэта значыць, гуляе, і бавіцца чалавек у дарозе, значыць, затрымліваецца, марудзіць. Ці трэба забараняць выраз вядуцца работы, таму што гавораць вядуцца куры, вядуцца сюды хлопцы талакою.

Мне здаецца, што боязь амонімаў тлумачыцца не-

разуменнем метафарычнасці мовы, яе ўласцівасці надаваць аднаму і таму ж слову розныя сэнсавыя адценні.

Існаванне сінонімаў мае свае гістарычныя падставы. У арабскай мове, як было падлічана ў свой час, ёсць тысяча адменнікаў для слова м е ч і чатыры тысячы для слова н я ш ч а с ц е. Гэта сведчыць і аб шматлікіх войнах і аб гараванні народа.

Калі ў беларускай мове засталося ад цяжкога мінулага шмат слоў для абазначэння смутку, дык ёсць усе падставы спадзявацца, што ў наш савецкі час народ-моватворца, як гаварыў Маякоўскі, створыць куды большую колькасць адменнікаў для слоў в е с я л о с ц ь і р а д а с ц ь.

Мова няспынна змяняецца. Актыўны адбор новых слоў і адкіданне паміраючых, гэта значыць, непасрэдны ўдзел у фармаванні літаратурнай мовы, з'яўляецца абавязкам кожнага пісьменніка.

На нашых вачах адмерлі многія словы. Гэты працэс заканамерны. Калі ўзяць словы: а с я н і н а, а д ж о н, а д к о с, п а ч ы н а к,— дык лёгка пераканацца, што яны не маюць болей эканамічных падстаў для далейшага існавання. Ніхто цяпер не будзе ўвосень збіраць калгаснаму пастуху а с я н і н у, гэта значыць, натуральную плату за пасту. Ніякі калгас не будзе пазычаць збожжа ў другім калгасе н а а д ж о н ці н а а д к о с. Выйшлі з ужытку праснiцы, а з імі і п а ч ы н к і.

З другога боку, мова ўвесь час папаўняецца новымі словамі, выклiканымі да жыцця новымі вытворчымі адносінамі, шляхам запазычання з іншых моў.

Беларуская мова ўзбагацілася ад рускай цэлым шэрагам слоў савецкага часу, формамі слоў, прынцыпамі словаўтварэння і шмат чым іншым. Трэба адзначыць таксама, што іменна ў паслякастрычніцкі час некаторыя беларускія словы праз пераклады перайшлі ў рускую мову.

Узбагачэнне за кошт рускай мовы адбываецца зараз у краінах народнай дэмакратыі. Бясспрэчна, што на грунце сяброўскіх палітычных і эканамічных адносін і адтуль да нас у недалёкім будучым прыйдуць словы, каб знайсці ўжытак у мовах народаў Савецкага Саюза.

Мы знаем многа блізкіх слоў па карэннях, па гучанню ў розных мовах. Той самы **в е т е р**, **в і т э р**, **в е ц е р**, wiatr, ventus, viento, wind, wind — у рускіх, украінцаў, беларусаў, палякаў, рымлян, іспанцаў, немцаў і англічан гучаць вельмі падобна.

Так, з дапамогаю гістарычных дадзеных устанаўляецца сваяцтва моў, узаемныя ўплывы, выкліканыя рознымі падзеямі ў жыцці народаў.

Нядаўна мне трапіла ў рукі кніжка «Błędy nasze» («Нашы памылкі»), выдадзеная ў 1915 годзе ў Варшаве. Як гаворыцца ў прадмове, кніжка выпушчана з мэтай захаваць чыстату польскай мовы. У сапраўднасці ж аўтар хоча адхрысціцца ад уплыву рускай мовы, а найбольш — беларускай, адмаўляючы ёй у праве называцца моваю і лічачы яе «простанароднай» гаворкай, гэта значыць мужыцкай, ледзь не суцэльным błędem (памылкай).

Гэта відаць з прадмовы і з тлумачэнняў некаторых слоў. «Сёрбаць,— чытаем на стар. 265,— выраз беларускі, які часта можна пачуць у Літве ў значэнні: есці з непрыемным водгаласам, хлябтаць, чмякаць, цмокаць. Польская мова не мае, здаецца, адпаведнага выразу, бо і само сёрбанне рэдка здараецца чуць у нас».

Сёрбаць, бачыце, маглі толькі хамы, а паны елі далікатна!

Але міма волі складальніка кніжыцы ён пацвердзіў існаванне беларускай мовы, бо гэтых «памылак» — беларускіх слоў і выразаў, якія ўжываліся ў тагачаснай польскай мове, назбіралася на добры слоўнік.

Гэтая кніжка дае цікавы матэрыял і гісторыку і мовазнаўцу.

Цяпер ужо не можа быць спрэчак аб дабратворнасці ўздзеяння рускай мовы на польскую і беларускую. Мы шырока чэрпаем з гэтай вялікай і чыстай крыніцы, узбагачаючыся і непасрэдна лексікай і моўнымі прынцыпамі.

Аднак можна бачыць і некрытычнае запазычанне ці словаўтварэнне. Часта аўтары, у сілу патрабаванняў рытму, ці, як кажуць, для рыфмы, адкідаюць беларускія словы або калечаць іх. А часамі гэта робіцца проста праз нядбайнасць, праз няведанне мовы.

Нашто пісаць **с е ў**, калі такі назоўнік успрыма-

ецца як дзеяслоў і ёсць добрае слова с я ў б а? Пішуць п а м о л, а ёсць і м л і в а і м е л і в а.

В ы п р а б а в а н н е ў сэнсе и с п ы т а н и е ўжываецца, але калі гаворка заходзіць пра и с п ы т а н и е м а т е р и а л о в, чамусьці пішуць і с п ы т матэрыялаў, лянуючыся трохі павярнуць слова в ы п р а б а в а н н е і сказаць в ы п р а б о ў в а н н е матэрыялаў.

Чытаеш у газеце л і с т в е н і ц а, а ў садаводаў чуеш л і с т а ў н і ц а, яны падпарадкавалі гэта слова поўнагалоссю, а газета не.

Бачыш у газеце: с п а р т ы ў н а я н я д з е л я, а гаворка ідзе аб тым, што адбылося за т ы д з е н ь, а не ў нядзелю.

Газета паведамляе: Муратаў з а й м а е ц ц а в ы м а г а н н е м. Думаеш, што такое? Ставіць строгія вымаганні? Аж нічога падобнага: займаецца в ы м о г а т е л ь с т в о м. У спешцы пераклалі, заўтра будзе надрукавана, і чаго добрага пойдзе гуляць слова-нязграба.

Савецкі друк вучыцца ў бальшавіцкай «Праўды» прынцыповасці, умельству адстойваць ідэйныя пазіцыі. Трэба вучыцца ў старэйшай партыйнай газеты і мове, уменню апрацаваць і лаканічна падаць матэрыял прыгожай чыстай моваю.

Беларуская мова ўвесь час пашырае свой слоўнікавы склад. У сувязі з гэтым, мне здаецца, трэба больш увагі аддаваць вывучэнню дыялектаў, бо яны, не могучы існаваць самастойна, уліваюцца ў мову. Па-першае, з дапамогай дыялектаў могуць запоўніцца нашы прабелы, знойдуцца словы, якіх нестае; па-другое, не дрэнна будзе мець і новыя адменнікі ўжо вядомых слоў. Гэта не значыць, што дыялектызмы трэба ўводзіць у такой колькасці, каб абцяжыць мову, зрабіць яе незразумелай. Не трэба навязваць мове правінцыялізм тыпу д л я, што на Случчыне азначае к а л я: я стаяў д л я печы. Але чаму, скажам, не ўжываць слова к а п а н і ц а, гэта значыць, м а т ы к а, н а ў з л а к о т к і, значыць, у с п ё р ш ы с я н а р у к у. Гэта не старое слова, яно мала вядомае, бо распаўсюджана толькі на невялікай тэрыторыі. Малады пісьменнік нядаўна ўжыў слова н а к о л ь н і к, якога так неставала для перадачы такіх слоў, як

сорванец. Слова зразумелае — вешаецца на калы, накольнік.

Вельмі часта блытаюць нязвычнае, малавядомае слова са старым, архаічным. Такія асуджаныя на выміранне словы прыводзіліся вышэй. Але ёсць цэлы рад слоў старой славянскай мовы, якія ў пэўных выпадках надаюць мове героя ці наогул твора маляўнічасць, уздымаюць стыль ці адцяняюць яго.

«Господа Струве, признавая революцию, тут же высовывают паки и паки свои ослиные уши»,— чытаем у Леніна.

Можна прывесці шмат прыкладаў, у прыватнасці з «Правды», калі ўжываюцца ибо, ныне, доколе. Калі ўзяць, да прыкладу, архаізм якобы, дык трэба сказаць, што ён з поспехам ужываецца і бадай ці не выціскае больш новае будто бы.

Такое ўжыванне архаізмаў, калі толькі яно не перарастае меж і не становіць сабой поўнага звароту да царкоўнаславяншчыны, не парушае сучаснай мовы.

Небяспечнымі з'яўляюцца спробы архаізаваць граматычны лад мовы, бо, як вядома, ён змяняецца больш павольна, чым слоўнікавы фонд, а значыць, і змены гэтыя з'яўляюцца трывалымі, робяцца моўнымі законамі.

У беларускай літаратурнай мове адмерлі дзеяслоўныя канчаткі ці: хадзіці, рабіці, гуляці. Калі яны заканамерны для дакументаў XVI стагоддзя ці для «Гутаркі Данілы са Сцяпанам», дык зусім дрэнна гучаць у сучаснай паэзіі.

Вось урывак з судовых законаў XVI ст.: «Если хто отца, або матку свою, изъ якой замсти забилъ, якимъ кольвекъ обычаемъ родича своего о горло приправилъ, тогда таковый сын, або дѣвка... не только горломъ маетъ быти каранъ, але и почтивость і вси имъньа тратить, и таковою смертью и потварностью ганебною маетъ каранъ быти, по рынку возечи и клещами тѣло его торгати, а потомъ у мѣхъ скураный усадивши до него пса, кура, ужа, котку, и тое все посполу в мѣхъ завезавши гдѣ наглубей до воды утопити».

Мова — каларытная, і аўтарам гістарычных твораў вельмі не пашкодзіць знаёмства з ёю.

За ўжыванне адмерлых граматычных форм трэба

зрабіць папрок некаторым аўтарам песень. Гэтыя песні нейкім чынам варочаюць тое, што адкінула мова.

Ды пачаў жа хлопец
Думаці, гадаці:
Многа ў сяле дзевак,
Каго ж тут узяці?

Страфа А. Русака амаль не адрозніваецца ад фальклорнага запісу стогадовай даўнасці. Справа тут у архаізацыі граматычнага ладу, у некрытычным выкарыстанні фальклору, механічным перанясенні гэтых д у м а ц і, г а д а ц і і д з е в а к у сучасную вёску.

Ёсць у таго ж аўтара песня «Мяцеліца»:

*Людзі* глянуць ды гавораць:
Не дзеўчына — мяцеліца.

А ў другой страфе:

*Бабы* глянуць ды гавораць.

Аўтар механічна пераносіць з фальклору слова л ю д з і ў сэнсе — м у ж ч ы н ы, а б а б ы ў сэнсе — ж а н ч ы н ы. Зараз гэта гучыць абразліва і псуе нагул няпепскі тэкст.

Песні абцяжваюцца такімі канчаткамі, як «на палёх, на дварох», такімі выразамі: «хай кожны з вас будзе ў працы д з я б ё л ы», і такімі строфамі:

А дзяўчына,
Як птушына,
Толькі апярэла (!),
Распакрыла (!)
Свае крылы,
Фыр-р! — і паляцела.

Відаць, трэба згадзіцца з Традзьякоўскім, які пісаў: «Всегда при составе стиха больше стараться о чистом в нем смысле, нежели о богатой рифме, буде невозможно сим обоим совокупно, так чтоб для богатства рифмы твердого смысла нигде и никогда не пренебрегать».

Беларускі фальклор высока ацэнены не толькі вучонымі-даследчыкамі. У свой час ён прывабіў А. Блока. Вось што ён піша ў рабоце «Поэзия заговоров и заклинаний»:

«В Белорусском Травнике с необычайной нежностью описывается трава т и х о н я: «растеть окала зелини, листички маленькие, рядышкым, рядышкым, твяточык сининький. Растеть окала земли, стелитца у разные сторыны».

Паэтычныя вобразы, моўныя звароты, метафары, лексіка фальклору будуць заўсёды выкарыстоўвацца намі, але выкарыстоўвацца крытычна.

Перад намі стаіць задача поўнага асваення класічнай мовы Якуба Коласа і Янкі Купалы, а таксама і ўсіх скарбаў народнай творчасці. Гэтыя крыніцы заўсёды жывілі і жывяць творчасць нашых пісьменнікаў.

Цяжкасці толькі ў тым, што фальклорныя зборнікі, як і, скажам, слоўнік Насовіча, сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Можа быць, час падумаць і аб перавыданні найбольш цікавых работ.

Не ўсе, аднак, перавыданні робяцца ўдала. Возьмем кнігу 1950 г. «Беларуская літаратура XIX ст.» з грыфам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. Разгарніце ў гэтай кнізе «Мужыцкую праўду» Кастуся Каліноўскага. Вы не пазнаеце зусім тэкста. А першакрыніцы паказваюць, што рэдактура зрабіла шмат адступленняў, прыгладзіла мову, прычасала арфаграфію і выйшла, што Каліноўскі пісаў сучаснаю беларускаю мовай. Параўнаем:

| *У першакрыніцах* | *У кнізе* |
|---|---|
| што чуваці на свеце | што чуваць на свеце |
| многа паноў будуць | многа паноў будуць |
| перэпыняць | перанімаць |
| пісьмо нашэ да вас | пісьмо наша да вас |
| ні якой | ніякай |
| нема | няма |
| гэто | гэта |

І ўсяго на трыццаць радкоў тэксту больш за сорак перайначванняў.

Для чаго яны зроблены? Гэтак можна дайсці да таго, каб і летапісы правіць. І «Слова аб палку Ігаравым» можна выдаць на сучаснай мове і адразу пакончыць з усімі розначытаннямі і спрэчкамі. Такі перадрук пазбаўляе дакумент гістарычнай і моўнай каштоўнасці. Сцёрта характэрнае для Кастуся Каліноўскага набліжэнне да рускай мовы, сцёрты асаблівасці

вымаўлення Гродзеншчыны. А што аўтар «Мужыцкай праўды» набліжаўся да рускай мовы, больш чым ясна з усіх сямі нумароў яго газеты. Мы знаходзім у нумары першым толькі адзін польскі зварот «цэлую праўду» ў сэнсе «ўсю праўду», а на будове сказа, на граматыцы відзён вялікі ўплыў рускай мовы. Незразумела таксама, чаму апушчаны ў нумары першым радкі аб сутнасці мужыцкай праўды, аб мужыцкім гонары. Па-першае, гэтыя радкі даюць многае для характарыстыкі Каліноўскага; па-другое, яны растлумачваюць назву «Мужыцкая праўда»; па-трэцяе, тут устанаўліваецца цудоўная пераклічка з купалаўскім «Мужыком». Не думаю, каб гэтыя акалічнасці не мелі значэння для студэнта і настаўніка, на якіх разлічана кніга.

Некалькі слоў аб рэформе правапісу. Яна канечне патрэбна, каб ліквідаваць правапісныя «ўдзельныя княствы» і «междуусобіцы». Што ні рэдакцыя, то свой закон, нават няма згоды ў асобных рэдакцыях адзінага нашага выдавецтва...

А калі ўключыш радыё, дык тут зусім вушы вянуць. Разаніна супраць націскаў, выразы накшталт «упушчаны дзень», але «уроненая кніга», або «Пархоменка хутка паехаў, але зараз жа абярнуўся». Аказваецца, што не абярнуўся, а азірнуўся. На радыё не зважаюць на збегі паасобных складоў, у выніку чаго атрымліваюцца немагчымыя для вымаўлення рэчы.

Удакладняць правапіс трэба так, каб праз 10 год не ўзнікла патрэбы ў новай рэформе. Такія частыя змены прыводзяць да перадрукоўвання падручнікаў, перавучвання на новы лад людзей, якія ўжо засвоілі пэўныя правілы, а гэта справа нялёгкая. У выніку будзе распаўсюджвацца і правапісная анархія і проста непісьменнасць.

Перад рэформай павінна быць праведзена работа па вывучэнню сучаснага стану літаратурнай беларускай мовы. Час падагуліць усе змены, усё тое новае, што з'явілася ў мове ад Кастрычніцкай рэвалюцыі да нашых дзён. Кастрычнік, грамадзянская вайна, калектывізацыя сельскай гаспадаркі, ператварэнне рэспублікі ў індустрыяльную краіну, уз'яднанне беларускага народа, Айчынная вайна, партызанская бараць-

ба — усё гэта адбілася ў мове, але дасюль не ўзважана і належным чынам не асэнсавана. Другое: трэба ўлічыць тэндэнцыі развіцця жывой мовы. Гэта дасягаецца шляхам арганізацыі мовазнаўчых экспедыцый, стварэння асобных слоўнікаў, запісаў асаблівасцей вымаўлення таго ці іншага слова ў розных абласцях.

Мова рэфарміруецца ў вуснах народа. У рускай мове часоў Пушкіна існавалі канчаткі г р о б ы і д о м ы, цяпер гаворыцца і пішацца г р о б а і д о м а, і ўсё часцей сустракаецца напісанне ц е х а замест ц е х и і г. д. Гэта выяўляе пэўную тэндэнцыю мовы. Аднак зусім не значыць, што трэба распаўсюджваць ужыванне канчатку *а*, *я* на ўсе словы, якія маюць канчаткі *ы*, *і*.

Нешта падобнае ёсць і ў беларускай мове. Сучасны правапіс забараняе скарачаць злучнік *і* пасля галосных. Але вось гэты злучнік трапляе ў неспрыяльныя абставіны, у абкружэнне галосных, скажам, у такім сказе: *Ды і я іду*. Тут выразна адчуваецца патрэба ў нескладовым *і*. Каб не псаваць мілагучнасці і адначасна не парушаць правапісу, гэтае *і* хітруе і далучаецца да *ды*, утвараючы адно слова: *Дый я і д у*.

Некалі Даль пісаў: «Трэба не маскоўскую гаворку папраўляць па граматыцы Грэча, а граматыку Грэча па маскоўскай гаворцы».

Трэба прыслухвацца да нашай цэнтральнай гаворкі, якая легла ў аснову літаратурнай мовы.

«Мой стих трудом громаду лет прорвёт»,— казаў Маякоўскі. Іменна праца, практыкаванні прыводзяць да сапраўднага майстэрства, калі спрактыкаваны майстар ужо на вока можа адколваць вялікія глыбы і шліфаваць найтанчэйшыя грані.

Толькі з дапамогай працы над мовай паэт ператварае крыніцу свайго таленту ў вялікую раку. Гэтым зусім не адмаўляецца права на паэтычную смеласць, парушэнне канонаў. Няхай жыве такое парушэнне! Паэтычныя вольнасці становяцца законамі і граматычнымі нормамі. Але кожны пісьменнік, які ідзе на такое парушэнне, павінен рабіць гэта ў духу мовы, на падставе той самай школьнай граматыкі, якую ён парушае, таму што добра ведае яе недасканаласць.

*1950*

## МОВА Ў ГАЗЕЦЕ

Любіць і шанаваць мову нас вучылі Пушкін, Талстой, Тургенеў, Шаўчэнка, Колас. Іх думкі шырока вядомыя, часта цытуюцца і перадрукоўваюцца. Звернемся да выключнага па характву і сіле выказвання выдатнага рускага педагога К. Д. Ушынскага:

«Мова народа — лепшы, бо ніколі не вяне і вечна наноў развіваецца, цвет усяго яго духоўнага жыцця, што пачынаецца далёка за межамі гісторыі. У мове адухаўляецца ўвесь народ і ўся яго радзіма; у мове сілаю народнага духу ператвараецца ў думку, у карціну і гук неба айчыны, яе паветра, яе фізічныя з'явы, яе клімат, яе палі, горы і даліны, яе лясы і рэкі, яе навальніцы і буры, увесь той глыбокі, поўны думкі і пачуцця голас роднай прыроды, які гучыць так моцна ў любві чалавека да яго часамі суровай радзімы, які выказваецца так ясна ў роднай песні, у родных напевах, у вуснах народных паэтаў. Але ў светлых празрыстых глыбінях народнай мовы адлюстроўваецца не адна прырода роднай краіны, а і ўся гісторыя духоўнага жыцця народа. Пакаленні народа адыходзяць адно за адным, але вынікі жыцця кожнага пакалення застаюцца ў мове ў спадчыну нашчадкам. У скарбніцу роднай мовы складае адно пакаленне за другім плён глыбокіх сардэчных рухаў, плён гістарычных падзей, вераванні, погляды, сляды перажытага гора і перабытай радасці, словам, увесь след свайго духоўнага жыцця народ беражліва захоўвае ў народным слове. Мова ёсць самая жывая, самая багатая і трывалая сувязь, якая злучае пакаленні, што аджылі, жывуць зараз і будуць жыць, у адну велічную, гістарычную, жывую цэласць. Яна не толькі выражае сабою жыццёвасць народа, але ёсць іменна само гэта жыццё».

Зачэрпаўшы такой светлай любві да мовы, чалавек заўсёды будзе моцна шанаваць яе сам і не дазволіць нікому рабіць роднаму слову шкоду ці якоенебудзь калецтва.

Не хачу звінаваціць у нядбайнасці і непавазе да мовы газетных работнікаў агулам. Ёсць тут і спецыфічныя акалічнасці: матэрыялы ў нумар даводзіцца рыхтаваць хапаючыся, на апрацоўку ніколі нестае

часу. Праз гэта — вялікая колькасць моўных і не моўных ляпсусаў.

Наша мова складаецца, фармуецца яшчэ. Яна значна вырасла і палепшала за апошнія дзесяцігоддзі. Аднак у ёй не хапае многіх адценняў, форм, вымагае пашырэння і лексічны склад. Умела выкарыстоўваючы практыку і багацці блізкіх моў, мы павінны ўсебакова ведаць уласныя рэсурсы, тварыць новыя словы, успамінаць забытыя. Таму не скарачаць лексічны запас, а ўзбагачаць яго мусяць пісьменнікі, журналісты, перакладчыкі, настаўнікі, студэнты.

Здараецца, што ў адрас таго ці іншага аўтара (даводзіцца выслухваць гэта і самому) кідаюцца ўпічкі наконт незразумеласці мовы. Вельмі рэдка, аднак, такія размовы вядуцца кваліфікавана, з умельствам і жаданнем пераканаць. Часцей заўвагі крытыкаў зводзяцца да навязвання праз друк, ледзь не ў дэкрэтыўным парадку, свае абмежаванасці ў слоўным запасе, у магчымасцях арыентавацца ў лексіцы, адшукваць і тварыць новае ў ёй. Ці ж аўтар вінен у гэтым, што ведае болей слоў за крытыка? І, па справядлівасці падумаўшы, каму з іх трэба вучыцца!

Да таго ж падставы, на якіх адкідаецца тое ці іншае слова, варты жалю і смеху. «У нас так гавораць»,— сцвярджае важна крытык. Дзе гэта «у вас» і хто такі «вы»? Гэта трэба ведаць канечне, каб меркаваць, колькі важыць выказаны пагляд. Ці не падобен такі крытык да селяніна, якому прачыталі з газеты вестку, што жанчына нарадзіла чатырох немаўлят. «Не можа быць,— казаў дзядзька,— у нашым сяле ніколі не раджалася больш за трое».

Мерка «нашага сяла» куды як шкодзіць у моваэнаўстве! З ёю на шырокі прастор моўнага мора не патыкайся.

Так званых незразумелых слоў баяцца не трэба. Хай на першым часе якое-небудзь слова сапраўды будзе не ўсім зразумелым. А ўжывецца ў адным артыкуле, у адной, у другой газеце, пяройдзе ў кнігі і атрымае шырокае распаўсюджанне.

Слова *навучэнец* набыло права грамадзянства толькі з выхадам руска-беларускага слоўніка ў

1953 г. Цяпер жа ніхто і не думае, што гэта наватвор, настолькі трывала ўвайшло яно ў абыходак.

З кожным годам у нас выдаецца ўсё больш кніг, і кожная нешта ды дадае ў слоўны фонд. Такім чынам, калі не баяцца навізны гэтых укладаў у мову, а пускаць іх шырэй ва ўжытак, незразумелых слоў будзе рабіцца ўсё меней і меней.

Маласпрактыкаваныя крытыкі лічаць штучным слова *подступны*, а яно ў сэнсе *коварный, криводушный* шырока ходзіць з вуснаў у вусны. Змест яго як на далоні: падступны — той, хто ведае, з якога боку падступіцца, можа падступіцца нечакана, неспадзявана. Насовіч дае такія прыклады: «Падступная твая дружба. Ты з подступам для мяне гэта робіш. Ведаем мы тваё падступства». Як бачым, народ стварыў з аднаго кораню прыметнік і два слаўных назоўнікі.

Якая ж тут штучнасць! Асцярожна, вельмі асцярожна трэба адмаўляць словам у праве на існаванне. Яны паміраюць самі, калі змяняецца паветра, або яго пачынае ставаць. А гэта бывае, калі змяняецца час, перайначваюцца формы жыцця, калі знікае патрэба ў выражэнні тых ці іншых паняццяў.

Ёмкасць слоў можна і трэба пашыраць. Вось *заспеў*, на маю думку, слова больш ёмкае чым *застаў*. *Не заспеў* — значыць, хацеў застаць, але не застаў, спяшаўся, але не ўправіўся з'явіцца ў час.

Мы мала дбаем аб тым, што дзеясловы — невычарпальны фонд для новатвораў. Возьмем *запабягаць* — падслужвацца, шукаць у каго ласкі. У народнай мове ўжываецца так: «Суддзю запабягаеш, а чаму ж суседзей не запабег, каб гаварылі аб табе добра» (Насовіч). Дзеяслоў гэты, як бачым, вельмі гнуткі і дае добры прыметнік *запабеглівы*, якога так несгавала нашай мове.

Адзін з маіх чытачоў неяк запярэчыў супраць сказа: «Дождж пераціх недзе пасля поўначы». Я спачатку здзівіўся: усё ж зразумела дый па канструкцыі сказ зусім народны.

А чытачу замінала іншае, яго бянтэжыла *недзе*, пастаўленае ў такім кантэксце. Справа ў тым, што для майго апанента *недзе* страціла свой пераносны сэнс — *блізка*. У народзе гавораць: «Было гэта *недзе*

каля Пiлiпаўкi», надаючы слову, i зусiм правiльна, адценне часу. «Калi мы ўбачымся?» — пытаем мы часамi i адказваем: *«Недзе* на гэтым тыднi».

Трэба ўлiчваць усе магчымасцi, схаваныя ў слове, i ўмела ўдыхаць у iх жыццё.

Мы не маем права не звяртаць увагi на гучанне слова, бо мова апрача дакладнасцi патрабуе яшчэ i мiлагучнасцi.

Мову трэба адчуваць навобмацак, на смак i на гук, тады яна дазволiць паказваць рэчы ў патрэбных вымярэннях. У адваротным выпадку слова пойдзе супроць цябе, будзе не дапамагаць, а замiнаць i выкажа не тое, што хочаш, а процiлеглае.

Аднак асвяжаць i пашыраць мову належыць не толькi за кошт унутраных рэсурсаў яе — наватвораў, дыялектызмаў, забытых слоў. Можна i трэба, ведаючы разумную меру, звяртацца да блiзкiх братнiх моў.

Няма чаго баяцца, калi нестае слова, калi наша мова не нарадзiла яго, бяры i ўжывай найбольш блiзкае па гучанню i духу. Багата слоў так i просяцца да нас з моў чэшскай i славацкай. Да прыкладу, ёсць такое не дужа зграбнае слова *грузоподъёмность*. Па-беларуску яго скалькавалi i атрымалася яшчэ горш: *грузападымальнасць*. Чэхi гавораць прасцей: *ностност*, i адразу ясна, колькi *панясе* кран або лiфт. Мне падабаецца, што чэхi захавалi слова *таемнiк*, хоць, вiдаць, няма сэнсу зараз замяняць iм шырокапашыранае — сакратар. I ўсё ж — таемнiк — адразу выкладае свой змест, паказвае славянскi твар i выяўляе добрую ёмкасць. Таксама адразу ж паказваюць на падобнасць законаў словаўтварэння: *дзiвадла* — тэатр, *кiвадла* — маятнiк. Яны вельмi блiзкiя да некаторых беларускiх слоў, успомнiм: *кавадла, правiдла* i iнш.

Было б неасцярожна, аднак, пераносiць у мову словы без належных падстаў, кiруючыся асабiстымi прыхiльнасцямi i прывычкамi, або, у лепшым выпадку, знешнiм падабенствам формы цi тым, што дзесьцi хтосьцi калiсьцi так сказаў.

Вось апошнiм часам пачало надакучаць вачам слова *палучаць*, ужытае ў тым сэнсе, як i ў рускай мове. Вiдаць, яно сяды-тады пракiдаецца ў гавор-

цы,— не магу і не хачу спрачацца. Але выпісваць яму пашпарт і сцвярджаць права на жыццё было б непрадумана.

Як прызвычаіўся карыстацца гэтым дзеясловам народ? Прасочым па слоўніках.

У Насовіча:

*Получиць*, сов. гл. д. Л у ч и ц ь. Соединить. Получи наших коней с своими.

*Получицьца*, сов. гл. возвр. Л у ч а̀ ц ь ц а. Соединиться браком. Год як наши молодые получилися.

У Гарэцкага:

*Лучàць* — соединять; целиться, метиться; случайно попадать в подходящее время. Лучыў якраз пад снеданне.

У Віцебскім краёвым слоўніку:

*Лучàць*; дас.— попадать. Лоўка лучыў яму між вушэй.

У краёвым слоўніку Чэрвеншчыны:

*Лучыцца*, дзс. безас.— случиться. Так лучылася мне, нічога не паробіш.

*Лучыць*, дзс. безас.— попасть. Спаткнуўся, лучыў на сук.

*Палучаць*, дзс. (зак. палучыць) — получать. Палучыў свае грошы. А што: палучыў! Я казо́ў, не чапайся.

Толькі на адзін прыклад (з шасці!) могуць абаперціся ахвотнікі да слова *палучаць* у тым сэнсе, які яны хочуць надаць яму. Пры ўсім жаданні пашырыць колькасць такіх прыкладаў узорамі з жывой мовы ў фальклорных запісах не ўдалося.

Падстаў для ўжывання гэтага слова відавочна мала, не больш чым і для адназначнага *адзяржаць*, якое выплыла з нетраў даўніны ў пачатку 20-х гадоў, калі для дзяржаўнага і літаратурнага абыходку раптам спатрэбілася куды больш слоў і тэрмінаў, чым мела і магла стварыць наша мова. Крыху паліпеўшы, *адзяржаць* сканала канчаткова, бо не магло існаваць праз штучнасць і немілагучнасць.

Здараецца чуць пярэчанні, нібы ў сказе *палучыў ліст* ці *палучыў кнігу* дзеяслоў мае тое ж сэнсавае напаўненне, як і ў прыведзеным вышэй: *Палучы нашых коней з сваімі*. Ажно, тлумачаць нам, разва-

жаць трэба наступным чынам. Што значыць — *палучыў кнігу?* У мяне не было кнігі, я пайшоў у бібліятэку і там выдалі на час. Такім чынам я *палучыў* (злучыў, аб'яднаў) кнігу з сабою.

Ці не занадта складаныя разважанні? Ход іх крыху нагадвае паездку з Мінска ў Барысаў цераз Паўночны полюс!

У гэтым выпадку няма чаго мудраваць: ёсць добрае слова — *атрымаць*. Гэтае слоўца цяжка не прызнаваць, яно само, у выпадку чаго, можа пастаяць за сябе. Гукне прабітныя прыстаўкі, і вакол старэйшыны рода, дзеяслова *трымаць*, збярэцца цэлы атрад братоў — маладзец да малайца:
*вытрымаць, датрымаць, затрымаць, недатрымаць, падтрымаць, патрымаць, launch пэратрымаць, пратрымаць, прытрымаць, стрымаць*...

Ніштаватая-такі сямейка! І ўсе ў добрым здароўі, здольны разам з іншымі сваімі моўнымі сябрамі выказваць нашы справы і турботы, складацца ў песні і ў кнігі.

Адна бяда: нам не зусім яснае паходжанне слова. Не складае цяжкасцей пашукаць дзеяслову *трымаць* сваякоў у іншых мовах. Англічане ведаюць слова trimmer — той, хто трымае (падбэлечнік, накаціна), ёсць у іх выраз to trim the sails to the wind — трымаць ветразі (нос — у пераносным значэнні) па ветры.

І ўсё ж, на мой погляд, гэта не падстава, каб гаварыць аб запазычанні і выракацца добрага слова толькі таму, што не расказвае яно само біяграфіі.

Можна прыгадаць блізкага ягонага сваяка — trzymać. Большасць значэнняў гэтага слова супадаюць у абедзвюх мовах, толькі ў польскай раяць пісаць не *трымаць* экзамен, а *здаваць, не трымаць* заклад, а *ісці* аб заклад. Думаецца, з гэтым можна пагадзіцца і нам.

У гэтай сувязі не пашкодзіць пазнаёміцца з біяграфіяй другога слова, хоць яна, магчыма,— хай даруецца гэта мне! — будзе больш паэтычнай, чым дазваляе строгая цётка лінгвістыка.

Не пажадаўшы далучыцца да ніводнага з пяці прадуктыўных і адзінаццаці не прадуктыўных класаў, на якія сучасная граматыка падзяляе дзеясло-

вы, недзе наводшыбе асела адно цікавае слова. Можа гэта і не хутаранец, хоць патыхае ад яго, як зараз убачым, маёнткам, але ў кожным разе слова — індывідуаліст.

Спрагацца, як усе добрыя людзі, яно не хоча, а патрабуе да сябе выключнае ўвагі.

Завуць гэта слова — *мець*. Калі даходзіць справа да спражэння, яно начыста змяняецца, прымае як быццам зусім неўласцівую для сябе аснову м а j: *маю, маеш, мае*. І тады адразу ўспамінаецца дыялектнае вымаўленне: *маць, маці*. Адгэтуль нітачка вядзе яшчэ далей, у старажытнае.

Доктар філасофіі І. Даброўскі заўважае: «...если глаголы одного начала или корня меняются в многоразличных видах, это значит, что первоначальный их вид истребился... Посему нечего удивляться неправильному спряжению глагола *имамь*, составленному по трем формам, а именно, по первой *иму*, по третьей *имѣти*, по пятой *имати*»[1].

Гэта пацвярджае і акадэмік Я. Ф. Карскі: «Из глаголов с суффиксом — ѣ — в неопределенном по своему спряжению замечателен *имѣти*. Под влиянием формы *имамь* он развил *а* в настоящем времени, повелительном и даже образованных от основы неопределенного. Он рано утратил начальное *и*» [2].

Ахвотнікі могуць перагарнуць яшчэ даследаванні А. М. Селішчава, дзе ёсць ці мала цікавых фактаў і назіранняў» [3].

Мы тым часам будзем падбіваць вынікі, бо размове пагражае небяспека стаць занадта спецыяльнай. Успомнім, што ў старaславянскай, старажытнай беларускай, як і ў многіх іншых мовах, дзеяслоў *мець* дапамагаў і вельмі актыўна ўтвараць новыя словы *(мадзець з маць* і *дзець)* [4], або формы пэўнага

---

[1] Д о б р о в с к и й И. Грамматика языка славянского по древнему наречию. Санкт-Петербург, 1883. Гл. ч. I, стар. 414—415.

[2] Е. Ф. К а р с к и й. Белорусы. М., 1956. Гл. т. II, вып. II, стар. 300.

[3] Старославянский язык. М., 1952. Гл. ч. II, стар. 152—153.

[4] Е. Ф. К а р с к и й. Белорусы. М., 1956. Гл. т. II, вып. II, стар. 96.

часу *(маю казати, мает дати, не мели ехати* і сучасныя нам дыялектныя формы *(рабіцьму, пасціме, ганяцьмуць)*.

І вось цікава! Ахвотна адгукаючыся на патрэбы бліжніх, наш дзеяслоў, хоць і клікаў на дапамогу, але стараўся абысціся сваёю сілаю. Калі, скажам, трэба было памарыць аб будучым і адпаведным чынам змяніцца, інфінітыў без усякіх ваганняў далучаў да сябе адну з сваіх жа ўласных форм. Тады, адсоўваючы ўбок створанае са староннян дапамогай *буду мець*, з'яўляліся: *мецьму* (мѣть иму) і адпаведна *мецьмеш, мецьме, мецьмем, мецьмеце, мецьмуць*.

Гнуткасць выключная, амаль бяспрыкладная! Імкненне да аднаасобніцтва, у чым быў звінавачаны дзеяслоў *мець* вышэй, ці, мякчэй кажучы, схільнасць да гордай адзіноты, была ў яго не заўсёды, а развілася ў выніку страты першапачатковага выгляду.

Якую надзвычайную трываласць і ўмельства ўкараняцца ў абыходак і не зніпчыцца, не ўмерці выяўляў наш дзеяслоў у розных абставінах, можна меркаваць з наступнага выказвання таго ж самага І. Даброўскага.

«Недостаточный глагол *имамь, имаши, имать, имамы, имате* производит третье лицо множ. *имут* от *иму*, откуда и дееприч. *имы (имый), имущи*, другие же времена от формы *имѣти:* повелит. *имѣй, имѣим, имѣйте*, дееприч. *имѣя*, прош. *имѣх, имѣ, имѣсте, имѣша*, или *имѣху*, прич. дейст. *имѣл*, дееприч. прош. *имѣв*, прич. страд. *имѣн*, отсюда же отглагольное *имѣние*. Прош. многократ. *имях, имѣяше, имяше* и проч. От гл. *иму*, который не только своим видом, но и значением отличается, происходит повелит, *ими, имѣм, имѣте*, прош. дееприч. *јем* (вм. *им*), *јемши*, неопр. *яти*, откуда *ях, я (ят), яхом, ясте, яша*, прич. дейст. *ял, страд. ят*. Настоящее его время будет *јемлю* от *јемати* или *имати*. К выражению fidem habere (веровать) все виды глагола имеют место: *веру јемлю, веру иму, веры не яша, веру имѣй*, веру *имать*. Сложные *пойму, пріиму, пріемлю, вонму, вняти, внемлю, внимати* и проч.

соображаются с простыми и по различию видов своих следуют разным примерам»[1].

Хай даруюцца гэта занадта даўгая выпіска і ўсе астатнія вытрымкі і развагі. Мудрэй як у люстры відзён з іх гістарычны шлях аднаго слова. А нешта ж падобнае перацярпелі мовы цалкам, пакуль ператварыліся ў тыя здаровыя спеўныя арганізмы, якімі яны з'яўляюцца ў карыстанні сучасных народаў. Можа гэты напамінак паслужыць перасцярогай ад незвычайнай лёгкасці, з якою мы адмаўляемся ад тых ці іншых нашых слоў, быццам бы таму, што яны належаць іншым мовам, а некаторыя, спрадвеку ўкаранёныя народам у абыходак і пацверджаныя літаратурнымі помнікамі і сучасны-мі творамі, хочам замяніць немаведама чаму на іншыя, нялепшыя на жаль. Нарэшце, позірк у гісторыю мовы прыцягне больш увагі да вымаўлення, правы якога часамі пакідаюцца на самапас — пішы так, а вымаўляй гэтак! Нібыта тут няма ўзаемнага ўплыву і напісанне не ўплывае таксама моцна на вымаўленне, а значыць, адбіваецца на інтанацыйнасці мовы, яе мілагучнасці і наогул у вялікай меры вызначае самабытнасць моўнай афарбоўкі.

Мы не *меліся* так шырока разгортваць размову, павёў яе сам прадмет, паказаўшы, што чым больш ведаў мы будзем мець ці, можна сказаць, *мецьмем* з гісторыі мовы, тым лепш *разбірацьмемся* пры супастаўленні, адборы і вывучэнні моўных фактаў мінулага і сучаснага.

*Маю* перайсці непасрэдна да заканчэння. Няцяжка заўважыць, што наш дзеяслоў і зараз не рэжа вуха нават пры старой манеры ўжывання.

Як жа быць з тым словам, з якога пачалася гаворка? Які прысуд вынесці для *атрымаць?* Сэнс яго — выразны, гучанне — не выклікае пярэчанняў, формаўтварэнне не задае лішняга клопату. Чаму ж тады выцурвацца яго ў карысць *палучаць*, слова зусім процілеглага значэння? Няўжо толькі праз тое, што *атрымаць* не дае вытворнага *палучка?* Такой бяды! — адкажам мы на гэтакія доказы: грошы ўсё роўна рана ці позна адамруць. Дык навошта

[1] Гл. тую ж кнігу І. Даброўскага, ч. II, стар. 101—102.

захоўваць адмысловы тэрмін? А хочаце, карыстайцеся не сказаць каб пашыраным, але і не забытым словам:

А карэц вады і прымаўка
От і ўся твая *атрыманка*,—
Ручкам за работу,
Вочкам за сухоту
Ад усходу да заходу,—

пяецца ў песні.

Абяцанку даганяй,
*Атрыманку* спажывай,—

гаворыцца ў прыказцы.

Я. Колас трапна заўважыў, што для пісьменніка мова з'яўляецца і матэрыялам, і інструментам. Не шкодзіла б помніць пра гэта і газетным работнікам.

Агульная хіба мовы нашых газет змяшчаецца вось у чым. Мы абавязкова хочам слова ў слова перакласці кожны сказ з рускай мовы. А тут замінаюць аддзеяслоўныя формы — дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. Вось і атрымліваюцца словы-недарэкі кшталтам *рабіўшыеся* і *публікуемыя*, або яшчэ горш — *прадстаячыя*. Апошнім часам пачалі пісаць *маючы адбыцца*. Крыху лепш, але нязначная палёгка. Тут трэба звяртацца да выразаў *мае быць*, *мае адбыцца, на чарзе*. Сказы будуць куды больш удалыя і мілагучныя.

Адна паважаная газета надрукавала вялікі артыкул, амаль цалкам напісаны вось так: «У сувязі са склаўшыміся абставінамі выявілася поўная немагчымасць выканаць сяўбу жыта ў вызначаныя тэрміны».

Каб і хацеў, не прыдумаеш нязграбней! А ўсю гэтую складаную канструкцыю можна замяніць кароткім і людскім сказам: «Абставіны склаліся так, што пасеяць жыта ў час было нельга».

Звычайна мы скардзімся, што ў газеце мала месца, скарачаем, як гаворыцца, рэжам матэрыял. А ці не лепш умела падаваць яго, вытрасаць слоўнае шалупінне, словы-паразіты.

Вось яшчэ прыклад: «На сесіі гарадскога савета, якая адбылася ўчора, было прынята рашэнне...» Што гэта за мова? Суконная то суконная, але перш за

ўсё вадзяністая. Сказаць трэба так: «Сесія гарадскога савета ўчора вырашыла». Няцяжка здагадацца, адкуль бярэцца пухліна ў некаторых раманах!

Тут не лішне будзе прыгадаць добрыя парады М. С. Альмінскага, ветэрана бальшавіцкага друку. У артыкуле «Як я стаў літаратарам» ён з усмешкай абвяргае чуткі, быццам пасля яго праўкі «застаецца толькі кропка ў канцы артыкула,— і больш нічога».

«Апісвалася дэманстрацыя,— чытаем далей,— здаецца, ў Цвяры. У канцы сказана: «мясцовая паліцыя, якая з'явілася на месца здарэння, арыштавала восем чалавек дэманстрантаў». Такія сказы былі звычайнай з'явай. Ці трэба было іх друкаваць цалкам? Напрыклад, «мясцовая»,— хіба ў Цвяры магла з'явіцца паліцыя не мясцовая, а казанская? Потым «якая з'явілася на месца здарэння»: хіба магла яна арыштаваць не з'явіўшыся? А «паліцыя»,— хто ж арыштуе, акрамя паліцыі? Нарэшце «чалавек дэманстрантаў», вядома не кароў і не прахожых. Застаецца для друку «арыштавана восем»,— толькі і трэба, а ўсё астатняе — вада. Усё-такі застаецца не толькі кропка, а і два словы, якімі ўсё сказана» [1].

Добра было б прыняць да выканання гэтыя мудрыя парады.

Да мовы трэба адносіцца творча. Перакладаючы слова ў слова, фармальна карыстаючыся слоўнікам, распрацоўку мовы наперад не рушыш. Некалі з такіх перакладчыкаў моцна здзекаваўся К. Чорны. З дапамогаю слоўніка, як гэта зрабіў бы які-небудзь чужаземец, ён пераклаў сказ: «Мне охота съесть кисть винограда». Атрымалася на першы погляд дакладная, але смехатворная перадача: «Я маю паляванне з'есці пэндзаль вінаграду».

Так прыкладна і дасюль карыстаюцца слоўнікам некаторыя няўдаліцы-перакладчыкі. «В лучшем виде» ў іх перадаецца як «у лепшым выглядзе», а «видать виды» як «бачыць выгляды». Вядома, лепей казаць і пісаць гэтак: «Сёлета палеткі выглядалі лепш», але можна дапусціць і такую форму: «Сёлета палеткі былі ў лепшым выглядзе». Затое ніяк нельга

---

[1] М. Ольминский. По вопросам литературы. Л., 1926.

перадаваць такою калькай іронію ў сказе: «Я яго даставіў у лепшым выглядзе». Тут можна было б напісаць «даставіў у поўным бляску». А «бачыў выгляды» лёгка замяняецца прыказкай: «быў на кані і пад канём».

Часта з прыведзеных у слоўніку адменнікаў для перакладу бяруць першы, ігнаруючы падтэкст арыгінала і самога слова. Так здарылася са словам *вяртанне*. Яно азначае толькі сам працэс пераходу з аднаго стану ў другі, скажам, вяртанне лёду ў вадкі стан. Аднак гэта слова неправамерна пашырылася і зусім выціснула *зварот* у сэнсе *возвращение*, пакінуўшы яму функцыі *обращения*.

Або, скажам, слоўнік дае для *навернуть* адменнік *накруціць*. З дапамогаю гэтага слова можна перакласці выраз *навернуть гайку*. А як быць з *навернуть* у сэнсе *многа з'есці?* Слоўнік тут нічым не памагае. Няўжо ж пісаць «накруціў кацялок кашы?» Удумлівы перакладчык, вядома, знойдзе выйсце і паставіць *умяў* ці *ўмалоў*.

Ёсць многа вельмі пашыраных памылак. Ад слова *дзяўчынка* множны лік будзе не *дзяўчынкі, а дзяўчаткі*. Дзяўчынкі пішуцца толькі пры лічэбніку: дзве, тры, чатыры дзяўчынкі.

Цяжкі лёс у слоў *ш к о д а* (назоўнік ад *ш к о д з і ц ь*) і ш к а д а (прыслоўе ад *ш к а д а в а ц ь*). Асабліва не лічацца з розніцай у іхнім значэнні паэты. Чаго там цырымоніцца з нейкім пераносам націску! Пішуць: «Шкода сэрца твайго», і не заўважаюць, што *шкода* па-руску значыць *вред, ущерб, потрава*. А паэт жа шкадуе нейчае сэрца, выказвае жаль, толькі не ўмее гэтага правільна выказаць.

Блытаюць дзеясловы (на гэты раз — празаікі!) *застацца* і *астацца*, або зусім зліваюць іхнія значэнні, хочуць абысціся адным *астацца*. Праўда, так гавораць на Случчыне. Але літаратурная мова — шырэйшая, яна зрабіла строгае размежаванне: «Я даганяў каня, але *астаўся*», значыць *адстаў*, не збегся. *Застацца* можна аднаму, або *застацца* за стаража, ці на другі год у тым самым класе.

Абыходзячы такія скарбы, як амонімы і сінонімы, мы збядняем мову. Да прыкладу, возьмем слова *біла*. Гэта не толькі язык у звоне, але і аглабіно ў

возе і наогул поручні, але не на сходах, а ў дзіцячай калясцы, драўляным ложку, крэсле. Паходзіць слова ад *біць, прыбіць*. Такіх прыкладаў — безліч. І цяпер самая пара ўзяцца за распрацоўку слоўніка амонімаў і сінонімаў. Гэта быў бы найкаштоўнейшы падарунак студэнту, журналісту, маладому пісьменніку.

Аднак ніводзін слоўнік не можа быць поўным у такой ступені, як нам хацелася б, каб задаволіць усе густы і патрабаванні. Руска-беларускі слоўнік 1953 года доўгі час быў найбольш поўным і дасканалым з усіх, што выдаваліся да гэтага часу. Але ў ім багата прамашак, пралікаў. Для рускага *визг, визжание* даюцца беларускія значэнні *віск, піск, скавытанне*. А ёсць жа яшчэ — *сковыт, вішчанне, віскат, скуголенне*. Супроць *обзор* у слоўніку чытаем *агляд*, а як быць, калі трэба перакласці ваенны тэрмін: «Эта высота дает хороший обзор»? Перасросшы блізкія дзеясловы і назоўнікі, можам спыніцца на двух варыянтах для гэтага выпадку: *прагляд* або яшчэ лепш — *прозірк*.

Важна толькі не памыліцца ў выбары дзеяслова. Калі ў слоўніку *недотрога* перакладаецца як *недатыка*, адразу відаць — новатвор вырас не з таго дзеяслова. Трэба было шукаць іншага, магчыма *чапаць*. Ад яго атрымалася б зграбнейшае і больш мілагучнае — *незачэпа*.

Беларуска-рускі слоўнік 1962 года — работа фундаментальная, можна смела сказаць, падзея ў культурным жыцці рэспублікі. Крытычна абагуліўшы ранейшы вопыт, слоўнік увабраў у сябе вялікую колькасць слоў жывой мовы і, вядома ж, не пацвердзіў многіх «ка̀лек», наспех перакладзеных слоў, а то і проста пададзеных у нашай транскрыпцыі, якія сустракаліся ў папярэднім выданні. Хіба што замнога дадзена слоў іншаземнага паходжання. Да прыкладу, на стар. 207 змешчан цэлы слупок слоў з пачаткам *гідра*: гідраавіяцыя, гідраакустыка, гідрабіялогія і г. д. Тое ж маем і ў іншых літарах. Думаецца, такую нагрузку правільней было б ускласці на плечы двух слоўнікаў: арфаграфічнага і замежных слоў, тады паўней была б прадстаўлена беларуская мова ў сваім арыгінальным гучанні.

А то застаўся за бартом дзеяслоў *шматаць*, але трапіла не вельмі гучнае слоўца *шмататамны* (лепш — многаатамны), якое ні ў напісанні, ні ў перакладзе сумняванняў не выклікае. Ёсць у слоўніку «калька» — *падпасак*, але чамусьці няма правільнай формы *падпасавіч*; знаходзіш *настырны*, але прапушчана *настырнасць*. Дадзена адно значэнне слова *пяколак* — *загнетка*, а па ўсёй Міншчыне на пяколак лазяць грэцца!

Засмучае і напісанне слова *нейчы* як *нечы* (стар. 524). Некалькімі радкамі ніжэй змешчана *нешта*. Скланяюцца, як бачым, абодва словы аднолькава.

Дык ці не лепш, каб унікнуць блытаніны, ужываць, як прызвычаена; *нейчым* у сэнсе *чыім-небудзь*, а *нечым* — *чым-небудзь*, тым больш што слова *нейкі* ў слоўніку засталося нярушаным.

Гэта ўзятыя без выбару заўвагі з некалькіх старонак слоўніка, якія давялося перагарнуць пры рабоце. Добрыя намеры складальнікаў слоўніка даць як мага болей слоў-тэрмінаў зусім зразумелыя: праз нераспрацаванасць тэхнічнай і навуковай тэрміналогіі мова адстае, а яна ж павінна падагульваць высілкі думкі і працы. Аднак, як ужо гаварылася вышэй, такой мэце павінны служыць слоўнікі іншага тыпу. Будзем спадзявацца, што другое выданне ўнікне і гэтых дробных агрэхаў.

Наша граматыка даволі безудзельна канстатуе, што прыналежныя займеннікі *мая, твая, свая* ў родным, давальным, творным і месным склонах маюць аднолькавы канчатак — *ей* (для творнага дапускаецца *ёю*). Такім чынам, мы практычна без назоўніка не можам адрозніць, у якім склоне ўжыты займеннік. Тым часам жывая мова не траціць індывідуальных канчаткаў для гэтых склонаў:

Родны — мае, твае, свае.
Давальны і месны — маёй, тваёй, сваёй.
Творны — маёю, тваёю, сваёю.

Тое ж назіраецца ў гутарковай мове датычна прыметнікаў жаночага роду.

Напэўна, мы зарана уніфікуем такія важныя асаблівасці, як склонавыя канчаткі. Зразумела, у

мове перамагае пераважнасць і пашыранасць ужывання слова ці яго формы. Калі я гавару пра ўсё гэта, дык маю на ўвазе, што зусім не грэх пісаць займеннікі, як паказана вышэй, бо граматычныя законы выводзяцца на падставе працяглых назіранняў і з улікам усіх ужытковых асаблівасцей у частках мовы.

Хто дбае, той і мае,— кажа старая прыказка. У дачыненні да мовы яна захавала свой сэнс у поўнай моцы. Было б легкадумна спадзявацца толькі на слоўнікі: ніводзін, самы лепшы, не навучыць валодаць моваю.

Кожны аўтар — гэта перш за ўсё лексікон, які складаўся на працягу многіх год ад маленства да сталасці. Працаваць над моваю трэба кожны дзень, тады яна расчыніць усе свае скарбы, тады прыдадуцца і слоўнікі, не для рабскага следавання, а для свядомага выбару лексікі, папаўнення яе і адштурхвання ад пэўнага матэрыялу, каб знайсці нешта больш удалае і новае.

*1960—1962*

## МАГЧЫМАСЦІ МОВЫ

*(Нататкі на палях)*

*

Пісьменнік нараджае мову ў пакутах і пошуках, вядома сваю, бо мова народа нараджае пісьменніка.

Адзін, добра агледзеўшыся вакол сябе, лічыць за лепшае не хадзіць далёка, а падбірае ўсё, што ляжыць на паверхні, сабранае і запісанае іншымі. Другі паводзіцца больш разборліва, бярэ пераважна адшліфаванае, з твораў, са слоўнікаў, збораў фальклору, не мінаючы трапнага слоўца, з якога б кутка краіны яно ні вызірнула. Трэці дастае слова, укапаўшыся на некалькі штыкоў у глыбіню, гэта значыць, цягне і добрае і благое, але толькі з аднаго кар'ера, са свае вёскі, у лепшым выпадку — з раёна. Чацвёр-

ты трымаецца, як бульдозер: ідзе і горне перад сабою што б ні трапіла пад нож, як быстрая патока вясною гоніць каменне, гальку, пясок і мул.

У 20-я гады ў літаратуру хлынула магутная, неўпарадкаваная моўная стыхія. Гартны, Гарэцкі, Чорны, Крапіва, Дубоўка, Зарэцкі, Хадыка — што ні чалавек, то і мова! Колькі новага яны прынеслі ў мову Купалы і Коласа, у мову, якая ўжо расла ў пэўных межах і шукала нормаў.

Сучасная літаратурная мова ўвабрала ў сябе ўсё лепшае з прынесенага гэтай пісьменніцкай плынню, адмовілася ад нязграбнага, невыразнага, немілагучнага. Аднак, у прозе апошніх дзесяцігоддзяў можна было чакаць больш сур'ёзных спроб пашырыць свае магчымасці ў лексіцы і асабліва ў пабудове сказа.

Шукальнікаў народнага слова ў асяродках пісьменнікаў прыбаўляецца мала, а шкада: менавіта з яго россыпаў і намываецца золата літаратурнай мовы. Поступ у гэтым кірунку часта мяжуе з крайнасцю — густым ужываннем дыялектызмаў, ды яшчэ у мясцовым вымаўленні. Тут патыхае небяспека — аўтар будуе сцяну незразумеласці паміж сабою і чытачом. Адно-два толькі ёмкія слоўцы (булы і выпілы) даў Колас свайму дзядзьку Есыпу, і перад намі жывы паляшук з яго гаворкай. І не трэба бясконца паўтараць якое-небудзь «ета», «быдта» ці што-небудзь падобнае.

Дарма думаюць, нібы такім спосабам можна перасягнуць Коласа, які, бачыце, апісваў Палессе з пазіцый (заезджага настаўніка Лабановіча». Класікі, уводзячы малазнаёмыя шырокаму чытачу словы, выходзілі пераможцамі ў абнаўленні і ўзбагачэнні лексікі, бо ведалі меру, мелі густ распазнаць, што дадае мове свежасці і сакавітасці, што губіць іх.

Прадукцыя рамеснікаў не турбуецца абцяжваць чытача ні глыбінёй думкі, ні навізною, іх клапоціць «маштаб» — пад ім разумеецца колькасць друкаваных аркушаў (каб не менш за 30!).

Зразумела, на ўдалае слоўца тут мала надзеі, іх усяго дзесяткі два-тры. Дзеясловы: быць, ісці, слухаць, бачыць, стаяць, сядзець; зрэдку: думаць і казаць; назоўнікі: дзень, ноч, раніца, зіма, вясна, лета, конь, брыгадзір, трактар; прыметнікі: светлы, шчас-

ліві, сіні, ружовы, вялікі, дарагі; займеннікі: я, ты, ён. І ўсё.

Праз гэта ствараецца ўражанне нібыта ва ўжытак уводзіцца меней слоў, чым выводзіцца з яго пад выглядам незразумелых. Такіх, наогул кажучы, няма, ёсць — малаўжываныя; чым шырэй ужываецца слова, тым больш зразумелае яно робіцца. Скажам, той жа *навучэнец*, вынайдзены ў свой час у Інстытуце мовы.

Думка расце на моўным матэрыяле. Не для аўтара, ён мае глыбейшых ці плытчэйшых думак роўна столькі, колькі адпусціў яму лёс. Расце для чытача, бо думкі выказваюцца найбольш поўна, выразна, калі аўтар валодае багатым слоўнікам, умее паставіць слова ў радок, каб бліснула яно новенькім, нячэпаным бокам.

Творчыя адносіны да мовы, жаданне зачэрпаць як мага болей з яе глыбінь — адзнака жывой неспакойнай думкі, якая вымагае і шукае найбольш дасканалага выражэння.

Няма патрэбы пагаджацца са сцёртымі ва ўжытку словамі, калі, як след падбаўшы, можна адшукаць новы адменнік, успамянуць адзіны, самы дакладны, паварот слова, вядомы народу. А не ўдасца — трэба брацца ды самому паварочваць, зыначваць форму, а праз гэта надаваць слову адменнасць гучання і перад усім новае сэнсавае напаўненне.

Магчымасці мовы — невычэрпныя. Падагуліць вопыт літаратуры — вельмі вялікі клопат. Па некалькі выданняў вытрымалі зборы твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Прыйшло да чытача ўсё, што паспеў напісаць Кузьма Чорны. А зборы твораў К. Крапівы, М. Танка, П. Броўкі, А. Куляшова, П. Глебкі! Адзін двухтомнік Максіма Гарэцкага дае практыкам і лінгвістам мноства нагляданняў, дазваляе зрабіць безліч абагульненняў і высноў.

Трэба думаць, асваенне гэтых здабыткаў не за гарамі. Бо ўжо ж зроблена колькі! Нават у маёй сціплай калекцыі звыш сямі дзесяткаў беларускіх слоўнікаў і выданняў слоўнікавага тыпу (матэрыялы да слоўнікаў, тапанімічныя, антрапанімічныя, геаграфічныя і інш). Не паспеў я з зайздрасцю пагартаць польскі слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў, як

з'явіўся ўжо і беларускі, у многім, як мне здаецца, удалая работа.

Але матэрыяльная і духоўная культура народа ўсё ўзрастае і вымагае яшчэ больш шырокага лексічнага запасу, адменных сінтаксічных канструкцый. У мову ідзе патока новых слоў, гэта заканамерна, дыктуецца часам.

Якуб Колас пакінуў літаратуры і навуцы залаты запавет: «...смялей ствараць новыя словы і ў патрэбных выпадках звяртацца да запазычанняў. Але мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе. Значыць, перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, пераглядзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі...»

Мае нататкі выкліканы гэтым самым «абшарваннем кішэняў памяці». Калі часамі доўга не ўдаецца пачуць жывой гаворкі з родных мясцін, бярэшся за Сержпутоўскага, асабліва каларытная мова ў ягоных «Прымхах і забабонах». А ёсць яшчэ Насовіч — слоўнік і прыказкі, Раманаў, Дабравольскі. Чытаеш — і ўспамінаеш мову, як быццам зноў вучышся ўспрымаць яе, падняўшы галаву з калыскі. А ў памятным нататніку прыбаўляецца слупок ці два слоў. Дакладных у сэнсе характарыстыкі з'явы, прадмета, асобы, звонкіх на вымаўленне, лёгкіх на ўзлёт.

Не шкодзіць заглядаць і ў нашы даваенныя выданні. Знойдзецца там, поруч з недасканалым, чаго мова не прыняла і пайшла далей, трапнае, забытае сапраўды незаслужана.

Вельмі павучальна выглядаюць часопісы: «Полымя», «Маладняк», «Узвышша». У апошнім — артыкулы мовазнаўчага парадку, амаль рэгулярныя нататкі пра культуру мовы, у рэцэнзіях — абавязковая ацэнка стылістыкі і мовы аўтараў. А галоўнае, практыка саміх майстроў. К. Чорны шчодрай рукою, не важачы, рассыпаў у творах сінтаксічныя пабудовы і лексіку Случчыны, К. Крапіва з густам да ёмкага і выразнага слоўца не забываўся здабыткаў яго роднай Уздзеншчыны, Ул. Дубоўка, адлучаны мяжой ад свае радзімы, Вілейшчыны, усё лепшае з яе мовы помніў, усё значнае і звонкае натаваў у вершах.

Не аставаліся і маладыя. «Крыўда» А. Куляшова звярнула ўвагу не толькі гушчынёю паэтычных фарбаў — яна несла новае і ў мову. Прыкметнымі і дасюль застаюцца пошукі новага ў мове, якія рабіў Лукаш Калюга. Талент гэты не паспеў разгарнуцца, але ўжо зарэкамендаваў сябе ўласнай мовай, умельствам пачуць самае цікавае слова ці зварот і ўмельствам данесці яго ў першаісным значэнні, але зрабіўшы здабыткам літаратурнага ўжытку.

Найбольш выпісак зроблена з Кузьмы Чорнага, яго мова і стылістыка патрабуе асобнай работы. Спадчына пісьменніка шырока даступна, і да яе спадзяюся вярнуцца.

Перагорнем некалькі выпісак з Лукаша Калюгі («Узвышша», 1929, № 2).

*Каб сам сабе добрую параду даў ды каб сам сябе і паслухаў — зрабіў так лёгка, як языком брахануць.*

Сказ ужо на крыллях, вось-вось узляціць гатовая прыказка.

*Пакваліўся на сабе практыку зняць, ці добра будзе тое, як другім раіў.*

Два радкі, а замяняюць, ці, дакладней, паглынаюць даўжэразную слоўную канструкцыю прыкладна такога парадку: чалавек, які падахвочваў некага на тое, чаго не ведаў, не каштаваў, раптам паверыў у сваю параду сам, скажам, у сродак ад галаўнога болю або ад падвярэду, але, калі выпрабаваў гэта на сабе, горка пакаяўся.

*Лаганіў.*

Паходжання слова не ўтоіш, *лгаць* так і дыхае з яго, але не груба маніць, ашукваць, а фантазіраваць, выдумляць бясшкодна, нават — раззвоньваць чутае.

*Абы было ў місцы многа, каб было на што расчыняцца.*

Тут сэнсу і адценняў багата: рабіць заход, рыхтавацца, чыніць патраты, адкрываць намеры. Вось колькі дабра ў гэтым *расчыняцца.*

*З'есці тое, што сабак трое.*

Па ўсіх адзнаках — прымаўка, відаць, проста занесеная аўтарам на паперу пад час пісання твора, бо сустрэць яе ў чыіх-небудзь зборах не ўдалося. Аў-

тар — не мовазнаўца, а знаўца мовы і ведае, як і што можна стварыць, добра ўзяўшыся, са слова.

*Адзін сабака паўздохлага цяляці асіліць.*

Афарыстычна. А як дасягаецца афарыстычнасць? Ці не гэтым нязвыклым скарачэннем, дакладней, аб'яднаннем назоўніка і прыметніка. Не палавіну здохлага цяляці, і не проста паўцяляці, а *паўздохлага цяляці*, акцэнт, як бумеранг, перакідаецца ад нежывой жывёлы на вялікага галоднага дварняка.

*Гультай, што толькі каля вуглоў ціцюляе.*

Адменнікаў адчуваецца багата: абівае парогі, аціраецца, акалачваецца, мазоліць вочы. Але ні адзін з іх не перадае так адцення бесклапотнага марнавання часу, не малюе чалавека ўзвей-вецер, як вось гэта звонкае, поўнае сакавітага сэнсу — *ціцюляе*. Як тварылася слова? У ім бачыцца сабака, які віляе хвастом, дык, можа, і зліліся два слоўцы: *цюцька і віляе*.

*Не варушкі надта.*

Якраз тое, чаго не хапае літаратурнай мове. Гэта не проста — непаваротлівы, няспрытны або разява. Тут маецца на ўвазе чалавек, што сябе ў крыўдзе не пакіне, без разліку не варухнецца, пальцам не кіўне.

*Гаршчок картоплі ўвавіць аднаму.*

Усе шырока вядомыя словы — умяць, умалоць, зжэрці, улупіць — бляднеюць перад ім. Не перадаюць яды са смакам, з потам і крэктам: хоць і многа далі, але смачна, вось і *ўвавіў*.

*Рабіць няма ніякага сходу.*

Прыслоўе *сходна* мы амаль забылі, а пра назоўнік таго ж кораню многія і не чулі. Тым часам *сход* у сэнсе *выгада, разлік* нясе яшчэ адно свежае адценне.

*Дачка хацела была паспагадаць па бацьку.*

Для сучаснай літаратурнай мовы — словазлучэнне нязвыклае, мы прызвычаіліся ўжываць слова *спагадаць* са склонам — каму-чаму. Тым часам у Насовіча: *спагаданне трэба мець па другім;* у Каспяровіча: *сыты па галодным не спагадаець;* у Бялькевіча: *дужа ён будзіць па табе спыгадывыць*. Гэта ведаў і Максім Гарэцкі.

*І духу не ўказаў, пакуль не павячэралі.*

Значыць, не толькі не абазваўся ці не паварушыўся, нават не дыхнуў моцна. Ад *указаў*, відаць, вырас-

ла *аказаўся*, больш мілагучнае слова, якое замяняе два — *падаў голас*.

*Улавіў і залавіў.*

Мы пагадзіліся з адным толькі адменнікам — *злавіў* — і забылі гэтыя цудоўныя *улавіў і залавіў*, дзе чуецца — злавіў падпільнаваўшы; я яго ў яблыках *ўлавіў*; ганялі-ганялі каня, дый *залавілі*, у агароджу прыпёршы.

*Слухае ўтаіўшыся, што на хаце будзе рабіцца.*

Вельмі і вельмі скупа выкарыстоўваем мы для ўтварэння слоў ці змены іх адценняў прыназоўнікі. Гэтае самае *у*, напрыклад. Я пісаў аб гэтым, спасылаючыся на фальклор і літаратурную практыку. («Пісьменнік і мова»). У той жа час дазваляем, каб *у* выціскала *на*, а мова пратэстуе: пайшоў *на сяло* гуляць, вылез *на хату* з запечча.

*Як паў быў абуўшыся і апрануўшыся, дык першы дзень і праспаў.*

Гэтага дзеяслова і менавіта гэтай формы няма чаго зракацца. Пàсці (не блытаць з *пасвіць і пасці*) выражае найвышэйшую ступень зморы, знямогі. Паў той хлопец каля сопак — не ў сэнсе загінуў (руск. *пал*), а зваліўся ў непрытомнасці. Між іншага — *прыпасці* таксама выражае вышэйшую ступень выяўлення радасці, страху, задаволення, смагі, голаду.

*Калі ўсяе зімы пралежаць нельга.*

Нечаканая ці заканамерная падмена склону? А сказ свяжэе і робіцца куды больш гнуткім.

*Як ні мэдзіўся ён, сон не бярэ.*

Дакладнае значэнне не адшукваецца. А чуецца нешта кшталтам *круціўся, прыстройваўся, злаўчаўся*, нават *мудрыўся, мучыўся*.

*Падгаловы падушку.*

Выраз ідзе каранямі ў той час, калі на палацях пад некалькі галоў клалася адна толькі падушка. Старавата, вядома, але ці варта забываць.

*Гнушка.*

Накрыўка на гаршчок. Тое, што *ўгінае*, уціскае капусту, буракі, каб пад час кіпення не выпіралі. Магчыма, *угнутая* бляшанка, чарапок, якімі зручна накрываць.

*Прымі там усё.*

Не толькі — *прымі* са стала — у процівагу — па-

стаў на стол, а і ў сэнсе *прыбяры, схавай.* Прымі з вачэй адзежу, прымі ўбок смецце.

*Скарач.*

У беларуска-рускім слоўніку — ручнік з доўгімі махрамі. Дакладней: 1. Спірка або кухонны ручнік з грубай нябеленай саматканіны; скарач — бо шорсткі, крыху скарэлы ад выцірання посуду. 2. Дзіцячы спавівач — доўгая ануча або ручнік, таксама карэлы, але ўжо ад іншай прычыны.

*Дзе ён скажа, што баліць.*

Вось і яшчэ адно нечаканае адценне: *хіба* ён дапусціць, нават мацней — ні за што, ні ў якім разе не прызнаецца.

*Рызу налажыць ад холаду.*

Тут *рыза* — лахманы, старая адзежына, гэта зразумела. Шкада, што знікае распаўсюджанае некалі *налажыць* — у ім зневажальнае адценне — ускінуць на плечы абы-што. А ў яго бліжэйшага сваяка — *узлажыць* — гучанне ўрачыстае: узлажыў чыстую кашулю, узлажыў новы кажух з буркаю.

*Надта ж ужаліўся.*

Вельмі прыдаецца гэтае слоўца, калі трэба сказаць, што чалавек надзвычай расчуліўся, шкадуючы самога сябе.

*Няма ніякай паверкі.*

Відаць, дарма адмаўляцца ад гэтага слова, бытуе ж яно ў жывой мове, не кажу пра літаратурную. Тут ужыта ў значэнні *няма веры*, наогул жа паверка нясе адценне не звычайнай праверкі, а асабліва пільнай, ваеннай (*зверка* наяўнасці людзей са спісачным складам). І яшчэ ёсць выраз: *на паверку выходзіць,* гэта значыць — а ў сапраўднасці.

*Нямавярнікі нашы людзі.*

Першае адценне — недаверлівыя, навучаныя ашуканцамі: другое — такія, каму нельга даваць веры (адменнік — несуверныя); трэцяе — вядомыя праз нешта выключнае — смеласць, спрыт, працавітасць.

*Кладзецца ў лагво ды бярэ лапу ссаць.*

Недзе пасля вайны ўжытае мною *ручво* ў жывой мове не чуў, напісалася само, на ўзор слова *лагво.* Гэта слова зграбнейшае за *бярлог,* асабліва гаматны ў склонах (берлагу), дый крыху не тое значыць. Лаг-

во — часовае, не разлічанае надоўга звярынае жытлішча.

У пададзеным выразе цікава і яшчэ адно; *бярэ* набыло сэнс *пачынае*, гэта не простае скарачэнне, як можа здацца, дзеяслова *бярэцца*.

*Лежыва.*

Значна ямчэй гучыць за ляжанне. Па гэтым узоры я ўжываў *ежыва* і *седзіва*, бо ў народзе такіх формаў не купіць: *печыва, прадзіва, малодзіва, ворыва, варыва.*

*Почату няма.*

Не пачата бяседа, ніхто не адважваецца першы пайсці ў танцы, наліць першую чарку. У Насовіча *почет* — образец; на почет гетага здзелай. У мяне на кроснах почату не было (в. Закружка Мінскага раёна).

*Адзежа незапаметна дзярэцца.*

Цяжкаватае, няўклюднае крыху слова, наўрад ці можна разлічваць на яго зварот у жыццё. Але ж каларытнае і ў духу мовы.

*Прыступней.*

Выводзіцца ад *прыступіць*, а значыць — лягчэй, даступней, танней, нават — болей ёсць чаго-небудзь. Прыступней стаў цукар у магазіне; прыступней да начальства дайсці; лета сухое, прыступней касіць на балоце.

А вось залатыя выразы ў самой пабудове сваёй, у гучанні і ў яснасці:

*Дайнейшыя хлопцы, што цяпер мужчыны.*

*Цераз лад хітры.*

*Ноч з пойначы стала хмурная.*

*Так яно ідзецца* (заведзена).

*Далілі і закускі далажылі толькі, сама колькі ў дарозе пачувалася, што нестае.*

*Слухаць не хачу — ані ў разгон не бяру* (не прымаю ў разлік, або — не шманаю, не прыбаўляю кроку).

*Не ўсякі густуе на яго добрасць* (не кожнаму падабаецца).

*Пэцкаль на гэту работу* (другую, можа, і ўмее, а тут бракароб, халтуршчык).

*Ад аднаго духу казлы падзярэ.*

*Памкнуўся быў не толькі языком, але і рукамі сваю крыўду паказаць ды сваё вяршынства устанавіць.*

На такога тыпу канструкцыі быў здатны яшчэ Чорны («скоры на работу кулакамі»). Але тут ёсць, апрача іншага дабра,— *вяршынства*, на мой густ, лепшае за *першынства* і шырэйшае за народнае — *верх.*

*Штраф усім, што ўвечары былі, і аднаму, што не было.*

А мы б якраз напісалі: наклалі штраф на ўсіх прысутных на вечары і на аднаго, што адсутнічаў.

*Трэба моцнага сэрца, каб выцерпець, каб не пераведаць каго.*

Зноў замена склону. І вельмі характэрная. *Дай нож* — значыць, аддай мой нож, а *дай нажа* — пазыч, дай на час. Так і тут: не заўсёды трэба моцнае сэрца, а толькі на гэты выпадак, на раз.

*Доктар хіну дае і ад вужакі хлеб. І чалавеку і карове — усім памагае.*

Два сказы, і вобраз вясковага лекара гатоў!

*Вада не з гнілой сажалкі брадзена, а з двух гаршкоў ды праз трубку гнана.*

*Брадзена і гнана* падкрэсліваюць мнагакратнасць дзеяння.

*У адно слова гавару.*

Дзейнічаю аднамысна, не адступлюся ад сцверджанага некім — сябрам, сваяком.

*Распратваць, распратвацца.*

Нешта ёсць у гэтым слове такое, што горне да яго больш чым да *распранаць і распратаць*, як ужываецца звычайна (без *в*).

*Трэба глядзець работы.*

Да шматлікіх значэнняў гэтага дзеяслова ёсць магчымасць дадаць яшчэ некалькі. *Глядзець* работы — шанаваць пасаду, пільнавацца наседжанага месца, не адыходзіцца ад варштата, малатарні, каб не ўчынілася псота.

*Калі ты назадзёр, і не еш.*

Добрая прыбаўка ў сям'ю слоў кшталтам; насупар, насупраць, наперакор, на злосць, сумысля, на кепства.

*Лусту ўкавяліла.*

Адкава́ліла, не шкадуючы, адрэзала. А можа, ад *кавяла* — мыліца, штучная нага, крывы, кій, наогул — крывуля.

*Лежня.*

Гэта не толькі лагво, дакладней — месца адной начоўкі дзікай жывёлы, а і *адбітак* постаці на снезе, на мяккай зямлі. Не грэх ужыць і замест ляжанне.

*Лешня.*

Кій, пруцік, якім робяць *лехі* — знакі на вораным. *Лешыць* — класці такія знакі ці праводзіць на засеяным раўчукі, каб сцякала вада. Можна сказаць *лешня* і на *вяху*.

*Не душыцца хлебам, а толькі лепшую форму лусце дае.*

Сказ лёгкі, грацыёзны, у меру іранічны. Малюнак з яго просіцца ў фарбу. Чалавек галодны, але трымаецца дастойна, з годнасцю, не каўтае лусту за раз, а далікатна, асцярожна адкусвае, нібыта раўняе, прыбірае лішняе з кавалка.

*Жыве аб шчырым посце.*

Стрымана, але выразна сцвярджаецца — галадуе. Можа быць ужыта і да набожнага чалавека: *шчыра* посціць, каб не ўпасці ў грэх. Нарэшце, яшчэ адно адценне да вядомых ужо: шчырае поле, шчыры бор (чысты, без падлеску).

*Хлеб жва́куе.*

Есць, цмакае, цёпкае, жуе і жве, аплятае — гэта ўсё словы аднаго раду і розных адценняў. У *жвакуе* яшчэ адчуваецца, як чалавек есць душачыся, з поўным ротам сліны, аж захлынаецца.

*От які ты галадамір. Работы рабіць не хачу, а есці — есць.*

Дакладна слова не растлумачваецца як быццам. Паводле тэксту — чалавек, які абвясціў галадоўку, але ўдавана, для таго, каб адвесці вочы. У Насовіча: той, хто морыць сябе голадам.

*Успа́ла на яго.*

1. Наляцела, накінулася. 2. З'явілася жаданне — успала ахвота есці. 3. Успала — прыспала, закалыхала, усцішыла спевам дзіця, і яно заснула.

*Рукі ў яго вачэй не чакаюць.*

Так можна характарызаваць добрага работніка, з механічна засвоенымі звычкамі. Робіць, не гледзя-

чы на работу, забівае, скажам, цвікі ў падэшву, б'е цэпам па пасадзе снапоў.

*Скудзельніца.*

Справа зусім нечаканая. Слова паходзіць не ад славянскага скудзель — гліна, прах, тлен,— не кажуць так на могілкі і на жонку ганчара. Гэта ўсяго толькі *папрадуха, пралля*, тая, што мае справу з *кудзеляю*. Таму і вячоркі, калі жанкі і дзяўчаты збіраюцца з прасніцамі, сям-там называюць скудзельніцамі.

*Свае натуры не пакідае.*

Значэнне даволі яснае. Чалавек трымаецца таго, да чаго звык, не перайначваецца. І яшчэ адценне: робіць насупроць, назадзёр, хоць і ведае, што нельга, што ўжо быў караны за гэта.

*Упатрэбіць.*

Вось як яно можа зыначыцца абвыклае «употребить»! Не толькі націск змяніла слова, а і набыло багата ў сэнсе. Гэта — не проста спажыць, але абавязкова скарыстаць на патрэбу.

*Картоплю свіньмі скормяць.*

Як быццам крыху рэжа вуха, але мова знае такое ўжыванне, яно законнае, як і, напрыклад, *жыта коньмі стравіць.*

*Зайсці ў вялікую спрэчку.*

Скрозь вядома: зайшла страшэнная злосць, зайшла сутычка паміж суседзямі. І гэта вельмі па-народнаму.

*Узáлабкі.*

Літаральна: схапіліся за чубы, загрудкі.

*Ніколі нічога жонцы не хваліўся.*

Зноў — падмена склонаў (замест *нічым*), і ў выніку іншы сэнсавы акцэнт на дзеяслоў: не гаварыў лішняга, не спяшаўся сказаць загадзя.

*Языка не распускай, бо наступяць на доўгі.*

Прыказка, дакладней, крылатае слоўца, належыць аўтару.

*На смелага дваццаць смелых нарываецца.*

*Нарвацца* — не толькі наскочыць, налящець, а і *знайсціся*, як вось тут. Такое адценне грунтоўна прызабылася.

*Мы на людзі багатая вёска. На далей утаймавайся.*

Вернемся да папярэдняга сказа. Тры разы ўжыта тое самае *на* і ўсё па-рознаму: замест — *супроць* смелага, замест — *чым* багаты і — у *далейшым, з цягам* часу.

*Сопалаху.*

Са страху, з перапуду, ад жаху — усе пішуць. А *сопалаху* — даўно не чуты, амаль забыты цуд! — нясе ў сабе і страх, і паспяшанне, і збянтэжанне. І абавязкова — адценне гумарыстычнае.

*Нурэц.*

Самі абзываюцца насустрач словы — маўчун, панурлівы, сарамяжлівы, замкнёны.

*Зрабіць барыш.*

Маецца на ўвазе выпіўка перад пачаткам работы, калі дамовяцца, скажам, скасіць участак, паставіць хлеў, пашыць кажух. Тады кажуць: «Убачыў ты нас з кілішкам, убачым мы цябе з работаю».

*Каб у што найбольшым таварыстве быць.*

Вельмі простая і ў той жа час выразная форма павелічальнай ступені. Вось бы і пісаць: не *самы* большы, а што *найбольшы.*

*Асыка́цца.*

Слова ёсць у слоўніку Шатэрніка: адгаварвацца, бурчаць (дык ета ты яшчэ будзеш *асыкацца,* я ж табе пакажу!). Па-мойму, дакладней растлумачыць яго можна як *агрызацца.* У самім гучанні чуецца сычанне.

*Мацаў клямкі, намацаў засланку.*

Поруч з адным дзеясловам (розныя трыванні), розныя склоны: родны (клямкі) і вінавальны (засланку).

*Спачатку ціха, а далей угаварыўся.*

Неабмежаваныя магчымасці «у»! *Млын не хацеў малоць, пасля ўмалоўся. А ўссесці, усшухарыцца, усшукацца, успароцца, уз'ездзіцца* і г. д. і г. д.!

*Прыпрэ ахвота.*

Менавіта *прыпрэ,* калі ні адкласці, ні перамагчы жаданне, ні саўладаць з ім. Ёсць і такі варыянт: *падапрэ* работа, патрэба. Касьба не адышла, а жніво падперла. Не адсёрбаўся заціркі, а тут каша падперла.

*Чорт ад цябе будзе работы даходзіць.*

Адкуль яно пайшло, гэта сэнсавае адценне? Мы

ўжываем: *даходзіць* — канаць, а тут: дамагацца, сыскваць, дашуквацца, патрабаваць. Можа, ад *хады*, калі часта і доўга ходзяць, сыскваючы грошы. Ці абіваць ногі, ходзячы за ляным работнікам, дамагаючыся ад яго людскай работы. Ёсць і прыметнік — даходны, даходны вельмі чалавек, значыць усюды дапінае.

*Не пападзеш у мяне нічога.*

Можна сказаць і скрозь кажуць — не атрымаеш, не даможашся, не дастукаешся. Але *не пападзеш* нясе момант канчатковага адмаўлення, не дастанеш нават выпадкова.

*Сагрозіць.*

Ніяк не горш як *згрозіць*. Інфінітыў — *саграваць* таксама гучыць.

*Ацёрпецца.*

Мілагучней і выразней, чым абцерпецца ці прыцерпецца.

*Сухім з вялікага гоману выскачыць.*

Можа служыць прыказкай і замяніць кальку «выйсці сухім з вады».

*У вялікае не палезе.*

Таксама прыказка: не пяройдзе мяжы, не перабярэ меры, не памкнецца звыш магчымасцей.

*Парабіў у гразь.*

Можна — *паўрабляў і ўрабіў*. Такім чынам большае сям'я адназначных слоў: упэцкаў, уквэцаў, угнюсіў, забрудзіў.

*Рэдка хто буднога дня на вечар абуецца, ходзяць у бацькоўскім вобуі.*

Змена склону дазваляе абысціся без *у* (у будні дзень); *на вечар абуецца* — значыць ідучы гуляць, на танцы. А калі хадзіць басанож, дык, аказваецца, гэта ў *бацькоўскім вобуі.*

*Дык дзіва, што шкада работы.*

Народ умее будаваць сказы, абыходзячыся без адмоўных часціц. Руцэ рупіць напісаць: *дык не дзіва* або *дык ці дзіва*, а выходзіць — і без іх можна, і яшчэ лепей атрымліваецца. І наадварот бывае — часціца ўлазіць туды, дзе яе не чакаеш: вышастаў вецер амаль не ўвесь чад з галавы. Часам у такіх канструкцыях *не* аб'ядноўваецца з *амаль:* вышастаў вецер *немаль* увесь чад з галавы.

*За няма што.*

Можа з поспехам замяніць злучэнні: праз глупства, з-за дробязі, без прычыны.

*Непярэліўкі, спэнту...*

*Непярэліўкі* ў нас перакладаецца недакладна, як *плохо дело.* Дакладней: *не шуточки,* серьезный оборот. А *спэнту* — гэта скарочанае з *імпэту* або *супэнду* — са страху.

*

Выпісак можна рабіць шмат: столькі багацця і з адных толькі ўмелых рук. Мова майго маленства, слуцкая, прыносіць таксама багата дзівосаў:

*Ляны дуб* — той, што не скідае лісця на зіму і вясною доўга стаіць не развіваючыся. Лянуецца, сказаў народ, а мог бы сказаць — асцерагаецца марозу, баіцца апараніцца, каб не пабіў ранішнік маладога лісту.

*Ачэпіны або абмецце* — тое, што ў слоўніку названа *амецці,* дробная салома, каласы, мякіна, якія застаюцца пасля малацьбы ў збожжы. Большае смецце абметаецца, меншае — адвяваецца ці адархоўваецца. І ў ачэпінах і абмецці чуюцца дзеясловы: чапляецца (за збожжа чапляецца палова), абметаць (збожжа зверху).

*Каптур.* Сказаць — галаўны ўбор, будзе, відаць, загучна. Гэта паркалёвая шапачка для малых, немаўлят, з завязкамі пад бараду. У замужніх жанок каптур — адзнака замужжа, круглы абруч вакол галавы, які надзявалі пад хустку, часам яго называлі — *шапка.*

Усё гэта, чутае на ўласныя вушы, у свой час выдатна прыкмечана Сержпутоўскім і запісана ў трох яго кнігах. Успамінаем далей:

*Налог* — звычка, навык; хлопец мае налог у чытанні (або — *налажыўся* чытаць).

*Цёска* — трэска, не сечаная, а счэсаная.

*Троніцць* — кепска пахне, патыхае з рота.

І вось амаль зусім забытае: *уваччу, увушшу.* Да гэтых формаў звярталіся, калі гаворка ішла пра некалькі асоб: «колькі людзей там ні стаяла, гром як

цяў, маланка як бліснула, дык у ва ўсіх увушшу зазвінела, уваччу пацямнела» (Сержпутоўскі).

*Шопшы вялікдзень.* Выраз гэты доўга заставаўся для мяне таемным. Аднойчы вуха ўлавіла: гэта ж так дэфармавалася *усопший.* Вялікдзень мёртвых, пасха усопших, карацей — радаўніца. А вось што значыць — *з добрага раю,* так і не высветлілася канчаткова, хоць бы толькі для сябе.

Калі я пачуў, як сказалі *лістабой*, дык пашкадаваў, што ўжо напісаў «Хто робіць пагоду». Вось было б імячка для аднаго з вятроў, герояў мае казкі!

Потым прыблукала да мяне *самадайка* — абразлівае слоўца, але вельмі добра згадзілася. Чакае чаргі на ўжытак — *уяда* аднаго кораню з *пераяда, ад'яда; пераяда* сэрца гэты чалавек; сваё дзіця, але *ад'яда* жыткі мае. *Уяда* — шырэй: можа азначаць і *ўедлівасць* і прыкласціся да чалавека драбязнога, прычэплівага.

Як шмат чуецца ў скарзе старога чалавека, *збеласвецілі мяне, а мае ж крэўныя сыны.* Значыць, *збэсцілі, зганілі,* зрабілі прайдзісветам і яшчэ абабралі да рубіны, пусцілі з торбай па белым свеце.

*

Як толькі траціцца смак да мовы, бяднее моўны адбор.

*Жернова* — млыновыя камяні — перакладаюць як *жорны.* Тым часам жорны — зародак машыны, у пэўным сэнсе — агрэгат: два камяні, часта іх акоўваюць абручамі. У верхнім камені мацуецца *млён* — дзяржальна для раскручвання, ёсць і адтуліна, куды сыплюць зерне. Гэта прылада для размолвання збажыны па-руску называецца *ручной жернов.* А ў млыне не жорны, а камяні. Калі на іх трэба было зрабіць насечку, каб сталі шурпатыя, млынары казалі: *трэба камень каваць.*

Цяпер часцей за ўсё пішуць адно слова — *спачатку.* А паспрабуй крыху азірнуцца, і маеш: *спачатку* — сначала, *напачатку* — вначале, але ў *пачатку* дарогі, *перш чым* — прежде, *спярша* — сперва.

Выходзіць, *побач* і *поплеч* могуць вельмі шырока ўжывацца. Не толькі: два дубы *поплеч*, хлопцы стаяць *поруч*, а і воўк пабег *побач* дарогі (Віцебскі краёвы слоўнік), *побач з намі* (Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны), *поплеч Валі* (К. Чорны, Зб., тв., т. IV, стар. 141).

Не трэба кідацца ў крайнасці. Я пісаў пра тое, як адны аўтары схапіліся за словы *помач і памагаць*, зусім адкідаючы *дапамогу і дапамагаць*. *Помач* — часцей пасуе для дыялогу, а ў *дапамозе* ёсць сэнсавы элемент больш шырокага і закончанага дзеяння. Колькі тае *помачы* было, адзін раз сякерай цюкнуў. Каб не рынулі людзі на *дапамогу*, быў бы яму алох.

Магчыма, мы будзем шукаць у слоўніках і не знаходзіць тыя словы, што шырока ўжываліся за маю памяць дый зараз не звяліся ў жывой мове.

*Ненапамкі* — няўцям, неўпрыцям, не ў галаве. Яму і ненапамкі, што азірацца трэба.

*Подушы* — падабаецца, па сэрцы, пад густ, прыемна.

*Перасціханак* — перапынак, часовае спыненне справы, з'явы. Дождж ідзе без *перасціханку*. Гаворыць-гаворыць, і *перасціханку* няма.

*Праштроп* — правіна, ад праштрафіцца. На трэці год выйшаў у пастуха Данілы *праштроп*.

*Прашаворы* — пустыя гаворкі, глупства, забабоны, прашкі. Хутчэй за ўсё ад *прах*.

*Сыскацца* — з'явіцца пасля доўгай адсутнасці.

*Перакорны* — той, хто робіць на кепства, наперакор.

*Малечка* — ласкальнае ад трохі, амаль. *Малечка* незахапілі дзядзьку, кагадзе паехаў. Мукі засталося дзецям на блінцы, малечка.

*Сліжэй, сліжэйшы* — ад *слізка, слізкі*. Пасля чаркі і елкае сала *сліжэй* пайшло. Дарога сёння *сліжэйшая*.

*Даваць* — шыбаць. Дае ў нос шкіпінарам.

*Адказаць* — перадаць, пераказаць. *Адкажы* братавай маю просьбу.

*Мецъ закалец* — затаіць злосць, мець вока на каго-небудзь.

*Водалей* — наводдаль. Прыдаецца для параўнання адлегласці ці ступені сваяцтва або прыхільнасці.

Іванькава ад нас *водалей* за Ігнатаўшчыну. Мы з ім добра сябравалі, а цяпер сталі *водалей.*

*Рачанец, рачанцы* — тэрмін, які павінен сысці для акрыяння чалавека ці жывёлы або для ачышчэння, пакаяння. Яшчэ цяляці *рачанцы* не сышлі, а яго — па горле. Нарадзіла дзіця, а як сышоў *рачанец,* пайшла ў царкву на ўводзіны.

*Зяўнуць* — моцна крыкнуць. На ўсю зяпу *зяўнуў,* аж агонь у лямпе падскочыў.

*Узмірэнне* ці *замірэнне* — можа ўжывацца замест *перамір'е, мір,* спыненне вайны або проста бойкі, калатні.

*Дальшы і блізшы* — для дыялогу выдатна, хоць і здаецца менш мілагучным за абвыклыя формы.

*Няўтроп* — зусім дакладна перадае сэнс слова *невпопад.*

Чаму не ўжываць *гэтта* — вось тут, *пахнючы* — пахучы, *блішчасты* — бліскучы, *гэны* — вунь той — хіба ўсё папішаш?

*

Колас пярэчыў супроць ужывання *ля.* «Сапсаванае слова *каля*»,— казаў ён. Але народная мова нічога не чыніла дарма, ёй хацелася быць мілагучнай, і яна стала такой, робячы ўсё, што было для гэтага патрэбна.

*Ля, шчэ, мо, трэ* — з'явіліся акурат у выніку памкнення мовы да мілагучнасці і пры збегу зычных і галосных. Народ апускаў тое, што шкодзіла вымаўленню. Вось як гэта адбывалася:

*а я (я)шчэ не снедаў: мо(жа) жаўна застукала; рака (ка)ля плота; трэ(ба)бабе пералаз.*

Мова наша стала незраўнана прыгажэйшая, багацейшая і больш гнуткая. Але яна — фармуецца і развіваецца, і таму павінна ўбіраць у сябе рочадзі і ручаінкі з дыялектаў. Тады разрасцецца яшчэ буйней. Давайце пасабляць! І не забывацца пры ўстанаўленні моўных нормаў пра мілагучнасць. Найчасцей яна вырашае, якому слову жыць, якому адыходзіць.

*

Вышэй успаміналася: шмат ваяваў Якуб Колас, так і не зваяваў да рэшты пачварных стварэнняў накшталт *прадстаячы* і *маючы адбыцца*. Перайсці да больш зграбнага не так і цяжка: трэба толькі адважыцца і пачаць пісаць: *сход, што на чарзе*, урачыстасць, *што мае адбыцца* або яшчэ лепш — *мае быць*.

Можна пайсці іншым шляхам, ад слова *чарговы*. З яго дапамогай маем: *пазачарговы* або *надчарговы* — внеочередной, а *падчарговы*, той што на чарзе, адпавядае цалкам *предстоящему, прадстаячаму*.

І яшчэ адна бяда, гэта, здаецца, узаконена граматыстамі. Пішуць, друкуюць, вымаўляюць: два з палавінай раза або паўтара раза, на той, бачыце, падставе, што *палавіна* нібыта стасуецца да *раза*. У рускай мове, як ні дапасоўвай, ці да назоўніка ці да лічэбніка, склон *раза* не змяніцца. Аднак і па-руску і па-беларуску трэба ставіць у адным склоне лічэбнік і назоўнік: *два раза с половиной, два разы з палавінаю* (два з палавінай разы). Дарэчы, народ скланяе: дзесяцьма коньмі, пяцьма вокнамі, а не толькі на скалькаваны ўзор (дзесяццю, пяццю).

Шмат якія словы ў нас самі просяцца аднавіць уласцівыя духу мовы формы: *наспа, прызва, нерва, рэзерва, проспа,* замест *насып, прызыў, нерв, рэзерв, просып.* Так і пісалі ў 20—30-я гады.

Здавён жа *боль, цень, капыт, сабака* маюць у нашай мове род мужчынскі, а *сев* — жаночы, *сяўба.* І слова не пагоршала, і праца, якую яно азначае, не пацяжэла.

Мова звычайна абдымае ўсе высілкі працы і думкі. У гэтым кірунку нашай мове трэба знайсці, стварыць, а пры неабходнасці і запазычыць багата чаго. Тэхнічная і навуковая тэрміналогія распрацавана не да таго ўзроўню, каб задаволіць вымаганні сённяшняга фізіка, інжынера, геолага. Тым часам выданне тэрміналагічных зборнікаў спынілася і не аднаўляецца. Літаратура не можа дапамагчы нашай навуцы і тэхніцы падшукваць патрэбныя тэрміны ў рэчышчы роднай мовы — гэта справа спецыяльная. Пры выпуску беларускай энцыклапедыі сустракаліся пэўныя цяжкасці: трэба дакладнае азначэнне, сціс-

лы выраз, а іх якраз у мове і нестае. Натуральна, не ўсё, што мае мова, удавалася выкарыстаць.

Да прыкладу слова *масла*, як тлумачыць слоўнік Ушакова, «вадкае або цвёрдае рэчыва, якое штучна здабываецца з рэчываў раслінпага, мінеральнага або жывёльнага паходжання».

Наша мова мае розныя адменнікі адзінага ў рускай мове тэрміну *масла*, у залежнасці ад крыніц яго-нага паходжання. На прадукт, якім мы абавязаны карове, гаворыцца — *масла*, тое, што здабываецца з раслін,— *алей*, тэхнічнае, змазачнае, лампаднае масла — *аліва*, нарэшце, мае сваё імя і аліфа — *пакост*.

Гэтак карыстаўся словамі народ, гэтак зафіксавана і ў «Тэхнічнай тэрміналогіі» (М., выд. Акадэміі навук, 1933, стар. 72), дзе нават даецца група вытворных тэхнічных тэрмінаў (аліваправод, алівазбіральнік, аліўны буфер і г. д.). Аднак у далейшы абыходак уведзены: змазачныя матэрыялы, *мінеральныя маслы* (множнага ліку жывая мова не ведае).

*Радуга*, пішацца ў т. 9 энцыклапедыі, тое самае, што і *вясёлка*, якой прысвечан цэлы артыкул. Але абалонка вока названа не вясёлкавай, а *радужнай* і стронга — таксама!

У беларуска-рускім слоўніку шмат зроблена, каб устанавіць напісанне іншамоўных слоў, што яшчэ не азначае ўзбагачэння мовы тэрмінамі. Дарэмна шукаць у ім нават некаторыя шырока распаўсюджаныя словы, да прыкладу:

абдзьмуць і абдзімаць, аблавушка (треух), абложны (дождж), абмова, абнашчыцца, абшмараваць, без возірку (без оглядки), адлоў, адпанаваць, адшкадаваць, акраса (у сэнсе — уцеха, акраса нашага жыцця, акраса ў бядзе), акрыянне, апасвацца, апона, асяніна, атачэнне, аторва, ачаляць, ашостак, барвізна, бязбацькавіч, бліщчынка (блёстка), важыльня (весовая), валавода, вагаркі, вараваццa, вартоўны, вачніца, велізарына, відавок, вешыць (стаўляць вехі), віша, выплатнік (плательщик), выпруціць, вырабіўся (избавился), высцігаць, вытаўкаць, выцурацца, выцурана (отчужденно), гак (адмеліна), гамарня, гічка (у мяху), гнюсар, гнюс (пэцкаль), гравійка, гулец.

Гэта толькі малая частка ўпісанага мною ў слоў-

нік на першых дзвюх сотнях старонак. Цяжка, вядома, улічыць усе адценні і адменнікі, але ўсё ж. Зазначу першыя, на чым разгарнулася кніга: *весціся*, апрача ўсіх пералічаных значэнняў, азначае — ісці самому і весці яшчэ каго-небудзь; вядзецца сюды з усёю сям'ёй. Няма і *на відавоку* (на виду) і многа чаго ўжыткоўнага і патрэбнага для перакладаў.

Затое можна дазнацца, што ваблівы покліч *кіцкіц* перакладаецца *кіс-кіс*. Чаму ў слоўніку так пашанцавала кацінаму племені, сказаць цяжка. Ужываюцца яшчэ *цю-цю, шута-шута*, але яны засталіся не перакладзенымі, як і *гаў-гаў, кукарэку, ціў-ціў*.

Праўда, знайшлося ёмкае слоўца *акыш*. На жаль, яно адно, а народ стварыў іх даволі багата, каб вабіць, клікаць або палохаць птушку і жывёлу: *кось-кось* — на коней, *пыля-пыля, ціп-ціп* — на курэй, *агыля* — на гусей, *ашкіра* — на авечак, *аюсь* — на свіней.

Усё гэта зразумела, ніводзін слоўнік не можа пахваліцца вычарпальнай паўнатой, усе яны грунтуюцца на адборнай, выпрабаванай у літаратуры лексіцы. І ўсё ж крыўднавата, калі знаходзіш *ад'язджаючы*, а не *ад'язнік*, калі поруч са словам *аматар* і вытворнымі ад яго даецца нямаведама нашто любіцель, таксама з усімі вытворнымі, тут жа *асяніць* і *ахінуць, застацца* і як правамоцны адменнік *астацца*, хоць наша мова прызнае яго найчасцей у значэнні *не паспець* (астаўся ад цягніка) ці ў значэнні *не збегся, адстаў*.

Думаецца, нязручна перакладаць *вусціш* — *тишина*, а *вусцішна* — жутко, страшно (вусціш — у жывой мове — жудасць).

Прыклады ёсць і яшчэ, прыводзіць іх, значыць, засмучаць сябе і другіх тым, што салідныя, вартыя ўвагі выданні маглі б стаць яшчэ лепшымі пры ўсебаковым вывучэнні і ўліку ўласных, часта нячэпаных моўных багаццяў.

У такіх складаных справах, як стварэнне навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі, запазычанняў няма чаго баяцца, гэтага не магла абмінуць ні адна мова. Але пры кожным увядзенні новага слова трэба, як вучыў Якуб Колас, добра азірнуцца ва ўсе бакі, ці няма чаго падобнага дома. Вельмі надзённа было б

грунтоўнае высвятленне ўзаемаўплываў моў славянскіх і іншых народаў і беларускай.

Я прыгадваў некалі смешную рэч, як мы адмаўляемся ад пэўнай катэгорыі слоў, лічачы іх за польскія, а лінгвісты-палякі адхрышчваюцца ад іх, уважаючы за нашы (гл. артыкул «Пісьменнік і мова»).

Запазычанні з нямецкай *(ланцуг, швагер)*, французскай *(фатыга, амбарас)* — агульнавядомыя. Але ёсць яшчэ старэйшыя сваякі.

*Працую* па-грэчаску будзе *πρασσω*, пратаю, прыбіраю — *πραττω*. Дык ці не туды, у часы вялікага шляху «з варагаў у грэкі», узыходзіць гэта сваяцтва? А воўна, кажуць, слова, старэйшае за піраміды.

А як прасачыліся, адкуль узяліся англійскія словы? To rob — рабаваць, robber — рабаўнік, chiwer (сівер) — дрыжыкі, glume (глум) — шалупінне з зерня, the pipe (піпка) — люлька, glebe (гліб) — зямля, кавалак зямлі, schedule (цыдула) — распіска, спіс, squeal (сквіл) — віскат, крык тонкім голасам.

Пасля фашысцкай акупацыі — як-ніяк тры гады! — у мове засталіся сляды, прыжыліся слоўцы часцей у іранічным ужытку, з'явіліся макаранічныя вершы:

Война прыма, война гут —
Фраў нах дойчлянд, дзеўка тут.

І такія:

Варум ты ўчора не прыйшоў,
Іх цябе чакала,
Фатэр швайну закалоў,
Мутэр шнапс нагнала.

Успомнілася гэта *швайна* і нагадала размову двух хлопцаў на рынку:

— Адкуль у цябе яблыкі?

— З воза *нэмнуў*.

Вось як яно пачало спрагацца, гэта nehmen (браць)!

Самае дзіўнае, што, як выпадкам высветлілася пазней, гэта самае слова запісаў сабе ў слоўнік Насовіч. І растлумачыў: ад якога нямецкага дзеяслова паходзіць і значыць — красці, ціхенька браць.

Усё цікава, усё чакае дбайных рук!

*

Шляхі распаўсюджання слоў у свеце сапраўды дзівосныя.

Каля кафэ два падвяселеныя юнакі даволі бесцырымонна выскаляюцца.

— Гэй ты, дуду, сюды! — кідаюць амаль кожнай дзяўчыне.

Хто пасміхаецца, хто прыбаўляе кроку. А адна спынілася, агледзела задзірак і нязлосна, але важка прамовіла:

— От я табе як дудукну, дык і капытамі накрыешся!

І ў падмацаванне паказала моцны, знаёмы з фізічнай працаю, кулачок.

Многа пазней я выпадкам дазнаўся вось пра што. На Марцініцы падчас карнавалаў дзяўчаты завязваюць на розны манер *матрас* — тонкую і яркую хусцінку. Калі ўгару тырчыць адзін ражок — можна заляцацца; два паднятых ражкі — папярэджваюць: сцеражыся — ёсць сталы кавалер, а тры азначаюць, што дзяўчына — дуду (doudou), згодзіцца на ўсё.

Наўрад, каб тыя хлопцы ведалі гэта.

І вось *дуду* гучыць на мінскай вуліцы. Дзе Беларусь, а дзе тая Марцініка!

Там жа чорныя жанчыны часта звяртаюцца да еўрапейцаў: «Faites moi un enfant!» або «Giwe me white baby!» (Падаруй мне белага дзіцёнка).

Гэта клопат пра старасць. Белыя дзеці, вырасшы, болей зарабляюць і таму лепш дагледзяць маці.

Наогул жа шлюб са «святлейшымі» за сябе азначае — «падняць колер скуры» сям'і. Іначай не прымуць, не прызнаюць у мясцовым «свеце».

*

Новае і старое жывуць у мове поруч, прыслухаемся.

Бабкі ідуць у царкву:

— А якое свята?

— *Сымон Слупастаў*, выпі ды пастаў.

Шафёр расказвае, што ён *палабавозіўся* каля ма-

шыны. Як ёмка! Сапраўды, коўзаецца па зямлі, лобам пад пуза грузавіку, калі дзе ў дарозе няўпраўка.

На палявым стане кажуць пра брыгадзіра: «Пайшоў на скрут: ні дома, ні тут». Значыць, ціхенька збег, скруціўся некуды. Відаць, выпіць, бо ён *алкаголец.*

Вунь як перайначылася са свае прывычнай формы слова!

«Ладьі» таксама перарабілася на «лаўдьі» і нібыта стала беларускім. Не адчуваецца наватворам і выраз: дзеці *апуціліся* (сталі на сваю дарогу, пайшлі на свой хлеб). І ўжо зусім цудоўна прыдумалі на бразгатлівы і дрогкі міжраённы аўтобус — *драгунок!*

Гэта я ўзяў з адной толькі газетнай нататкі.

Мова ўсё чуе і занатоўвае. А мы ніяк не можам адрозніць, што *многокрасочный* па-нашему будзе — *шматфарбавы*, а слой фарбы (красочный слой) — *фарбяны.*

Вось — *сядзейка.* Як і адкуль прыйшло да мяне слова — дай, божа, памяці! *Сядзеў-сядзеў ды ўжо сядзейка надакучыла.* Тут гаворка пра сам працэс сядзення: чаканне цягніка, адбыванне кары. Гэта — першае значэнне.

А ёсць і другое. Гавораць два нарыхтоўшчыкі:

— Месяц сядзеў, ды каб хоць сядзейка людская была, а то гасцініца ў Лагойску.

Упадабалася, хоць і не перайшло дасюль у радок, слова *халадай.* Гэта бурка або халат, доўгая світка з дамотканага сукна, яшчэ не абношаная. Калі надзяваць такую адзежыну не на кажух, не прыстае да плячэй, стаіць калом, асабліва пабыўшы пад снегам ці пад дажджом. *Дзякуй табе, жоначка, такі халадай дала ў дарогу — ледзь-ледзь не адубеў.*

Калі бярэшся за верш, заўсёды спакушае слоўны матэрыял, адкуль можна зачэрпаць нечаканую рыфму, вынайсці момант слоўнай гульні, надаць радку звонкасць. Як добра рыфмуюцца *блазніца і блізніца!* Праўда, цяпер у гэтым кірунку накруцілі больш, чым трэба, перасягнулі 20-я гады. Адной хіба *наадваротнай рыфмы* не ўжывалі (*ток-кот, дар — рад*).

Яшчэ болей за асобныя ўдалыя словы грэюць прымаўкі, прымоўі, прыказкі. Многа іх не перайшло

ў літаратурны ўжытак, можа, і не пяройдзе. А для пісьменніка, для трансфармацыі іх у выразы іншага парадку — смешныя, кідкія, горкія — прастор вельмі вялікі.

Успамянём крыху, лепшых:

Пакіўнуўся з розуму.
Няма-няма, ды раптам і бразне.
Пазайздросціў селядцу, а ў яго гнілыя вочы.
Сядзібачка гола, такаво маё гора!
Абы была каваліха, а гэтага будзе ліха.

А чым слаўны бацькаў дом?
Не канём, а ездаком,
Не пітвом, а пітаком,
Не пражмом, а едаком.

Век — добры чалавек: п'ём — п'янеем,
Жывём — разумнеем.

Сісі па місе.
Хоць за казла, ды запаўзла.

Што за жоначка ў мяне,
Людцы залатыя:
Ветрам хату мяце,
Дажджом лыжкі мые.

Вось па вуліцы ідуць —
Лапці новыя,—
Паперадзе вашалоў
З вашаловаю.

— Стары, стары, сячы дровы! —
Стары расстагнаўся.
— Стары, стары, руш да бабы! —
Стары расківаўся.

У падпальшчыка цяню няма.
Не тужы па бабе, бог дзеўку дасць.
Пусці бабу ў рай, яна і карову за сабой павядзе.
І кіпнем паліваны, і агнём гартаваны.

Жыццё наша — бытаванка, як дзірка ад абаранка.
Бачыў бог работу, ды мазалёў не даў.
Сава на лазе, цень на вадзе, а надзея... нямаведама дзе.
Мала хто чаго не хоча! Каза не хоча на рынак ісці, а яе вядуць.

На прымаўкі можна распісаць усяго Сержпутоўскага. У яго запісах багата арганізаваных рытмам мясцін, і яны міжволі складаюцца ў страфы. Гэта я

і спрабаваў рабіць у 30-я гады, браў рытмізаваныя кавалкі з казак, на іх узор складаў, і вось як атрымлівалася:

А сустрэнеш маладую,
Вазьмі пасму залатую,
Залатую
Пасму тую
Я ў гармату заладую,
Каб не каялася міла,
Што ў дарогу блаславіла.

Лісце долу валіцца,
Вецер полю жаліцца,
Але не сціхай,
Цёмны гай,
Будзе ураджай
На ўвесь край.

Лёгка сэрцу вясною,
Дасветнай парою,
Калі жораў
Вятры адмыкае
З прастораў
І ляціць, чарнадзюбы,
Стараецца маю:
Скажа дубу,
І ліст вырастае.

*

Абы пачнеш гаворку пра мову — перад вачыма — Ляскоў! Мы дрэнна чыталі ці моцна забылі яго. Узрадаваліся, сустрэўшы ў З. Астапенкі радкі аб тым, як архірэй скача пад скрыпку. А ў Ляскова, не адно дзесяцігоддзе да гэтага, поп скакаў, ды як яшчэ! (т. 3. стар. 373).

Зараз мяне, для гэтага выпадку, больш за ўсё цікавіць з'едліва іранічная пабудова ляскоўскіх сказаў. Перакласці гэта немагчыма, таму пакідаю ў першаісным гучанні:

«Я скота губернатора не загонял».

«Я губернатором изруган скотом и подлецом».

«Грех воровать, да нельзя миновать», гэта, праўда, перакладаецца: «Грэх уварваць, ды шкада абмінаць».

«Камітэт для абмеркавання бескарыснасці некаторых таварystваў».

Ляскоў любіў парадыйную фразу і вунь як выдатна будаваў яе. Наша прыгожае пісьменства часамі смаліць усур'ёз, не прыкмячаючы, што ступае на небяспечную глебу пародыі.

Падмацуемся прыкладамі з тэатральных рэцэнзій:

«У пастаноўцы ёсць тры выразна акрэсленыя асаблівасці: рамантызм, лірызм і сатырычнасць, якія ўдала ўпрыгожваюць гэты сцэнічны твор».

«Гэты вобраз — эпізадычная фігура ў спектаклі, таму яго цяжка іграць. У ім небагата тэксту, але закладзена шмат каштоўнага зместу».

«У вобразе Ганны Уласаўны паказана шчырая любоў сялян да выдатнага чалавека».

«Творчая энергія, якая прынесена ў спектакль, не прапала дарэмна, а цалкам перайшла да гледачоў».

«Дыяна апранена ва ўборы, багатыя разнастайнай гамай».

«Музыка, у меладычнай тканіне якой ёсць інтанацыі паўнакроўнага аптымізму і выразныя ноты лірычнай паэзіі».

«Вобраз, які ўвасобіла на сцэне актрыса, больш абагулены, і ён выходзіць за межы дачкі Вероны».

«Сугучнасць Джульеты нашай эпосе вынікае з эмацыянальнага і філасофскага раскрыцця артысткай гуманістычнай тэмы трагедыі, як вызначана Шэкспірам: «Няма аповесці больш сумнае на свеце».

«Канва вобраза Каламбіны выткана з агульнавядомых балетных поз і рухаў».

«Звыш трох год беларускі народ у няспыннай барацьбе чакаў вызвалення».

Даволі!

Давядзецца зноў патурбаваць Пушкіна. Стан крытыкі,— пісаў ён,— сам па сабе паказвае ступень адукаванасці ўсяе літаратуры».

Няцяжка пераканацца і ў гэтым. Вось вытрымкі з апавяданняў:

«Бацька меў гарбарню для вырабу выключна сялянскіх скур».

«Хварэў ад тых ці іншых хвароб».

«Марылева хата». (Відаць, гаспадыня звалася не Марыля, а Марыль.)

«Даць шырокі адпор ініцыятыве».

«Адпусціў вусы і шчыра ўзяўся за работу».
З вершаў:

Вецер далонню песціў
Поўныя грудзі жыта.

У думках ён запаўняў
Прабелы жыцця сямейнага.

Ну акурат: «Мои объятья к твоим услугам», як напісаў нейкі Аляксей Кавалёў з Растова-на-Доне ў 1914 г.

Словы, прымаўкі, прыказкі — ці не для нас яны! Гэта не руда нават, а россып, парода, багатая на залацінкі. Але... знойдзеш залацінку, і што далей? Ад слова да твора — дыстанцыя невымерная! А пра ўзаемаадносіны кнігі і слоўніка зноў жа думаў Пушкін. Як ён паспяваў пра ўсё падумаць толькі!

...«Розум невычэрпны ў супастаўленні паняццяў, як мова невычэрпная ў спалучэнні слоў. Усе словы змяшчаюцца ў лексіконе, але кнігі, якія з'яўляюцца штохвіліны, не ёсць паўтарэнне лексікона».

Вось гэтак бы і рабіць: не паўтараючы слоўніка, але і не адкідаючы яго.

*

Когда расстался я с тобою,
А Настя тоже там была,
Промежду мною и оною
Нашлись возможные дела.
Недолго это продолжалось,
Мое схватило сердце жалость,
И вспомнил я о тайном браке,
Бежал, оставил Настю в мраке.

Гэта даўняя пародыя. А сёлета ў маскоўскім часопісе так і прачытаў: «оставил в мраке», можа, і «оною» сустрэнем.

Без граматычнае памылкі
Я рускай мовы не люблю...

Гэтае выслоўе — не лаз для непісьменных.

Вясёлыя памылкі Пушкіна дапамаглі мове вырвацца з палону архаістаў. За ўжыванне дыялектызмаў, за вольнае абыходжанне з канчаткамі ў

склонах, за перастаноўку націскаў, што рабіла слова мілагучным,— за ўсё гэта яшчэ многа-многа год паэту будзе кланяцца руская мова.

Як і наша — Купалу.

*

Некалькі год назад атрымаў запрашэнне прыняць удзел ва ўдакладненні правапісу. У якім кірунку, якія ў іх намеры — мовазнаўцы не напісалі, а прыслаць свае меркаванні патрабавалі праз дзесяць дзён.

Ці не занадта хутка для сур'ёзных намераў?

Не сказаць каб вельмі даўно, таксама чамусьці крыху паспешліва абмяркоўвалі праект змен у правапісе (1957 г.), і ў пісьменніцкім асяроддзі чуліся пярэчанні супраць яго недакладнасці.

Мова не церпіць паспешлівасці. Так думаецца цяпер, так думалася і тады, калі запісваў асобныя меркаванні наконт праекта ў дзённік, а можа, і выказваў, не ўспамяну толькі дзе.

Ці не паслаць іх у адказ на прапанову прыняць удзел у заходзе па ўдакладненні? Перачытаем тыя запісы з 1957 года.

Тое, што пішу, мала падобна да практычных заўваг, хутчэй гэта некаторыя трывогі і засцярогі.

Наколькі існуючая сістэма напісання ўстарэла ці сапраўды яна з'яўляецца тормазам у далейшым развіцці мовы і ўсёй нашай культуры? Так, асобныя правілы, якім падпарадкавана наша пісьмо, недакладныя і недасканалыя.

Але, ратуючыся ад адной недакладнасці, лёгка упасці ў другую, асабліва калі не ўсё ўзважыць, не ва ўсім разабрацца належным чынам.

Сапраўды, у 1933 годзе была зроблена спроба палепшыць правапіс. Не прайшло і чвэрці веку, як спатрэбілася новае палепшанне, але і яно бачыцца ўсім зноў-такі частковым, і хто ведае, магчыма, правапіс папросіць рамонту праз яшчэ меншы тэрмін.

Мова не церпіць паспешлівасці. Гэта каналізацыю можна рамантаваць па асобных калектарах і сектарах. Мова — жывы арганізм, яна вечна ў руху, у стварэнні новага, аднаўленні забытага, у вызваленні ад знежывелага. Кожны неасцярожны дотык парушае яе нармальнае развіццё і работу.

Упарадкаванне правапісу, нават частковае, паспрыяўшы ў пэўнай ступені развіццю мовы, выклікае чарговую ломку ў кнігах, асабліва ў падручніках, у галовах вучняў і настаўнікаў, дый перавучванне тых, хто выйшаў са школьнага веку.

Каб не плаціць за адно і тое, паводле прыказкі, лепей не сем, а сем разоў па сем адмераць і тады брацца за ножны.

Што пад гэтым разумеецца? За крыніцу літаратурнай мовы, кажуць нам, прынята так званая цэнтральная гаворка. Аднаго сцвярджэння, відавочна, не хапае. Патрэбна навуковая праца, дзе былі б вызначаны межы распаўсюджвання гэтай гаворкі, яе асноўныя асаблівасці, дзе таксама знайшлі б месца назіранні і вывады моваэнаўцаў, зробленыя пасля Карскага і Краёвага слоўніка Чэрвеньшчыны і Віцебшчыны.

Яшчэ сцвярджаюць, што на гаворцы гэтай вырасла мова Янкі Купалы і Якуба Коласа. Зноў жа хацелася б знайсці ў навуковым даследаванні пацвярджэнне, як гаворка ператварылася ў мову асновапаложнікаў беларускай літаратуры. Не менш важны для мэт граматыкі і правапісу навуковы разгляд тытанічнай работы над беларускім словам нашых класікаў, практыка сучасных нам паэтаў і празаікаў.

Толькі абапіраючыся на падобныя даследаванні, вызначэнне і абгрунтаванне тых ці іншых змен у правапісе стане на пэўны і надзейны шлях. Толькі поўнае веданне мовы дае поўнае права меркаваць, што павінна знайсці адлюстраванне ў граматычным правіле і на пісьме як найбольш жыццетрывалае.

Таму для паўнаты моўнай карціны патрэбны не адзін-два краёвых слоўнікі, а такая іх колькасць, каб можна было ўявіць рух і змены мовы ва ўсёй рэспубліцы.

Нарэшце, каб ведаць, што адкуль вынікае, чаму

пішацца і вымаўляецца так, а не інакш, як растлумачыць тую ці іншую моўную з'яву, час падумаць аб шырокім вывучэнні і даследаванні гісторыі нашай мовы.

Можна сказаць: гэта зойме дзесяткі гадоў? Так, не меней. Пэўна, не ўсім нам давядзецца завяршаць працу, але распачынаць яе трэба сур'ёзна, усебакова ўзброенымі, каб не ікаць на могілках ад няветлых прыгадак лінгвістаў-наступнікаў.

Яшчэ Ламаносаў ведаў немэтазгоднасць існавання васьмерычнага і дзесяцірычнага *i*, але ён меркаваў, што з рознага выгляду літарамі лягчэй чытаць — у вачах не мільгаецца. Аднак, рускай граматыцы ўдалося пазбавіцца ад непатрэбнай літары (дзесяцірычнага *i*) толькі ў савецкі час. Перашкодай быў, вядома, і навуковы кансерватызм, але ў большай меры асцярожнасць у абыходжанні з мовай.

З выхадам «Правил русской орфографии и пунктуации» (1956 г.) можна бачыць, наколькі нязначныя змены ўнесены ў рускі правапіс за 40 гадоў развіцця мовы ў новым грамадстве. Пры гэтым, запісана там выключна тое, што папярэдне апраўдала сябе ва ўжыванні і з'яўляецца бясспрэчным.

Група слоў, народжаных рэвалюцыйнай эпохай (савет, бальшавік, рэвалюцыя), у 1933 годзе не была падпарадкавана нашаму напісанню. Такі крок даў магчымасць рабіць самыя непажаданыя высновы, і ад яго адмовіліся ў новым праекце.

У той самы час знік і мяккі знак, так званы рэдуцыраваны галосны, пасля прыстаўачнага *з* перад мяккімі галоснымі і ў падваеннях тыпу *льл*, *ньн* і г. д. Акадэмік Карскі называе падваенне тыпова беларускай з'явай, тлумачачы, як яна атрымалася: «падвойны (або ўзмоцнены) мяккі зычны — галосны».

Руская мова захоўвае мяккі знак і ў словах, якія даўно вымаўляюцца цвёрда (карьер, вьюн). Тым часам мы пачалі стаўляць апостраф нават там, дзе слова аж крычыць, вылузваючыся з-пад гэтага знака (з'ява, з'есці, з'едлівы і шмат іншых).

Страціўся знак памякчэння ў словах тыпу *снег*, *зверху*, *святло*, сталі пісаць *каханне*, *водгулле* і, на жаль, пачалі вымаўляць, як напісана — цвёрда.

Такім чынам, мова, будучы пазбаўлена адной з рыс своеасаблівасці і спецыфічнасці, многа прайграла ў мілагучнасці, а гэты фактар, як ужо гаварылася, мае значэнне не маленькае.

Казалі: мы прывыклі да мяккага вымаўлення падвойных, ведаем, як што вымаўляць і без мяккага знака. А новыя пакаленні людзей, адкуль ім будзе дазнацца пра вымаўленне, калі не адзначыць яго адпаведным чынам графічна?

Навучыцца правільна вымаўляць падвойныя зычныя — дакладней будзе называць іх — доўгія, справа цяжкая. Глядзіце: кароткі зычны цвёрды — *волас*, доўгі зычны мяккі — *валоссе.* Вось і спрабуйце ўтлумачыць вучням, што *ссе* трэба вымаўляць мякка — *сьсе!*

Гаварылі і так: мы пішам доўгія зычныя цвёрда, але вымаўляем усё ж іх мякка. Нібыта прырода надзяліла беларусаў нейкім выключным галасавым апаратам, які сам, аўтаматычна, рэагуе правільна, незалежна ад таго, што і як напісана.

Напісанне, сцвярджаюць моваэнаўцы, робіць моцны ўплыў на вымаўленне, даводзіць гэтага не трэба. Значыць, не будучы адзначана графічна, памякчэнне з часам непазбежна пачне ацвярдзявацць, што павядзе да непажаданых разбежак паміж мовай жывой і літаратурнай.

Супраць мяккага знака ў свой час высоўваліся доказы, так сказаць, эканамічнага парадку: нібыта пры ўжыванні гэтай літары ў падваеннях замест 10 друкаваных аркушаў атрымліваецца 11, значыць, марна пераводзіцца цэлы аркуш паперы. Пачаў прыкідваць следам і я. Вынікі далёка не тыя: на ўвесь гадавы план мастацкай літаратуры 1957 г., надрукаваны з мяккім знакам, прыпадала не больш за паўтара аркушы лішняга.

Значыць, перавыдатак паперы зусім нязначны, прыкладна такі, як пры перакладзе з англійскай на рускую ці з рускай на беларускую мову. Гэта ж не ўтрымлівае нас ад узбагачэння культур праз пераклады.

Не лічачыся з перавыдаткам паперы, палякі для напісання зычнага *шч* трымаюць у алфавіце аж ча-

тыры літары (szcz). Відаць, гэта гістарычная неабходнасць ці жаданне знайсці найлепшую замену.

Не трэба спяшацца нармалізаваць тое, што не вымагаецца канечнай неабходнасцю. Запішам, тады трэба выконваць, а яно нясмачна.

Вось, руска-беларускі слоўнік запісаў, зусім не ў якасці нормы два словы: *змяненне* і *вяртанне*, прыдатныя як тэрміны ў выключных выпадках. Аднак абгэтыя нязграды амаль зусім выціснулі добрыя, абвыклыя словы *змена* і *зварот*. Спрабуй адстойваць іх, калі ў слоўніку ёсць іншыя!

Цяпер *Дз, Ц* або *Д, Т* у імёнах уласных і *Э, Е* у пачатку іншамоўных слоў пішуцца ў залежнасці ад агульнапрынятага ў беларускай мове літаратурнага вымаўлення. На мой дылетанцкі погляд, запісваць правіла можна, вывеўшы яго з існуючай ці вынайдзенай заканамернасці, а не паводле такой няпэўнай рэчы, як вымаўленне, хоць бы сабе і літаратурнае.

Правапіс складаных слоў занадта складаны. Як іх пазнаваць, тыя складаныя словы з асноўным націскам на першым і не на першым складзе апошняй часткі! Значыць, вучань спачатку павінен разбіць слова на дзве часткі, потым устанавіць, дзе націск,— тады толькі пішы!

Асаблівага клопату ў праекце правапісу складаных слоў задаюць заўвагі: іх цэлых пяць, што, па сутнасці, сведчыць аб вялікай колькасці выключэнняў з правіл.

З усім гэтым можна было б пагадзіцца, калі б мы збіраліся рашаць рэбусы, а не выказваць думкі на пісьме.

Прасцей трэба і даступней!

А вось перанос крыкам крычыць, патрабуючы рэформы, даўно час спрасціць гэту аперацыю. Ці не пара дазволіць перарываць слова там, дзе гэта вымагаецца друкам ці пісаннем? Узоры ёсць, напрыклад, у польскай мове.

Руская мова пакрысе вызваляецца ад суфіксаў *ір, ірэн* (пастеризовать, нормализовать і інш.), неўласцівых ёй, варта задумацца пра гэта і нам.

Выходзіць, што ўдакладняць правапіс трэба стала

і надоўга. Прыбудзе сілы, прыбавіцца вопыту, назбіраецца назіранняў над высілкамі самой мовы — тады ў дарогу!

Што ж, відаць, няма патрэбы адмаўляцца ад гэтых напісаных некалі старонак, хоць у іх за плячыма больш за два дзесяткі гадоў і відавочна патыхае палемічны запал.

Па-першае, сёе-тое ўдалося ўгадаць: менш чым праз два дзесяцігоддзі спатрэбілася зноў калі не рэформа, дык пэўнае ўдакладненне. Другое — меў падставу і заклік — не спяшацца з вывадамі, не маючы належнага навуковага грунту. Зараз, як гаварылася напачатку, ёсць даследаванні датычна сярэднебеларускіх гаворак (тады іх называлі — цэнтральныя), іх ролі ва ўтварэнні агульнанароднай літаратурнай мовы, акадэмічная граматыка, гістарычная граматыка і многія работы, на якія можна смела абапірацца.

Рад быў сустрэць падтрыманне гэтым сваім думкам у главы нашага мовазнаўства К. К. Крапівы. Ён зазначае, што «...праз пэўны (вельмі некароткі час) ствараецца неадпаведнасць паміж жывой агульнанароднай мовай і яе правапіснымі, а то і граматычнымі нормамі», і далей, што «...замест таго каб зрабіць людзей больш пісьменнымі, частыя рэформы могуць зрабіць іх непісьменнымі» (Зб. тв., Мн., 1976, т. 5, стар. 223).

Дык сапраўды, ці не пераслаць гэтыя накіды мовазнаўцам і параіць яшчэ раз: не будзем спяшацца з удакладненнямі, панаглядаем яшчэ крыху.

Мова ні на момант не спыняецца ў руху, увесь час, ад вуснаў у вусны, сама паляпшае сябе, адкідае лішняе, стварае патрэбнае ёй у новых умовах жыцця і працоўных адносін. Застаецца — у часе прыкмячаць змены і разумець заканамернасці, паводле якіх гэта адбываецца, і растлумачваць іх.

Механічна апусціць мяккі знак у падваенні, значыць — адлюстраваць з'яву, якая не існуе ў вымаўленні, і не прасунуцца наперад у напісанні. Гаматна і нязручна пісаць *ньн, льл, сьс*, можна следам за мяккім знакам адкінуць і адзін з падвоеных зычных. Той, што застаўся, узброіць адмысловым знакам,

якi б адначасова азначаў i памякчэнне i падваенне. Можна гукі *дз, дж, шч* таксама перадаваць адной літарай.

Гэта, вядома, не прапанова, а накірунак думкі: у садружнасці вучоных з мастакамі могуць быць знойдзены і патрэбныя абгрунтаванні і графічныя знакі. Неабходнасць у фіксацыі памякчэння больш чым надзённая: тыя самыя словы *з'ява* і *ссе* не вымаўляюцца, як напісана, і мова будзе змушана рабіць нешта сама, магчыма, рассоўваць зычныя галосным *(сасе)*.

Правапіс канчаткаў, асабліва *а, я* і *у, ю*, і правілы пераносу зараз распрацаваны з такою звышпатрэбнай шырынёю, што маглі б стаць асобнымі дысцыплінамі ў школьных праграмах. Аднак і пры гэтай умове наўрад ці вучні аўладаюць цалкам прамудрасцю адрозніваць катэгорыі слоў, якім дазволена ў пэўным склоне прымаць канчатак *у, ю* або *а, я*. Катэгорый такіх зараз у правапісе занадта шмат, межы паміж імі не заўсёды пэўныя.

Далей. Чаму мы абавязаны ў месным склоне пісаць *і, у, ю*, адказваючы на пытанне — аб кім, аб чым *(Шабуні, Гогалю, Гайдару)*. Беларуская мова найчасцей у месным склоне адказвае на пытанне пра *каго, што*. Тады канчаткі адпаведна змяняюцца на *ю, а, я (Шабуню, Гогаля, Гайдара)*.

Найчасцей адказвае — выраз ужыты не выпадкова. У чатырох публікацыях: К. Крапівы («Брама неўміручасці»), П. Броўкі («Донька-Даніэль»), Я. Брыля («Вітражы»), М. Лобана («Любіць слова — любіць жыццё») праф. Ф. Янкоўскі адзначае «каля 260 словазлучэнняў з *пра* і толькі 14 з *аб*» («Настаўніцкая газета», 1974, № 19). Памеры і задачы маіх нататак не дазваляюць падмацавацца прыкладамі з Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, іх вельмі шмат.

Ніхто не збіраецца абвяшчаць па-за межамі ўжывання *аб*. Няма сэнсу адмаўляцца ад яго, калі гэтага вымагае мілагучнасць (не напішаш і не вымавіш, скажам, пра праразанне) або часамі ў афіцыйнай перапісцы і нават у мастацкім творы.

Такім чынам, зафіксаваныя мовай і літаратурай факты проста з лічнікаў не скінеш.

Мусіць, тут я выйшаў на мяжу палемікі. Пачынаць яе — не мая задача, я звяртаю ўвагу на тыя ці іншыя з'явы. Дый паўтару яшчэ раз: пісьменнік не мовазнаўца, а толькі знаўца мовы.

Сапраўды, пісьменнік ведае мову іначай. Ён адчувае ёмістасць, змястоўнасць слова, дарэчнасць ужывання яго ў тым ці іншым выпадку і, вядома ж, мілагучнасць. Таму ў літаратуры жыве заўсёдная рупасць пра знешняе хараство слова, яго форму, таму пісьменнік заўсёды дбае пра напісанне, робіць гэта часам з адступленнем ад граматычных нормаў, што ў далейшым улічваецца ці не ўлічваецца граматыстамі. «Аўтараў, што зусім не адступаюць ад нормы, вядома, не існуе, яны былі б нясцерпна нудныя» — гэта казаў Л. Шчэрба!

Не так даўно пачуў ушчунак («Полымя», 1975, № 6, стар. 251): больш чым хто іншы маю прыхільнасць па-свойму скланяць парадкавыя лічэбнікі, займеннікі жаночага роду. Ужо даводзілася тлумачыць вышэй, што, скланяючы іначай, практычна не адрозніш, у якім склоне ўжыты, скажам, займеннік *тваёй* — у родным, давальным ці ў творным.

Жывая мова не страціла і не думае траціць індывідуальных канчаткаў для розных склонаў: *твае* сястры няма дома — родны склон; *тваёй* сястры аддам пазыку дома — давальны; з *тваёю* сястрою сустрэнемся дома — творны.

Не хочацца прыгадваць несмяротны запавет: «Не ўсё стрыжы, што расце». Бялінскі наказваў не мову раўняць па граматыцы, а граматыку па мове.

Дарэчы, у «Граматыцы беларускай мовы» (стар. 180—181) я не вычытаў, што скарочаныя формы *(ай, ёй)* з'яўляюцца нормай. У такім выпадку ўсю нашу класіку і практыку пісьменнікаў-сучаснікаў П. Броўкі, К. Крапівы, М. Танка і многіх іншых давялося б лічыць суцэльным адступленнем ад нормы. Прыклады — на выдавоку, разгарніце любы том любога з названых пісьменнікаў.

Таксама даводзілася гаварыць, што займеннік *нейчы*, перададзены на пісьме без *й* — *нечы*, набывае падвойны сэнс, бо скланяецца аднолькава з *нешта*. Калі мы гаворым *нейчым*, гэта азначае *чыімсьці* (Я акрыўся нейчым шынялём), *нечым* жа значыць

*чымсьці* (Мяне нечым ударылі). Няўжо ж гэта адценне не па ўзбраенні мовазнаўцаў!

Паводле арфаграфічнага слоўніка, дапускаецца два націскі, неабя́кі і неабыякí. Тым часам перанос націску абуджае ў слове іншае значэнне: неабыя́кі (неабыякавы) — нераўнадушны, а неабыякí — адмысловы, выключны, адборны.

Асобнае напісанне часціны *не*, як вядома, выклікае адваротны сэнс у выразах. Тое ж і з прыназоўнікам *на: вам на памяць* — адно, а *вывучыў напамяць* — нешта іншае. Чаму ж бы не ўлічыць гэта?

У тым самым слоўніку ў якасці прыкладаў прыводзяцца выразы *«не з чаго»* і *«не за шта»*, хоць беларуская мова часцей ужывае: *няма з чаго* (смяяцца) і *няма за што* (дзякаваць).

Якія б ні існавалі правілы, рука не падымаецца напісаць *Герцэн* ці *рэзеда*, хто і як можа давесці, што гэтыя словы не асвоены мовай? Таксама супрацьнатуральна пісаць *сержант*, але *яфрэйтар*, *камандзір*, але *дывізія*, *тыгр*, але *цік* (дрэва, teak, англ.; тканіна, tijk, гал.; хвароба, tic, фр.).

А *фае*, *Гоя* і чамусьці *Нью-Йорк?*

А *Пабла Нэруда* і *Пабло Пікасо?*

А *Іакагама* і *Іярданія?*

Да чаго гэта ўсё гаворыцца? Каб, нарэшце, вызваліцца ад разнабою, нарobленага ўсімі ўдакладненнямі і палепшаннямі.

*

Калі верыць старажытным, самы мудры той, хто даў імёны рэчам, гэта значыць, галоўны і адзіны моватворца і мовазнаўца — народ.

Мова — скарб народа, і народ зацікаўлены, каб яна была ёмістая, гнуткая ў рабоце, прыдатная для выражэння думкі, колеру, паху, сутнасці з'явы, накіраванняў часу, памкненняў чалавека. І да таго ж: лёгкая для ўспрымання і звонкая ў гучанні.

Будзем помніць гэта і з асцярогай асэнсоўваць магчымасці мовы, перш чым прычыніцца да яе працэсаў або што-небудзь парушыць у іх.

К. Крапіва высмеяў гора-мовазнаўцаў, «якія не маглі дачакацца, каб хутчэй ім загаварыць на сусветнай мове. Адны прапанавалі меры штучнага набліжэння беларускай мовы да рускай, у тым ліку і ў галіне граматыкі. Зразумела, што гэта не мае нічога агульнага з марксізмам. Такія гора-мовазнаўцы не разумеюць сутнасці нацыянальнай палітыкі партыі...» (Зб. тв., т. 5, стар. 159—160).

Мова — наша любасць і рупасць, пісьменніцкі матэрыял і зброя, паводле Якуба Коласа.

Часта пытаюць: на якой мове пісаць? Што ж тут пытаць — на той, на якой думаеш, якую лічыш для сябе роднай. Іначай табе не будуць даступны адценні, глыбіня мовы, не знадворнае, стылістычнае ўладанне, а веданне патомнае, што перадаецца з пакалення ў пакаленне. Часам адно трапна ўжытае слова асвятляе чалавека, героя, а то і ўвесь твор робіць больш павабным. Гэта тое купалаўскае зерне, «чыстае, як вока», «ядзяць вас мухі з камарамі» ў Коласа, шматлікія знаходкі Кузьмы Чорнага.

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» — падзея, і не малой вагі. Праўда, пакуль што — першы том, але тыраж — зайздросны для такіх выданняў. Гэта адно дазваляе меркаваць, якая рупасць аб родным слове жыве ў грамадстве.

Значная колькасць кваліфікаваных людзей прылажыла рукі да слоўніка, без гэтага было б не перавярнуць такую гару работы, адно складанне картатэкі ды выбарка прыкладаў чаго каштуюць.

Як паведамляе рэдкалегія, слоўнік: 1) «...абагульняе вопыт папярэдняй як айчыннай, так і зарубежнай слоўнікавай культур і ў той жа час з'яўляецца выданнем глыбока сучасным...»; 2) «..з'яўляецца нарматыўным філалагічным даведнікам сучаснай беларускай мовы...»; 3) «...актуальным даведнікам для самых шырокіх колаў грамадства...»

Вядома, рэдкалегія, знаёмая з працай ва ўсім аб'ёме, можа сабе дазволіць такія яе характарыстыкі, спадзяёмся, час дапаможа і нам далучыцца да іх. Зараз узнікае пытанне: якім чынам слоўнік можа абагуліць вопыт беларускай слоўнікавай культуры, калі ў ім не ўлічаны слоўнікі Насовіча, Гарэцкага, краёвыя слоўнікі Чэрвеньшчыны, Віцебшчыны, Ма-

гілёўшчыны, шматлікія пасляваенныя выданні такога тыпу? А ёсць жа і фальклорныя зборнікі Сержпутоўскага, Раманава, Шэйна і яшчэ і яшчэ іншыя. У Слоўніку гэтыя крыніцы не паказаны (хоць многія апублікаваны ў 20-м стагоддзі), дзе-нідзе прамільгне спасылка на прыказку (не сказаўшы ад каго, кім і калі чута) ці на газету.

Адказу на пытанне не трэба, здаецца, далёка шукаць: слоўнік падагульняе здабыткі літаратурнай мовы. А яна адкуль бярэцца? Дзе ж яшчэ пачуеш першаіснае гучанне і значэнне слова, найбольш дарэчнае, трапнае, часам нечаканае ужыванне яго, як не ў мове народнай? Тым часам пералічаныя вышэй слоўнікі і зборнікі, дый нават і зусім нядаўнія выданні універсітэтаў і інстытутаў, сталі ўнікальнымі, а захадаў да перавыдання, скажам, таго ж Насовіча не відаць і не чуваць. Такім парадкам агромныя скарбы мовы засталіся па-за межамі карыстання тых, каму найболей патрэбны,— пісьменнікаў, філолагаў, літаратуразнаўцаў.

А хто ведае, ці не замянілі б адзін-два прыклады з выдатнага казачніка Рэдкага цэлых слупкоў набраных петытам «Крыніц Слоўніка», у тым ліку і маіх работ! Кажу не ў крыўду сабе і другім: разважаючы гістарычна, за паўстагоддзе мова ў адборы і шліфаванні лексікі і фразеалогіі паспела зрабіць хіба што ўсяго адзін заход. У яе яшчэ багата турботы і здабывальнай і апрацоўчай. Не ўсё тое, на чым пішуцца кнігі і брашуры, можа называцца мовай дый яшчэ літаратурнай і замацоўвацца ў якасці нормаў. Ёсць адхіленні: калькіраванне, некрытычны перанос слоў з іншых моваў, штампаванне выразаў не на ўласцівы мове ўзор, скажэнні праз няведанне народнага словаўжывання. Таму зусім правамерна гучыць самакрытычная заўвага рэдакцыі аб ілюстраванні значэнняў цытатамі не з найлепшых. Ёсць яны, і на відавоку. А спасылкі на газету — без аўтара і часу — не заўсёды пераконваюць. У друку гэта сустракалася («Беларуская мова», 5, Мн., 1978, стар. 86), было падлічана, што ў трылогіі «На ростанях» Я. Колас ужыў 957 поўных канчаткаў творнага склону, а вячэрняя газета не аскароміласа і разу такім грэхам у сваім нумары. Як ні дзіўна, чытач цягнецца больш

за Коласам, хоць бы тут і пераконвалі не нумарам, а гадавым камплектам газеты.

Тое-сёе ў маіх заўвагах з выхадам Слоўніка можна скасаваць. І ўсё ж я не выракаюся іх. Чытачы «Литгазеты» (1978, № 16) пішуць: «Ці не пара яшчэ раз падумаць пра ўпарадкаванне арфаграфіі?» А Л. Успенскі і зараз у цікавым і дасціпным артыкуле (1978, № 17) сцвярджае: «Норма — не догма».

Шкада, што нашы пісьменнікі, прызнаныя майстры слова, апошнім часам амаль не дзеляцца думкамі пра далейшае развіццё мовы, назіраннямі за працэсамі ў ёй, сваёю практыкай.

Усім вядомы страсныя адносіны да роднага слова, глыбокі клопат пра яго ў Л. Ляонава, А. Югава, Л. Успенскага, без іх удзелу не мысліцца нават найдрабнейшы дотык да жывога моўнага арганізма.

Калі гутаркі пра мову, па ўзору маскоўскіх часопісаў і радыё, пойдуць і ў нас шырэй, часцей, больш зацікаўлена, ад гэтага выйграюць усе — навука, літаратура, народ.

Нам усім трэба працаваць лепш не дзеля выключнасці свае мовы і нацыі, а ў імя іх развіцця для стварэння неўміручых каштоўнасцей, дастойных пайсці на агульнае ўзбагачэнне народаў пры далейшым іх збліжэнні, гэта ж дасягаецца з поўным росквітам нацыянальных культур. Так і запісана ў Праграме нашай партыі.

*1973, 1976*

## РОЗДУМЫ ПЕРАД МАЛАДЫМІ

### КРЫХУ САМАКРЫТЫКІ

Вялікая група нашых маладых празаікаў і паэтаў была запрошана ў Маскву. Людской работы паглядзець і свае не ўтаіць, як гаварылі калісьці, паслухаць добрае рады і зычлівага ўшчунку, тады смялей глядзіцца навокала і цвярдзей ідзецца па зямлі. І выйшла ўсё як найлепш: памеркавалі хораша пра зробленае, і ў друку было чутно, значыць, стала вядома не толькі тым, хто гаварыў і хто слухаў.

А ці будзем праз гэта пляскаць самі сабе ў ладкі: вось як удала падгадавалі сваіх зменшчыкаў? Праўду сказаўшы, ніхто з нас тут асабліва не вінават: самі маладыя пацягнулі, здольнасцю, працавітасцю выйшлі на святло, пачулі тое, чаго заслугоўвалі.

Зрэшты, папрок пра скупаватае наша шчыраванне і ўвагу да маладзейшых таварышаў мог бы прыняць на аднаго сябе, хоць толькі зараз, з газетнай інфармацыі, даведаўся, што ўваходжу ў склад камісіі па рабоце з маладымі. А калі так, дык ці ўся камісія не дужа завіхалася, ці магла не клікаць на дапамогу, патрэбы ў парадзе не надарылася.

Гэта — не ў крыўду ці асуджэнне, будзем лічыць сказанае за жарт.

Творчыя справаздачы ў Маскве сталі традыцыйнымі, у добрым сэнсе гэтага слова, але ўсё роўна, сталы ты майстар ці зялёны пачатковец, хвалявання не абмінеш: паездка ў сталіцу, асяродак усяго творчага клопату краіны, патрабуе асаблівай сабранасці. Ведаю гэта з уласнай практыкі — па з'ездах, нарадах, дэкадах,— і самому даводзілася знаёміць сяброў-масквічоў з нашымі маладымі паэтамі, разам выступаць, прымаць належную і неналежную хвалу, і як вядзецца ў гасцінных гаспадароў, даволі прыстойныя пачастункі.

Семінары, агляды, выезды— усё гэта скіравана на выяўленне людзей, здольных працаваць у літаратуры. У карыснасці нічому не адмовіш: закінулі чарговы

невадок, і, глядзіш, праз год-два на прылаўку блісне свежая кніжачка.

Палохае тут крыху адно — некаторая парадпасць: сумнаватыя даклады, халаднаватыя сустрэчы з больш спрактыкаванымі людзьмі. Усё гэта, хочаш не хочаш, збіваецца часам на павучанні: не выклікае абмену думкамі, нават запытанняў да ўмелага майстра не пачуеш. Магчыма, бяда ў абыякавай арганізацыі — творчае пачынанне сыходзіць на ўзровень «мерапрыемства», выкананне пэўнай пазіцыі загадзя зацверджанага плана.

Адсюль і абавязковы, але ў меру павярхоўны падыход да асноўнага — да разгляду работ, не будзем пакуль што называць іх творамі. Тут найчасцей выстаўляюцца адзнакі па пяцібальнай сістэме.

Даводзілася выступаць у такіх выпадках і дакладчыкам, і дарадчыкам, і носьбітам пэўнага вопыту. Найбольш цікавыя сустрэчы атрымліваліся, калі хтонебудзь з «семінарыстаў» цішком даваў у рукі сшытак і прасіўся перагаварыць сам-насам. Гаворка толькі са сшыткам і аловачкам, без лішніх вушэй, без непатрэбнай асцярогі казаць праўду — можа, крыху жарсткаваты, але, на маю думку, адзіны спосаб выявіць, наколькі глыбокая ў чалавека патрэба працаваць словам і ці ёсць яна сапраўды, такая патрэба.

Тое, што гаварыў некалі перад слухачамі і зараз выводжу на паперу, не насіла і не носіць характару рэцэптаў, бяспрэчных, прыдатных на кожны выпадак парад. Гэта — хутчэй за ўсё меркаванні, што і як бы я рабіў, каб зараз пачынаў пісаць, і якім чынам паводжуся перад пачаткам новай работы.

Магчыма, тут знойдзецца тое-сёе нялішняе для агульнага нашага клопату пра людзей, якія спрабуюць стаць на шлях, дзе можна чакаць уцешнага, але не ўцячэш ад засмучэнняў і няўдач.

## АДКАЗНАСЦЬ ЗА СЯБЕ І ЗА СЛОВА

Што ж перад усім трэба браць з сабою, выпраўляючыся ў дарогу да літаратуры? Гэта не жарт: «з цэлым народам гутарку весці, сэрца мільёнаў падслу-

хаць біцця» (Я. Купала). На жаль, шмат хто рвецца хутчэй переступіць парогі газет і часопісаў, не дбаючы пра суровы абавязак адказваць за ўсё, што мае зрабіць, і галоўнае — без цвёрдай пэўнасці, што літаратура — ужо ж не забаўка, не здабыванне больш-менш гучнага поспеху, а часам і заработкаў. На літаратуру не скажаш — асноўны занятак, яна нават не мэта жыцця, а само жыццё! Цяжкае, без аздоб і адзнак, у імя якога трэба шмат чаго выракацца, дый цярпець часамі нястачы, пакуль выведзеш твор у людзі, або нараканні, калі цябе не гэтак, як хацеў і думаў, убачылі і зразумелі ці не хочуць убачыць і зразумець.

Думаецца, сустрэча майстра з пачаткоўцам павінна пачынацца з высвятлення і канчацца ўсведамленнем, што паэзія патрабуе «не чыткі слоў акцёра ў ролі, а каб ён гінуў сапраўды».

Гатоў ты да гэтага ці не гатоў?

Адзін паэт, што пачынаў у дваццатых гадах, расказваў: «Я ўзяўся за вершы, бо хацеў здавацца паэтам. Гэта было модна. Потым прывык і стаў лічыць, што і сапраўды паэт». Прызнанне цяжкае і павучальнае: не ўнутраная патрэба вымагала звароту да слова, а вабіў вонкавы бок справы: друк, воплескі, увага. Але тут умяшаўся лёс, ці як гэта сказаць, і даў таму чалавеку паэтычную біяграфію. А з яе, цяжкай і ўжо сапраўднай, выраслі вершы, якія маюць права дыхаць.

Ці не завялікая цана: за нейкі радок — аддавай жыццё. Дык вось каму задорага, хай не марудзіць: хай ідзе ў кар'еру, у скупку паўторнай сыравіны, у які хоча безахвярны хлеб.

Гавару не жартуючы, а прыслухоўвацца не ўсім хочацца. І людзі, не адужаўшы душою, хінуцца на сцежкі тых, што зарабілі такую-сякую славутасць і збіраюць бляшаныя кветкі пашаны!

«А чым я горшы?» — пытаецца сам сябе такі малады чалавек і піша. Бо сапраўды, чым ён горшы за некаторых вершаскладальнікаў: і радок касабокі, і сэрца ў ім ані, а вось жа друкуюць!

Ніяк нельга ўтлумачыць некаторым: непрыдатнасць да іншых прафесій не азначае, што ты маеш права брацца за пяро.

У рэдакцыі прыходзяць лісты: «Мяне выпусцілі з вар'яцкай бальніцы і не прызначаюць загадчыкам сельмага, таму я вырашыў аддаць усе свае разумовыя здольнасці літаратуры. Пасылаю 10 вершаў, напісаў за адну ноч. Друкуйце, правіць дазваляю».

Або жаляцца на малыя выдавецкія магчымасці — дрэнныя заработкі, няма чым дзяцей карміць. А хто сказаў, што харчы трэба канечне здабываць з літаратуры, а не з нарыхтоўкі сенажу?

Адкінем выпадкі адзіночныя, яны гучаць анекдатычна. Цяжэй, калі чалавек лічыць за прызванне простую набітасць рукі, якая дазваляе без намаганняў зарыфмаваць пару лозунгаў і такім чынам «адгукнуцца» на сур'ёзную патрэбу грамадства, хоць яна не стала ўнутранай патрэбай аўтара.

Лёгкасць уладання формай, нават прасцей — лёгкасць, з якою пяро перасоўваецца па паперы, заўсёды насцярожвае. Нездарма Аляксандр Блок прытрымаў за руку сябе аднойчы, вырашыў — не трэба пісаць вершаў, занадта ўжо добра ўмее гэта рабіць.

Цяжка дагаворваць тое, чаго не даказаў сам паэт, але думаецца — меў ён на ўвазе менавіта набітасць рукі, робленыя халодныя радкі, не вырасшыя з глыбіні істоты.

Тут зноў на відавок выходзяць першакрыніцы, што даюць жыццё твору: чалавецкая біяграфія, паўната і шырыня духоўных інтарэсаў асобы.

Біяграфія пісьменніка — менш за ўсё весткі, калі нарадзіўся і скончыў дзесяць класаў, гэта — дзе быў, што ўбачыў, што рабіў, што ўмееш. Зразумела, ні падарожніцтва, ні мноства ўбачанага, ні ўмельства саўладаць са складанай работай нічога не заважаць самі па сабе без мастацкага асмыслення, без здольнасці ператвараць жыццёвыя набыткі ў мастацкія вобразы. Набыццё шырокай біяграфіі — спосаб «сэрца мільёнаў падслухаць біцця», што ўжо і дае права «з цэлым народам гутарку весці», паводле купалаўскай формулы.

В. Я. Брусаў сваім жыццёвым подзвігам імкнуўся давесці, што кожнага добра граматнага можна навучыць пісаць. І ў пэўнай меры даводзіў. Па той простай прычыне, што ў выхаванцы ягонага інстытута, у першы набор, прыйшлі людзі з нялёгка здабытай

біяграфіяй: у грамадзянскую, у чонаўскіх атрадах, у Чырвонай Арміі, у пераадоленні цяжкасцей станаўлення нашага ладу. Спашлюся на першыя, што ўспамянуліся, прозвішчы: Уладзімір Дубоўка і Сцяпан Злобін. Прыйшлі па навуку майстэрства, ужо сфармаваўшыся як асобы, з акрэсленым жаданнем гаварыць за сябе і за паплечнікаў, за свой час, але не маючы ніякіх падстаў, апрача здольнасці. А гэта якраз і вырашыла ўсё, школа, умельства — прыдаліся.

Возьмем бліжэйшую крыху пару. Біяграфію майму пакаленню рабіў час. Не апісваючы падзей, толькі назаву тыя, што давялося бачыць: падзел зямлі ў 1917-м, Днепрабуд і Асінбуд, арганізацыя калгасаў, першая пяцігодка, першы айчынны трактар і аўтамабіль, першы самалёт і палёт у Амерыку без пасадкі, ракеты, спадарожнік, чалавек у космасе, беларуская нафта, соль, граніт. А вайна? Яна адна напісала біяграфію мільёнаў, праўда, часамі і абрывала, не дапісаўшы.

Усе тыя велічэзныя падзеі, а кожнай з іх паасобку зусім даволі, каб да астатку запоўніць істоту і кіраваць угору думку і дух чалавека, усе яны прыпалі не толькі на маю долю, кажу так, маючы на ўвазе ўсіх літаратурных і не літаратурных равеснікаў. Частку падзей трэба раздзяліць з пісьменнікамі сярэдняга пакалення і яшчэ малодшымі.

У Міхаіла Луконіна і Аляксея Недагонава біяграфіі таксама напісаны вайной. І яны разгарнуліся ў вельмі прыкметныя паэтычныя з'явы. Або ў нас. Прыйшлі з вайны Анатоль Вялюгін і Аляксей Русецкі. На нейкім з пісьменніцкіх сходаў адзін прачытаў баладу пра ўральскі танк, а другі — сціслыя, ёмістыя чатырохрадкоўі. Тут жа стала зразумела — паэты! І абодвух, не сыходзячы з месца, прынялі ў Саюз пісьменнікаў насупар статуту — без кніжак. І тыя вершы іх, як і Міколы Аўрамчыка, жывуць поруч з пазнейшымі тварэннямі іхняга таленту, больш сталымі і дасканалымі. Жывуць, бо ў іх закладзена сваё непаўторнае, вырасшае з цярплівага дасведчання ўласнага сэрца.

І даўным-даўно сышлі з памяці хвалёныя, але недаспеленыя ў цеплыні пачуцця аднадзёнкі, хоць і

трактавалі яны нібыта важныя праблемы, адгукаліся нібыта на актуальныя заклікі ў той жа час.

Хто-небудзь адмыслова вучыў названых зараз паэтаў? Не. Па сутнасці, акрамя вайны і жыцця, ніхто не вучыў, хоць і яны былі ўдзельнікамі нарад і семінараў пачаткоўцаў.

Няма, думаецца, больш важнага і высакароднага абавязку ў майстроў літаратуры, як дапамагчы стаць на ногі новаму таленту. Скіраваць яго ўвагу на здабыванне біяграфіі, на ўваход у тое асяроддзе працы розуму і рук, дзе растуць ідэі і здзяйсненні сучаснасці, якім суджана апладняць творчыя намеры.

Магчымасцей духоўна забагацець не толькі не паменшала, калі параўноўваць з не так далёкім мінулым, а прыбавілася. І калі глядзець на сягоння ўкаханым у яго вокам, дык вакол будзённых, здавалася б, спраў гэтага сягоння ўзвеецца арэол рамантыкі, такі самы, як і вакол незабыўнага штурму Зімняга ці подзвігу Мікалая Гастэлы.

Радасна чуць, што маладыя паэты і пісьменнікі станавіліся на некаторы час у цэхі, плавалі матросамі на караблях, хадзілі на пошукі нафты з геолагамі.

Цяпер менавіта так — не ў баях ваенных, а ў працоўных — можна ўзбагаціць сябе пранікненнем у духоўны свет рабочага, калгасніка, інтэлігента. Невялічкае апавяданне, дзе па-сапраўднаму чутны штодзённы клопат, каханне, смуткі ці ўцехі сённяшняга настаўніка, бліжэй і цяплей аграваюць чытача, чым кілаграмовай вагі тамы, у якіх замест людзей пастаўлены нашпігаваныя загадзя зададзеным зместам схемы, хоць у пінжаках і сукенках, але пазбаўленыя духоўнага вопыту чалавека і яго жывой мовы. Не ведаю, як каму, а мне лягчэй пагадзіцца са звычайным спісваннем з навакольнага, тут знойдуцца, можа, і не дужа багатыя, але ўсё ж адзнакі часу і падабенства чалавечых абліччаў — хаваем жа мы на памяць фатаграфічныя адбіткі.

І ўсё ж — хочацца большага!

Сустрэчы з тым, на што можна сказаць — твор мастацтва.

Што ж гэта?

Акно: у чалавека, у прыроду, у час. У пазнанне і пазнаванне людзей у сабе і сябе ў людзях.

Асветлены прагалак: ва ўзнікненне ідэй і думак, сустрэч і знаёмстваў, у працоўныя заняткі, у бушаванне пачуццяў, не канечне толькі павабных, а наогул усіх — у істоце ж людской многа чаго вядзецца і творыцца, высвятляецца яшчэ.

Няходжаная дарога: у неадкрытыя прасторы часу, учарашняга, сённяшняга, заўтрашняга, у неадчутыя дасюль подых і абдымкі прыроды, у не ўбачаныя яшчэ яе адменнасці.

Сустрэнецца такое акно, удасца пастаяць пры ім, падзівішся на такі прагалак, ступіш на такую дарогу — глядзіш, надоўга памацнеў, намнога пабагацеў у развазе і ў кроку.

Здараецца чуць, нібыта дасягаецца мастацкае адзінства гарманічнай дазіроўкай дзеяння і перажывання, натавання знадворнага выгляду героя і яго разважанняў, апісанняў прыроды і руху натоўпу. Слоў няма, прыгожае абумоўлена гармоніяй. І як ні сіляцца давесці адваротнае розная поўсці мадэрністы ад пяра і пэндзля, сіметрыя і гармонія і вухам не вядуць. І чалавек ад заляпанай дзёгцем і ўтыканай цвікамі мешкавіны пад іменем «Вясна» спяшаецца, скажам, да палатна «Гракі прыляцелі» — хоць трохі дыхнуць вясны.

Выказваюцца ў тым сэнсе, каб не называць эстэтыку навукай аб прыгожым, бо прыгожае, як быццам, толькі адзін раздзел мастацтва, а трэба ахапіць усё: і прыгожае і пачварнае. Ёсць рацыя! Тады і вершаваныя вырабы прыхільнікаў такога погляду могуць трапіць пад вока эстэтыкі.

Але не ў гэтым справа. І ўжо ж не дазіроўкай кампанентаў у роўных прапорцыях абавязаны мы асалодзе ад мастацтва літаратуры. Гэтаму пярэчаць Дастаеўскі — згусткамі перажыванняў, Тургенеў — шчодрым апісаннем прыроды, Ганчароў — партрэтным жывапісам, Хемінгуэй — прыцэлам на падтэкст і дыялог.

Майстэрства пейзажу — менш за ўсё ўмельства намаляваць словам сасну ці паводку. Найчасцей апісаннямі з'яў прыроды карыстаюцца як сродкам перадаць настрой чалавека. І ўсё ж як лёгка і хораша робіцца, калі разгорнеш кнігу і адтуль махне галінамі белы зімовы лес, сыпанецца за каўнер снегу з-пад

крыла ўспуджанай птушкі, ні з таго ні з сяго хрусне сучок сярод глыбокага баравога маўчання.

Ты ўжо забыўся, што чытаеш, ужо не кніга вядзе цябе, а ходзіш сам па ранішніх узлессях, глядзіш прасвежанымі, памаладзелымі вачыма на белы свет, сочыш, хаця б не мінулася што без увагі. І дыхаеш марозным паветрам. Дыхаеш не надыхаешся...

Не меней можа адчуцца і ў апісанні паводкі. Жывей і ўзрушлівей як быццам здаецца такі малюнак яе, калі стыхія дыхае небяспекай для чалавека ці жывога стварэння. Над чорнай бязодніцай, паміж ледзяных пpоламак, па пeратрушчаным на кавалкі, ненадзейным лёдзе цераз раку бегма перахватваецца хлапчук. Або круціць крыга якую-небудзь бесклапотную казу, а тая сабе едзе, жуе сваю жвайку і хоць бы мэкнула са страху. А табе, чытаючы, і холадна і боязна.

Але ж можна яшчэ і так напісаць. Грымяць, напіраюць адна на адну тоўстыя крыгі, становяцца дубка, б'юцца з грукатам аб маставіны, а халодная плынь паветра, нібыта яшчэ адна рака, плыве ўгары над гэтай і астуджае дрэвы, дамы, поле, уцягваючы іх у паводку. Ды шум пакрысе сунімаецца і аціхае, крыгі ідуць раўней, і толькі лёгкі звон стаіць на ўзбярэжжы, быццам дзесьці далёка і вельмі далікатна шклянка датыкаецца да шклянкі: крыгі слухаюць жаўранка і ціхенька пазвоньваюць самі.

Раптам усё пачынаецца спачатку: яшчэ зласней і пранізлівей скрыгоча і ломіцца лёд, разбіваецца на іглаcтыя драбы, і яны штурхаюцца паміж сабою, расціхаючы слабейшых і зусім выпіхаючы іх на берагі: рака ўжо не змяшчаецца ў ручве. Растае снег на полі і ў лесе, бягуць не збягуцца адна перад адною ручаіны, каламуцячы, высока падымаючы раку над яе звычайнымі ўлоннямі.

Што, хіба, прачытаўшы такое, не робіцца вусцішна і светла?

Дык, мусіць, многа залежыць ад вачэй, якія ўзяў ты ў дарогу, у якія глядзеў на свет. Вочы — люстра душы, казалі некалі. Можа, і праўда: як убачыў настроеным на душэўны лад вокам, так і напісаў, адлюстраваў і адлюстраваўся сам у адлюстраваным. Інакшай не здолееш, хіба што зменіцца ў цябе духоўная настроенасць. Тады, вядома, іншыя стануць вочы.

Праўда, бачанне — рэч вельмі далікатная, асабістая. Аднойчы я позна ноччу вяртаўся з-за горада. На доўгім і шырокім праспекце фары выхапілі са змрочнай залевы чалавечыя постаці. Людзі як людзі, беглі, угнуўшыся пад дажджом, а здаліся наўздзіў падобнымі да чалавечкаў, якіх складаюць з запалак дзеці. Адна запалка — галава і шыя, дзве — упоперак яе — рукі, адна — удоўж — тулава, і дзве, расстаўленыя ў бакі,— ногі.

Падабенства ёсць, але, каб даўявіць чалавека, трэба ўспрыманне, настроенае на хвалю дзіцячага бачання.

Дзеці малююць, як бачаць. Відаць, не варта асуджаць і тых дарослых, хто піша і малюе, па-дзіцячы бачачы людзей і з'явы.

## СВАЕ ВОЧЫ

Калі добра раздумацца — бачыць рэчы па-свойму ўласціва амаль кожнаму, толькі ў якой меры, вось у чым справа.

Дзесяць сведак злачынства пры апытванні надзеляць злачынцу іншым адзеннем, ростам, абліччам, хоць і бачылі яго ўсе ў тым самым месцы і ў той самы час. Паводле слоў адных гэта высокая, другіх — сярэдняга росту, трэціх — нізкая асоба адпаведна ў чорным, сінім, шэрым паліто. Месца злачынства зноў жа абмалююць неаднолькава: тратуар, рышток, сярэдзіна вуліцы. Нават час, калі ўсё адбылося, можа вар'іравацца ад раніцы да вячорнага сутоння.

Адсюль зусім не вынікае, што апытаныя нешта блытаюць ці дамалёўваюць уяўленнем. Яны расказваюць столькі, колькі ўбачылі, дакладней — колькі былі здольны ўбачыць, і менавіта так, як здалося воку. Ступень асветленасці вуліцы — сонца схавалася за хмару — дазваляла сцвярджаць, што менавіта тады быў вечар, а не дзень. Адлегласць, з якой глядзелася, паказала адменны колер вопраткі, памяняла яго з чорнага на сіні. Нарэшце, шпаркасць хады ўцекача дазволіла меркаваць датычна росту: пры шырокім паспешлівым кроку чалавек выглядае ніжэйшым, чым

пры павольным і дробным,— змяняецца нахіл пастаці да сцежкі або вуліцы.

Не пакінем без увагі і асаблівасцей зрокавага апарату. Трэба браць папраўку на акуляры, узрост вачэй, хуткасць рэакцыі на ўбачанае і здольнасць захоўваць гэта ўбачанае больш-менш працяглы тэрмін у нязменным выглядзе.

Вось колькі ўсяго-ўсякага спадарожнічае працэсу ўспрымання навакольнага. І ўсё ж, відаць, трэба ўлічыць яшчэ душэўны стан вольнага ці нявольнага назіральніка. Спяшаецца ён на работу ці павольна пахаджае ў выхадны, паглыблен у развагі ці дапускае ў істоту гутаркі пешаходаў, трамвайны званок, смех дзіцяці, расхвалёван няўдачай, грубасцю ці ўсцешан мілай усмешкай, удалым заканчэннем справы — усё гэта падказвае вачам, што ім убачыцца ў тым ці іншым выпадку.

Аднак тут няма яшчэ бачання па-свойму як здольнасці выключнай і непаўторнай. Гаворка ідзе пра індывідуальныя рысы характару. Усе мы, нават не стараючыся, не падобны да сваіх калег ці знаёмых, трымаемся свае звычкі працаваць, гаварыць, выбіраць рэчы для дому.

Пры навальным наступе моды, скажам, насіць пінжакі з высокімі плячыма ці шырокімі штрыфлямі ўсё ж выбіраюць колер тканіны пад густ, асаблівым вузлам завязваецца гальштук, на стандартныя джынсы, дзе-небудзь у найбольш даступным для агляду месцы, нашываецца кветачка, пляшка, конь!

Бястварае канцылярскае патрабаванне на дошкі або шыфер будзе па-рознаму напісана і абгрунтавана, выйшаўшы з-пад рукі розных людзей, хоць яны і супрацоўнікі адной установы, працуюць за састаўленымі ўсутыч сталамі, ходзяць заўсёды абедаць разам у адно і тое ж кафэ.

Гэта ўсё — зародкавыя моманты выяўлення творчага пачатку, мацней пазначаныя ў дзецях і большменш прыглушаныя ў дарослых, імкненне сцвярджаць сябе як асобу, з чаго ў пэўных выпадках і вырастае асоба, індывідуальнасць мастака.

Калі такія назіранні сабраць і абагуліць, дык няцяжка зразумець тых, што меркавалі, нібыта навучыць пісаць можна кожнага, хто б ні пажадаў.

Але ж знайдзіся сярод сведак злачынства, з якога мы пачалі, чалавек з сапраўдным, прафесійна развітым і абвостраным мастацкім зрокам, ён убачыў бы, напэўна, больш і дакладней за ўсіх іх разам, а галоўнае — выхапіў бы самае характэрнае ў здарэнні, па чым можна было б пазнаць і адшукаць злачынцу.

Для мастака бачанне — патрэба, наталенне заўсёднай прагі ўвабраць у сябе як мага больш з шырокай і поўнай ракі жыцця, аднак ён не пагрэбуе і ледзь прыкметнай яго ручаінай. Задаволіў гэту прагу, значыць, сам стаў поўны, каб дарыць, не ашчаджаючы ў будучых работах, вяртаць узятае, але зусім ператворанае, стаўшае новымі вобразамі, адкуль чуваць ужо моц парывання і дзеяння чалавечага.

Напэўна, падобным чынам разважалася шмат каму, і ў маіх выказваннях пачынаюць абзываццa прапісі. Але даходзіў я да ўсяго гэтага сваім гарбом і хачу працягнуць размову, пашукаць розніцы і сувязей паміж бачаннем абвыклым і мастацкім, густам побыту і творчасці.

...Сядзелі на адкрытай верандзе кафэ ў Варшаве. Стомленыя доўгімі пераездамі, поўныя ўражанняў ад краіны і сустрэч, маўчалі, глядзелі. Горад плыў у надвечар, скончыўшы дзённыя турботы, людзі не рваліся навыперадкі: хоць на паўкроку, хоць на паўхвіліны ды хутчэй некуды паспець. Вулічная патока заставалася патокай, але ўжо суцішанай, усмешлівай, лагоднай, дзе можна павольна пасоўвацца і разглядацца, раячыся з сябрам, як знайсці спосаб і месца адпачыць, весялей прабавіць час.

Людская гамана ў гэту перадначную пару ўсё часцей перасільвала роўны аднастайны шум пацішэлага горада, зліты з мноства водгаласаў руху: шасцення аўтамабільных колаў, падкоту цягнікоў, паварочвання і пагрукванне механізмаў на будоўлях, шорхання падэшваў і падэшавак на тратуарах.

Найбольш ішло жанчын, і не трэба было лішне прыглядацца — сама кідалася ў вочы выразная адменнасць у кожнае. Не з паставы ці круглейшых і вышэйшых рэльефаў, звычайных для жаночае постаці. Гараджанкі былі адменныя ў нечым няўлоўным і ў

той жа час настолькі выразным, каб вылучацца ў натоўпе.

Высветлілася, хоць і не адразу, што для гэтага спатрэбіўся не так і вялікі заход.

Зачоска, можа нават і не ўся цалкам, а адна нейкая пасма, прыплоеная ці распушаная свабодна, вызначала выгляд твару — задуменны, журлівы, какетлівы. Падоўжанае непрыкметнай рысай брыво паглыбляла вочы ці адценьвала іх бляск, а дотык належнага колеру памадкі ператвараў вусны ў вішнёвае сэрца ці ружаваты чаўначок.

Якая-небудзь каляровая анучка — шалік, гальштучак, касынка — была падабрана так, каб пасаваць толькі да гэтай і ніякай іншай галоўкі і шыі.

А смелы крой блюзачкі або спадніцы з тканіны, здавалася б, занадта простага гатунку і расфарбоўкі, рабіў павабнай, паказваў, як хацелася кабеце, усю яе постаць.

Як толькі вока выкрыла гэтыя маленькія сакрэты і хітрыкі, стала відавочнай неабвержная і неад'емная вартасць іхніх носьбітак — добры густ. Разуменне, што з дараваных прыродаю набыткаў пакінуць у цяньку, а што падкрэсліць, хай будзе яшчэ лепей відно.

Тут быў сапраўды творчы падыход да сябе, адносіны да ўласнай асобы як да мастацкага твора, хоць, вядома, не ўсе варшавянкі пісьменніцы або мастачкі. І ў парыжанак быццам бы — чута, але не бачана — ёсць такая самая схільнасць.

Прыклад з жаночымі ўборамі быў у падмацаванне сказанага вышэй.

Калі без добрага густу цяжка абысціся ў побыце, тым больш прыдаецца гэта якасць у кожным творчым пачынанні. Без густу людскіх раманаў і паэм не напішаш, развіваць яго цяжка і марудна. Але што зробіш, канечне трэба мець у руках магчымасць, каб дазнавацца, «што такое добра, што такое блага», як гаварыў Маякоўскі. Вось і шукаеш духоўнага яднання з тымі, хто ўмеў дасягаць дасканаласці. А яны, аддаючы незлічоныя скарбы душы, што называецца, направа і налева без разбору ўсім, не адразу расшчодрацца перад просьбітам, як бы ні намагаўся ты стаць на нейкі момант саўдзельнікам тварэння. Не ў тым,

вядома, сэнсе, каб убіцца ў сааўтары, на гэта не адважыцца ніякі рэжысёр кіно, а ўсяго крыху адчуць, калі ж — не, дык хоць з-пад павека зірнуць, уявіць запал вялікага, пакуль ён у бяссоннай лютасці адбівае лішнія кавалкі мармуру з «Давіда» ці дзесяты раз перакрэслівае старонкі з «Вайны і міру». Тут вялікія, паўтару, не схільны раскідацца, давядзецца і папахаджваць следам і з шапкай папастойваць пад дзвярыма. А можа, і падкінуць што, прыкмеціўшы ў табе здольны розум і руку. Тады хіба дазволяць дакрануцца да разумення, чаму рабілі так, а не іначай, глядзелі на тое, а не на гэта, прымалі адно, так жа рашуча адкідаючы другое, нічым, здавалася б, не горшае.

Так мы пазнаём кіпенне або застойванне часу, калі яны жылі, бачым людзей, каго яны любілі ці ненавідзелі, удыхаем пах вугалля, на якім варылі небагатую сваю страву, і па гэтым па ўсім узнаўляем незабыўны воблік творцы. Суддзі і абаронцы свае эпохі, разбуральніка і сцвярджальніка яе, гордага самотніка, што грэбуе ласкай каралёў з іх шыкоўнымі банкетамі, і бесклапотнага ахвотніка пасядзець сярод бадзяг і бяздомнікаў за непустою пляшкай ва ўскраіннай карчомцы.

Потым усё гэта, не выключаючы пошуму ветру і прабегу сонечнага промня, удыхаецца ў твор, дзе першаю асобай, з каго растуць усе астатнія, будзе ён сам — адзіны і шматтвары.

І дасюль кожны пісьменнік піша герояў на свой капыл. Яны абавязкова падобны да тых, з кім ён пасвіў коні ці авечкі, хто задзіраў яму на плечы кашулю, заспеўшы ў ігрушах, каго ён пацалаваў першы раз, ад каго навучыўся літар ці заслухаўся песні.

Гэта невынішчальна. І зразумела, калі ўспамянуць пра згадваны ўжо зародкавы момант творчасці, закладзены ў кожным чалавеку, чым ён і адрозніваецца ад знаёмых, сваякоў, супрацоўнікаў. Не проста выконвае абавязкі інжынера-будаўніка, а хварэе душою за кожны лесвічны марш, хоча, каб жылося тут лепш, прытульней, абавязкова дакладае ў агульнае долю свайго, асабістага.

Востра выказваецца творчы момант у дзяцей. Яны здольны бачыць у адной і той жа лялькі маму, суседку і сяброўку, насяляць цёмны куток пакоя хмызня-

ком з ласямі і вожыкамі, а назаўтра пераносіць у гэта самае месца бераг Чорнага мора і дэльфінаў. Беручыся за аловак і паперу, дзеці найчасцей абмяжоўваюцца часткай замест цэлага: малююць не ўсю сенажаць, а купіну з кветкай, разяўленая дзюба з грэбенем наверсе абазначае пеўня, а кружок з вушкамі і вусамі — мыш або ката. Рэшта дамалёўваецца ўяўленнем. І другія дзеці лёгка спраўляюцца з гэтым, разумеюць усё, тады як дарослыя дзядзі і цёці патрабуюць тлумачэнняў, чым і выклікаюць шчырае здзіўленне аўтараў.

Зусім яшчэ хлапчукамі, надумаліся мы з таварышам абысці наўкруга гарадок, дзе пачыналі навуку. Вельмі ж цікава было паглядзець, як ён выглядае поначы, накласці агню на беразе Случы і, калі ўдасца, злавіць з пару плотачак.

У суботу, адразу па абедзе, выправіліся. Ішлося лёгка і ахвотна, пакуль не змеркла. Расталі ў змроку таямнічыя манастырскія муры, на якія мы ўсё азіраліся, каб ведаць, ці далёка адышліся. Стала боязна, але мы праставалі далей, трымаючыся сцежкі, што вілася ўздоўж берага.

Раптам зайшоўся ў брэху сабака, ударыла некалькі стрэлаў, асабліва гучных у цішыні вераснёвай ночы. Няйначай, некага лавілі ці нехта бараніўся. Такі ўжо быў час — грамадзянская!

Мы прыпусціліся бегчы, і беглі без душы спачатку некуды ўгару, падбіваючыся, босыя, на вострай жарстве, пасля — уніз, асклізаліся ў балацяныя затончыкі, ногі рэзала асака, аплеталі сцябліны ўчэпістай вадзяное травы. Выбіўшыся зноў на сушэйшае, сталі і, пэўна, не скрануліся б, каб хто страляў не дзесьці там, далёка, а тут, пры самых плячах. Усярэдзіне ў нас калацілася не менш як па дзесяць сэрцаў — у каленях, у пальцах і ў вушах,— і ўсе яны білі так моцна, што здавалася, учуе тая невядомая пагоня са стралянінай, прыскочыць сюды і схопіць...

Ні ісці, ні варочацца!

Вярнуцца-то мы вярнуліся б, дарма, што заўтра будуць выскаляцца — і на чорта было расказваць хлопцам пра гэты паход. Каб адно ведаць, куды па-

даваццa! Сопалаху мы пабеглі, абы ўцячы, не разбіраючы, у каторы бок, і цяпер не маглі здагадацца, дзе апынуліся, як адсюль кіравацца пад свой дом. Да таго ж заленаваўся і не свяціў месяц, мала дапамагалі і зоры, было іх скупавата, толькі ў прагалах неба паміж хмарамі.

Задыханыя, мы рушылі навослеп, пільнаваліся толькі выгінастай ракі: каля яе быў горад, гэта ведалі цвёрда. Адхілішся — і трапіш у поле, а там, чаго добрага, да раніцы і ў сваю вёску датупаць можна — вось будзе смеху з вандроўнічкаў!

Смачна пахлі антонаўкі, і гэта супакойвала: па гэты і па той бок рэчкі цягнуліся вялікія сады з неабабранымі яшчэ яблыкамі. Значыць, не даём кругу нямаведама куды!

Мы проста прабіваліся праз той яблычны пах, як бы расхіналі яго рукамі і плылі, а ён вісеў, густы, як туман, і быў асабліва моцны, настояўшыся ў восеньскім халадку. Непрыкметна з пахучага змроку выплыла і перагарадзіла дарогу дашчаная агароджа. Мы наткнуліся на яе і адразу ж намацалі дзверцы: ага, тут, пэўна, ходзяць браць ваду на агарод. Рызыкнуць зайсці? І адтуль жа смела могуць стрэліць: пільнуе чалавек саду, так і смальне з ламанкі, учуўшы крок. Хай сабе і не шротам, па яблычных злодзеях калі і стралялі, дык буйною соллю, але ўсё роўна папаенчыш, пакуль вычухаецца.

Тым часам дзверцы рыпнулі і адчыніліся, нехта з нас, відаць, залішне націснуў плечуком. У твар дыхнула цеплынёю перагрэтага камення, запахла распараным венікам. Нас прыняла пустая прыхатняя лазенька. Знайшлі вобмацкам палок, і не паспелі сесці, як прыдрамалі. Колькі было таго заечага сну, невядома, а прахапіліся ад таго, што над галавою нешта груканула. Па-ранейшаму закалацілася сэрца, адарвалася і пераскочыла ў лыткі. Мы намерыліся шуснуць у дзверы, а зверху загрукатала зноў: на дашок нашага прытулку зляцеў абцяжаны спелым сокам яблык.

Пачынала днець. Ухапіўшы некалькі падалак, мы падаліся ўздоўж задніх двароў, па навозах, як казалі ў нашай вёсцы. Пазнаць, дзе мы, у якой частцы горада, усё яшчэ не маглі: туман не разыходзіўся. Але на ранішнім відне, са смялейшай душою, можна было не

спяшацца: нядзеля, урокаў няма, як-небудзь ды выб'емся на больш-менш знаёмую вуліцу.

Наперадзе з недалёкага агарода, быццам загадваючы спыніцца, махнула рукою нейкая дзіўная постаць. Мы паўгіналіся і залеглі ў разоры. Насупраць, на гурочнай градзе, з'явілася Бэсціха, удава Фэлькісталяра, першая на ўвесь прыгарад самагоншчыца, вельмі галасна́я жанчына, рашучая на крок і не скупая на брыдкае слова. Цяпер яна чамусьці не рухалася і, галоўнае, маўчала, не бэсціла нас за парушэнне мяжы яе ўладанняў.

Перабароўшы першы пярэпалах, мы сталі цікаваць, як лепей уцячы ад гвалту, каб не чуць сарамачення за нячэпаныя гуркі, бо, што ты да іх не дакранаўся, не давядзеш, усё роўна будзе крычаць: а чаго вы па градах поўзалі! Але ж Бэсціха і не думала ні даганяць нас, ні разяўляць рот, стаяла на адным месцы ў картовым, ад вялікай вагі праношаным на грудзях жакеціку і ўсё памахвала як быццам нежывымі рукамі ў нібыта пуставатых рукавах. Нас чакала жахлівае адкрыццё: у Бэсціхі не было галавы, толькі старая хустка, завязаная вакол навітага на тычку жмута саломы.

Пудзіла!

Не высмеяўшыся як след пасля гэтай сустрэчы, мы натрапілі на яшчэ мудрэйшае. Непадалёку ад участка самагоншчыцы стаяла прысадзістая постаць у камізэльцы на кашулю з косым каўняром. Рыхт у рыхт сальнік Казя Трыгубовіч, каму належаў агарод, выйшаў пратрэсціся і пасля ўчарашняга прасвяжыць галаву першаком вырабу свае суседкі. Толькі наша вока ўжо ўгадвала пад трантамі сальнікавага ўбрання тычку і напханы нечым мех.

Мы аж клаліся з рогату.

На сядзібе поруч матлялася вырудзелая брызентавая накідка — яе ўсе ці раз бачылі на плячах у колішнягаляснога купца з гучным прозвішчам Валянрод, а крыху далей, у садзе пастара Курнатоўскага, маячыла нешта нейкае ў сутане і цвёрдым стаўбунаватым капелюшы.

Смяяцца-то мы смяяліся, але ў той жа час былі на мяжы веры, нібыта гэта сапраўды лясны здабытчык пахаджае, чакаючы фурмана, каб ехаць на далё-

кую пільню, а божы слуга тэпае на ранішнюю імшу ў свой кальвінскі касцёл.

Цяпер ужо спаў цяжар няведання, як дастацца на сваю вучнёўскую кватэру. Ад вераб'інага страху ў палапленых на каленях портках, што выставіў кравец Юзя, акурат такі мужчынскі майстар, як пазней вычытаны ў Тувіма «ён жа — мадам і ніцоўка», да нашага дома было хвілін з дваццаць хлапечай хады подбегам.

Мы зрабілі са свае знаходкі вясёлую гульню. Прыводзілі ў тыя мясціны другіх хлопцаў, папярэдне завязаўшы вочы, каб не ведалі, куды прыйшлі: «А ну, пазнавайце, чыё пудала?» І нашы таварышы беспамылкова пазнавалі.

Няхай у гэтых адгадках многа важыла знаёмае, ужо бачанае на людзях адзенне. Але ж Бэсціха, сальнік, кравец мімаволі надалі сваім агародным намеснікам зайздроснае падабенства да саміх сябе. Ніяк не скажаш, быццам яны дзейнічалі свядома — дзе гэта знойдзеш ахвотніка выстаўляць на смех уласную асобу!

Не, відаць, абазвалася прыглушанае гадамі і дарослым клопатам дзіцячае прагненне — тварыць сабе падобных, дамалёўваць нястачу вугла ў доме ці ног у натоўпе нястрымным уяўленнем.

Падобныя да сябе пудзілы выстаўлялі амаль усе ў гарадку: кажушнікі, рымары, шарстабіты, тое рамесніцтва, што пісалася мяшчанамі, не дацягваючы купецкага ці службовага стану. У іхнім майстраванні нявінных пострахаў для птушкі выходзіла напаверх многа чаго. Адзнакі прафесіі — сутулавасць у вечна сагнутага краўца і шаўцоў, улюбёныя звычкі, скажам, выстаўляць наперад плячо ці жывот, і, хоць рэдка, тое-сёе з нацыянальных рыс і густаў,— на татарскіх агародах постаці былі заўсёды каржакавацейшыя і ярчэй апранутыя.

Ды не толькі ў гэтых, бяссонных працаўнікоў горада, было так. Тое самае праразалася ў куды больш заможных асоб, саборнага бацюшкі ці гарадскога рэзніка. Яны не самі стараліся наконт абароны сваіх агародаў, напэўна, загадвалі рабіць гэта дворнікам і служанкам. А тыя, хоць і не дзейнічалі на ўзор прыдворных жывапісцаў, не сіліліся падгадзіць падхаро-

шаным партрэтам святлейшаму заказчыку, мімаволі ці наадварот, з жаданнем чым-небудзь адпомсціцца, кпліва пераносілі гаспадарскія рысы на пудзілы.

Магчыма, можна было б знайсці і лепшыя, менш белетрызаваныя прыклады, але і гэтыя, здаецца, у асноўным адпавядаюць задачы і даводзяць думку: бачанне сваімі вачыма і тварэнне на свой узор, уласцівыя ў пэўнай меры кожнаму чалавеку, для пісьменнікаператвараюцца ў катэгорыю абавязковага. А таму ці не пачынаць змалку, пакуль гэта цудоўная здольнасць не разгубілася на жыццёвых дарогах, ці не тады пачынаць развіваць і выхоўваць уяўленне. Можа б, і прыбавілася ў народу рук, здольных на оперы, карціны, раманы.

## МАЙСТЭРСТВА І НЕМАЙСТЭРСТВА

Вада з часам змяняе шчыльнасць, вязкасць, электраправоднасць. Гэта адкрыццё нашых савецкіх вучоных. Колькі новых якасцей адкрыла ў душы чалавека наша літаратура? На жаль, за новай, ультрасучаснай фразеалогіяй далёка не заўсёды чуецца выхаваная новым светам і новым ладам духоўная арганізацыя героя. Замяні ягоны камбінезон на гарнітур для верхавое язды, рассунь цэхавыя сцены — і перад табою паўстане банальны вобраз абібока-паўпанка, якіх нам удосыць пакінула літаратурнае варыва і печыва на пачатку стагоддзя.

Адсюль і хапанне некаторых за так званыя вечныя тэмы — каханне, дружба, смерць. Як быццам жыві зараз Шэкспір, ён не напісаў бы іначай свайго «Гамлета»!

Адвярнуцца ад сучаснасці і пісаць, арыентуючыся на тое, нібыта гены ў чалавека не падлягаюць ніякім зменам, а ўсё такія ж, як і тысячу гадоў назад?

Не пагаджаюся, крыўдна. Дый уцячы са свайго часу кудысьці за хмары мінулага ці будучага проста не ўдасца.

«Жыць у грамадстве і быць вольным ад грамадства нельга»,— Ленін давёў гэту праўду яшчэ ў гады першай рускай рэвалюцыі. Вольна ці міжвольна, далучыўся ці сам дайшоў да гэтай думкі такі светлы талент, як Блок, загаварыўшы пра несвабоднасць мастака ад веку. А ўсякія спробы ўцячы ў вежу са слановай косці ад грамадства і тым самым ад сябе як асобы ва ўзаемаадносінах з часам канчаліся марна, раскрываючыся наастатку як з'явы сацыяльнага быцця на пэўным гістарычным прамежку.

Духоўная незапоўненасць аўтараў клонатам сучасніка прыводзіць да вельмі не густой прозы і яшчэ радзейшых вершаў. Дробязнасць думкі і мізэрнасць пачуцця сіляцца прыхаваць пад манернасцю выражэння, уяўнай мнагазначнасцю, што часам збываецца ў друк пад выглядам філасафічнасці і нават наймяноўваецца філасофіяй.

Усе такія замахі выкрываюцца пры першым жа сутыкненні з чытацкім вокам. «І гэта ўсё?» — і якінебудзь вершаваны зборнік адкладаецца ўбок. А што ж мне сказалі? Што я знайшоў, пра што дазнаўся, чым быў усхваляваны?

Сапраўдны верш — заўсёды жывы арганізм. Актыўны крывезварот — першая адзнака, што верш жыве. Такая ўмова не вызваляе ад недахопаў. У кожным творы, як і ў чалавечым арганізме, можа здарыцца сардэчная недастатковасць. А жывы верш ці не, чуваць адразу, як, скажам, калі вы намацаеце пульс: і са старонкі ідзе выпраменьванне цеплыні, чаргуюцца рытмічныя ўдары сэрца. Не стаю за дакладнасць параўнання, але штосьці падобнае адчуваю пры сустрэчы з сапраўды паэтычным радком, мяркую — адчуваю не толькі я.

Нармальны крывезварот у вершы не павінен парушацца, калі аўтару па маладосці хочацца зрабіць фармальнае сальта або прайсціся на руках у сэнсе асаблівай вышуканасці радка ці вобраза. Праўда, можа некалькі прыспешыцца пульс, ад гэтых практыкаванняў каб не было шкоды гімнасту.

Перш чым завязаць пояс, трэба надзець порткі, ці не Тувім сказаў гэтыя цудоўныя словы? Менавіта поясам дысцыпліны для вершаванага радка і ёсць рыфма, так, прынамсі, лічылі здавён.

Пішуць шмат нерыфмаваных вершаў, кажуць, быццам так вальней дыхаць слову, разнявольваецца змест. Палічы гэта за праўду, дык, чаго добрага, і да Смердзякова прыслухаешся: «І калі б мы пачалі ў рыфму гаварыць, хоць бы нават паводле загаду начальства, дык ці шмат мы нагаварылі б»?

Парадокс, але зусім чыстая праўда: паэзія патрабуе найвялікшай свабоды і лёгкасці і ў той жа час найстражэйшай дысцыпліны і дакладнасці. Тут столькі ўмоў і перадумоў, прызвычаенняў і канонаў, што і разгубіцца можна.

А ты ступай паўзверх нагароджаных напярэдадні ўмельцамі агароджаў і заслонаў. Дбай ды дбай, каб сказаць усё, што рупіць, і так, як хочаш, не перабраць лішняга і не спыніцца, не дабраўшы патрэбнага. Хай выходзіць ад цябе слова такога гучання і давяральнасці, нібыта яно і ёсць адна-адзіная найбольшая і найчысцейшая ў цэлым свеце праўда, якое ні да гэтага не існавала, ні пасля не народзіцца.

Сачы і спыніся ў часе на тым самым славутым «ледзь-ледзь», з чаго пачынаецца мастацтва, адкуль загараецца над тваёй работай яркі і трывожны агеньчык — жыве.

А ты ўжо застанешся збоку, як быццам нічога не стараўся, не дабіраў сну, не тлуміў галавы думкамі, не мучыў рукі прыкідкамі: твор існуе самастойна, незалежна ад цябе. Хоць і вырас з твае плоці і крыві, але мае ўжо свае плоць і кроў і гэтым нязмушана, непрыкметна прыпадае да нейчае трэцяе душы, пачынае доўгае ці кароткае вандраванне ад сэрца да сэрца, пакуль не вычарпаецца ў ім паветра часу, запал пачуццяў, святло пазнання.

Ты свае справы скончыў. Хочаш — пацешся крыху, пакрычы ад удачы: «Ай да Пушкін! Ай да сукін сын!», ці ўнурыся перад чарговым узыходам на вяршыню.

Хай цяпер чытач радуецца тваёй усмешцы, падхоплівае ўпадабанае ўголас або ціпіком уцірае слязу. Ён не ведае і не павінен ведаць тваіх намаганняў. Як толькі на творы кідаюцца ў вочы знакі ад сякеры ці наждака — бяда! Найчасцей гэта след рамесніцтва або так званага самаедства, калі талент ператочваецца звышсамакрытычнасцю: робяцца дзесяткі варыян-

таў, а выбраць адзін, найлепшы, часам — самы першы, нестае густу.

Густ — катэгорыя вельмі няпэўна акрэсленая, але тым не менш абавязковая для пісьменніка. Гэта — і выбар тэмы, і матэрыялу, і спосабаў апрацоўкі і, нарэшце, вызначэнне суразмернасці частак твора, умельства зірнуць на ўсё сваё збудаванне цалкам. І тады — ужо ў гатовым! — адкінуць непатрэбную прыбудоўку, прыняць якую-небудзь пераборку ўсярэдзіне, каб паветра было больш і прастору для думак, здзіўленняў, нечаканак для таго, хто ўвойдзе ў твой будынак следам за табой.

Тут ужо, акрамя цябе самога, ніхто не дапаможа і нічога не дарадзіць. Густ ёсць густ, яго не могуць замяніць самыя танчэйшыя электронныя вымяральнікі і нават зычлівыя знаўцы, з кім ты прывык раіцца перад надрукаваннем рэчаў.

Толькі тады можаш лічыцца майстрам, калі выспее сіла вырашыць: друкаваць твор ці не. Не хапае рашучасці ўстрымацца, адкласці ўбок слабое — відаць, сталасць рукі і думкі не прыйшла.

Гэта не так цяжка гаварыць, а вось як давядзецца выкрэсліваць — шкада! Шкада, хоць і ведаеш, бачыш, што замінае табе нешта. А часамі, апрача расцягнутасці, з усіх бакоў вытыркаюць рагі схемы, моцна аснаванай і ёмка закручанай у сюжэт, але схемы, і поўным-поўна штампаў.

Літаратурныя штампы перад усім выяўляюцца ў перадачы рухаў чалавека: калгаснік — папраўляе супоню, падпольшчык — укручвае кнот у лямпе пры стуку ў дзверы (толькі ў адной кнізе ўспамінаў іначай: небяспека, а чалавек п а д к р у ч в а е кнот).

А што зробіш з гэтай бядою, яна ўлазіць непрыкметна, як ні сцеражыся. Нават Горкаму часамі не хапала руху, каб падкрэсліць перажыванне. У «Жыцці Кліма Самгіна» Лідзія падчас рашучага вытлумачэння з Клімам — д в о й ч ы ўстае з крэсла (на адной старонцы), не сеўшы і не сядзеўшы.

Але як зроблена гэта, паспрабуйце адшукаць! Я, да прыкладу, заўважыў, правячы свой пераклад «Самгіна»,— пакуль не зверыў з арыгіналам, думаў, што памыліўся сам.

Відаць, засмела гаварыць — «не хапіла руху».

У класікаў заўсёды ёсць падставы нават на памылкі. Не магла гераіня Горкага вымавіць словы, да якіх яе абавязваў стан узрушанасці, іначай як стоячы,— вось і ўстала!

Шмат каму здавалася, нібыта вось узяў ды схапіў класіка за руку, выкапаў недавершанае, недагледжанае. Прыкмячаў так званыя плямы на сонцы дарэвалюцыйны крытык і парадыст А. Ізмайлаў, знаходзіў і савецкі літаратуразнаўца А. Дэрман. А ці ўсюды мелі яны рацыю?

Юры Алеша ў ненапісанай, недапісанай, няскладзенай самім кнізе «Ні дня без радка» заўважыў, як яму здалося, недакладнасць у Гогаля. Даўшы бацьку паннaчкі з «Вія» пэўны ўзрост — 40 гадоў, Гогаль далей піша: «Старец заплакал». Алеша мяркуе, нібыта Гогаль забыўся, што пісаў вышэй, бо не мог жа ён усур'ёз палічыць дзядком саракагадовага.

На мой погляд, тут іншае. Падобнае да пераўтварэння срэбнага абразка, якім у Талстога благаславілі на вайну князя Андрэя. Калі той, паранены, ляжаў на полі бою, абразок раптам стаў залаты. Талстой павысіў клас металу, іначай на яго не пакваліліся б марадзёры, і князь Балконскі застаўся б не падабраны.

Гогаль убачыў свайго героя сагнутым праз гора — смерць дачкі, пастарэлым настолькі, каб выглядаць дзядком.

Ці раз траплялася наглядаць, як чалавек, і ў крытыках не хадзіўшы, ёмка і трапна адлучае авец ад казлішчаў у бліжняга свайго. А гляне на сваё — прысажмурваецца! Упікаючы за грахі каго іншага, мы сарамліва абмінаем іх у сябе, хоць і нашы творы хвараюць на тое самае.

Дактары не вельмі рэкамендуюць лячыцца самім, а, хочаш не хочаш, даводзіцца: вось і дамагайся сам дасканаласці, пакуль можаш, пакуль бачыш хоць найменшую недаробку.

На дождж спадзявайся, а гуркі палівай! — гэта быццам знарок прыдумаў народ пра дапамогу крытыкі. Бывае, блытае яна паперы: адным даруе відавочна недапрацаванае, недавершанае, тады, вядома, справядлівыя патрабаванні здаюцца завышанымі.

Падчас справаздач толькі і чуеш: «Мы напісалі», «Мы выпусцілі!». А ў чытача аскоміна. І ад напіса-

нага і ад выпушчанага. Ці не пара б пачаць гаварыць: «Я ўстрымаўся аддаваць у друк», «Мы ўстрымаліся выдаць». А крытыцы — выйсці на падтрымку.

Для дабра літаратуры.

## АЦЭНКІ, ШТО Ў ІХ ДОБРАЕ

Развіццё літаратуры, далейшы рост яе патрабуюць не толькі правільнай ацэнкі літаратурных з'яў, а і асмыслення літаратурнага працэсу цалкам. Важна высветліць уплыў твора зараз і што яго чакае ў будучым.

Прадбачанні Чарнышэўскага і Бялінскага ў гэтым кірунку грунтаваліся на дасканалым веданні жыцця. Аб літаратуры яны гаварылі з любоўю і страсцю, а ў патрэбных выпадках — з гневам і абурэннем.

Некалі размяжоўвалі тры ступені сп'янеласці (чытана ў Ляскова ці ў Даля): з устрыманнем — чалавек ідзе сам, трымаючыся за платы; з расстаноўкай — выпіваку вядуць двое, а трэці пераստаўляе яму ногі, і з распалажэннем — небарака ляжыць без руху, раскідаўшы ў бакі рукі і ногі.

Вастраслові пашырылі гэты сумны жарт на крытыку.

Гавораць, нібыта асабліва распаўсюджаны від крытыкі «з устрыманнем». Каля пісьменніка ходзяць так асцярожненька, што сам наймудрэйшы Саламон не дабярэ ладу: хваляць ці ганяць. Ледзь зачэпяць недахоп, і хутчэй — адбой, а закранутая пахіба падмалёўваецца, глянцуецца пад вартасць.

Крытыкавалі і крытыкуюць «з расстаноўкай». Тут не хаваецца жаданне абавязкова даставіць сябра на старажытную сядзібу муз, на Парнас, хоць бы для таго спатрэбілася пераставляць аўтару ногі — хадзіць жа слаба.

Крытыка «з распалажэннем» сустракаецца, на шчасце, усё радзей і радзей. У гэтым выпадку крытыкавалі з такім разлікам, каб як паложаць доле, дык і не паварушыўся.

Ведаю, каштаваў сам. Але ўсё ж варушыўся, за што атрымліваў дадатковую порцыю. Павучалі і кры-

тыкавалі тыя, што рабілі акурат так, як і ты, тыя, што рабілі яшчэ горай, і тыя, што наогул нічога не рабілі.

Аднак не гэта турбуе і засмучае. Хацелася б, каб недахопы не засланялі ад крытыка старонкі, паўстаронкі, нарэшце, сказа, няхай не жывінкі, але нечага самастойнага. Магчыма, гэта не вынік пошукаў аўтара, а проста бог у рукі кінуў, як кажуць у народзе. Але запомніць, па-людску запісаць «кінутае богам», падараванае фальклорам ці выпадковай сустрэчай, усё ж заслуга.

Які б ні быў твор — добры, благі, узорны ў сэнсе мастацкім ці па пошласці, ён абавязвае выказаць самастойныя меркаванні, хай смелыя, але свае, не абцяжаныя паўторамі вядомага маралізатарства.

Часамі ўсё ж засвойваецца запавет аднаго з герояў А. М. Астроўскага: «На ногі станем, самі вучыць пачнём, вучыць жа лёгка».

А трэба б — не вучыць, а думаць разам з пісьменнікам, дашуквацца ісціны, дзе, што замінае засвяціць ёй у творы.

І не забывацца, што паэзія — радасная і дзейсная краіна, і, падарожнічаючы па ёй, трэба радавацца перш за ўсё — у натхнёных эсэ пра шэдэўры і ў даследаваннях памераў ці рытмаў. Нездарма ж казаў Віктор Гюго: «Думка, выказаная вершам, гэта жалеза, ператворанае ў сталь».

Ну, вось — крытыка. Дапамагае яна нам ці не?

Цэлая паласа газеты занята вельмі саматужнымі разважаннямі крытыкаў аб архітэктуры. Рэдакцыйная прыпіска проста валіць з ног: «Нельга цалкам закрэсліваць ансамбль як твор мастацтва». Нібыта можна закрэсліць кінастужку ці кнігу на палавіну або на чвэрць? І якія адносіны да мастацтва маюць на дзве трэці ці на тры пятых закрэсленыя творы?

Другая газета пахваліла літаратурны твор. Потым змясціла адмоўную ацэнку і прызнала папярэднюю памылковай. Пасля зноў перацаніла... А твор як быў добры, так і застаўся. І чытачоў у яго прыбыло: прачыталі тыя, хто б не ўзяўся, каб не было супярэчлівых водгукаў.

Пасля гэтага ў рэдакцыю нехта прыслаў цвічок і дзве змацаваныя накрыж лучынкі: выстаўце на вецер,

маўляў, будзе млынок. Гаварылі, там страшэнна пакрыўдзіліся, хадзілі скардзіцца...

А аўтар маўчаў...

Часопіс выдрукаваў рэцэнзію на першую кнігу аўтара, не асабліва выбіраючы выразаў. Шкада!

На конскіх заводах, дзе гадуюць і выхоўваюць рысакоў, барані вас божа аблаяцца. За лаянку звальняюць, бо коні трацяць выгляд і апетыт. Нельга сказаць, каб нервовая арганізацыя ўдзельнікаў літаратурных нарад і з'ездаў была менш чулая, чым у заводскіх аргамакоў. Аднак лаянка чуецца, і не абыякая! І ніхто не спадае з твару, аблаяны заядае параю бутэрбродаў буфетныя сто грамаў, дазволеныя ў перапынку. А што, калі і тут надарыцца істота з чуллівасцю, блізкай да конскай?

Кола і магчымасці ахвотнікаў да беспадстаўных разносаў і такіх жа беспадстаўных усхваленняў прыкметна звужаецца. Што горш з гэтых дзвюх крайнасцей? Пахвала твора звыш вартасцей — не маю на ўвазе неабходнае для росту ўхвальнае падбадзёрванне — разбэшчвае аўтара, нават і не маладога, парушае самадысцыпліну і расхіствае патрабавальнасць.

З другога боку, што можа быць за толк з так званай нейтральнай, безасабовай крытыкі?

А тут жа на кожным кроку артыкулы і даклады, дзе аргументацыя — адно ўпамінанне прозвішчаў («Той, той і той працавалі над калгаснай тэмай»). А ш т о зрабіла, я к напісала тое ці іншае прозвішча, хай сабе і радзей упамінанае? У гэтым бы разабрацца, тады, пэўна, больш гнуткі быў бы паказчык імёнаў. Пакуль жа ён непарушны, як у праваслаўным календары.

Не шкодзіла б час ад часу прыгадваць Пушкіна: «Самаю поўнаю сатырай на некаторыя таварыствы быў бы спіс членаў з абазначэннем таго, што кім напісана».

Як толькі размова заходзіць пра няўдалае, напісанае нядбалай ці няздольнай рукою, прозвішчы глытаюцца, знікаюць, быццам іх і не існавала.

А заклікі змагацца за якасць твораў — гучаць. І часам даволі трывожна, бо пад выглядам паэзіі і прозы друкуецца многа чаго да друку не прыдатнага.

Дык чаму ж такая разгубленасць крытычнай думкі? Здавалася б, сама раз выпрабаваць моц свае зброі.

Тым часам увесь цяжар барацьбы за якасць нібыта перакладаецца на чытача: маўляў, ён ацэніць кепскія кнігі — не будзе купляць. А чытач — чалавек не раздураны: прывык браць у запас цукеркі і селядцы. І ён купляе кнігі запар: усё роўна нехта іншы возьме.

Выкрыццё адмоўных з'яўшчаў у рэчаіснасці ўплывае на поўную сілу толькі будучы асветлена перспектывай руху грамадства наперад. Інакш можа атрымацца звяганне мешчаніна, усерджанага якойнебудзь часовай нястачай. Заглядаць наперад і такім чынам сцвярджаць новае, большае, адмаўляючы штонебудзь старое, пачварнае, па-мойму, у аднолькавай меры абавязкова і для пісьменніка і для крытыка.

Мяркуй строга, але справядліва. Не чапляючыся да дробязей, аднак і не мінаючы іх. Адна, няўлоўная, але неабходная, рыса дапамагае мастаку падняць створанае ў катэгорыю мастацтва. З няменшым эфектам дзейнічае і адна невялікая, здавалася б, няпраўда, недакладнасць, толькі ў адваротным кірунку: адкідае работу ў процілеглы бок, адбірае давер'е чытача або гледача.

Вось як гэта здараецца.

У нядрэннай наогул кінастужцы ёсць эпізод, дзе чуецца птушыны спеў. «Перапёлка»,— кажа нехта з герояў. І ўсе задзіраюць галаву, глядзяць на неба. Гледачу тым часам непамысна, ён ведае, што ў небе спявае жаўранак, а перапяліны бой чуецца з травы.

Або недакладнасці іншага парадку.

Неразборлівы почырк Станіслаўскага ў свой час нарабіў клопату; ён запісаў: «Дело Светенсваи». Вось і пачалі шукаць п'есу пад гэткай назвай. І, вядома, не знайшлі, бо прачыталі па-руску французскае прозвішча Клемансо (Clemenceau), палічыўшы пры гэтым лацінскія «эль» і «е» за «в», а «цэ», за «с».

У адным нашым часопісе артысты пахваліліся, што глядзелі п'есы Выспяльскага і А. Мусека.

Што за драматургі з'явіліся ў Польшчы? Трэба было добра пагадаць, пакуль расшыфравалася: Выспяльскі — гэта славуты аўтар славутага «Вяселля» Станіслаў Выспяньскі. А. Мусек аказаўся не кім іншым, як Альфрэдам Мюсэ. Палякі дакладна перано-

сяць з замежных моў напісанне імён і прозвішчаў, калі ж даводзіцца скланяць, стаўляюць пасля нязменнай часціны апостраф, а за ім — склонавы канчатак: Musset — Musset'a. Але адкуль атрымалася Мусека? Няйначай, прачыталі лацінскае «t» як «к».

Цяжка дараваць гэта акцёрам, а яшчэ цяжэй рэдакцыі, там не маглі таксама не ведаць, што назва п'есы Мюсэ «Ларэнзачыё», а не «Ларэнзацыё», як надрукавана ў часопісе. Ды вакол твора разыгралася скандальная гісторыя шырокай вядомасці. Цэнзар Дукта-Дукшынскі ў 1835 годзе вынес забарону, бо «дух гэтай п'есы супярэчыць цэнзурным правілам і можа зрабіць нявыгаднае ўражанне».

Непажаданае ўражанне ў сэнсе верагоднасці робіць і вось такое апавяданне.

Калі вагону ўласцівы чалавечыя якасці, дык ён можа быць і жорсткі і добры. Відаць, аўтар хацеў напісаць цвёрды або мулкі вагон, куды ён прывёў пару «з бульдогам куцахвостым», які ў далейшым называецца — кудлаты пасажыр. На ілюстрацыі — нешта сярэдняе паміж балонкай і пудзелем. А што было рабіць мастаку, калі бульдогаў даўгахвостых і кудлатых не сустрэнеш.

Вось колькі выпадкаў адразу, а яны ж не ўмацоўваюць дружбы з чытачом.

І яшчэ адзін выпадак. Спагадлівы рэцэнзент у кніжцы вершаў 70-х гадоў знайшоў радок: «Кавалі зброю кавалі». Пахваліў: добра! Следам за ім пахваліў і я. А неўзабаве высветлілася: хваліць-то хвалілі, ды не таго. «Жанцы на постацях маўчалі, кавалі зброю кавалі» напісаў я сам у 1942 годзе, не ўспомніўшы пра свой жа радок «Былі кавалі, кава́лі», апублікаваны яшчэ ў 1929-м.

Вось якія выходзяць канфузы, калі забываешся на пісанае і не раз чытанае.

Пра аднаго з дэкадэнцкіх вершапісцаў пачатку стагоддзя было сказана забойча трапна: «Ёсць у вёсках такія крамнікі, якія ўмеюць толькі пісаць, але не чытаць».

Не апошняя справа — чытаць і ўчытвацца. І не толькі мець перад вачыма тое, пра што маеш павесці размову, а і зробленае іншымі аўтарамі, паплечнікамі ці папярэднікамі абранага табой. Гэтым абавязкам

не шкодзіць абцяжваць сябе і крытыкам і пісьменнікам, калі яны ўбіраюцца ў крытычныя рызы.

А то сустракаеш меркаванні аб творах, відавочна, не прачытаных і, шкада, у органах, якія заслугоўваюць пашаны. Называецца поруч чатыры-пяць рэчаў, аб'ядноўвае ж іх усяго толькі прыналежнасць да жанру — апавяданне, балада,— аднак крытык нагаляе на іх усе абручы адной характарыстыкі кшталтам «высокай адказнасці», «маральнай чысціні». І такім чынам нібыта залічае названыя творы, не робячы выключэнняў, у рубрыку станоўчых здабыткаў.

Пагодзімся, няхай так! Але ж у тым самым абзацы, услед за нібыта пахвалаю, ідзе нявінная, на першы погляд, агаворачка: маўляў, некаторыя з пералічаных твораў грэшаць схематычнасцю, жывыя пачуцці ў іх падменены папяровымі, а размах падзей не вышэй за буру ў шклянцы вады.

Вось табе і маеш! Пакрапілі ўсіх пораўні ружовай вадзіцай і адразу ж куды больш шчодра аблілі, зноў жа ўсіх, жыжкай зусім адваротнага колеру і паху. І ўсё праз адно: з «некаторых» не вылучаны «пэўныя», не надпісаны дакладныя адрасы, таму пахвала і асуджэнне не ўспрымаюцца размежавана.

Як гэта атрымалася? Пісалі не чытаўшы? Гэта — адзін з лягчэйшых варыянтаў для аўтара меркаванняў, больш цяжкі — няўпэўненасць у слушнасці свае думкі, самы цяжкі — пераблытванне картаў: ведае чалавек, што з пяці названых ім рэчаў да літаратуры мае дачыненне толькі адна, а не гаворыць проста. Не хоча псаваць адносін з аўтарамі чатырох астатніх, дый, можа, хто ўплывовы выкажа адваротную думку, тады, прыхаваўшыся за «некаторыя», можна сцвярджаць: і я ж так гаварыў.

Звычкі — зусім непрыдатныя ў нашым грамадстве, але ж пракідаюцца і такія сяды-тады. Нельга горш пакрыўдзіць аўтара, чытача, літаратуру.

Аляксандр Блок многа ведаў і нездарма пісаў: «Не варта даваць імя мастацтва таму, што называецца не так». Маладое пакаленне літаратуры з пашанай вывучае ўзбраенне класікаў, не грэбуе і арсеналам вопыту старэйшых калег па пяру. Значыць, яны, старэйшыя, і павінны расказаць, з чым яе ядуць, гэту самую патрабавальнасць, а галоўнае — заўсёды паказваць яе

ў дзеянні, каб узяў у рукі твор і залюбаваўся, калі хочаце, пазайздросціў крыху, але не той зайздрасцю, што некаму ўдалося схапіць за хвост пеўня ўдачы, а высакародным жаданнем знайсці дужыя крылы і гучны голас новай рабоце сваёй.

Гэта, відаць, найлепшы род, як кажуць, міжцэхавай крытыкі — уласны прыклад, што не здымае ніякіх абавязкаў з крытыкі наогул і не вызваляе больш сталых і дасведчаных ад неабходнасці дзяліцца з маладзейшымі ўбачаным і ўведаным, раіць, як і на што глядзець, як і што рабіць.

Уласна ацэначны момант — чаго варты твор, хоць бы і па пяцібальнай сістэме — прыходзіць не адразу, не з гэтага трэба пачынаць. Перш за ўсё клічце на дапамогу літаратурнае сумленне, усё сваё ўмельства і веданне, усе магчымасці зазірнуць у далеч і ў глыбіню, каб за непатрэбшчынай, а то і проста друзам, не мінуць сапраўднае залацінкі. Тады ўжо збярыцеся з адвагай ды проста кажыце: твор ці не твор трапіў да вас. Хоць крыху прычыняецца ён да літаратуры ці зусім застаецца па-за яе межамі. На жаль, ад такіх «не-твораў» страхоўкі няма ні для кога, нават для бясспрэчных і прызнаных здольнасцей.

Управімся мы з такім, хай сабе рэзкаватым, спосабам ацэнкі, а дакладней — адсякання непатрэбнага,— значыць, адкрыем вочы і сабе і другім на літаратурны працэс без падхарошвання, адразу стане відно, дзе яшчэ няцвёрда ступае проза ці драматургія. Гэта першае.

Другое — з'явіцца магчымасць пазбавіцца ад фальшывай і заўчаснай кананізацыі аўтараў і іх вырабаў, само сабою гэта зелле не знікне, трэба апрацоўка крытычнымі гербіцыдамі.

Праўда, у каго не апускаліся ад здзіўлення рукі пры чытанні хвалебных пасланняў («два пункты гледжання») на цэлы разварот газеты або на аркуш дробнага шрыфту ў часопісе? А ўсяго прыклёпу, зачэпкі для гэтага шуму, што «знясенне курыцы рабое адбылося» (Ул. Корбан). Кніжыца ўсякімі больш няпраўдамі, чым праўдамі, праціснулася на прылавак, і ёй найвышэйшая ацэнка была б — трапіць у два-тры радкі рубрыкі «Выйшлі з друку»...

Арыентавацца самім і накіроўваць таксама адна-

думцаў, людзей з кім робіш у адным шэрагу адну справу,— выключна на самыя высокія ўзоры літаратурнай творчасці. Толькі на такім грунце пойдзе ў добры рост наш поспех — паэтаў і крытыкаў, празаікаў і драматургаў.

Браць іншыя арыенціры, калі намі ўладаюць сур'ёзныя намеры ствараць літаратуру сацыялістычнага грамадства, проста немагчыма. Любячы, ведаючы, маючы перад вачыма Купалу, нельга пахваліць дрэнны верш, які б добры юнак яго ні напісаў.

Пазайздросціць трэба, як цвёрда і пэўна дзейнічалі нашы папярэднікі.

Адзін класік угаворваў: «Рваць ланцуг цемнаты».

Другі голасна кінуў кліч: «Людзьмі звацца!»

А трэці знецярплівеў і гукнуў: «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Вось якія зацятыя творцы былі, усе ў адно білі, толькі раз за разам усё шырэй і мацней.

Таму — народныя!

*

Падчас падарожжаў па розных краінах, калі не на караблях і самалётах, дык хоць з дапамогай цудоўнага дывана — кінаэкрана, заўсёды з тугой і зайздрасцю прыстываеш вачыма, прыкіпаеш сэрцам да старажытнага хараства. Хай сабе паўстае яно перад табой у выглядзе пірамід, чыё аўтарства загубілася ў далечах часу, ці мікеланджэлаўскай капліцы — усё роўна.

Такія пабудовы называюць помнікамі. Так, гэта помнікі, але не хараству, як бястварыя прастакутнікі роўненькіх дахаў і гладкіх сцен у цяперашніх гарадах, а помнікі хараства, само гэта хараство.

Рым, Фларэнцыя, Венецыя... Бег часу ператварыў у помнікі цэлыя краіны і гарады. А ў іх жа яшчэ — помнікі над помнікамі! Тварэнні геніяў архітэктуры, скульптуры, жывапісу. Разам усе яны спалучаюцца ў адзіны, самы велічны, несмяротны помнік жыццю і мазалю даўніх будаўнікоў, на чыёй крыві паднялася да сонца дзівосная краса.

Але ж і вечнае для ўяўлення хараство не можа ўстояць у няроўнай барацьбе з жорсткімі вятрамі стагоддзяў. Трацяць яркасць фарбы, расколваецца мармур, асядаюць падмуркі, спаўзаюць у ваду вуліцы. А ў сучасных іхніх жыхароў і гаспадароў не знаходзіцца рады і магчымасці ўратаваць пакінутыя ім у спадчыну скарбы: няма за што!

Дзікавата чуць і паўтараць гэта — няма за што. А сярэднявечныя замкі Неапаля ці сабор святога Марка ў Венецыі, пачаты будоўляй ледзь не дзесяць стагоддзяў назад, хіба ў час іхняга будавання людзі жылі багацей і тэхнікай уладалі больш магутнай?

Прагрэс тэхнікі нават не дазваляе параўнанняў з мінулым. Што ж датычыць размеркавання прыбыткаў, за мяжой мала што змянілася: галодная і халодная галота і, якім словам іх ні абзаві, дакладней не скажаш, багатыя.

Ды, як бы там ні вялося, дабрабыт палепшаў, і там ужо ніяк не параўнаеш жытло і вячэру сярэднявечнага часака мармуру або муляра з тым, што мае яго цяперашні таварыш па прафесіі. Змяніліся і адносіны паміж тым, хто наймае, і тымі, каго наймаюць. Умее пастаяць за сябе рабочы клас, даюць яму накірунак камуністычныя партыі.

Тым не менш разбываецца бізнес, тужэюць кішэні прамыслоўцаў, а гарадскія ўправы ніяк не могуць знайсці сродкі на падтрымку жыцця спрадвечных помнікаў. Хоць усе даўно і добра ведаюць: не паспееш агледзецца, многае знікне з аблічча зямлі.

Чалавецтва на парозе назаўсёднай страты, навечнага развітання з непаўторным. Можа ці не можа пагадзіцца з гэтым цывілізаваны свет? Можа, значыць — асуджае сябе на духоўнае жабрацтва, на зварот да першабытных наскальных малюнкаў, на асалоду ад задзірання галавы на голыя вежы небаскробаў, прастакутна і просталінейна выкладзеных са шкла і бетону.

Не хочучы цешыць сябе і нікога, скажу: адна краіна не можа застацца і не застанецца безудзельнай да лёсу хараства, што жыве здавён на людскіх дарогах у мастацтва. Падбае наша радзіма, хоць многа ў яе іншага найпярвейшага клопату, каб жылі людзі ў міры і дружбе, не адчувалі нястачы.

А зробім мы крок, і пойдуць насустрач многія, паварушацца, пэўна, і тыя, што атлусцелі не толькі ў раёне жывата.

І яшчэ адной думкай жыву, гадую яе ў вечары ціхага роздуму. Калі культура сацыялізму адлічыць хоць два стагоддзі хады, людзі апынуцца ў цудоўным часе тварэння дасканалага ва ўсіх галінах мастацтва. У нечым падобнага на тое, што спрадвечна, што прыйшло да нас з далечаў часу, і зусім адменнага, што ўзнікне ў паветры новай пары, у зірку другіх, лепшых за ўсе іншыя вачэй, ва ўмельстве другіх незраўнана больш здольных, рук.

Гэтым хачу сказаць: геніі не скончыліся назаўсёды, недзе там, за даляглядам мінулага. Яны будуць, абавязкова вырастуць, яны ўжо ў дарозе і хутка ўзыдуць на ганак. І створаць красу, роўнай якой яшчэ не было чута і не было бачана.

Хай тады нашы вершы, калі што не пературлее адначасна з роўнай па якасці іх друкарскай паперай, здаюцца наступнікам прымітыўнай, на адной ноце, песенькай першага жыхара зямлі, а нашы раскапаныя археолагамі мікрараёны — хай выглядаюць хацінамі для істот такога ж веку.

Някрыўдна!

Затое вырасце на змену колішняму вечнаму новае вечнае.

Па дасканалае можна і трэба наведвацца і да сучаснікаў.

Як адарвацца ад шматфарбнага, а галоўнае — шматпачуццёвага двубою чалавека з асятром, жорсткай бойкі, якую В. Астаф'еў, да яго гонару, закончыў цудоўнай перамогай рыбіны.

Напісана гэта нялёгкае змаганне так, нібы аўтар быў у адзін і той жа час і чалавекам і рыбінай, плаваў у крынічнай халадэчы ракі, захлынаўся мулам і крывёю, але змагаўся, цягнуў у свой бок да апошняга.

Чытаеш, і здаецца — спыніўся час, і ты не прыспешваеш яго, наадварот, шчадзіш, каб надаўжэй стала, старонкі.

Дзея асветлена мовай і трымаецца на ёй, такой свежай, нібыта ніводнае слоўца не ўжывалася, такой

выразнай і празрыстай, што ўсё відно ў ёй, усё да астатку: малая травіна каля берага, косы прамень на хвалі, можна злічыць і разабраць па колерах каменьчыкі на дне. І, вядома ж, у незвычайным святле, даступна навобмацак вымалёўваецца гэтае лютае, на зламанне шыі, адступанне і наступанне аднаго вялізнага слізкага цела на другое. Найменшыя нават хітрыкі чалавека ў празе аўладаць здабычай і рыбіны ў празе выбавіцца ад смерці адчуваюцца так тонка і дакладна, што міжволі думаецца, а ці не надзелены здольнасцю мысліць і жыхары водаў?

Тут жа ўспамінаецца Кузьма Чорны з надзвычайным яго ўмельствам выпісваць дэталь, перадаваць назіранне, паглыбляцца ў перажыванні. І зноў жа — гаварыць сваёю, нідзе не карыстанаю мовай. Вось глядзіце: «Чатыры хаты, і пры кожнай выгараджаны дварок як упхнуць задам каня з драбінамі». Як мала слоў і як многа паказана: дворык такі вузкі, што не развернешся ўехаўшы, а выехаць можна, калі паставіш там воз толькі так, як напісаў пісьменнік.

Або хата, якая пастаўлена «менш на хараство, а больш на мацунак і на выгоду». Гэта не толькі вобраз дома, а і характар яго гаспадара.

Што ж датычыць чалавечых партрэтаў, дык тут часта задыхаешся ад радасці, адчуўшы іх навізну і рэльефнасць.

«Варывон Вілач быў чалавек шырозны ў плячах і здаравенны. З буйным тварам і вялікімі круглымі вачыма. Ён не быў рыжы, але нейк быццам бы быў і рыжы. Прынамсі, мне заўсёды здавалася, што ў яго пад шапкай павінны быць нізка стрыжаныя рыжыя валасы. А калі ён здымаў шапку, мяне аж за сэрца смактала, што яго нельга сапраўды назваць рыжым. З твару ж гэта быў чалавек рыжы і ўпарты. У нашай местачковай капэле ён быў бубначом. Бубніў ён вельмі добра, чуваць было далёка, і ўсё бедаваў, што калі-небудзь не вытрымае бубен. Яго ж дачыненне да музыкі не дазваляла яму бубніць цішэй. Пасля ён надумаўся перайсці на які-небудзь іншы струмент. Купіў сабе вялікую трубу і стаў падвучвацца. Нарэшце прыйшла пара зайграць яму першы раз. Я-то сам не чуў, але расказвалі, што калі, стаўшы наперадзе ўсёй

капэлы, дзьмухнуў у сваю трубу, дык ні тых скрыпак, ні тых флейт не чуваць стала».

Так што па навуку хадзіць далёка не трэба, абы ахвота была.

## ЯК ПАЧЫНАЕЦЦА РАБОТА

Спакойна, нават крыху легкаважна ідзеш па лясной сцяжынцы. І так хараша, так лёгка ідзецца, што нават мармычаш пад нос нешта падобнае да песні.

І вось, ці то пасвяціла неяк асабліва сонца між галін, ці то ціўкнуў шчыгол, ды не гэтак, як звычайна, а танчэй і пяшчотней, у душы падымаецца сумятня. Спакой кудысьці знікае, пад сэрцам смокча турбота, і бязладна, няйначай патрывожаныя пчолы ў вуллі, пачынаюць гусці думкі.

Калі ты не маладзён і не пачатковец, дык хутка ўзрадуешся: стан гэты добры, апаноўваў цябе не раз. Пушкін, прыкмеціўшы яго, як заўсёды, дакладна запісаў:

«Душа збунтована лірычным хваляваннем».

Уцяміўшы, што адбываецца з табою, падкрадайся і хапай галоўную думку, матку, у матачнік. Злавіў, значыць, увесь рой — твой. Ён яшчэ неспакойна гудзе, але іначай, у гудзенні пракідаецца рытм, а на рытм пакрысе пачынаюць адройвацца словы.

Гэта вельмі грубая і недакладная схема ўваходу ў творчы настрой, але са мною адбываецца нешта падобнае. Не абавязкова ў лесе, можа здарыцца так і ў вясёлай бяседзе, і пры выпадковай сустрэчы з чалавечым вокам на вуліцы, пад час цыркавой выставы, у магазіне, на праходцы ў скверы.

А калі галоўная думка ў руках, успамяні раду Талстога і адсей усё лішняе, каб застацца сам-насам з прадметам, аб якім гаворыш.

Вось як меркаваў Леў Мікалаевіч Талстой пра раман:

«Я даўно ўжо думаў, што гэта форма аджыла, не наогул аджыла, а аджыла як штосьці важнае. Калі мне ёсць што сказаць, дык я не буду апісваць гасціную, захад сонца і да таго падобнае.

Як забава, не шкодная сабе і іншым,— так. Я люблю гэту забаву. Але раней на гэта глядзеў як на нешта важнае. Гэта скончылася».

Слухайце ўважліва, гаворыць першы раманіст свету. Знайшоўшы спосаб выражаць сябе праз дзённік, занатоўванне думак і выпадкаў, Талстой пачаў бунтавацца супроць ім жа створанага, супроць таго самага, на што мы пазіраем знізу, без шапак, моўчкі, як на верх дасканаласці.

Генія пачыналі сціскаць вынайдзеныя ім самім рамкі, ложа рамана зрабілася для яго Пракруставым.

Новае вынаходства, вядома, не забавілася б, але не стала часу — ліст, адкуль узяты радкі, напісаны ў верасні 1906 года.

*

Работа, калі яна сапраўдная, ніколі не пачынаецца з абнажанай прагі вынайсці, вынаходка прыходзіць як бы сама сабою, колькі працы на яе ні ўкладзецца.

Апанаваны злоўленай думкай, крыху ахмелены ўяўленнем, сядаеш за стол. Глядзіш са свайго сёмага паверха на белы свет: далёка відаць, думаецца шырока. Пра зямлю, пра сяброў, пра тое, што робіш разам з людзьмі, сваімі аднадумцамі. І ў той жа час, як гэта ні смешна, адчуваеш сябе асобай неабмежаванай улады. Мае кнігі, мае задумы, вобразы, намеры, жанры, нарэшце — сродкі вытворчасці: папера, сшыткі, чарніла, алоўкі.

Усё ў тваёй і больш ні ў чыёй волі і сіле, што хочаш, тое і робіш: пішаш прозу — загадваеш лёсамі людзей, пішаш вершы — свае і чужыя пачуцці варушыш як заманецца, артыкулы — хваліш ці караеш сябе і таварышаў.

І, задавайся не задавайся, ты — галернік з вечным ядром на назе, штодзень ад золку да вечара — за сталом, як асуджаны.

«Кепскаватае ж у цябе кіраванне, браце, і работа непамысная»,— пасміхнецца нехта.

«А гэта як павядзецца, як пакіруецца час, яму відней»,— пасміхаешся і ты замест адказу.

«Чаадаеў» — кніга аб няшчасным і найшчасліўшым, хто быў пры жыцці, дый доўгі час пасля смерці, зняслаўлены, адсунуты ў цень у параўнанні з сучаснікамі сваімі, а ён даводзіўся сябрам і духоўным настаўнікам недалёка шукаць каму — Пушкіну!

І тое, чаго не мог трываць у ім век яму сучасны,— не дужа ў ласцы было і праз гады, тое, чаго не разгледзелі ў ім калісьці,— не ўразумелі і пазней. І не толькі не выдалі, нават не прачыталі.

Словам, для забыцця Чаадаева было зроблена ўсё. А ён не забыўся.

*

Тэхніка абапіраецца на супраціўленне матэрыялаў. Гэта дысцыпліна служыць для таго, каб умець вызначаць трываласць матэрыялаў, выбіраць належныя метады і спосабы апрацоўкі.

Я не прытрымліваюся забабонаў, нібы толькі пэўныя з'явы і факты могуць паслужыць падмуркам, на якім збудуецца мастацкі твор. Пра касу, напаўзабытую зараз прыладу земляроба, складзены дзесяткі ўдалых вершаў, а пра трактар — выбачайце, таварышы паэты? Іншая справа, што мы не заўсёды ўлічваем асаблівасці з'яў і якасці жыццёвых фактаў, значыць, не ведаючы супраціўлення матэрыялаў, не можам як належыць выбраць патрэбныя спосабы апрацоўкі. А яна можа быць: сцвярджальная, выкрывальная, іранічная, сатырычная — гэта у сэнсе выяўлення адносін і схільнасці мастака да прадмета. У сэнсе ж падачы падзей: эпічная, апавядальная (раман, аповесць), дакументальная (нарыс, рэпартаж), выкладзеная з дапамогай вершаванай мовы.

Але як ні старайся, каталог спосабаў мастацкай апрацоўкі матэрыялаў ніяк не складзеш: яны ніколі не паўтараюцца. Лаўлю сябе за руку, бо радком вышэй збіваўся на нешта кшталтам «тэорыі славеснасці» для старой школы.

Для выбару матэрыялу і спосабу яго апрацоўкі мала аднаго крытэрыя: гэта, бачыце, было, а мы павінны пісаць праўду — тое, што было. Робячы так, не заўсёды нам удасца дасягнуць тыпізацыі, бо яна

грунтуецца на намнажэнні вопыту, і не проста жыццёвага вопыту, а паўтаральнасці сітуацый, яркасці падзей і ўчынкаў, каб у іх быў момант узору і прыкладу, назбіранне аднолькавых рыс характару чалавека, аднолькавых прыкмет часу, што ў цэлым найбольш ясна перадаюць дух пэўнага перыяду гісторыі.

Прылічэнне да катэгорыі рэалістычных такіх твораў, што, як прынята выслаўляцца, «народжаны жыццём», мерка «так бывае» і «так не бывае» ў жыцці, патыхаюць, даруйце, літаратуразнаўствам каменнага веку. Твор з жыццёвым фактам у аснове, калі хочаце, паўтару, «народжаны жыццём», можа выйсці з-пад пяра сюррэаліста, экспрэсіяніста, экзістэнцыяліста, плюраліста — словам, якога хочаце «іста». Але ад рэалізму ён будзе на такой жа адлегласці, як Лысая гара ад Эльбруса. Па простай прычыне, што для ўсіх падобных мастакоў, ці пераважнай большасці іх, рэчаіснасць — штосьці выпадковае, суб'ектыўнае. Таму, як ні парадаксальна гэта, іхняя абмежаванасць перарастае ў неакрэсленасць: дробязнае выдаецца за велічнае, а велічнае абмінаецца, не можа знайсці выражэння.

Рэалізм грунтуецца на матэрыялістычным пазнанні свету, у майстроў яго ёсць усе падставы для авалодвання і асэнсавання працэсаў рэчаіснасці. Вось чаму рэалізм мае свае, толькі яму ўласцівыя спосабы адбору матэрыялу і тыпізацыі. Як толькі паэзія забываецца на вытокі і асаблівасці рэалізму, якія жывяць яе і падымаюць на рамантычныя вышыні, яна перастае быць самой сабою. І робіцца крыўдна, і ўспамінаюцца недасяжныя ўзлёты паэтычнай класікі.

І яшчэ адна неабходная ўмова рэалістычнага паказу. Змены, якія адбываюцца ў нашым грамадскім жыцці, агульнавядомыя і вельмі ўражальныя. Мы плануем іх праз дырэктывы партыі на пяцігоддзе, а то і больш. І не заўсёды можам прадугледзець, у што выльецца канчаткова тое ці іншае наша пачынанне, іначай кажучы, нашы планы не толькі карэктуюцца, а і пераўвершваюцца зробленым, створаным, здзейсненым.

Да чаго абавязвае гэта пісьменніка? Часцей за ўсё адказваюць так: хай пашанцуе ўгнацца, патрапіць упоравень. Гэта праўда, але малая. Навошта гнацца?

Трэба паспяваць. Дазволю сабе прывесці не свой жарт: «Калі страус гаворыць аб каханні страусісе, яна бяжыць з хуткасцю 100 кіламетраў у гадзіну». Не трэба бегчы, ступай крок у крок з часам, тады твоё слоўца абавязкова западзе ў вуха сучасніку.

Мы павінны імкнуцца да самай простай і да самай цяжкой рэчы — да прадбачання. Не да прыпіскі, якой слаўны многія нашы раманы і аповесці, дзе калгаснае, скажам, жыццё малявалася мудрэй за рай, а калгаснікі, скажам, выглядалі ні больш ні менш як чыстыя анёлы.

Пісьменніцкае прадбачанне ўяўляецца наступным чынам. Ведаючы накірунак нашага руху наперад, улічваючы папраўкі на час і ўдасканаленні, што робяцца непасрэдна ў хадзе, мы павінны прадбачыць змены ў чалавечай псіхалогіі, выхаванне ў чалавеку новых якасцей, вызваленне яго ад бруду перажыткаў, набліжэнне нашага наступніка да вобраза таго чалавека, які будзе жыць у камунізме.

У гэтым сэнсе будучыня, чытацкая цікавасць сёння і заўтра належаць творам, што маюць у грунце сваім мастацкае прадбачанне, а не кульгаюць услед за падзеямі, хай сабе нават добрасумленна.

Значыць — вочы на сучаснасць. Толькі не для прыпісак і адпісак, не для моды, а з поўнай аддачай усіх душэўных сіл, з усёй шчырасцю, на якую здольны. Каб не стаць падобным на цырульніка, які заклапочана спытаў, над чым працуе паэт, і дазнаўшыся, што той стараецца сучаснага матэрыялу, дзелавіта памацаў ягоны пінжак:

— Букле? О, у вас заўсёды самы сучасны матэрыял. Самы вялікі попыт.

Перавагі пісьменніка-сучасніка, які піша пра чалавека, свайго сучасніка, цяжка злічыць. А галоўная вось у чым: калі я сядаю за стол, дык адчуваю: з'ява, якая мае стаць прадметам адлюстравання, дапамагае нарадзіць сама сябе на белы аркуш, адчуваю — мяне падпіраюць і падымаюць над даляглядам высілкі ўсіх людзей, аднадумцаў, стваральнікаў рэчаіснасці.

І мне радасна працаваць, і расце мая пэўнасць, бо столькі ж добрых памочнікаў выстаўляе жыццё.

Са з'яўленнем задумы пісьменнік пачынае пакрысе абрастаць газетнымі выразкамі, запісамі сітуацый, сустрэч, гаворак, замалёўкамі людзей і прыроды, прозвішчамі, трапнымі слоўцамі.

Частка матэрыялу можа легчы на паперу проста так, як узята з жыцця (гэта не заўсёды карысна), другая патрабуе дадатковай апрацоўкі праз вымаганні сюжэта, кампазіцыі, мастацкага густу і такту. Таму даводзіцца перапрацоўваць увесь чыста матэрыял паводле прынятай тэхналогіі. Факт, непасрэдна выхаплены з жыцця, можа адчуцца ў творы чужародным, калі вымышленыя падзеі, у сілу свае ўнутранай логікі, будуць развівацца ў другім плане.

Немагчыма пісаць, не трымаючы перад вачыма таго, што хочаш выклікаць ва ўяўленні чытача. Гэта, перш-наперш, тычыцца герояў, але не ў меншай меры і месца, дзе адбываецца дзея: пакой, клуб, поле, вуліца, лес. Без гэтага эпізоды будуць здавацца незавершанымі, а людзі — кульгавымі: пад адною нагою цвёрдая зямля, а пад другою — ніякай падпоры.

Абставіны дзеі часта вызначаюць учынкі герояў, іх надворны выгляд: у жыхара горнага аула паходка зусім іншая, чым у палескага калгасніка.

Часамі, залюбаваўшыся чалавекам, пачынаеш бачыць у ім літаратурнага героя.

Вось якая гісторыя была ў мяне. Перш чым будавацца, Мінск вызваляўся ад руін і друзу, расчышчаў пляцоўкі. Добра было стаяць, глядзець на людзей, якія камандавалі машынамі, сачыць, як з кожным паднятым каўшом бітай цэглы ці абломкам сцяны знікае з вуліцы хаос і разбурэнне. І ўжо лёгка думалася і марылася пра наш будучы (цяпер — сённяшні) горад.

Нечым кінуўся ў вочы экскаватаршчык. Зусім маладзенькі. Праз дзень-два мы разгаварыліся. Вайна адабрала ў яго бацькоў. Быў у рамесніцкім. Потым на курсах пры нейкай будаўнічай арганізацыі.

Не паспелі мы добра пазнаёміцца, як хлопец раптоўна знік. Ад зменшчыка я дазнаўся: махнуў на Волга-Дон. Біяграфія атрымала цікавы працяг.

Я звяртаўся да гэтага героя двойчы, у дзвюх рэ-

чах. Пісаў уважліва, ні на хвіліну не спускаючы з вачэй, бачыў жывога. Але ў праўдзівасць сапраўднага вобраза не паверыў Колас. А тое, што было прыдумана,— прынялі, нават хвалілі трохі.

Такім чынам, рэальная асоба выбілася з раду скампанаваных уяўленнем, не набыла рыс характару, засталася проста асобай, якая яна ёсць, цікавай толькі для аўтара.

Хотя не чаешь быть столь взором остр, как рысь,
Однако слабых глаз лечить ты не ленись.

Правільна кажаце, таварыш Гарацый!

*

У нашай рабоце дробязей няма, усё галоўнае. Што маеш за плячыма, свае вочы, уваход у настрой, веданне матэрыялу і як абыходзіцца з ім. І ўсё ж пра адно як быццам гаварыў, але неяк мімаходзь, не вылучаючы, не падкрэсліваючы асобна.

Гэта — пранікание ў з'яву.

Спачатку — усебаковы агляд яе звонку пад самымі магутнымі пражэктарамі ўвагі і назірання, каб выявіць памер, колер, месца ў жыцці, адносна, вядома, у параўнанні з тым, што знаходзіцца на пэўнай часавай і прасторавай адлегласці.

Потым — пранікание ў глыбіню, тут высвятляецца ўтварэнне і паходжанне з'явы, сацыяльны склад ці прыналежнасць яе, магчымасці — стваральныя ці разбуральныя, і, галоўнае, сутнасць. Што гэта такое? Чым было ўчора, чым стала сёння, як ператворыцца заўтра, праз сто гадоў?

Частка гэтай задачы, напэўна, высветліцца пры знадворным аглядзе: розніца ў выглядзе з'явы, скажам, у розныя поры года і дня, раніцай і ўвечары, вясною і ўвосень, таксама дазваляе меркаваць пра яе ўнутраны стан або змены, што адбыліся ці маюць адбыцца ў яе ўсярэдзіне.

Што казаць, даследаванне — маруднае і цярплівае! Але толькі яно дае прасвятленне вачэй і зроку духоўнага да той ступені, калі можна пачаць пісаць,

калі ўсё стане відно, як гаварыў Гогаль, ва ўсіх канцах свету.

Гэта не значыць, што вашы героі, набыўшы жывую абалонку, колер твару і валасоў, улюбёнае адзенне, пачаўшы есці, піць і курыць, а галоўнае — дзейнічаць, радавацца і сварыцца, злаваць і ўсміхацца, што гэтыя героі не паправяць вас. Паправяць, і абавязкова, калі ўдадуцца жывымі, і могуць змяніць пэўным чынам бачанне і раскрыццё вынашанай, здавалася б, да апошняга, з'явы. І будуць патрабаваць для сябе самых дакладных, верагодных учынкаў і рухаў.

І вы ўжо не выйдзеце з-пад іхняй волі, будзеце, як Талстой, хадзіць і мучыцца, шукаць, а які рух павінна зрабіць Анна, прыйшоўшы першы раз да Вронскага? Адказ можа і не знайсціся ці прыйдзе геніяльна проста, як да гэтага вялікага знаўцы ўсяго, што рабілі, робяць і павінны рабіць людзі. Ён ішоў на абед, дакрануўся грабеньчыкам да барады і ледзь не закрычаў: «А-а, яна павінна паправіць валасы!» Бо думаў усё пра адно, шукаў рады і ўдзень і ўночы, і — знайшоў.

Вядома, не для сябе вы будзеце столькі пабівацца, дамагаючыся канчатковага прасвятлення зроку, набываць відушчасць. За вамі ўслед яна прыдасца на карыстанне тым, хто не ўладае здольнасцю тварыць вобразы, а можа толькі ўзбагачацца за кошт стваранага.

Не ведаю сярод сучаснікаў больш відушчага, больш шчодрага на прасвятленне зроку ў людзей і большага майстра ўкопвацца ў глыбіні іх, чым Сяргей Эйзенштэйн. Смешна было б гаварыць аб нейкім яго месцы ў мастацтве, ён не шукаў гэтага месца, а сам сабою стаў упоравень з тымі, у каго вучыўся — Станіслаўскі, Меерхольд, Міхаіл Чэхаў,— і пайшоў сваёю дарогаю — адкрываць далягляды.

На работы Эйзенштэйна нельга казаць — істужкі, на яго даследаванні — творы, гэта — адкрыцці, здабыткі відушчасці мастака ў імя таго, каб відушчымі сталі ўсе.

Мне часта, удзячна і пашанотна, думалася, ідучы за гэтым талентам па дарогах, якія ён праторыў «Браняносцам» і «Грозным». Больш за ўсё даводзілася

здзіўляцца, бо цалкам асэнсаваць такі велізарны шлях не шчасціла нікому. Не сказаць, каб бракавала думак ці слоў, а не станавіліся яны ў належны гэтаму выключнаму выпадку строй. Аж пакуль не прыйшла кніга светлай памяці М. Ю. Блеймана «Пра кіно — паказанні сведкі», а крыху раней не трапіўся часопісны артыкул, на які буду спасылацца ніжэй.

Многае ■ майго ўспрымання работы Эйзенштэйна было блізка да выказанага ў сустрэтых матэрыялах. Адчулася патрэба занатаваць рысы творчага вобліку і відушчасці Эйзенштэйна, і я рабіў гэта, пераказваючы сваё і не сваё без двукоссяў, хай даруюць шаноўныя аўтары, толькі бачачы адну мэту, каб стала больш даступнай відушчасць вялікага мастака.

Эйзенштэйн збіраўся паставіць фільм паводле «Капітала». І можна мець пэўнасць, паставіў бы, ён бачыў, зрокава адчуваў, колькі дзеяння і канфліктаў можа даць гэта Марксава тварэнне.

Без меры шкада было страціць такі талент не ў час: ён не падараваў людзям і малое долі свайго творчага патэнцыялу. Але таго, што падаравана, хопіць на многія знаходкі кіно і літаратуры.

Эйзенштэйн пісаў: «Мы імкнуліся гістарычныя падзеі браць такімі, якавы яны ёсць, і па магчымасці не перакампаноўваць у драму тое, як яны адбываліся».

Гэта значыць, перад усім унутраны драматызм падзей, а не іх настаццё ці адыход. На першы погляд, дзіўна, бо такім чынам мы як быццам пазбаўляем падзею яе вытокаў, здавалася б, найбольш драматычнага. Але гэта вонкава, і растлумачваецца, скажам, на такім прыкладзе. Кастрычніцкая рэвалюцыя адбывалася са шматлікімі ахвярамі з двух бакоў. І гэта драматычна: крывавыя сутычкі чырвонага стану з юнкерамі, вернымі трону часцямі, змоўшчыкамі. Але сапраўдны драматызм не тут, а ў замене аднаго ладу другім, адной грамадскай формы другою.

Вось куды глядзеў Эйзенштэйн. І куды трэба глядзець драматургіі, каб яе прадметам не з'яўляўся насмарк ці парэзаны палец.

У мастацтве кіно Эйзенштэйн устанавіў два этапы: адкрыцця савецкай рэчаіснасці і ўскрыцця і раскрыцця яе.

Закон — адкрыты з запасам, свабодна пашыраецца на ўсе віды мастацтва, у тым ліку і на літаратуру.

Літаратары, бадай, справіліся з першым этапам у 20-я і 30-я гады, тады не засталося ніводнага з іх, каму б сучасны для яго дзень падаваўся за заслонай, хто б не зразумеў, не прыняў Кастрычніка. У вайну новая рэчаіснасць была не толькі ўскрыта, але і дастойна раскрыта.

Зараз — іншае. Рэчаіснасць засталася, як і была, рэчаіснасцю новага свету, але за пасляваенную чвэртку стагоддзя якасна змянілася да непазнавальнасці.

І некаторыя маладыя людзі ніяк не могуць зрабіць ласкі адкрыць яе для сябе, расплюшчыць вочы і глянуць на свет. І саромеюцца назваць жыццё, што іх абкружае, савецкім, а ідэалы, да якіх імкнецца народ, камуністычнымі.

Гэта не ўшчунак. Ніхто не здолее аспрэчыць, што ў сэнсе раскрыцця савецкай рэчаіснасці мы зараз выйшлі на глыбінныя пласты. Ужываю «мы» не да сябе і разумею пад словам не ўсіх чыста літаратараў, што сёння мачаюць пяро ў чарніла, а літаратуру паслякастрычніцкага пяцідзесяцігоддзя як творчы, а таму няспынны працэс.

Тады чаму не выказваюць цікавасці далей таго ж самага насмарку ці вывarочвання душы тунеядца, а ў горшым выпадку пачынаюць жаліцца на «клімат» або хныкаць, нібыта на «перавал» нам не ўзысці?

Пытанне — не выпадковае.

Думаецца, усё гэта ад недахопу ўнутранай шчырыні, шчодрасці, духоўнага зірку. Без іх няма пісьменніка. Дык што выходзіць? Не тыя людзі трымаюцца за пяро? І няўжо горкай праўдай стаў жарт, нібыта шмат каму са ўзброеных пяром трэба пакласці гэтую зброю і нават не глядзець у той бок.

Ах, Сяргей Міхайлавіч Эйзенштэйн! Як горка рана вы пайшлі, як нестае вашага разумнага таленту ў кіно і літаратуры! Колькі геніяльных адкрыццяў адышло разам з вамі, і людзям давядзецца папачакаць, пакуль расшчодрыцца стары бог і ўдзьме такую вялікую душу ў новы кавалак чалавецкай гліны.

Будзем удзячны Эйзенштэйну за ўсё тое, што ён убачыў і паказаў нам. Карціны, колер, рэжысёрскае майстэрства, кінематаграфічнасць Пушкіна. За адны

здагадкі аб вялікім паэце трэба нізка пакланіцца Эйзенштэйну. Магчыма, крыўдна гаварыць — здагадкі, калі мы маем справу з вызначэннем сюжэта — галоўнага! — пушкінскіх твораў і тэмы Гогаля.

Сапраўды, геніяльна проста! Пры вядомых спрашчэннях сюжэтнай схемы вось яна: стары, які перагароджвае шлях да шчасця. Маладыя кахаюць адно аднаго, а стары — перашкода. Дзіўна? Здагадка падмацоўваецца цяжкою артылерыяй: «Яўгеній Анегін», «Цыганы», «Барыс Гадуноў», «Капітанская дачка». І далей. Старая графіня трымаецца за таямніцу, не выпускае яе з рук. Стары скнара затаіў багацці, якія маглі б даць радасць людзям...

«Чаму пра гэта ніхто не напісаў? — пытаўся Эйзенштэйн у суразмоўніка, які занатаваў гэтыя думкі.— Самае цікавае, што ўяўная аднастайнасць сюжэтаў не шкодзіла Пушкіну пераносіцца ў любыя краіны, працаваць у самых разнастайных жанрах. Геніяльнае багацце думак, лёсаў, характараў, і праз усю творчасць Пушкіна праходзіць адзіная сюжэтная сітуацыя: стары замінае каханню, няздзейсненае каханне маладога чалавека, мара пра каханне не рэалізаваная» [1].

І Эйзенштэйн растлумачыў, адкуль гэта, паводле Тынянава.

Пушкін, зусім яшчэ юнак, пакахаў Карамзіну, напісаў ліст, прызначыў спатканне. І яна, абранніца, прыйшла, але з мужам, прывяла яго разам з сабою. Пушкін быў паранены навылёт, на ўсё жыццё.

Усё гэта вядома, хоць, можа, і не вельмі шырока. А Эйзенштэйн прыгледзеўся ўважліва і да жаніцьбы паэта з Наталі і да праезду цара паўз вокны Пушкіных пасля іх першай ночы (Мікалай І памахаў маладой хустачкай!), прыгледзеўся і спытаў у нас усіх: чаму цярпеў Пушкін пакуты, бо ці ж было роўнае пачуццё ў Наталі, чаму трываў, чаму пайшоў на смерць?

Спытаў і адказаў: Наталі нагадвала першае каханне — Карамзіну, прычым папрасіў заўважыць: і ў першым і ў другім выпадку на дарозе кахання стаяў стары.

---

[1] Вайсфельд И. Последний разговор с Эйзенштейном. «Вопросы литературы», 1969, № 5, стар. 252.

Адказаў, але начыста адмёў Фрэйда, назваў яго чужой і глухой правінцыяй і цвёрда абвясціў: каханне Пушкіна не эротыка, а трагедыя жыцця, якая кінула адбітак на ўсю творчасць. Матыў быў адзін, іншая справа, што ён мог апранацца Пушкіным у міфалагічную форму, раман, гістарычную драму. Але не знікаў.

І найболей цікавае: Эйзенштэйн працягнуў развагі і павёў нітачку падабенства ў наш час, да з'явы выключнай — Чапліна. Ён, было вядома Эйзенштэйну, усё жыццё кахаў жонку Херста. Сярод шматлікіх і мімалётных шукаў адну, як Пушкін, што знайшоў Наталі, падобную да Карамзіной. Ёсць і творчы адбітак — фільм пра мсье Верду, які знішчае ўсіх стрэчных жанчын у імя адной-адзінай.

Аднак Чаплін не выйшаў да пачуццяў шырокага гледача, карціна не была скіравана вонку, да гэтага гледача, а ў сябе, усярэдзіну, углыб. Чаплін не здолеў перамагчы вузкасць уласнай біяграфіі, таму пры ўсім піетэце да вялікага майстра Эйзенштэйн не падпускае яго да Пушкіна.

Другімі словамі, Пушкін для Эйзенштэйна, для мяне, для ўсіх на свеце — з'ява над часам, Чаплін — з'ява часу, геній, цяжка адмовіць яму ў гэтым, але толькі XX стагоддзя.

І апошняе, чым ашаламаніў, узрушыў Эйзенштэйн. Пушкін, вядома ўсім, аддаў Гогалю два сюжэты: «Мёртвых душ» і «Рэвізора». Не толькі праз шчодрасць генія, дакладней сказаць — насуперак гэтай шчодрасці. Гэтыя сюжэты былі яму проста не патрэбны, заставаліся ў баку ад асноўнай пушкінскай тэмы, не прывязваліся да яе ніводным ражком.

Тэма Гогаля — немагчымасць жаніцца: «Жаніцьба». Першае публічнае выступленне насіла назву «Жанчына». Да неажыццёўленай жаніцьбы ён звяртаецца неаднойчы.

Пушкін стварыў трагедыю, Гогаль хацеў стварыць яе, нават абвясціў у друку аб выхадзе ў свет гістарычнай трагедыі. Можа, падсвядома, але празаік мучыўся рэўнасцю да паэта і, не здолеўшы стварыць трагедыю, напісаў пародыю... на «Барыса Гадунова». Гэта «Рэвізор». Успамінайце і параўноўвайце: самазванец і Хлестакоў, шапка манамаха і футарал на га-

лаве гараднічага, Марына і Марыя Антонаўна, нямая сцэна і «народ безмолствует»...

Я дазволіў сабе доўгія выпіскі і пераказы, бо выказванні Эйзенштэйна амаль невядомыя, а кожнае чалавечае прасвятленне зроку трэба пашыраць на іншыя вочы.

## СЛОВА — ВЫХАВАЛЬНІК

Не надаючы яму ролі месіянскай, усё ж мяркую, што слова літаратуры павінна станавіцца на дапамогу грамадству, школе, сям'і, пачынаючы ад самага кволага малку выхаванцаў. Ісці, несці, падтрымліваць нязгасны агонь захаплення працоўнымі заняткамі ва ўсіх найдрабнейшых, даступных узросту відах, мацаваць упэўненасць, што кожная праца — фастрыгаванне рукава і стварэнне міжпланетнага карабля — добрая, выконваць яе — пачэсна.

Формы такой місіі пісьменніцкага слова пералічаць доўга і, відаць, без патрэбы: важна не спускаць усяго гэтага з вока, тады знойдуцца і адпаведныя спосабы найбольш дзейснага ўплыву. Няхай нашы кнігі, выходзячы на радыё, тэлебачанне, у кіно, шырэй даследуюць працу, працэс і прагрэс яе, глыбей заглядаюць у душы яе натхняльнікаў і выканаўцаў, вышэй падымаюць плён чалавечага розуму і рук.

З абуджэннем любові да яе, праца робіцца творчай, свае, самастойныя думкі засяляюць свядомасць чалавека, патрэба ў самастойнай дзейнасці перарастае ў саму такую дзейнасць.

А хіба не ў гэтым сэнс чалавечага жыцця? Таго, што маем, і таго, што дамагаемся.

Кукуйо — жук, які вылучае святло (Багамскі востраў), свеціць і свеціцца ён і пасля высушвання. Падчас іспана-амерыканскай вайны кукуйо набівалі ў бутэлькі: святла хапала для хірургічных аперацый.

Раздураныя паслугамі розных крыніц святла, электрычнасці, а ў апошнія часы лазераў, мы забываем часамі, што першы абавязак чалавека — хоць крыху свяціцца самому.

*1959—1976*

## БЕРАГІ ЗАЛАТЫЯ НЯМІГІ

Вам даводзілася бачыць Нямігу? Не, не тую, што як вымавілася, дык і ўспомнілася,— вы падумалі пра вуліцу. Была такая, была. Вузенькая, крывая, не сказаць каб бліскучай чысціні, бо адкуль жа, як адзначыла прыказка, сіраце бацьку ўзяць?

Прысадзістыя, не дужа павабныя для вока мураванкі з двух бакоў, а ў іх за плячыма, а то і выпаўзшы на саменькі тратуар, дажывалі веку драўляныя хаціны з пульхнымі камякамі зялёнага моху на гонтах. Гэта колішняе прыпірышча беднага гарадскога люду, напакаванае малымі і дарослымі жыхарамі ад падлогі аж пад столь.

Перад кірмашамі ў заезныя дамы вуліцы цягнуліся ваколічныя фурманкі з парасячымі лычамі і гусінымі галовамі, павысаджванымі з клетак. Патыхала свежападпечанай скарынкай з невялічкіх пякарань, загусаў гоман у расчыненых дзвярах майстэрань саматужнікаў — шаўцоў, краўцоў, шапачнікаў ды шмат якіх іншых вырабнікоў тандэтнага — на адзін раз надзець ці абуць — тавару. Што ж, якія грошы, такі і мацунак!

Сама больш тут было крам і крамак, называных дробнымі, бо гандлявалі яны рознай, на ўсякую патрэбу, дробяззю і продалі не агулам, а ў раздроб, не пудамі — а чвэрткамі фунта, калі ж трэба, зважаць яшчэ менш: два ці тры лоты. Словам, бяры на колькі ёсць у кішэні грошай, але бяры. Хоць сабе адну іголку, але дай утаргаваць, не абміні. Ні ў чым тут не будзе адмовы, усяго ёсць патроху, і ўсё ляжыць поруч, на адной паліцы: вакса для ботаў, сыр, соль і перац, доўгія, як алоўкі, цукеркі, свечкі з лою, вясло тараноў і абавязковая бочка селядцоў у парозе.

У дварах і ў брамах стаяць, чакаючы работы, барадатыя пільшчыкі з калунамі за поясам, тынкоўшчыкі ў зашмальцаваных хвартухах, абойшчыкі з вядзерцамі на клей і тоўстымі квачамі. Перакупкі і перакупшчыкі густым роем снуюць каля вазоў, дзьмуць пад пер'е курам і певупам, пазнаюць, ці не

старыя і не хворыя, сунуцца па драўляным насціле і проста па бруку. Адны падтрэсаюць на руках танныя кашулі і чаравікі, другія цягнуць перад сабой кашы абаранкаў і кухенаў, выхваляючы на ўсе галасы сваё дабро. Не падхваліўшы, не зазваўшы пакупца, нічога не прадасі, бо таўкуцца ўсе гэтыя людзі сярод такой, як яны самі, гарадской галоты, ахопленай прагай зарабіць хоць на адзін дзень, хоць на лусту хлеба.

Не апошні ў гэтым натоўпе гатунак прадаўцоў, што не маюць ніякіх адносін да сродкаў хоць якой вытворчасці, бо і ніякай вартасці не мае практычна іхні тавар. Таму яны павінны быць самымі спрытнымі, вёрткімі і галаснымі. Гэта — хлапчукі. Неабмежаваная крыніца іхняга прадукту — бліжэйшы калодзеж, сцягнуты з плота гарлач і конаўка — усё абсталяванне. «Каму-у ва-ады хаа-лод-ненькай!» — крычаць хлопцы, шмыгаюць пад рукі і абавязкова апынаюцца ў патрэбны момант каля таго, каму заманецца піць. Заработкі тут зусім марныя, ніхто не разлічваецца грашыма: вось табе, небажатка, яблык або паўабаранка. І хопіць, бяжы далей здароў...

Усё ж не вуліцу Нямігу мерылася выклікаць рука на вашы вочы. Намалявалася яна такою, як была ў пачатку стагоддзя і нават пазней, ужо на маёй студэнцкай памяці, у 20-я гады.

На тым месцы, дзе пралягала старая вуліца, цяпер — шырокі праспект, там раскошна хадзіць машынам, ёсць просты выхад на суседнія магістралі, а паабапал з дапамогаю толу і разнастайнай руйнавальнай тэхнікі вызвалена і гуляе колькі хочаш месца. Трэба думаць, тут, узброіўшыся ўпартай вынаходлівасцю і нястрымнай рашучасцю прыбіраць усё, на іх думку, лішняе, сучасныя забудоўшчыкі бліснуць такімі збудаваннямі, каб усцешыліся сэрцам мы цяпер і прымацоўвалі на іх ахоўчыя дошкі нашы ўдзячныя патомкі.

Бо што ён мог, той продак, прыгонны мужычок, з сякеркай, рыдлёвачкай, з каменем на вяровачцы замест адвеса? Усяго толькі і пабудаваў што крамлі ў многіх рускіх гарадах, Кіжы, касцёлы Ганны і Пятра ў Вільнюсе, Мірскі замак і Каложу ў нас! Аднак для абароны ад неасцярожных і недасведча-

ных рук узнесенага з даўніх часаў хараства, памяці аб людзях і падзеях прыняты высокагуманны, высокасправядлівы савецкі закон пра ахову помнікаў.

Таму і ўспамянуў я пра Нямігу-раку, хоць і гаварыў спачатку пра Нямігу-вуліцу: яна выведзе нас на прадмет размовы. Прайдзіце ад моста цераз Свіслач на вуліцы Горкага ў кірунку Рэспубліканскай. З левага боку ўгары стаіць яшчэ некалькі дамоў. Сам рэльеф скапанага пагорка падказвае, што тут, як мяркуюць некаторыя археолагі, трымаючыся крэпасных умацаванняў, хінучыся да Замчышча, пачала складацца вуліца Няміга, уздоўж ракі, ад якой яна прыняла сваё імя. Было гэта ні многа ні мала блізка XII стагоддзя, за восемсот, прыкладна, гадоў да нашай сённяшняй размовы.

Хочаш не хочаш, а схілі галаву перад часам!

Дык вось прайдзіцеся адвячоркам, паглядзіце, пакуль не зараўлі яшчэ раз бульдозеры, раўняючы пласты шматвяковага ўзросту з крошкай, нагрэбенай на бліжэйшым тарфяніску.

На гэтым памяць пра Нямігу-вуліцу можа і скончыцца: шустрыя ахвотнікі адбіраць ад старажытных паселішчаў і мясцінак здабытыя імі ў баях і ў працы назвы, звычайна не марудзяць з перайменаваннямі, як ні пярэчыць гэтаму гісторыя, уклад тагачаснага жыцця, час, калі ўзнікала тое ці іншае імя або назва.

Вось, Лагойскі тракт, які пазней забудаваўся ў гарадскую вуліцу, атрымаў сваё імя не так сабе, а таму, што выводзіў на шлях у Маскву цераз Лагойск (Лагожск), значны гандлёвы прыпынак, адзін з найлепей умацаваных гарадкоў Полацкага княства.

Відаць, і назвы нашых сёл, гарадоў і вуліц — іх таксама трэба браць пад ахову — разам з чалавечымі прозвішчамі складаюць самае яркае ў моўным запасе кожнай мовы і нясуць водгукі гісторыі кожнага народа.

Нездарма К. Д Ушынскі зазначаў, што ў мове народа адлюстроўваецца не толькі «...прырода роднай краіны, а і ўся гісторыя духоўнага жыцця народа». (Гл. артыкул «Мова ў газеце».)

Аднак мы з вамі выйшлі на праходку каля рэштак Нямігі. Прыслухоўвайцеся ідучы, ці не булькоча

ў вас што пад нагамі. Там, глыбока ўнізе, глыбока і надзейна замкнута ў бетонную трубу Няміга-рака.

Тая самая, не аддаць пашаны якой не можа ніводзін гісторык, расказваючы пра вельмі раннюю пару ўзнікнення, фармавання і станаўлення рускага, украінскага і беларускага народаў. Не можа і не абмінае, бо гэта рака агульнай нашай вялікай крыві і нязгаснай памяці, і таму найвялікшы скарб трох магутных нацый.

«На Нямізе снапы сцелюць галовамі, іх малоцяць цапамі сталёвымі» — так пераклаў Янка Купала паданне невядомага летапісца пра бой 1067 года. Нездарма ж напісаў той: «Немізе кровaві брэзе...» Берагі ракі крывавіліся не раз і не двойчы, сярод прамінуўшых стагоддзяў, глядзі, ці знойдзеш такое, калі б не звінела ў горадзе зброя яго абаронцаў і заваёўнікаў. Ад князёў кіеўскіх, полацкіх, літоўскіх і татарскіх цемнікаў да каралёў Польшчы, польных гетманаў і маршалаў Напалеона.

Тут збіраліся атрады паўстанцаў, каб выканаць даручэнні Кастуся Каліноўскага, не сціхалі бунты рабочых і рамеснікаў за волю і долю, нездарма ж у Мінску прабіла гадзіна абвясціць жыццё сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Расіі.

Берагі Нямігі прынялі кроў незабыўнага паўстання 1905 года, тут пралілася святая кроў змагароў за Кастрычніцкую перамогу і незлічонай арміі байцоў невідочнага фронту, які безупынна, цвёрда і бязлітасна выводзіў са строю тылы ворага ў апошнюю вайну.

Калі мы ўдумваемся ў нялёгкі змест мужнай годнасці Герой, якую здабыў наш горад, дык поруч з несмяротным іменем гэтым неадменна становіцца і яшчэ адно: Падпольшчык! Колькі падполляў сабраў, перахаваў, узброіў, рушыў у дзеянне горад толькі на пачатку стагоддзя! І самае бясстрашнае, няўміручае, трывалае — бяспрыкладны ўзор барацьбы за свабоду і незалежнасць народа — гэта падполле, якое змагалася, цярпела горкія няўдачы, зноў і зноў падымалася, гартавала і множыла шэрагі, каб працягваць вызваленчую работу на новым месцы, у новым выглядзе і не даваць спакою фашысцкім акупантам аж да скону іх, да выгнання іх з савецкай зямлі.

Многа чаго прыгадваецца, калі вымавіш імя Няміга. Узнікнуць і залунаюць галасы бязвінных ахвяр, сагнаных фашыстамі ў гета, абрабаваных і вынішчаных да астатку.

Апошні раз я ўбачыў раку, праязджаючы па вуліцы Горкага, былой Аляксандраўскай. За мостам, перад Кацярынінскай царквой, была ўзарвана частка вуліцы. Відаць, праз няўзгодненасць работы асенізатараў, цеплатэхнікаў, газавікоў і тэлефоншчыкаў — толькі адны паспеюць пакласці свае трубы і драты і заліць усё асфальтам, як з'яўляюцца другія і пачынаюць ламаць у тым самым месцы. Дык вось у разрытай яміне, на глыбіні двух-трох метраў, стаяла амаль без руху чорная пляма бруднай жыжкі, не вады, хутчэй смалы.

Гэта і была Няміга. Я спыніўся і стаяў, зняўшы шапку,— нічога не зробіш, апошняя сустрэча! З самай старажытнай, не толькі беларускай, але агульнаславянскай ракою. Гэта ўжо ўсё, праводзіны.

Раптам падумалася, што і сягоння гэта рэчка можа быць жывая, як гадоў пяцьдзесят таму назад, калі хавалася яна пад драўляным памостам, дзе кіпеў і сварыўся, маніў і ашукваў, карміў людзей і карміўся сам маленькі рыначак, пра які мы гаварылі вышэй.

Я бачыў раку жывою на свае вочы, ходзячы на Старажоўку — я вяртаўся дамоў з лекцый акурат цераз Нямігу. Вясною, як урачыста выслаўляўся адзін з нашых студэнцкіх падручнікаў, рака нібыта ўспамінала сваё слаўнае мінулае, падымалася вышэй берагоў: залівала памост і змятала ўсю наліп фанерных крамак і майстэрань, асуджаючы на галадаванне іхніх уласнікаў.

Крый мяне божа, каб я захацеў зноў вярнуць усю гэту мурашыную мітусню бедных людзей вакол кавалка хлеба. Захацеў зноў пабачыць убогую вуліцу з конкаю і драўляны насціл над слаўнай ракою. Гэта было б так жа звышнатуральна і агідна, як пачаць харчавацца стравамі, прыгатаванымі без дотыку агню.

А вось хадзіць штодня па беразе Нямігі, поўнай чыстае, хай не крынічнай вады,— хачу. І магу, і калі не здолею сам, дык успамянуць некалі малодшыя,

багацейшыя і ўвішнейшыя за нас нашчадкі і зробяць гэту мару яваю.

Мне выпадала ўдача сустракацца з Нямігай і пазней, і не толькі ў часе паводак. Запар некалькі гадоў я хадзіў па вуліцы Мяснікова. Там, дзе ад яе адгаліноўваліся вуліцы Карла Лібкнехта і Розы Люксембург, рэчка цякла кшталтам арыка, проста пад вокнамі ў дамоў, узятая пад пераходныя масткі да крам і ганкаў, и то і проста бегла адкрытая — па канаўцы ўздоўж тратуара. І адсвечвала даволі чыстай вадзіцай, калі той удавалася самой адфільтравацца ад памыяў і ўсялякіх лупін, бо гаспадыні, далёка не хадзіўшы, спаражнялі вёдры са смеццем з парога проста ў рышток.

Прастарней і чысцей плылося Нямізе вышэй, на вуліцы Нагіна. Тут, між зялёных садкоў, выглядала яна зусім прыстойным ручаём, цурчала нават пад мостам цераз неіснуючы цяпер Газетны завулак. Сляды ракі губляліся для мяне недалёка за горадам, паблізу вёскі Пятроўшчына — дзе і цяпер відна балацяная западзіна і асабліва вясною прыкметна нешырокае ручво са жвавейшага выгляду ўзрэчнай травою. Ці не з тамтых колішніх балотцаў і пачыналася наша рака?

Словам, не так даўно, у 20-я, 30-я гады дый нават пасля вайны, Няміга была хоць і невялікай, але даволі вясёлай воднай артэрыяй, якая пры жаданні і ўмелым доглядзе магла б стаць каналам і дадаць аздобы і карысці не надта багатай на ваду нашай сталіцы. Магчыма, таму-сяму здалося: замінае ручаіна просталінейнай, пад лінейку і аловак на ватмане, пракладцы магістраляў і пешаходных шляхоў. Вось тут і патрэбна было, каб добрае жаданне і немалое ўмельства прытрымала занадта рашучую руку, каб зберагласся жывою старонка гісторыі ў вялікім, сучасным індустрыяльным цэнтры.

Перапланіроўка вуліц, назвы якіх толькі што ўспаміналіся, не паказала, на жаль, такіх якасцей у тых, хто яе выконваў. Быў зроблен выгляд, нібыта рака даўно не існуе і няма ніякай рацыі пакідаць на паверхні яе перасохшыя шлункі, лепш за ўсё дастойна засыпаць пакойніцу пяском і заліць для на-

дзейнасці асфальтам, каб не вылузалася выпадкам з-пад дачаснай надтрунніцы.

Падстаў навуковых і фактычных для такіх акцый відавочна бракавала. Сцвярджэнне, нібыта рака «у 19 ст. у межах горада заключана ў калектар» (БелСЭ, т. 7, стар. 553), не можа ўстаяць ні перад памяццю гараджан, ні перад дакументамі.

У 1850 годзе Мінскае губернскае праўленне вырашыла будаўніцтва канала для папярэджання паводак на Нямізе адкласці «аж да ўмацавання гарадскіх прыбыткаў», для гэтага, бачыце, патрабавалася аж 1015 рублёў! («Гісторыя Мінска». Мн., 1957, стар. 94).

Даводзілася абмежавацца дашчаным насцілам і жолабам на сутоках са Свіслаччу. У жалезабетонную трубу частку Нямігі завялі толькі ў 1926 годзе, тады было «выканана каля 70 працэнтаў гэтай работы» (зб. «Белорусская Советская Социалистическая Республика». Мінск, 1927, стар. 389).

Ну, добра, тое, што было, мінула. Няміга цяпер сапраўды ў надзейным калектары, сляды яе можна адшукаць хіба што на старых планах горада.

А якое рады даць рацэ і ці можна зрабіць гэта? — думалася мне над раскапанай вуліцай, над чорнай, як дзёгаць, вадою.

— Не гаруйце! — раптам абазваўся поруч многа маладзейшы за мяне чалавек.— На добры лад рэчка можа яшчэ жыць.

Мы прайшлі на скверчык каля опернага тэатра і закурылі. Мой суразмоўнік наморшчыў лоб:

— Пластмасы па мацунку не горш за самыя трывалыя металы і бетонныя сумесі. Апрача ўсяго іншага, яны — празрыстыя.

— Дык вы думаеце?

— Не думаю, а цвёрда перакананы, што на пэўным адрэзку Нямігі бетонныя трубы можна замяніць пластмасавымі.

— А як хадзіць і ездзіць?

— Калупаць усю вуліцу не трэба. Даволі раскапаць дзе-небудзь метраў 20 каля вусця... Скажам, на плошчы 8 Сакавіка. Або на зусім незабудаванай мясціне.— Мой суразмоўнік разрагатаўся: — Ды не

глядзіце вы на мяне, як на вар'ята! Я інжынер-каналізацыйнік...

Ён гаварыў так захоплена і маляўніча, што неўзабаве мне ўжо ўявілася, як гэта ўсё можа выглядаць. Ахайны канал — бетанаваныя сцены і дно — зверху надзейна накрыты светлымі празрыстымі плітамі. А пад імі — у такім жа пластмасавым калектары — плюскоча, завіхаецца жвавая ручаіна, каб хутчэй сустрэцца з большай суседкай-ракой.

— Ёсць весткі,— працягваў мой новы знаёмы,— быццам такія рэчы ўжо зрабілі японцы і яшчэ недзе...

— Відаць, кусаецца?

— Не больш, чым самы звычайны калектар. Грошы, вядома, трэба лічыць, але ў такіх выпадках, калі вяртаецца да жыцця горад, рака, а яна цячэ праз гісторыю трох народаў...

Ён раптам шырока, па-дзіцячы, усміхнуўся.

— Хочаце выслухаць праграму-максімум? Каля самага вытоку ракі, адшукаць яго не так і цяжка, не дазволіць пераворваць і засыпаць друзам балаціны. І не зводзіць там гаі з хмызнякамі, а пасадзіць іх як паболей. Гэта непазбежна будзе рабіцца ў парадку стварэння зялёных зон. Толькі трэба ўзяцца так, каб ніводзін волас не ўпаў з галавы зялёнага друга. Там вось, недалёка ад вытоку, раку трэба падперці, зрабіць вадасховішча, хаця б дробненькае, як на колішніх вадзяных млынах. Перш, вядома, ад бруду ачысціць ручво і дно, берагі аблямаваць у камень. І «караць на горла», як гаварылі продкі, кожнага, хто капне хоць адну капачку бруду, забудзецца падабраць за сабою цэлафанавую абгортку — яны ж гадамі не разбураюцца,— газеціну, бляшанку з-пад кансерваў.

І паплыве ў горад чыстая вада, паўстане перад вачыма славутая летапісная рака, гляне з-пад зямлі проста там, дзе мы з вамі ўмовіліся накрыць плошчу ці вуліцу празрыстымі плітамі.

Малюнак прымусіў памаўчаць і прамоўцу і слухача.

— От бы слава была мінчанам! От бы людзей наехала кінуць вокам — якая ж яна, Няміга, пакланіцца яе свяшчэнным берагам! Не кажу пра археолагаў: берагавыя знаходкі зычаць іхняй навуцы і

ўсім нам багата цікавага. Пэўна, не адна наша з вамі справа — аднаўленне старажытнай ракі. Ад нас патрабуецца драбочак дражджэй, бр дзіла, каб зварушыліся ў ход думка і намер. З цяперашняй землякопнай тэхнікай выдаткаў тут на капейкі, а славы народнае — на доўгія вякі!

Мы пачалі меркаваць, дзе ж узяць гэтыя капейкі? Яны ўсе на ўліку, і мы, як вядома, ахвотней выдаткуем іх на бальніцы, жытло, дзіцячыя сады. Хай нашы людзі хораша жывуць, спачываюць, гадуюць дужых дзяцей. Але ж не бязбацькавічаў, а грамадзян, якія маюць кроўныя повязі з мінулым і наступным.

— А калі пусціць на гэтую справу толькі дзесятую ці сотую капейку, якую можна ашчадзіць, ашчадзіць, а не адарваць ад развіцця нашай культуры? Сродкаў будзе лічыць не пералічыць!

Ён прыпаліў ад запальнічкі і запытальна паглядзеў на мяне:

— Чакаю пярэчання! Вельмі проста. Кожны дзень у горадзе Мінску, згарае, выкідваецца на сметнік, разрываецца і нішчыцца прыкладна мільён, калі не больш, аркушаў — падліковых, выдавецкіх — паперы. Гавару толькі пра газеты, іх дасюль толкам не збіраюць для паўторнай перапрацоўкі. Другімі словамі, кожны дзень мы не здрыгануўшыся нішчым цэлую дуброву, пускаем на вецер лясы. А лямпачкі ў пад'ездах шматпавярховых дамоў? Гараць цэлыя суткі, а іх можна ўключаць толькі на патрэбны час, каб увайсці ў кватэру. Спосабаў і сродкаў не пералічыш.

Не даўшы мне выказаць згоды, ён працягваў:

— Дый не варта грэбаваць рублём ці саракоўкаю, што людзі дадуць, кожны дасць, каму страта старасвецкага помніка баліць не менш, чым ваенныя, скажам, раны.

Мой суразмоўнік падняўся:

— Ці не хопіць лічыць? Ёсць у нас дзяржава, не бедная, шчодрая на кожную высокую турботу. Толькі мы можам, больш таго, павінны зрабіць усё самі, у імя грамадзянскага абавязку, кроўнай любові народа да ўсяго, што належыць яму і павялічвае яго скарбы ў мінулым і заўтрашнім.

Мы пацiснулi рукi на развiтанне.

— Успамянiце маё слова: не сягоння, дык заўтра берагi Нямiгi стануць лiтаральна залатымi.

*

Гэтыя нататкi былi пачаты даволi даўно. Аднак анi не пастарэла высакародная задума вярнуць тром братнiм народам iх слаўную раку. Пры сучасных магчымасцях тэхнiкi такi праект не выглядае фантастычным. Матэрыяльныя патраты — дробязныя, не паспееш вокам мiргнуць, як акупяцца. А маральныя, духоўныя здабыткi нельга нi ацанiць, нi перадаць словамi.

Мiнску дарагая кожная кропля вады. Ён больш чым мiльянер ужо на жыхароў, збiраецца будаваць метро, не штогод i не штоквартал, а штомесяц дае жыццё новым дамам, раджае новыя ўстановы i, скажам самi сабе ў вочы, часамi густавата ставiць завод пры заводзе.

Усiх iх, людзей, заводы, установы, машыны, трэба абмыць i напаiць.

Апрача Свiслачы i Нямiгi ў горада ёсць яшчэ рэкi. Некаторыя страцiлi свае iмёны. Часам успамiнаецца Цна або Антонаўка. Яны бедна i плытка цурчаць, бруяцца. Адна праз пасёлак Усход-I, другая iдзе пад вулiцай Казлова (яна некалi ўтварала тут Доўгi Брод), выбягае каля аўтазавода, не даючы высыхаць невялiкаму балотцу.

Як метадычна, планамерна i бязлiтасна нi завальваюцца шлакам i смеццем, як нi забруджваюцца гэтыя рэкi гарадскiмi адыходамi, як нi залiваюцца жыжкай з каналiзацыйных труб i вулiчных рыштакоў, а ўсё ж жывуць! Як тая трава, скубеная-перaскубеная, полатая-пераполатая, што бессмяротна заўважыў на гарадскiм бруку Леў Талстой. А каб iх не забiваць, а ачысцiць, далiць вадою паводак, перакрыць шлюзамi i павесцi ў новыя кварталы горада, а? Разам са Свiслаччу, а яна ўжо на значнай сваёй частцы апранулася ў бетон, папрыгажэла i пашырэла i чакае ачысткi ад мулу, чым могуць азалацiцца прыгарадныя калгасы, вывезшы яго на сваё поле,— разам са Свiслаччу, паўторым, быў бы не-

благі ансамбль. І Мінск, уладаючы Заслаўскім, Воўчкавіцкім, Лагойскім і Вілейскім вадасховішчамі, стаў бы дужэйшы, прыгажэйшы — людзі зайздросцілі б!

У гэтым сэнсе паказальны клопат пра Дзясну. Шырока разгарнуў гэтую работу на Браншчыне абласны Камітэт партыі з дапамогай усіх асоб і ўстаноў, каму дарагая прырода Радзімы. Тут і абсадка дрэвамі берагоў малых рэк, што жывяць вялікую, і ачыстка іх, і стварэнне дробных вадасховішчаў на месцах былых вадзяных млыноў дый многа чаго іншага.

У гэтай добрай справе выяўляецца турбота не пра адну прыроду, а і пра гісторыю. Вышэй мы бачылі, як К. Д. Ушынскі найлепшым чынам давёў, што хавае ў сабе гісторыю і мова.

Так разважыўшы, атрымліваецца вельмі шырокі фронт ахоўнікаў каштоўнасцей і скарбаў, створаных народам ва ўсе часы. Як бачым, тут: гісторыкі, археолагі, меліяратары, мовазнаўцы, мастакі, архітэктары, пісьменнікі, людзі розных спецыяльнасцей, нястомныя збіральнікі, шукальнікі, аматары старасветчыны.

Такім кроўна зацікаўленым, самааддданым гуртам можна, як кажуць, мост да зор пабудаваць.

І вось дзіўная рэч!

Мы — людзі адной ідэі, адной мэты, што лучаць нас у адно грамадства, без ніякіх набатаў павінны прыкладаць усе сілы да беражэння водных і лясных рэсурсаў, старасветчыны і хараства краіны. Мы — не грамадзяне, патрыёты, значыць, павінны клапаціцца душа ў душу з роўнай захопленасцю і адказнасцю аб справах, якія ў роўнай меры абыходзяць нам усім.

Тым часам няма і дасюль нічога лягчэйшага, як зачапіць цягачом за рог старажытнай сцяны ці атруціць мазутам унікальны вадаём.

Мы не заўсёды помнім, што, напрыклад, у Полацка, які жыў, ваяваў з'ядноўваў людзей і землі аж 1100 год, ёсць равеснік — Тураў, следам ідзе зусім забыты Давыд-Гарадок, далей Петрыкаў і Навагрудак. З 986 года ўспамінаецца ў летапісах Заслаўе — не паспееш агледзецца, як яму 1000 настукае. А там на чарзе Орша і Копысь (1119 год). Вось бы і нагадваць пакрысе кнігамі, альбомамі, як нялёгка і слаўна

жылі яны, нашы воіны і кажамякі, гутнікі і руднікі, мукамолы і грэчкасеі.

Што датычыць самога Мінска, дык у ім не так і шмат засталося з мінулых часаў. Аднак вуліцы Бакуніна, Герцэна, Музыкальны завулак, плошча Свабоды, Інтэрнацыянальная і Рэвалюцыйная вуліцы яшчэ ўтрымалі на сабе збудаванні — бясспрэчныя помнікі ў сілу гістарычнай і мастацкай вартасці. Пра гэта сабралі даволі матэрыялу і, на маю думку, зладжылі сур'ёзна абгрунтаваныя дакладныя запіскі Рэстаўрацыйныя майстэрні Міністэрства культуры БССР. Ёсць спісы дамоў, якія падлягаюць ахове, вызначана, чым яны каштоўныя, прыкінута нават, як можна выкарыстаць іх у сучасным горадзе, не без жалю адзначаны таксама і пралікі ў новых забудовах і перапланіроўках. Хацелася б, каб шырэй і паўней ведала гэты матэрыял наша грамадскасць і магла памеркаваць і выказацца.

Ніводзін са старых муроў не можа быць зачэплены рэканструкцыяй ці іншым спосабам без падрабязнага даследавання, устанаўлення часу яго пабудовы (сцены, падмурак, грунт) і без складання адпаведнай дакументацыі.

Гарачымі былі водгукі на выстаўку Сенежскай эксперыментальнай студыі (1975), дзе рабілася спроба прыстасаваць старыя будынкі «Высокага места» ў Мінску да патрэб і профілю сучаснага вялікага горада. Не з усім можна пагадзіцца ў прапановах сенежцаў, але за ініцыятыву — на жаль, яна ішла не ад мясцовых архітэктараў — і за цэлы шэраг рашэнняў належыць толькі падзякаваць. Стала відавочна, што стары горад можна не толькі захаваць, а і зрабіць неад'емнай часткай новага.

Адшукаць карэнне ўсіх няўвязак у захаванні помнікаў і прыроды не вельмі складана, хоць гэта справа сацыёлагаў і эканамістаў. Ясна адно: тадысяды даводзіцца ісці на выйгрыш у часе, каб як мага хутчэй пабудаваць дамоў, выпусціць пабольш прадукцыі, якая трэба краіне і чалавеку.

Ясна і другое, што наша краіна, дужэйшая за іншыя ў свеце іменна сваім планавым пачаткам, які выключае анархію выпуску, перавытворчасць і недавытворчасць, гэта краіна толькі адна ў свеце мае сілу

знайсці і знаходзіць разумныя рашэнні, каб падымаючы і развіваючы новае, не пакідаць у ценю і ў крыўдзе скарбы мінулых пакаленняў.

Не менш ясна і грозна трэцяе: кожная ўтрата ў свеце прыроды і старажытнасці — незваротная. Мы творым новую гісторыю чалавецтва, шануючы і ашчаджаючы ўсё, што зрабіла яно для таго, каб стаць нам тымі, кім мы ёсць, пазнаць ісціну розумам, узброеным мудрасцю вякоў, і ствараць заўтрашні дзень уласнымі рукамі, самымі магутнымі з вядомых ад пачатку летазлічэння, бо ў нашай сіле абзываюцца ўсе сілы дабра, што калі-небудзь нараджаліся на белым свеце.

*1976*

# ГЭТАК ЯНО РАБІЛАСЯ

*Аўтабіяграфічныя нататкі*

Перад тым як стаць пісьменнікам, я перш за ўсё мусіў нарадзіцца. Адразу ж, не адкладаючы надоўга абвяшчэння свае незалежнасці, зароў немым голасам. Далей усё пайшло прызвычаеным парадкам: смактаў суслу, вучыўся гаварыць і хадзіць, а пасля бегаў у адшпіленай ззаду прыналежнасці хлапечага туалету, якая ўтрымліваецца шлейкай цераз плячо. Далейшым крокам па шляху сталасці і ўзмужання былі раптоўныя адведзіны гуркоў і маку ў чужых агародах, бо там, як вядома, гароднiна расце куды смачнейшая, чым на сваёй градзе.

Аднак усе гэтыя цікавыя і небескарысныя заняткі і забавы апісаны з большай і меншай ступенню падрабязнасці слаўнымі папярэднікамі і цяперашнімі таварышамі па пяру.

Пастараюся расказваць нерасказанае. І толькі тое, што, на маю думку, слязою ці ўсмешкаю паспрыяла стаць на сённяшнюю дарогу.

Расказвае маці:

«Табе было два гады. Падвечар я сядзела з табою на ганку. Май недзе ў палавіну ўбіраўся. Цёпла, бэз дацвітае, і ў кустах майскія жукі гудуць. Ударыцца каторы аб ганачны слупок і гупае пад ногі. Бацька вярнуўся з поля. Прысеў каля нас і падсунуў да цябе хрушча:

— Алесь, што гэта?

— Зюк.

Жук трохі адпоўзся, расправіў крыльцы і падняўся ў паветра:

— Бз-з-з-з!

Ты спалохаўся, адхапіў руку, як ад гарачага. Потым павёў вачыма за летуном і сказаў пошапкі, з бояззю і павагай:

— Птуська!»

Працытаваўшы такую немалаважную падрабязнасць пісьменніцкай біяграфіі, крытыкі звычайна дадаюць каментарый прыкладна гэтакага зместу:

«Ад таго часу і зарадзілася ў душы будучага пісьменніка імкненне, праўда, яшчэ не ўсвядомленае цалкам, паспрабаваць свае сілы на ўзлёце. Не літаральна, вядома, а ўзляцець з дапамогаю слова...»

І гэтак далей і да таго падобнае...

Прызнаюся шчыра, якім прыемным ні было б для мяне такое глыбокае пранікненне ў псіхалогію творчасці, нічога падобнага я не адчуваў і нікуды ляцець не збіраўся. Ці то ад нечаканасці, ці то ад здзіўлення, што нікчэмны папаўзун на вачах ператварыўся ў істоту крылатую і ўзняўся да недасяжнага на той мой рост і магчымасці бэзавага куста,— ад усяго гэтага я сцішыўся.

Слова «сцішыўся» ў нашай вёсцы азначала, што здарылася пэўная непрыемнасць, хоць і не самая большая, але даволі частая ў кволым узросце, калі малады чалавек, загуляўшыся, увесь у крыку і беганіне, забывае пра ўсё і раптам, адчуўшы віну і баючыся кары, робіцца рахманы і ціхенькі. Вось за гэта самае я зарабіў пляскача і быў скінуты з матчыных рук.

Далей няхай гаворыць сама маці: расказвае яна ямчэй і, галоўнае, значна карацей. Так, напрыклад, каб перадаць мой стан пасля ўзлёту жука, ёй спатрэбілася ўсяго адно слова, як таго і вымагаў здаровы сялянскі лаканізм.

«Трохі парумзаўшы, ты прыпёрся да бацькавага калена:

— Як ён ляціць, тата?

Пытаеш, быццам дарослы, мы аж вочы вылупілі. Бацька гутнуў цябе на назе і сказаў:

— Разгоніцца шпарка і ляціць.

Тут падбег палашчыцца наш сабачка Рыжман. Ты зірнуў на яго і кажаш:

— І цюцька паляціць?

— Не, сынок, у жука крылы ёсць. Растуць вось тут.

Бацька паставіў далонь рубам і правёў табе паміж лапатак.

Пасля гэтага вечара, бачу я, ты зноў пачаў бегаць рачкі. І та́к доўга поўзаў на чатырох: відаць, не надта на дзве падпоры спадзяваўся. Але пакрысе асмеліўся. А тут — як быццам што благое здзеілася:

усё на чатырох і на чатырох! Бяжыш скоранька-скоранька, адале распрастаеш рукі, памахаеш імі і зноў ходу. Нарэшце бацька здагадаўся:

— Гэта ён, дурань, разганяецца, ляцець хоча.

Потым ты сам сябе выказаў. Раніцою ўстаў і, не апранаючыся, да мяне:

— Мама, памацай, якія ў мяне крылы.

Я кажу: адчапіся, няма ў мяне часу, а ты мудрэй заходжваешся: глядзі ды глядзі! Ляпнула я табе па спіне, пацёрла рукою:

— Ну, бачыш: гладка, нічога няма!

А ты балбочаш, што зараз лётаў і над нашай хатаю, і над усімі Прусамі. Нешта прысніў, мусіць.

І яшчэ смешнае. Ты ўжо велікаваты быў. Не помню, хто цябе напалохаў, нібы ў лабатых хлапчукоў рогі растуць. Дык ты, абы прачнуўся, адразу мацаеш лабаціну: ці не прарэзаўся часам ражок».

Працяг гэтай гісторыі я ўспамінаю сам. Старэйшы брат са школьным таварышам чыталі ў свіронку, дзе мы спалі ўсё лета, чорную гісторыю захадаў і подступаў да забойства Пушкіна. Нічога не зразумеўшы, я выхапіў з прачытанага толькі тое, што гаварылася пра «рогі», і моцна затужыў. Калі такое ліха не мінула Пушкіна, дык хіба ўдасца ўратавацца мне!

Брат зусім слушна заўважыў, што тым, у каго пад носам вісіць «адзінаццаць», так далікатна называліся дзве кроплі, якія сплывалі часам у малых на верхнюю губу, пра гэта ведаць зарана, і ад далейшых тлумачэнняў ухіліўся. Раздумаўшыся, я дабраў ладу: нестрашная для мяне бяда здарылася з Пушкіным перад самай смерцю. Узяўшы часопіс, які чыталі хлопцы, а там быў партрэт паэта, я доўга раіўся з люстэркам: хто лабацейшы? Прышоўшы да выніку, што — ён, я супакоіўся: калі што будзе, дык не так скора, можа, перад смерцю.

Маці гаворыць далей:

«Мы думалі, з цябе майстар будзе. Як толькі пачаў хадзіць, давай малаток, дый годзе. Ну, добра, дам. Тады крычма крычыш: давай і цвікоў. Сядзеш долe і пачынаеш заганяць цвікі ў ток. Раз — па цвіку, раз — па пальцах. І крыку — поўная хата. А назаўтра забудзешся і зноў малатка просіш».

Натрапіўшы на падобныя весткі, крытыкі звычайна робяць прыкладна такія глыбакадумныя вывады:

«Гэтыя словы маці паэта, прыведзеныя ім самім ва ўласнаручна напісанай біяграфіі, сведчаць пра многае. З малых год паэт адчуваў нахіл да майстэрства, што забяспечыла высокі ўзровень тэхнічнай апрацоўкі ягоных твораў. Рытмічныя ўдары малатком: «раз — па цвіку, два — па пальцах» — выхавалі ў хлапчуку бездакорнае пачуццё рытму, якое не ашуквала паэта ў далейшай рабоце. Так спасцігаў ён умельства пераходзіць ад паўз да высокіх нот...»

І гэтак далей і да таго падобнае.

Што датычыць паўз то наўрад ці яны былі, а высокія ноты, паабіваўшы балюча пальцы, браў я дасканала... Але не будзем больш замінаць маці:

«Потым у цябе іншая забаўка знайшлася. Прывязуць, бывала, газету са Слуцка ці са Старобіна — дык першаму табе давай. Узлазіш на стол і ўмошчваешся пасярэдзіне, каля саменькай лямпы. І, як укамянелы, гадзіну-дзве трымаеш газеціну ў руках, нібыта чытаеш. А чытаць неўзаметку навучыўся. Нехта са старэйшых дзяцей напісаў вугалем на печы ўсе літары. Ты хадзіў збоку на тапчане і ўсё паказваў пальцам:

— Мама, глядзі: «А».

Неяк зімою бацька вярнуўся з лесу, ездзіў у дровы за Старобін. А ты засеў з кнігаю на стале.

— Злазь,— кажа бацька,— вячэраць будзем. Табе заяц сала прыслаў.

«Зайцава сала» ты любіў. Зваў так скрылёчкі, што заставаліся ў торбе, няз'едзеныя. Усе дзеці за гэтым ганяліся: сальца нахаладае на марозе за цэлы дзень і храбусціць на зубах. Але і на гэта ты не спакусіўся.

— Я чытаю,— кажаш.

— Ну, што там напісана?

Ты пачаў, а бацька зірнуў у кнігу — праўда гэтак! Ён не паверыў: думаў, ты завучыў некалькі радкоў на памяць, сочачы, як чытаюць дарослыя. Дастаў з кішэні свежую газету, тыцнуў пальцам недзе ўніз:

— Вось тут давай!

А ты і па газеце разбіраеш. Бацька шапку вобземлю і крычыць:

— Чытае, сукін сын!»

Гэтае матчына апавяданне мне асабліва запомнілася, бо бацьку заўсёды прыгадваю як чалавека вельмі стрыманага, які ніколі не скароміўся брыдкім словам. А тут саграшыў! Відаць, вельмі здзівіўся: я ж быў зусім малы.

Як ні намагаюся, не ўспомню часу, калі не ўмеў чытаць. За кніжку ўзяўся, мусіць, гады ў чатыры. І быў гэта «Князь Сярэбраны» Аляксея Талстога — без пачатку і канца, з павырыванымі старонкамі, зацухмоленая, разбухшая ад доўгага карыстання кніга. Чытаў яе сама менш разоў дзесяць і шмат якія мясціны дасюль ведаю на памяць. Аднатомнік Пушкіна, невядома чый, які таксама вандраваў з хаты ў хату, быў яшчэ пухлейшы і яшчэ больш падраны. І самае галоўнае: менш зразумелы.

Іншая справа — Гогаль! Гэта была кніжка нашай настаўніцы, чыстая, цэлая, з добрымі малюнкамі. Чытаць яе дазвалялася памыўшы з мылам рукі дый яшчэ абгарнуўшы ў газету пераплёт. Я цвёрда верыў у існаванне хлебасольнага пчаляра Рудога Панька (ён нагадваў нашага селавога апавядальніка дзядзьку Апанасіка), ад каго і запісаў усе дзівосныя гісторыі Гогаль, гэты, калі глядзець на партрэт, зусім малады чалавек, так хораша зачэсаны, з ласкавымі вачыма і маленькімі, відаць, мякенькімі вусікамі.

Усё, што не ўваходзіла ў кола «Вечароў на хутары ля Дзіканькі», да часу пакідала маё сэрца халодным. Затое ўжо соладка насапешся і нацешышся, сочачы, як ляціць верхам на чорце каваль Вакула па чаравікі для свае чарнаброўкі... Ноч перад Калядамі... Такі ж самы сіберны мароз, а ты скруціўся пернічкам на выпаленай, як да свята, печы і, выцягнуўшы руку да газоўкі, чытаеш...

А колькі надрыжышся і накалоцішся, колькі настаішся, узяўшыся за клямку і не асмельваючыся адчыніць дзверы з хаты проста ў цёмную ноч... Бо там — хто яго ведае, што там! Гэта ж, пэўна, не аб'інелыя галінкі бярозы звісаюць над ганкам, а варушацца пасівелыя валасы Хамы Брута, што кленчыць каля труны паненкі-вядзьмаркі.

І яшчэ адзін сябар маленства. Увайшоў у душу пазней, але як намоцна атаўбаваўся там! Томік, а

на ім наўкасы вялікімі, чорнымі з золатам, літарамі выціснута: Лермантаў. Ён пайшоў са мною з маленства ў юнацтва, не выпусціў з-пад улады і тады, калі зачаравала, перш за ўсё роднасцю сваёю, слова Купалы, калі прывязаў да сябе невідочнымі ланцугамі Шаўчэнка, загрымеў літаўрамі верша Маякоўскі, шчымліва заспяваў Ясенін, рэзкаю віднатою пачуцця ўдарыў у вочы Блок.

Лермантаў усё ж быў адзіны і не хутка, можа толькі недзе на маім пятым дзесятку, саступіў месца Пушкіну, які хоць і прызнаваўся безагаворачна, аднак адсоўваўся ў класічны цянёк, дзе ён і бытаваў са спакоем алімпійца, ведаючы: кожная душа павінна даспець да яго і тады — нідзе не дзенецца! — прыйдзе, узнімецца на самы вышэйшы пік чалавецкае дасканаласці.

Колькі ні давядзецца хадзіць пад сонцам, не пакіну хваліць, не стамлюся дзівіцца з незраўнанага цуду — кніга! Тым больш што паспеў дазнацца трохі, як робіцца яна — ад чарнавіка да вокладкі.

І колькі ні было ў мяне спадарожніц-кніг: вясёлых, бліскучых — на гадзіну, на вечар, на вясну, смутных і глыбокіх — на асенні роздум, на цяжкую пару, на доўгія гады,— гэтыя, што назваў зараз па імёнах,— на ўсё жыццё, назаўсёды.

Можна сказаць: мала, скупавата ў цябе сяброў. Колькі ўжо ёсць! Я ж не патыкаўся, не асмельваўся паткнуцца да іх з дружбаю, яны самі выбіраюць, каму падараваць яе. Як на аднаго — сяброў аж занадта. І ніводзін не ашукае нават у найменшым спадзяванні, і хоць вусцішна робіцца ад высачыні, куды яны клічуць сурова і неадхільна, але калі раздобрацца, паверацца табе, дык ходзяць з табою доле, як сваякі, па-дружбацку размаўляюць і смяюцца, ніколі, аднак, не прыбіраючы невідочнага бар'ера і ўсё вышэй перакладаючы рэйку перад чарговым падскокам. Не аб рэкордах дбаюць, а проста нагадваюць і загадваюць: даскоч!

Маю смеласць гаварыць гэта перад шклянымі вокнамі паліц, адкуль пазірае яшчэ шарэнга несмяротных: Шэкспір, Талстой, Міцкевіч, Дастаеўскі. Бо ведаю: тое самае загадваюць пісьменніку і яны. І колькі гэткіх жа слаўных чацвёрак ні здолее выста-

віць чалавецтва ў спаборніцтве з тубыльцамі іншых светаў, столькі ж будзе загадаў імкнуцца да дасканаласці. Шкада адно, што чалавечага жыцця нестае не толькі на тое, каб прачытаць, а нават пагартаць творы ўсіх, хто даў несмяротнасць кнізе і праз гэта стаў несмяротны сам.

Вось чаму я шчаслівы прызнацца, што тужыў і сумаваў з Вікторыяй і Гланам. Не варухнуўшыся, сядзеў усю ноч, накрыўшы галаву пінжаком, каб ніщто не шурхнула і не парушыла сонечнага і крывавага харства апошняй дарогі чалавека, які кахаў Саламбо. Нарэшце, удосыць высмеяўшыся ціхенька, сам сабе, насіў кнігу з закладкамі, каб парадавацца з кожным добрым знаёмым з лістоў Антона Паўлавіча Чэхава.

За ўсе трывогі і радасці, якія прынеслі мне многія кнігі, я перад усім удзячны першай, што трапіла ў рукі. Яна адкрыла шлях да трох другіх — Гогаля, Лермантава, Пушкіна, а яны — да ўсіх астатніх, якія былі створаны калі-небудзь на белым свеце. І аж дасюль, калі вымаўляецца залатое, як кроплі сонца ў вінаградным віне, імя — Пушкін, я ўяўляю не «дзіўнае імгненне», не імглу «на ўзвышшах Грузіі», не асмуглае хлапчукова аблічча ў густых кудзерах і не мелавую маску пакутніка на крывавым снезе, не... Бачу ўсё той жа стары, пухнаты, пашматаны на кавалкі аднатомнік.

Адтуль жа, з маленства, бярэ пачатак успрыманне пушкінскіх вершаў як каштоўнасцей, якія існуюць асобна і незалежна ад іх стваральніка. А сам стваральнік уяўляецца асобай міфічнай і недасяжнай, накшталт барадатых біблейных прарокаў.

Каб дакончыць размову пра кнігі, павінен сказаць, што навуцы чытаць і разумець іх я абавязан бацьку. Быў ён вельмі ж з беднай сям'і. Восем сыноў з жонкамі і дзецьмі змушаны былі пракарміцца з чатырох дзесяцін дзедавага надзельчыка ў вёсцы Нянькава на Навагрудчыне. Бацьку давялося шукаць хлеба за светам. Прыбіўся на Случчыну, і тут, у Прусах, недалёка ад цяперашняга Салігорска, 2 лістапада 1909 года нарадзіўся я, апошні ў сям'і.

Усяе навукі ў бацькі было — пачатковая школа, маці насілу распісвалася, здабыўшы гэтае ўмельства

ў хаце ад уласных сыноў. Бацька любіў кнігу, кожную вольную хвіліну хапаўся за чытанне, даволі добра пісаў, асабліва ж падабалася яму рашаць цяжкія задачы. Недзе, хочучы перадаць сваю схільнасць мне, ён перабраў меру: я люта зненавідзеў усе задачнікі на свеце, пачынаючы ад Малініна і Бурэніна, і застаўся ў гэтых адносінах поўным невукам.

І яшчэ некалькі слоў скажа маці:

«З бацькам вы дружылі. Яму грудзі балелі, біў кашаль, спаць не даваў. Дык ён зімою вельмі рана ўставаў. І ты разам з ім успорваўся: выспішся, лёгшы «з курамі». Нагрэеце гарачай вады, пап'яце з сахарынаю. Тады ён бярэцца віць вяроўкі, а ты чытаеш што-небудзь. Потым ідзяце ў хлеў, худобе трасянкі падкінуць. А калі я ўстаю паліць у печы, вы абодва кладзяцеся на гадзінку».

Маці мае на ўвазе тую пару, калі скінулі цара, як гаварылі на Случчыне, і, амаль непрыкметна для вёскі, надышоў Кастрычнік. Вось тады і спатрэбілася мая грамата. У прамежку ад лютага да лістапада 1917 года я працаваў заложна. Чамусьці, і да гэтага часу не ведаю адкуль, у вёсцы з'явілася незлічоная колькасць газет, шматпалосных, вялікага памеру, самых разнастайных кірункаў. Гэтае друкаванае мора навін я павінен быў прачытаць уголас шматлікім суседзям, наведвальнікам нашай хаты.

Выкрыццё шахрайства інтэнданцкіх генералаў перамяжвалася са смакаваннем інтымных адносін жаночае палавіны царскага дома і Распуціна. Братанне на франтах, Устаноўчы сход, кадэты, акцябрысты, эсэры, меншавікі, напады на бальшавікоў, не зусім зразумелы, але павабны заклік «Уся ўлада Саветам» — усё гэта раптам звалілася на сялянскую галаву, змушала пачухацца і раздумацца. Ніколі яшчэ не мела яна такой колькасці духоўнага печыва і варыва, у тым ліку закрашанага няпраўдаю, а часам і атручанага.

Але вёска выбірала патрэбнае сабе хутка і беспамылкова. Выслухаўшы ўвечары ленінскі дэкрэт аб зямлі, прусцы назаўтра ж, не чакаючы загадаў і камornікаў, пазбівалі з тычак крываногія сажні і ўзяліся надзяляць кожны двор прырэзкаю ад памешчыцкіх палеткаў.

Кіраваў гэтай справай Іван Разумны. Калі адкінуць пэўную дозу іроніі, з якой вяскоўцы прыляпілі яму гэтую мянушку за бясконцыя манілаўскія пражэкты («Што зрабіць, каб чалавеку лягчэй жылося? Пракапаць канаву і пусціць ваду з Млыпкі ў Прусы...»), да дзядзькі гэтага ўсё ж ставіліся з павагай, як да чалавека разважлівага. Актывізаваўся Іван адразу ж пасля Лютаўскай рэвалюцыі і пачаў сваю дзейнасць са школы.

...Успёршыся барадою на посах (іначай не магу назваць здаравенны альховы кій, амаль кол), у рудой саматканай бурцы і ў салдацкай папасе са штучнага каракулю, ён стаяў пасярод класа, аднача́сова падобны — важнасцю і паставай — на думнага баярына, а натхнёным абліччам і дзёрзкімі вачыма — на Пугачова. На крок за ім двое спадарожнікаў, такіх жа барадатых, ускудлачаных, чорнавалосых, да таго ж апранутых і ўзброеных рыхт у рыхт, як іхні правадыр, моўчкі пазіралі на пазаміраўшых ад цікавасці вучняў.

З'яўленне дзядзькоў у школу, ды яшчэ пасярод урока — падзея немаленькая! Настаўніца, Надзея Мікалаеўна, ружовенькая, пышных формаў удава, штосьці збянтэжана шчабятала, спрабавала распытваць іх.

Трое маўчалі.

Іван, не парушаючы маўчання, выпрастаўся, падняў кій цяжкою, нібыта каменнаю, далонню і паказаў ім на сцяну. Там віселі партрэты толькі што скінутых цара і царыцы. Адзін з Іванавых спадарожнікаў падсунуў да сцяны столік, узлез на яго, з хрустам выразаў з рам наклееныя на палатно партрэты і скруціў іх у трубку. Іван прыняў скруткі, засадзіў спярша адзін, а потым другі ў шырозную халяву і, нарэшце, загаварыў да настаўніцы:

— Заляпіце гэта месца,— ён паказаў на пустыя рамы,— чым-небудзь з прыроды...

Акурат такая ж аперацыя, у такой жа паслядоўнасці, праблялася ў заможнейшых вясковых хатах, нават на хутарах, калі ў каго-небудзь на покуце поруч з Мікалаем-цудатворцам прыпіраўся рыжавусенькі Мікалай другі.

Як старанна ні дзяліў зямлю Іван Разумны, не

паспелі нацешыцца ёю — ні пасеяць, ні зжаць — мае аднавяскоўцы. Па краіне загрукаў бот кайзераўскага салдата, паваліліся хваіны на платформы вузкакалеек, пракладзеных «гаспадарлівымі» заваёўнікамі для зручнасці вывазу, ці бок рабунку, зарыпелі вароты хлявоў, выпускаючы загадзя паклеймаваных конікаў і кароў для тае ж ненаеднае «вялікае Германіі».

Потым — у Прусах, Чапялях, Касынічах, Чаплічах — усюды па мужыцкіх спінах, у першую чаргу па тых, хто дзяліў маёнткі, засвісталі шампалы і нагайкі легіянераў Пілсудскага. Запалалі стрэхі, і загараліся яны кожны раз пры адыходзе няпрошаных гасцей.

Я не збіраюся пераказваць гісторыю краіны — проста не магу абмінуць таго, над чым плакалі ўласныя вочы, што, увайшоўшы ў душу, пералілося і ў радкі...

Над маёю галавою прагаласіла некалькі войнаў. Першая з іх — імперыялістычная — уяўляецца жнівеньскай раніцай і зарослым травою гарбком каля акон нашай хаты.

На ґарбку, шызым ад ранішняй расы, сярод моўчкі абступіўшай яго сям'і, стаіць мой старэйшы брат, спявак, весялун, увішны работнік. Кепска пашытая гімнасцёрка зелянцова-мышастага колеру — яна спрэс новенькая і карабаціцца лубам на грудзях і плячах — робіць яго нібы паменшаўшым і незайздросна зліняльм. У руках ён трымае шапку з бліскучаю цэшкаю, цьмяна паблісквае на папрузе клямар. І самае галоўнае! Мой дарослы прыгожы брат стаў крыўдна падобны да зялёнага вушаценькага хлапчаняці, якім я бачу сябе ў люстэрку. Чорных пакручастых валасоў няма і знаку, сіняватая пасля нядаўняй стрыжкі галава — голая, як бубен. Ён часта міргае вачыма, а калі спрабуе ўсміхнуцца, атрымліваецца грымаса няўпэўненасці і болю. Учора яго здалі ў салдаты, але на адну ноч, няйначай за хабар, як я даведаюся пасля, пусцілі дамоў развітацца.

Непадалёку ў аглоблях уздыхае, панурыўшы галаву, наша непаваротная Ластаўка. Яна ўжо зусім кепска бегае і дажывае свой век у доглядзе за тое, што дапамагла падняць не менш за пятнаццаць ура-

джаяў і прывяла на падтрыманне гаспадаркі столькі сама жарабят. Чаму трухаць у Слуцк трэба ёй, а не яе апошняй дачцы, вядома толькі гаспадару, але ўсім нам непамысна і ад гэтага.

У мяне пачынае абуджацца цікавасць да цэшкі і клямара, але тут я заўважаю, што ў маці і сясцёр плывуць буйныя расяныя кроплі, такія самыя, як і на траве пад нагамі. Неўзабаве слёзы расстання пераратварыліся ў слёзы назаўсёднай страты: больш мы брата не бачылі...

Цераз год вайна прасунулася па Случчыне страшнай патокай чалавечага гора і бясконцымі абозамі бежанцаў. Ішлі «збежанцы», як у нас чамусьці казалі, «з-пад Баранавіч на Рагачоў». Яшчэ крыху пазней вайна працягнула каля саменькай нашай хаты істужку гравійнай дарогі, даволі шырокай, з мастамі і кюветамі. Гэта ўжо быў шлях адступлення арміі: аж з Вызны на Пагост — большага кавалка прасторы, чым змешчаны паміж двума гэтымі пунктамі, маё тагачаснае ўяўленне не адольвала.

У Прусах з'явіліся пузаценькія тылавыя «дзеячы» і крыклівыя, з пустымі вачыма і папяроскамі ў зубах «дзяячкі» Земскага Саюза і Чырвонага Крыжа. Пераведшы селавых курэй і папіўшы ўсё, што можна было піць — бровары стаялі зачыненыя, а вычарпаная з канаў гарэлка даўно павытыхалася,— адна плойма саступала месца другой, другая — трэцяй, нязменна пакідаючы пасля сябе некалькі загубленых дзявочых рэпутацый.

У час грамадзянскай наш пясчаны шлях ператварыўся ў своеасаблівы летапіс. Якія толькі падэшвы не адціскаліся на ім! Паклаўшыся спаць «пры немцах», мы прачыналіся «пры бальшавіках», а яшчэ праз некалькі дзён — «пры легіёнах».

Наша вёска ляжала на ростанях, ніхто яе не мінаў, і вельмі рэдка ўдавалася застацца нам у так званай нейтральнай зоне. Часамі заначаваўшая часць знікала так хутка і ціха, што ўстанеш раніцаю, а ўжо нідзе нікога, толькі на шляху — слядкі, слядкі. Вызначыць кірунак адыходу можна было па адбітках ног, а прыналежнасць часці да пэўнай арміі — па зброі, забытай і проста кінутай у кустах. Мы, хлапчукі, радаваліся такім знаходкам, хавалі він-

тоўкі і карабіны пад стагі на прыгуменках, а патроны ўзрывалі цэлымі цынкамі, наклаўшы агню ў глінішчах, дзе былі глыбокія ямы і рос беразак. Калі сляды глядзелі «наскамі на Вызну» і адбіткі абцасаў былі роўныя і шырокія, мы ведалі, што «ўцякаюць палякі» і хутка «нашы пойдуць на Польшчу». Калі ж разбітыя чырвонаармейскія чаравікі адціскаліся «наскамі на Пагост», дык услед за дарослымі і мы гаварылі засмучана: «Нашы адступаюць, а зарвуцца палякі, дык не дай і не прывядзі!» Гэта значыла, што хлопцам трэба хавацца з коньмі ў лесе, дзяўчатам — не вытыкацца на вуліцу, а старым — трымаць напагатове ваду. Легіянеры не грэбавалі ні рабункам, ні гвалтам, а на прыхаванне злачынства пускалі агонь.

Ашукаць або хоць накпіць з акупанта быў немалы гонар. У гэтым сэнсе найбольшыя лаўры зарабіў селавы пастух Даніла: ён папярэдзіў чарговае наступленне белапанскіх часцей. І вось як гэта было. На золку Даніла выйшаў на двор і зачуў: як быццам грукаюць капыты на вуліцы. Глянуў ён цераз плот, аж сапраўды едуць тры ў канфедэратках — разведка.

— Не́ма большэвікув?

— Ёсць, паночку! Поўная вёска, у кожнай хаце спяць,— чамусьці, не разважаючы, зманіў Даніла.

Жаўнеры не паверылі. Адзін злез з каня і зайшоў на падворак. Прачыніўшы дзверы ў хату, ён зараз жа, як абліты варам, зачыніў іх: доле на саломе, на лавах, на печы спала дзесяцера Данілавых дзяцей, будучых пастухоў і падпасавічаў. Разведка завярнула коней і тут жа падалася наўцекача.

Цэлы дзень Даніла хадзіў героем, расказваючы ўсім пра свой незвычайны спрыт. А назаўтра па Прусах пачалі біць гарматы, і некалькі польскіх рот абкружылі, а потым ланцугамі, подбегам, занялі пустую безабаронную вёску...

Пасля чарговага з'яўлення на дарозе слядоў «наскамі на Вызну» я знайшоў у кювеце польскі ілюстраваны часопіс. Малюнкі ў ім былі вельмі прыгожыя, хацелася ведаць: можа, і напісана там гэтаксама цікава. І я саматугам навучыўся чытаць па-польску. Гэта дапамагло прачытаць некалькі томікаў Вальтэра Скота, знойдзеных у пакінутым доме фальваркоўца Корбута, на зямлі якога вырас пасёлак, не з

карэнных нашых жыхароў, а пераважна з бежанцаў, асеўшых у наваколлі. Перад гэтым падабраў я, таксама недзе ў разбітым памешчыцкім доме, дадатак да газеты «Свет» — амаль усяго Артура Конан-Дойля з яго славутым Шэрлокам Холмсам.

Абодва аўтары, пэўней — іх несутрымная фантазія штурхнула мяне на ўчынкі, якія ці мала засмуцілі бацьку, чалавека адкрытага і праўдзівага. Я пачаў страшэнна маніць. Паколькі ніякай шкоды ад мае маны не чынілася, можна сказаць далікатней: пачаў расказваць аб усім не так, як яно было, а як мне хацелася, каб было.

Увязаўшыся на дзень з конскімі ці кароўечымі пастухамі, я прыдумваў пасля неверагоднейшыя гісторыі. Здаралася, што каля статка спыняўся дзягцяр Ёська — пакурыць з пастухом Данілам, даць перадых сваёй нявыліняўшай шаўлюжцы. Пакуль старыя цешыліся самасадам, смак і пах якога характарызаваўся словам «забідух», мы цікавалі, як адаткнуць шпунт у дзегцяровай бочцы. Але пры найменшым намкненні зрабіць гэта худзенькая Ёськава дачка крычала так тонка і прарэзліва, што спробы не паўтараліся.

У маёй перадачы справа выглядала так. Падвечар нейкія коннікі напалі на нас і сталі брытаць падласую цёлачку, а мы, пастухі, надзелі латы і шаломы, пахапалі мячы і пісталеты і рынуліся ў бой. Ламаліся дзіды, храплі, ірзаючы, коні, і, нарэшце, нашы ворагі ўцяклі. Але не ўсе. Адзін з іх упаў з каня каля старога ветрака. Мы падбеглі і ўбачылі, што гэта красуня-дзяўчына, чарнавокая, падобная да Ёськавай дачкі Сорачкі. «Піць»,— слаба папрасіла дзяўчына і змружыла вочы. Даніла надаіў у шалом трохі малака ад папоўскай каровы і падаў ёй. «Даніла,— прашаптала цудоўная незнаёмка,— я не хачу малака, мне не трэба тая падласая цёлачка... Я хацела бачыць цябе... Хай даруе твая жонка, лэдзі Параска, але я кахаю цябе...»

Другім разам я выдумляў, як наш Рыжман загрыз чатырох ваўкоў. Пасля гэтага ён кінуўся і перадушыў усіх авечак, а зараз стаіць каля Касыніцкай дубровы пад задаўленым канём, і вочы ў яго гараць, як ліхтары. Тым часам ні я, ні стары бяззу-

бы цюлік і блізка не бачылі воўка — лес быў за добрых дваццаць кіламетраў. Затое я зусім нядаўна чытаў «Сабаку Баскервіляў» і перанёс некаторыя яго адзнакі на свайго рудзенькага сябра. Выслухаўшы мяне раз-другі і папярэдзіўшы: болей не маніць, бацька на трэці раз прыпусціўся за выдумшчыкам з пужкаю і задзяліў-такі па пятах. Не зважаючы на ўсю сваю перакананаўчасць, гэты выпрабаваны сродак ушчунку не дапамог: хвароба была загнана ўсярэдзіну. Адседзеўшыся ў сваякоў, я перапрасіў бацьку, абласкавіў яго сэрца, зрабіўшы выгляд, што раптам захацеў парашаць мілыя яму і агоркшыя мне задачкі. А свае гісторыі ад таго часу пачаў нашэптваць самому сабе, бо аднагодкі падымалі на смех, а расказаць маці і сёстрам можна было толькі папярэдне дапэўніўшыся, што бацькі поблізу няма.

Магчыма, гэта былі, як сказаў бы ўяўны крытык, з якім мы перакідваемся жартамі ад пачатку сённяшняй размовы, першыя, яшчэ вусныя спробы, калі не тварыць, дык складаць штосьці падобнае да створанага іншымі. Так гэта ці не — хто яго ведае! Цікава тут другое: прагу фантазіраваць абудзілі не цудоўныя ў сваёй дасканаласці кнігі, а, здавалася б, неабавязковыя, не чытаўшы якіх можна пражыць на свеце. І, відаць, праўда, што ніводная кніга не можа пашкодзіць пісьменніку: пры кожнай заўсёды чаму-небудзь навучышся і ад благой часамі больш падхопіш, чым ад добрай.

Наўрад ці можна лічыць маё выдумлянне за спробу пісаць. Хутчэй за ўсё — гэта нядужасць, праз якую праходзяць усе дзеці, як праз кохлік і адзёр, ці патрэба пажыць у казачным свеце, асабліва калі тых казак не хапае. А маё маленства перабылося не сказаць, каб у скупы на казку, а проста ў неказачны час стварэння новае явы. У кожным разе выдумляў я не ў тым жанры, з якім, раз дакрануўшыся да яго, сябрую дагэтуль.

Пашукаем жа часу, калі ў вочы пырснула раса паэзіі.

Хоць і багата было перадзелаў тэрыторыі між рознымі вобласцямі і раёнамі, хоць паступова і сышоў Слуцак — горад ва ўсе часы! — на ўзровень раённага цэнтра, амаль мястэчка,— тую частку Бе-

ларусі, дзе расплюшчваліся, убіраючы скупую матчыну красу, мае дзіцячыя вочы, аж дасюль называюць Случчынай. Хіба што цяпер гэтае імя саступіць месца гучнейшаму, сучаснейшаму і, нарэшце, магутнейшаму — Салігоршчына. Маёй радзіме, урадлівай у мінулым, суджана моцна памагчы ўраджаям не толькі нашай рэспубліцы, праз багацці нетраў сваіх стаўшы буйным прамысловым асяродкам.

Мала лясоў на Случчыне, бедная яна і на ваду, але суглінкі, а дзе-нідзе і чарназём давалі магчымасць нашай вёсцы нажынаць і намалочваць у два, а то і тры разы больш, чым на Маладзечаншчыне. Мае Прусы прыткнуліся ў невялікай нізіне, каля ручва старое, даўно высахшае ракі, дзе вада з'яўлялася толькі вясною і позняй восенню.

Вечарам, стаўшы на невялічкі масток над гэтым рэчышчам, можна было ўбачыць далёка, кіламетраў за дваццаць, мігценне агнёў на даляглядзе. Мы, хлапчукі, ведалі, што гэта запальваецца электрычнасць, што там недзе той самы Слуцак, адкуль у кірмашовыя дні прывозяць абаранак або доўгую — на тыдзень смактаць, шкадуючы! — цукерку ў ружовай паперцы з махрамі на канцах.

Трапіць туды самому ніяк не ўдавалася, а хацелася — страх! Вось чаму я падоўгу праседжваў на масточку, уяўляючы, як хораша павінна быць у тым Слуцку, што там за людзі жывуць, якія ёсць крамы і кнігі.

Аднойчы — быў мне тады, здаецца, дзесяты год — я пайшоў з мастка, несучы дадому нейкае падабенства радкоў, якія можна было складна вымавіць:

Там агонь гарыць,
А тут мост стаіць.

Далей справа не пайшла, а панасіўся я з тым двухрадкоўем, пэўна тыдзень, пакуль забыў. Тады ж і думкі не ўзнікала, што мая «прыкладка» — убогая, смешная, недарэчная — даводзіцца ўсё ж нейкаю раднёю тым гордым і гучным вершам, якія я сустракаў у кнігах і хрэстаматыях. Крыніца, адкуль я зачэрпаў свае радкі, бегла блізка, каля самых ног, як вядзецца на свеце, нікім не прызнаная і занядбаная.

Здарылася так, што навальніца паваліла вялізную таполю, перагарадзіўшы грэблю паміж дзвюма сажалкамі. Праезду не было. Людзі выйшлі прыбіраць завал з пілкамі і сякерамі. А з імі Андрэй, малады яшчэ хлопец, крыху не ў сабе, прозвішча не помню, а па-вулічнаму — Бурка: ён заўсёды нешта бурчаў пад нос.

На такую ўрачыстасць, як пілаванне ўсім сялом старое таполі, пазбягаліся дзеці. Пры рабоце адпускалася многа жартаў, салёных і смешных, але, на маё здзіўленне, больш за ўсё смяяліся з таго, што гаварыў Андрэй, з яго малапрыстойных імправізацый.

— Во чорт! — браліся за бакі пілавальшчыкі.— Усё ўпрыкладку гаворыць.

Услухаўшыся ў Андрэевы жарты, я зразумеў, што значыць «упрыкладку»: канчаткі радкоў былі сугучныя, «прыкладаліся» адзін да аднаго.

Наогул жа, слова «прыкладаць» у нас ужываюць у сэнсе гаварыць складна, прыдумваць, а то і крыху прыманьваць.

Дык вось як прыкладаў наш імправізатар:

Гавораць: — Андрэй!
Ідзі на грэблю барджэй.
Я прыйшоў і зразу сеў,
Бо картоплі мала еў.

Даўшы ўсім паўсміхацца і падзівіцца з яго ўмельства, Андрэй працягваў:

Я сякераю цюк-цюк —
І ляціць на зямлю сук.

І не дай бог зачапіць ці перапыніць вершатворца! Як на ліха, адзін з дзядзькоў пагардліва абазваўся:

— Замкні ляпу! Рабіць замінаеш.

Андрэй адсек імгненна, перабіўшы і другім ахвоту да насміхання:

Ты замкай сваю Зіноўку,
Бо хлапцам міргае лоўка!

Выбух дружнага рогату насведчыў, што чуткі аб «вернасці» дзядзькавай жонкі, якія хадзілі па сяле, не былі перабольшаныя.

Першыя мае радкі былі ў простым і непасрэдным сваяўстве з Андрэевымі і на той мове, якою мы гаварылі. Яна ўжо набывала шырокія правы грамадзянства, і, як свята, помню першы свой урок беларускай мовы.

Было гэта ў апошнія месяцы 1920 года. Перамёрзшы (была завея, а жыў я даволі далёка ад школы), мы з таварышам спазніліся і, забегшы ў клас, убачылі за сталом незнаёмага настаўніка. За спазненне я быў выкліканы чытаць і пераказваць хрэстаматыйнае апавяданніца ■ беларускай — першы раз за ўсё навучанне! — кнігі.

Пераказ гэты выклікаў ці мала смеху. Гаварыў я «сокаючы», з усімі асаблівасцямі нашага вясковага вымаўлення: чы, саўсім, палцы, аўёс, м'яса, замурзаласо. Ступеняў параўнання ў нас не прытрымліваліся. Каб выказаць найвышэйшую пахвалу ці ласкавасць, а ў такой жа меры захапленне або здзіўленне, прусцы падвойвалі, а то і патройвалі суфіксы і казалі: зялёненечачкі, вішанечачкі, дубчычак. Гэтак рабіў і я, выгукваючы пры асабліва моцным уражанні: «Іёй-йёй, як хараша!» і «Эльма ж, эльма ж многа салдатаў!» За прыхільнасць да апошняга выклічніка, перайначанага са звычайнага «вельмі», я зарабіў мянушку «Эльма» і адвык ад мілага слоўца аж у студэнцкія гады.

Усё гэта адбывалася ўжо ў трэцяй групе сямігадовай працоўнай школы. А паступаў я ў школу, якая называлася яшчэ гімназіяй, пры паляках. Падабраная пад час адступлення польскіх войскаў кніжка Янкі Купалы яшчэ раней адчыніла мне свет роднай мовы, паставіла яе ўпоравень з тымі, на якіх пішуцца і друкуюцца творы. У такім перакананні неўзабаве ўмацавала і кніга «У палескай глушы». Але аб тым, што далі, чым былі, чым ёсць і застануцца для мяне Янка Купала і Якуб Колас, я гавару ва ўспамінах пад назваю «Шляхам жыцця» і ў кнізе «Колас расказвае пра сябе».

Да ўсяго гэтага, таксама ўпершыню на беларускай мове, мне давялося прачытаць дакумент страшны і ганебны, расклееены на платах усё таго ж Слуцка. Вясною 1920 года я быў на кватэры сваіх, старэйшых за мяне пляменнікаў. Праз расчыненае акно

пачулася нячастая ў той час, але ўжо добра вядомая нам мелодыя. Над вуліцай узляцеў «Інтэрнацыянал».

Рэч зусім немагчымая! Баёў не было, улады не змяняліся, і па вуліцах шпацыравалі польскія афіцэры з сваімі недарагімі дацвітаўшымі сяброўкамі.

Мы выбеглі на вуліцу. Абкружаная канвоем кучка людзей у падзёртай адзежы, без шапак, ішла праз горад і голасна спявала. Канвойнікі крычалі і лаяліся і ўсё стараліся ўлучыць прыкладам у грудзі спяваўшых. Але змаўкаў аглушаны ўдарам адзін і зараз жа вылятаў неўміручы спеў з вуснаў другога зняволенага. Што гэта былі асуджаныя, сумненняў не ўзнікала. Але хто і за што?

Аб'ява на тэлеграфным слупе расказала... Іх ведае гісторыя пад іменем 14 слуцкіх, расстраляных «за здраду і змову процiў войска польскага», як сцвярджаў сваім подпісам добра знаны кат Шэмет, «палкоўнік і камандзер Акруговага этапа».

У натоўпе, як стала вядома пазней, услед за асуджанымі ішлі іх сябры-падпольшчыкі. Яны моўчкі давалі клятву адпомсціць і здзейснілі яе ў ліпені. А я ўспомніў аб усім гэтым праз дзесяць год у невялічкай юнацкай паэме «Неаплачаны рахунак».

Аднак не будзем забягаць наперад, да таго, што знайшло месца ў кнігах, папярэджваючы расказ аб невыказнай глыбіні і сілы ўзрушэнні, з якога ці ў аднаго мяне выраслі першыя радкі.

Канчаць сямігодку мне давялося ў Чырвонай Слабадзе. Туды ад нас было бліжэй, як у Слуцак, танней каштавала кватэра, зручней было нерадаць торбу з хлебам на тыдзень. Пачаў вучыцца я ў мясцовай школе адразу з пятай групы, бо чацвёртую «пераскочыў», здаў за яе экзамены, крыху парыхтаваўшыся са старэйшымі хлопцамі ўлетку.

Пасля бязлеснай і бязводнай нашай вёскі ў Чырвонай Слабадзе было куды пайсці, было чаго паглядзець. Поблізу пачынаўся шчыры бор, дзе мы бывалі на экскурсіях, а часцей за ўсё дапіналі па сваёй ахвоце. Рака з балацянымі берагамі, здаецца, прыток Лані, цёмнаю дугою абвівала мястэчка.

Проста на агародзе ў маіх гаспадароў бегла з-пад старое алешыны слаўная халодная крынічка. Калі я пачынаю ўяўляць тую мясцінку, дык на мосце вы-

растае постаць бялявага хлопца з вялікаю, як стаў-бун, пераверну́ты ўніз, галавою. Мой сакватэрнік, ён сядзеў на рэчцы, як навязаны, нават не кідаўся біцца, здавалася б, на някрыўдную мянушку — Скіб-ра. Але лёс даў яму рыбацкую цярплівасць, не надзяліўшы рыбацкай удачай. За ўвесь час нашага сумеснага навучання шчасце пасміхнулася яму толькі адною рыбінкай, дый тую выпадкам выцягнуў я, папрасіўшы на хвілінку патрымаць вудаўё.

Дык вось, не бачыўшы дасюль нічога прыгажэйшага за жытняе поле, я сустрэўся з лесам, з ракою, з балотам. Былі тут зацішныя куточкі, зашыўшыся куды можна было ціхенька пасядзець, складаючы неверагодныя гісторыі, смаку да якіх я так і не страціў.

Сярод усіх гэтых заняткаў — спектаклі, даклады на сходах, гульні ў мячыка і ў карагод пры ўдзеле дзяўчат, бойкі з местачковымі хлапчукамі, якія задзіралі нас, вясковых,— мушу вылучыць адзін клопат, які хоць і больш займаў дзявочыя галовы, тым не менш не цураліся яго і хлопцы. Гэта пісанне, дакладней — перапісванне вершаў у альбомы. Сярод саладкаватай сентыментальнай лухты, якою запаўняліся іх старонкі, страчалася сапраўды добрае зерне, што ўзвышала нас у адчуванні, паляпшала і ўмацоўвала густ, прывучала да паэзіі. Так мы распісалі па альбомах амаль увесь «Вянок» Максіма Багдановіча.

З Купалы бралі ўрыўкі, і то найчасцей хлопцы, бо лірыкі яго пад дзявочыя густы ў нас не было, а найбольш ішлі ў ход паўтораныя ў календарах і ў чытанках, завучаныя на памяць «Гэй, наперад», «Роднае слова» ды яшчэ, можа, «Над Нёманам» і «Мужык».

Пэўна, не адзін я ўспамінаю добрым словам тыя сціплыя, з розных гатункаў паперы, самаробныя вучнёўскія кніжыцы, аздобленыя выразнымі, пераводнымі і ўласнага вырабу птушкамі, букетамі кветак і «ўсходамі сонца». Усё гэта гадавала пачуццё таварыскасці, доўга прымушала звяртацца думкаю да тых, чые подпісы засталіся на старонках альбома.

Неўзабаве за перапісваннем вершаў пайшло і пісанне. У час зімовых вакацый 1924 года я па ней-

кай патрэбе паехаў на пошту. Нагрузіў цэлы перадок саней газетамі для перадачы ў школу, настаўнікам і яшчэ таму-сяму з падпісчыкаў. Прагны да чытання, я прывязаў лейцы за капыл і задубеўшымі ад сцюжы рукамі пачаў разгортваць сваю паклажу. Газет было шмат, і нейкіх асабліва тоўстых, па многа старонак у кожнай. Чорныя рамкі, жалобныя малюнкі і фатаграфіі, што ні паласа, то два-тры вершы. І над усім, перад усім, ва ўсім — адно імя, выдыхнутае, як камяк нясцерпнай бяды і болю...

Ленін...

Імя, паўторанае мільёнамі сівагаловых дзядоў і мурзатае малечы, поўных суровае сталасці дарослых і спыненых на паўдарозе да ўсмешкі падлеткаў, збялелых жанок і дасюлешніх немаўлят, каму гора старэйшых упершыню прарэзала гэтым іменем вусны.

Я пачуў усе тыя галасы і сам паўтарыў тое імя. Яно было перада мною, адбітае шматлікімі шрыфтамі: тлустым, чорным, што як быццам біў па сэрцы цяжкою мёрзлаю плашкаю,— у загалоўках; звычайным і незвычайным, чамусьці нібыта рухомым, гатовым узняцца па літары і пабегчы з месцаў,— усярэдзіне паласы; нарэшце, дробным, як рассыпаны на паперы мак, як тая чорная імгла, што, заснаваўшыся перад вачыма, зараз жа пачала распадацца на сáжыстую вострую крупку і чарніць не кранугы полазам снег паабапал.

Чалавечае гора ўвайшло ў мяне, зашчымела пад сэрцам і павісла на вейках адразу ж пазамярзаўшымі кропелькамі. Яно не было і не магло быць уласным перажываннем, што ўзнікае ад усведамлення і адчування незваротнае страты. Што мог ведаць аб справе Леніна шчуплы вясковы хлапчук, калі ён не шмат ведаў аб Леніне як аб асобе? Не праз тое, што не імкнулася гэтая сапраўды Асоба да ўзвелічэння і нікога не адпіхала з дарогі, а наадварот -- стаўляла сяброў поруч і прапускала наперад, перад сабою. Не! У тыя далёкія часы, дый цяпер, хіба кожны дарослы адважыцца падумаць, што здолеў ахапіць духоўным зіркам усю прастасць велічы ленінскай справы і ўсю веліч прастасці ленінскай асобы!

А самотнага падлетка, аднаго сярод заснежанага поля, чалавечае гора падняло да сябе і напоўніла

сабою. Яму давялося «прычасціцца таму пачуццю, што завецца клас». Але тады яшчэ не была напісана паэма «Ленін», адкуль узяты гэтыя радкі. Толькі дзесьці хадзіў па Маскве маўклівы Маякоўскі, адчуваючы пад сэрцам штуршкі твора, што меўся нарадзіцца.

Нешта падобнае адчуваў і хлапчук. Яму было сумна, трывожна, адзінока; ён не ведаў, што з гэтага пачынаюць пісаць.

Вечарам у хаце-чытальні мы выпускалі насценную газету памяці Ільіча. Наша новая настаўніца і я. Вылеплівалі павыразаныя з газет фатаграфіі і выказванні. Іншага матэрыялу не было, толькі перадавы артыкул напісаў хтосьці з вясковых камуністаў.

Міргаючы чырванаватымі павекамі, настаўніца сказала:

— А хто б гэта напісаў, што адчуваем мы з табою? Падумай і раскажы на паперы, як нам усім цяжка.

Гэты штуршок надаў выразнасць майму стану: я адчуў, што маю патрэбу выказацца. За ноч быў напісаны верш, аднак змясціць яго ў газеце я так і не адважыўся: бянтэжыла блізкасць хатніх і маіх вясковых аднагодкаў. Школьны часопіс потым падаў гэтыя радкі сярод вершаваных спроб іншых вучняў.

Такім чынам, пад восень, едучы паступаць у Мінскі педагагічны тэхнікум, я адчуваў сябе «паэтам»: вершаў у мяне ўжо быў цэлы сшытак!

Пачаліся заняткі, мы прыглядзеліся адзін да аднаго, і тут высветлілася, што вершы піша багата маіх аднакурснікаў і сярод іх З. Бандарына, Н. Вішнеўская, П. Глебка, С. Дарожны, В. Казлоўскі. Усяго нас, пачаткоўцаў, было чалавек дзесяць. Гэтая група стала студыяй «Маладняка», якую чамусьці назвалі «ўзорнаю», і даручылі апекавацца ёю ўжо вядомаму празаіку Міхасю Зарэцкаму. Мы збіраліся, адольвалі разам літаратурную грамату, чыталі і разбіралі свае творы.

Вясною 1925 года студыя спыніла існаванне, у якасці справаздачы напісаўшы калектыўна апавяданне «Зоська», змешчанае ў часопісе «Маладыя араты». Большасць студыйцаў, у тым ліку і мяне, прынялі ў «Маладняк» — кандыдатамі.

Неўзабаве, пасля звароту з летніх вакацый, мае вершы ўпершыню знайшлі дарогу ў газеты («Першая песня» ў «Савецкай Беларусі») і ў часопісы.

З таго часу я пачаў даволі шырока друкавацца і нават падрыхтаваў зборнік для выдання ў маладняКоўскай бібліятэцы. Аднак кніжцы маёй не было суджана ўбачыць свет, бо і сам я ў «Маладняку» доўга не набыўся.

Праз год на сходзе мінскай філіі «Маладняка» было зроблена паведамленне аб выхадзе з арганізацыі групы старэйшых маладнякоўцаў. Следам старшыні сходу, здаецца, А. Дудару, давялося агалашаць заяву такога ж зместу ад П. Труса, П. Глебкі, С. Дарожнага і мяне. Прысутныя сустрэлі гэта невясёлым маўчаннем, толькі М. Зарэцкі роблена рагатнуў і прамовіў: «Што ж, да ведама!» Не дужа весела было і выйшаўшым: хлопцы-аднагодкі, аднаго маладнякоўскага набору, і раптам пакінулі сяброў, апынуліся наводшыбе. Затрывожылася сэрца: раскол, невядомасць, ці можна будзе далучыцца да выйшаўшых раней, як пакіруюцца нашы літаратурныя справы...

Але не адступаць жа! Наблізіўся час выходзіць з «Маладняка» і літаральна: пакідаць рэзідэнцыю Цэнтральнага бюро. Наша «тройца» (П. Трус на сходзе не прысутнічаў і потым зняў свой подпіс з заявы) саламянымі нагамі падалася ў дзверы. Падняўся ўвесь сход. Некалькі кварталаў ішлі мы разам і маўчалі і толькі на плошчы Волі пачалі разбрыдацца ў розныя бакі.

Уласна кажучы, я выходзіў з «Маладняка» не таму, што зрабілася там цесна і душна. На мой тагачасны літаратурны рост у арганізацыі ставала і паветра і прасторы. Мяне, ды, відаць, не памылюся, калі скажу — і маіх сяброў, прыцягвалі да выйшаўшых раней таварышаў іх літаратурныя магчымасці. Невычэрпнасць, з якою разгортваў новыя рэчы, поўныя трапяткога чалавечага пачуцця, Кузьма Чорны. Выключнай выкрываўчай сілы, бліскучае і вострае слова Кандрата Крапівы. Нязвыклыя, але самі прыпадаўшыя да памяці радкі Уладзіміра Дубоўкі. Натхнёнасць развагі Адама Бабарэкі, чалавека таленавітага сэрца, хто даў не адну пуцёўку ў друк першым

вершам маладых, у тым ліку і маім. Нарэшце, асабістая абаяльнасць Змітрака Бядулі — ён жа быў адзін з пачынальнікаў, да таго ж друг Максіма Багдановіча.

Каля гэтых людзей, думалася нам, малодшым, прастарней будзе ў хадзе, больш магчымасцей для навукі, калі не літаральнай, дык праз творы. Ім жа, старэйшым, хто паспеў сфармавацца як літаратар, было ўжо добра відаць, што літаратура перарастае адзежыну арганізацыйных форм. Неўзабаве гэта стала зразумела больш шырока. Пасля ўтварэння намі «Узвышша» з таго ж «Маладняка» выйшла яшчэ група, каб аб'яднацца ў «Полымя». Гэта — што датычыць больш трывалых літаратурных арганізацый; іншыя («Пробліск», «Літаратурная камуна», група рамантыкаў, аб якой меркавалі мы з М. Зарэцкім і В. Кавалём) не вызначыліся даўгавечнасцю. Наогул жа, літаратурныя групоўкі, складаны час, у які яны існавалі, супярэчнасці і барацьба паміж імі і ўсярэдзіне іх — занадта сур'ёзныя пытанні, каб кратаць іх мімаходзь, не ў адмысловай рабоце.

Што дало мне асабіста новае літаратурнае асяроддзе? Перш за ўсё гэта быў крок у паглыбленне, паляпшэнне літаратурнай работы. Хоць напісаў я ў тыя гады ці мала зялёнага, да чаго цяпер не дужа хочацца прызнавацца, затое навучыўся разумець: літаратура не любіць напалавіну прыкладзеных рук, не да астатку раскрытае душы. А калі так — не шкадуй на твор часу і работы. У гэтым пераконваў прыклад старэйшых майстроў: літаратурнае падзвіжніцтва, нястомная праца, восем-дзесяць старонак з варыянтам сказа ці радка. Непасрэдныя і частыя сустрэчы з Чорным, Дубоўкаю, Крапівою кожны раз давалі штуршок наперад, магчымасць зазірнуць у творчую лабараторыю іх абавязвала старацца, а практычныя парады, заўвагі па творах змушалі дбаць аб неабходнай патрабавальнасці.

Я зусім не хачу маляваць «Узвышша» райскім дрэвам, пад ценем якога ў шчасці і згодзе тварылі паэты і пісьменнікі. Не, у нас былі спрэчкі, і разыходжанні, і размежаванні. Так заўсёды знаходзіцца ісціна, і час пацвярджае яе.

У 1928 годзе выйшла першая мая кніжка вер-

шаў «Крокі». «Хрысцілі» яе Я. Купала і Ц. Гартны, аб чым ужо расказвалася ва ўспамінах. Тады ж я паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Мне ішоў дзевятнаццаты год, але здавалася, што юнацтва засталося ў сценах мілага тэхнікумскага будынка. Нашы слаўныя вечарыны, дзявочыя ўсмешкі, «калектыў шаўцоў» — агульны псеўданім, пад якім Трус, Глебка і я пісалі смешныя рэчы ў вусную газету.

Галоўнае ж, не хапала таго цеснага гурту, без якога ўжо наогул не ўяўлялася далейшае існаванне, бо моцна папрырастала душа да душы за чатыры гады навучання. Здарылася так, што ва універсітэце мы зноў сабраліся разам на адным курсе: Трус, Глебка, Дарожны, я і наш былы студыйны настаўнік Зарэцкі. На старэйшых і на малодшых курсах было таксама ці мала літаратараў. Такім чынам, пачуццё чагосьці страчанага хутка мінулася, але літаратары былі колам у коле, і не ўсе здолелі па-сапраўднаму стаць членамі новага студэнцкага калектыву. Пачаліся непаразуменні, перасуды тайныя і яўныя, потым неразумныя выбрыкі супраць пісьменнікаў — усіх, агулам! — у студэнцкім друку. Нарэшце, з'явіўся славуты «ліст трох» аб выхадзе з універсітэта. Гісторыя гэта прагула на шматлікіх шумных сходах студэнтаў і літаратараў, знайшла ацэнку ў друку, і мне няма патрэбы варушыць падрабязнасці.

Тады наогул літаратура ўваходзіла ў пару бурных дыспутаў, зацяжных дыскусій, жорсткіх узаемных атак адной літаратурнай арганізацыі на другую. Таму большасць з нас вучылася кепскавата, а я праз недаравальную легкадумнасць навучання не закончыў і быў змушаны пасля доўга сляпіць вочы, давучвацца саматугам.

Вельмі многім я абавязаны тагачасным падарожжам. З маладнякоўскімі, а ў далейшым з белапаўскімі брыгадамі я аб'ездзіў усе нашы гарады, пабыў на буйнейшых заводах і будоўлях. Творчая моладзь сябравала, не зважаючы на арганізацыйную прыналежнасць. Ахвотна сустракаліся, разам выступалі перад аўдыторыяй, чыталі і абмяркоўвалі ўсё, што з'яўлялася з-пад пяра. Былі, вядома, аматары пагрэць рукі на раздзіманні ўяўнай варожасці, скажам,

паміж белапнаўцамі і ўзвышэнцамі, нічым іншым яны не маглі павысіць свае літаратурныя акцыі, але здольнасцей і праз гэта не прыбывала. Усё ж атмасфера была напружаная і нервовая. Узаемныя крыўды, недаверлівасць, абвінавачванні, часта праўдзівыя, але абавязкова перабольшаныя з зярняці да снежнай лавіны.

Бяда была ў тым, што я сам і мая літаратурная раўня не ўмелі пісаць дакладна і выразна. Гэта давала магчымасць адвольнага вытлумачэння твораў, дарэмных прычэпак, а то і проста махлярскага перакручвання. Так было з маімі радкамі «Мы не хочам радасці вітаць, што чужымі дадзена рукамі» («Чырвоны сейбіт», 1928 г.). Не ведаю, чыя злая рука ўпершыню выхапіла іх з верша, не чытаючы яго далей, каб прыпісаць мне жаданне адасобіцца ад сям'і савецкіх народаў. Іменна не чытаючы. Бо каб прачыталі наступную страфу, дык не было б за што лаяць мяне нашай крытыцы, не было б за што хваліць падбрэхічам за мяжой.

Вось яна, тая страфа:

Каб ізноў не йсці у кабалу,
Сталлю дышуць нашыя заводы
І нясе магутны Асінбуд
Электрычную сваю пагоду.

Якім бы малавыразным і няўмелым ні было гэта чатырохрадкоўе, яно начыста адкідае прыпісаныя мне чорныя абвінавачанні.

Верш з'яўляўся водгукам на дырэктыву партыі — вызваліцца ад капіталістычнай залежнасці і выпускаць машыны для вытворчасці машын. Напэўна ж, не пад маю сілу было па-сапраўднаму адгукнуцца на такі грандыёзны намер. Таму ў вершы з'явілася недакладнае слоўца «радасць», не канкрэтызавалася належным чынам уся запеўка.

Прыгадваю да выпадку, не таму толькі, каб сказаць: пішыце выразна, крытыкуйце сумленна! — гэта ў наш час абавязкова. На жаль, за два прыведзеныя радкі дасюль чапляюцца танныя пёры з эміграцкіх газетак. Трэба ж, нарэшце, выбіць у іх з рук і гэтую слабенькую пажыву.

Усе мы лёгка ўздыхнулі, калі партыя распусціла літаратурныя аб'яднанні, убачыўшы, што за арганi-

зацыйнай мітуснёй, дробнай калатнёю і прычэпкамі людзі забываюць пра сваю асноўную справу — пісаць! Міжарганізацыйныя перагародкі зніклі, як быццам і не існавалі, адпала крыўдная мянушка «папутнік», літаратары сабраліся пад адным дахам.

Да гэтага часу я самастойна прарабіў некалькі падарожжаў у новы дзень рэспублікі. Назапасілася матэрыялу, вочы сталі больш шырока і пэўна глядзець навокала. Найбольш узброіла мяне тады ў сэнсе ведання жыцця паездка па Палессі на пачатку 1930 года. Я ўдзельнічаў у арганізацыі калгасаў каля Мазыра, у Юравіцкім і ў Тураўскім раёнах.

...Бяссонныя ночы ў школах і хатах-чытальнях, калі на ўсе ўгаворы запісацца ў калгас адказам было глухое маўчанне. Ажылі бандыцкія стрэлы, узнікалі пажары, варожыя рукі раскідалі здабытыя за мяжой лістоўкі...

Некалькі тоўстых блакнотаў так і штурхаюць мяне пад руку, вымагаючы вывесці тагачасныя запісы на прыстойную паперу [1].

А перад гэтым пабачыў свету і хараства. Пажыў на поўдні, абхадзіў і аб'ездзіў крымскія берагі Чорнага мора. З абодвух падарожжаў прывёз даволі вялікія цыклы вершаў, некаторыя з іх утрымаліся ў маіх кнігах да гэтага часу («Галасуе вясна за вясну», «Сны аб моры»). Не засталася без вынікаў паездка ў саўгасы рэспублікі і на толькі-толькі збудаваную фабрыку штучнага валакна (верш «Рух таварных цягнікоў» і інш.).

Увесь пачатак 30-х гадоў праходзіць для мяне пад знакам вучобы ў Маякоўскага. Першы раз мы з Глебкам слухалі яго з балкона тагачаснага кіно «Культура». На даражэйшыя месцы грошай не хапіла, і так адзін паўрубель на двух прымусіў паразважаць: абедаць ці купляць білеты.

Мы не каяліся. Безліч вострых слоўцаў, нечаканасць паэтычных знаходак, раптоўнасць рыфмаў скаланулі халадком навізны. Між лапатак прабегся марозік, і душа намоцна прыляпілася да гэтага буйнога, прыгожага, хоць ужо і не «дваццацідвухгадо-

---

[1] Пазней яны склалі адзін з раздзелаў кнігі «Дванаццаць вячорных вогнішчаў».

вага» чалавека з такім незабыўным, да пары яму самому, грымотным і мяккім голасам.

Другі раз, у клубе працаўнікоў асветы, Маякоўскі рабіў вельмі вострае ўступнае слова. Трус голасна рагатаў (залівісты і заразлівы смех яго быў заўсёды далёка чуцён) і ўсё памыкаўся падаць нейкае каверзнае пытанне — Маякоўскага ён душэўна не прымаў. Паэт перайшоў да чытання вершаў, а Паўлюк усё больш развясельваўся і смяшыў нас з Глебкам. Маякоўскі пачаў нервавацца і пусціў у залу «шпільку» наконт даўгіх валасоў і даўгіх вельветавых, ён сказаў — аксамітных, кашуль. Акурат у такой уніформе і былі мы трое. Паўлюк прыціх і пачаў сачыць за чытаннем.

Маякоўскі скончыў вечар на вялікім уздыме. Я ўжо многа бачыў кніг яго, але ўпершыню так захапілі — усяго, без астатку — творы толькі ва ўласным выкананні паэта. Усе мае ранейшыя прыхільнасці і ўплывы адышлі на далёкі план. Але да Маякоўскага падступіцца было не так лёгка, і вершы ў яго ключы з'явіліся ў мяне гады праз два. Мусіць, тады, як убачыў яго аблічча, раптам памякчэўшае, з заплюшчанымі вачамі, у зале на вуліцы Вароўскага, перад апошняй дарогаю па засмучанай Маскве. Гэта было так неверагодна, што хацелася крычаць і пярэчыць прамовам, жалобе, некралогам, як спрачаўся я напярэдадні каля Кітайскай сцяны з букіністам, не даючы веры пачутай з яго вуснаў страшнай вестцы.

Вярнуўшыся ў Мінск, я пераклаў «Левы марш», пачаў чытаць уголас перад сябрамі ўрыўкі з паэм «Ленін» і «Добра». Гэта папярэднічала адчуванню неабходнасці паспрабаваць так пісаць самому. Намер, вядома, ішоў ад залішняй самаўпэўненасці, але вынікі, добрыя ці благія, з'явіліся («Галасы гарадоў»).

Далейшыя планы былі парушаны. Золкай ноччу 23/III-33 года мне даволі настойліва пастукалі ў дзверы. Літаратурную работу давялося прыпыніць сама тады, калі я пачаў станавіцца на ногі. Узяўся стала за яе ўжо ў вайну, прыехаўшы ў 1942 годзе з фронту ў Маскву.

Адразу ж пасля мабілізацыі і кароткатэрміновага навучання ў пяхотным вучылішчы я ў пагонах

лейтэнанта трапіў у раён Катлубані на Волзе. Там наступаў наш стралковы полк. Мяне засыпала зямлёю пры артылерыйскім абстрэле каля чыгуначнай веткі, дзе змяшчаўся камандны пункт. Выбраўшыся з-пад зямлі і паляжаўшы пад асеннімі зорамі, я дапоўз да штаба дывізіі, дзе атрымаў загад з'явіцца ў штаб арміі.

Прыкантужаны я з'явіўся ў Маскву, адкуль пайшоў у жніўні 1941 года, ласкава праведзены Янкам Купалам. Пакуль атрымліваў новае прызначэнне, сустрэўся з колам даўніх сяброў-пісьменнікаў. Пачаў друкавацца ў беларускіх выданнях, што выходзілі ў той час у Маскве («Беларусь», «Раздавім фашысцкую гадзіну», «Савецкая Беларусь»). Неўзаметку сабралася вершаў на кніжку («Шырокае поле вайны»). Пасля дэмабілізацыі загадваў аддзелам у газеце «Звязда», працаваў у «Вожыку», а зараз перабраўся на кінастудыю. Вынікі паэтычнай работы — два томікі выбраных вершаў і паэм, кінематаграфічнай — фільмы «Народны паэт», «Паўлінка» і «Першыя выпрабаванні» (сумесна з А. Куляшовым). Спецыфіка кінематографа дапамагла навучыцца гаварыць лаканічней. Гэта асабліва выказалася, калі пісаў кнігу «Колас расказвае пра сябе». Многа перакладаў. Буйнейшыя работы — «Гора ад розуму» і «Вечары на хутары ля Дзіканькі». Зрэшты, гэта можна знайсці і ў бібліяграфіі.

Застаецца сказаць адно: як я пішу. А гэта, прызнацца папраўдзе, мне невядома самому. Калі наспявае патрэба выказацца, сядаю за стол з адчуваннем, што нічога дагэтуль не рабіў, не ведаю і не ўмею.

Пачынаю так, як той свой самы першы верш.

Недзе глыбока жыве ўзрушэнне, першаўражанне, часта не сабранае ў зрокавы вобраз. Яно, як сігнальны агеньчык, то ўспыхвае, то гасне, каб нарэшце перайсці ў трывалае і роўнае святло. Тады адкрываецца карціна. Для фіксацыі яе трэба слова. І яно не прыходзіць само, чакае рытмічнага штуршка, удалага сугучча, асновы, на якую наніжуцца радкі.

Добра сказана: форма знаходзіцца толькі на адзін раз. На другі твор яна не прыдатна. Вось чаму работа паэта — гэта заўсёды работа вынаходцы. Чым больш пошукаў і сумняванняў, тым больш шансаў на ўдачу.

Пішу я марудна і цяжка. І толькі крыху лягчэй ходзіць рука, калі думаю, колькі добрых хлопцаў, што нарадзіліся ў той час, калі я акопваўся пад Тулай, ужо глядзяць на свет сваімі вачыма і пішуць куды лепш, чым пачынала ў іх гады маё пакаленне.

*1963*

## ЗМЕСТ

### КАРОТКІЯ АПОВЕСЦІ АПАВЯДАННІ



### З КНІГІ «ЛЯВОНІХА»



### РОЗДУМЫ І ТУРБОТЫ

Лужанін М.
Л 83 Збор твораў: У 4-х т. Т. 4. Кароткія аповесці; Апавяданні; Вершы і паэмы; Роздумы і турботы.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 623 с.,
У пер.: 1 р. 90 к.
У чацвёрты том увайшлі аповесці, эсэ, літаратурныя партрэты і вершы 1975—1978 гг. вядомага беларускага пісьменніка Максіма Лужаніна.

Л $\frac{70403-138}{M\ 302(05)-81}$ падпіснае

ББК 84 Бел 7
Бел 2

МАКСИМ ЛУЖАНИН
(Александр Амвросьевич Лужанин-Каратай)

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ

ТОМ 4

*Короткие повести*
*Рассказы*
*Стихи и поэмы*
*Раздумья и заботы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак М. Р. Кавлоў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 945
Здадзена ў набор 13.11.80. Падп. да друку 11.09.81. АТ 07640. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 30,42. Ум. фарб.-адб. 32,18. Ул.-выд. арк. 31,24. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1154. Цана 1 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.